# *Міфалагічныя ўяўленні беларусаў*

**Мінск**
**«Права і эканоміка»**
**2010**

УДК 398.2:2–264(=161.3)
ББК 82.3(=411.3) – 44 – 002.2 – 1
Н 723

Навуковыя рэцэнзенты:
А.У. Марозаў, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык аддзела фальклае рыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ “Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы” НАН Беларусі.
У.І. Коваль, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства

Н 723 Міфалагічныя ўяўленні беларусаў / укладанне, сістэматызацыя, тэксталагічная праца, уступны артыкул, рэдагаванне / В.С. Новак. – Минск: «Право и экономика». 2010. – 524 с.

У даследаванні знайшлі адлюстраванне як аўтэнтычныя мясцовыя запісы звестак па народнай дэманалогіі, а таксама па жывёльнаму, раслінnаму і рэчыўнаму свету Гомельшчыны, так і іх тэарэтычнае асэнсаванне.
Кніга будзе цікавай для этнографаў, гісторыкаў, фалькларыстаў, настаўнікаў, студэнтаў.

У кнізе выкарыстаны малюнкі Дзіткоўскай С.М., Кісловай В. А.

УДК 398.2:2–264(=161.3)
ББК 82.3(=411.3) – 44 – 002.2 – 1

# З гісторыі вывучэння славянскай міфалогіі

Міфалагічная проза мае сваю гісторыю збірання і вывучэння адпаведных звестак. Сярод апошніх навуковых прац, прысвечаных даследаванню міфалагічных уяўленняў нашых продкаў, вылучаецца кніга Н. А. Крынічнай “Русская мифология: мир образов фольклора” (М., 2004), якая з’яўляецца вынікам шматгадовых навуковых пошукаў аўтара ў гісторыі развіцця рускай міфалогіі. Выяўляючы тыпалагічныя паралелі, даследчыца шырока выкарыстоўвае міфалагемы, якія сфарміраваліся ў традыцыях розных народаў свету. Выкарыстоўваючы прыёмы комплекснага аналізу, Н. А. Крынічная раскрывае вытокі і полісемантызм вобразаў, выяўленых у былічках, бывальшчынах, легендах, павер’ях і іншых фальклорных творах. На думку даследчыцы, “фарміраванне матываў і сюжэтаў народнай міфалагічнай прозы адбываецца ў кантэксце агульнага фальклорнага працэсу, які абумоўлены аднымі і тымі ж вытокамі…” [1, с. 10].

Цікавымі і грунтоўнымі з’яўляюцца такія працы Н. А. Крынічнай, як “Дом: его облик и душа (к вопросу о тождестве символов в мифологической прозе и народном изобразительном искусстве)” (Петрозаводск, 1992); “Домашний дух и святочные гадания (по материалам северно-русских обрядов и мифологических рассказов)” (Петрозаводск, 1993); “Лесные наваждения (мифологические рассказы и поверья о духе – “хозяине” леса)” (Петрозаводск, 1993); “Нить жизни: реминисценции образов божеств судьбы в мифологии и фольклоре, обрядах и верованиях” (Петрозаводск, 1995), “Русская народная мифологическая проза. Истоки и полисемантизм образов” (Петрозаводск, 2000) і інш.

Н. А. Крынічная ў асноўным разглядае дэманічныя персанажы і тлумачыць гэты факт тым, што сутнасць звязаных з імі міфалагічных уяўленняў можна растлумачыць “прачытаннем” толькі пазнейшых міфалагічных аповедаў, у якіх былыя язычніцкія боствы былі пераасэнсаваны і трансфармаваны ў нячыстую сілу.

Апошнім часам у друку з’явіліся шматлікія выданні па міфалогіі. Заслугоўвае ўвагі праца Альгірдаса Юліюса Грэймаса “Пра багоў і людзей. У пошуках этнічнай памяці”, у якой аўтар гаворыць пра праблемы даследавання літоўскай міфалогіі.

У невялікай прадмове аўтар высвятляе сутнасць міфалогіі як аб’екта, сцвярджаючы, што гэтае паняцце – своеасаблівая ідэалагічная структура, а не проста “назбіраная нейкім адным народам калекцыя міфаў”. У гэтай сувязі даследчык звяртаецца да высноў, зробленых Ж. Дзюмезілем, які як кампаратывіст, вывучаючы міфічныя структуры індаеўрапейскіх народаў, сцвярджаў, што “міфалагічныя даследаванні не могуць пачацца з апрыёрнай дэфініцыі “міфу”, як літаратурнага жанру, стварэння корпуса апавяданняў, што завуцца “міфамі”, і аналізу гэтага корпуса, як вучаць нас працэдуры навуковага апісання, выпрацаваныя яшчэ ў XIX стагоддзі: наадварот, міфічныя апавяданні – гэта толькі адна са шматлікіх крыніцаў, якія могуць дапамагчы ў адбудове міфічных структураў” [2, с. 17].

Міфалогію трэба разглядаць як ідэалогію, як філасофію і як культуру – у гэтым перакананы літоўскі даследчык, які лічыць яе і як сродак вывучэння культур розных этнічных супольнасцей, і як структурную катэгорыю, бо “напісанне міфалогіі, што назіраецца праз смугу гісторыі, можна назваць рэканструкцыяй, якая імкнецца з паасобных міфічных урыўкаў, паскіданых аскялепкаў ды ізаляваных кавалкаў аднавіць звязную, арганізаваную цэласць” [2, с. 23].

Падрабязна характарызуе А.Ю. Грэймас такія міфалагічныя персанажы, як каўкасы і айтварасы: каўкасы – хтанічныя істоты, а айтварасы – паветраныя істоты, калі першыя – антрапаморфныя, то апошнія могуць мець зааморфны выгляд.

Навуковую цікавасць выклікаюць і даследаванні вучоных Інстытута славяназнаўства РАН. У слоўніку “Славянская мифология” (М, 1995) прадстаўлены вобразы і сімвалы традыцыйнай духоўнай культуры, якія належаць роднасным этнасам. У гэтым выданні раглядаюцца персанажы ніжэйшай і вышэйшай міфалогіі, міфалогія жывёльнага і расліннага, рэчыўнага свету, прыродных стыхій. У шматтомным выданні “Славянские древности” аўтары імкнуцца на аснове рэліктаў мінулага ўзнавіць цэласную традыцыйную карціну свету, сістэмна ахарактарызаваць светапогляд старажытных славян, выявіць зместавыя катэгорыі славянскай народнай культуры, адлюстраваныя ў ёй ментальныя, маральныя і сацыяльныя стэрэатыпы і каштоўнасці.

У зборніку “Язык культуры: Семантика и грамматика” змешчаны артыкулы, у якіх даследуюцца міфалагічныя матывы ў народных апавяданнях пра старцаў, запісаных на тэрыторыі Рускай Поўначы, у прыватнасці, асэнсоўваецца міфалагічная семантыка двух сюжэтаў, якія характэрны для апавяданняў пра Міколу [3].

У кнізе “Народная Біблія”: «Восточнославянские этиологические легенды» ўпершыню прадстаўлены архіўныя і палявыя матэрыялы, што ўводзяцца ў навуковы ўжытак. Прыведзеныя ў кнізе народныя легенды на біблейскія сюжэты, а таксама прыкметы і павер’і, звязаныя з фальклорнымі “біблейскімі” наратывамі паказваюць, што “народная Біблія” ўключае кананічныя і апакрыфічныя сюжэты, архаічныя вераванні і этнакультурныя стэрэатыпы [4].

Манаграфія Л.М. Вінаградавай “Народная демонология и мифо-ритуальная традиция славян” прысвечана даследаванню ніжэйшай міфалогіі славян – народным прыкметам і вераванням, звязаным з русалкамі, ведзьмамі, дамавымі і інш. Аўтар закранае праблемы, звязаныя з цяжкасцямі ідэнтыфікацыі дэманалагічных персанажаў, прыводзіць доказы іх ўключнасці ва ўсе сферы бытавога і абрадавага жыцця традыцыйнага грамадства [5].

У кнізе А.Я. Леўкіеўскай «Мифы русского народа» (М., 2005) змешчана характарыстыка вышэйшага міфалагічнага ўзроўню, разглядаюцца народныя ўяўленні, звязаныя з культамі зямлі, вады, дрэў, камянёў, аналізуюцца вядомыя міфы аб стварэнні зямлі, прыроды, чалавека, таксама на вялікім фактычным матэрыяле разглядаюцца ніжэйшыя міфалагічныя персанажы.

Цікавым з’яўляецца і энцыклапедычнае выданне Н.С. Шапаравай “Краткая энциклопедия славянской мифологии”, у якім змешчаны звесткі пра персанажы язычніцкай і праваслаўнай міфалогіі ўсходніх, заходніх і паўднёвых славян, тлумачыцца семантыка і роля прадметаў і жывёл у абрадах і звычаях [6].

Змест “Русского демонологического словаря” (СПб, 1995) (аўтар-складальнік – Т.А. Навічкова), складаюць артыкулы, у аснову якіх пакладзены міфалагічныя аповеды (былічкі) аб сутыкненнях самога апавядальніка з нячыстай сілай і бывальшчыны (успаміны аб кантактах з ёю якога-небудзь іншага). Прадстаўленыя ў слоўніку матэрыялы ўзяты з розных крыніц XIX – пачатку XX стст. і ілюструюць веру ў дэманаў у яе найбольш тыповых праявах.

Заслугоўваюць увагі і слоўнікавыя выданні, падрыхтаваныя М.М. Власавай

(«Русские суеверия: Энциклопедический словарь» – СПб., 1998; «Новая АБЕВЕГА русских суеверий» – СПб., 1995). Матэрыялы гэтых кніг знаёмяць чытача са складаным комплексам вераванняў, вобразамі народнай дэманалогіі, якія складаюць значны пласт сучаснай традыцыйнай культуры рускага народа.

Шэраг грунтоўных прац, звязаных з даследаваннем з'яў сусветнай і славянскай міфалогіі, належыць Т.І. Шамякінай: "Міфалогія Беларусі (нарысы)" (Мн., 2000), "Беларуская класічная літаратура і міфалогія" (Мн., 2001), "Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія" (Мн., 2001); "Славянская міфалогія: курс лекцый для студэнтаў-філолагаў" (Мн., 2005), "Міфалогія і беларуская літаратура: нарысы і эсэ для старэйшага школьнага ўзросту" (Мн., 2008) і інш.

У энцыклапедычным слоўніку "Беларуская міфалогія" (Мн., 2004) (Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. 2-ое выданне, дапоўненае – Мн., 2006) упершыню ў гісторыі развіцця айчыннай навукі зроблена спроба сістэматызаваць і поўна апісаць шматлікія факты традыцыйнай культурнай спадчыны беларусаў, дзякуючы якім прадстаўлена "протабеларуская" мадэль свету.

Важнае месца ў вывучэнні міфалагічнай спадчыны беларусаў займаюць навуковыя выданні, падрыхтаваныя У.А. Васілевічам. Гэта найперш тры кнігі, прысвечаныя беларускім народным прыкметам і павер'ям: "Зямля стаіць пасярод свету…" (Мн., 1996), "Жыцця адвечны лад" (Мн., 1998), "Зямная дарога ў вырай" (Мн., 1999). Кніга "Беларуская міфалогія" (Мн., 2001), падрыхтаваная У.А. Васілевічам, з'яўляецца выдатным дапаможнікам-хрэстаматыяй, у якім прадстаўлены своеасаблівы звод народных уяўленняў пра багоў, дэманаў, нячысцікаў, якімі калісьці беларусы насялялі навакольны свет.

Дзякуючы натхнёнай працы У.А. Васілевіча як укладальніка матэрыялаў і аўтара прадмовы, а таксама яго сумеснай з Л.М. Салавей перакладчыцкай рабоце, убачыла свет і стала даступным для беларускага чытача фундаментальнае даследаванне Часлава Пяткевіча пра Усходняе Палессе, якое было напісана на польскай мове і надрукавана за межамі Беларусі. Значнае месца ў названым выданні ("Рэчыцкае Палессе". – Мн., 2004) займаюць шматлікія народныя вераванні, звязаныя з прыроднымі з'явамі і стыхіямі, жывёльным светам і інш.

Прыгадаем выдадзеныя А.М. Ненадаўцом кнігі па міфалогіі: "Пакланіцеся дубу" (Мн., 1993), "Святло таямнічага вогнішча" (Мн., 1993), "Каму пакланяліся продкі" (Мн., 1996), "За смугою міфа" (Мн., 1998), "Чорт у легендах і паданнях беларусаў" (Мн., 1999), "Сілаю слова. Чорная і белая магія" (Мн., 2002), "Міфалогія. Духоўныя вершы (у сааўтарстве)" (Мн., 2003), "Праклятыя словам" (Бабруйск, 2006), "Чароўныя змеі" (Бабруйск, 2007), "Замак ведьмы" (Чарнігаў, 2008), "Скарбы роднай зямлі" (Чарнігаў, 2009), "Міфалогія маіх продкаў" (Чарнігаў, 2009). У названых выданнях аўтар аналізуе шматлікія з'явы міфалогіі беларускага народа, спасылаючыся на асабіста запісаныя фактычныя матэрыялы, архіўныя і шматлікія літаратурна-мастацкія крыніцы.

Карыстаецца попытам у студэнцкім асяроддзі кніга А.А. Шамака "Міфалогія Старажытнай Беларусі" (Мн., 2004), у якой у папулярнай форме тэарэтычна асэнсаваны матэрыялы, звязаныя з міфалагічнымі ўяўленнямі беларусаў аб стварэнні свету, узнікненні багоў, духаў, а таксама змешчаны звесткі пра міфалогію жывёльнага свету.

У навучальна-метадычным дапаможніку "Міфалогія беларусаў" (Мн., 2005) І.Р. Вугліка разглядаюцца пытанні аб структуры міфалогіі, яе спецыфіцы, а таксама

характарызуюцца міфалагічныя канстанты.

Асобны раздзел у кнізе “Мифология древнего мира” (Мн., 2007) адведзены характарыстыцы розных міфалагічных сістэм народаў старажытнасці, у тым ліку і славян.

Надзвычай грунтоўным і цікавым з’яўляецца манаграфія ўкраінскай даследчыцы Вольгі Парыцька “Українська народна демонологія у загальнослов’янському контексті (XIX – поч. XX ст.)” (Київ, 2004), у якой пададзена класіфікацыя персанажаў ніжэйшай міфалогіі, выяўлена ступень пашыранасці міфалагічных уяўленняў, звязаных з дэманалагічнымі вобразамі.

**Літаратура:**

1 Криничная, Н.А. Русская народная мифологическая проза: Истоки и полисемантизм образов / Н.А. Криничная – Петрозаводск : Карельский научный центр РАН, 2000. – Т. 2. Былички, бывальщины, легенды, поверья о людях, обладающих магическими способностями.

2 Грэймас, А.Ю. “Пра багоў і людзей. У пошуках этнічнай памяці” / А.Ю. Грэймас – Мн. : Энцыклапедыя, 2003. – 404 с.

3 Язык культуры: Семантика и грамматика. К 80-летию со дня рождения академика Никиты Ильича Толстого (1923 – 1996) / отв. редактор С.М. Толстая. – М. : Индрик, 2004.

4 Народная Біблія: Усходнеславянскія этыялагічныя легенды / сост. и коммент. О.В. Беловой; отв. ред. В.Я. Петрухин. – М. : “Индрик”, 2004.

5 Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифо-ритуальная традиция славян / Л.Н. Виноградова – М. : Индрик, 2000. – 432 с.

6 Шапарова, Н.С. Краткая энциклопедия славянской мифологии: Ок. 1000 статей / Н.С. Шапарова – М. : ООО “Изд-во “АСТ”; ООО “Изд-во “Астрель”; ООО “Русские словари”, 2003.

## Агнявік

Кажуць, што ў печы жыў агнявік. Гэта быў вельмі рухавы чалавечык, які скакаў пад трэск дроў. Ён браў у жмені жарынкі і кідаў іх у чыгуны.

***Запісана ў в. Леніна Добрушскага р-на***
***ад Лапаценка Зінаіды Паўлаўны, 1938 г.н.***
***студэнткай Савіцкай В. (1999 г.)***

## Баламутнік

Баламутнік такі пузаты, як бочка. Ён страшны і некрасівы, а вочы ў яго злыя-злыя. Я сама яго не бачыла, але ўсе так апісваюць. Аднойчы цікавы случай быў. Раз на лодцы ехалі, пачало нас круціць. Мы ў той вір трохі рыбы кінулі, дык адразу змаглі далей плысці. Бацька казаў, што то быў баламуцень, бо вадзянік не адпусціў бы нас. А так мы тады выбраліся, спакойна да вёскі даплылі. Болей ніколі са мной такога не здаралася.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Баламуцень вельмі пахож на вадзяніка, у яго такое ж небальшое цела, малыя вочы, зялёная барада. Ён можа прэўраціцца і ў рыбіну, і ў рака. І тады яго і не ўгадаеш. Дабра еты дух нікому не робіць, толькі шкодзіць. Баламутнік адганяе рыбу ад рыбалоўных сяцей, рве іх. А шчэ ён можа чалавека на дно зацягнуць, утапіць. Каб такога не праізашло, нада з сабой свяцоныя рэчы насіць. Толькі святыя цябе і спасуць.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Баламуцень вялікага росту, ён можа быць вышэй за самага высокага зямнога чалавека. З твару ён прыемны: вочы сінія, валасы доўгія, але з зялёным адценкам. Баламуцень зацягвае на дно рэчы, якія чалавек кінуў неасцярожна. Гэтыя рэчы назад ужо і не вернеш.

Баламуцень сільна ўжо любіць маладых і прыгожых дзевак. Ён можа кожны год сабе па нявесце браць. У нас казалі, што ён да сябе іх прыманьвае калдаўством. Чула, што напускае баламуцень нейкі туман, дык дзеўкі за ім па пятах ідуць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Баламуцень у кожнай рэчцы ёсць. Ета ён віры круціць, ваду баламуціць. Яго можна спутаць са звычайным мужчынам, ды нешта ёсць на яго ліцэ нечалавечае. Можа, то вочы, а можа, і валасы. Адвячоркам, кажуць, ён можа выходзіць з вады, але ніколі не ўбачыш ты яго ў сонечную пагоду. Баіцца баламутнік сонца, засухі. Ды ён і выходзіць толькі для таго, каб харошую жонку сабе прыдбаць. Таму маладзіцам трэба асцерагацца вечаровага часу.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

## ***Балотнік***

Балотнік – нячысцік, які жыве ў балоце. Ён мог зацянуць чалавека ў балота.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(перасяленкі з в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Балотнік жыве ў балоце. Заманьвае чалавека гукамі рознымі, нібы дзіця плача ці яшчэ што-нібудзь.

Сама яго не бачыла: але кажуць, што ён падобны да лешага або вадзянога.

***Запісана ў г. Пінск Брэсцкай вобл.***
***ад Кароль Праскоўі Сямёнаўны, 1920 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Петрыкаў Гомельскай вобл.),***
***студэнткай Лазіцкай Т. (2004 г.)***

Балотнік у балоце сядзіць. Нічога дрэннага ён не дзелае. Ён сядзіць і жджэ, калі к яму прыдуць, а ўсе ўсягда туды ішлі. Вон тая ягада клюква там расце таксама, і па яе ходзяць. К яму ўсягда хадзілі, ён там.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Цубашава Эдуарда Фёдаравіча, 1940 г.н., студэнткай Чураковай Ю. (2010 г.)***

Даўно ета случылася, але ўсё было на самай справе. Мне пра ета здарэнне мама казала. Мужыкі лес валілі, стаміліся, а тут вада закончылася. Пайшлі да крыніцы, але ж не туды звярнулі з-за стомы і аказаліся каля балота. А тады лета жаркае было, смаліла сільна. І на етым балоце яны ўбачылі балотніка. Сначала яны і не думалі, што корч пасярод балота быў балотнікам. Аднак той пачаў варушыцца, а потым у багну пайшоў.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Балотнік жыве ў балоце. Ён можа п’янага чалавека завесці ў балота. Што ён заставе, то і будзе дзелаць чалавек. Аднаго п’янага чалавека завёў у балота і заставіў яго іграць, а сам танцаваў пад яго музыку. Чалавеку балотнік даваў дзеньгі за ета. Калі чалавек ачнуўся ўтрам, то аказаўся на пні і кругом яго ляжалі адні чарапкі, а не дзеньгі. Балотнік робя на балоці ўсякія чудзяса, а калі чалавек прасыпаецца, то нічога не помня.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н., студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Етага балацяніка рэдка хто бачыць, таму што мала хто вяртаецца з гэтага падарожжа жывым. Але мой родны дзядзька казаў, што балотнік – гэта такі цвёрды студзень з чырвонымі вачыма. Дзядзька расказваў, што аднойчы ля балота ірваў сабе нейкія травы і пачуў нейкія незразумелыя звукі. Глянуў на балота, аж адтуль вылазіць еты студзень. Дзядзька перапужаўся, бо вочы свяціліся вялікай злосцю. Дзядзька спачатку застыў, але потым апомніўся і пабег, кінуўшы ўсе сабраныя травы.

***Запісана ў в. Старае Сяло Веткаўскага р-на ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Балотнікі самыя злыя пачвары. Жывуць яны ў балоце, самі ж такога цвету, што і балота. Балотнік у сваіх уладаннях вырошчвае кветкі-аганькі, якія свецяцца прыгожым светам, а таксама маюць добры пах. На гэты пах асабліва ідуць дзяўчаты, а як убачаць самі кветкі, то пра ўсё забываюць, а зробяць крок і праваляцца ў багну. Таму людзям нада быць асцярожнымі, калі ля балота ходзіш.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Балотнік – ета такі страшны дух, які жыве на дне балота. Ён сільна любіць людзей зацягваць у багну. Дзядзька мой раз зайшоў у незнаёмае месца, думаў на птушак папаляваць. Глядзіць, аж паляна цёмна-зялёная, а на ёй сядзіць птушка. Дзядзька зрабіў

крок і адчуў, што пачынае правальвацца ў багну. Здавалася, што цягне яго нехта з усёй сілы ўніз. Добра, што побач лаза была, дык ён учапіўся і вылез. Ды і казаў потым, што пачуў жаласлівы стогн. Мабыць, балотнік перажываў, што прыходзіцца адпускаць чалавека.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Жывёт у балоце. Ціпа вадзянога. Грозны, страшны, абросшы. Асобенна часта абітает, дзе дрэва. Уцягівает людзей, засасывает.

У балотніка спутніц нету, эта толька ў вадзянога.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Балотнікі – гэта такія страшныя, яны дужа злыя. Еслі каго захочуць, у трасіну зацягнуць, еслі ім не панравілся. Усюды нада было прайці з божай малітвай. Не панравіцца яму чалавек – будзе вадзіць яго па балоту. А захоча, так і ўтопя. Каб ад балотніка зберагчыся, нада малітву пачытаць і з ім пагаварыць. Балотнік стараўся нехарошае дзелаць людзям.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Канавалава Уладзіміра Уладзіміравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Балотнік жыве ў балоце. Гэта страшны таўстун, без вачэй, а пакрыты ён слоем гразі, а да ёй наліплі водарaслі, мох, жукі. Балотнік вырашчвае траву-багун. Яна задурвае чалавека. А яшчэ ён робіць балотныя вокны. Па вечарах і ўтрам ён раве, булькае, кракае – хоча заманіць чалавека.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Балотнік – эта ж той, кто на балоце жыве. Вот есць історыя, што ўтрам ішоў на первы поезд мужчына адзін, рана было, бальшыя туманы, от он з гары спусціўся, і асталась толькі мосцік перайсці, і как он не патрапіў на той мосцік, а павярнуў налева, а там дзве дарогі. І пайшоў ён па адной дароге, а эта дарога другая, і ана ідзе паўз балота, вот он ішоў, ішоў і трапіў у канаву, вылез, стаў, глідзеў, глідзеў – понял, што не туды пайшоў і думае: “Пайду назад”. Завярнуўся і пайшоў назад па той дароге, апяць ішоў, ішоў, прыходзе – тая ж канава. І так ён хадзіў разоў колькі і апяць у тыя ж канавы пападаў, і так хадзіў да самага рассвета, пакуль ужэ людзі на поезд не ішлі, дак тада он ужэ крычаць стаў і яго нашлі, толькі з людзьмі ён і выйшаў. Дак людзі кажуць, што эта балотнік з ім гуляўся. А вот калі знаеш, што эта нячысты шуціць, то нада обуў памяняць з нагі на ногу. Тады добра ўсё будзе.

***Запісана ў в. Лагуны Добрушскага р-на***
***ад Канавалавай Тамары Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Фамянковай А.***

Балотнік – гэта злы дух, што жыве ў балоце. Ён цягне да сябе ўсіх, хто пройдзе радам. Яны спецыяльна заманьваюць людзей якім-небудзь звукам. Балотнік можа падробліваць розныя-розныя звукі, галасы. Баіцца ён мароза.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Балотнік жыве ў балоце. Ён страшны, зялёны, склізкі. Я не знаю, но мне кажыцца, што ён урэдны і губя людзей.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

У нас балота журавіннае (журавіны раслі). Было гэтае балота топкае-топкае. Пайшоў малады парань па ягады. Балотнік узяў і ўцягнуў яго ў балота. І на гэтым месцы вырас дуб, і пад ім ягады раслі. Балота знікла.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Бураковай Ніны Максімаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Балотнік – ето чорт, екі жыве ў болоці.

Колісь мой брат пойшоў з соседом у болоцістое месца ля вёскі рыбу ловіць, просёк полонку, наклоніўса к водзе, а ў водзе ему отрозілосо, глядзяць на его і говораць: “Цебе ўжэ ждуць”. А самі ў чорном з бліскучымі гузікамі. Брат спужаўся і ўцёк. Думаў, шо ў водзе, а нібы радом стоялі.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Балотнік – дык ето тый, хто ў балоце жыве. Яго ніхто не бачыў, бо ён адтуль і не вылазіць. Толькі можна ноччу пачуць, як ён уцякае ў балоце. А так яго ніхто не бачыў.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Багдановіч Яўхіміі Пятроўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.***
***студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г. (2009 г.)***

Балотнікі – на балоці, гэта цігры (худобіна такая плахая), ахраняюць балота.

***Запісана ў в. Лучын Рагачоўскага р-на***
***ад Брылёвай Праскоўі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Лебедзевай В.***

Мо і е такі балотнік. Хіба мало нечыстой сілы. Ето такая нечысць, екая зацягвае людзей у балото. Даўно було ў нас багато балот. А кароў мы пасцілі ў лесі. Так каровы там у балотах тапіліся, ето балотнік іх забіраў. А калі бурбалкі ішлі з вады, то ето балотнік знак падаваў. Наверно, балотнік – ето тая гразь, екая ў балоці.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Балотнік жыве ў балоці. У ево вялікія вочы, сам тоўсты, паходзіць на мужчыну.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Пашкуновай Марыі Максімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

У балоце тожа ёсць вадзянік, толькі ён балотнікам завецца.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Балотнік хужа вадзяніка. Гэта такое чудзішча з барадою, агіднымі валасамі, тоўстымі рукамі і нагамі. Весь як барадаўка, толькі з гразі. Падобны на чалавека-таўсцяка, сам бальшых размераў. Жыве ён у балоце і не выходзіць з яго, бо ленівы, растаўсцеў, што не двігаецца. Ён плахі. Заманьвае людзей у сваё балота: ахотнікаў, рыбаловаў і такіх людзей, якія міма праязджаюць, то ціўкае, як птушка, то гагоча, як качка, то мычыць, як карова. А як заманіць, то зацягне ў сваё балота, як бы чалавек ні прасіўся – не адпусціць, засасе, паглытне. Хто пападзе к балотніку – смерць страшная.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Калісь гаварылі, што ў балоце жыве якісь дух. Сядзіць ён у балоце на купіне і людзей пужае. Сільна страшны ён. Еслі хто яго ўбачыць, дак уцякае хутчэй. Але я нікагда не бачыў.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Знаю, што балотнік жыве ў балоце. Ён заўсёды быў гразны, вачэй у яго не было. Балотнікі маленькія, з гнілымі зубамі. Калі пойдзеш куды ў лес, дык цябе пачынае цягнуць ў балота нейкая сіла. Але трэба ўдзяржацца неяк і не ісці туды, каб не ўтапіцца.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Балотнік – гэта рэхо. Вон зове, зове і зацягвае ў свое болото, можэ і чоловека зацягнуць, можэ і корову, і коня, і топіць. То еслі болотнік зацягне на дно, то ніколі нікого не знаходзілі. Болотнік похожы на корча.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## *Вадзянік*

Чула я про такого. Кажуць, што він жывэ ў водзі і заманьвае ўсіх туды, а потом топіць.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Гарбачэўскай Марыі Іванаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Ніколы мні шчэ баба моя росказвала про гэтого водзяныка. Вона казала, шчо обычно він жывэ ў водзі (у возэры чы якой-нэбудзь канавы). Казала, шчо гэто злы дух, і шчо люды яго бачылы і росказвалы, шчо він тоўсты такі, бородаты, вэльмы страшны.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Мазоль Міхаіла Васільевіча, 1962 г.н.,***
***студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

В маладосці я служыў бакеншчыкам. Часта прыходзілася быць падоўгу самому на рацэ, в том числе і начаваць. Хоць малады і сільны быў, але ўсё раўно страх нападаў. Ад дзядоў я многа раз чуў пра русалак, вадзяніка. Накошт русалак сказаць не магу, не бачыў, а вот вадзянік – явленіе абычнае, і многім рыбакам яўляўся. Кажуць, выглядзіць вон так, бы стары дзед, але ж вельмі ўродлівы і гразны, есць утопленікаў. Но людзям абычна яўляецца ў выглядзе велізарнага сома. Но сом-вадзянік большы за яго па размеру. Паднімаецца з рачнога дна вельмі рэдка – раз за некалькі год. Для рыбака такога сома пабачыць – добры знак. Будзе рыба ў сеткі ісці. Мне такжэ давелос яго бачыць. Забурліла вада, закіпела, хоць там не было ні віра, ні кручы. І хвост махнуўса, весь у ціне, у водарослях. Я б сказаў, сам сом – метра ў 2 у даўжыну. Но нікому і ў голаву не прыходзіла яго спаймаць, таму што такая рыбіна – не простая, а вродзе хазяіна рэчнога. І чоловек доўжан яго ўважаць.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Андрайчука Уладзіміра Сцяпанавіча, 1917 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Вадзяніка мне лічно довелосо бачыць. Одзін раз летом пошлі мы купацца на озеро. Молодые тогда булі. Дзеўкі у вадзе, а я на берэгу була. Тут чую – крык, віск. Гляджу – у вадзе голова невелічкого розмеру показаласа. І ўсё врэмя круціцца, круціцца… Так скоро круціласа, што разгледзець нельга. І тых, хто ў вадзе, стала зацягваць пад ваду. Але ўсё-такі ім удалос спасціс, ніхто не ўтонуў. Праўда, страху нацерпеліс! Вір жэ сам па собе образовацца не можэ, не інакш, нечыстая сіла гэта була.

А вот дзеўкі тые потом до старосці не жылі. Каждая загінула от нечого свойго ў молодосці. Іх вадзянік уподабаў, а раз вурваліса, то потом наземны нечысты ўсё-раўно прыбраў, отомсціў.

А шчэ даўным-даўно гаварылі, була страшна змяя, котора людзей ела. Вона не только поўзала, але і ходзіла. Спасаліс от её ў возеры. Звалі ту змею локно.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Акостка Аляксандры Якаўлеўны, 1888 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

У вэлікіх водоёмах жыве водзянік – русалчын цар, хазяін. Гэто стары дзядок з барадою. Своіх русалок вон выпускае з воды толькі на русальны тыдзень, усё ж астальное ўрэмя тыя не маюць права паказвацца на зямле. Сам водзяны – натура поганая, враг чоловека. Напускае судорогу на того, хто купаецца, шчоб маць собе добычу. Водзяны боіцца крэста, ніколі не зацягне чоловека з нацельным крэстом. Бываюць такіе места на рэцэ ілі озеры, которые не замерзаюць і ў лютые морозы. Такіе места лепш обходзіць – это владзенья водзяніка. Нечыстые духі обітаюць і ў старых колодцах, воду з которых ужэ не пьюць. Хто пэрэхіліцца чэраз край, да шчэ после заходу сонца, той можэ побачыць там водзяного. Але так робіць нельга: вон будзе прэследоваць і ўтопіць у екім-небудзь озеры ці дажэ канаве. Едучы ў ночэ по рэцэ на лодцы, трэба хрысціцца і хрысціць ваду, а главнае – не ўглядвацца ў ваду, бо можэ показацца водзянік.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Бруцкай Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Вадзянік жыве ў вадзе і зацягвае туды людзей, гаспадар вадзянога асяроддзя. Кажуць, што вадзяныя – гэта душы памерлых – тапельцаў, чыі целы не былі знойдзены.

Страшны, касматы, з зялёнай барадою. Кажуць, што калі людзі тонуць у вадзе, то гэта вадзяны іх да сябе прыбірае.

Калі я была малой, пайшлі мы, значыць, з падружкамі на возера. Яно недалёка знаходзілася. Плавала я вельмі добра – маладая яшчэ была. Ну, значыць, плыву я, яшчэ недалёка ад берага была, як нешта мяне за ногу як цапне. Я перапужалася і давай, думаю, на бераг, але дзе ты. Яно мяне не адпускае – так ухапіла. Я давай крычаць, каб мяне спасалі. Добра, што я крэст не сняла, дык я ім па вадзе, па вадзе. І як чуда нейкае. Нібы Гасподзь Бог памог, адпусціла яно мяне.

Я гэта ўсё потым маці сваей расказала, а яна мне і кажа: “Гэта, мабыць, дачушка, вадзяны быў!”

А яшчэ мне матка распавядала, што ад вадзянога мог выратаваць ці дамовік, ці баннік, калі яго аб гэтым папрасіць.

Кажуць, каб яго не ўбачылі, ён ператвараецца ў якую-небудзь рыбу і жджэ.

***Запісана ў г. Пінск Брэсцкай вобл.***
***ад Кароль Праскоўі Сямёнаўны, 1920 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Петрыкаў Гомельскай вобл.),***
***студэнткай Лазіцкай Т. (2004 г.)***

Гэта злы дух, што жыве ў азёрах, рэчках, там, дзе цёмно і глыбоко, тому людзі і баяцца купацца там, дзе не відно дна. Вон мае выгляд дзеда з бородой зялёнай і сам вон покрыты жабрушніком.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чарнянок І. (2008 г.)***

Жыве ў вадзе, ніколі не выходзіць з вады, а то памірае без яе. Ён выглядзіць амаль як рыба, але ёсць нешта і ад чалавека: на галаве доўгія валасы, бывае з трасінай ды п'яўкамі, зялёнае ліцо, цела хвастом заканчваецца. Яго лічаць атцом русалак. Ён бударажыць ваду, пужае гэтым людзей. Як жывёла падыходзіць піць ваду, дык ён можа нарочна выпіць яе з тога возера, каб карова бліжэ падайшла, а тады, як выплюне ён ваду, жывёла і гіне. Дзяцей рэдка крыўдзіць. А як ідзе ўздоўж ракі п'яніца, пасылае ён русалак, памочніц сваіх, каб заманілі бліжэй к вадзе, а тады і топіць.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Вадзянік быў царом вады. Ён мог тапіць людзей. Казалі, што ён мог быць вялікай рыбай, дзіцём.

Тое, што раней у вадзе жылі вадзянікі, верым. Ён рабіў людзям зло: тапіў, ламаў іх вудзільні, краў бялізну пры паласканні. Калі чалавек тапіўся ў мелкім месцы, то асабліва верылі, што гэта справа вадзяніка. Ён яшчэ стараўся зацягваць людзей на глыбіню.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Вадзянік – злы дух, які сядзіць на дне рэк, сажалак, балот. Выступае ў вобразе мужчыны з рысамі жывёлы. Замест рук у яго лапы, сам ён з вялікай барадой зялёнага колеру і доўгімі вусамі. Росту ён невысокага, тоўсценькі, пакрыты цінай. Галоўны яго занятак – тапіць людзей.

Зімой ён спіць, а прачынаецца толькі тады, як з’яўляюцца ля вады першыя рыбакі. Раней сома не елі, бо, казалі, што ён сябруе з вадзяным. Яны разам харчуюцца ўтопленнікамі.

***Запісана ў г.п. Брагін***
***ад Яцко Наталлі Пятроўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Яфрэмавай А. (2005 г.)***

У нас праз дарогу невялікая сажалка ёсць. Туды дзеці з ўсёй дзярэўні бегаюць купацца на лета. На той сажалцы плавае браўно. Калісьці на беразе расло магутнае дрэва, але яно як-та ўраз высахла, а па лету бура была, маланка ў гэта дрэва папала, і дрэва ахапіў агонь, яно ўпала ў ваду. Дык вось, дзеці любяць гэтае браўно выцягваць на сярэдзіну (там глыбока) і прыгаюць з яго ў ваду. Мой унук таксама прыгаў з яго, і не раз.

Неяк пайшоў мой унук і хутка вярнуўся дамоў перапалоханы. Я спыталася, што здарылася, а ён кажа: “Прыгалі з хлопцамі, хто глыбей. Нырнуў я глыбока-глыбока. Глыбей за ўсіх. Абрадаваўся. Але адчуваю, як па наге штосьь пагладзіла, а потым ухапілася ў ладыжку і не пускае – моцна трымае. Але потым адпусціў мяне вадзяны.

Я наказала ўнуку маўчаць аб гэтым, а ён не стрымаў слова – расказаў дзецям. Ой, і кіпіш падняўся тады. А праз тыдзень знайшлі ўтоплага мужыка. Ведзь гаварыла ўнуку маўчаць! Не, не змог.

***Запісана ў в. Клянок Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Зубаравай Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Этыя вадзяныя, яны жывуць у любой вадзе, у калодцы. Людзі паэтаму і топяцца ў рэках, таго што іх уцягвае вадзяны.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Вадзянік, вадзяны, ну яшчэ такі бабай, страшны бабай. Яго асцерагацца трэба. У балоты хадзіць не нада.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цубашава Эдуарда Фёдаравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Чураковай Ю. (2010 г.)***

Вадзяны ў балоце жывець. Ён страшны такі, зялёны ўвесь. Барада ў яго длінная і косы длінныя, касматыя. Усё цела ў яго аблеплена цінай. І хвост шчэ ё ў яго, як у русалкі.

Людзей усё ўрэма тапіў еты вадзяны.

Матка казала, што мужчыны ўтопленыя станавіліся вадзянымі, а дзеўкі ўжо незамужнія – русалкамі.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

У нас за дзярэўней раней копанка была, зараз якая ўжо высахла ўся, так вось пайшлі туды купацца хлопцы. Купаліся ўсе, і добра было, а раптам бачаць – аднаго ў ваду хтось цягне ўніз. Яны пачалі яго выцягваць, а яго быццам бы нейкая сіла цягне ўніз, так і ўцягнула. Старыя казалі, што гэта вадзяному ён панравіўся і ён яго ўтапіў, штоб душу сабе забраць.

***Запісана ў в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Казловай Таццяны Мікітаўны, 1942 г.н., студэнткай Валчковай Т. (2004 г.)***

Вадзянік жыве ў возеры ці рэчцы. Заманьвае людзей у ваду і топіць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н., студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Вадзянікі-вірнікі жывуць ў бягучай вадзе, а ціхоні – у стаячай. Яны пужаюць рыбу, рвуць сеткі.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н. (пераехала з в. Пучын Брагінскага р-на) студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Вадзянік, як і другая нечысць, можа ў людзей душу забіраць. Ета для яго бальшая сласць. У нас раз такое было. Ніхто ў вёсцы так многа рыбы не лавіў, як Васіль. Рыба сама к яму ў сетку шла. Яму многія завідвалі, а я дык не. Мая хоць душа чыстая з етага света пойдзе, не тое што ў Васіля. Той душу нячыстым прадаў. Ета ён шчас пра той свет не думае, а прыйдзе час, дык ваўком выць будзе.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на ад Тачылкіна Яфрэма Андрэевіча, 1932 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вадзяныя могуць жыць у любой вадзе. Яны напамінаюць вялікіх рыб з чалавечым ліцом. Вадзяны, калі ета яму нада, можа стаць асакой, чаротам, а то шчэ ў корч прэўраціцца. Ён людзям нічога харошага не здзелае. Любіць вадзяны толькі калдуноў. Во ў нас мужык рыбу так добра лавіў, што яму ўсе завідвалі. А ўжо потым даведаліся, што ён калдун. Еты мужык сам усё расказаў, калі чарку выпіў. З таго часу яго ўсе бокам абыходзілі, бо баяліся. Але ніхто з ім не ругаўся, бо зналі, што шапне вадзяніку, а той можа і ўтапіць.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вадзянік жыве ў вадзе. Абычнае яўленне для ўтопленнікаў. Колькі трэба яму жэртваў у вадзе, столькі ён і забірае чалавек. Чалавек утапае, і прызнакі яго паяўляюцца ў відзе свечак. Колькі трэба ўтапіцца чалавек, столькі паяўляецца свечак у начное ўрэмя. Пускай вада будзе зусім мелкай, а чалавек усі роўна ўтопіцца.

Вадзяны запаведуе вадой. Калі чалавеку нужна ўтапіцца, то чалавек кіне ўсё і пойдзе к вадзе, штоб утапіцца.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***

*ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,*
*студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)*

Сядзім мы з сяброўкай на беразе ракі, аж бачым, што ідзе маладая пара. Селі яны ў лодку і паплылі на сярэдзіну ракі. Глядзім, аж закруцілася лодка і знікла. А потым з-пад вады мы пачулі дзікі смех, які праз некаторы час сціх. Вядома ж, што ета іх вадзінік зацягнуў.

А во, што шчэ вам раскажу. У нашай вёсцы быў адзін млынар, яго ўсе не любілі, бо казалі, што ён з вадзяным знаецца. А той яму мяліць дапамагае і ў рэчцы ніколі не ўтопіць.

*Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на*
*ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

Вадзяны выглядае як стары дзед, увесь зялёны, у ціне, а замест нагцей і пальцаў кляшні, як у рака. Ён жыве ў самых глыбокіх ямінах у рэках і азёрах. А шчэ ён можа выбіраць сабе месцы ля берага, толькі ета рэдка бывае. Вадзянік толькі некаторым можа памоч рыбкі злавіць, а так увесь час рыбу адганяе. Нельзя сільна зліць яго, бо тады ўтапіць можа. Каб у жывых астацца, нада ўсігда з сабой крэсцік насіць. Толькі ён зможа спасці чалавека.

*Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на*
*ад Грамыка Марыі Пілiпаўны, 1933 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

У нашай рацэ таксама ёсць вадзяны. Ён увесь такі слізкі, як рыба, ды ён і ёсць рыба з тварам чалавечым, але злым-злым, што аж страшна. Вадзянік не любіць адзін жыць. Жэніцца ён на русалках, вадзяніцах. А шчэ любіць маладых утопленіц. Вадзяны, як ажэніцца з утопленіцай, адразу лагаднее, дажа на некаторы час прыціхае. Тады чалавеку раздолле. Але хутка вадзянік зноў за сваё прымаецца.

Вадзяны і сам любіць да сябе маладух зацягваць. Таму ніколі не йдзі ў ваду без крыжа, бо ён галоўны выратавальнік.

*Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на*
*ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

Водяной, страшный такой, серый и зеленый, грязный. В болоте ж чистым не будешь.

В болоте, а иногда в речках живет, где поглубже да людей поменьше.

Какая ж от него польза? Никакой. Одному на болото ходить нельзя. Он людей не любит, с дороги сбивает, сколько людей потопил. Мы когда малыми были, нам мамка рассказывала про водяного да про лешего, чтоб мы одни в лес не бегали.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.*
*(пераехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.)*
*студэнткай Будзько М. (2006 г.)*

Вадзяной жывець у вадзе. Ён жывець у балотах, а можа і ў возеры якім-небудзь, у якіх вада грязная. Ён увесь пакрыты цінай, травой і кожа ў яго, як чэшуя. Вадзяной робіць усякую шкоду. Можа дажа патапіць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Вадзянік жыве ў вадзе, на балоце, пахож на мужыка. Сам увесь у водарaслях, зялёнага колеру, з вялікай барадой. Ён злы і топіць людзей, асобенна красівых, а із дзевак робіць русалак, а яны яму служаць. Нельга аднаму хадзіць купацца, бо вадзянік забярэ, а спасці будзе няма каму. Ён ваабшчэ самы галоўны ў вадзе, і ўсе яму падчыняюцца, дажэ рыба.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

У прудах, азёрах, рэках жывуць вадзянікі. Гэта стары з зялёнымі валасамі і барадой з водарaслей. Ён можа ўтапіць чалавека, які купаецца без крыжа, тады спасаць чалавека нельга, бо вадзянік і цябе ўтопіць. Але ён мог дапамагаць рыбакам. Калі чалавек лавіў шмат рыбы, то казалі, што яму вадзянік памагае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Да, казалі, што ў прудах, азёрах, рэках жывуць вадзянікі. Гэта стары з зялёнымі валасамі, з барадою з водарaслей. Ён можа ўтапіць чалавека, які купаецца без крыжа, тады спасаць чалавека нельга, бо вадзянік і цябе ўтопіць. Але ён мог дапамагаць рыбакам. Калі чалавек лавіў шмат рыбы, то казалі, што яму вадзянік памагае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Вадзянік – гэта дух, які ў вадзе жыве. З вады ён рэдка выходзіць. Яго любімым месцам з'яўляюцца рачныя омуты паблізу мельніц. Пра яго прыгаворка такая есць: “Дзядуля вадзяны – начальнік над вадою”. Ён – уладальнік русалак. Кажуць, што ён стары дзед, які пакрыты балотнай цінаю. Вадзяногa трэба паважаць.

Вадзяны, калі яго раззлуеш, ламае мельніцы, праганяе ўсю рыбу, а калі сільна раззлуецца, тады можа на чалавечае жыццё пасягнуць.

Яго любімая рыба – гэта сом. На ёй ён ездзе, і яна дастаўляе яму ўтопленнікаў. Кажуць, быццам гэта ў яго замест каня.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Струмень Кармянскага р-на)***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

У нашай дзярэўні гаварылі, што вадзянік людзей топіць, плахіх людзей. Дак жыў у нашай дзярэўні адзін п'яніца, жонку біў, ана тады з дзецьмі з дому ўцякла, па саседзям начавала. Ён і сам, як нап'ецца, расказвае, што кагда ходзіць на рыбу з мужыкамі, вадзянова відзеў, і той яму гаварыў, што хоча яго ўтапіць. Гэты мужык усей дзярэўні расказваў, што вадзянік страшны, весь у водарaслях і жабах, і вужакі вместа валос. А патом, як уснуў, сталі гаварыць, што вадзяны забраў яго, што ён такі плахі быў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Водяной – это представитель нечистой силы, демон в образе старика, обитающий в омутах, колодцах и других водоемах. Он бывает еще и в море.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Емяльянавай Алы Георгіеўны, 1965 г.н.,***
***студэнткай Цімафеевай Т. (1999 г.)***

Вадзяніка ў нас называлі вадзяной. Ета злы дух балот, азёраў, глубін рэчак. Ён пахожы на чалавека. У яго бальшушчы рост і цела ўсё ў гліне, гразі і ціне. Вадзяной тапіў п’яных людзей і тых, хто не налажвае хрэст перад купаннем, начных купальшчыкаў. Апасля Іллі зацягіваў у ваду часта.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленкі Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Вадзянік – гэта такая істота, якая жыве ў вадзе. Ён весь слізкі, касматы, мае хвост, як у рыбы. Гавораць, што ён дапамагае рыбакам лавіць рыбу, але і топіць тых людзей, хто купаецца без крыжа.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сычовай Тамары Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Сычовай Т. (2004 г.)***

У вадзе, у реке жывёт. Шчітаецца главны ў русалак. Сільна высокі, з барадой, абросшы валасамі. Настаяшчы велікан.

Вадзяной топіць людзей. Распаражаецца сваім царствам, буры паднімает. Можа карабль утапіць.

Может выталкнуць чалавека, штобы он не ўтануў.

Мы пашлі адзін раз купацца. Рэчка такая небальшая – Ліпа. Это прыток Сожа.

Сестра мая нырнула, а 16 лет ей была, і начала тапіцца. А мы цянем, цянем, не можам выташчыць. Ну, думаем, усё.

Адна старая жэншчына перакрысціла яе, што-то сказала і сразу выташчыла сястру маю. Чуць мы яе адкачалі. Эта вадзянік яе хацеў уташчыць. А жэншчына тая, дак ана малітву проців нево знала какую-то.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Вадзяной жыве ў азёрах і рэках з вельмі бруднай стаячай вадой. Ён мае высокі рост, зялёныя вочы, рыбін хвост і доўгія валасы. Ён пакрыты чашуёй, водарaслямі і ціней, што робіць яго неадлічымым ад вады. Каб людзі яго не бачылі, ён часта з’яўляецца ў вобразе сома ці іншых рыбін. Ён небяспечны. Баіцца краста і малітваў. Калі чалавек вайшоў у ваду без краста, то ён можа яго ўтапіць. Калі ў добрым настроі, то гоніць у сеці мужыкоў рыбу, у дрэнным – топіць лодкі, цягне людзей у ваду і топіць. Калі бачыць, што маладая дзеўка пайшла адна на рэку і хоча ўтапіцца, то не выпушчае з вады, калі яна перадумае. Асабліва гэта тычыцца незамужніх.

***Запісана ў г. Гомель***

***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Вадзяны – гэта той, хто жыве ў вадзе. Пра вадзянога казалі, што ён топіць людзей, таму баяліся купацца там, дзе была глыбока.

***Запісана ў в. Брылёва Гомельскага р-на***
***ад Гарбузавай Марыі Яўсееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

У нас азёр і рэчак вялікіх не было, таму вадзянік вадзіўся ў калодзежах, і яго звалі залезная баба. Гаварылі, што яна жыве ў вадзе ў калодзежы і парушаць яе спакой ноччу альбо вельмі рана турбаваць не трэба, бо яна магла ўцянуць у калодзеж. Залезнай бабай пужалі малых дзяцей, не дазвалялі гуляць каля калодзежа, глядзець унутр зруба. Нават дарослыя позна вечарам і рана раніцай не хадзілі па ваду, бо залезная баба спала.

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на***
***ад Агеенка Таццяны Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Смолікавай М. (2010 г.)***

Па старым павер’ям, мне, шчэ матка казала, а ёй яе матка, што вадзяны – гэта хазяін вадаёмаў, жывых істот у ім. Выглядае ён вельмі уж страшэнна. Малы, вельмі малы, з зялёнай барадой па самы пол. Такія ж у яго і валасы, доўгія і рэдкія. На твары яго вялікая барадаўка, какая пугала таво, перад кім ён паяўляецца. Ліцо пакрыта водарaслямі і цінай. Казалі, што ён жыве ў вірах рэк. Часта яго встрачалі ў азёрах, каля крыніц, глыбокіх калодзежаў. Калі чалавек плюне ў тое месца, дзе жыве вадзяны, то гэты чалавек памрэ ад засухі, будзе вельмі хацець піць, но не зможа добра напіцца. Таксама карай вадзянога з'яўляецца тое, што ён не дае вырасціць добры ўражай. Он как бы выпівае ўсю ваду з палей, і ўсё сохне. Калі на раке бурліць вада, не нужна хадзіць на рыбалку, бо гэта вадзянік пажырае рыбак у гэтай ракі. Ён жыве на самам дне і пугаецца кожнага шуму. Ён асматрывае сваі ўладанні кожну ноч, каб ніхто на яго не пазарыўся. І сільна злуецца, калі ўбачыць, што ціна на дне парушана, переравернута абы-як, тады ён пачынае сваю ахоту, якая праходзіць сільна доўга. І калі ён знаходзіць вінаватага, забірае к себе, прывязвае цінай і той гібне. Страшэнна, калі ён выходзе на сушу. Гаварылі, што калі ён трухае сваімі валасамі, то на зямлю падаюць вужы, чарвякі. І калі ты там знаходзіўся, то праз некалькі дзён памрэш.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Вадзянік – гэта быўшы ўтопленік. Вадзянікі жывуць вялікай зграей у вадзе. Часцей за ўсё гэта мужчыны з доўгімі зялёнымі валасамі і доўгімі кіпцюрамі. Яны зазываюць купальшчыкаў далей у ваду, а потым шлакочуць іх, пакуль тыя не памруць. Каб не ўтапіцца, то нельга было купацца на свята або ноччу.

А яшчэ я чула, што вадзянік – гэта стары дзядок з доўгімі валасамі і ўвесь пакрыты цінай, ён топіць маладых дзяўчат, каб потым пераўтварыць іх у русалак.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Як я была маладая, так сільна вадзяны бальшой быў. Так роў, дужа сільна. Казалі, што вадзяны роў, падобны на жабу, чэрапаху. Вадзяны тапіў людзей у возеры, зацягваў пад ваду. Такі быў шум, як у бутылку дуе. Як вуж, страшны, з нагамі, на пярэдніх нагах маленькія ногці. А як балота асушылі – знік ён.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменка В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Вадзянік жыве ў быстрай вадзе. Кожны вір мае свайго вадзяніка. Яны абітаюць у крыніцах глыбокіх, у глыбіні рэк і азёр, у такіх месцах, якія зімой не замярзаюць, бо лёд тае ад дыхання вадзяніка. Вадзянікі цягнуць да сябе на дно ўтопленікаў.

У нас ёсць шмат месцаў, дзе былі некалі азёры, а ў іх абіталі вадзянікі. Яны часта талкалі людзей у вір. Трэба было закрыць галоўны істочнік возера. Тады вады станавілася меней і вадзянік перасяляўся ў іншае месца.

Вадзянік меў від старога чалавека, укрытага водараслямі і цінай, з зялёнай барадой, дліннымі валасамі.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Вадзянік – хазяін вады. Ён не адзін там. Рака бальшая. У кожнай вадзе должан быць хазяін, свой хазяін у вадзе. Хазяін вады не злы. Ён нікому нічога не дзелаў.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Канавалава Уладзіміра Уладзіміравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Водяной живет в болотах или реках. Водяной – это старичок, тело которого покрыто грязью и тиной полностью. Водяной является хозяином воды и царем рыб. Водяные также живут в водяных поддонах под мельницами.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Рафеевай Аляксандры Аляксеевны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Міржыеўскай А. (2010 г.)***

Ёсць у вадзе хазяін – вадзянік. Выглядае, як чалавек, як у вачках, волас длінны, ён дужа чысценькі, бо знаходзіцца ў вадзе. Ён без ціны і ўсякай гразі. У людзі паказваецца. Хоча паказаць, які ён чысценькі.

***Запісана ў в. Вылева Добрушскага р-на***
***ад Разрашэнка Лізаветы Пятроўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Смяглікавай В. (2004 г.)***

Вадзянік – гэта дзядок, які пакрыты водараслямі. Калі вада ў пруду была спакойная, то ішлі купацца, калі шумела, то казалі, што вадзяны зацягне.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Вадзянікі вадзіліся ў рэчцы, маглі ў балоце быць і ў возеры. Зялёны ён такі быў, касматы і валасаты, страшны. Зліўся, што калі кідалі нешта ў ваду, ноччу рыбу лавілі.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Вадзяны – эта жыве ў вадзе такі дзед, ён увесь у водарaслях, у яго рыбій хвост. Жыве ён у балоце, у раке, у возеры ўмесце з рыбамі, ахраняе рыбу. Ноччу ён вылазіць са дна, і калі нехта купаецца, ён можа яго схваціць і ўтапіць. Таму нельзя лезці ў ваду. Вадзяны абарачвался ў водарaслі ці ў рыбу, каб утапіць чалавека.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на***
***ад Фамічовай Аляксандры Яфімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Каліноўскай Т. (2009 г.)***

У майго дзеда ў гародзе быў калодзеж. Ён быў невялічкі і неглубокі. З яго бралі ваду толькі для таго, каб паліваць гарод. Дзед забараніў дзецям адкрываць калодзеж, бо ў ім, казаў, жыве вадзянік. Ён хапае дзяцей і цягне ў ваду.

Але дзецям было цікава, і адзін пацiху адкрыў крышку калодзежа. Акрамя зялёнай вады, там нічога не было. Яны пачалі гукаць у калодзеж. Раптам вада забурліла і ўсплыла лахматае зялёнае чудзішча з хвастом, як у рыбы. Яно ўхмылялася сваім шчарбатым ротам. Дзеці пачалі крычаць. Прыбегла бабуля і начала хрысціцца. Тады вадзянік нырнуў пад ваду.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

У вадзе жыве такі дух, як вадзянік. Ён дужа страшэнны. Касматы, з барадой, у ціне. Цела ўсё слізкае, сіняе і ў пупырыжках. Людзі яго баяцца.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Вадзянік – эта стары чалавечак з дліннай-дліннай барадой, якім-та клінам, валасамі на галаве. Усё яго цела, гаварылі, пакрыта не то валоссем, не то травой вадзяной, а между пальцамі на руках і нагах – перапонкі, точна як у жабы. Рукі такія доўгія, чуць не да полу.

Ён можа жыць толькі ў вадзе, на зямлі ён паміраe і астаўляе на сваім месцi толька адну ціну. І калі гэтую ціну кінуць назад у ваду, то вадзянік яшчэ раз ажыве і будзе памагаць этаму чалавеку. Шчэ гэты чалавек можа лавіць купальніц і купальнікаў. Кагда злавіць некага, дык так мучаецца, пакуль чалавек на дно не пойдзе.

Дзеўка пад вадой становіцца тады русалкай, а хлопец – вадзянікoм.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Содаль Яўгеніі Сямёнаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Кравец І. (2003 г.)***

Вадзянік – стары халасцяк, і ў гэтым няшчасце жанчын наогул і дзяўчат асабліва. Ён любіць маладосць і прыгажосць. Калі ў яго ўладанні ўжо было некалькі тапельніц, вадзянік утрымлівае толькі самазабойцаў і адпускае астатніх выпадковых тапель-

цаў. Калі топіцца дзяўчына, яна становіцца русалкай і трапляе пад уладу вадзянога.

Вадзянік любіць жыць каля млыноў, у завадзях рэк. Вадзянік заводзіць сям'ю. Жонка яго – русалка, якая мае дзяцей, такіх жа нечысцей, як самі.

Я ўяўляю сабе вадзяніка так: ён стары, у яго ёсць зялёная доўгая барада, доўгія валасы, не, не валасы, а нейкія космы кудлатыя. Скура ў яго слізкая, уся ў вадзянках і ўграх. Ён з пузам поўным вадой, з доўгімі рукамі і нагамі.

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на***
***ад Кір'янава Віктара Анатольевіча, 1938 г.н.***

Вадзяной жыве ў возеры. Ён стары і мае перапонкі между пальцамі на нагах, як у вуткі. Вадзяной можа быць і харошым, і плахім. Еслі яго разазліць, то ён забірае к сабе тых, хто купаецца. А еслі ён у харошым настраенні, тады памагае рыбакам. У вадзянога ё жонка-русалка, каторая ражае дзяцей.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Там, дзе жывуць добрыя людзі, і вадзянік добры. Адна дзеўка заблудзілася, а вадзянік памог выйсці. Пачаў крычаць: "Угу – угу". Дзеўка ішла па гэтым гуку і выйшла ў дзярэўню. Мой дзед яшчэ расказваў пра гэта.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Бураковай Ніны Максімаўны., 1934 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Плылі на лодцы людзі, і на іх напалі мошкі, а одна жонка гаворыць: "Дзе той губаты, шоб мошак отогнаў?" А другая кажэ: "Хочэш побачыць, то побачыш". І тут з воды нешто вылезло і перэвернуло лодку. "Ну, шо, пабачыла?" – сказала другая.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Вадзянік жыве ў вадзе. Ета стары чалавек. Он з барадою, цела пакрыта цінай. Вадзянік топіць тых, шо ідуць у воду без крыжа.

***Запісана ў п.Чырвонае Жыткавіцкага р-на***
***ад Цімашчэня Ганны Парфёнаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Макарэвіч Е.***

Усе знаюць, што я добры рыбак, вельмі люблю рыбу лавіць. Багата хто едзе на рэку, а мне і возера нашага хватае. Сколько нам з бабай той рыбы трэба. Так, лаўлю больш для ўдавольствія.

А раз такое было са мной, што і зараз успомніць страшно. Это было летам, года, мо, два тому назад. Пашоў я на рыбу, а ноч ужэ была. Я часто ноч'ю хажу, лучшэ ловіцца да і хапутны не ўбачыць. У тую ноч цёмно не было, луна свеціла якраз. Пашоў я з настаўкай, накрываю прама з лодкі, пападаецца калі 2-3, а калі і нічога няма, ну – як усегда. І тут чую, шлоп-шлоп, ек бы ідзе хто па вадзе возле берага. Думаю: "Хто это рэшыў у такое врэмя тут брадзіць?" Паварачываюсь – і абамлеў! Ідзе прамо по водзе, а там глыбіна была, ну, метра палтара, два, дзед нейкі, медленна так ідзе. І хоць он

быў у метрах сарака ад мене, мо, меньш, але ж я добра пабачыў, што ён быў у нечым белым, доўгім і косы белыя, доўгія. Госпадзі! Як я перапужаўся! Настаўку ў лодку – і хучэй дадому. Праплыў так далековато, павернуўся глянуць, а вон сідзіць ужэ на берэзі, весь белы. Дамоў прышоў чуць жывы. Каб сказаць, што п'яны быў, а то ж не піў. После того ноч'ю на рыбу больш не хажу. Не знаю, хто это быў, хто его ведае. На свеце ўсего хватае. От такі случай быў са мною.

***Запісана ў в. Крэмнае Жыткавіцкага р-на***
***ад Пашэвіча Міхаіла Пятровіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Анішчык Н. (2005 г.)***

Е такі вадзянік. У балоці жыве. Мне шчэ маці казала, што калі вір у вадзе ўгледзіш, то знай, што вадзяны там. Ой, страшны ён, увесь у ціне, воласы нібы якія зялёныя. Але яго мала хто бачыў, бо ўсё ўрэмя ў вадзе сідзіць. Баяліся етага чорта, бо, бывае, не толькі скаціна тапілася, а і людзі. То ўсё яго прадзелкі.

***Запісана г. Калінкавічы***
***ад Белай Варвары Васільеўны, 1928 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Навінкі Калінкавіцкага р-на)***
***студэнткай Торап Т. (2005 г.)***

Было ў нас адно места, дзе многа ўтопленнікаў. Ніхто з людзей дажа не знаў, што случалася. І вось адна жанчына расказвала, што відзела. Узяла сваё дзіцё і пайшла ў лес ягады збіраць. Пасадзіла сваё дзіцё на нейкі бугор недалёка ад вады, ну а сама паціхоньку сабірае ягады. Тут што-та чуе гэта жанчына, дзіцё яе разрываецца, да так плача, так крычыць, як рэжуць яго. Кінула тая свае ягады і бягом да дзіцёнка. Толькі падбегла і бачыць, што над яго галавой кішэла куча валасатых невядомых сіл. А яны так шчыкочуць, што чуць да смерці не зашчыкаталі. Добра, што ўспела яго выхваціць, а то б неізвесна што было б. А потым старыя жанчыны, меўшыя некі магічны дар, сказалі, што гэта быў вадзянік са сваёй сям'ёй. Ён шчакоча людзей і дзяцей, а патом, кагда зашчыкоча да смерці, цягне да сябе ў сваё жытло і дзелае смертніка адным з вадзянікоў.

***Запісана ў в. Варатын Калінкавіцкага р-на***
***ад Пятрук Вольгі Карпаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Астапенка М. (2008 г.)***

Вадзянік водзіцца ў азёрах і балотах. Калі чалавек залезе ў балота ці ўтопіцца, то вадзянік забірае яго душу ці робіць сваім сябрам.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Вадзянік… Да, чула пра такога, яшчэ яго называлі "чорт водны", бо баяліся яго вельмі. Ён мог ператварыцца ці ў жывёліну якую, ці ў расліну, дык яго так у вочы і не бачыў ніхто, толькі вось усе кажуць, што ёсць такі. Ён з вады ніколі не вылазіць, усягда тамака сядзіць і жджэ, каб каго ўцягнуць ды ўтапіць, да такі ён злы быў. Ён не толькі людзей тапіў, а і скаціну тожа. Казалі: хто да яго пападзе – назад не вяртаўся.

***Запісана ў в. Лясец Калінкавіцкага р-на***
***ад Русаковай Соф'і Мікалаеўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Вадзяны – хазяін вадаёмаў. Жывая істота, падобная на чалавека з рыб'ім хвас-

том. Кажуць, што ён гаспадарыць над усімі істотамі, якія жывуць у пруду і ў вадаёме.

***Запісана ў в. Мнагаверш (зараз Мікулінск) Калінкавіцкага р-на***
***ад Кавалёвай Ганны Леанідаўны, 1955 г.н.,***
***студэнткай Скіданенка В.***

Вадзянік – гэта нячысты дух. Ён жыве ў вадзе і гаспадарыць там.

Пахож на вялікага старыка з зялёнымі валасамі і з барадою з водарасляў.

Вадзянік топіць тых, хто далёка заплывае. І калі патопіць хлопца, ён стане вадзяніком, дзяўчыну – стане русалкай.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Ето злой дух, якой живёт в воде. Он весь такой страшный, лохматый. У нево длинные волосы и вместо ног рыбий хвост. Он вот, например, если человек ево потревожит, он может ево утопить. Так мы когда девками были, боялись одни в воду идти. А то еще у нас в Марковском случай был. Пошли девки за клюквой в болото вдвоём. И вот одну он схватил за ногу и не отпущает её. Та девка, вторая, тянула и не смогла.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Вадзянік – гэта нячысцік. Ён з доўгай барадой, таксама ў яго доўгія валасы на ўсём целе. Вадзянік не можа доўгі час знаходзіцца на сушы, бо можа загінуць. Таму ўвесь час ён знаходзіцца ў вадзе. Калі вадзяніка хто-небудзь спасе, той адблагадарыць яго, выратуе, калі той пачне тануць.

У вадзяніка ёсць свой асабісты конь, гэта сом. Ён ездзіць на ім і пужае рыбу каля рыбацкіх сетак. Дажыдаецца людзей, якія падаюць у ваду з неасцярогай. Калі жывёла будзе плысці, той залезе ён на яе спіну і будзе прыціскаць яе да дна. Калі вадзянік забаўляецца, то на тым месцы будуць разыходзіцца кругі, усплывуць на паверхню бурбалкі. Еслі ў вадзяніка вяселле, то не абысціся без чалавечай ахвяры.

Вадзянік можа пераўтварацца ў любую рыбіну. Яго жонкай лічыцца русалка, але яна яго не любіць, но і адвязацца ад яго не можа.

Вадзянік хапае за ногі тых, хто купаецца і ловіць рыбу. Дзяўчат, якія ўтапіліся, ператварае ў русалак і робіць сваімі жонкамі. Вадзянік – гэта вельмі шкодная істота. Калі плывеш на лодцы, трэба хрысціць сябе і ваду, каб вадзянік не патапіў.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

Вадзяны з русалкамі ў вадзе хазяйнічаюць. Вадзяны страшны, косы ў яго на маладзіку зялёныя, а на стары месяц белыя. У вірах жыве, каб вада яму чыстая была. Уся жыўнасць рачная яму падчыняецца, ён і ўтапіць каго можа, як неўзлюбіць ці сеткі парве рыбакам. Ваплывае толькі ноччу з русалкамі.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Логіс Кацярыны Кандрацьеўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Логіс В. (2009 г.)***

Вадзянік – гэта стары дзед, весь кашматы, у валасах. Зялёны колер абляпіў уся-

го яго, нават ліцо ў яго сіне-зялёнага колеру. Такжэ на ім многа ціны. Ён весь мокрый. Гаварат, што вадзяной топіць рыбакоў.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Вадзянік уяўляе сабой дзеда старога з сівой длінный барадой, весь у ціне, водараслях. Топіць людзей. Дапамагае лавіць рыбу.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Вадзянік – гэта злы дух, які жыве ў вадзе. Ён мае бараду з водарасцей, а ўсё яго цела пакрыта цінай і граззю. У яго хвост рыбы, а на пальцах рук і ног перапонкі.

Жыве вадзянік у глыбокім месцы, віры, яме, у рэках ці азёрах. Ён можа крычаць, рагатаць, стагнаць, свістаць, выць, каб каго-небудзь напужаць і зацягнуць пад ваду. А яшчэ людзі баяліся заходзіць у ваду без крыжа або не перахрысціўшыся – іх мог патапіць вадзянік. Таксама нельга купацца ўначы.

Вадзянік любіць купацца на саме. Людзі гэтую рыбіну называюць чортавым канём. Вадзянік можа дапамагаць рыбакам і заганяць да іх рыбу.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Зімою жанчыны хадзілі сціраць бялізну ў раку. Толькі тады яны бачылі вадзяніка. Бывала, ідуць жанчыны босыя на раку сціраць, а ён вылезе з пелькі і пужае іх, каб не хадзілі босыя па холадзе. Вадзянік – гэта стары дзед з длінными валасамі і барадою.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Вадзянік жыве ў вадзе. Ето здаровы дзядзько, пакрыты жабурыннем. Косы ў его зялёные, ног няма, а толькі хвост, як у рыбіны. Ему ўсё воднае царство падчыняецца. А для русалок ён бацько. Загадае ім утапіць чалавека, ены і зробяць так. А сам ён нічого не робіць, седзіць на дне да кручы пускае. Калі ўбачыш на рацэ моцную кручу, ето вадзяны круціць. Шчэ пужаюць малых дзяцей вадзяным і русалкамі, штоб ены не хадзілі на бераг самі. У нас, кажуць, і ў калодзейзі жывуць вадзяные.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Верылі, што ў балотах вадзяныя жывуць. Зялёны ўвесь быў, на галаве валасы зялёныя, кашлатыя. Кожа ў яго, як у жабы, была, зялёная, у буграх уся, перапонкі на руках ды нагах былі. Былі яны злыя і добрыя. Злыя людзей тапілі. А харошыя памагалі, памагалі рыбу злавіць. Калі дзеці ў ваду траплялі і неяк выжывалі, казалі, вадзянік пажалеў. Казалі шчэ, што русалкі жонкамі ягонымі былі. Не трогалі людзей, якія ў ваду з крастом нацельным заходзілі. Але той, хто нехрышчоны, хадзіў у ваду ноччу і тануў.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Я вадзяніка не бачыў. А людзі кажуць, што, мо, то нейкі стары дзед з барадою па пояс. Мой друг яго бачыў. Той зваў Пятра ды барадой усё трос ды смяяўся. З таго часу Пятро не знаходзіў месца, усё думаў, а потым яго раніла пад Бярлінам.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Помню, была маладая яшчэ. Мама мая расказвала мне, што жыў адзін такі вадзянік у дзярэўні. Жыў ён у рэчцы. Пайшоў как-та раз мужчына адзін да гэтай самай рэчцы і, як вяроўкамі, пацягнула яго туды, так і ўтапіўся. А ў таго мужчыны быў сынок да жонка. Ну дык той сынок у тую ж самую ноч праснуўся, ды й кажа: “Вон завуць, нада ісці! Паглядзіце, завуць!” Пайшоў, ды й утапіўся ў той жа самай рэчцы ў тым жа самым месцы. Усе бабы тады казалі, што гэта вадзяны іх у ваду зацягнуў.

***Запісана ў в. Вялікая Крушынаўка Рагачоўскага р-на***
***ад Суднікавай Вольгі Кузьмінічны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч К. (2010 г.)***

Вадзянік жыве ў вадзе. Цяне да сябе чалавека, яго душу, каб ён прыйшоў да яго, утапіўся. Нельзя купацца на Іллю, нельзя купацца да Купалля. Перад тым, как лезці ў ваду, нада перакрысціцца.

Душы тых людзей, якія самі топяцца, астаюцца там, дзе ўтапіліся. У тым месцы нельзя купацца, бо там завёўся вадзянік. А душы тых, каго ўтапілі насільна, дапамагаюць людзям у вадзе.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Вадзянік – невялікі старэнькі чалавек, які заманьвае да сябе ў воду. Калі дзяўчына глядзіць у воду глыбока, вадзянік хватае яе за валасы і цягне на дно, пасля чаго яна становіцца русалкай.

У калодзец, казала мая баба, глядзець нельга, там сядзіць вадзяны, які хуценька зацягне на дно. Яго яшчэ называлі “дзед валяваты”.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Страшылі нас вадзянікам. Раз тапілася: дык там красіва, цвяты цвятуць, а тут і выташчылі мяне. Гавораць, што ён топіць людзей.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Герыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ета стары дзед з дліннай белай барадой. Ён жыве ў вадзе, а асобенна ў кручах. І калі чалавек купаецца ў етым месцы, вадзянік яго абязацільна зацягне к сабе. І чалавек топіцца. Ета злы вадзянік. Яны падганяюць рыбакам рыбу ў сеткі ці на вудачкі.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Мне бабуля гаварыла, што вадзянікі жывуць каля млыноў. Вадзянікі – гэта муж-

чыны, якія ўтапіліся або іх утапілі сілком. Топяць і заманьваюць у ваду ўсіх. Калі хто захлебнецца, то вадзянікам ад гэтага радасна. Топяцца тыя, хто купаецца ў свята або пасля таго, як сонца сядзіць. Вада павінна адпачываць.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Белай Лілії Данілаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Вадзянік – плахі дух. Ён увесь зялёны, пузаты, длінныя косы. Жыве гэты дух у рэчках, канавах, а можа і ў калодцах: адна баба яго там бачыла. Гавораць, страшэнны-страшэнны, вядро патапіў і да яе рукі цягне, а рукі длінныя-длінныя ў яго, дык яна ўцякаць. Прыбегла дамоў, а мужык спрашуе: “Чаго ты такая белая?” Яна расказала. Ён, мужык, гэтай бабе кажа: “Нечага, калі цёмна на дварэ, па ваду ў калодзеж хадзіць”. Мо ён жонцы не паверыў?

У вадзяніка ёсць яшчэ і жонкі. Гэта тыя жэншчыны, якія самі патапіліся – русалкі. Ён топіць людзей, цягне іх, зазывае, і калі хто папаў у яго путы, то не выпусціць, зацягне на дно.

У нас у дзярэўні ёсць канава. Адна жанчына пайшла ў 12 часоў дня сціраць. Сцірае, сцірае, чуе, вада забулькала, ды не так, як раней, а мацней, шумней, заплёскалась, выходзіць з беражкоў, а пагода харошая. Чуе, хтосьці да яе падыходзіць, глядзіць, а гэта якісьці салдацік, ну, чыйсці сын прыйшоў з арміі, адслужыў. Ды ён так быстра раздзявацца стаў, і толькі хацеў бегчы купацца, як тая жанчына яму кажа: “Не хадзі, хлопча!” Яе штосьці падштурхнула, штосьці ёй нехораша стала, а ён, гэты хлопец, узяў да і паслухаў жанчыну, пачаў апранацца, і чуюць яны голас: “Не прыйшоў, не прыйшоў!” Дак ета, наверна, вадзянік быў. І пачалі яны, хлопец і жанчына, хрысціцца.

Вадзянік хацеў хлопца патапіць, а не жанчыну, што сцірала адзёжу, мо ў яго хапае гэтых жанчын-русалак, а мужчын мала. Во які ён плахі дух. Людзей хоча тапіць, прыняць у сваё царства пад вадою. Наверна, нельзя купацца ў 12 дня, а таксама ноччу, а то ён патопіць. Гэта так у нас рашылі, пасля гэтага выпадку.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Вадзяны жыве ў балоце. Нечым ён падобны на чалавека з доўгаю барадою і доўгімі валасамі, адзеты ва ўсё зялёнае, толькі замест ног у яго хвост, як у рыбіны. Людзі казалі, што былі добрыя і злосныя вадзяныя. Добры жыве ў чыстай вадзе, а злосны жыве ў гразнай балоцяной вадзе. Добры дык людзям не рабіў злога, на тое ён і добры. А злосны не любіў людзей, ён так і паглядваў, каб каго-небудзь утапіць, ды забраць да сабе ў балота. Калі чалавек плаваў на лодцы, вадзяны як тады разгуляецца, завірце вадой і абязацільна патопіць лодку з людзямі.

Не любіў ён і п’яных людзей. Калі п’яны залезеш у ваду, ён цябе ніколі не выпусце з вады, тожа абязацельна захоча ўтапіць. А калі ўжэ выберашся, то шчаслівы чалавек.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Вадзянік у вадзе жыве, русалкамі камандуе. Кагда яму чалавек не панравіцца, то ён можа яго утапіць.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***

***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н., студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

У вадзе заўсёды абітаіць вадзяны. Ён жыве практычна на дне возера. Ён лічыцца гаспадаром возера. Не нравіцца яму, калі хто яго возера баламуціць. На выгляд ён весь у расценіях водных, бо ён гаспадар возера. Калі хто не панравіцца, так можа і да сябе заташчыць ілі зрабіць, каб сударага ногі свяла. На выгляд ён стары, как дзед, з барадой, а ў барадзе могуць і ракі быць, іл усякі.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на ад Звягавай Алены Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Вадзянік – ета такі нячысцік, што жыве ў вадзе. Ён сільна быстра плавае. Паміж ног ён мае перапонкі. І шчэ плавае на сому. Бывае, што ён вылазіць на бераг толькі натрошкі, бо можа засохнуць. Бывае, што і засыхаў. Такія вот, бачыма, на балотах якіх карчы стаяць у ціне, гразі – так ета вадзянік. Ён можа ажыць. Толькі вот нада еты корч абратна кінуць у ваду. Тады ўжэ абязацельна ажыве і зразу ж паплыве. Ужэ шчаслівы той чалавек, што закінуў еты корч. Вадзяны будзе благадарны: рыбу ў сеткі заганяць будзе, калі тапіцца будзеш – выташчыць. Вадзянік камандвае русалкамі. Ён сільна смярдзючы, гразны нячысцік. Ён ўвесь стары, гарбаты, невысокі такі, весь у ціне. Калі топіцца мужчына, ён становіцца вадзяніком, а калі дзеўка, то яна становіцца русалкай. І там мужчына над жанчынай камандвае.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н., студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Вадзянік – эта хазяін вадаёма. Ён любіць жыць ля млыноў, пад шлюзамі. Ён топіць людзей, якія яму нравяцца. Еслі эта хлопец, то будзе вадзяніком, а еслі дзеўка – русалкаю.

У празнік на Івана Купалу вадзянікі выпаўзаюць на зямлю і ідуць да млына, каб падурэць. Вадзянік – гэта плахі дух, бо ён топіць людзей.

***Запісана ў в. Хутар Светлагорскага р-на ад Казловай Анастасіі Яўхімаўны, 1929 г.н., студэнткай Кісель Г. (2006 г.)***

Вадзянік – гэта нейкая жывая істота. Яна была пахожа на нейкага маленькага старычка з барадою. Вадзянік мог жыць толькі ў вадзе. Усе людзі ў нашай вёсцы лічылі вадзяніка злым духам, таму што ён рваў рыбацкія сеткі і зацягваў да сябе ў царства прыгожых маладых дзяўчын. Потым гэтых дзяўчын ён рабіў сваімі дачкамі-русалкамі. Яшчэ людзі ведалі тыя месцы, дзе жыве вадзянік, і абходзілі іх стараною. Яны лічылі, што гэтыя мясціны праклятыя. Людзі маглі ўбачыць вадзяніка толькі ноччу, таму што ён вельмі баіцца сонца. Вадзянік быў вельмі жадны і не любіў тых рыбакоў, якія адбіралі ў яго рыбу.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н., студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Вадзянік жывець у вадзе. Яго нельга крыўдзіць, таму што за гэта ён можа цябе

ўтапіць. Вадзянік пахож на старога дзядзьку з доўгай барадой, сівымі валасамі. Вадзянік вельмі злы і шмат дакучае людзям. Калі хто купаецца, то калі вадзянік захоча яго да сябе ўзяць, то пацягне за нагу, і ўсё – не ўратуешся.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Вадзянік касматы, увесь у ціне, лупаты. Сядзіць у вадзе, бармоча, якоча, ваду ўскаламучвае. Для каго добры, а для каго злы. Хто пакрыўдзіць яго, на таго злы, а хто ўладзіць усё – для таго добры.

***Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на***
***ад Кузьмянковай Лідзіі Васільеўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Як у прэзідэнта ёсць міністры, так у Бога – пракокі. Бог распрадзяляў абязаннасці, каму за чым глядзець. Аднаму паручыў за вадой глядзець – гэта вадзянік, другому за домам – дамавы, трэцяму за жывёлай – Юрый, Ягорый.

Вадзянік аказаўся сільна жадным. Людзі ж раней піталіся рыбай. І вот калі яны бралі штосьці з мораў ці рэк, то вадзянік сільна за ета мсціў у 10 пакаленнях. За ета ён сільна наказваў: тапіў караблі, лодкі, людзей. За такое павядзенне вадзяніка Бог ад яго адказаўся. Вадзянік стаў прыслугай нячыстай сілы. Ён забіраў сабе дзевак, якіх насільнічалі і якія самі тапіліся. Ета была яго дабыча. Вадзянік здзелаў етых дзевак напалавіну рыбай, напалавіну людзьмі.

***Запісана ў в. Рэпішча Чачэрскага р-на***
***ад Патапенка Ганны Пятроўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Вадзяны сядзіць у рацэ, возяры. Вон топіць людзей, напрымер после Ільі. После Ільі купацца ня можна, бо судорга скруціць і вадзянік зацягне на дно. Кажуць, што Ілья "помочывса" ў ваду і ўгнявіў вадзяного, вот вон і мсціць. Вадзянік похожы на вялікого зялёного чоловека.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

У няго, вадзяніка, барада з ціны зробленая, валасы зялёныя і сам ён зялёный. Валасы ў него запутаные і водараслі в ніх. На руках і нагах у него перапонкі. У гусака такія. Длінныя ногці на пальцах. Выходзіць ён з вады па начах і пугае тых, хто на возеры. Хапае людзей за ногі і цягне на дно. Тыя, хто ўтануў, ператвараюцца ў вадзянікоў. Яны таксама людзей топюць. Вадзянік очень баіцца кагда на возеры шумяць. Тагда ён зліцца і ваду муціць. Людзі з вады выходзяць, каб вадзянік іх не ўцягнуу з сабой.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Вадзянік – гэта поўчалавека, поўрыбы. Ён можа ператварацца ў любую рыбіну. Ён жыве ў вадзе. Таго, хто купаецца ў тым месцы, дзе жыве вадзянік, ён хапае за ногі і

хоча яго ўтапіць. Нельга лавіць рыбу і купацца ці ўранку, ці ўначы.

Яшчэ кажуць, што вадзянік любіць жыць ля млыноў, а тыя людзі, якіх ён топіць, становяцца такімі жа, як ён.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Вадзянік – гэта такі жа шкод, што і іншыя істоты. Ён жыве ў балоце. Ён здзекваецца над людзьмі, топіць іх.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Вадзянік – гэта такі мужчына, які ўвесь зялёны, з галавы да ног. У яго доўгая барада з ціны, на галаве ў яго трава балотная, а цела яго ўсё пакрыта чашуёй. Гаспадарыць ён у вадзе на балотах, у рэках. Вельмі не любіць, калі нехта муціць ваду, можа нават утапіць. Вадзянік – бацька для русалак. Яны яго слухаюць ва ўсім. Заўлякаюць па-рознаму людзей у ваду і згубляюць іх.

***Запісана ў г. Бялынічы Магілёўскай вобл. ад Селівестравай Тацяны Якаўлеўны, 1935 г.н., студэнткай Чыжук Н. (2004 г.)***

## *Вампір*

Вампір – гэто нычыста сыла. Він у людэй кроў п’е. А еслі він ужо ўкусыць кого і высосэ ўсю кроў у чоловіка, то той ужэ не ўмірае, а тожэ становіцца вампірам.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Гарбачэўскай Марыі Іванаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Вампір – чалавек, які жыў вельмі даўно і не памёр у свой час. Худы і высокі чалавек. У яго чорныя валасы, мяртвяцкі цвет кожы, сіняватыя губы. Могуць быць доўгімі ногці.

Вампір заманьвае людзей у цёмныя завулкі, на паля і там высасвае з іх кроў.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любы Іванаўны, 1936 г.н.***
***(пераехала з в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Вупыр – дзіцёнак ведзьмы і чорта. Ён сам на чалавека пахож, не атлічыш нават. Але ўсё ж пазнаць яго можна. Рукі ў яго страшныя, на іх чорныя кіпцюры, а вочы заўсёды адліваюць кроўю.

І просты чалавек можа стаць вупыром. Калі дзіця нехрышчоным памерла, то можа етай нечысцю стаць. І нельга шчэ самому на сябе рукі налажваць. Мала таго, што ў пекла пападзеш, дык яшчэ туды і людзей зацягнеш.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Тацяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ноччу праснуўся, чую: карова мычыць. Я бацьку і братоў пабудзіў, пайшлі ў хлеў глядзець, што там случылася, аж бачым, што на кароўцы нашай твар нейкая сядзіць і кроў сасе. Нас убачыла нечысць ета і прапала. А карова праз які час здохла.

Не панімаю, як можна па сваёй волі вампірам стаць. Лучшэ ўжо ў зямельцы ляжаць, чым па свету бадзяцца і ў людзей кроў сасаць. Але жалка тых людзей, якія не па сваёй віне такую кару прымаюць. Вось, калі мерцвяка не пахаваць, то ён вампірам паднімецца.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Тачылкіна Яфрэма Андрэевіча, 1932 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вампіры – то ведзьмы і калдуны, што памерлі ўжо. Але яны пасля смерці маглі па вёсках хадзіць. І папробуй вампіра адлічыць ад настаяшчага. Раз нейкі чалавек дарожны ў дзверы пастукаў і папрасіўся пераначаваць. Я сначала не хацела пускаць, а потым глянула на яго і пашкадавала, бо такі ўжо ён бледны быў. Пачалі мы ўсе вячэраць, а тут кошка наша з двара ў хату прыбегла. І як толькі да таго чалавека падышла, адразу ж зашыпела і ўбок кінулася. Я спужалася ды давай крысціцца. Аж той незнаёмец ускочыў і пабег з хаты. Цяпер точна знаю, што то вупыр прыходзіў.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вампір – ета сушчаство, пахожае на чалавека. Ета сам чалавек, каторы жаждуе людской крыві. Ён нападае на чалавека, прагрызае горла і смокча кроў з жывога чалавека. Ад етага ён імее ўдавольствіе. Можа нападаць на любое жывотнае і піць кроў. Яму запах крові прыятны.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Вупыр – ета нечысць такая, якая ноччу з магіл выходзіць. Просты чалавек мог таксама стаць вупыром. Гэта здаралася, калі сапраўдны вупыр кусаў. А шчэ людзі казалі, што дзіця, якое мае заечую губу, хвост ці здаравенную красную пляму, будзе потым вупыром.

У вупыра вусны чырвоныя, а ліцо ўсё белае. Яму днём цяжка. Ды вупыры звычайна ноччу ходзяць. Любяць сасаць у людзей кроў. Я, каб у лапах у нечысці не ака-

заціца, усігда ем чоснік (часнок), а шчэ крыж сярэбраны нашу.

Вяртаўся аднойчы тата ў сваю вёску, і прыйшлося яму праязджаць праз могілкі. І вось едзе ён на кані, аж бача, што па могілках ходзіць нейкі чалавек у чорным. Прыгледзіўся, а гэта адзін з яго аднавяскоўцаў, які нядаўна памёр. Мой бацька вельмі спужаўся і нават не мог крануцца з месца. І тут ён убачыў, што той чалавек неяк падскочыў і паляцеў ужо кажаном. А шчэ вупыр можа абарачвацца ў ката чорнага і вужа.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

У нашай вёсцы жыў адзін вампір. Вампірам ён ужо пасля смерці стаў, усё нас потым данімаў. Мы ўсё разгадаць не маглі, хто ж вампір. Калі ж людзі даведаліся, хто ж быў вупыром, то доўга не маглі паверыць, бо той чалавек лічыўся вельмі добрым гаспадаром. Але ўсё ж пасля многія паверылі, бо аднойчы мужчыны сабраліся разам і пайшлі на могілкі, там яны раскапалі труну і ўбілі асінавы кол у сэрца таго чалавека. Пасля етага той вупыр ужо ніколі не выходзіў са сваёй труны.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вампіра так проста не пазнаеш. Людзі гавораць, што ў яго два сэрца. Ды ты ж не будзеш яго слухаць. Я толькі знаю, што вочы ў яго красныя, кроўю налітыя. Ён па свеце ходзіць, каб кроўю напіцца. Калі ён етага дзелаць не будзе, то зусім памрэ. Дык во, што ён надумаў: калі не нап'ецца чалавечай крові, то будзе жывёлу тузаць. Я яго баюся, дык усюль чосніка налажыла. Шчэ бабка мяне вучыла, што нада па ўсёй хаце чоснік раскласці, тады ніякая нечысць не прабярэцца ў хату.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вампір – ета кравасос. Кровушку ў людзей з шыі высмоктвае. Ён ведзьмак ці абарацень, бо можэт станавіцца летучым мышам ці ўпыром, а патом чалавекам зноў маладым, красівым, да і старым тожа. Па начам лётае і жэртвы выісквае. А каго ўкусіць, той становіцца тым самім вампірам. Штоб збавіцца ад вампіра, нада яму ў грудзі забіць асінавы кол, штоб не ўскрэс.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Вампиров еще называют упырями. Вампиры – это люди, которые умерли не своей смертью, или колдуны. С виду вампира просто так не отличишь: он очень похож на обычного человека. Сколько бы не пытались захоронить вампира, ничего не выйдет: его тело не тлеет. Вампиры убивают людей и высасывают у них кровь. А те, у кого они выпили всю до капли кровь, сами становятся вампирами. Для того, чтобы успокоить вампира, нужно проткнуть его сердце осиновым колом.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Рафеевай Аляксандры Аляксееўны, 1952 г.н.,***

***студэнткай Міржыеўскай А. (2010 г.)***

Пілі кроў у людзей. У чалавечаскам обліке. Крывапійцы называюцца. Вампірам мог стаць калдун. Толька малітвай можна ўберагцісь ад вампіра.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Вампір – гэта зубасты чалавек, які смокча чалавечую кроў. Дзе ён жыве, не знаю. Ён можа лётаць,ператварацца ў другіх людзей. Каб зашчыціцца ад яго, нада паказаць яму крэст. Яго вампіры баяцца.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Вампір – гэта той, хто любя чалавечую кроў. У яго вострыя зубы, якімі ён кусае чалавека. Вампіры нападаюць ноччу.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Вампір – той, хто п’е кроў у людзей і жывёл. Ён выходзіць уначы з магілы. Ён сільна страшны. У яго красныя вочы, вострыя вушы і клыкі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Вампір – нечысць, што ноччу з магіл выходзіць. Вельмі любіць піць кроў у людзей. Той, каго ўкусіць, тожа становіцца вампірам. Ён такі гадкі. Высокі, з краснымі глазамі, вострымі вушамі і вострымі зубамі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранава Мікалая Рыгоравіча, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Вампір выглядае як чалавек. У яго вострыя вушы і вялікія зубы, каб лучшай кусаць было, красныя вочы. Ён ходзіць ноччу. Калі вампір папіў кроў у чалавека, то той чалавек становіцца таксама вампірам. Ён вельмі баіцца часнака.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Вампір – нябожчык, які сасе кроў у людзей і жывёл. Ён гадкі і праціўны такі. Вялікі, мае чырвоныя вочы, вялікія і вострыя зубы. Бледны, бо сваёй крыві не мае, таму і смокча ў людзей.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Вампіры ўстаюць ноччу з магіл і сасуць кроў lз людзей. У іх ёсць клыкі, якімі яны пракалываюць у шыі чалавека дзіркі, а потым пьюць яго кроў.

Пілі вампіры і kроў з жывёл.

Каб убіць вампіра, трэба яму ў сэрца ўбіць асінавы кол і паказаць крыж.

А ёсць вампіры, якія не пьюць кроў, а забіраюць чалавечую энергію, сілу. Тады яны адчуваюць сабе добра, а чалавек хварэе і слабее. Такія вампіры сустракаюцца і сёння. Іх нельга пазнаць. Яны нічым не адрозніваюцца ад нас, простых людзей.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Вампіры жывуць на кладбішчы, любяць людскую кроў, стараняцца крастоў і запаху часнака. Вот всё, што я знаю пра вампіраў.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Вампіры высасваюць кров з людзёў. У іх спераздзі ва рту два клыкі, якімі яны ўпіваюцца ў шыю чалавеку і п'ют кров. Патом у человека астаёцца на шые две дыркі. І человек становіцца тожэ вампірам. Каб абараніцца ад вампіраў, нада насіць з сабой крэсцік, часнок. Ані не любят запаха часнаку. Жывуць ані на могілках. Е такія людзі, якія забіраюць сілу, энергію ў другіх людзей. Іх называют энэргеціческімі вампірамі.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Вампір, або вупыр, нараджаўся жанчынай ад нячысціка. Звычайна гэта быў мярцвяк, які выходзіў з магілы і высмоктваў кроў у людзей і жывёлы. Вупыр мог быць і сярод жывых людзей, весці днём звычайны лад жыцця. Каб навек супакоіць такога мерцвяка, неабходна было загнаць яму ў сэрца асінавы кол або абязглавіць яго.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Вампіры – ето тые людзі, екіе п'юць кроў. Буў у нас такі мужчына. Его прасілі, каб ён памог забіць свіней. Дак уб'е ён кабана, абсмаліць его, а патом, калі разбірае, абезацельно вуп'е карэц крыві. Мо, ён і буў вампіром, што ему так наравілася кроў.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Вампір – гэта чалавекападобная істота. Ён смокча кроў людскую. А йё яшчэ энергетычны вампір – як з ім пагаварылі, дык плоха стане. Кажуць, што ён сілы забраў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Вампір – гэта такая цігра, як кот. Яна ў лесе жыве на дрэвах. Кроў з людзей п'е.

Расказвалі, як адзін мужчына з дачкой у лес па ягады пайшоў. На дачку з дрэва прыгнуў кот, як натуральная цігра, а не кот, толькі размерам з ката, сеў на спіну, пры-

туліўся да шыі і штосьці робіць. Потым гэтая цігра знікла дзесьці на галінах дрэў. Мужчына стаяў адзерванелы. А дачка пабляднела і ўпала. Ён да яе прыслухаўся, ажно яна не дыхае. Узяў дачку на рукі і пабег у вёску. Прыбег да жонкі, расказаў. Пабеглі да бабкі-шаптухі. Бабка паглядзела на дзяўчыну, паслухала расказ мужчыны і сказала: "Усё, дзяўчына памерла. То вампір быў. Кроў як высасаў. Глядзіце, во дырачка, укус на шыі ззаду. Ну, ёй, дзяўчыне, больна не было. Вампір не больна кусае і кроў не больна высасуе – быстра".

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Я пра іх багата не ведаю. Ведаю толькі, што ета такія людзі, якія п'юць кроў чалавечую, етым яны толькі і жывуць. Калі вампір нап'ецца крыві якога-небудзь чалавека, то той таксама вампірам стане. Яны ходзяць толькі ноччу, бо вельмі ж яны свету баяцца. А каб яго ўбіць, трэба яму ў сэрца забіць асінавы кол. Вампірам маглі быць і жанчына, і мужчына. Кроў яны пілі толькі з шыі, у іх былі два клыкі, а самія тварам белыя, бы мел… Каб ад іх зберагчыся, трэба было насіць часнок, крыжы розныя. Яшчэ яны пугаліся агню.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Я з вампірамі не сустракалася. Толькі ў кіно бачыла. Знаю, што гэта людзі або сушчаства, ці як іх можна назваць, з краснымі глазамі і вострымі зубамі (клыкамі). Вельмі страшныя і любяць смактаць чалавечую кроў.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Бачура Ніны Мікалаеўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Ох, я пра гэтых вампіраў мала ведаю. Знаю, што толькі гадкія яны былі. А маці ўсягда пужала мяне, што калі позна гуляць буду, то вампір мяне забярэ. А гэта ўжо потым прыдумалі, што яны з клыкамі доўгімі ды кроў п'юць. А тады гэтага не было.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Вампір – гэта нейкая страшэнная пачвара, страхалюдзіна. Любіць чалавечую кроў і як укусіць чалавека, то і становіцца той вампірам. Яны белыя па твару, маюць краснючыя глаза. І іх можна забіць толькі асінавым калом ў сэрца.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Вампір – гэта памерлы чалавек, які ноччу ўстае з магілы, нападае на жывёлу ці людзей, выпівае іхнюю кроў. Яшчэ гаворaць, што калі каго вампір укусіў, то тады той чалавек сам становіцца вампірам. Вампір выглядзіць як абычны чалавек. Але ў яго вялікія зубы, рост, красныя вочы.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***

*ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,*
*студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)*

Вампіры п’юць кров. У нас жыве чалавек, то вон ўжэ по нюху знав, дзе порося б’юць, і бег туды, шоб крыві напіцца.

*Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.*
*ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,*
*студэнткай Верас Н. (2006 г.)*

Вампіры сасуць у людзей кроў. Для іх кроў – ежа. Тыя людзі, у якіх ён выпіў кроў, становяцца вампірамі. Вампіры жывуць на кладбішчы, у магілах. Яны выходзяць на ахоту ноччу, а калі святло, яны хаваюцца ў магілу. Каб схавацца ад вампіраў, трэба насіць крыж і часнок.

*Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.*
*ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,*
*студэнткай Данілавай А. (2006 г.)*

Ён ноччу падобны на мыш лятучую, а днём як чалавек, але не выходзіць на сонца, каб не абпаліцца. Вампірам стане той, хто памёр, а праз яго кошка ці мыш пераскоча. Ноччу ён лётае па дзярэўнях і шукае жэртву, каб укусіць яе і выпіць крові. Той каго ўкусіць вампір, становіцца лятучай мышшу. Кусае вампір у горла, бо там больш крові. Вампір баіцца запаха часнака і крыжа або іконы. Яго можна ўбіць, але гэта не лёгка.

*Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.*
*ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,*
*студэнткай Лукашовай А.*

Воны, вампіры, бываюць розныя: якія п’юць кроў у людзей, а якія просто ходзяць по кладбішчу, подаюць голоса і наводзяць страх на людзей. Імі, кажуць, становяцца людзі, якіх забілі, ці воны самі наложылі на сябе рукі.

*Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.*
*ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)*

## *Ваўкалак*

Ваўкалак – гэта чалавек, які пераўтварыўся ў ваўка. Есць людзі, якія могуць саміператварацца ў ваўкоў, то яны прыносяць людзям шкоду. Гэта калдуны. Ператвараюцца яны ў жывёл толькі ў поўнач. Есць яшчэ ваўкалакі і добрыя па натуры. Гэта людзі, якіх за грахі пакараў Бог ці паздзекваўся калдун. Такія ваўкалакі ўсё жыццё пакутуюць, церпяць пакаранне за свае грахі. Харчуюцца яны толькі расліннай ежай ці збіраюць аб'едкі і крошкі ад людзей звычайна паўз дарогу. Хоць ён і воўк, але вочы ў яго чалавечые, вые не па-воўчы, а быццам стоне і плача.

***Запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на***
***ад Шкурко Святланы Пятроўны, 1961 г.н.,***
***студэнткай Яфрэмавай А. (2005 г.)***

Даўно гэта было, мне бабка расказвала, што жыў у іх у лесе абароцень. Але нікога не трогаў, а наадварот, памагаў. Глядзеў, калі ваўкі ў стадзе карову ці авечку хочуць схваціць, то і разрываў ваўкоў.

Дык у адных людзей было маленькае цяля. Яны прывучылі яго пасціся за агародам. І быў у ніх маленькі сынок, гуляў з цялём.Тут воўк падкраўся і цялё схапіў. А той абароцень выбег і загрыз ваўка. Малы спугаўся. Нядзелю не мог гаварыць. А абароцень чувстваваў гэта і хацеў, наверна, каб хлопец адышоў. І вось калі малы гуляў, ён прыйшоў з леса і прыцягнуў з сабой карзіну ягад. А малы ў ім убачыў чалавека. Гэта ўжо быў не звер, а звычайны хазяін з суседняй дзярэўні. Пасля таго нашыя людзі абаротняў больш не баяліся.

***Запісана на ст. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксандраўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай Т. (2004 г.)***

Пра ваўкалакаў многа чаго чула. Адны гавораць, што ваўкалакі – гэта тыя ж людзі, але ў ваўчынай скуры. Другія расказвалі, што ваўкалакі – гэта нячыстая сіла. Каму верыць, і сама не знаю. Раскажу вам, што даўно чула. Ету історыю мне шчэ матка казала, а ёй яе бацькі. Пайшлі дзеўкі ў лес гуляць, павязалі пояс белы паміж дрэвамі, а самі праз яго скакаць пачалі. Аж тут бачаць: воўк бяжыць. Як бег, так і перараскочыў праз пояс і адразу ператварыўся ў чалавека.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ваўкалак – то такая пачвара, што можа быць і чалавекам, і ваўком. Але яго можна пазнаць: вочы ў ваўкалака хоць трохі, але і днём астаюцца краснымі. А яшчэ ў ваўкалака на руках страшныя чорныя ногці, мо, таму ён рукі і хавае. У ваўкалакаў людзі абарачваліся па сваёй волі. Адны хацелі сабе багацця, а другія – людзям шкоду зрабіць. Шчэ ж ёсць і ператвораныя ваўкалакі. Ператвораны ваўкалак атлічаўся ад настаяшчых не толькі сваімі паводзінамі, а шчэ і цветам шкуры. У такога ваўкалака яна больш светлая, чым у другіх.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ваўкалак – ета чалавек, каторы называецца “обаратнем”. Ён можа прэўрашчацца ў любое жывотнае, можа забіраць мелкі скот, каторы пасецца ў полі. Ета авечкі, цыпляты, каторых ён можа пацягнуць з сабой і патом гэты скот з’есці.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Пра ваўкалака аж казаць страшна. Была ў нас вядзьмарка адна. Калі хто што зробіць не так, як яна хоча, дык яна магла ў ваўкалака любога чалавека закалдаваць. Адзін хлопец ёй жыта трохі падмяў, дык тая яго праз хамут правяла і ў валкалака закалдавала. Казалі, што яго мужыкі 12 разоў палкай секлі, пакуль з яго шкура гэтая воўчая не злезла.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н.,***

***студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Калдуны ўсягда могуць у ваўчыную шкуру залезці. І тады будуць па начах бегаць, людзям дрэннае дзелаць. Сусед гаварыў, што ў нашай вёсцы адзін мужчына можа ваўком станавіцца. І тады бяжыць ён ды свайму непрыяцелю зло дзелае, а другіх, праўда, не трогае. Дык той мужчына так намаяўся, пакуль яму не падказалі, што нада дзелаць. Я сама іх нікалі не бачыла, але знаю, што такая сустрэча мне б радасці не прынесла.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Паліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ваўкалакі – то такія людзі, што і пры жыцці, і пасля сваёй смерці могуць ваўкамі быць. Ведзьмы разныя, калдуны маглі ў любы час у ваўка абярнуцца. А што шчэ горш, дык і другіх пераўтваралі. Я сам не знаю, праўда то ці не, але гаварылі, што так усё і было. Два мужыка раз пра штосьці паспорылі, чуць не да бітвы дайшло дзела. Дык адзін з іх выкрыкнуў, што другі ваўком будзе бегаць. І што вы думаеце, прапаў той мужчына, ваўком стаў. А той калдун давольны патом хадзіў.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Случылася гэта, калі не помню. Але ішоў наш Апанас, як ён сам потым мне расказваў, па лесе, і ідзе нехта яму насустрач, вельмі страшны, як не чалавек, і згорблены, касавокі. У Апанаса жа мурашкі па спіне пабяжалі. Не змог ён звярнуць з дарогі. Падышлі адзін да аднаго. Разгаварыліся. Эх, любапытны быў Апанас, не вытрымаў і спрасіў:

– Што з табою здарылася?

А ён і кажа:

– Каб і ты быў ваўком, і ты быў бы такім жа.

– І ты быў ваўком?

Здагадаўся Апанас, зацікавіўся і папрасіў зайсці да сябе. Той не адмовіўся.

Была ў яго суседка. Пра яе казалі, што яна знахарка. І вось аднойчы пасварыўся гэты чалавек з ёю. Пакрываў сваё гумно саломай і некалькі снапоў упала на яе каноплі. І тут прыбегла яна і давай крычаць, што ён паламаў усе каноплі.А ён жа не хацеў!

Прайшоў тыдзень, мо, чуць болей. Паехаў гэты незвычайны чалавек ў лес па дровы. Насабіраў цэлы воз, каб конь мог цягнуць. Але чамусьці конь стаў па дарозе прыставаць. Хацеў хазяін распрэгчы каня, але на сэрцы стала так маркотна і нудна, што чамусьці захацелася пралезці праз хамут. А як толькі зрабіў гэта, ачнуўся ваўком. Праз 4 толькі гады ваўкі ўзялі яго ў сваю зграю.

Аднойчы апостал Юры загадаў з’есці ім рабога каня. Беглі яны, беглі за ім і ўсё ж потым злавілі і з’елі. Потым тыдзень не хацелі есці. А калі прагаладаліся, пабег той воўк за авечкай. Схапіў яе, хацеў з ёй бегчы ў лес, але з’явіўся пастух. Тут ваўкі крычаць, каб уцякаў, але ён не можа – бачыць вакруг сябе толькі ямы, глыбокія ямы. І тут ён кінуў авечку. А пастух ударыў пугай сваёй аж 12 разоў. І як толькі пастух закончыў, злезла воўчая шкура з гэтага воўка. І зрабіўся ён чалавекам, але вось такім…

Вось як можа быць. Гэта ўсё звязана з ваўкалакамі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кулаковай Ганны Васільеўны, 1928 г.н.,***

***студэнткай Каморынай С. (2006 г.)***

Штось чула пра ваўкалакаў, а бачыць не бачыла. У нас называлі яго абароцень. Калдуны і ведзьмаркі маглі людзей закалдоўваць і самі ў іх прэўрашчацца. Штоб стаць абароценем, нада пралезці ў хамут. А штоб стаць чалавекам, нада другое закляцце ці штоб 12 разоў пугай пабіць абароценя-ваўка, штоб скура злезла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Ваўкалак – палучалавек, палувоўк. Гаворацца, на галаве расце воўчая шэрсць. Гэта шэрсць у яго есць яшчэ тады, калі ён нараджаецца. У гэтага гада прыўрашчаюцца тады, калі надзяваюць воўчую шкуру. Калі яе знімалі, тады станавіліся зноўку людзьмі.

Чалавек мог стаць ваўкалакам, калі яго закалдаваў нейкі вядзьмак. Гэтаму чалавеку надзявалі закалдованый пояс або ён перашагваў праз пень, у які быў уваткнуты нож.

Нада была загавор прыгаворваць. Я не ведаю, які ён быў, гэты загавор, але казалі, што чалавек прасіўся стаць ваўком. Казалі, што ён на людзей нападаў, як будта серы воўк, і на жывотных нападаў. Гэты чалавек сам не хацеў быць ваўкалакам, ён хацеў пазбавіцца ад етага. Пертвараўся чалавек у гэтага злодзея, калі была луна ўся, поўная луна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Струмень),***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

Было 3 сыны ў чалавека. Сена тады касілі памногу. І прыязджаюць па сена зімой на конях, а там сляды вакол стога. Старэйшы кажа: “Божа мой, Божа! А хто тут усё ходзя, патаптаў тут ўсё. “А малады кажа: “А сабака, можа!” І тут адразу сабакам здзелаўся. Да і як быў платочак у яго на шыі, так і застаўся. Стаў ваўкалакам, як воўк, толькі яшчэ большы.

Ваўкалака знаў тых людзей, хто мог памагчы яму. Дак ён бегаў па ўсіх сёлах, ваўкалака той і тоненькім галаском прасіў, каб за яго памаліліся. Ягоныя родзічы даўно памерлі, а ён бегае ваўкалакам і не паміpае.

Маліліся за яго людзі і здзелаўся чалавекам, да старэнькім занадта, а ваўкалакам бегаў харашо, быстра.

***Запісана ў в. Вылева Добрушскага р-на***
***ад Разрашэнка Лізаветы Пятроўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Смяглікавай В. (2004 г.)***

Пра ваўкалака мы нічога новага не знаем, толькі тое, што і ўсе. Гэта людзі, якія могуць пераўтварацца ў ваўкоў. Калі ваўкалак ўкусіў любога чалавека, то і той, можа, стане ваўкалакам.

І яшчэ, калі ўбачыў ваўкалака, так нічога ўжо не можа спасці, акрамя малітвы. Ваўкалак спужаецца малітвы і ўцячэ. Ваўкалакі нападаюць на малых дзяцей, выпіваюць іх кроў, каб амаладзіць сябе.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-на***
***ад Гуд Любові Ігнатаўны 1932 г.н.,***
***студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

У суседа хтосьці выў у дварэ. Ён выйдзе – нікога няма. Ён узяў вялізны камень і кінуў у той бок, адкуль даносіўся вой. Там нехта падскочыў, моцна ўзвыў і пабег у поле.

Назаўтра той чалавек пайшоў да свайго сябра, а яго няма дома. Сусед здзівіўся, бо хата была адчыненая. Тады ён пайшоў у поле касіць траву і убачыў саседа. Ён сядзеў на бервяне і не мог устаць. У яго была зламаная нага. І ён усё зразумеў, а сасед нічога не помніў. Павялі яго да бабкі-шаптухі, каб ён болей не абарочваўся ваўкалакам. Гэтая бабка нейчым яго акрапіла. Больш нічога не здаралася.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Раньша ў нас у дзярэўні так гаварылі: быў тут адзін малады хлопец. Сільна странны ён быў. Нікагда не бачылі яго вясёлым, усягда які-та сумны, засмучаны. Гаварылі, што ў моладасці дзеўка, якую ён любіў, наслала на яго порчу – ператварыла ў валка, толька цела чалавека аставіла. Асобенна пугалі ўсех вочы ягоныя. І сам жа красівы быў, а вочы – як у сабакі ці другога звера якога. Вось за гэтае звалі яго ваўком ці ваўкалакам.

Жыў усягда бедна, саўсім адзін, адзін і памёр. Людзі дажа хараніць яго баяліся, думалі, што душа ягоная зойме цела чыё-небудзь.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Содаль Яўгеніі Сямёнаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Кравец І. (2003 г.)***

Бацька мне расказваў, што ў ваўкалака мог прэтварыцца толькі той, у каго ёсць дар. Браліся тры нажы, утыркаліся ў зямлю і пачыналі кружыцца ў тым кругу (паміж нажамі). Тры абарота ў адну старану, тры – у другую.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Багуновай М.І., 1930 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Чула пра ваўкалакаў, а бачыць не даводзілася. У вайну сільна вылі ваўкі, дак баяліся. Асобенна збіраліся ваўкі ў Піліпаўку.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Мне здаецца, што ваўкалакамі называлі раней людзей, якія ўмелі лячыць – знахараў. Яны ж хадзілі па лесе, сабіралі розныя травы, корні, шапталі нешта людзям. Можа, таму на іх так і гавораць.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Пілінейка Антаніны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Ваўкалак – гэта чалавек, які пераўтварыўся ў ваўка. Ваўкалакі нападаюць на людзей, асабліва на малых дзетак, і высмоктваюць у іх кроў.

Ваўкалак не падобны на ваўка. У яго белая палоска на шыі, чалавечыя вочы, і ён увесь час стогне. Ён большы за сапраўднага ваўка, у яго вельмі вялікая галава.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

Ваўкалак – гэта чалавек, які мог ператварацца ў ваўка, а потым зноў станавіцца чалавекам. Некаторыя ведзьмары па ўласным жаданні рабіліся ваўкалакамі.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Былі ў кожнай дзярэўні людзі такія, якія началі ў ваўкоў ператварацца. Ён і сам не знаў таго. Ноччу зробіцца ваўком, бегае, ды каго ўкусіць, а каго загрызе, каму скаціну папорціць. Тыя, хто пакусаны быў, рабіліся ваўкалакам. Як толькі сонца ўстае, назад людзьмі дзелаліся. Бывала так, што не паспее схавацца ад сонца, паміраў тады дзесь у лесе. Ператваралі ў ваўкалакаў каўдуны, якія не ўзлюбілі чалавека. Каб здзелацца апяць чалавекам, нада было, каб гэты ваўкалак загрыз таго, хто ўкусіў яго ці зрабіў яго такім. Гаварылі, што нада перапрыгнуць яму цераз гроб, каб стаць чалавекам.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Чалавек, які ператварыўся ў ваўкалака, вельмі падобны на ваўка. У яго такая ж серая шкура, моцныя клыкі. І выходзіць толькі ноччу, каб пажывіцца, калі ён галодны. Людзей ён не чапае, калі яны яго не чапаюць. Нападае на статак, ён не есць сырога мяса. Аддае перавагу чалавечай ежы. Ваўкалакі ходзяць па лясах і дарогах, шукаючы астаткі ад ежы, але пітаюцца і раслліннай ежай. Як гавораць: ноччу ён ваўкалак, а днём – чалавек. Ператвараецца чалавек у ваўкалака ад нячыстай сілы. Ноччу ваўкалакі аб'ядноўваліся ў стаі і разам знішчалі жывёлу. Частку жыцця знаходзіліся між людзей. Знаходзячыся раніцай між людзей, ноччу яны стараліся ізбегнуць іх, хаваліся дзесьці ў лесе або ў гушчары, дзе шмат зараслей. Ваўкалакі выюць толькі на ўсход, калі кладуцца спаць ці ўстаюць.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Тацяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Ваўкалак – чалавек, ператвораны ў ваўка. Ведзьмары маглі быць. Другі раз іншых ператваралі. Словы нейкія казалі і станавіліся. Для гэтага трэба быў пэўны час. Уночы звычайна пераўтвараліся не на ўсягда. Хто толькі ўночы, другія – па некалькі гадоў. Цяпер пра такое не чутна, а раней, дык часта, казалі. Як вядзьмар, дык на ліцо ваўком рабіўся, шкоду якуюсь рабіў. А як другіх пераўтвараў, дык тыя не шкодзілі, а наадварот. Больш на сабак пахожыя яны. А як тыя словы забываліся, ну, замову, дык так і аставаўся той чалавек ваўком.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Апанасюк Соф'і Аляксееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ваўкалак – гэта чалавек, па нейкіх прычынах ператвораны ў ваўка. Яны напада-

юць на людзей і, быццам вампіры, выпіваюць у людзей кроў. Але ваўкалакам чалавек становіцца не назаўсёды, а толькі на некаторае ўрэмя. І яшчэ хачу сказаць, што не ўсе ваўкалакі нападаюць на людзей. Яны зноў-такі становяцца абычнымі людзьмі.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Ваўкалак – гэта паўчалавек-паўжывёла. Злыя ваўкалакі губяць людзей і скаціну. Добрыя нічога дрэннага не робяць людзям, не ганяюць жывёлу. Ваўкалак – нячыстая сіла, якая можа пераўтварыцца ў чалавека, а потым у ваўка. Калі ваўкалак нападае на чалавека, то ён яго не есць, а толькі выпівае кроў. Ваўкалакам можа стаць любы чалавек, калі яго ўкусіць ваўкалак. Апасна хадзіць па вуліцы ноччу, калі на небе поўная луна, таму што менавіта тады выходзяць на ахоту ваўкалакі. Чалавек, калі становіцца ваўкалакам, не разбірае, хто перад ім. Ён кусае і душыць усіх. Ваўкалак таксама нападае на жывёлу, якая пасецца ў лесе. Менш за ўсё ваўкалакі нападаюць на людзей, у якіх ёсць хрэсцік. Яшчэ людзі лічылі, што ваўкалакам можна стаць, калі доўга глядзець на поўную луну.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Ваўкалак – злы чалавек, які жорстка абыходзіцца з людзьмі. Ваўкалакам стане той, на каго пракляцце нашлюць. Таму ноччу ён ператвараецца ў ваўка і блукае па лесе. Ён страшны, з краснымі вачыма, белымі зубамі і вострымі кагцямі. Ён пакрыты шэрсцю ды зубы ў яго, як у воўка. Каб не наткнуцца на ваўкалака, лепш не хадзіць ноччу па лесе, асобенна кагда на небе поўная луна. А еслі ўвідзіш яго, то не спасёсся ад яго. Начнёш чытаць малітву – ён шчэзнець.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

У нас ваўкалакаў называюць оборотнямі, бо воны ў полнолуніе робяцца ў воўкоў і могуць укусіць чоловека, а як укусяць, то і той стане такім.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Чалавек у ваўка ператвараўся. Ваўкалакі выюць, скот хапаюць, авечак, лашадзей ядуць.

***Запісана ў в. Гатавец Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Салдаценка Феадоры Пятроўны, 1923 г.н.,***
***студэнткамі Казловай Ю., Анісавец Т. (2003 г.)***

## *Ведзьма*

Я знаю, шчо даўно булы гэты ведзьмы і шчас тожэ е. Гэто старыя бабкі, якія калдуюць і робяць людзям зло. Воны звязаны з нычыстой сылой, з сатаною, шчо колы воны ўміраюць, перэдаюць свої знанія вэдзьмарства другім. Мучаюцца воны вэльмы, доўго ўміраюць, кажуць, шчо гэто іх Бог наказвае за іх грэхы.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Гарбачэўскай Марыі Іванаўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Пакойная мама расказвала, шчо вэдзьмы пярорoблялыса ў кота. Воны заўсёды людзям зло робяць. Шчэ казала, шчо ведзьмамы сатана ўладзіе. Воны бояцца цэрквы, Бога, крэста. Не знаю як зарэз, а раньшэ вэдзьмы булы.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Мазоль Міхаіла Васільевіча, 1962 г.н.,***
***студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Ведзьма звычайна ўяўлялася старой гарбатай жанчынай, апранутай у розны хлам. Казалі, што ведзьма магла прымаць вобраз жабы, ката, свінні, клубка, кола і іншых прадметаў. Ведзьма магла з'явіцца ў любы момант, але часцей усё ў сатанінскія дні.

Ведзьма магла прынесці шмат шкоды чалавеку. Пры дапамозе разнастайных замоў, загавараў яна шкодзіла людзям. Яна магла разлучыць каханых, пасварыць мужа і жонку, зрабіць так, каб чалавек захварэў смяротнай хваробай. Ведзьма магла прынесці шкоду будучаму ўраджаю. Вядомы "ведзьмавы заломы", пры дапамозе якіх яна шкодзіла жыту. Але людзі маглі пазбавіцца ад заломаў.

Вядома шмат гісторый, калі ведзьма адбірае малако ў каровы. Вось аднойчы ў суседняй вёсцы здарылася гісторыя, калі карова зусім не давала малака. І, аказалася, што гэта шкодзіць ведзьма. Тады яны пазвалі свяшчэнніка, які прачытаў малітвы ў хляве. І потым ўсё стала на свае месцы.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Ведзьмай называлі таго, хто можа ператварыцца ў свінню і катоў.

Было гэта ў Шарсціне. Мне расказвалі. Была калдуння і магла здзелацца сабакам. Яна залазіла ў хаты. Галоўнае, што не цераз дзверы лезла, а ў вокны. Залезе ў хату, нап'ецца вады з вядра, а тады людзі, якія нап'юцца з таго вядра, паміраюць.

Вырашыў адзін мужчына падсцерагчі гэтага сабаку. Ён узяў тапор і ждаў. А сабака лазіў у вокны ў 12 часоў. Дык стаіць той мужчына і глядзіць: на вакно кладуцца лапы, а ён як дасць тапаром па тых лапах, а яны і ўпалі на пол, а потым праўраціліся ў чалавечую руку. Сабака той збёг. Мужчына ўзяў людзей, і мы пайшлі шукаць чалавека без рук. Зайшлі ў хату на краю дзярэўні, а там сядзіць баба ля печкі. Яна была без рукі,ісцікала кроўю. Гэта была тая баба, якая пускала яд у вядро з вадой.

А гэта было ўжэ са мной. Як я дзеўкай была, гулялі мы па хатах. І вось ідзем мы з гулянкі, смяемся. А тады глядзь – свіння бегае. А гэта было на Івана Купалу. Хлопцы тады загналі ў дом гэтую свінню, а яна вішчыць, вырываецца.

Усе пайшлі спаць. А на ўтра свіння прапала. Гэта была, значыць, ведзьма.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Валянціны Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Штоб ведзьма не забрала малако ў каровы, клалі крапіву на гладышкі.

Я сама бачыла. Выйшла я на агарод, а там нейкая бабка з жыта расу сабірала. Дык казалі, што гэта ведзьма была.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Шкляровай Ніны Іванаўны, 1937 г.н.,***

***Шклярова Яўгена Іванавіча, 1934 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Ведзьмы – гэта людзі, якія маглі прэўрашчацца ў любую жывёлу: у ката, свінню, другога чалавека. Яны асобенна дзейнічаюць у купальскую ноч. Яны кароў порцяць, пугаюць людзей. А то, бывае, і свінні падохнуць.

Было гэта ў нас. Ідзе адзін дзед к нам, вельмі странны дзед. Я не захацела яго пускаць. А дзед мне кажа: "Маладзец, дзевачка, што не захацела мяне пускаць. А я прыйшоў сюды, патаму што ў вас бяда". А мама кажа: " Няма ў нас ніякай бяды". Але ён сказаў, што карова кроўю доіцца. Дзед сказаў, што прыйшоў сюды памагчы і паказаць, хто нагаварыў на карову. І тут забегла ў хату суседка наша, а дзед пальцам паказаў на яе, сказаў, што гэта яна, і знік.

А ў той суседкі забалеў глаз і вылезла бяльмо.

***

У нас ацялілася карова. Забегла к нам увечары саседка і гавора: "Во добра, што я прыйшла". І тут карова як узбясілася, як пачала кідацца і збегла са двара, а, калі яе вярнулі, у яе прапала малако. Нам сказалі, што гэта тая падруга нарабіла і параілі выкапаць на сенавале ў вуглу ямку. І праўда, знайшлі там паўгрэбня з грязнымі валасамі, косці і ўсякую драньь, завернутую ў платок.

Тады сказалі ўсё несці на перакростак і там спаліць. А на перакростак насілі таму, што гэта святое месца. На перакростку і загавары чыталі.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

За адным мужыком у нашым сяле бегала адна баба. А мужык не хацеў быць з ёй. Аднаго разу пайшоў гэты мужык у лес. Ідзець ён, а патом як зацапіўся за нейкую ветку. Вырываўся-вырываўся ён, і ніяк не можа адчапіцца ад яе. А тая ветка пахожа была на руку, тарчаць гэтыя галінкі, як пальцы. А мужыку тому надаела ўжо асвабаждацца ад веткі той. Ён узяў і цюкнуў тапаром па ёй. І зразу адчапіўся ад той галінкі.

А потым бачылі людзі тую бабу, што за мужыком бегала, дык з рукой забінтаванай хадзіла. Кажуць, што тая баба ведзьмай была ды ў лесе мужыка паджыдала.

А яшчэ адну гісторыю пра ведзьмаў раскажу. Паругаліся суседкі дзве. І ў адной стала неладнае рабіцца. Нейкі чорны кот пачаў у двор к ёй бегаць, і там вечна нехарошае што-небудзь случалася: то цыпляты падушаныя ляжаць, то яйцы разбітыя, ці што абёрнута, ці пабіты сцёклы. А патом аднойчы мужык замеціў чорнага ката ў дварэ ды як кінуў у яго чым-та, ды прама па лапах. Кот той пабег у суседскі двор. А потым тая суседка хадзіла з нагой пераломанай.

***Запісана ў в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Падзянковай Марыі Аляксееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Падзянковай С. (2004 г.)***

Каб засцерагчы жывёлу ад уздзеянняў ведзьмы, перад хлявом клалі барану, на парозе – серп, а ў хлеў ставілі пасвячоную ў цэркве свечку, асінавае дрэва. Яшчэ пад варотніцу закладывалі крапіву, каб ведзьмы не адбіралі малако ад кароў.

Ведзьмы робяць завіты ў жыце, каб забраць ураджай, а таксама робяць розныя

порчы ў час, калі каласіцца жыта. Ведзьма – гэта старая жэншчына з распушчанымі сівымі касамі, якая не глядзіць у вочы людзям, мае вусы і амаль зрошчаныя брові. Раней казалі, што яны ператвараліся яшчэ катом, сабакай, свіннёй. Раз у нас у адной жэншчыны не было рукі, яе лічылі ведзьмай. Так яно і было, таму што перад гэтым у хату забег кот, якому адсеклі лапу.

***Запісана ў в. Бацунь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Аношынай Евы Архіпаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

Ведзьма жыве ў лесе, у самым гушчары. Сабірае травы, калдуе. І на добрае, і на злое. Можа "атабраць" у кароў малако ці зрабіць так, каб карова ў хлеў не шла. У жанчыны можа атвараціць мужа ці наадварот. Можа суседзяў пасварыць. Прыручае кошак і вялізных птушак. Ведзьму лічаць даўгажыцелем (амаль 300 год жыве).

***Запісана ў в. Клянок Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Зубаравай Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Казалі, што калдуны маглі пашкодзіць жыту і часта іздзяваліcь над людзьмі. Таксама казалі, што калдунамі маглі быць самі людзі, якія нарабляюць. Калі ж яны паміралі, то гэта было вельмі страшна. Яны доўга не маглі памерці. Трэба было развязаць усе вузлы, якія былі на іх. Некаторыя людзі адгаварвалі нарobленае, але ж гэта маглі не ўсе.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Ведзьма – ета жанчына з чорнымі вачамі, длінными, касматымі валоссямі, з кастлявымі рукамі, у плацці з мешкавіны. Ведзьма магла пeратварыцца ў чорную кошку. После калдаўства ў жэншчыны-кошкі была зломана нага. Кагда назаўтра вутрам у якой жэншчыны паломана нага ілі яна кульгае, ета ўжэ шчыталі, што яна стала ведзьмай.

Ведзьмы – гэта такія некрасівыя ўрэдныя жэншчыны, якія людзям толька адну шкоду рабілі. Мне яшчэ мая матка гаварыла, што на насу і на губах у яе барадаўка, а ва рту клыкі острыя тарчаць. А косы ў яе длінныя, запушчаныя, тарчаць ва ўсе бакі.

Шабаш – гэта Лысая гара, дзе сабіраліся ведзьмы. Кожны раз у пятніцу трынаццатага, у кажды месяц прылятаюць на мётлах, як бабы Ёгі, і калдуюць голыя. Луна тады становіцца краснай.

Я ведаю, мне мая матка гаварыла, што кагда паўналунне, ведзьмы сабіраюцца ўсе разам, ляцяць у жыта і там голыя пляшуць. А певень прапяе, то яны разлятаюцца, а жыта астаецца памятым, патоптаным.

Ведзьма магла стаць красівай дзеўкай. І кагда яе палюбіць які хлопец і пойдзе за ёй, то яна забірае ў яго душу, і эта прадлявае ёй жызню, а хлопец, у якога яна забрала душу, чортам становіцца і ёй служыць. А магла ведзьма стаць зверам якім, но скарэй ваўком і з'ядала тады худобу ці іншы які ўрэд рабіла. Любіць яна людзям шкодзіць.

Хатнюю жывёліну можна было ад ведзьмы засцерагчы. Нада пазваць бабу-знахарку, штоб яна вакруг хлева і ў хлеве малітвы пачытала і спецыяльнай травы пакідала вакруг. Но толькі тыя малітвы нада чытаць у які-небудзь бажэственны празнік, штоб ведзьмы Бога баяліся і чэрці штоб не шкодзілі, урэда не рабілі людзям.

***Запісана ў в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на***

***ад Нікіценка Ніны Ільінічны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бабчанка Т. (1999 г.)***

Ведзьма – ета нячыстая сіла. У яе косы чорныя, вочы страшныя такія. Яна магла ператварацца ў ката, у сабаку, у свінню. Ведзьма шкоду дзелае людзям і скаціне. Накалдуе – і тады скаціна не расце, дайжа памерці можа. У кароў малако забірае.

Людзям можа паддзелаць. Тады ўжо к бабкі якой нада іці, штоб пашаптала.

Калі яе ўдарыць чым-небудзь, то назаўтра яна будзе хадзіць у сіняках. Калдуюць яны ўсё ўрэмя ноччу. Ведзьмы лятаць умеюць.

Кажуць шчэ, што ведзьмы паміраюць цяжка. Могуць крычаць, косы на сабе рваць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

У нашай дзярэўні жыла ведзьма. На Купалу асобенна перадзелваюцца ведзьмы ў розных жывотных. Вось яна ператвараецца ў кабылу ды ржэ пад ранне. Ноччу ходзіць малако адбіраць у кароў. Яшчэ ведзьмы прысушывалі мужчын да сябе.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Раскажу цябе пра ведзьму, якая ў нас тут жыла. Казалі, знаецца яна з нячыстай сілай. З ёй ніхто не знаўся, усе баяліся. Калі хто абідзіў – навядзе порчу. А хто не так баяўся, прыходзілі да яе, прасілі пашаптаць: ці порчу зняць, ці навесці на каго, ці палячыць, ці прысушыць. Вось у адной мужык ушоў, дак яна навучыла яе словам, і ён прыйшоў зноў. А ты ведаеш, калі прысушыць, то дажа жыць не будзеце. І яны ізноў разашліся.

А калі памірала яна, доўга мучалась: і стагнала, і крычала. Потым кажа, што на яе паталок давіць і каб убралі яго. Зрабілі ў паталку дырку – яна і памерла.

***Запісана ў г.п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Галавацкай Нюры Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Ягоравай Д. (2000 г.)***

Ведзьмы дзелаюць усё плахое людзям. Ведзьма – чорная, худая, забытая жэншчына. Яны прызываюць бесікаў дзелаць зло. Бесікі дзелаюць зло па просьбе. Калі не здзелаюць, то старшыя іх б'юць. Бесікі ругаюць Бога.

Ведзьмы могуць прэўрашчацца ў жывотных (ката, свінню). Забіралі малако ў кароў. У каровы не было паследняе врэмя малака. Карова была мокрая. У хляве сядзела чорная кошка. Зразу на яе не звярталі ўвагі. У гаспадара аж дрож была ад кошкі. Днём яна не паяўлялась. Дагадаліся, што гэта ўсё ад кошкі. Ён яе паймаў і хацеў адсекці галаву, але прамахнуўся і адсёк лапу. Потым убачылі суседку без рукі. Так і здагадаліся. Ведзьмы цяжка паміраюць. Не можа памерці. Тады ўзрываюць масніцы і ложаць на чардак. Тады яна памірае. Адну ведзьму харанілі, дык паднялася вялікая бура.

У ведзьм цяжолы взгляд. Яны шкодзілі жыту. Дзелалі завёрткі на тваю паласу (сабярэ жменю жыта і так закруце-перакруце). Ад гэтага нада было лячыць. На жніво засцерагаліся ад ведзьмы.

На Купалу ведзьмам сільна плоха. Ім нада тады дзелаць врэд. Тады ад іх засцерагаліся. Каб адагнаць ведзьму, на вуліцы стралялі ў неба.

***Запісана ў г.п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на***

*ад царкоўнага служкі, бацюшкі*
*студэнткай Міхалёвай Ж. (2000 г.)*

Сталі ў нас у дзярэўні праісходзіць странныя случаі. То малако ў каровы прападзе, то ў дварах людзі сталі находзіць не свае вешчы закопаныя. І ўсе пачалі гаварыць, што ў дзярэўні паявілася ведзьма. Хто ета, ніхто не знаў. Сталі думаць, як знайсці яе. І ўсе чамусьці ўказвалі на адну бабу, якая жыла ў самым канцы дзярэўні. І хата ў яе была незвычайная.

Вырашылі пасачыць за ёй. Выйшлі ноччу ў хлеў і ўбачылі ката чорнага, як вугаль, толькі вочы свецяцца. Яны так і падумалі, што то ведзьма. Далі раз кату па пярэднім лапам, ён і ўцёк. А на наступны дзень у той бабы рука перавязаная была. І ўсе здагадаліся, што гэта яна. Ну, каб убядзіцца точна, яшчэ ў яе на агародзе запалілі салому, а яна не згарэла, толькі дым клубамі ішоў і ні ў тую старану, куды вецер, а ў абаротную. Пайшлі яшчэ к бабе і сказалі, што яна ведзьма, дык яна ўсіх тых мужыкоў у камяні абраціла. Так і ляжаць яны пры дарозе. А ведзьма тая ў другую дзярэўню перабралася і там ужэ шкодзіла.

***Запісана на ст. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксандраўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай Т. (2004 г.)***

Ведзьма очень плахая. Яна дзелае людзям толькі плахое: сурочвае, наводзіць порчу, робіць так, каб у доме не йшло хазяйства і ўсякае такое.

У нашай вёсцы раньша жыла ведзьма. Калі былі якія-небудзь святы, дык у яе ўсігда былі окна завешаны і цэлы дзень яна дома сядзіць. Аднажды яна прыйшла к саседке і папрасіла ў яе маліны. Дык с таго самага часу ў саседкі маліны не стала, уся пасохла, а ў ведзьмы етай маліна ўсігда вялася, бальшая такая. А ешо ў другіх людзей са двара свінні павыскаквалі на вуліцу, а яна пасматрэла на іх, і скора етыя свінні паздыхалі і саўсем не вяліся.

Яшчэ я знала другую ведзьму. Раньша яна маёй падругай была, а я не знала. А раз я ў сваім тапке знайшла высушаную мышку. Я спрасіла ў людзей, што ета, а яны сказалі, што гэта ведзьма палажыла, каб плоха мне было. Яна ка мне больш не хадзіла. А раз знайшла на сваім агародзе кучку семак белых. Вырашыла іх не трогаць. Спаліла. Дык віжу патом, што яна ў сваёй хаце стаўні закрыла і 3 дні не выходзіла. Плоха ёй было.

І кагда ты знаеш, што табе наўстрэчу ідзе ведзьма і паздаровалася, то і ты абязацельна паздаровайся, а то твой ангел будзе плакаць, а яе ангел будзе смяяцца. І нада, штоб пры сібе была булаўка, тады не зглазіць.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

Ведзьма праўрашчалася і ў калёсы, і ў копны. Я бачыла, як копны хадзілі. Засцерагаліся ад яе соллю пасвяцонай у чацвер перад Пасхай. Потым гэту соль сыпалі на жывотных.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Наброевай Марыі Мікалаеўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з п. Селішча)***

Не веру ў гэта. Але расказвалі, што копны сена хадзілі самі, калёсы каціліся. Гэ-

та, напэўна, ведзьма.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сцепаненка Надзеі Свірыдаўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Гута)***

Каля двара сядзелі. І вот коціцца каток. І пакаціўся. Мы ўдвох, цямно, страшна. То ж ведзьма коціцца, не што-небудзь. Хлопцы свінню лавілі, яна віжжала. Таксама ведзьма была. Малако яна ў каровы крала. Ніяк кароў не зашчышчалі. Паймаюць лепш ведзьмаў, ды харашэнька атлупяць яе.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Чарвяшкінай Праскоўі, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Тарасаўка)***

Я вось чула, тут, недалёка, свяшчэнніку хату далі і гаварылі, што раней там ведзьма жыла і ў бані яна памерла. Дак свяшчэннік прыводзіў пеўчых, яны пелі. І ўсё роўна свяшчэннік пераехаў у другую хату, не давала яна жыцця яму.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Гатальскай Марыі Іванаўны, 1946 г.н.***
***(перасяленка з в. Вялікія Нямкі)***

Калісь ведзьмаў было многа. Але я іх не бачыла. Абараняцца ад іх малітвай нада. Бабка-шаптуха паводзе па галаве крэстом, пашэпча, падуе і добра становіцца.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Бартноўскай Марыі Данілаўны, 1941 г.н.***
***(перасяленка з в. Стаўбун)***

Прышла, я помню, з работы, ды легла спаць. Слышу, па хаце ідуць керзавыя сапагі. Прыйшлі да мяне ў спальню і сталі мяне душыць валасатыя рукі. Я спугалася. Прыйшла на работу, расказала дзеўкам, яны пасаветавалі прыйсці ў хату і каля кожнага вугла прачытаць "Отчэ наш" 3 раза. Я так здзелала, і ведзьма перастала прыходзіць да мяне.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Усцюшковай Ніны Пятроўны, 1950 г.н.***

Аднойчы стаяла я за мясам на базарэ. Очэрэдзь была вельмі вялікай і доўгай. Тут праз усю очэрэдзь праходзіць да мяне жанчына і трогае мяне за правае плячо. Тронула і адышла. А я-та гэта ведаю, што ведзьма яна. Падышла я быстра да яе і датронулася левай рукой да пляча і сказала: "Тваё дзела к табе ў цела". Тут яна як закархала і кашляла можа с полчаса. Вось што дзелае магічнае слова ад ведзьмакоў.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Усцюшковай Ніны Пятроўны, 1950 г.н.***

Еслі ў хату заляцела пціца – будзе плоха. Нада выганяць і гаварыць: "Как влящела, так і выляці. Амінь" (3 разы).

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Усцюшковай Ніны Пятроўны, 1950 г.н.***

Было такое, што ўвідзела на дварэ я жанчыну. Гляджу – яна сідзіт і ест яйцо і хлеб. Толькі я адвярнулася, гляджу – са двара выкатываецца калясо, выкацілася і ішчэзла.

***Запісана ў г. Ветка***

***ад Усцюшковай Ніны Пятроўны, 1950 г.н.***

Раз ішла з лесу, упала ды нагу так раздзёрла, што кроў сільна хлястала. Я яе нічым астанавіць не магла. А тут гляджу: ідзе баба, якую ў вёсцы некаторыя ведзьмай празвалі. Убачыла яна, што са мной случылася, падышла да мяне, пашаптала нешта, і кроў ісці перастала. Ета жанчына мне яшчэ і пасля памагала. Кароўка мая занядужыла, дык ведзьма не адказала, а таксама памагла.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Гулевіч Кацярыны Фёдараўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ведзьма – ета жанчына, якая людзям хоча здзелаць толькі зло: то скаціну са свету звядзе, то на людзей хваробу нашле, а можа і смерць напусціць. З ведзьмамі нада быць астарожнымі, а то патом будзеш локці кусаць. І запомніце, што нельга нічога ведзьме даваць. Толькі дай ведзьме што ў пазыку, дык тады гора не абярэшся. А калі ета чортава жонка гляне на жывёлу, то тая хутка здранцвее. Каб етага не было, нада скаціне на ашэйнік жывое серабро прышыць.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Вядзьмарка – гэта заўсёды страшная і непрыемная баба, на якую і глядзець не хочацца. Але яна можа прыкідвацца прыгажуняй. Дзеўка ў нас ў вёсцы была, то казалі, што яна – ведзьма, бо яна магла табе ўсё расказаць, што з табой будзе. І ўсё збывалася. Мне яна сказала, што я выйду замуж рана, у мяне будзе многа дзяцей. Усё так і выйшла. І хоць яна і зрабіла мне такую паслугу, але я яе не люблю.

Раз дзядзька аднекуль ішоў дадому праз поле, моцна стаміўся і рашыў адпачыць трохі. Глядзіць, аж якраз пасярод поля месца добрае, нехта ўжо і жыта прымяў. Дзядзька падумаў, што тут да яго ўжо людзі сядзелі. І сам сеў, паабедаў, чым было. А праз некаторы час моцна захварэў, чуць адратавалі. Людзі тады казалі, што ён там еў, дзе ведзьмы плясалі. А етага ні ў якім разе дзелаць нельга.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ведзьма – эта жэншчына, якая займаецца калдаўством. Яна дзелае подлае дзела людзям і скаціне. Людзі і скаціна тады балеюць. Дзелаюць “нарядкі”. Ета абазначае нагавораныя словы, каторыя пускаюць па ветру. Еслі чалавек ідзець і находзіць на еты вецер са славамі нагавораннымі, то пачынае балець. Ету балезнь могуць лячыць толькі людзі, каторыя шэпчуць малітвамі. Калі не адшаптаць чалавека, то ён можа памерці. Ведзьмы маглі абарочвацца ў любое жывотнае: свінню, кошку ці ў капу сена.Чалавек ідзець, а на яго двінецца капа сена. Ад яе нада ўбягаць. Ведзьмы яшчэ абарачваюцца ў калясо з цялегі. Еслі ведзьма была на каго сярдзіта, то нават у полі людскую паласу жыта знішчала. На паласе жыта дзелалі “завоі”. Еслі гэты завой сажнеш і звяжыш у сноп, то ў таго чалавека могуць памерці дзеці. А еслі чалавек замеціў, што ў яго на паласе завой, то яго нада было спаліць.

Ведзьма можа нагаворваць на любы прадмет і падкідваць яго на любы двор або

на той двор, на які яна злая. Ведзьма дзелае толькі ўрэд для людзей.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н., студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Вядзьмак – ета мужчына, каторы занімаўся калдаўством. Ён паддзелваў толькі мужчынам. Якому мужчыне здзелае – у таго здыхалі коні. Мужчына едзе на поле работаць на здаровам кані, а калі прыедзе на поле, то конь зразу здыхае. Усе людзі гаварылі, што ета накалдаваў вядзьмак. Ён адбірае ў кароў малако, тады карова не дае малака, ідзець міма двара, не падпускае хазяйку к сабе. Не было спасення ад калдуноў людзям, каторыя ім не дагаджалі.

Калі ведзьмакі памiралі, то дажа расхадзіліся сцены ў хаце, пакуль не ўзарвуць у паталку стольніцу.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н., студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Ведзьмы пачці ў кожнай вёсцы ёсць. Яны жывуць для таго, каб на ўсіх нас гора насылаць. Ведзьмы і жывёлу не шкадуюць. Каб спасці жывёлу ад ведзьмінага калдаўства, людзі бралі падкову і палілі яе на вуглях, а тады кідалі яе ў малако. І вось хто зрабіў гэтае калдаўство, зразу ж і прыбягаў, бо ў яго гарэла і сквірчэла ў грудзях, як тая падкова ў малацэ. А яшчэ ад ведзьмінага калдаўства клалі на вароты крапіву, таксама секлі асінавыя дровы, няслі іх на скрыжаванне дарог і палілі. А над агнём сушылі цадзілку. Вось тады прыбягала ведзьма, бо ёй было дрэнна.

***Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ведзьма, казалі, прырабляла на скаціну, смактала ў кароў малако з кроўю. І вось ад ведзьмы на Івана перад варотамі вешалі крапіву, каб ведзьма туда не зашла. А на ўсюночную людзі ад каліткі хадзілі з пасвечонай соллю і з макам паўз забор. Нада была так прайсці тры разы. І калі хадзілі, то гаварылі:

Як етых зёрнышак не пазбіраць,
Так у маём селішчы
Года і ведзьмы не відаць.

***Запісана ў в. Новы Мір Веткаўскага р-на ад Хадуньковай Ганны Трафімаўны, 1914 г.н. (перасяленка з в. Малінаўка Бранскай вобл.), студэнткай Хадуньковай Н. (2002 г.)***

Хлопцы з дзеўкамі гуляць праз кладбішча хадзілі. А там баба дзелалась свіннёй і пужала іх. А ў нас дзед быў, які ўсё ўгадываў. Пайшлі да яго хлопцы і спрашываюць пра гэтую свінню. І ён сказаў, каб яны спаймалі гэтую свінню і рэзанулі ёй нажом па назе. То будзе рука. Так яны і зрабілі. Спаймалі свінню і рэзанулі ёй па капыце. Тады адзін хлопец прыходзіць дамоў, а ў мамкі палец забінтаваны. А хлопец зразумеў і кажа: “Не хадзі болей, а то хлопцы хочуць у пуза рэзануць”. А гэта ведзьма з іспугу на-

ват памерла. Тады перастала шкоду дзелаць.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н., студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Мне яшчэ бабуля расказвала, што ў нашай вёсцы даўно-даўно, калі бабуля маладой была, жыла вядзьмарка. Чаго ўсе так думалі, я не ведаю. Можа з-за таго, што прыгожая была вельмі, але хлопца ў яе не было. Да і дзяўчаты з ёю не хацелі сябраваць.

І вось прыглянуўся ёй адзін хлопец. А ён ужо з іншай дзяўчынаю хадзіў. Як яна толькі каля яго не хадзіла, ён на яе ніякай увагі не звяртаў. Настаў час вяселля ў гэтых дзяўчыны і хлопца. А вядзьмарка не ведала, што ёй рабіць, каб вяселле гэта не адбылося. Але ўсё ішло гладзенька. Прыехалі маладыя дадому з царквы, і пачалося свята. Госці елі, пілі, а калі пайшлі плясаць, пачулі, што нехта за варотамі крычыць і нельга зразумець ніводнага слова. Нехта адчыніў вароты, і ўсе пайшлі паглядзець, што там здарылася. Яны ўсе выйшлі і ўбачылі, як нехта знік за хатамі. А калі вярнуліся ўсе абратна, то маладой не было, на яе месцы стаяла вялікая ікона. Тады людзі гаварылі, што гэта тая вядьмарка і зрабіла, каб яе любы той дзяўчыне не дастаўся. Малады вельмі гараваў з-за гэтага, захварэў дужа, а праз некаторы час памёр. Знікла ў той час і вядзьмарка.

Прайшло некалькі месяцаў. Было вельмі вялікае царкоўнае свята, так маці гэтай дзяўчыны ўзяла ды і памыла тую ікону хрышчонай вадой. Памыла, а сама на двор чагосьці пайшла. Прыходзіць яна зноў у хату, а там на лаўцы, дзе ікона стаяла, дачка яе сядзіць. Потым маці стала пытацца ў яе, што з ёю здарылася. Тая дзяўчына сказала, што яна ўсё бачыла, толькі сказаць не магла. Ежу голубі ў акенца прыносілі, а касу мышкі часалі.

***Запісана ў в. Хальч Веткаўскага р-на ад Гарбачовай Любові Міхайлаўны, 1943 г.н. (раней пражывала ў г. Рэчыца Гомельскага вобл.), студэнткай Суханавай В. (2006 г.)***

Ведзьма – то жанчына, што з чарцямі знаецца, а тыя яе на гадасці падбіваюць. Пры жыцці ведзьмы шыкуюць, а вось калі надыходзіць час паміраць, то ім не пазавідуеш. Ведзьму пасля смерці распірае, яна не памяшчаецца ў грабу. Суседка ведзьмай была, вельмі цяжка памірала, некаму было перадаць сваё калдаўство, дык з рота пена доўга ішла, некалькі дней яна памірала, а калі памерла, то ў яе язык вялікі вылез з рота.

Ведзьма можа заставіць палюбіць яе. І кагда яе палюбіць які хлопец і пойдзе за ёй, то яна забірае ў яго душу, і гэта прадлявае ёй жыццё, а хлопец, у якога яна забрала душу, чортам становіцца і ёй служыць.

Яна можа прыкідвацца вужом, кошкай, жабай. Так, раз ведзьма прыкінулася вужом і запаўзла ў сарай. Свіння – хватаць вужа, а ён у язык ёй упіўся, потым вуж знік, а свіння доўга вішчала, а каб вылечыць яе, трэба было ўзяць штаны і церці імі свінню, а потым цыбулінай.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Пліпаўна, 1933 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ведзьмаў ніхто не любіць, ды і за што іх любіць. А пазнаць іх лёгка: у ведзьмаў на насу і на губах барадаўка, а ва рту клыкі вострыя тырчаць ва ўсе бакі. Кагда на небе

паўналунне, ведзьмы сабіраюцца ўсе разам, ляцяць у жыта і там голыя пляшуць. А певень прапяе, то яны разлятаюцца, а жыта застаецца памятым, патопчаным.

А шчэ ведзьмы ў кароў малако забіраюць, а ў свіней жыр увесь.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Мужыка ў нас аднаго ўсе баяліся. У яго раз коней укралі, дык ён нават не расстроіўся. Выйшаў за вароты, нешта ў паветра сказаў, а сам сеў і кура. Людзі смяюцца з яго, а ён іх быццам і не чуе. Аж глядзім: коні яго назад самі скачуць. Пасля етага людзі языкі прыкусілі. А шчэ ён мог будучае прадказваць, лячыў скаціну і некаторых людзей.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ёсць на свеце ведзьмы. Точна гэта знаю. Наверна, толькі злыя яны бываюць. Пра злых чула трохі, а пра добрых не.

Ведзьма доўга жыве на свеце. Некрасівая яна. Валасы касматыя і чорныя, вочы зялёныя, як у ката, таму асобенна любіць у ката пераўтварацца (толькі чорнага). Любіць людзям пакасці розныя дзелаць. Можа зглажываць людзей і порчу наводзіць. Нелюдзімыя гэтыя ведзьмы. З імі ніхто не дружыць, таму яны на ўсех і агарчыліся. Казалі, што яны раней заключылі нейкую здзелку з дзьявалам і цяпер яму служаць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Колас Ефрасінні Сямёнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ляпейка М. (2004 г.)***

Калісь была жэншчына-калдоўка. Ну, дык кароў загоняць на вывадку, а яна пайшла там на поплаў, скацёрку разаслала і давай расу ўжо ў тую скацёрку грэбсць. Ну, а тады прынесла тую скацёрку на вароты, там на вуліцы павесіла, а як жа ідуць каровы на пасу і сталі, а з скацёркі як стала малако цячы. Яна яго ў кароў забірала. Было такое. Ну, яна здохла і такая ёй смерць. Хазяін быў злодзей, і яна, і дачка яе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Плешавай Варвары Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Быў у нас празнік, празнаваўся ў год раз – Ілля. І прышлі 2 мужчыны з саседняй дзярэўні, няпрошаныя, іх ніхто ні знаў. А адзін дзед сядзіць і кажа: "О, прыйшлі госці няпрошаныя". Дык яны кажуць: "Дык як няпрошаныя, мы ж суседзі, хоць і з саседней дзярэўні". Дзед і кажа: "Давай мы з табой вып'ем гарэлкі. А адзін мужык кажа: "Я не хачу". І толькі да рота чарку паднёс, а чарка разарвалася ў дрэбезгі. І ён стаў уцякаць.

У нас засцерагаліся ад усяго гэтага. Крапіву затыкалі і ў вокны, і ў хлеў, і ў вароты.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Алешкі Мікалая Нікіфаравіча, 1940 г.н.,***
***Алешка Ганны Трафімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Анашкінай Н., Тараненка А. (2004 г.)***

Эта кагда-та ведзьмы былі. Пры маём возрасце іх не было ўжо. Мама мая расказвала, што быў такі чалавек. Ведзьма, гаварылі, карову падое, ніхто не бачыў. А малака ў каровы няма. Сяйчас багата машэннікаў, шарлатанаў, толькі так, а настаяшчэх няма.

***Запісана ў г. Гомель***

***ад Грэчкаедавай Зінаіды Яфрэмаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Барысавец Ю. (2010 г.)***

Ведзьмы – гэта старыя бабы, яны могуць калдаваць, налагаць порчу, рабіць чалавеку зло. Калі каму-та плоха, то ім ад этага добра, бо яны чалавечай энергіяй падпітваюцца, яны без зла памруць. Могуць ператварацца ў каго захочуць: сабаку, жабу, сароку, ката, дажэ ў неадушаўлёныя прадметы. Зло абычна дзелаюць ноччу.

Ведзьмы ў кожнай дзярэўні жывуць, іх трэба асцерагацца. Нельзя з імі дажа разгаварываць, а то, калі што-та ім не панравіцца, то могуць і дрэнна табе зрабіць. Яны вельмі страшныя. Усе іх баяцца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Матка мне расказвала, што былі такія ведзьмы ў дзярэўні. Была адна такая ведзьма, атымала малако ў кароў. Даілася карова кроўю, дык казалі, што там у ёй сядзіць гэтая ведзьма. Тады звалі бабку, яка шаптала. Што яна рабіла, не знаю, но малако была снова.

Была шчэ такая ведзьма, што брала след (пясок гэты, як боса ідзеш). І на печ, на комін падвешвала, каб чалавек сох, балеў.

Я ведзьмаў не бачыла, но знаю, што іх многа і ў Гомеле ёсць. Адна така нарабіла мне, што ў бальніцы часта ляжу, нешта коле ўнутры. Да, Бог яго ведае, а мо і не ведзьма, мо так, но ў Гомеле яны ёсць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савіцкай Анастасіі Міхайлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Рогавай Н. (2006 г.)***

Мой муж расказваў, што жыла ў іх вёсцы жанчына, якую ўсе лічылі калдуньяй. Пайшлі яны раз калядаваць. Весела было. Хлопцы і дзяўчыны ходзяць, спяваюць, у хаты заглядаюць. Бачаць, а на іх калясо каціцца ды гарыць яшчэ. І што іх звязывала, што калясо тое ўгару кацілася. Хлопцы ўзялі ды і кінулі ў тое калясо нажом. Той вядзьмаркі потым не бачылі некалькі дзён, толькі чуліся крыкі з хаты. Хлопцам цікава было, дык яны ў вакно глядзець палезлі. Бачаць, а тая вядзьмарка на падлозе ляжыць, а ў спіне ў яе тырчыць нож. Бачаць, што памерла, а крыкі ў хаце ўсё роўна не змалкаюць. Даведаліся аб гэтым мужыкі, дык разабралі дах у той хаце. Тады ўсё супакоілася.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Гаўрыльковай Валянціны Мікалаеўны, 1963 г.н.,***
***студэнткай Смірновай М. (2005 г.)***

Когда поженились, стали жить с мужем у его бабушки. При её жизни замечала странные вещи за ней. Мне казалось, что есть у нее что-то с магией. Как-то ее соседка еще шептухой назвала. Пока эта бабка была жива, мы никак детей завести не могли. Думали, что и не будет уже.

Умерла она в апреле 1986 года. Моя бабушка приехала помочь с похоронами. Похоронили мы её. На следующее утро просыпаемся, а в квартире все двери настежь. Я еще ночью проснулась, смотрю, а бабка в ногах наших сидит. Я потом заснула. А на

утро поняла, что видение мое было не сном. Моя бабушка спала в соседней комнате. Она тоже слышала, как кто-то ходил по квартире и открывал все двери. Были открыты балкон, все двери в комнатах, туалет, ванная, кухня и входная дверь с тамбуром.

Только через год после ее смерти были мы спокойны. Появилась дочка, потом сын. Но в доме и сейчас можно иногда заметить, как пробегает какая-то тень или как скрипят предметы: стулья, кровати, хотя в доме, кроме тебя, никого нет.

Завели кота, так начали замечать, что он тоже лежит себе спокойно, а потом как рванет пулей и прячется. В нашей квартире коты вообще как-то не живут. То умирают, то теряются, то пропадают. Иногда вещи пропадают, да так, что их потом не найти.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Смірновай Святланы Васільеўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Смірновай М. (2005 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына, якая прадала чорту душу. На нашай вуліцы жыла ведзьма. Яна была старая і сільна страшная. Радам з ёй жыла маладая жанчына. Яна была бярэменная. Дык ведзьма хадзіла за ёй і брызгала вадой. Дачка радзілася з нагамі, налітымі вадой, як два столбіка.

Калі ведзьма памірала, то хацела перадаць свае веды, бо не магла памерці, но ніхто не сагласіўся. Тады ў яе хаце прабілі дырку ў паталку, штоб яна магла памерці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сучынскай Галіны Мікалаеўны, 1930 г.н.***

Ведзьм і цяпера многа. А даўно іх была, ох, цьма! Ё ведзьмы-мужчыны і жанчыны яны. Іх зваць калдунамі і калдуннямі. Яны звязаны з адам, нечысцю і чорнай магіяй. Свае знанні яны палучаюць ад роднай маткі ці ад бабы-ведзьмы. Калдуны і калдунні бываюць і маладыя, і старыя. Ім плоха, не здзелай яны чаго-та плахога людзям.

На Пасху, пасля 12 часоў ночы, можна ўвідзець ведзьм ля бацюшкі, ім нада патрогаць рызу яго, навернае, штоб ім грахі прасціў Бог.

У старыну ведзьм палілі на кастрах. Ведзьма можэт сурочыць, наводзіць порчу. Паглядзіць на малое – і ён плачыць, да і на пагоду сваімі закляццямі дзействуюць яны. Могуць буру, град, снег і ўсю непагадзь наганяць. Вядзьмарка, гавораць, тая, у якой русыя валасы і карычневыя ці чорныя глазы.

Маёй дачцэ ведзьма паддзелала на следзе, штоб тая ў магілу сыйшла. Так яна завідвала на дочкінага мужыка і багацтва. А дачка пайшла к знахарцы, тая сказала, што нада дзелаць. Суседка-ведзьма часта прыходзіла хоць што прасіць, мы не давалі. Яна так убівалася, плакала, ажно кручок для сумак з дзвярэй сарвала. Шчас яна памерла. Мая дачка ўжэ не так балея.

Ведзьмы абарочваліся ў жывёл пры помачы закляццяў. І ў пціц могуць тожа абараціцца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

**Колдун – это человек, который одержим демоном. Колдунами могут быть кто угодно. Особо внешностью они не выделяются. Они боятся креста, не ходят в церковь.**

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Ох, і страшныя ж гэта людзі, што могуць быць ведзьмамі або ведзьмакамі. Жыве такой па суседству, а ты і не знаеш, што ён тайком робіць зло. Мой бацька расказваў, што была ў яго такая суседка. Усе гаварылі, што яна калдуе і можа з'явіцца дзе ўгодна, у любым аблічча. Аднажды дзед ішоў уночы дамоў з луга, і на яго напаў сабака. Дык дзед схапіў касу і стаў адбівацца да і параніў таго сабаку ў бок. А раніцай суседка хадзіла скрыўленая, абмотаная хусткай, трымаючыся за бок. Можа, яна і была тым сабакай?

Хату ад ведзьмаў і нячысцікаў засцерагалі на Хрышчэнне, пырскалі ва ўсе вуглы свяцонай вадой, а ў Вербную нядзелю парог хаты ачышчалі святым агнём.

Некаторых людзей незаслужана абвіняюць у варожбе, ведаўстве. Напрымер, збірае чалавек травы, знае як імі лячыцца, а яго лічаць ведзьмаком. А ён жа толькі знаўца траў! А шкоду ведзьмы ўсё ж прыносяць. Бывае, уродзіць добрае жыта, а ім гэта не нравіцца ілі завідуюць гаспадару, дык яны так зблытаюць калоссе ці ўкладуць яго пластом на зямлю, што чалавек не можа даць рады, каб зжаць вырашчаны ўраджай.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Медзінай Тамары Фёдараўны, 1941 г.н.,***
***студэнткамі Ваўчок А., Каляснёвай І. (2005 г.)***

У одной женщины была магическая сила. Она лечила от сглаза, от испуга детей маленьких и взрослых тоже.

Один раз она пришла, а мы с Костей (сын) на печке сидели. А она и говорит: «Валя, у тебя уже и сынок готовый». Она пошла, а мне стало плохо. Крутило меня, пока свекруха подолом своей сорочки не вытерла меня, и все прошло.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Парцянковай Валянціны Іванаўны, 1950 г.н.***
***(перасяленка з в. Шапітоўка Івана-Франкоўскай вобл.),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Эта очынь плахой чалавек, каторый дзелая людзям врэд. Ведзьма можа прэврашчацца ў свінню і дажа можа ў ката. У нас адна жэншчына магла. Сын начал гуляць з дзеўкай. Ана не хацела, штоб гулялі. Сдзелалась свіннёй, прыгнула, бросілась, а сын атрубіл ей вушы. Патом прышоў. А матка – без вушэй. Он дагадался, што ана ведзьма. Нада ж, зделацца свіннёй. Во было.

А яшчо стог хадзіл па дзярэвні. В какіе-то дні. Не помню. Гаварылі так людзі. Ведзьма выгаварвае ўрокі.

Кагда ведзьма ўмірае, нужна ўзрываць паталок. Без гэтага яна не ўмрот. Ішчо была вядзьмоўства. Развадзіла адна ў нас маладых, што б не жылі. Яні пераходзяць дарогу маладым, дзелают спецыяльна. Ні в коем разе нільзя дзелаць так. Маладыя всю жызнь очынь плоха будут жыць. Паддзелывалі, клалі чорны клок трапкі пад падушкай. Я ноччу нашла іголку ў падушкі. Утрам распарола, нічыво нет.

Адзін раз убірала ў кварціры, нашла пасцёганы мужскі рэмень. Хаця ў рукі браць нельзя. Нахадзіла ў сябе между крэсел дзве шаршаткі іголак. Ні з таго, ні з сяго – новенечкая іголка возле дзверы, адзін раз – булаўка. Эта штоб у нас былі дома стыкі і

агонь.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

У моей деревни, где я родилася, во время во время войны жила ведьма. Старая она была уже, страшная, гарбатая и нихто не знаў как яе завут. Выходила на улицу тольки ночью. Ведьма эта помагала людям, вылечивала их ад разных болезней (тиф, чума), кормила людей, и нихто яе не баялся. Но в один день люди утром вышли на улицу, смотрят а дома той ведьмы нет. А на том месте, где раньше стоял дом, вырос высоченный дуб.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Была ў нас у дзярэўні ведзьма. Мужыкоў чужых саблазняла. Яны жонак кідалі. А чэраз год прыхадзілі абратна, толькі сівыя і бальныя. Яе ўсе баяліся. Красівая была. Но, гаварылі, што на самым дзеле страшная і старая. Эта яна так прэўрашчалась у красівую. А яшчэ людзі бачылі сабаку з яе глазамі ноччу... Казалі, што яна гэта была. Раз дажа адзін дзед яе палкай пабіў, дык утрам тая ведзьма ўся ў сіняках хадзіла. Праўда, пазней яна ваабшчэ прапала. Гаварылі, што памерці яна не можа

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Аднойчы на мяне неяк нечакана найшла хвароба. У мяне заўсёды было выдатнае здароўе, але пачалі балець і галава, і ногі, а рукі неяк пачало ламаць, круціць, як быццам нехта хоча мяне скруціць. У гэты час я жыла адна, са сваім мужам я разышлася, але прычыны нашага разыхода ніхто не мог зразумець, бо мы заўсёды жылі з ім добра, ніколі не сварыліся.

І вось, калі прайшло некалькі часу пасля нашага разводу, мяне пачалі адольваць хваробы. Спачатку я хадзіла па врачах, яны мне выпісвалі розныя лекі, але нічога не дапамагала, а наадварот, рабілася ўсё горш. І вось адна старая жанчына, якую ўсе лічылі знахаркай, сказала аднойчы: “Тут цябе, даражэнькая, ніякія дактары не дапамогуць, бо здзелана табе на смерць. Патрэбна табе даведацца, дзе ў тваёй хаце ляжыць нешта, што наводзіць цябе на немінучую смерць”.

І вось, пайшла я да бабкі, якая магла калдаўскія чары здымаць і прадказваць лёс чалавечаскі. Але пакуль я дачакалася ўсяго гэтага, у мяне ўжо амаль адказалі хадзіць ногі і я хадзіла з кастылём. А гэтая бабка мне і кажа: “Калі б ты не прыйшла да мяне яшчэ праз некалькі тыдняў, то ніякія чараўнічыя сілы не маглі б спасці цябе ад смерці, бо бачу гроб. Але і зараз вельмі позна, аднак жыць ты будзеш, хаця будзеш усё жыццё інвалідам хадзіць. А зроблена табе на смерць жанчынай, якая прыходзіцца вельмі блізкай родзічкай твайму мужу. Чаго яна зрабіла? На гэта можа адказаць толькі д’ябал, які валодае яе чорнай душой. Цяпер табе прыдзецца перавярнуць усю сваю хату, каб знайсці тое месца, куды яна спратала закалдаваныя вешчы. Магу сказаць толькі, што нешта такое ёсць на тым месцы, дзе ты спіш, бо ты вельмі часта, часцей за ўвесь

дзень знаходзішся побач з сваёй смерцю. І яшчэ засталіся ў тваёй хаце нейкія вешчы, якія належылі твайму мужу. Праглядзь кожную з іх. Ты павінна знайсці нешта такое, чаго не павінна быць. Сёння, як прыйдзеш дадому, паглядзі, ці не насыпана ля твайго парогу што-небудзь. Вымятай ўсё, і з хаты таксама вымятай увесь сор. Як знойдзеш гэтыя ўсе вешчы – спалі іх, а потым прыйдзеш да мяне. Жанчыну гэтую ты потым пазнаеш, але дзелай выгляд, што не ведаеш, хто яна. Гэтая жанчына часта заставалася ў тваёй хаце адна, але зараз яна адчувае, што яе чары спазнаны і больш да цябе не прыйдзе". Калі я прыйшла дадому, я ўбачыла ля свайго парога вельмі многа шалушак з-пад падсолнечных семачак, і я ўсё змяла.

У адзёжы свайго мужа я знайшла нашыты ніткамі крыж чорнага колеру. Гэтую рубашку я спаліла. Але я ніяк не знаходзіла тое, што спратана там, дзе я сплю. Мне нічога не заставалася, як распатрашыць падушкі. І вось у адной падушцы я таксама знайшла доўгую чорную нітку і адно пяро была чорнае, хаця ўсе астатнія былі белыя.

Калі я пайшла да бабкі, то яна дала мне піці ваду, над якой чытала загаворы. Сказала, каб я ў хаце ўсе вуглы акрапіла гэтай святой вадой. І яшчэ яна мне сказала: "Гэта жанчына кожны дзень наводзіць на цябе чары. Яна рве на сабе валасы і грызе пальцы, але нічога не можа зрабіць, і не можа нават падысці блізка да тваёй хаты".

З таго часу прайшло вельмі шмат гадоў, але я ўсё-роўна балею, но ўжо не сільна, і надзеюся вылечыцца. І дзякую Бога, што засталася жывая.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Куліцкай Паліны Васільеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Карпенка Н. (1999 г.)***

Однажды я пришла с работы и вдруг мои ноги подкосились, начала кружится голова. Я легла на кровать и не могла встать до следующего утра. С этого дня у меня все чаще болела голова, поднималось высокое давление, но это боли были такие кратковременные, что я не обращала на них внимания. Но когда то же самое начало повторяться с моей дочерью (где-то через месяц после меня), я начала опасаться порчи и пошла к провидице. Она была совсем молодая, однако у нее был большой дар лечить людей от кори, сглаза и прочих бед. Звали ее Вита.

И вот, как я и опасалась, эта девушка сказала: «У вас есть подруга, которой вы доверяете, которая с вами проводит много времени, она часто бывает у вас дома. Недавно она подарила вам картину с изображением Марии с Христом на руках. На этой картине сделана порча. В квартире есть еще несколько вещей, на которые она нашептала вам болезни, неблагополучие, бедность. Обыщите все углы в квартире. Этих вещей всего 5. И еще, самое главное. Нужно все вещи, которые она вам дарила, и которые порченые, сжечь ровно в 12.00 на перекрёстке (в какой-то определенный день)».

И вот, когда я пришла домой, мы с дочерью нашли на балконе 2 дохлые мышки. Одну большую, а другую маленькую. Они были перевязаны за хвосты. Еще мы нашли в одежде у дочери большие дыры, которые были очень ровно вырезаны треугольником, и была сумка, которую мне подарила эта подруга. Все эти вещи вместе с картиной мы сожгли. Потом к нам домой пришла Вита, ходила по всем комнатам, брызгала везде святой водой и рисовала на стенах образы распятия.

Слава Богу, с тех пор болезни отступили от нас с дочерью. Но когда я встречаю на улице эту женщину, она перебегает от меня на другую сторону.

И еще, Вита сказала, что эта женщина никогда не подойдет первая, но если мы

с ней заговорим, то все чары рассеются и она сможет опять навести на нас порчу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Ліцвінка Марыі Пятроўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Карпенка Н. (1999 г.)***

Аднойчы, позна вечарам, калі сонца ўжо села, па дварах хадзіла адна жанчына з нашай вёскі. Яна была вельмі бедна адзета, была вельмі худая і папрасіла чым-небудзь дапамагчы ёй. Канешне, я дастала з шкапы нейкае старое адзенне і дала ёй. Але наступным днём я даведалася, што болей яна ні да каго не прыходзіла.

З гэтага часу я стала вельмі хварэць, у мяне пачалі рабіцца нейкія відзення майго пакойнага мужа, які ўтануў у рэчцы, калі купаўся. І я пайшла да бабкі, якая мне сказала, што гэтая жанчына некалі знала майго мужа. Яны доўга кахалі адзін аднога, але потым ён сустрэў мяне і жаніўся. І вось гэта жанчына цяпер хоча звесці мяне з гэтага свету.

Гэтая бабулька пачала звадзіць з мяне праклятце, але мне станавілася ўсё горш і горш. Ноччу я не магла спаць, а днём валілася з ног ад усталасці, але заснуць усё-роўна не магла. Бабка давалася дзіву, яна казала, што гэтая жанчына – сама сатана, бо нічога не можа процівустаяць яе сіле.

Бабка пачала дапытвацца, ці ёсць хто-небудзь, у каго я нешта бяру кожны дзень. Я ніколі ні ў каго нічога не брала, таму не ведала. Але тут мяне асеніла, што кожны дзень я пакупала малако ў нейкай жанчыны. Гэта бабулька дала мне нейкай вады і сказала, што калі прыйдзе гэтая жанчына зноў, пабрызгаць на яе гэтай вадой.

Калі я брызнула, гэтая жанчына кінула ўсё на зямлю і пабегла, як быццам у яе вырaслі крылы. З тых пор мне стала лепш, і я болей не балею.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Загорскай Веры Рыгораўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Карпенка Н. (1999 г.)***

В народе говорят, что ведьмы – это женщины-колдуньи, которые вступают в сговор с нечистой силой. На праздник Ивана Купалы (7 июля) ведьмы вставали очень рано и собирали росу. Той росою потом брызгали сено тех людей, на которых они была злые. Коровы болели. Поэтому люди стали оберегать своих животных от ведьмы. Они первый раз выгоняют животных в поле вербой, освященной в Вербное воскресенье. В хлеве, где стоят животные, хранят эти веточки, страстной свечой рисуют кресты над входом в хлев.

Ведьмы делали заломы в посевах жита, закручивали его в клубок, делали вред. И если его скосить, то людей, которые косили этот залом, крутило, и они болели.

Ведьмы обычно появляются в образе старых худых и хитрых женщин. Они очень злые, однако достаточно умны. Ведь слово “ведьма” произошло от слов “веды”, “ведать”, т.е. много знать.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Емельянавай Алы Георгіеўны, 1965 г.н.,***
***студэнткай Цімафеевай Т. (1999 г.)***

Ведзьмы – гэта людзі, якія робяць усё плахое іншым людзям. Вось яны, дажы када ўміралі, дык яны маглі і 3 дні ўміраць, і нідзелю маглі. І будуць выць і мучацца,

пака памруць. Патом, када ўмрэ, дык можа яшчэ ні даць другому жыць у сваёй кварціры ці ў сваім доме. Будзе хадзіць там і стукаць, і што папала будзе дзелаць, пака ні пойдуць і не праб'юць яму грудзі асінавым калом. Асінавым, таму што на асіне хацеў павесіцца Іуда, каторы прэдаў Хрыста. На асіне ж і ліст калоціцца. Вот ветра няма ні грама, а падыйдзі к асіне – яна жа дрыжыць беспрарыўна, суткамі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Алешкі Мікалая Нікіфаравіча, 1940 г.н.,***
***Алешка Ганны Трафімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Анашкінай Н., Тараненка А. (2004 г.)***

Гэтую гісторыю расказала мне яшчэ мая бабуля. У яе вёсцы была адна ведзьма, яе суседка. Стала бабуля заўважаць, што ў яе каровы прападае малако, хаця яна шмат есць. І вось яна рашыла паглядзець, хто здойвае карову. Яна схавалася ў хлеве і чакала.

Адчыніліся дзверы і вайшла чорная кошка, якая пачала даіць карову. Яна палкай дала па лапах кошцы, і яна збегла. А раніцай убачылі сваю суседку з перабінтаванымі рукамі. Як разпазнаць пераўвасобленую ведзьму? Калі чалавек ідзе, ад яго падае цень. Трэба ў цень (у галаву) укалоць нешта вострае. Цень перавернецца і чалавеку стане дрэнна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Мой папа был ішчо парнем. Жылі на хутарах. Хадзілі на саседні хутар. І вот ані пашлі на Купала ноччу дамой, і ў іх пад нагамі клубок путаецца, не даёт іці. Оні дашлі да кладбішча, давай кресціцца і клубок ісчэз.

Гаварат, эта Пёкла была ў нас в дзеревне, і ана занімалась эцімі дзеламі.

Ведзьма – эта жэншчына, звязаная з нячыстай сілай.

Можэт прэвраціцца ў гуся, ката, клубок.

Ведзьма магла быць замужам, жыла, как абычны чалавек.

Ана не магла харошага дзелаць. Магла зделаць, што карова малака не даст, што парасёнак здохне.

У яе чорныя валасы густыя і сільна цёмныя глаза. Ана в аснавном работала начамі. На ўтра падымаешся – карова ўся в мыле, ілі весь агарод перакапан.

Када людзі в дзеревне жывут, ані знают друг друга, да і в горадзе можна іх выявіць. Тада нада іці к знахарке, каторая адгаварывает.

Мая мачыха паругалась з саседкай перад Ів. Купалам, а на ўтра ў каровы малако прапала.

Ведзьма – эта нячыстая сіла. Ана ні может умерець, доўга мучыцца. Тада ўзрывают у паталке доску, штоб ана умерла. Ана мучацца, патаму, што Бог адступіўся ад неё. Штоб душа пашла ад неё, нада узарваць даску, штоб вышла чэраз крышу, патаму што земле многа зла надзелала.

Ведзьма можэт перадаць сілу, тада ана легче ўмірает. Стараіцца перадаць родственнікам. Можэт узяць за руку. Но, канешне, не кажды чалавек падаёт руку. А еслі перадала сілу – лёгка ўмірае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Казалі, што ведзьмакамі становяцца часцей цесляры, пастухі, кавалі, млынары і

пчаляры. Гэтыя людзі маглі шкодзіць другім людзям, псаваць ім гаспадарку.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Ведзьма – эта жэншчына, якая не мае ўзросту (яна можа із старухіператварыцца ў маладую дзявіцу). У яе доўгія чорныя валасы і хвост, які яна хавае пад доўгай спадніцай. Ведзьмы з дапамогай загавораў могуць лятаць па воздуху, ператварацца ў сарок, свіней і іншую жывёлу, перакуліўшыся праз 12 ваткнутых у зямлю нажэй і зжогшы 40 савершэнна чорных кошак, прыняся іх у дар сатаны.

Каб напугаць ведзьму і ізгнаць яе з хаты, трэба ў касяк дзверы ваткнуць нож ці іглу, асвяшчоную ў святой вадзе бацюшкам. А калі ведзьма пойдзе з хаты, пасыпаць ёй на след солі, каб яна забыла дарогу назад.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Былі людзі наблюдацельныя, як наша бабка, ёй гадоў пад 90. Да ёй людзі ўсё хадзілі. Яна знала ўсе травы і словы, якія нада сказаць. З пакалення ў пакаленне перадавалася. Гэта знахары. Гэта Богам ім даны такія спасобнасці.

Ведзьма, яна праўрашчалася ў свінню. Калісь мама расказвала, яна карову высасала. Яна вялікаю гадасць дзелала. Могуць надзелаць, што ўсю жысць балець будзеш, падробяць на цябе ўсякую гадасць. Паддзелывалі, што людзі пamiралі нават; страдалі.

Калдун – гэта той, што нагаварвае на людзей, накалдуе плахіх слоў і ты будзеш балець доўгае ўрэмя. І ведзьма етае тожа можа. Яна яшчэ больш праврашчаецца, а калдун етае не можа.

Ведзьма ператваралася ў свінню, сабаку, у відзі чаго-небудзь такога паяўляецца, яна ператвараеецца ў любога чалавека, карову выдаівае. Распазнаць яе цяжка. Вот, у нас была дзяўчына. Яна лятала, зярно ў гумнах порціла. Яе відзелі, а яна превращчалася ў такіх, як усе. Нельзя яе распазнаць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Я была яшчэ маладая і вось у нашай вёсцы здарылася такая гісторыя. Людзі бачылі, як адна жанчына ператвараецца ў юркага ката. Яны хацелі праверыць ці на самой справе гэта так. Палажэылі барану каля дзвырэй уверх коллем. Калі яна зайшла ў барану, людзі адрэзалі ёй вуха і адпусцілі. Потым бачылі такую жанчыну без вуха. Мы думалі, што гэта ведзьма ператвараецца ў ката.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Берлінай Тацяны Кузьмінічны, 1927 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Залессе Чачэрскага р-на),***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Ведзьмы рабілі шкоду па начах. Ад ведзьмы затыкалі крапіку каля дзвярэй, каб не падышла ведзьма. Ведзьмы яшчэ забіралі ваду ў калодцы ноччу, каб не было ў каровы малака.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Шылец Аляксандры Мітрафанаўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Нудзічы Брагінскага р-на),***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Ехаў наш сусед на поле. Убачыў – бегае авечка. Думае, злаўлю яе ды зарэжу на мяса. А яна як зарагоча і кажа і “Дурні, што вы робіця”. Ён адпусціў яе і на ўцёкі.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Гэта было даўно, мне расказвала мая баба. На краі дзярэўні жыла жэншчына адна без чалавека (мужа). Звалі яе Беліха. У яе быў сын, а быў ён ужо падросткам. А ў нас за сялом цякла рэчка. Вада была чыстая, як сляза. Як-та хлопцы пайшлі купацца, а з імі пайшоў купацца і гэты хлопец. Неяк так палучылася, што гэты хлопец патануў. Вельмі ўбівалася матка, а ў ноч, на поўню, зрэзала ачарэціну і пайшла на рэчку, утыркнула яе ў бераг і сказала: “Пакуль хлопец-асьмігодак на неаб’езджаным кані на маладой луне не аб’едзе сяло тры разы, быць тут балоту”. Так рэчка паціху-паціху зацянулася цінай, парос чарот – і ўтварылася балота. Вось так гэтая баба зрабіла, а потым кудысь сышла. А ў сяле з таго часу ўрочышча тое завецца Беліха, у пуцёўках трактарыстам пішуць: “Пахаць за Беліхай”.

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на***
***ад Агеенка Міхаіла Васільевіча, 1941 г.н.,***
***студэнткай Смолікавай М. (2010 г.)***

Калі-та ў нашай дзярэўні была ведзьма. Жыла яна адна ў канцы дзярэўні, дзяцей у яе не было, з ёй асоба ніхто не абшчаўся, чэраз яе хату баялісь хадзіць: вылязе яна з хворткі, калі б не ішоў, і начынае шаптаць сабе пад нос. А было адзін раз, што ехала на веласіпедзі дзеўка адна маладая на ферму, не ўспела ад’ехаць ад хаты, мо метраў на скольki ад’ехала, аж як хто руль з-пад рук выбіў. Упала, зламала руку, а калі паднялася, то ўбачыла тую ведзюгу, якая стаяла за дзярэўямі і шось шаптала. Дзеўка тая маладая стаяла і глядзела на тую бабу, як яна шэпча, не прайшло і поўмінуты, як яна прапала, інача пад землю праваліліся. А з дзярэўяў варання багаценна ў разныя стораны разляцелась. Шчэ многа пра яе расказвалі, а перад тым, як умерці, на двары яе свіння звягала, а хазяйства ў яе не было. А калі яе харанілі на могілках, над яе магілай на дзярэўях сядзелі пціцы, пахожыя на варон, але глаза іх былі, як у чалавека з такім дзьявальскім блескам, як у ваўкоў. А да сарака дзён яшчэ ў яе двары доўга чулі візг свінні.

***Запісана в. Граза Гомельскага р-на***
***ад Кулашовай Марфы Архіпаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ятчанка Л. (2005 г.)***

Пра ведзьмаў я чувала многа. Але ў нашай дзярэўні іх не было, калі я ўжэ радзілася. А вот мамка мне мая расказвала, калі ана была шчэ маладая, то ў іхнай дзярэўне была ведзьма. Ана жыла пачці на канцы дзярэўні. Ну дык вот, мамка мая работала ў школе вучыцелькай. Аднойчы случылася так, што адзін з хлапчукоў, какога ана вучыла, прыбег у школу і ўвесь калоціцца. І ён расказал, што ішоў у школу, а за ім ішла тая баба-вядзьмарка, яна ўсім дзелала плоха, патаму што ў жызні ёй не пашчаслівілася,

сям'і ў яе не было. Дык калі ён ішоў у школу, то бабка тая ішла за ім, а калі ён абярнуўся паглядзець, ці не ідзець яна за ім, то цяпер і ўбачыў ужо свінню. Ён (хлопчык) забег за вугал, і ўжэ нікога не было. Усе падумалі, што яму пачудзілася. Але яшчэ 2 хлопцы расказалі, што відзелі тое ж самае. А аднажды, расказвалі, што які-та хлопец кінуў у свінню, якую ўбачыў на вуліцы каменнем, а вечарам яму здзелалася так плоха, што чуць не памёр, дык адпусціла хвароба, а то ўсяго калаціла, як ліхарадачны быў.

Кагда ты знаеш, што гэты чалавек – ведзьма, то калі папросіць што-нібудзь, не адказывай, а лучшай дай, а той порчу навядзе на цябе ці на карову, каня.

***Запісана в. Граза-2 Гомельскагa р-на***
***ад Архіпавай Алены Тарасаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Ятчанка Л. (2005 г.)***

Жылі мы ў вёсцы з чалавекам, пастроілі хату крэпкую. Радам жылі Буслы (клікалі так у весцы). Ён быў добры чалавек, а яна была дзікаватая, ні з кім не гаварыла, нікога ў двор не пускала. І нас было хазяйство: карову дзяржалі ды свіней, курэй. Карова была добрая, давала многа малака, жырнае. Людзі прыходзілі за малаком ды ўсё хвалілі: Як-та карова нашая забалела.З ночы заходзім у хлеў, а карова ўся мокрая, у вугал заб'ецца, равець. Што мы толькі не рабілі з ёй, папанасіліся. А то як-та ноччу чуем – карова наша тупачыць, мычыць. Дзед адкрыў дзверы ў хлеў ды бачыць: стаіць карова, а на ёй сядзіць чорны кот. Ухапіўся кагцямі ў скуру ды дзярэ. Дзед за палку ды давай яго біць. А на другі дзень гаварылі, што суседка наша вельмі захварэла. А дзед яе гаварыў, што хтосьці яе пабіў. Гэта яна была, ператварылась ў ката. Ведзьма яна была.

***Запісана ў в. Каранёўка Гомельскага р-на***
***ад Шнайдзюк Вольгі Паўлаўны, 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)***

Ведзем нужно осцерегацца, бо аны могут нанесці людзям бальшы прыбальшы врэд. Ведзьмы маглі прывращчацца ў свінню, чорнага ката, чорную пціцу і яшчэ ў многія сушчэства.

Был адзін такой случай, кагда адзін мужчына папрасіў у свайго аднасельчана дзесятак яіц гусіных на тое, штоб вывеліся гусяты ў яго. А тот не дал, а сказал, што многім давал і ў тых выводзіліся гусяняты, а ў яго самаго многа баўтуноў. Ну, тот чалавек і пашоў. А чэрэз месяц можэт, а можэт і меньшэ яму стала так плоха, што думаў – не выжыве, а яшчэ трохі пазней у яго пачало гнісць цела. Ён шмат врэмені пралежал в бальніцы, но врачы не смаглі вылечыць, сказалі, што это зглаз. Тада пазвалі бабу-шаптуху, але ў яе тожэ нічэго не палучаецца, ні вылечываецца ну вабшчэ, а кагда шапталі, ему ешчо хужэ станавілася, не зналі, што дзелаць, цела гніла ешчэ больш. Кагда захадзілі ў палату к ему, то стаял такі несмачны запах ад таго, што так страшна гніло цела. Праз некаторы час, можа чэраз месяцы 2 ён памёр і нічога для него не было вылечаным. А ешчэ, кагда ў маёй дачкі села на назе рожа, што ўрачы зрэзалі ўсю нагу, а так і не нашлі нічога такога, а сказалі, што ёй трэба пашаптаць, бо эта зглаз. После таго, как сталі шаптаць на нагу, патроху стала схадзіць порча, но асталіся такія шрамы на наге, што цепер толька ў штанах хадзіць. А хто етая ведзьма, ды так і не дазналіся. А яшчэ был случэй. У маёй цёткі муж забалел чым-та очэнь сер'ёзным і ні адзін урач не мог вылечыць яго. І тады мая цётка пашла да бабкі-знахаркі і ана сказала ёй, што это порча. Сказала эта знахарка, штоб пад сталбом на гародзе знайшлі красную трапку, каторую падлажыла туды ведзьма. Ана прыбегла дамоў і точна: пад адным з сталбоў была красная трапка. Етую трапку трэба было спаліць на перакросткі дарог, як сказала знахарка. Но мая цётка спаліла етую трапку ў саду пад вішнінаю. Чэрэз

некаторы час памёр яе муж, так і не вылечыўся ад етай балезні, он доўга мучыўся. А патом этай ведзьмай аказалася яе саседка, з каторай ана паругалась і доўга не разгаварывала. А трапка тая гарэла лучшэ, чым з бінзінам. Шчэ ўнукі мае, кагда на канікулы да меня прыезжаюць, дык гуляюць тут. Ну дык расказвалі, што кагда дзелалі адной бабкі стукалачку, але не сказалі якой, то з её варот выскачыл свецяшчыйся клубочык, а аны ўраскідную. Можа яшчэ воврэмя ўцеклі, а то хто знае, што можа здзелаць ведзьма. Я как узнала аб этым, запрэціла ўнукам такім занімацца. На Троіцу вешалі крапіву на дзверы і вокны, сараі, бо считалі, што ў гэтыя ночы ведзьмы свабодна гуляюць.

***Запісана в. Зябраўка Гомельскага р-на***
***ад Вострыкавай А., 1930 г.н.,***
***студэнткай Ятчанка Л. (2005 г.)***

У нашым сяле жыла жанчына, дык мы яе называлі ведзьмай. Казалі, што яна жыве вельмі даўно. Ніколі яна не балела. Страшна праходзіць праз яе хату. Гул якісьці заўсёды, шум, буркутанне. Штосьці заўсёды шэпча пад нос. Калі ты пройдзеш праз яе хату, то ў цябе нічога не палучыцца, што ты хацеў зрабіць. Вокны яе зашторaны, на дзвярах замок вясіць. На вуліцу выходзіць рэдка. Ні з кім не разгаварвае, сама з сабою. Мужыкі казалі, што бачылі яе, як яна ноччу на вуліцу выходзіла. Адзета чыстая, уся светлая, нават хіба маладзейшая. Помню шла яна мне на сустрэчу, Госпадзі спасі, дык яна як глянула на мяне, вочы чорныя, страшна. Усе казалі, што яна з нячыстай сілай звязана. Адзенне ўсё чорнае, нават мне казалась сырое, сырасцю як з магіл пахне. Магла яна пэратварыцца ў сабаку, якая пажырае гусей, курэй. Яна шкодзіць людзям страшна.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Каўдаваў абыкнавенны чалавек, а паглядзець – шо карова балее, шо худзее. Расказвала мама – ідзе мужчына, а палка па нагах б’е, сламаў. Заходзіць у дзярэўню – а баба са сламанай спіной.

Амінь шмат разоў, ён панясецца далей, круціць яго, як віхар.

Быў такі дзед. Сядзелі аднойчы на лаўцы, глядзім, а дзед у быка перарабіўся, таму што маг быў.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменкай В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Былі 2 мужчыны. Калі яны памерлі, над імі паталок узрываўся. У царкву яны не хадзілі. Адна жанчына была ў нас. Бабуля расказвала, што яна рабілася мухай і рабіла малако кіслым. У бабы былі такія глаза... Яна прыйшла, я ёй банку малака, ана мне дзеньгі палажыла, і я не магла падступіцца к карове, яна на сцену лезла. Была ў мяне знаёмая. Ёй матка малітву аставіла. Яна хадзіла ка мне 3 раза, а потым сказала: “Каму, Ганна, малака дала?” І сказала мне, каб я больш нікаму не давала малака.

Ведзьмакоў хавалі на могілках, але ж без папа.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Лысенка Ганны Рыгораўны, 1954 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменкай В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Калі я была маленькая, кожны год улетку я з сястрычкамі ездзіла ў вёску да ба-

булі і дзядулі. Увесь дзень мы гойсалі па вуліцы, а па вечарам пад вінаградам мы сядзелі на лаўцы з дзядуляй і бабуляй, і яны нам расказвалі шмат цікавых гісторый. Пра адну з іх я і хачу расказаць.

Было гэта даўным-даўно, пасля вайны. І ў тыя гады моладзь па вечарам збіралася на масту і танцавала пад бубен і гармонь. Адной дзяўчыне, высокай, з вялікімі зялёнымі вачыма, з чорнай прыгожай касой падабаўся прыгожы вясёлы хлопец, але ён не звяртаў на яе ўвагі. Аднойчы маці гэтага хлопца пайшла ўранку даіць карову, але малака ў каровы не было. Яе ўжо хтосьці падаіў. І так было некалькі дзён падрад. І тады хлопец вырашыў падсцерагчы злодзея. Ён схаваўся ў сена і стаў чакаць. Яшчэ не пачало світаць, а хлопец пачуў, як нехта адчыняе дзверы ў хлеў. Ён прыгледзіўся і ўбачыў чорнага вялікага ката, які падышоў да каровы і пачаў піць малако. Хлопец выскачыў са сваёй хованкі, ціха падкраўшыся, схапіў ката за хвост і атрубіў яго, а кот уцёк. Хлопец паведаміў гэтую гісторыя таварышчам і яны вырашылі на танцах усім дзяўчатам здымаць хусткі. Калі ўсе дзяўчаты сабраліся ў гурт, хлопцы пачалі здымаць хусткі, і адна дзяўчына спужалася і пачала ўцякаць, але яе дагналі, знялі хустку і ўбачылі, што ў яе няма касы. Пасля гэтага здарэння яе болей ніхто не бачыў у вёсцы.

Даўным-даўно ў вёсцы Рагі-Ілецкі, былі дзве бабулькі, якія жылі па суседству. Да бабы Мані прыязджалі ўнукі, а да бабы Марусі ніхто не прыяджаў. Па вёсцы хадзіла такая малва, што баба Маруся – ведзьма і з ёю ніхто не размаўляў. Яна заўсёды хадзіла ў чорным адзенні, і вочы ў яе былі цёмна-зялёныя, злыя.

Было лета. А летам усе дзеці у вёсцы ходзяць басіком. Аднойчы ўнукі бабы Мані залезлі ў суседскі агарод і ўзялі па яблыку. Баба Маруся рассердзілася, прыйшла на агарод, узяла след ад нагі аднаго з хлопцаў і пашаптала на яго. На заўтрашні дзень хлопчык сур'ёзна захварэў. Бабушка Маня пайшла да суседкі і пачала выпытваць, што тая зрабіла з яе ўнукам. Баба Маруся доўга маўчала, а праз некаторы час сказала: "Калі паспееце зняць волас з коміну, пакуль ён не згарэў, то хлопец будзе жыць". Бабуля хуценька зняла з коміну волас, прыйшла дамоў і ўбачыла, што яе ўнук бегае, як і не хварэў.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Сяргеенка Валянціны Іосіфаўны, 1940 г.н.***
***(2009 г.)***

Мой свёкар расказваў, што былі такія ведзьмы, якія ператвараліся ў жывотных. І адна такая ў свінню ператварылася, дык ёй хтосьці вуха адрэзаў, а калі ведзьма тая памерла і яе харанілі, дык на ёй таго вуха не было.

А яшчэ была другая, што вогненным калясом станавілася і кружылася паўсюды. Дык кошкай стала неяк ды яе пабілі сільна, а назаўтра яна ішла па ваду, дык бітая ўся была.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Калі я быў малы, к нам прыходзіла адна баба гуляць. Яна была вельмі старая. Яна расказывала нам розныя гісторыі. Мы сядзелі на пячы і слухалі. І гэтая баба расказала нам пра ведзьму.

Жыла ў іхнем сяле баба. Яна прэўрашчалася ў кошку і дзелала гадасці жывёле. Каб пабачыць гэтую ведзьму, нада было схавацца за барану, тады ты яе бачыш, а яна

цябе – не. І вось на Купалу адзін мужчына схаваўся за барану. Бачыць – ідзе чорная кошка ў хлеў. Ён кінуў тапаром па ёй і адсёк ёй лапу. Патом жа гэтую бабу доўга не бачылі на вуліцы. Рашылі пайсці к ёй дадому. Прыходзяць, а ў яе рука ў трапках перамотаная і рукі няма. Тады і рашылі, што гэта тая ведзьма. Гаварылі, штоб на Купала нічога дрэннага тваёй скаціне не было, то пад дзверы клалі крапіву.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Галкі Уладзіміра Віктаравіча, 1958 г.н.,***
***студэнткай Галка Н. (2008 г.)***

Расказвала мне мая маці. Калісь хадзілі хлопцы гуляць. Ідуць яны позна па вуліцы, а перад імі каціцца ці то клубок, ці то шар такі белы. Адзін хлопец хацеў яго падфутболіць, а той мячык адкаціўся ў сторану. Той хлопец пабег за ім, спатыкнуўся, упаў, а потым убачыў камень і шыбануў ім па мячыку, і мячык прапаў.

У сяле жыла адна жанчына, яе добра ведалі, а тут яна не паказваецца на вуліцу. Пайшлі к ёй дадому, а ў яе галава перамотаная. Значыць хлопец папаў ёй у галаву і гэта была ведзьма.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Марымонавай Таісіі Дзямідаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Галка Н. (2008 г.)***

Купіла карову, а яна не дае да сябе падыйсці, б’ецца. Дык вумныя людзі сказалі, што гэта ведзьма павінна ў гэтым. Аднойчы карова сарвалася, амаль не ўбіла мяне. Пасля мы яе прадалі. Спугалася я. Вырашыла, што лепш малако пакупаць буду.

Людзі – ведзьмы. Ведзьмамі становяцца і таксама ета перадаецца па наследству.

Кагда я ў Валгаградзе жыла, я с парнем устрачалась. Ежэ збіраліс жэніцца. А ў яго быў друг і жана друга. Жанаты быў. Жылі ўжэ даўно з ней, но ў ніх не была дзяцей. Но яна была іменна ведзьма. Занімалась эцімі дзяламі. Ну вот, мой жаніх вазьмі, і ей скажы, што мы збіраемся распісвацца. І вот, знаеце, я дома сяджу і ка мне прыходзіць сястра і кажа: “Вот цябе Валя (ведзьма) перадала апельсін. І я ўзяла той апельсін і з’ела. А потым ета ён (жаніх) прыходзіць ка мне і кажа: “Ты знаеш, што гэта такое, люблю цябе, я шоў, проста ляцеў к цябе, а прыйшоў, убачыў і зразумеў, што я так цябе ненавіжу... Хачу цябе разарваць на клакі!” Вот так яна яго ад мяне адтаўкнула, а к себе прыцягнула.

***Запісана ў в. Скіток Гомельскага р-на***
***ад Каваленка Надзеі Цімафееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Бярэнка Ю., Кручковай Ю. (2004 г.)***

Было нам гадоў па 14-15. Радзіцелі запрашчалі нам позна гуляць, ну, а мы не слушалі ўсё роўна, загулялісь да пазна. Мы рассталісь гдзе-та ў часоў у 12, і ён пашоў дамоў. Назаўтра прышоў і мне ўжо расказвае: “Я ўжо з табой не буду доўга гуляць, патаму што ўчара сільна перапужаўся”.

Іхні дом стаяў на адшыбе далёка ад усіх дамоў. Гаварылі, што ў ніх там тварацца розныя страсці. І вот, кагда мой хлопец шоў, то радам са стаўбом увідзеў дзевушку, патом ён стаў іці, і яна ідзець са стаўбом умесце, ён ва двор, і яна – ва двор. Ён перапужаўся і пабяжаў у агарод, яна пабяжала за ім да забора, і ён увідзеў ужо не дзевушку, а казу. Эта каза перапрыгнула чэраз забор і пабяжала. Мой схваціў камень і стаў брасаць у неё. Кагда ён прышоў дамоў, то расказаў усё мацеры і отчыму, а отчым і га-

варыт, што не адзін раз ужо відзіў такое прывідзенне. Отчым стаў расказываць, што шол як-та на прагулку і ўвідзіў, што перад ім удруг пакацілася калясо. Ён бросіў у калясо камень, і ўместа каляса паявілася кошка. Ён стаў ешчо брасаць і папаў у ету кошку камнем, і кошка растварылася. Но зато назаўтра у Галубачкі паявіўся сіняк. Недалеко ад іхняга дома жыла такая бабка, яе называлі Галубка. І рашылі, што етая Галубка можа абярнуцца ў каго хочаш.

***Запісана ў в. Хутаранка Гомельскага р-на***
***ад Андрэйчык Лідзіі Міхайлаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Сярогавай П. (2006 г.)***

Ведзьма магла перакінуцца як на кошку, так і на жабу. Часцей за ўсё, ведзьму маглі ўзнаць толькі тады, калі ў жанчыны (абавязкова) на твары была барадаўка ці пучок валоссяў, калі яна мела кучаравыя валасы.

Расказвала адна жанчына, што кароўка яе пачала мала малака даваць. А адзін раз, калі пайшла даіць, убачыла ў стойле разам з кароўкаю жабу. Ці ведзьма перакінулася ў жабу, ці простае здарэнне, ці нехта падкінуў – нікому невядома. Але ж такое было.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранoвіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

У нас і зараз вераць, што яны ёсць. Малой была, дык мы вельмі Самрычыху баяліся. Яе ўсе ведзьмай лічылі. Адны гаварылі, што бачылі, як яна ў свінню ператваралася. А мама мне расказвала, што праз яе адзін з нашых родзічаў памёр. Ён убачыў, як Самрычыха каўтун у жыце звязвала. Голая была. Тая з яго слова ўзяла, што ён ніколі нічога нікому не скажа. Зямлю есці заставіла. Толькі той не вытрымаў, расказаў, калі ў суседзяў спачатку карова здохла, а потым конь утапіўся. Як толькі сказаў, тут жа язык адабрала, злёг і праз 3 дні памёр.

А Самрычыха розум страціла. Ды жыла доўга, а калі памірала, душа 3 дні з цела не магла выйсці. Мучылася страшна. Ёй трэба было сваё вядзьмарства самай маладой з рода перадаць. Толькі падыйсці да паміраючай блізка родныя баяліся. Баяліся, што яна за руку схопіць, і той, каго схопіць, яе вядзьмарскую сілу і забярэ. А браць ніхто не хацеў.

Яшчэ казалі, каб спыніць пакуты Самрычыхі, дошкі на столі ўзрывалі. І яна нібы перад самой смерцю ў розум прыйшла.

***Запісана ў в. Шарпілаўка Гомельскага р-на***
***ад Салодкай Надзеі Міхайлаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

У адной дзярэўні случылася бяда. Вот ідуць каровы з пашы, наядзяцца, прыходзяць дадому, а ў іх пустыя вымі. Ну, і хазяйкі пачалі абсуждаць, што гэта такое, нячыстая сіла ў нас завялася ў дзярэўні. Так не далжно быць. І думалі яны, думалі. Правялі сваё расследаванне, і падсказаў адзін старычок. Падазрэнне ўпала на адну жанчыну. Прыйшоў адзін раз ён к ёй, тады, як каровы ішлі, а ў яе віселі на гвоздзіках цадзілкі, вёдры вісяць унізу, і на тых цадзілках цячэ малако прама ў вёдры. Еты прыйшоў, а яе якраз у ета врэмя не было ў комнаце. Паглядзеў і бягом назад пабег. Ага, поняў, что тута што-та ня то. Ну калі сталі гэтыя жэншчыны жаліцца, што такое няшчасце, ну, ён падсказаў адной жэншчыне, што гэта тая і тая робіць, і вам нада ізбавіцца ад етага. А

яго мамка, етага дзеда, многа чаго ўмела, умела гадаць, дзяцей лячыць. Яна яму трохі чаго-та передала, што сама ўмела. Ну, яна кажа: "Вам нада ўкрасці ў яе цадзілку, распаліць на ўліцы агонь і ўкінуць гэтую цадзілку. Етую цадзілку нада кіпяціць, як цадзілка закіпіць, то ета жэншчына прыбяжыць к нам на двор і ўбачыце, што будзе". Яны так і здзелалі. Пайшлі ўжо каровы на пашу, яны ўзялі цадзілку, распалілі касцёр, павесілі збан. Укінулі туды цадзілку, і цадзілка закіпела. Яны мяшаюць яе, мяшалі, мяшалі, аж бачаць – бяжыць ета жанчына. Бяжыць. Косы ў разныя стораны. Такая запыхаўшаяся, хоча рукамі цадзілку выхваціць, а не можа, бо сільна горача. Яна бегала,бегала вакруг етага кастра, тыя жэншчыны напугаліся, патом яна яшчэ пяць мінут пабегала і так на іх вачах і лопнула.

***Запісана ў в. Навасёлкі Гродзенскай вобл.***
***ад Воранава М.П., 1927 г.н.***

Ведзьма – ета старая жэншчына, очэнь страшная, з гарбом, седая. Но так жа ведзьмай магла быць і пажылая жэншчына. У яе чорныя косы, вочы тожа чорныя ці зялёныя. Раньшы ў нашай дзярэўне старыя бабкі многа што пра етых ведзьмаў зналі. Гаварылі, што і ведзьмакі тожа ёсць.

Мне расказывалі, што жыў адзін мужык, дзяржаў хазяйства і курэй, свіней, каня і карову. І быў у етага мужчыны сасед. Усе людзі гаварылі аб ім многа, што вядзьмак нейкі. І вот той мужчына расказваў, што ў яго то карова прыйдзе з кіслым малаком, то саўсем без малака. Куры несліся не на месцы, а ў чужых агародах, то свінні есці не бяруць, а вішчаць, як галодныя. Неўзабаве пасля етага прыходзіць к етаму мужыку сасед і просіць солі. І так было часта, і ўсё ўрэмя еты сасед прыходзіў потым і што-небудзь прасіў. Потым еты мужык пайшоў да адной бабкі, а тая яму сказала, што яго сасед робіць яму шкоду і яго жывёлам, а патом усе ведзьмакі прыходзяць і пазычаюць што-небудзь. Пасля етых слоў мужык еты падсцярог саседа ноччу і наказаў яму строга, каб той болей не шкодзіў.

***Запісана ў в. Навасёлкі Гродзенскай вобл.***
***ад Яфімік А.Б., 1928 г.н.***

Как-то вечером сидела моя сестра Зина на лавке возле самого дома с друзьями. Подбежал к ним большой черный и некрасивый кот. Они его отштурхнули и увидели, что через несколько метров этот кот превратился в ведьму, которая жила в соседней деревне. Ариночка – так ее все звали. Шли как-то вечером три хлопца на дискотеку. Вдруг им навстречу катится каток. Они этот каток забросили на высокое дерево. А утром люди обнаружили, что там висит бабулька, которая живет в этой же деревне. Ее все звали Дапулихой – она была страшенной ведьмой.

А у нас в деревне была соседка Дунька Рябая. Как-то пошла моя мама к ней пососедству утром в гости. Зашла и видит, что на стене у нее прибиты гвоздь, а на гвоздю этом висит веревка, а по ней прямо в ведро стекает молоко. В этот день по всей деревне ни у одной коровы молока не было.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Рафеевай Аляксандры Аляксееўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Міржыеўскай А. (2010 г.)***

Ведзьмы могуць з'яўляцца ў выглядзе жывёлы і птушкі: свіння, конь, карова, мыш, варона, сарока, вуж, гадзюка і ў ваглядзе прадметаў: палка, куст, калясо, рэшата, ком. Асабліва трэба асцярагацца ведзьмаў у купальскую ноч, на Тройцу, на Благавеш-

чанне, на Вялікдзень, на Вадохрышча, у рабінавую ноч. У гэты час ведзьмы маглі адабраць малако ў кароў, сала ў свіней, маглі рабіць заломы ў жыце, маглі выдраць пер'е ў курэй. Ведзьмы маглі насылаць на чалавека і хатнюю жывёлу сурокі. Маглі яны пасылаць ці затрымоўваць дождж, выклікаць град, буру, засуху. Маглі ператварыць чалавека ў жывёлу, закалдаваць яго.

Каб распазнаць ведзьму, варылі ў купальскую ноч цадзілку, тады ведзьма прасіла, каб не рабілі гэтага. Працягвалі ўпоперак дарогі палатняную нітку, каб вызначыць карову ведзьмы. Каб засцярэгчыся ад дзеянняў ведзьмы, трэба пакласці перад хлевам барану, паставіць у хлеў пасвечаную ў царкве свечку, асінавае дрэва, ці павесіць там жа забітую сароку, пакласці на парозе хлява серп ці касу, абсыпаць карову пасвячоным макам. Пасля сказаць замову.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Жыла ў нашым сяле баба – казалі, што яна варажуе. Вот калі яна з кім паругаецца, ці яшчэ што, то ноччу к таму двару прыходзіла свіння і глядзела ў вокны. І тады ў той хаце пачыналася што зра: скаціна дохла, куры не нясліся, дзеці хварэлі, муж з жонкай ругалісь. А тут як раз Пасха была, ну і поп прыехаў службу служыць. А яму бабы і давай жаліцца, што вось свіння спакойна жыць не дае. А поп параіў накіпяціць святой вады, і калі свіння зноў прыйдзе, ету ваду на морду ёй выліць. А на другі дзень свіння прыйшла к Аксінні. А тая ўжэ вады накіпяціла – ждзе. Ну, Аксіння гэтую ваду і выліла на свінню.

З тых пор свінні не было. І пачалі людзі казаць, што ета тая баба – свіння, яна не выходзіць на двор. Людзі доўга сумняваліся, ісці да той бабы ці не, але ж пайшлі. А яна дзвер не адчыняе, праганяе. Тады мужчыны выламалі дзвер у хату і бачаць, а ў етай бабы ліцо ашпарана. Ну, тут усе як пачалі крычаць, забілі вокны, дзверы і спалілі хату.

На тым месцы вырасла асіна, яна і зараз там стаіць.

***Запісана ў в. Гардуны Добрушскага р-на***
***студэнткай Грыгор'евай Л.***

Калдуна і ведзьму называлі ведзьмакамі. Іх ведалі не толькі ў нашай вёсцы. Жывуць яны ў старонке ад людзей. Некаторыя лечаць людзей. Лечаць яны замовамі. Нашэптываюць штосьці над вадой ці нейкімі там травамі. Даюць іх папіць.

У аднаго хлопца, казалі, матка была ведзьма. Ідзе ён на свіданне, а яна катом рабілася і церлася каля маладых. І так кожны дзень. Надаеў хлопцу кот. Ён узяў яго і адрубіў вуха. Прыходзе дамоў, а матка ў крыві. Так ён і даведаўся аб тым, што ведзьма яна. Дык яна памірала страшна, доўга.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Када-та ў дзецтве жыла ў вёсачке, якая стаіць у лесе, любіла бегаць па грыбы, па ягады, па арэхі. Ну, і патом в этой дзерэвеньке жыў дзед, па-ўлічнаму яго дражнілі Лісам. І етага дзеда ўсе баяліся, таго што казалі, што ён вядзьмар. І от ён хадзіў па грыбы адзін, і нікога з сабой нікагда не браў, і не паказываў тых мест, дзе ён браў грыбы.

І в адно врэмя мне захацелася ўзнаць, дзе ён гэтыя грыбы бярэ, бо ён браў усю

дарогу белыя, карзінамі насіў. Мне было дзе-та гадоў 12, і я рана ўтрам паднялася рана і слядзіла за дзедам, калі ён пойдзе ў лес. І от ён выйшаў і пашоў у лес, і я ўзяла карзіну і тайком пашла ўслед за нім. І кагда дзед прышоў да тых мест, дзе нада паварачаваць ужэ ў лес, када дашлі да первых кустоў і дзярэўяў, канешна, дзед (Ліс) бачыў і знаў, што я за ім іду. І толькі ён схаваўся за першыя дзярэўя, я бяжочкам услед за нім, штоб із віду яго не выпусціць, і ўдруг перада мной паявіліся тры ваўкі, паднялі пярэднія лапы, пасці адкрылі і на мяне наступалі, я са страхам кінула карзіну і пусцілася бяжаць да первага дзерава, якое мне на дароге папалася.

Калі на дзерава ўскочыла, то я доўга сідзела там, пакуль і дзед не вярнуўся з поўнай карзінай грыбоў. Я сідзела і глідзела на тых ваўкоў. Патом дзед падышоў і к дзераву таму, дзе я сідзела, і сказаў: "Злазь, хваця ўжэ сідзець!" Я ледзь злезла с этага дзерава, аглянулася кругом і ўбачыла, што ні якіх ваўкоў німа, а стаялі тры карчы з вывернутымі карэннямі. І дзед тады мне сказаў: "Ідзі сабірай грыбы, но толькі за мной не хадзі!" Па грыбы я, канешна, не пашла, а з пустой карзінай дамоў вярнулася. Када дамоў прышла, то ўсё маме расказала. Мама меня выслухала і прыказала тада нікому не расказываць.

Мама от расказывала, даўно эта была ў Лагунах. Там жыла адна сям'я, і хазяін дома, у якой яна жыла, быў калдун. У нево был брат, і он был нямой. Не жаніўся, і жыў як домработнік у этага брата-калдуна. І патом, када ўжэ этат калдун дажыў да старасці. Вот он памёр. Он быў калдуном, і паэтаму яго дух после смерці хадзіў дамой і не даваў там нікому пакоя. Как толька вечар наступае, вездзе стук, грохат, вся сям'я не маглі ні спаць, ні аддыхаць. І ім многа хто саветаваў, што нада здзелаць, штобы ён ужэ не хадзіў, но нічога не памагала. Тада пасаветавалі прывезці свяшчэнніка і здзелаць адпраўленне, маленіе ў доме, і асвяшчэніе ў доме. І от када прывязлі тога свяшчэнніка, ва врэмя службы, нямой брат таго калдуна відзел, как той дух калдуна лятал над усемі людзьмі, якія маліліся. Ён паказваў рукамі і мычаў, но сказаць не мог. І вот эта маленіе, адпраўленіе ўсё раўно нічога не памагло. І да цех пор он хадзіў і не даваў сям'е пакоя, пака людзі не пасаветавалі паследняе дзела: забіць асінавы кол. От ані тады той кол і забілі, а забілі той кол там, дзе ў пакойнага, ну з якой стараны там, дзе ў яго серца. Вот толька тады ён ужэ не стаў хадзіць і аставіў усіх у пакоі.

* * *

От даўно эта была, я сама не знаю, мне мама расказывала. Жыў у нашай дзірэўне хлопец адзін, і была ў яго матка, ну і людзі казалі, што ана што-та знала, ведзьмай была значыць. Вот той хлопец хадзіў да дзеўкі да адной, а матке яго эта не нравілась, ну, і яна яму кажа: "Не хадзі да яе!" А хлопец всё равно да яе хадзіў. І вот как-та вечарам ідзе он да дзеўкі да той і праз поле. І вот чуе грохат які-та, галаву павярнуў – і ўбачыў калясо, што ано за ім коціцца. Ну, он не абраціў вніманія сперва на эта і пашол. Вот он ідзе, ідзе, а калясо за ім усё коціцца і коціцца. Захацел он калясо эта спаймаць, а яно ў рукі не даецца: ён да яго, а калясо ад яго. Вот так шол он, а патом рэзка павярнуўся і ўдалося яму схваціць тое калясо. Ну, і штоб ано за ім большэ не кацілася, то хлопец прывязал яго да забора окала сваёй хаты. Ну, от пайшоў он, пагуляў, прышол дамой і спаць лёг. Назаўтра падымаецца, паглядзеў туды-сюды, а маткі няма. Вот он тада на ўліцу выйшаў, глядзіць: а матка яго, к забору прывязаная, ляжыць, от тада он і понял, што эта за калясо такое была.

А ішчо казалі, што во тожа такое была: матка хлопца да дзеўкі не пускала, дак

яна (матка яго) прыўрашчалася ў кабылу і кожды вечар сына свайго з гулянкі ўстрачала. Долга так па начам бегала за ім, пакуль ужэ людзі не ўзналі, што эта яна ведзьма.

* * *

В дзерэўні жылі на сваей зямле, не было ні масцерскіх – нічога, так вот самі сапожнікі хадзілі па дзераўнях, астанаўліваліся, нанімалісь у хазяйскі дом і ўжэ там работалі: сапагі шылі, рэманціравалі. І вот два сапожнікі снялі кварціру ў адной бабы, ана там адна жыла, і там прынімалі заказы, работалі і днём і позна ноччу. І вот в адзін вечар разлажылі ані сваі інструменты на длінныя лаўкі, або іх яшчэ ўслоўкамі называлі. Ну і на маленькіх скамеечках сідзелі каля тых услонаў і шылі обуў. І вот патом позна вечарам успрыгнула к ім кошачка на ўслон, добра сідзела, мурлыкала, і патом ужэ спаць захацела і чалавечыскім голасам сказала: "Цьфу! Задрамала!" Сапожнікі, када пачулі, то з удзіўленіем пераглянулісь, здзелалі з шпагату віровачку і тую кошку за яе і падвесілі. Самі свет свой патушылі і пашлі спаць. І вот када на ўтра ані падняліся, выйшлі і ўбачылі, што хазяйка той хаты на шпагаце на етым вісіць. Дак яны так перапугаліся, што пасабіралі свае вешчы і ўбіжалі адтуля.

А вот ішчэ казалі, што ведзьма магла ў свінню прыўрашчацца. Вот такая свіння бегала, бегала за людзьмі па дзірэўне, пакуля адзін чалавек не дагнаў і не адрэзаў той свінне уха, дак казалі, што жэншчына адна патом па дзірэўне хадзіла, дак у яе уха аднаго не было. Вот кажуць, што то яна ведзьмай была. А свіння тая большэ бегаць не стала.

***Запісана ў в. Лагуны Добрушскага р-на ад Канавалавай Тамары Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Фамянковай А.***

Ведзьма – эта нячыстая сіла, старая баба, страшна выглядзіць, у лахманах, уся чорная. Жыве ведзьма ў лесе ў хаце, дома ў яе многа ўсякіх лекарственных траў. Ноччу яна выходзіць із лесу каб прынесці ўрэд людзям, напужаць людзей. Калі ўстрэчала людзей, то яна чытала розныя закляцці. Абрашчалася ў кошку чорную.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на ад Фамічовай Аляксандры Яфімаўны, 1939 г.н., студэнткай Каліноўскай Т. (2009 г.)***

Ведзьмы – злыя жанчыны, якія водзяцца з нячыстай сілай. Бачыць іх можна на Купалле. Людзі пастаянна вешалі на хлявы ветачку клёну ці ліпы. Так абярагалі сваю скаціну. Ноччу з 6 па 7 іюля яны лазілі па хлявах і шкодзілі. Вельмі любілі карову занімаць. Звычайна абарочваліся ў сабаку ілі ваўка і смакталі малако, а карова стаяла, баялася.

У мяне пастаянна вісіць зеркала ў хлеве. Каб ведзьма зірнула ў яго і ўцякала, бо яна баіцца сябе ўбачыць (сваё ліцо).

Аднойчы быў такі случай, калі злавілі ведзьму, якая была старой цёткай. Яна хадзіла каля хлявоў. Калі добра прыглядзішся, дык гэта баба Юлюшна, якая каля канавы жыве. Яе заўсёды падазравалі ў вядзьмарстве.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-на ад Гуд Любові Ігнатаўны 1932 г.н., студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

Ведзьма була на выгляд як старая жэншчына з распушчэнымі сівымі косамі.

Ведзьмаю станавілася жэншчына, у якую ўселілася нячыстая сіла, хацела яна таго ці не. Шчэ мая мама казала, шо ведзьма сільная таго, шо дружыць з чортам. І ад яго ето вона навучылася разным дзелам. Яна магла станавіцца як свіннёй, цялём, так і вужом, мышшу.

Етые ж ведзьмы багато беды прыносяць. Ну, вот напрымер, яны могуць адабраць малако ў кароў. Таго жэншчыны, як выганяюць кароў на пашу, то даюць пастуху еды екой, шоб ён ахраняў кароў, шоб, значыцца, ведзьмы не забралі карову і яе малако. А шчэ, шоб ведзьмы нічога не зрабілі карові, то перэд тым як выпусціць на пашу, ее акраплялі свечонай вадой.

А шчэ бывало такое, шо карова сільно мокрэла, то казалі, шо ето ее ведзьма шчыкачэ. Тады, шоб адцапіцца ад ее, вешалі ў хлеў зеркало, думалі, шо калі яна ўбачыць себя ў зеркалі, то спугаецца. А шчэ вешалі ікону ці лажылі пасвечану свечку. А шчэ було і таке, шо ены маглі зглазіць берэменну жэншчыну і ў ее палучаўся выкідыш.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Каваленка Надзеі Савельеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Ведзьма – нячысты дух, які ўсяляецца ў жанчыну. У нашай вёсцы таксама была ведзьма. Хто ёй плахое слова скажа, таму яна праклёны пасылае. У таго чалавека пагаршалася здароўе, у яго дзяцей таксама. Гэта ведзьма нават адной жанчыне подклад падлажыла, каб у яе доме не было мужчыны. І ў яе памёр муж. Падказалі ёй, як пазбавіцца чар. Трэба 3 разы падмесці хату і вакол хаты, а смецце ўпоўнач вынесці на скрыжаванне дарог і закапаць. Тады ведзьміны чары-пракляцці згаснуць. Так яна і зрабіла, і гэта ёй дапамагло. Наогул, ведзьмы – гэта страшныя істоты, якіх нават людзьмі не назавеш. Іх трэба абыходзіць стараной і хрысціцца.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Пра ведзьм казалі, што яны малако ў кароў адбіраюць, таму на Юрая выганялі скаціну прутом, які на Вербнае васкрасенне асвячалі, каб уроку не баяліся. Абрызгівалі пасвечанай вадой. На Івана Купалу вешалі крапіву на вароты, каб ведзьма не адабрала малако ў скаціны.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта нячыстая сіла. Яна жыве сярод людзей. Яна такая, як і мы, але адрозніваецца. Знешні від трохі не такі, як у абычных людзей. Ведзьма ператвараецца ў розных жывёл, прынося людзям гора. Нада яе сцерагчыся.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Гэта было на Купалле. Ніхто не знаў, што кароў даіць хадзіла не жанчына, а ведзьма. Хадзіла ўначы ў людзей даіць кароў. Яе ніхто не замечаў. А потым узналі, што ведзьма доіць кароў, а не жанчына. Пачалі кідаць крапіву, каб ведзьма не хадзіла. Калі ведзьма падаіла карову, то трэба было зваць знахарку, каб карова зноў даілася.

Кожны год на Купалле паяўляецца ведзьма. Тады пад вароты кладуць крапіву, каб яна не зайшла ў хлеў і не высмактала малако з каровы, бо карова не даець малака хазяйкі.

*Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на*
*ад Воранава М.Р., 1936 г.н.,*
*студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)*

Ведзьма магла ператварацца ў жабу. Вось ператвараюцца і карову ссуць. Еслі ты пашкодзіш ёй лапу, у той жонкі будзе там калечанне, а еслі галаву – будзе калечаная галава.

*Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на*
*ад Юнчыц Васіліны Рыгораўны, 1948 г.н.,*
*студэнткай Берднік В. (2006 г.)*

Была ў мяне дружка, а ў яе сястра, старэйшая за яе. Валяй звалі. І ці на Пятра, ці на Купалу, добра не скажу, гуляе маладзёж. Крычаць, крычаць, спяваюць і адкуль не адкуль, стаіць яна. Уся ў белым, косы распушчаныя, доўгія. А ў сястры яе пытаюць, а яна гаворыць, што не можа такога быць, што Валя дома засталася. А назаўтра пытаюць яе, ці была яна там, а яна плача, клянецца, што там не была. А на следуюшчы год, на той жа дзень ішоў наш Коля, ён быў на свінарніку сторажам. Нёс што-та, ці муку, ці што. А побач саседскі хлеў стаяў. Ён шоў каля плота і глядзіць: дзвер ў суседскім хлеве, і яна, Валя, адтуль ідзе. Ён па адзін бок ішоў, яна па другі. Ён хоп за плот і прытуліўся, прыгледжваецца. Ні спужаўся, нічога, прыгледжваецца. Глядзіць, а яна з вядром ідзе да сваёй хаты. Аказваецца, яна хадзіла ў кароў малако красці. Гаварылі пра яе, што яна ведзьма.

Было ў нас яшчэ такое. Памерла жанчына і аставіла дзіця малое. Пра яе гаварылі, што яна ведзьмай была, дык яна кожны дзень хадзіла да дзіця. Яна і на агарод выхадзіла, но яе не можна было ўбачыць, сустрэць. Яна яго не карміла, грудзей не давала. А кагда дзіця плача, яна прыходзіла, і яно смяялася, як яна яго забаўляла.

*Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на*
*ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Страха К. (2006 г.)*

Ведзьма – гэта злая чарадзейка, якая звязана з нячыстай сілай і надзелена звышнатуральнымі здольнасцямі. Ведзьмы маюць сувязь з людзьмі і з нячысцікамі. Ведзьмы могуць быць ад нараджэння, могуць быць ад прыроды. Ведзьмай становіцца дзяўчынка, народжаная ў трэцім пакаленні па-за шлюбам. Можа быць ведзьмай і жанчына, якой паміраючая ведзьма паспела перадаць свае веды. Ведзьмай станавілася жанчына – супружніца чорта.

Ведзьмы шкодзілі жыту – яны рабілі заломы. Ведзьмы робяць заломы ноччу голымі. Звычайна гэта адбываецца ў купальскую ноч, на траецкім тыдні, і ў час, калі каласіцца жыта і па ім бегаюць русалкі.

*Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на*
*ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,*
*студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)*

Было гэта даўно, калі я яшчэ дзеўкаю была. Жылі ж мы тады ў Тураві. А случай буў у суседаў нашых – Маркевічаў. Тады не так было, як зарэ ў нас: хата і адрына ў

адным дварэ. Тады адрыны стаялі далёка ад хат, туды, к рэке бліжэй. От і кажа раз Іван (сусед): "Не знаю, што робіцца. Кожны вечар закрываю адрыну, як і трэба, а ўтром прыхожу – адкрыта і корова молока пошці не дае". І так колькі ўжэ дней у іх робіцца. От Іван і рэшыў схавацца ў адрыне і пабачыць, хто ее адкрывае. Так і зрабіў. І бачыць, дзе-то каля часоў дванаццаці адчыняецца адрына, заходзіць нека жонка бярэ столок, садзіцца і пачынае корову даіць. Ён еле ўтрымаўся, каб біцца к ёй не кінуцца. Вырашыў глядзець, што будзе далей, тым больш і жонка то была ек бы знакомая. А ана трохі падаіла, устала і ставіць убок столок. А ў гэты міг Іван схапіў сокеру (яна екраз блізко лежала), да і цяпнуў той жонцы па пальцу, ек яна за столок дзержалася. Тая толькі войкнула да і ходу з адрыны. Яна туды болей ніколі не прыходзіла.

Цераз сколько дней пашоў той Іван у забегалаўку нашу, збіраюцца там мужчыны, выпіваюць, і пачуў, як адзін з іх гаварыў: "Хлопцы, а ці бачылі вы, што Лагезіха ходзіць з рукой заматанай? Мая суседка пытала ў ее, што зрабілася, дык тая кажа, што рубала дровы ды і па пальцу секанула". Вось тут Іван і поняў, каго тая жонка яму нагадвала, тая, што ў адрыне была. Аказваецца, што Лагезісі ён пальца адрубаў, а про ее людзі казалі, што ведзьма яна і нядобры чалавек. Чаго шла ў чужую адрыну ноччу? Ясна, што нешта тут нячыста.

***Запісана ў в. Крэмнае Жыткавіцкага р-на***
***ад Бобрык Вольгі Фядотаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Анішчык Н. (2005 г.)***

На купальнага Івана ходзяць ведзьмы. Оны ператвараюцца ў жаб, заходзяць у хлеў і адсасваюць у каровы малако. Каб не хадзіла ведзьма, ставілі вілкі ў дзвярах. Шоб от ведзьмы ніхто нічога не мог забраць, то она забівала ў парог падкову і ставіла пад стол грэбёнку.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта знахарка, она молоко отбірала. На Купало её ловілі. Ведзьмы баяліс купального Івана. Ідзе яна не ведзьмой, а скінецца чым-небудзь. Было таке: выйшаў мужык у сені, а там цёмно і нехто корову доіць. Уключыў свет, нікого нема, а выключыў, зноў доіць. Значыць, ведзьма кім-то обернулас і доіла.

Ведзьма ці ведзьмак, шоб побачыць умершых родзственнікоў, нешто говорылі і выходзілі ў 12 часоў ночы на двор і бачылі іх. Калі ведзьма помірае, то аддае свое знаніе, шоб на тым свеці добрэ было, і покуда не перэдасць, то не помрэ.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***Кошман Вольгі Лявонаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Жывуць у нас і каўдуны. Быў такі выпадак. Сідзелі жанчыны да ночы ў хаце, а на двары стаяла калода з сучком. Раней на калодзе людзі пабачылі завязанае сена. Гэтае сена старэйшая жанчына спаліла на перакростку дарог і занесла на бягучую ваду. А на другі дзень прыйшла да іх жанчына-суседка і ўсё пытала: "Што вы робіце?" Гаспадыня маўчала, таму што адказываць нельга, іначай чары не сыдуць. І гэтая жанчы-

на, якая прыйшла, і была чараўніца.

Раней людзі звазілі навоз у поле, а вясной, калі сеялі, то навоз развозілі па ўсяму полю і ў ім знайшлі невялічкую ляльку. Гэта значыць, што нейкі чараўнік нейкаму нешта зрабіў дрэннае.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ведзьма – страшны чалавек. Яе пачці што нельзя атлічыць ад абычнай маладзіцы. У яе толькі якая-небудзь мелач будзе странная: не ўсе пальцы, воласы на ліцэ. Ведзьму можна ўзнаць па тым, што яна не ходзе ў цэркву, разгаварывае з сабой, не вера ў Бога. Асобенна ведзьмы заметны ноччу і на Купалле.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жыткавіцкага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Еслі враждуют на чалавека, дык ведзьмы на жыці збіраюць каласкі ў адно места і краснаю завіткаю завязваюць. Ето завітка называлася ў нас. Улезе ў сярэдзіну, а людзі ж не бачаць, пачынаюць жыта жаць – завітка ў жыце. Ідуць да дактароў, каб вылечыць. Казалі, што ведзьма ў жабу пераўтвараецца. Еслі ана ў нас умірала, дак у яе ішла бела пена, яе галава ўвабралася ў шыю. Адпомсціць ёй можна макам-відуном, ён адганяе сілу.

***Запісана ў в. Радуша Жыткавіцкага р-на***
***ад Дземідзенка Кацярыны Міхайлаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Скобелевай Т.***

Як ідзе по вуліцы вядзьмар, або ведзьма, то так зразу і не скажаш, ці то вон просты чалавек, ці вядзьмар.

Вядзьмарамі былі і жонкі, мужчыны імі тожэ моглі быць.

От у вялікія цэркоўныя сьвяты, тады кожны мог убачыць ведзьмара. Воны ўсе прыходзілі ў цэркаў і бралiса за рызу попа. Это каб не загубіць сваю сілу, воны так робілі.

Шчэ рано ўтром ходзілі голыя. А от однажды буў у нас такі случай. Мая маці расказвала, што ваны з мужчынамі нашэй дзярэўні пошлі пасціць коней на полі. На Купалле то було. Аж бачаць: ідзе жонка з цадзілкаю. Подошла к жыту, скінула свою адзежыну і пайшла ў само жыто.

А адзін мужчына пошоў за ёй. Аж бачыць ета жонка пачала змахваць цадзілкою росу з жыта. Мужчына ж той, як і она, стаў махаць обруцем і казаў: “Што ей – то мне, што ей – то мне!” Она ж яго не бачыла. А колі мужчына прышоў домоў, то повісеў обруць над цэбрамі, што ў хаце стоялі. Бачыць: з обруці нешчо льецца. Аж то молоко було. А та жонка была ведзьмой. Ето ў жыці вона молоко збірала – адбірала ў кароў.

Часцей за ўсё ведзьмы робілі зло. Як жонкі ідуць жаці, то ведзьмы жонкам, каторых не злюбвалі, у жыце завіткі робілі.

Катора со жней зрэжэ того завітка, та ўмрэ. То ўжэ, бувала, прыглядаюцца. І, як убачаць, то абжынаюць яго з усіх старон, з завітком жыто вырываюць з корнем. І нясуць к знахору, штоб той сказаў, для чэго эта завітка. Бо она можэ быць зроблена і на хворобу, і на смерць.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

У ведзьмаў прэўрашчаліся людзі. У нас у дзярэўні была страшная жэншчына. І ноччу яна хадзіла па дварам і выдойвала кароў, а тады да той каровы ні можна было падступіцца. Днём ведзьмы ні дзейнічалі, а толькі ноччу. Яшчэ ў нас у дзярэўні я сама бачыла ведзьму, але ж ета ўжэ даўно було. Як та адзін раз я йшла утрам з работы, і мне наўстрэчу, гляжу, ідзе нейкая дзеўка маладая ды й паглядае на мяне. Яна была з доўгімі косамі, у адной сарочцы, йшла босая, а сарочка тая кароценькая. І я яе сільна тады спужалася і пабегла, а тады адвярнулася паглядзець, а яе ўжэ ні было, а дзе яна дзелася, я так і не поняла.

*Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на*
*ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,*
*студэнткай Курбан М. (2004 г.)*

Е тут у нас колдун одзін. Усе людзі про его это кажуць. Да я, як кажуць, на сваёй шкуры его колдуйство іспытала. Это было ў 90-м году. Пошла я ў праўленіе колхоза, трэба было на коня запісацца, шоб картоплі на городзі выбраць. Ешчо з села не вышла, як мене Міша дагнаў, он тожэ туды шоў, пошлі разам. Я хоць і знала этого дзеда і боялас его, але ж мусіла іці. Шлі, говорылі по дорозі. А ек зашлі ў праўленіе, а там людзей сабралос ужэ багато, то вон тры разы громко так сказаў: "От, людзі, шоб вы бачылі, як эта баба бегла!" Я ўжэ поняла, шо беда это, да говору на его: "Да ты шо, Міша? Да дзе ж я бегла? Да мы ж шлі разом з тобою ўсю дорогу". Але вон не слухаў мене. А на наступны ранок я с кроваці не слезла, так балелі ногі. І от мучаюс я ўжэ 15 год. Екіх толькі лекарстваў не брала, нічого не помогае, хадзіць пошці не магу. Дачка з Гомеля возіла мене к некай знахарцы, а та пошэптала на воду і кажэ: "Вам зроблено от людзей это. І я бачу, што вельмі дзед сільны, але я папробую з ім пабороцца". Але ж потым ее дзеці забралі некуды, ту бабу, і я больш з ёй не ўстрэцілас. Так я, мабыць, і помру ўжэ. А ўжэ этого Мішы да бацько быў колдун. Калі он паміраў, то вельмі мучыўся доўго, покуль хомут на его не положылі, толькі тады помер. То это ж ясно, што колдун. А такіе людзі, калі шо знаюць, усегда дзецям сваім перэдаюць свої знанія. От такая беда со мной была.

*Запісана ў г. Тураў Жыткавіцкага р-на*
*ад Субат Галіны Фядотаўны, 1925 г.н.,*
*студэнткай Аніשчык Н. (2005 г.)*

Ведзьма – ета чалавек, каторы звязаны з нячыстай сілай. Ана можа прырабляць, лячыць людзей, ператварацца ў маладзіцу, жабу. Гэта бувае на купальны Іван. І калі дзяўчыны шукаюць папараць-кветку, ана стаіць ззадзі, і калі хтось павернецца, то ана можа штось дрэннае наслаць на чалавека.

*Запісана ў п.Чырвонае Жыткавіцкага р-на*
*ад Цімашчэня Ганны Парфёнаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Макарэвіч Е.*

Усегда, ва ўсе врэмена былі ані, ведзьмы. Многа історый знаю. Знаю такую історыю. Памёр у сям'і мужык. Засталася жонка з двума дзецьмі – хлопец і дзеўка. І ўсё врэмя завідавала саседка этай сям'і. І захацела прырабіць яна ім. Ва врэмя памінак узяла тая ведзьма тры банкі: адну – вялікую, другую – паменей, трэцюю – зусім маленькую і наліла туды вады да самых краёў. І стала штось няладзіцца ў сям'і той: са здароўем у маці стала зусім дрэнна, да і дзеці хадзілі, як не свае. І заўважыла тая жонка, што на падаконніку банкі тыя стаяць, а вада на дне аж чорная была. Тады яна ўзяла да і выліла тую ваду, а

банкі разбіла. А шчас, слава Богу, добра з той маладзіцай усё і з дзецьмі тожа.

***Запісана г. Калінкавічы***
***ад Есьман Паліны Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Торап Т. (2005 г.)***

Я лічу, што ведзьма – гэта тая істота ці нячыстая сіла, пра якую ёсць шмат павер'яў. На мой погляд, яна жыве ў любым мястэчку, далёка ад людзей, але ўсё ж такі з імі сутыкаецца. Ведзьма выглядае як жанчына. Яна худая, згорбленая, вочы злыя, валасы ў яе альбо чорныя, альбо сівыя, але вельмі калматыя. У нашай вёсцы людзі казалі, што ведзьма можа нашкодзіць не толькі людзям, але і жывёлам, гэта каровам, свінням, козам. Яна валодае вялікай магічнай сілай. Ад яе загавораў ды нашэптаў можна цяжка захварэць і памерці. У нашай вёсцы было павер'е, што ведзьма порціць траву. Калі гэтую траву з'есць карова, дык малако будзе негодным, кіслым.

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Я сама родам з дзіревні Залатуха Калінкавіцкага раёна. І вот я хадзіла в школу, была піанеркай, наш клас прыкреплялі к бабкам, чтобы мы ім памагалі. Мы мылі палы, драва калолі, белілі в доме. І вот меня з падружкай прыкрепілі к адной бабке. А все в дзіревне гаварылі, што ана ведзьма. Но я з падружкай нічево такова неабычнава за ней ні відзела. Ведзь ведзьма – эта злая калдунья. І есць такой празнік Купала з 6 на 7 июля. Все ведзьмы правращаюцца ў жывотных і дзелают зло людзям: сасут у жывотных малако. З часа ночі ані гуляют, на лбу ў ніх вырастают рага. В эта время ані наводзят порчу на людзей, пугают іх, наводзят порчу і на жывотных. І меня мая мама ўчыла, чтобы в атрезак времені з 12 ночі я нікагда ні садзілась есць, ні лажылась спаць. Расказала мне мама і пра бабку, каторай мы памагалі. У этай бабкі была дочка. І людзі все гаварылі, что бабка передала ёй сваю сілу. І рядам з этай бабкай жыла саседка. І вот как-та пашла эта саседка даіць карову. Вашла в сарай і відзіт: стаіт её карова, а лягушка (толька не сама лягушка, а образ лягушкі – такой ў цені) сасёт у каровы малако. Ана, хазяйка, взяла вілы і бросіла в эту цень – і пряма в лапу. Этот образ сразу прапал. А утрам ана увідзела дачку бабкі, каторая шла с завязаным пальцэм нагі. Саседка спрасіла, что ў цябе з нагой, а та ёй атвеціла, што на поле пракалола. Эта рана ў неё очень гнаілась. І когда людзі пасаветавалі ей пасыпаць рану сасновай пыльцой – всё как рукой сняла. І ана да сіх пор жывёт там. Людзі гаварят, что і сейчас калдует.

А маць её ўже ўмерла. Эта была зімой. І людзі гаварілі, што та долга не магла ўмерець. Кагда она ўже аташла, людзі той ноччу відзелі 12 челавек в чёрнам, каторые забралі гроб і ўнеслі. Эта былі черці. А на следушчый дзень бабку пахаранілі. Людзей была очень мала. Все зналі, кем ана была да і баялісь, ведзь харанiла её дачка-ведзьма, каторая пріняла сілу злую в себя.

***Запісана ў в. Бабровічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Чарняковай Тацціяны Віктараўны, 1962 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Ведзьмай людзі называлі жанчыну, якая ўступіла ў згоду з нячыстай сілай. Нячыстая сіла давала ім такія магчымасці, якіх не можа быць у звычайнага чалавека. Калі здаралася нешта дрэннае, лічылі, што гэта ўсё ведзьма. Ведзьма забірае малако ў кароў і наводзіць порчу. Але людзі верылі, што есць і добрыя ведзьмы. Яны дапамагалі

змагацца з хваробамі, маглі выклікаць дождж і інш. К такім жанчынам вельмі рэдка хто заходзіў. Жылі яны звычайна дзе-небудзь у канцы вёскі або ў лесе. Дзецям не пазвалялі і блізка падыходзіць да іх дома. Калі хто-та хацеў звярнуцца да вядзьмаркі, то рабілі гэта ціха, каб ніхто не ведаў. Людзі лічылі, што такіх жанчын трэба знішчаць. Каб назаўсёды знішчыць ведзьму, трэба яе спаліць разам з хатай.

***Запісана ў в. Зеляночы Калінкавіцкага р-на ад Салук Вольгі Пятроўны, 1926 г.н., студэнткай Шклярэнка Т. (2001 г.)***

Ведзьмы збіраюцца на Івана і ходзяць выцягваць малако з каровы. Калісь пан спаймаў яе і абстрыг налыса. Яшчэ абтыкалі крапівай вароты, бо яна раздзяецца нагала, то, каб яна абпеклася і не высасала карову.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н., студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Калдуны – тыя, што прырабляюць, прычароўваюць. Калісь у жыце завітку завязвалі, на што-та прычараваць трэба было. Быў чалавек, што ўмеў адрабляць гэтыя завіткі, аднасіў пад крыж на кладбішчэ. Дак тая, што рабіла, прыбегла прасіцца на кладбішчэ, ён кажа, што позна, дык яна прыбегла дадому, села на прызбу і памерла.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н., студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Жыла баба ў нас. Знахарка была. Доўга не ўмірала. Людзі падзіўляліся, што бабка старая і не ўмірае. Мучылася яна. Ехалі цыгане вуліцаю, астанавілася павозка, вышла адтуль старая цыганка, зайшла ў хату, выйшла і сказала хлопцам лезці на чардак і ўзарваць 2 дошкі на крышы. І калі гэта зрабілі, чорны клуб выйшаў і яна памерла на месцы.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на ад Хмуро Міхаіла Міхайлавіча, 1941 г.н., студэнткай Канцавой І. (2009 г.)***

Ведзьмы, кажуць, да вайны такія былі. Цяпер ужо такіх няма. А тут у нас такая бабка жыла, дык усе казалі на яе, што яна – ведзьма. Дык дзед ад яе ўсіх адшоптваў, усе к яму лячыцца хадзілі. Дражнілі Рухлінай гэтую бабу. Калі бяда прыходзіла, дык казалі, што гэта Рухліна насыпала. От такое было.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на ад Багдановіч Яўхіміі Пятроўны, 1934 г.н., Новак В.С. студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г. (2009 г.)***

Ведзьмы – гэта злыя людзі, якія робяць людзям добрым усякія пакасці. Яны могуць каровам зрабіць так, што яны не будуць даваць малако ці не будуць заходзіць у свой двор. Гэтыя ведзьмы раздзяюцца дагала, ну, гаворац, як маць нарадзіла, або бачаць людзі, як гэтая ведзьма ходзіць жабай або якой другой пачварай.

Расказвалі, што як бачылі такую пачвару і білі яе, то после празнікаў бачылі параненымі. А хадзілі гэтыя ведзьмы ў ноч перад Купаллем, на Прачысту, на Юр'еў

дзень. У купальскую ноч вешалі крапіву-жыжку (гэта крапіва маленькая, з маленькімі лістамі) на дзверы на падваротню ў хлевах. Ведзьмы гэтай крапівы баяцца, бо яна вельмі пяклівая, а ноччу не відна і яны не бачылі яе і абжыгаліся, а пасля, калі абажгуцца, яно вельмі зудзіць. Тагды іх пазнаюць, хто гэта быў.

***Запісана ў в. Савічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Беразоўскай Валянціны Аляксандраўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Бажок І. (2006 г.)***

Есць такія, каторыя электрасенсам авладаюць, так заінцерасуют. Вот, напрымер, вы глядзіце на мяне, і мне хочацца дзелаць то, што вы хочаце. А ведзьмаў няма. Порчаў таксама не бываець. Не веру я. Чаму быць – таму не мінаваць. Еслі тваё шчасце, то шчаслівая жызнь твая. І всё завісіт ат цябе, как ты себя павядзеш. Еслі ты людзям врэд дзелаеш, гэта вазвраціцца к табе.

***Запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на***
***ад Заранок Аляксандры Іванаўны, 1926 г.н.***

Ведзьма, ну, гэта, наверна, нешчаслівая жэншчына, ёй всегда плоха, дак яна тожа хоча другім плахое здзелаць. А як жа па-іншаму? Ведзьма можа мяняцца то ў ката, то ў свінню якую. Ну, это для таго, штоб яе не ўзналі. Калі ў ведзьмы ё дзеці, то яны яе пакідаюць всегда одну. Ой, а яна памірае очэнь страшна, мучаецца долга, наверна, душа яе не можа уйці з этага света.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Курыла Лідзіі Купрэеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Сцёпкінай С., Раманюк В.***

Жыла ў нас Ціхоніха. Яна ўсё я паддзелывала людзям. І малако забірала ў кароў, не даіліся. І дочка ў яе етым занімалася.

Выглядзела як і ўсе: маладзіца красівая, харошая такая, статная. Не атлічалася ад нас.

І аднажды прынесла яна саседу свінку, падгаворанную. А ён знаў, якая яна і знаў, што падгаварыла яе. Ціхоніха пусціла яе ў двор. А ён яе віламі. Дык аказалася, што свінка – Ціхоніха, а прынесла яе дочка. А ён як жа пырнуў яе віламі, яна стала чалавекам, і на наге ў Ціхоніхі былі чатыры дыркі. Яна не выходзіла дзесьці месяц, так зажывалі яны. Ціхоніха прэврашчалася і ў свінку, і ў кошку.

А перад Іван Купала ў яе вутрам, ранечка, заўсегда была абліта сцяна на двары вадой. Усегда так.

***Запісана ў в. Кароцькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленкі Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Ведзьма – гэта нячысты дух. Ведзьма – злая калдунья, жанчына, якая здзеквуецца з нас, з людзей, шкодзіць. Ані могуць загаварыць – і не будзе ўраджаю, стане балець скот, стане плоха чалавеку.

Зараз ведзьмаў не чуваць. А раней, калі я маладой была, іх была многа.

Мне матка мая расказвала. Пашла ана ўтрам карову даіць, а вакруг каровы ходзіць кот. Прыгожы такі. Хацела маці яго пагладзіць, аж ён зашыпеў і проч пабег. З таго дня малака ў нашай каровы не стала, а маці тыдзень хварэла. Ляжала ў пасцелі і маялася, гаварыла, што не кот гэта, а ведзьма была.

Ведзьмы могуць і ў катоў, і ў сабак, і ў каней, і ў вужак садзіліся, а ў вужак ператварацца.

Слышала я таксама ад маці, што на свята Івана Купалы ведзьмы сабіраюцца разам у лесе і танцуюць. Потым расказваюць друг другу, хто больш зла людзям зрабіў. У іх і главар ёсць. Жудасны вельмі, але яго ніхто з нашай вёскі не бачыў ні разу.

Адзінае, чаго баяцца ведзьмы, – царква, малітвы і царкоўныя свечы. Каб засцерагчы жывёлу ад ведзьмы, вешалі над хлявом крапіву, у хляву палілі свечкі і аблівалі жывёл святой вадой.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Каб адагнаць ведзьму, вешалі калінку на Купалу, каб ведзьма не прышла, а хто знаў загавары, дык загаварывалі: “Маёй скацінке Бог даў хвост і шчацінку адганяць мух, камароў і авадней, і ведзьмаў, а таксама ад злых вачэй, сініх і чорных, і зялёных” Вось гаварылі заклінанне, падыходзілі да каровы і білі яе ветачкай.

Во, етыя ведзьмы, што ў кароўкі адбіраюць малачко. Калі кароўку пераганялі той жанчыны, што табе паддзелала, тое малако дык кішыць чарвякамі, кагда яна доя карову. Гэта ў награду ёй. Ё такія людзі, што і аддзелываюць. Нада пайсці к гэтай жанчыне ў дом і паругацца, накрычаць на яе: “Ты ж зачэм ета дзелаеш? Што ж та такое? Як табе ня стыдна!” І потым на парозе трэба пасыпаць соль, кагда ўходзіш і каб яна гэтага не замеціла. Дык тагда, кагда яна пяройдзе ці дзеці, то ўсе етыя паддзелы, якія яна каму зрабіла, варочаюцца к ёй. Вот тады ўжэ яна мучаецца.

***Запісана ў в. Сырск Кармянскага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Ягораўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Ёсць такія людзі “іскажанныя ліцом”, глядзяць на цябе і гавораць: “Ох, як ведзьма”. А як аб’ясніць, не знаю. Гэта людзі такія ўрэдныя. Ведзьмы і шчас ёсць, пастаяннае зло ад іх. Ператварацца яны могуць у што хочаш: у лягушку, у сабаку, у лісу, ва ўсё прыроднае. У прадметы – не, толькі ў жывотнае, усё жывое. Патаму што ўсё жывое, і яны (ведзьмы) жывыя. Я бачыў, як яшчэ малады быў, яна перад глазамі, но ты яе не відзіш, ціпа сон. Не магу аб’ясніць. Ёсць такія людзі. Адна памерла. Хадзіла ўначы, малако магла даіць у каровы.

Як я пасля арміі прыйшоў, яшчэ дарогі не было, асфальту не было, лужы па ўліцэ, як да бабы, маці маёй, ісці, а я гуляць хадзіў, цераз поле ад цэнтра ішоў, не было яшчэ пастроек, нічога не было, толькі старое сяло. Потым цераз поле вельмі страшна было ісці: то сабака паяўляецца, то яшчэ нечысць. А патом сюды ішоў дальшэ, а лужа была возле краста, з леса не загарожана было. Прама выходзіла і пугала. Возле той хаты ідзе за табой нешта. Ты яго не відзіш, ідзёш і не аглядываешся – валасы дыбам становяцца. У той хаце шчас ніхто не жыве, усе паўміралі. І ўжэ не пугае ў тым месцы.

Шчэ, як ісці ў Слабодку цераз лес, там пастаянна пугае. Там цераз полі ісці – і тожэ нешта непанятнае. Багата каго пугала тожэ ў тым маладняку. Яно пугае дзе-та ў час або ў тры часа ночы, тыя самыя ведзьмы цябе пугаюць (яны ж ходзяць ноччу).

Я не ведаю, што ведзьмы робяць, калі чуствуюць сваю смерць. Эта нада спрашываць у людзей пастаршэ. Я толькі 54 гады пражыў, а трэба, каб дзе-та пад 100. У таго і спрашываць, ён можа знаць. Перадаць свой дар ведзьма можа, каму хоча: дзе-

цям сваім, унукам – хто захоча. За таке ведзьмам нада плаціць. Яны сільна плоха ўміраюць. Так ім Бог дае смерць мучыцельную. Ведаю лекарку, тую, што лечыць людзей. Доктар памагае людзям после той ведзьмы. Лечыць розным зеллем.

Ведзьмы і ведзьмакі аднолькавыя, толькі ведзьмакі сільнейшыя, бо мужчыны ўсягда сільней. З сенам Сямён ішоў. Нагроб сена вязку вялікую, здаровы дзед, ды нясе. А дзеці малыя, два хлопцы, узялі і падпалілі ззаду. Дзед убачыў, што гарыць вязка, кінуў. І дзеці памерлі за ноч. Вось усё. Ад ведзьмакоў заўсёды булаўку з сабой насіць трэба. Бліжэй да цела.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Барысаўца Адама Іванавіча, 1956 г.н.,***
***студэнткай Барысавец Ю. (2010 г.)***

Была у нас женщина одна в селе. Все знали, что она ведьма. И вот в одном доме корова заболела и молоко перестала давать. А то та женщина её доила. И вот хозяин однажды увидел её, а она свиньёй стала. Так он её начал бить. А на следующий день та женщина с синяком ходила и кульгала.

Ад ведзьмаў засцергаліся. Берегли скотину. Обкуривали ладаном. Свечёную вербу ложили, яйца пасхальные.

Если корова заболела, то надо найти в дверях в хлеву чи бумажки кусочек, чи что будет затыркано. То её надо вынять, и только во дворе не палить, а на расхожей дороге.

А если ведьма к человеку пристаёт, то идёт когда, а она к тебе навстречу, так нада про себя сказать: “Господь мой, а я твой. Ты впереди, а я за тобой”.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Ето почти тоже, што и ведьма, но ето мужчына, и он больш злой. Он может наслать хваробу на человека, и вот засуху, например. А ещё он привораживает и наводит порчу. И чтобы ето всё потом снять, надо к трём разным бабкам ходить на шепты по три раза.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Ведзьмы – гэта людзі, якія не звязаны з Богам. Яны з чортам звязаны. Яны дзелалі што папала людзям, наўрэд. Яны маглі прэўрашчацца ў любую жывёлу. Каб бароцца з імі, трэба хадзіць у царкву. Ведзьма можа накласці на чалавека закляцце, або падкінуць што-небудзь у двор, каб нічога не вялося. Голымі рукамі гэты прадмет браць нельга. Яго трэба аднесці і ўтапіць або закапаць на перакростку**.**

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Булацкай Марыі Дзмітрыеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына, якая вадзілася з нячыстай сілай. Яна можа насылаць хваробы. Яна можа ператварацца ў сабаку, жука, куру. Яна – дачка дземана. Ведзьмы вельмі шкодзілі жывёлам. Забіралі малако ў кароў. Каб спасці карову ад ведзьмінага

калдаўства, бралі падкову і палілі яе на вуглях дакрасна і кідалі ў малако. І вінаваты адразу прыбягаў, бо ў яго гарэла і сквірчэла ў грудзях, як тая падкова ў малацэ.

А яшчэ секлі асінавыя дровы, неслі іх на скрыжаванне дарог і палілі. А над агнём сушылі цадзілку. Тады прыбягала ведзьма, бо ёй было дрэнна. Яна бегала, мітусілася. І тады чалавек дагадваўся, хто наведзьмачыў яго жывёле. Ведзьма – гэта проста чалавек, які займаецца калдаўствам. У нас была адна жанчына, якая захацела навучыцца гэтаму. Дак яна насіла крэст 40 дзён пад пятой. Патом панесла на рэчку. І там на яе напалі вароны і так яе склювалі, пачці да смерці. Ей параілі ісці да святара, кааб пакаяцца. І ён наказаў ёй 40 дзён насіць младзенца на плячах. Гэта дапамагло.

А яшчэ быў выпадак. Нарадзіла ў нас жанчына. А назаўтра павітуха прынесла роджаніцы хлеба з маслам і соллю, кажа: “На, с’еш – не будзет жывот балець.” І яна адразу забалела, і балела 3 гады. Урачы не дапамаглі, а адна бабка з Гомля сказала: “Шукайце чалавека, які дапаможа. Бабка-шаптуха дапамагла. Хворая спала цэлыя суткі. А ў той час прыйшла да ніх суседка, якая прымала роды і папрасіла малака. Но бабка, якая дапамагала хворай, сказала: “Прадавайце, таму што я знаю многа, а яна знае яшчэ болей”.

Ведзьмы дзелалі многа дрэннага жывёле. Калі карова не дае малака – гэта ведзьміна справа. У нас тады вечарам у калодзеж кідалі скарынку хлеба, в 12 ночы хадзілі лавіць. Трэба было 3 разы выцягнуць ваду і паймаць хлеб. Потым аддавалі яго карове.

Яшчэ ведзьмы плоха дзелалі жыту. Прыходзілі на поле, скручвалі яго. А калі прыходзілі гаспадары і зжыналі яго, то гэта было дрэнна. Будзе балець гаспадар.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Прымак Фёклы Кузьмінічны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

Ведзьмы – гэта жанчыны, якія робяць людзям ўсё плахое. Яны загаворваюць, зглажваюць. Людзі вельмі баяцца ведзьмаў. Ведзьмы маглі прывраштчацца ў розных жывотных: катоў, коз, авечак. Яны жывуць сярод людзей. Абычна яны твораць усе свае пакасці на Купалаў дзень. Ведзьмы жывуць доўга. Але калі ведзьма памірае, трэба ў паталку зрабіць дзірку, каб хутчэй выйшла душа, і тады ведзьма памрэ лягчэй, не будзе мучацца.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Есць калдуны, каторыя наводзяць порчу на чалавека, загаворваюць яго. Потым эты челавек балее. Але есць і добрыя калдуны. Яны лечаць ад загавору, ад зглазу рознымі лекамі, травамі. Такіх звалі знахарамі.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ведзьмай можа быць і жанчына, і мужчына. Пачці ў кожнай дзерэвне ёсць ведзьмы. Абарачвалісь у жывотных. Ведзьмы валодаюць як белай, так і чорнай магіяй, могут ператварацца ў каго захацят.

Быў такі случай. Вышла хазяйка дома да каліткі, адкрыла, а там вялізная рапуха, такіх ніхто нікагда не відзеў. Хазяйка взяла яе і занесла на балоты. Падыходзіць да дома, а рапуха сядзіт абратна каля каліткі. Яна зноў её занесла. Ідзе, а рапуха за ёй. Тады людзі пасаветавалі ёй занесці на балота гэтую рапуху і спаліць. Жанчына так і здзелала. Калі рапуха палыхала ў полымі, то раздаваўся жаночы крык. Перад гэтым у сям'і былі неўзгоды, ругань, праблемы. Не ведалі чаму. А зараз было ўсё вядома: ведзьма паддзелала. Пасля таго, як спалілі рапуху, у сям'е гэтай усё наладзілася.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта злая чараўніца. Яна звязаная з нячыстай сілай. Жыла з людзьмі. Ведзьмай станавілася жанчына, калі ў яе ўсяляўся злы дух. Таксама ведзьмай магла стаць дзяўчына, народжаная па-за шлюбам у трэцім пакаленні.

Некаторыя дзяўчыны пры нараджэнні атрымлівалі веды ў спадчыну ад маці-ведзьмы. Некаторыя жанчыны атрымлівалі веды ад паміраючай ведзьмы. Ведзьмы былі старыя, непрыгожыя жанчыны з гарбатым носам, з сівымі кудлатымі валасамі.

Яшчэ большую моц для сваіх чорных спраў ведзьмы атрымлівалі на Купалу, Тройцу, Благавешчанне, на Вялікдзень. Ведзьмы насылалі на чалавека і на хатнюю жывёлу сурокі. Яны псавалі скаціну, адбіралі ў кароў малако, у свіней – сала, у кур – яйканоснасць.

Ведзьма магла наслаць непагоду, буры, навальніцу, засуху. Каб яна не магла нічога зрабіць дрэннага, хату і хлеб пасыпалі свяцоным макам, у фортку і дзверы затыкалі галінку клёну, асіны, бярозы або ў вароты ўтыкалі зубцы бараны.

Калі чалавеку ўдаецца процістаяць сіле ведзьмы, то ёй становіцца вельмі дрэнна, яна сварыцца і злуецца. За сваю сувязь з нячыстай сілай ведзьма караецца цяжкай смерцю. Яна не можа памерці, пакуль не перадасць свае веды. Разбіралі столь у хаце, каб аблегчыць ёй мукі.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Ведзьма – нячыстая сіла. Старая жанчына, якая абладае магічнай сілай. Толькі яна гэтай сілай не дапамагае іншым, а шкодзіць. Можа мяняць облік, ператварацца ў самых розных жывёл і птушак.

Шкодзіць і людзям, і дамашнім жывёлам. Не любіць шумных гулянак і паяўляецца там, дзе шчасце і любоў. Ведзьму лепш не памінаць, каб яна не ўспамінала пра нас.

Сама я ведзьму не сустракала і, не дай Бог, сустрэцца. А вот гаварылі пра ведзьм многа.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на***
***ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Калдун – гэта звычайны чалавек, але яго ўсе вельмі баяцца. Ён можа зрабіць так, што жанчына не можа нарадзіць дзіця ці яно нараджаецца мёртвым.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Калдун – чалавек, які дзелае добрыя дзялы, ці злыя. У нас у дзярэўні багата іх было. Напыклад, дзед Макар. Дык ён ператвараўся ў чорнага ката. Лячыў людзей, мог хваробу наслаць. Калдуноў не трэба ўшчуваць, бо прыробяць і памрэш.

*Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на*
*ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,*
*студэнткай Белька С. (2006 г.)*

Калдун – гэта чалавек, які дзелае ілі добрые, ілі плахіе дзяла. Выглядзіць як абычны чалавек. У хаце ў такога чалавека ўсягда многа ўсякіх траў сушаных. Такія людзі вельмі цяжка паміраюць.

Жыла ў нас у дзярэўні калдунья бабка Арына. Гаворань, як яна памірала, дык очэнь страшна было. Не магла душа пакінуць яе цела, дык прарубілі ў крышы дыру. Тады яна памерла, а сама ўжэ аж патрэскалася.

*Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на*
*ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Белька С. (2006 г.)*

Ведзьма магла з'явіцца ў абліччы кошкі або кола. Калі яна прыходзіць, каб зрабіць што-небудзь з гаспадаркай, то з'яўлялася ў выглядзе ката. А калі прыносіла няшчасце ў хату, то ў выглядзе кола.

Яшчэ, маці казала, што жанчына-ведзьма, якая жыла ў іх сяле, заўсёды хацела нашкодзіць жыту. Яна кожны вечар хадзіла на поле, дзе расло жыта і заламвала самы высокі сцебялёк і выходзіла з жыта з ім. Потым кідала на зямлю і затаптвала.

Таксама ведзьма прыходзіла і ў хлеў у выглядзе кошкі і забірала малако ў каровы. Яно ўсё вылівалася на пол. Ці ў час пашы магла гэта зрабіць, тады карова прыходзіла да гаспадаркі без малака.

*Запісана ў в. Хамянкі Нараўлянскага р-на*
*ад Яфіменкі Барыса Ціхановіча, 1929 г.н.,*
*студэнткай Лазарэвіч А. (2005 г.)*

Ведзьма – гэта жанчына, якая робіць людзям зло: прырабляе што-небудзь, наводзіць порчу. Калі ў доме завялася ведзьма, то ўжо ўсе жанчыны будуць валодаць чорнай сілай, бо яна перадаецца з пакалення ў пакаленне.

*Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на*
*ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,*
*студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)*

Пра адную такую жэншчыну-ведзьму расказвала мне мая маці. Звалі ее Даніліха. Ена ўсім людзям прырабляла: і на хазяйство, і на хату, і на людзей. Напаследку ена захварэла. Дзесяць кілометраў паўзла ена на голых каленцах па шараку (дарога, якая пакрыта лёдам), уся сцежка була ў крыві. Так ена адбувала грахі, што багато людзям прырабляла. Ена і свайго кума навучыла етаму.

А шчэ було ў нас такее пры маёй памяці. Казалі пра адну бабу, што ена ведзьма. У ее карова давала больш малака, чым у каго. Калі пасля зімы вуганялі первуй раз кароў, то гэта баба перацягвала ніткаю вуліцу. Усе каровы ідуць цераз етую нітку, а ее – не, бегіць назад у хлеў. Колькі кароў перайшло, столькі і малака сабе забрала.

У купальную ноч, казалі, бегаюць етые ведзьмы па селу распейсачаные, у плацціях. Шукаюць да екого хлева падайці, штоб прырабіць. Хлапцоў і дзевок у клубну гулянку не пускалі, а то ведзьма спужае. І калі памірала етая баба, то ее карова раўла

ўсю ноч і ўвесь дзень. Пасля смерці ля ее хаты ўсякіе страшэнные случаі булі: і капа сена ішла, і аб сцены хат нехта стукаў, у хаці ўсё параскіданае було. Вот такая ведзьма була. Ой, багато іх було ў нас у селе.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына сталага ўзросту. Адзета заўсёды ў чорным, чорныя валасы, цёмныя вочы, худзенечка. Жыве сярод людзей. Вядзьмарскі дар перадаецца ёй ад сваякоў, якія тожа былі ведзьмакамі. Калі ведзьма памірае, то робяць прабоіну ў крышы, каб дух яе не мучыўся, а выйшаў. Яна бярэ пры смерці за руку таго, каму хоча перадаць дар чортаў і перадае.

Ведзьма робіць шкоду людзям харошым. Ператвараецца ў свінню, калясо, барана. Пужае. Любіць надламваць жыта, і тады яно прападае. Кажуць, як пабачылі яе ў якім абліччы, то трэба яе паўрэдзіць, а назаўтра ўбачым, хто гэта быў. Трэба ў Бога верыць і хрысціцца, тады нечысць прападзе.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Ведзьмы – гэта жэншчыны, якія могуць прэўрашчацца ў усякае і рабіць шкоду людзям і жывотным. Выглядаюць яны так: абычная жэншчына, адзета абычна ва ўсё чорнае, вочы зялёныя. Асобенна страшныя ведзьмы на Юрая і ў Купалле. Гуляюць яны тады. Гавораць, як пасмотрыш на Купалу, што будзе каціцца калясо па дароге ці свіння будзе бегчы, то нада перакрэсціцца.

На святую Тройцу вешаюць кляновыя веткі на вокнах і дзверах, каб ведзьмы не пасяліліся ў хаце. А ў хлеве на дзверы ложаць крапіву-жычку і малы каменьчык, каб карова не хварэла.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Вядзьмарка – жанчына, якая мае сувязь з тым светам. Яна вялікай магічнай сілай валодае. Калі яны паміраюць, то крэпка мучаюцца і трэба, каб ім прабівалі дырку ў паталку ці адкрывалі комін.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Войтавай Юліі Пілiпаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта худая, высокая, з чорнымі валасамі і цёмнымі вачыма нестарая жанчына. Яна перакідваецца ў ката. У вёсцы людзі заўважылі, што ў кароў пачало прападаць малако. Калі хазяйка ішла даіць карову раніцай, то ў яе каровы не было малака, хоць каровы былі здаровыя. І па вёсцы пайшоў слух, што ведзьма высосвае ў кароў малако. Людзі не знаді, хто гэта. Усе пачалі кожную ноч сцерагці ў хляве сваю карову. Дзядзька Міша ўзяў у рукі вілы і прытаіўся ў хляве. Пасля 12 часоў ночы ў праходзе з’явілася вялікая чорная кошка, недзе ростам з метр. Яна падыйшла да каровы. Карова стаяла спакойна. Кошка ўзяла ў рот дойку і пачала смактаць малако. У гэты момант дзядзька Міша выскачыў з вугла хлява і ўдарыў віламі па галаве гэтай кошцы. І раптам пачуўся ні то жаночы ўскрык, ні то кашачы. І гэта чорная кошка ўцякла.

Дзядзька, прыйшоўшы ў хату з сарая, расказаў сваёй сям'і, што трэба глядзець жанчыну, якая будзе з перабінтованай галавой. Прайшло тры дні. І толькі потым дазналіся, што гэтая жанчына жыла па-суседству. Звалі яе Марыйка. Усе ўгадалі яе па тым, што, калі яна выйшла на вуліцу, у яе была перабінтаваная галава і вока. Дзядзька Міша ёй выбіў вока. А потым гаварылі ў вёсцы, што ёй гэтыя чары перадала свякруха, якая памерла. Яна таксама займалася гэтым.

***Запісана ў в. Янкаў Лог Рагачоўскага р-на***
***ад Катляровай Ніны Паўлаўны, 1942 г.н.***
***(перасяленка з в. Броннае Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Ведзьмы – гэта людзі, ў якіх многа злосці. Ані всегда стараюцца здзелаць людзям плоха. Ведзьмы стараюцца адбіраць у добрых людзей энергію, тады чалавек становіцца вялы. Ведзьмам, калі яны абіжаюць людзей, становіцца добра. Яны дажа не ходзяць у цэркаў. А калі заходзяць туды, то ім становіцца плоха, іх ламает.

У маёй знаёмай у дзярэўні ведзьма жыла. І калі яна шла міма яе хаты, ведзьма кідалася на яе, сварылася з ёю або віхр вакруг яе ног падымаўся. І вось, калі яна шла міма яе хаты, то брала з сабой у сумачку нож. То тая ведзьма нічога зрабіць ёй не магла. Яна бегала вакруг сваёй хаты і беснавалася.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Вядзьмарка – чалавек, які падпітваецца энергіяй добрых людзей. Калі здараецца адчуць ведзьму, то трэба пасыпаць свечаны ў цэркві на Макавей мак. Пасыпаць мак трэба ў такім месцы, каб не вымеўся. Сыпаць прыгаворваючы: “Сею святы мак, хай будзе ўсё так. Як табе гэты мак не сабраць, так маіх дзел не разабраць”.

Калі ззаду цябе знаходзіцца чалавек і адчуваеш, што табе становіцца дрэнна, трывожна, то трэба прачытаць пра сябе малітву “Отчэ наш” і скрысціць ногі.

Калі ад “дурнога глаза” стане плоха, трэба абцерці левым бокам нацельнай сарочкі твар і цела і каўтануць тры разы святой крашчэнскай вады. Гэта дапамагае.

Бывае, дрэнны чалавек паглядзіць на малое дзіця, яно пачынае плакаць, крычаць. Гэта на яго напалі “крыксы”. Тады дзіця клалі на чарэн печы, а маці ягоераступала сюды-туды са словамі: “Якая маці радзіла, такая адхадзіла”. Дзіця супакойвалася.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Ведзьмы былі. Вось ідзе такая жэншчына, пагляне на каго зло, дык што-небудзь здараецца. У нас была адна жэншчына. Падышла к нам і кажа: “У вас такая маленькая карова, а малака многа дае. А ў мяне бальшая, а малака мала”. З таго часу і прапала ў нашай кароўкі малако, яна зглазіла. Ад гэтага пашаптаць нада загаворы.

Знешне ведзьмы нічым не выдзяляюцца. Выглядзяць як і просты чалавек. Але ёсць і другія. Гэта бабкі-шаптухі. А яны дапамагаюць. Вось пілэпсія, дзецкая балезнь. Прафесары не лечаць, а бабка прыйшла, пашаптала, і ўсё прайшло, як і не было. Шчэ лечаць іспуг, зглаз. Вось наш сын іспугаўся. Калі малы быў. Не есць, не п'е, сядзіць красны, як рак. Спросіш, нічога не баліць. Пазвалі бабку. Яна стала маліцца, шаптала нешта. Не прытронулась да яго, а ён выздаравеў.

Яшчэ была адна хворая. На сценку дзярэцца – так плоха. Дажэ сам урач бабку па-

саветаваў. Ведзьма можа здзелацца сабакам, можа – катом. Прыбягіць у хлеў к карове, высасе ў ёй малако. Яно прападзе. Можа яшчэ зрабіць, штоб жыта не радзіла Пойдзе ў поле ноччу, нашле дух які, нагаворыць, нашэпча і пойдзе. Таму няма ўраджаю.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Куляшовай Н.І., 1939 г.н.,***
***студэнткамі Глазковай М, Пісарэнка С. (2002 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына, яна забірае ў кароў малако, яна можа браць след, і чалавек потым памірае. Дзелаюць вельмі многа і людзям, і каровам, каб яны балелі. Кажуць, што лягчэй злавіць ведзьму ноччу ў Юр'я.

Вось недалёк жыў чалавек, было ў яго шмат кароў, і стала ў іх прападаць малако. Вось у ноч пад Юр'я завёў кароў у загон, калітку не закрываў, каб даць ход ведзьме, і глядзіць, што будзе. Ноччу штосьці прыбегла, а ён ёй – пятлю на шыю і прывязаў к дрэву. Зайшоў у хату, прыходзіць, а яе ўжо няма. Болей не прыходзіла.

Ведзьмы, калі паміраюць, доўга пакутуюць, тады ўзрываюць у паталку дошку. Дошку ўзрывае хтосьці. Еслі ведзьма не перадала чалавеку сваю сілу, то гэта павінен зрабіць нехта з родных. Еслі перадасць, то памірае нармальна.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Кагда-та гаварылі, што ведзьма ў каровы малако адбірала, як – не знаю, але калі ведзьма прыхадзіла дамой, то "рыгала" ў куўшын, і потым поўны куўшын малака.

Яшчэ я чула, ведзьмы ператвараюцца ў калясо і коцяцца па дзярэўні. Ніхто гэта калясо не трогаў. Людзі гаварылі, што гэта ведзьма. А яшчэ яны дзелаліся кошкамі і адбіралі малако ў кароў. Гаварылі, што аднойчы такой кошкі атрубілі лапу, а то ні лапа была, а рука. Дак ведзьма без рукі хадзіла.

Када-то пасеялі зярно. А ведзьмы хадзілі па каласках і завязвалі вузялкі, каб ураджаю не было.

Знахарка адна была. Перад смерцю не перадала нікому тое, што знала. А яны ж далжны перадаваць. Дак над печчу паднімалі з паталка доску, штоб яна памерла быстрэй.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Грышкавец Вольгі Ільінішчы, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А.***

Знаю, што ведзьмы могуць падлажваць, ну, яйцо, напрымер. Я калі пачаў тут жыць, дак вон Толікава матка з Антоненкавай жылі разам. Дак вызывалі мяне мірыць. Гаварылі, што Антоненчыха заваражвала яйцо і лажыла яго матцы пад сцяну, каб тая балела.

А тая нахадзіла і балела ад гэтага яйца. А аказалася, што гэта кура, прыжала яе, дак яна там і знеслася. А яны ўжо напрыдумвалі.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Асадчага Аляксандра Мітрафанавіча, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А.***

У нас па саседству жыла жэншчына. Яна делала нядобрае – была ведзьмай ці калдуньяй. Хто яе ведае! Дык вось яна нам рабіла і другім людзям такія заломы ў жыце. Прымерна як кукла. Гэтыя заломы нільзя жаць, бо тада рукі ломіць. Я і мой мужык

не сталі жаць жыта. Прыйшлі дамой, расказалі. Мужык такі быў, які спальваў такія куклы. Ён прыйшоў, спаліў і гаворыць: “Больш не надумаецца заломываць жыта і куклу завязываць.” А аднаму зрабіла чалавеку так, што ён сарваў такую куклу. Так і з нагамі, і з рукамі было дрэнна, елі-елі яго адлячылі. І баню тапілі, парылі. Елі прайшло.

А яшчэ расказвалі, што аднажды маладыя хлопцы з дзеўкамі шлі з гулянкі чэраз кладбішча. Ідуць яны сабе, а потым на дарозе паяўляецца чорны кот, здаровы такі. Такія не буваюць. Дык вось, пастаяў трохі і знік кудысьці. Прыйшлі дамой, расказалі бацькам, а яны гавораць, што нядаўна памерла жанчына, якая была ведзьмай. Дык вось цяпер яна ўсім паказваецца ў выглядзе чорнага ката, калі хто едзе чэраз кладбішча.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Лаўшук Наталлі Віктараўны, 1958 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Мне расказвала мая баба. Раней паля дзяліліся на такія паласы, таму што зямлі было мала пасля вайны. Раней баба мая пасварылась з чалавекам, які займаўся вядзьмарствам. Ён меў зло на яе. Калі паспела жыта, яна зжала гэта жыта, а ў ім былі такія заломы, вузлы. Чэраз дзень у яе памірае малы сын. Ён ніколі не балеў. Па савету людзей яна паехала ў другую дзярэўню да знахара. Ён сказаў, што гэтага хлопчыка ўмярцвіў сасед, які зрабіў залом на жыце. Каб астанавіць зло гэтага саседа, трэба памірыцца з ім. Дзе заламанае, трэба казаць: “Мацер Божая, хто заламаў, той ніхай і разломе”.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Возле нас жыла адна жанчына. Яна рабіла людзям плахое. У яе не было целефона, і яна прыходзіла к нам званіць. Зацем яна сільна зачасціла. Эта мяне настаражыла. После её пріхода ў нас дома што-та случалась. То забалее хто-та. А аднажды ў Красную суботу перад Пасхай яна прыйшла папрасіць дзенег. Я адказалась аддалжываць. Ана тым врэменем, выхадзя са двара, шчыпала траву і кідала в стораны. Пры этым што-та шаптала, а патом паварачіваецца і гаварыт: “Еслі не даёш, то аддалжы”. Я не аддалжыла. Ана павярнулась, і прежде чым уйці, паглядзела на мяне. Патом я нескалька мінут не магла здвінуцца з места.

На наступны дзень я рашыла ўбраць у сваёй комнаце. Я атадвінула кравяць, а там сядзела агромная жаба. У яе былі агромныя глаза. Я выкінула яе, а кагда я яе бросіла, ана што-та сабе паўрэдзіла. На следуюшчае ўтра я ўбачыла сваю саседку ўсю перабінтованую.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Дзегцярэнка Кацярыны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына, якая звязана з нячыстай сілай. У суседкі Ганны, казалі, быў гэтакі случай. Побач з Ганнай жыла суседка, на якую казалі, што яна ведзьма. Ганніна карова вярнулася з поля, рыкала не перастаючы, вочы паглядалі кудасьці і, перабіраючы сена, легла на баркан. Дык хазяйка ўзяла святую ваду, паліла з бутэлячкі на крэст тры разы па спіне каровы, затым ва ўсіх вуглах хлява, пасля чаго карова стала на месца, і Ганна падаіла яе, за то, перахрысціўшыся, паблагадарыла Бога.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Ведзьма – чалавек, які не верыць у Бога, а звязан з нячыстаю сілай. Гэтыя людзі могуць налячыць любыя прадукты або ваду, і, калі чалавек паспытае, з ім робіцца абы-што.

Побач жыла суседка Люба, якая пад нашу яблыню, на якой таго году не было ніводнага яблыка, падклала чатыры яблыкі (столькі сама жыльцоў у хаце), але раніцаю дзед спытаўся ў суседа-знахара, што рабіць з гэтым падарункам, той сказаў, што іх трэба палажыць у месцы, дзе сходзяцца чатыры дарогі, і нячыстая сіла адойдзе. Дзед так і зрабіў. А Люба і зараз глядзіць, як там дзед.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Калі я была зусім яшчэ малая, на нашай вуліцы жыла старая жанчына. Звалі яе Феклісія. Усе каровы ў яе былі чорныя, бы жукі. А рогі ў тых кароў такія доўгія і вострыя, як вілы. І вот, як толькі ідуць яе каровы з пашы, усе дзеці, такія, як я, кідаюцца хто куды па хатах. Бо было такое здарэнне з гэтымі каровамі: ішлі етыя каровы дамой, а іх называлі ў нас "рагаткамі", так яны бадаліся. А адна дзевачка гуляла на дарозе ў пяску, і адна з гэтых "рагатак" падскочыла і каланула гэтую дзевачку ў жывот. К знахарцы яе завезлі, і та сказала, што гэтая карова загавораная і ў яе красныя вочы. Лячыла, лячыла, і праз месяц усё-такі прыйшло палягчэнне. Пазней яна ўсіх так дапекла, што ўсе людзі на хутары сабраліся і падпалілі хату яе, а яна ўспела выйсці з агню. З таго часу яе на хутары болей ніхто не бачыў.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Сыч Сафіі Барысаўны, 1911 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Мне шчэ мая мама расказвала, што раньшэ ў нашай дзярэўні шмат ведзьмаў было, да і цяпер яны ёсць.

Ведзьма ўрэд чалавеку дзелае. Штось не панравілася ёй, дык яна тады абязацельна табе што-нібудзь падкіне. У ведзьмаў ё такі дзень, калі яны збіраюцца разам. Патаму ўсе ведзьмы адна аб адной знаюць. І на Івана Купалу яны ўсягда збіраюцца, ета ж іх дзень. Тады нада на дзверы хлева вешаюць крапіўку, нажы, тапары, штоб ведзьма не залезла і не забрала малака ў кароўкі. Але яны могуць забраць і так, толькі на вымя паглядзеўшы. Купалле яшчэ называюць "ведзьмін Іван".

Людзям ведзьма плоха дзелае. У первы дзень маладзіка яна абязацельна што-та здзелае. Яна можа на вецер пусціць, а чалавек схваціць, ці так што паддасць, а ён з'есць, – тады плоха будзе. У вочы ведзьме глядзець нельзя, бо можа зглазіць.

У цэркву ведзьмы не ходзяць. А еслі яна ўжо зайдзе ў цэркву, дак на калені не становіцца. Ведзьмы могуць пераварочвацца ў жабу, у свінню, ката, калясо.

Вот мне мая мама шчэ расказвала, як сядзелі як-та ноччу, ужо запаўнач была, сядзелі ў домі адной жанчынкі, пралі, рагаталі. І тут адкрываецца дзвер, і заходзіць у хату кот, такі касматы-касматы, бальшы такі. Падышоў ён да іх і сеў на прасніцу да адной жанчынкі. А там была бабка старанькая, яна ўсё зразумела, на лапату яго пасадзіла і на двор выкінула. Дак ён тады зарагатаў і чалавечым голасам гаворыць: "Ну, дагадаліся, што выкінулі рана". І ісчэз.

А я чуў вот такую історыю. Гаварылі, як адзін раз бацька з сынам паехалі на сенакос і асталіся там начаваць. Ноччу, пасля 12 часоў, бачуць яны, як ляціць на іх огненны шар. Але дзядзька не спужаўся, схваціў касу і ўдарыў па етаму шару. Назаўтра,

гаварылі, на тым месце нашлі старога дзеда, перарэзанага папалам.

Расказывалі шчэ людзі старыя, як аднойчы гулялі хлопцы з дзеўкамі па дзярэўні. Тут бачуць яны: бяжыць свіння. Дык яны думалі, што ета нейкая ўцекла. Але патом глядзяць, што яна якаясь не такая, дзяўчаткі закрычалі і пабеглі ўцякаць, а хлопцы за імі ўжо. Забеглі яны да адной бабулькі, а ў яе на варотах былі напісаны красты. Тая свіння пабегла да варот, а зайці не можа. Пастаяла яна, пастаяла і гаворыць: “Вот, сукіны дзеці, схаваліся”.

А шчэ бабкі расказвалі, толькі не знаю, праўда ета ці не, што раз ішоў адзін дзед вечарком ужо з работы. Тут чуе ён якісь шорах, аглянуўся ён і бачыць, што коціцца за ім калясо. Тады дзед выламаў з плоту частаколіну і яе ўтыкнуў у спіцы етага каляса. Дык назаўтра ён чуе, што на дарозе нашлі дзеда, заколенага частаколінай.

Шчэ чула я такую історыю.

Аднойчы пашоў дзед на старажоўства, а баба асталася дома. Яна зачыніла дзверы і легла спаць. Тут чуе, што штось у хаце грукнула. Яна абазвалася, але тут успомніла, што зачынілася. Тут на яе штось як наваліцца, бабка ад перапугу чуць не ўмерла. Ета было штось лахматае і цяжкое. Бабулька не ведала, што ёй рабіць, і пачала чытаць малітву. Тут у вачах яе пацямнела, а калі яна ачухалася, то ў хаце нікога ўжо не было.

Мне расказываў адзін дзед, як адзін раз ішоў ён вечарам па уліцы і бачыць, што бяжыць за ім авечка. Бегла яна за ім аж да самага дому. Дзед захацеў загнаць яе ў двор, а яна засмяялася чалавечым голасам і ўбегла. Дзед сільна перапугаўся. Потом яму пасаветавалі павесіць крэсцік на шыю і чытаць кажды вечар малітву “Отче Наш”. І большэ такога не было.

– Мне мая саседка расказывала вот што. Аднойчы ішоў хлопец вечарам з гулянкі, і тут ускочыў яму на плечо кот і гаворыць чалавечым голасам: “Пашлі гуляць па дварам, а то я цябе задушу”. Хлопец сільна перапугаўся і паслухаўся. Адзін двор абышлі, другі, трэці, а ў чацвёртым двары ўвідзеў хлопец той калодку з тапаром. Ён падайшоў да етай калодкі, скоранька ўхапіў ката за ногі і адсёк яму пярэднія лапы, а патом выкінуў яго праз забор. Назаўтра пашоў ён гуляць да таварыша, а той яму і гаворыць: “Штось з мамкай маёй не так”. Пашлі яны ў хату і бачуць: сядзіць цётка на пячы без пальцаў. А патом таварыш сказаў хлопцу, што маці гаварыла яму, штоб ён з ім не вадзіўся.

Чула я шчэ і такую історыю.

Адна бабулька пайшла ў хлеў, штоб ужо падаіць кароўку. І бачыць яна, што кароўку доіць кошка. Етая жэншчына ўзяла палку і перабіла той кошцы пярэднюю лапу. Кошка сільна закрычала і ўцякла. На другі дзень етая бабка пайшла к саседцы, штоб расказаць ёй аб тым случаі. Калі яна зайшла у хату, то ўбачыла, што саседка ляжыць з перабінтованай рукой.

А вот етае было на самым дзеле ў Вышаміры гадоў дзесяць назад. Жыў тут у тое врэмя дзед. Ён быў вядзьмак. Усе етае зналі. У таго дзеда быў унук, ён апасля аб етым усім і расказываў. Казаў ён, што дзед хацеў аддаць яму сваю сілу, ён даў яму цетрадь такую і сказаў, штоб ён ішоў у 12 гадзін ночы ў хлеў і прачытаў етую цетрадзь. Той хлопец пашоў у хлеў і начаў чытать. Чытаў ён, чытаў, і тут началі вакол яго лётаць грабы. Але ж ён чытаў далей. І тут пачалі выхадзіць чэрці з вуглоў. Хлопец перапугаўся і пабег у хату. У хаце гарэла груба, і ён укінуў етую цетрадзь у грубу. Назаўтра ён узнаў, што дзед памірае, і пашоў туды. Але дзед не мог умерці, ён толькі му-

чыўся. Бо ж вядзьмак не ўмрэ, пакуль не перадасць сваё вядзьмарства, шчэ можна прабіць дзірку ў паталку, тады ён умрэ. Дак яны тады прабілі дзірку, і дзед памёр.

Адзін хлопец жыў з мачыхай. Ён любіў адну дзевачку. Але мачыха не дазваляла яму на ёй жаніцца. Аднаго разу хлопец еты ішоў у клуб і ўбачыў, як за ім коціцца сіта. Хлопец узяў і павесіў етае сіта на плот. Зранку ён убачыў, што на плоце вісіць заместа сіта яго мачыха.

У аднае бабулі ў хаце паявілася зялёная жаба, яна з'ядала ўвесь час вяршкі з малака. Бабуля аднаго разу ўзяла і адсекла ёй пярэднюю лапу. Назаўтра, кагда яна ішла па вуліцы, то ўбачыла сваю суседку на лавачцы з перабінтованай рукой.

У аднае сям'і, як аценіцца кароўка, ніколі не было малака. І вот аднаго разу хазяін етай сям'і рашыў падсцярэгчы ў хлеве, куды ета малако дзяецца. І вот апасля 12 гадзін ночы ён увідзеў, як у дзірку, кудой заходзюць куры, у хлеў лезуць чорныя валасатыя рукі. Еты дзядзька ўзяў тапор і ўдарыў ім па руках. Назаўтра ён пашоў да суседа, штоб расказаць пра ета яму, і ўвідзеў, што ў яго суседа адсечаны рукі.

Адзін мужчына ішоў вечарам дамой. Калі ён абярнуўся, то ўвідзеў, як за ім гоніцца свіння. Ён пабег дамой. Калі ён ля каліткі абярнуўся зноў, то ізноў за ім гналася свіння. Тады ён забег у хату, а свіння яму і гаворыць: "Тваё шчасце, што ты трэці раз не абярнуўся, а то я б цябе загрызла". Шлі маладыя хлопцы і дзяўчаты ў клуб і відзяць, што коціцца калясо. Яны ўзялі і працягнулі праз яго шпагат. Назаўтра прышлі яны ў адну хату, а там сядзіць баба, а з рота ў яе тырчыць шпагаціна.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Ох, ведзьмаў багата раней было ў кожнай вёскі, цяпер ні так. Гэта жанчына ці бабка, якая вельмі багата чаго плахога знае і робіць. А рабіць плахое ёй трэба, тады яна жыве, ёй здаровіцца, калі не робіць людзям ці жывёле суседскай плахое – балее. Яна можа і на смерць зрабіць. Рэдка ведзьма можа і добрае зрабіць: дзіцяці нашаптаць ад зглазу, іспугу, але гэта рэдка калі бывае. Ведзьма ператвараецца ў катоў, сабак, жаб. І ў нас жыла ведзьма ў вёскі. Ператваралася ў жабу, сабаку, ката. У яе быў адзін сабака і 3 каты: чорны, рыжы, бела-чорны. У катоў етых такія злыя вочы былі. Адной сям'і яна ўсё плахое рабіла і рабіла. То ў іх дзеці балелі, то жывёла памірала, то мужык з жонкаюругаліс часта. Ну, навучылі гэтага мужчыну, як зрабіць, каб ведзьму праучыць, каб яна ад іх адчапілася. Сеў ён з сякераю каля 12 ночы ў сваём двары (гэта на які-та апрадзялённы дзень было, на поўную луну) і чакае, хто прыйдзе. Сядзеў, сядзеў, глядзіць – сабака з забора прыгнула, чорная, кашлатая, вочы гараць. Мужык не варушыцца. Сабака к сараю падыйшла, а мужык – к ёй да сякерай па лапе папаў, хацеў яшчэ, а сабака так быстра ўцякаць пабегла, што нават і сабакі так быстра не бегаюць. На ўтра ён пабег да гэтай ведзьмы і просіць нагу паказаць, а яна ні ў якую не паказвае. У абед гэтая ведзьма (яе звалі Фёкла, клікалі Пастушыхай) пайшла да медсястры. Яна жыла напроціў гэтай ведзьмы і просіць яе нагу перавязаць. Медсястра глядзіць – такі глыбокі парэз і спрашуе, дзе яна так, а яна адказвае, што секла буракі нажом курам. Ну, яна і перавязала, а мужчыну гэтаму і расказала медсястра, што рана не пахожа на нажавую, сільна глубокая, чуць пальца не засталося, так хтосьці рубануў.

Мужчына на другі дзень зноў пайшоў да гэтай ведзьмы і кажа: "Ты ведзьмарка, я точна знаю, я табе той ноччу палец чуць тапаром не атрубіў. Адчапіся ты ад мяне ды маёй сям'і і жывёлу маю не трогай. У мяне зараз мой хлопец бальны, кідаецца на сцэну

ўсю ноч, лячы яго, бо я цябе, гадзюка, зараз прыб'ю і ніхто не дапаможа!" Яна адказала: "Прыводзь дзіця сваё". Пашаптала, дала вады папіць, і дзіця як дзіця стала, спаць добра стала. А ведзьма гэтая не пазірала болей на той двор, дзе жыла гэтая сям'я.

Ну, етая ведзьма часцей у ката ператваралась і хадзіла ў чужыя двары пакасціць. Калі етая Фёкла памірала – не магла доўга памерці, мучылася. Сабраліс некаторыя мужыкі і зрабілі дырку ў паталку, яна і памерла. Точна ведзьмай была, так усе ведзьмы не могуць памерці, покуль крышу не праб'юць.

Яшчэ ведзьмы на празнік Івана Купала адбіраюць у кароў малако ноччу. Як засцерагчысь ад ведзьмы? Царкоўную свечку з цэркві прынесці, на вялікі празнік узяць і папаліць у кожнай комнаце, на кожным углу і паставіць гэтую свечку ў стакан з зярном на акно ці на стале, і ў сарае таксама царкоўную свечку папаліць. Яшчэ тапор у сарае ложаць лезвіем уверх, каб ведзьма да худобы не дабіралася, і ў хаце можна тапор палажыць, дзе-небудзь у сенцах.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Ведзьма чалавекаабразная. Можа плоха дзелаць чалавеку, ён тады мучыцца. Яна многа знае. Валасы распушчаны, нос вялікі. Бываюць ведзьмы, што паглядзяць на чалавека, і таму плоха. Ведзьмы паддзелываюць і скацінке, каб тая мучылася. Нада тады, каб другі чалавек (знахар) знімаў порчу, нагаворы. Мне Сеня падкінула ў двор клубок нітак, іголак, валос, сцякла, і зараз мне плоха, плоха себя чуствую.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Пашкоўскай Марыі Максімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ведзьма – знахарка, можа дзелаць загавар на карову, каб тая не даілася, тады клалі крапіву, каб ведзьма не ўлезла, пасыпалі пяском возле парога хлява. Яна была абыкнавенная жанчына, но магла рабіцца ў ката, сабаку, свінню, мыш. Яна дзелала, штоб плоха жылі людзі, штобругаліся, а жывёла штоб дохла.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Герыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ведзьмы ці калдуны – гэта плахія жанчыны, якія могуць насылаць на чалавека хваробу, а ў дом – усякія няшчасці, смерць. З віду яны такія, як усе простыя людзі. Закалдоўвалі яны, канешне, не ўсіх, а толькі тых, хто з імі не ладзіў ці пасварыўся, ці каб за што атамсціць. Мая яшчэ матка расказвала, калі яна была маладая, у іх быў такі случай. Адна ведзьма закалдавала мужчыну ў ваўка на год. Ён збег у лес і там жыў з ваўкамі. І калі праз год ён, раскалдаваны, прыйшоў дамоў, то расказуваў, як там жыў. За гэты час ён стаў худы, стары, зарошчаны. З ваўкамі ён дружыў. Калі знаходзілі якую быдлячыну, ваўкі яе елі, а ён – не. А есці хацелася. І ён ноччу хадзіў к сабе дамоў і заглядваў у вакно, ну, асцярожна, каб ніхто яго не ўбачыў. А ён бачыў сваіх родных, што яны робяць. Яны сталі падазраваць, што гэта ён ходзіць, таму што часта чулі, што хто-та шкрабае па сцяне, па шыбцы. Тады радня ў гумно насіла яму яду і піць. Мабыць, патаму ён выжыў і вярнуўся дамоў. А калі ведзьмы былі ўжо старыя і падыходзіла ўрэмя паміраць, яны стараліся перадаць каму-та другому сваю моц, бо доўга мучыліс. А каб яна не ўспела нічога перадаць і хутчэй памерла, з яе хаты зрывалі крышу.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***

***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Ведзьма ўначы крадзе малако. Яна магла дзелацца катом, сабакам, свіннёю. Каб ад яе засцерагчыся, у хляве дзелалі дзірачку, каб кот хадзіў і пугаў знахарку.

А мая матка мне расказвала такую гісторыю. Жыў некалі ў нашай дзярэўні чалавек Архіп Балубка. Каля яго жыла жанчына, добрая такая, заўсёды прыветлівая. Аднойчы праснуўся Архіп ад грукату: бы на яго полі конь бегае. Пайшоў, паглядзеў: так, бегае па ягонаму полю кабыла. Узяў ён вяроўку ды злавіў яе. Здагадаўся Архіп, што перад ім ведзьма. Тады ён гаворыць ёй: "Ну кабылка, зараз я цябе падкую!" І давай яе падкоўваць. Вярцелася тая, вярцелася і пачала прасіць, каб Архіп яе адпусціў. А раніцай Архіп убачыў, як суседка выганяла карову, а рукі ў яе былі перавязаныя.

***Запісана ў в. Коззе Рэчыцкага р-на***
***ад Шынгірэй Юліі Дзмітрыеўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Ведзьмаю магла стаць знахарка нейкая, нячыстая душою. А абараціцца магла ў змяю, свінню, чорнага ката, ды і ў каго хочаш магла пераўтварыцца. Калі патрапіла да каго ў хлеў, то малачка ў кароўкі не будзе, усё ж высасе. І ў хату магла ўлезці праз комін і нарабіць шкоды. Калі былі малыя дзеткі, то іх стараліся абараніць. Для етага над калыскаю вешалі цацкі розных звяркоў і пцічак. Каб ведзьма ў хату не трапіла, трэба на ноч закрываць комін. Некаторыя ведзьмы, калі зноў чалавекам станавіліся, то не помнілі, што і рабілі. Балелі пасля етага сільна, мо, суткі ляжаць, падняцца не могуць, покуль не ачухаюцца.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Луцко Лізаветы Фёдараўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Калдун – гэта можа быць і жанчына, і мужчына. Яны плахія людзі, зелле могуць такое зрабіць, што можна выпіць і памерці, гадаюць, порчу наводзяць. Іх зараз развялося багата. У іх багата катоў у хаце жыве.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Ведзьмы – ета такія жанчыны, якія могуць зрабіць дрэннае, добрага ад іх не дачакаешся. Яны вучацца па розным чорным кнігах. Часта яно перадаецца з пакалення ў пакаленне. Так ета здараецца таму, што калі ведзьма памірае, то ёй вельмі дрэнна, а калі яна перадасць усе свае веды, то паміраць ёй лёгка. Калі ведаеш, што той ці другі чалавек вядзьмак, то, значыцца, не трэба пра ета нікому гаварыць, а то яна зробіць дрэннае ці тому чалавеку, ці яго блізкім, ці яго жывёліне. І у нас у сяле ёсць адна, але з ёю размаўляць ніхто не хоча. Помню, калі маладая я была, гуляць хадзіла, а ў яе матка яшчэ была жывая. Іду я з гулянкі, а ў іх усе дзверы адчыненыя, матка яе сядзіць на лаўцы з свечкаю і бубніць нешта. Мне нешта страшна стала і я ўбегла. А назаўтра ва ўсім сяле пачалі куры дохнуць, дык і не хворыя ж былі. І калі матка яе памерла, то ўсё дачцэ перадала. Вось яна цяпер тожа нешта магічыць: то аднаму нешта зробіць, то другому. Ей ніхто не можа нічога сказаць, бо баяцца.

А яшчэ мне маці расказвала, што калі мая старэйшая сястра захварэла, то павяла яна яе ў бальніцу, а ноч ужо была, дык, каб хутчэй дайсці, пайшлі праз могілкі. Ідуць – і маці заўважыла, што ходзіць там бярэменная і смяецца. Маці спужалася ды

быстрэй пайшла адтуль. А на сяле была толькі адна бярэменная. Але маці нікому пра гэта не казала, толькі мне ўжо пазней расказала.

**Малітва, каб ведзьма не шкодзіла**

Хрыстом хрышчуся,
Хрыстом васкрашаюся.
Крыў Бог зямлю травою,
Дзерава карою.
Рыбку лускою.
Так пакрый, Госпадзі, мяне
Рызай святою.
Амінь.

Калі ведзьма была ў тваёй хаце, карова магла не нарадзіць альбо ацеліць хворае цяля.

Калі пахалі ў гародзе, можна было ў зямлі знайсці чырвоныя яйцы. Ета значыцца, што ведзьма паклала. Трэба было на скрыжаванне выкінуць такія яйцы.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Не знаю, ёсць ведзьмы ці не, але ў нас у дзярэўні была бабка, якую звалі вядзьмаркай. Злой сільна была. З усімі ругалася пастаянна. Судзілася з суседзямі за тое, што з іх дрэва на яе агарод грушы падалі. Дык порчу на карову навяла, каб малака не давала. Казалі людзі, як яна вечарам у лес хадзіла за нейкімі траўкамі, шаптала нешта пад нос сабе. А бабка яшчэ мне расказвала, што раней у іх была ведзьма. Дык тая і порчу на людзей наводзіла, і малако ў кароў высосвала. А калі ёй хто што-небудзь плоха скажа, дык возьме нейкіх нітачак, запутае іх, пашэпча і кіне пад забор тым людзям. А потым абязацельна бяда прыходзіла ў тую хату. То дзіця захварэе, то загарыцца нешта. Тую бабку колькі разоў каменнямі закідвалі, а ёй хоць бы што.

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на***
***ад Васілеўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Варапаевай В. (2006 г.)***

Зараз ведзьмаў нямашака ў нас. Але цётку маю некалі так называлі. Яна жыла ў другой вёсцы, але і да нас даходзілі ўсялякія чуткі. Но была яна добрая ведзьма, зла нікому не рабіла. Але ж усё роўна баяліся яе вельмі. А яна траўкі ўсякія сушыла, а потым лячыла людзей. Загаворы ведала, магла зубы зашаптаць.

Памятаю, што яна гаварыла, што трэба збіраць травы адвячоркам або раніцою і абавязкова той парой, калі маладзік бывае па начах на небе. Казала, што трэба прасіць зямлю, каб тая дала добрую траўку, каб лячыла людзей, а зла не рабіла.

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на***
***ад Почапень Ніны Васільеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Варапаевай В. (2006 г.)***

Раньша ж што тварылася з старымі ведзьмамі! Цяпер жа, так калі нейкі знахар ці знахарка, дак яны не настаяшчыя, толькі за грошы! А тады, у колішнія часы былі ведзьмы. Ох, і баяліся ж мы іх.

От, помню я, ішлі хлопцы. І ішоў нейкі дзед. Дак той адзін хлопец зрабіў падножку старыку, ён упаў, а потым развярнуўся і гаворыць: “Я табе пакажу, ты ў мяне яшчэ пабачыш!” Пасля гэтага як пачне ўжэ круціць у 12 часоў таго хлопца. Кідала яго нячыстая. Толькі ўжэ не знаю, як яго вылечылі.

А яшчэ знаю, што ведзьмам трэба было ці раз у год, ці калі, рабіць яку-небудзь шкоду на чалавека. Баяліся мы падвея. А эта такі вецер, у які ведзьмы шапталі. Калі віхор, то ета тожа ведзьмы рабілі. Баяліся, каб той віхор у хату не заляцеў.

А яшчэ жыў раньша тут во, дзе мой двор, дзед. Хацеў ён судзіцца з раднёй, адсудзіць сабе зямлі і пайшоў да знахаркі спрасіць, ці нада гэта рабіць. А тая гаворыць яму, што не трэба, бо вы будзеце сватамі. І на самым дзеле, так і стала. Значыць, праўду гавораць знахаркі.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Тукач Марыі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

Прадавалі людзі карову, а тыя, што купілі, узялі навоза ў дварэ ці ў хляве. Тады ў тым дварэ, дзе прадалі, не стала вабшчэ весціся хазяйства. Ім сказалі, што ўсё пройдзе, еслі вывядзецца ўся худоба з прададзенай каровай.

Эта ўсё расказвала знахарка. Яна хадзіла ў цэркаў, якая была там, дзе шчас клуб стаіць. Нескалькі разоў яна начавала ў нас, і я помню, што яна распавядала нам. Яна была чарнакніжніца.

У адной маладзіцы сільна мужык балеў. Тая ўжэ і не знала, што рабіць. Прыйшла да гэтай знахаркі, а яна кажа, што мачыха маладзіцы зрабіла з мужыком нешта. Ня помню, здаецца, брала нейкія дубчыкі, зямлю з кладбішча, ужэ варажыла. Знахарка сказала маладзіцы, каб тая ўзяла сала, малака і сахара і нешта пашаптала, а потым дала мужыку. Вечарам паеў той, а ўтрам праснуўся, ды ўжо як падменены, па імені дажэ не называе.

А вот жа як прадаеш карову, дык трэба акуратна глядзець за пакупацелямі. Быў і ў мяне случай. Купіла ў мяне суседка карову, а пака я адвярнулася, узяла ды й выцягвае з веніка дубчык. Кажа: «Паганяць карову буду». А я кажу: “Не, я хачу, каб і ў мяне вадзілася”. А калі купіш карову і гоніш яе першы раз на поле, дак нада павязаць ёй красную вяровачку ці трапку, каб не зглазілі.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Тукач Паліны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

У аднае бабы з нашай дзярэўні, Анюты, былі 2 нявесткі. А яна знала ўсе забабоны і хацела, каб тыя падчыняліся яе сынам. Калі младшы сын паехаў ужэ ў сваю хату жыць, то стала нешта нявестка балець. Не знала яна, што ўжэ і рабіць. Пайшла да бабы-знахаркі, а та ёй сказала, што свякруха нешта ў падушку палажыла. І на самам дзеле, свякруха ў новую хату сыну дарыла падушкі. Прыйшла нявестка дамой, распарола падушку, аж у ёй нейкія клубкі, натыканыя іголкамі. Але ж гэта ж Анюта адзін раз пажар патушыла. Гарэў у саседзяў хлеў, агонь ужэ і на хату перакінуўся. Дык Анюта з іконай Мікалая Чудатворца абашла некалькі разоў хлеў, нашэптваючы нешта, мо, малітву, а мо, што другое, і хата патухла!

А была і са мною жа вот што. Ішла я адзін раз з вячорак. Ну, вот сядзім мы, са-

біраемся ў якой хаце, каб весялей было. Усягда са мной ішла саседка, а той раз яе не было, пайшла я адна. А позна было, дзе-та 12 часоў. Падхожу я да перакростка, каб павярнуць да хаты, і тут нешта серае, клубок такі, як пачаў перад нагамі лятаць, да так быстра. Я спужалася, а яно не дае і шагу ступіць. Дык я ўзяла ды перапрыгнула. А пасля гэтага як стала мне плоха, што дажа скорую вызывалі. Калісь жа абракаліся людзі. У каго, бывала, адно за адным балеюць дзеці і паміраюць. Дык бацькі паўзлі да цэркві на каленцах, а патом яшчэ і вакруг царквы 3 разы.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Масальскай Анастасіі Карпаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

Ведзьмы голыя раздзяюцца, бегаюць по дворам, по хлевам, штоб спокусіць корову. Говорылі которыя, шчо нада на плоту поставіць гэтыя кувшыны і туда само молоко наліць. Багато етых ведзьмаў. Дзе от іх осцерагалісь, то крапіву чаплялі, штоб ведзьма не могла прыйці, свячонаю водой полівалі.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***

От у нас раней людзі казалі, што жыла вядзьмарка. Тут недалёк палац стаяў, там колісь памешчык жыў, але потым памёр, і яна тамака з’явілася, і так яна прыляпілася, так шо жывёла зусім злягла. Каровы не даіліся, некаторыя, мо, мерлі, як мухі. Пятух не пеў уранні. Людзі казалі, што чыйсці хлапец малы, як прыходзіў, каля палаца прылабеніўся да акна і глядзеў, што яна рабіла. Ён потым казаў: галаву з плячэй сымае, расчэсвае і назад ставіць. Потым гэты хлапец некуды знік. Казалі, потым і шукалі яго, наканец знікла, і ўсё тутака. Страшна. Мужыкі і сачылі за ёй. Сядзелі ціхенька і чулі, як яна то рагоча, то плача, то як закрычыць, ды й так страшна, што мароз па кожы хадзіў. Як знікла яна, ніхто не ведае, але калі дзвер у палац узарвалі, толькі птушка якаясь паляцела з хаты, і нічога ад яе не засталося: ні адзёжы, ні пасуды – нічога. Адные казалі, што гэта птушка, якая з хаты паляцела, і была тая ведзьмарка.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Шафарэнка Тацяны Карпаўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Ведзьма шкодзіць скаціне. Можа малако ў яе забраць, а то здзелае так, што тая саўсім можа памерці. Ведзьма – гэта жэншчына плахая, каторая з чортам дружыць.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Калі мы малыя былі, кароўка ў нас была, Сярёдкай звалі. Потым неяк малака стала меней даваць, іссохлася, забалела саўсім, адні рэбры тарчалі.

Аксіння ў нас варажбіткай была, калдавала ўсё ж нешта. Мо й наваражыла ды й карова пачала сохнуць: кожа да косці. Што матка мая ні й рабіла: і віцірынара прыводзіла, і песціла, як дзіця малое, а карова сохла. Тады ва ўсіх каровы ды й скот балеў. Забілі мы сваю Сярёдку. Калі разрэзалі, каб шлунне (унутранасці) выняць, дык матка

казала, што сэрца саўсім маленькае і крыві, як у цялёнка малога. Гэта Аксіння-вядзьмарка ўсё высасала з нашай кароўкі, мо, накалдавала, бо ўсё нешта шаптала, жаб дохлых збірала, гаворацць, варыла штось. Маладыя дзеўкі да яе хадзілі па дурасці, на хлопцаў варажылі, а потым усе ў дзеўках пазаставаліся.

Памерла яна зусім старая, я ўжо Васіліну насіла. Гэта ж столькі пражыць! Тыя, хто хавалі яе, кажуць, яна птушкай абярнулася. Мо, і праўда?

Гаворацць, каб адвадзіць вядзьмарку ад жывёлы, трэба маку свяцонага кругом пасыпаць, яна ўсё не пашчытае і не дабярэцца да сарая ці пуні. Во, мо, так і трэба.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Цьфу, ціпун на яе. Страшная яна, чарадзейка, злая, такая нечысць, што страх. Так во, думаюць, што ведзьмамі становяцца, а я не так думаю. Ведзьмамі раждаюцца. Да вот жанчынка, бабка есць у нас, да ты яе сама знаеш, так вот думаюць, што яна лечыць, не – яна ведзьма. Як хто з маладзёжы ноччу ідзе дадому (а вы ж шумныя). І, як шуміця пад яе вокнамі, так яна карты кладзе – і сразу ж знае, хто шоў, хто крычаў. І ўжэ кляне, праклінае вас, ну, а вы тады балееце – эта яна ўсё. Яны, ведзьмы этыя, звязаны з Сатаною і служаць ім. Могуць што хочаш зрабіць, і каровы, і чалавека, і агарод пракляне – і добра не будзе. З ёй змагаюцца малітваю. Гасподь намнога сільнейшы! Перад смерцю яны хочуць сваю сілу перадаць сваім блізкім. У іх сільна цяжкая смерць. І яны просяць дошчачку на чардак выламаць ці вымесці мусар з парога на вуліцу. Калі гэта зробіш, аблегчыш ей смерць і сам станеш ведзьмаю. А ета грэх.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Я яшчэ зусім малой была, гадоў 10, але добра запомніла. Ужо трохі сцямнела. Сядзела я на лаўцы каля дома. Недалёка быў сліўнік загароджаны. І нешта ў гэтых кустах затрышчала, закалацілася. Я спугалася, але не ўцякла. Раптам адтуль выскачыла свіння і пераскочыла праз забор, а забор быў высокі. Я спачатку думала, што мне паказалася. А калі я маці расказала, то яна мне сказала, што гэта ведзьма ператварылася ў свінню.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Дзед тожа расказваў, што былі яны раз у полі. Сядзяць ля кастра, і тут – жаба, такая здаровая рапуха. Да ўсё к агню: прыг бліжэй, прыг – яшчэ бліжэй, дык дзед мой хацеў прыбіць яе, да як стукнуў. Да толькі лапу адну адсек. А патом была ў нас адна вядзьмарка, дак у яе, ну, якраз после таго рукі не стала. Дак ужэ і казалі ўсе, што яна вядзьмарка.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ведзьма – ета жэншчына, якая ў святы ператваралася ў каго-небудзь і рабіла розную шкоду людзям. Напрыклад, на свята пятроўскага Івана ўсе хлявы абтыкалі крапіваю і замукалі, каб ведзьма не дабралася да ската, а папекла крапіваю рукі. Бо як

дабярэцца яна ў хлеў да каровы, то яна пераставала даваць малако, і ўвогуле скаціна балела. У ведзьмы нават у звычайныя дні вочы адрозніваюцца ад вачэй іншых людзей. Яны неяк свецяцца злыдным агнём.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Был у нас адзін калдун. Не калдун, ну, так, рабіў штось такое. Ну, старыя людзі нешта такое знали. Як выводзім пасвіць карову ў лес, дык яшчэ мой старшы брат хадзіў з гэтым чалавекам. Прыйшоў ён вечарам да і гаворыць нічога не есць, пакуда не скажа. Ну, вот утрам ужэ сагналі ўсіх кароў. Сам стаў на калені, памаліўся Богу. А каровы як укопаныя стаяць. Патом устаў, і пайшла жывёла роўненька за ім. В лесу ўжэ после 12 часоў ён сеў ля пня ды і рэжа сала такімі здаровымі ламцямі. Ну, Мікола што думаў, то і гаворыць яму, а ён і кажа: “То ж, каб спакойна жывёла паслася, нада звера аднаго пакарміць, воўка”. Ну, Мікола казаў, бачыў толькі здалёка. Гэты пастух палажыў сала на пень, а патом прыходзяць – няма сала. Ну, ён і гаворыць: “Сейчас можна спакойна пасвіць, ужо не з’есць кароўку”.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Соф’і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ведзьма – гэта вельмі плахая жэншчына, яна робіцца звярушкай, забірае малако ў кароў і яшчэ, калі пачынаюць зажынаць жыта, то яна робіць заломы і можа плахое зрабіць.

Быў такі случай, што ноччу карова сільна равела, крычала. Калі хазяева туды зайшлі, то ўбачылі ката, які драў спіну ёй так, што карова ўтрам дажэ на пашу выйсці не магла, і ніяк не маглі гэтага ката злавіць. Але ж аднойчы баба яго падсцерагла і парнула віламі ў нагу, а назаўтра сасед, які жыў радам, хадзіў з перабінтаванай нагой. Пагэтаму былі мужчыны, якія маглі паддзелываць.

Ешчо ведзьмы могуць паддзелываць вот так: адной жанчыне, якая была яшчэ маладой, у адзін момант стала плоха, і яна пачала сходзіць з ума. Ну, урачы нічога не маглі здзелаць. Тады мужык пачаў яе вадзіць па бабам, лячыць. Многа яны абыйшлі. І вот, адна вылечыла яе і сказала: “Када прыйдзеш дамой, паглядзі, што ў цябе пад парогам. І калі яны вярнуліся і глянулі на тое месца, на якое паказвала бабка, так там многа наламаных іголак была. Вот так могуць паддзелываць з помашчу іголак ці мусар падбрасываюць загавораны.

Быў у нас і такі случай: жанчына нарадзіла дзіця. Яе мужык шоў дадому з работы і ўбачыў каля хаты выкапаную ямачку, у якой ляжалі 4 бурачкі. Ну, яны сначала не понялі і лапатамі пасеклі гэтыя бурачкі і выкінулі. І так стала гэтай жэншчыне плоха – яна стала сохнуць, балець, і ўрачы нічога не маглі здзелаць, а тут яшчэ і дзіцятка малое. Ну, і аднажды прыехаў бацька гэтай жанчыны і пачаў вадзіць яе па бабкам. І бабка яе вылечыла, а загавор гэты быў такі сільны, што калі гэтая бабка легла спаць, то ў яе хаце падняўся сільны вецер і сразу павыляталі ўсе сцёклы з вокан. Вот так многа ўмеюць рабіць.

Ешчо быў такі случай. Пайшлі мужыкі сена касіць. І вось два мужыкі паругаліся і адзін гавора, што зараз будзеш дзелаць тое, што я скажу. І як стаў іздзявацца, гавора, каб ішоў па вадзе, па траве скакаў. Дык людзі ўбачылі і пачалі на яго крычаць, каб не іздзяваўся над чалавекам. Вось якія бываюць яшчэ людзі гадкія.

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на***
***ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,***

***студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына (а казалі, што яшчэ бываюць мужчыны-ведзьмакі). Ведзьмы могуць рабіць вельмі многа зла, ператварацца ў звярэй ці якую-небудзь рэч. А потым могуць нешта нагаварыць на гэтую рэч і падкінуць яе камусьці ў двор. Тады гэтым людзям можа быць вельмі плоха і ў іх можа здарыцца нейкае няшчасце. Ведзьмы паміраюць вельмі цяжка. Над імі нада разбіраць дах, каб лягчэй было паміраць. І перад смерцю ведзьмам усю сваю моц некаму трэба перадаць.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Ведзьма – гэта жанчына, якая вельмі шмат грашыла. Гэта жонка чорта. Яна вельмі злая і шкодная. Чорт навучыў яе калдаваць і рабіць шкоду людзям. За гэта яе не любяць. Ведзьма ніколі не была ў царкве. Яна наганяе на чалавека розныя хваробы, псуе жывёлам, асабліва карове. Ведзьма крадзе ў яе з вымя ўсё малако, а яшчэ можа нагнаць на яе порчу. Ведзьмы вельмі баяцца крыжа, а таксама малітваў і свячонай вады. Ведзьмы могуць лятаць. Яны лятаюць на качарзе або мятле. Каб засцярэгчыся ад ведзьмы, патрэбна было хрысціцца, і ў царкву хадзіць, празнікі ўсе саблюдаць, соль і хлеб нікому не даваць.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Ёсць нехарошыя людзі – пагаворыш з імі, так сразу плоха табе стане. Яны нядобрае табе пажадаюць і дзелаецца плоха. А яшчэ могуць здароў'е тваё забіраць – у цябе будзе балець, а ў яе здароў'е прыбудзе. Во саседка мая. Я думаю, яна – ведзьма. Ад яе адвярнуліся ўсе людзі. Яна связь паімела з чарцямі. Яны над ёй верх узялі і камандуюць ёй. Яна хоць і хоча ад іх адматацца, ды не можа. Раз ідзець яна і крычыць: "Ай-яй-яй!" І вельмі жаласна. Плоха ёй – гэта чэрці пасылаюць яе да другіх людзей, каб пакасць каму зрабіла. Калі не зробіць другім, дык ёй плоха. Вось крычыць яна і прося вады папіць. А не нада даваць. А я не выдзержала, так яна крычала, і дала ёй. Я яе пажалела здуру. Тады хворая доўга ляжала, пакуль бабка адна не палячыла. З ведзьмай лепш не гаварыць і нічога ёй не даваць. Ад іх нада адмахвацца, як ад камароў. Яшчэ казалі людзі, што ў яе ёсць кніга магічаская. Яна, кніга гэта, перадаецца з пакалення ў пакаленне. Іконы ў хаце ў яе няма ніводнай. Мой муж ужо памёр, а як быў жывы, дык яна так рабіла мне, што ён мяне біў. Пасаветалі мне схадзіць к адной бабе, дык яна вады налячыла і сказала: "Нясі дамоў і прыйдзе к табе той, хто вінаваты." Прыйшла яна і прося вады папіць. А я ўжо ведаю і не дала ёй. А тую ваду, што налячылі мне, мужу свайму дала, і з тых пор ён перастаў мяне біць.

Неўзлюбіла яна мяне сільна. Усё мешает жыць. Пужае мяне часта. То па начах у вакно стукаецца – мо, гэта яна сама, а мо, пасылае якіх пасыльных. Я тады малітвы чытаю проціў яе. То зробіць так, што ў кагосьці карова не доіцца. Паходзя па людзях, малака папрося. Хто дасць, тады карова не даецца даіцца. У сарай, дзе карова стаіць, трэба лажыць крапіву-жыгучку. Ведзьмы тады баяцца. А яшчэ ложаць камень, драч (венік такі з бані), і май, якім на Тройцу хату абтыкаюць і гаворaць: "Грызі, погань, камень, драч і май, а маё дабро не чапай!" 3 разы трэба сказаць.

А раз чорта наслала мне. Я не добра разгледзела, але знаю, ён гэта быў. Карова мая на прывязі была. Чую – раве. Я, добра з віламі была, бягу к ёй. Глядзь – а ад яе па траве чорнае штосьці пакулдыкалася, лахматае, касматае, страшнае. Гэта быў толькі ён, нячысты, чарцяка. І хвост точна быў.

Ад такіх людзей часцей у царкву нада хадзіць, малітвы чытаць. Я раз у двары знайшла клубок пер'я курынага. І з тых пор куры маі нясціся перасталі, а бягуць са двара ды да яе ў двор. І, вядома, нясуцца там. Я зразу не паняла, што к чаму. А тады знайшла той клубок ды спаліла на перакростку дарог. І куры мае сталі, як куры.

Многа яна мне паганага робіць. А мне яе і жалка. Ёй жа тожа гора такое. Вы думаеце, ёй так добра? Ёй яшчэ хужэ, чым мне. Ну, так яна і сама вінаватая.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Тарасавай Яўгеніі Максімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Помню я такі выпадак. Жылі ў нашым сяле мужык з жонкай. Часта яны сварыліся, і ў ніх не было дзяцей. А аднойчы, калі яны пасварыліся, жонка сышла з дому і пайшла, куды вочы глядзяць. Доўга ішла і ўбачыла хатку, дзе гарэў свет. Гэтая хатка адна стаяла ў лесе. Яна туды зайшла і ўбачыла, як ведзьмы і чэрці пляшуць. Потым яна нічога не помніла. А калі прыйшла дадому, то ўся была сядая і белая.

І яшчэ ведаю. Жыла ў нашай вёсцы жанчына. Усе думалі, што яна вядзьмарка. У яе была дачка – красівая дзеўка, але хлопцы баяліся з ёй нават размаўляць, гаварылі на яе: "Дачка ведзьмы". Дзеўка ж гэтая любіла хлопца Міхала. Міхал жа кахаў другую дзяўчыну, на якой і ажаніўся. Хлопец быў трудалюбівы. Не піў, не курыў. Але ж раптам нешта такое здарылася і Міхал пачаў піць, ды й крэпка, пачаў біць маладую жонку. Тая дзеўка нядоўга памучылася і ўцекла да бацькоў. А Міхал гэты недзе знік, і ніхто яго не бачыў. Так гаварылі, што гэта тая ведзьма пастаралася для сваёй дачкі.

***Запісана ў в. Шырокае Чачэрскага р-на***
***ад Грыбанавай Ніны Канстанцінаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Ведзьмы сабіраюцца на Купалу ў адно месца і ляцяць на мётлах. Яна можа абрацiцца ў сабаку, ката, калясо, чорную свінню. Яны хадзілі ў чалавечым абліччы, былі аднак страшныя, кульгавыя. Абычна адзяваліся ва ўсё чорнае. У ведзьмы чорныя косы і вочы такія ж. Яна не тоўстая. Яна заўсёды старая.

***Запісана ў в. Рэчыца Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Белавус Ніны Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Тарасюк Г. (1999 г.)***

Ведзьмы – гэто тые, хто робіць плохо людзям, але гэто і е людзі. Воны перад святлом всегда прыходзяць і што-небудзь просяць: ці соль, ці запанкі, ці хлеб... Як чоловек дасць, то ёму будзе плохо, а як не дасць, то будзе добрэ. Гэтым ведзьмам нельга было ходзіць у цэркву, бо будзе плохо ім і іх дзецям. Гэтыя ведзьмы моглі ўробляць, шо ў сям'і будзе адна бяда.

Некалі ў нашым сяле жыла ведзьма. Яе некаторыя знали, але нічо не казалі. І тут у одное жончыны ў коровы стало пропадаць молоко, корова была бы подояна. І раз вона ў хляве ўбачыла жабу. Гэта жанчына ўзяла нешто гострэ і отрэзала ёй лапу. І потом усё сяло пошло поглядзець на ту бабку. І праўда: у яе была нога ўся порэзана, і яна казала, што яе нехта пабіў.

*Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.*
*ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)*

Ведзьма – чортава жонка. За гэта мае ад яго дар валшэбства. Яны могуць прэўрашчацца ў жывотных, пціц і зямных гадаў. Вона можэ ізвесці со свету. Здоровы чоловек начынае без прычыны сохнуць, марнець і, нарэшце, памірае. Однім своім поглядом ведзьма можа вызваць выкідыш у бярэменнай. Обычно ведзьма мае многа барадавак. А шчэ верны прызнак – ніколі не ходзіць у цэркву. Каб ведзьма не пранікла ў хату ці ў хлеў, трэба ў вокнах, дзверах покласці крапіву, поставіць грамнічную свечку.

*Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.*
*ад Андрайчук Уладзіміра Сцяпанавіча, 1917 г.н.,*
*студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)*

Раней, як і цяпер баяліся чалавека-знахара. Гэто буў такі чоловек, які мог зробіці і кепское, і хорошое. Вот роскажу такі случай. Пажаніла одна сям'я свайго сына Хведора. Хведор узяў собе за жонку Мелаху. Зробілі веселле. Потым прошоў час і Мелаха захворэла, не могла доўга паправіцца, доктуры не памаглі. Паехаў Хведар к знахару. Той сказаў, што яго жонцы зроблена. І тэй знахар одробіў, Мелаха паправілася, а мачоха Мелахі захварэла і аслепла. Яна нічога не бачыла, і на галаве ў яе вырас каўтун. Куды толькі не ездзіў дзед Іван, не мог даць рады. І знахары, да якіх ён звяртаўся, сказалі, што знайшоўся знахар, сільнейшы за іх.

А ёсць такія людзі, якія паглядзяць на чалавека і таму плоха робіцца. У такога чалавека плахія вочы. Можа зрабіць так, што чалавек і не паправуіцца, а памрэ. Кажуць, што калі маць карміла грудзямі дзіцятко, а затым яго адвучала ад груднога малака, а потом яго пашкодавала, да зноў дала цыцку, то такі чалавек плахі на вочы.

А праверыць вельмі проста зглаз. Як выгарыць печ, трэба прынесць з калодзежа вядро вады, нікому не даваць яго пачынаць, а ўзяць корэц вады, пасаліць ваду, укінуць туды 7 вугалькоў гарашчых. Калі зглаз у чалавека, то вугалькі сядуць на дно, прама лягуць каменем, а калі не, то будуць плаваць зверху. Трэба гэтаю вадою помочыць 3 разы вочы, потом зрабіць 3 глатка і вынесці корэц з вуголькамі на вуліцу і выліць на перакрэстную дарогу, і пойці з таго месца, і не оглядацца. Гэтую процэдуру трэба паўтарыць до 3 раз, а колі не поможэ, то трэба шаптаці.

Яшчэ пра знахара раскажу. На Вялікодне на ўсю ночную, калі выносяць плашчаніцу і ходзяць кругом цэрквы, а на трэці раз, як абыйдуць і ўжэ заходзяць у цэркву, то знахары хватаюцца рукамі за рызу папа. Поп вельмі боіцца, і яго обороняюць.

Знахар перад смерцю вельмі мучаецца. Ён не можа памерці, пакуль не одкажэ, што ён ведае, кому-небудзь. У такім выпадку другі раз прыходзіцца ўзрываці стаў, шчоб сканаў чоловек-знахар. А як нясуць знахара хаваці, то трэба дорогу посыпаці асвечаным макам, абсеяць яго магілку або забіці на магіле асінавы кол.

Быў такі случай, што померла адна жонка-знахарка. У яе засталася 3-месячная дзевачка. То шчо вы думаеце, у самую поўнач, прыходзіла ў хату і карміла грудзямі дзіця. І хадзіла да тых пор, пака не абсеялі магілку макам. Як абсеялі, то не пайшла больш.

А яшчэ ёсць шаптухі. Е такія людзі, што шэпчуць і лечаць людзей, калі доктар не памагае. Быў такі случай. Жанчына вела сваю дзевачку 6 гадоў. Выскачыла суседская сабака, скочыла дзевачцы на плечы, парвала косцюмчык. Дзевачка так напужала-

ся, шчо ў самую поўнач спіць у краватцы, плача, і яе падкідывае ўверх у краватцы. Пайшла маці да бабкі-шаптухі. Трэба іці 3 разы: раніцаю, вечарам перад захадам сонца і раніцаю зноў. Бабка памалілася перад абразамі, адрэзала ад бохана хлеба. Скатала 3 шарыкі. Чытала ўголас малітву, шарыкам катала па жывату, гэдак прарабіла 3 разы. Потым гэтыя шарыкі соедзініла. То коб вы побачылі, чого там толькі не навыкатывалась: і шэрсць сабачая, і воласы чалавечыя. Трэба выйсці з хаты, па дарозе выкінуць шарыкі сабакам і без аглядкі ісці дадому.

***Запісана ў в. Цярэблічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Шпакевіч Арыны Радзівонаўны, 1907 г.н.,***
***студэнткай Мохаравай В.***

Ведзьмы былі всегда, во все врэмена. Такіе способносці перадаюцца по наследству ілі от уміраюшчай ведзьмы к тому чоловеку, которы подасць ей руку. У нашым селе на моёй памяці іх не было, былі толькі шэптухі. Но ў шэптухі сіла слабая, ведзьма ж можэ перэкідвацца ў другое сушчэство. Іздаўна росказвалі про ведзьм і ведзьмакоў з тых сёл нашого раёна, которые в лесах. У тые сёла дажэ замуж дзеўкі не хоцелі йці ілі хлопец нявесту браць. Не дай, Бог, не ўгодзіш чоловеку з тых краёў – пойдуць к ведзьмы (воны ж іх добрэ зналі), прыробяць екое ліхо. Праўда, сястра моя була замужэм у тых месцах і мне часта там буваць доводзілос. Так яна казала: “Не показвай шыю, завязвай хустку, бо зурочаць. Тут жэ на каждой вуліцы ці то знахар, ці то калдун”.

Так вот, у тых местах быў случай. Жыла одна баба на вотшыбі от села. До её жонкі, обманутые своімі чоловекамі, ходзілі по прыворотное зелле: вельмі ж прывороты і отвороты знала. Вот однажды і брацíха мое сястры пошла, думала, мо, жызнь дома з чоловеком наладзіцца. Іці трэба було церэз корчы, олешнік. Ваўкоў водзілосо – страх як многа, да шчэ зімой. От вона, на шчасце свое, сякерку маленьку ўзяла. Ідзе смело, подходзіць до хаты знахаркі. Зайшла ў сені ды там ў цемры зачапілася за нешто, ёй подолосо, бы собака велізарны з хаты выскочыў. Вона со страху сякеркой по ём кінула, мабыць, і попала, бо сякерка ў крыві була. Ждала-ждала хазяйку да й ні з чым дохаты пошла. А потом людзі говорылі, шчо ў знахаркі нога моцно россечана була, і хто з людзей по лесе ездзіў, то много воўчых следоў возле хаты её бачылі. Так выходзіць, гэта ведзьма, а не знахарка была, а тая жанчына не па сабаке, а па ведзьме, перакінутай у ваўка, сякерай ударыла.

А самая надзёжная сіла проціў ведзьмы – у сляды, што яна пакінула, гвоздзі забіваць. Тады ёй вельмі баліць.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Ляшкевіч Вольгі Цітаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Ведзьма – гэто чорнокніжніца. Вона подчыняецца сатане, чортам. Шо чорты ёй скажуць, то вона і робіць. Вона Бога не прызнае, у яе свое молітвы. Еслі вона на кого злуецца, то можэ того чоловека за месяц отправіць на той свет. То вялікімі словамі, то віхра по ветру прышле, і той віхор прыйдзе до чоловека, і чоловек заболее, а можэ той віхор і повесіць чоловека, повесіць петлю і повесіць чоловека.

Ведзьма можэ скідацца і ў жабу, і ў кота. Еслі по двору бегае вялікая жаба, то знай – гэта ведзьма. Гэту жабу трэба зловіць і отсекці ёй лапу. І на другі дзень будзеш ведаць, хто ведзьма і хто табе вродзіць, бо та жанчына будзе кульгаць. Але жабу не вельмі-то зловіш. Вот ты яе бачыш, а отвернешса, яе ўжэ няма.

Каб засцерагчыся ад ведзьмы, трэба каб у хаці була сьвятая вада. Трэба новыя голкі повесіць острыем вніз, то еслі вона захочэ шо зробіць у хаці, то гэтыя голкі будуць ей колоць у голову. А голкі затыкаюць у косякі дзьвярэй.

Ведзьмы ўмеюць чытаць мыслі. Вот вона сядзіць у своёй хаці, а ўсё чуе, шо робіцца і про шо говораць у другой. Еслі подкінеш у ведзьміну хату сярэбрану ложку або кольцо, то вона тобе нічо не зробіць, гэтая ложка будзе ёй мяшаць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Ішоў адзін мужык ноччу па лесе. Бачыць на яго кабан бяжыць. А была ў мужыка стрэльба. Ён выстраліў і папаў. Аставіў кабана на дарозе ляжаць. На наступны дзень па дзярэўне слух пайшоў, што ў лесе на дарозе жанчына мёртвая. Прынеслі яе ў вёску і ўбачылі, што гэта жанчына тут жыве. Мужык расказаў пра кабана і ўсе зразумелі, што ана ведзьма. Перад тым як хараніць яе, людзі разабралі крышу ў яе хаце, каб душа ўляцела. Ведзьмамі сталі тыя жанчыны, якія згубілі сваіх родных. Яны служаць чорту.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ад Корневай Валянціны Яшгеньеўны, 1938 г.н., студэнткай Лукашовай А.***

Ведзьмы – гэта верныя служкі чарцей. Яны ворагі людзей. Яны маюць выгляд жанчыны. З апошняга пазванка ў іх вырастаюць хвасты. Калі ведзьма чытае заклёны, то ператвараецца ў розных жывых істот: жабу, яшчарку… І ўсе яны шкодзяць.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Данілавай А.***

Колысь на Купала бyв такы случай. Наш дзід пошов на поле, там було озеро. Дзід хоців наловыты рыбы. Ну вось, наловыв він вьюнів, йдэ, а на дубу сэдзять сорокы, а гэто нэ сорокы, а колдуны. Самоі молодэі вэдзьмы сказалы, шчоб тая подвалыла дзіда і вьюны рассыпалыса. Дзід упав, вьюны рассыпалыса, а сорокы сталы хвататы іх. Потым дзід встав, достав сокёрку і сёкнув дзівчіну по спыны. Забрав вьюны і пошов.

Прашло багато врэмя. Раз дзід поіхав далэко і побачыв тую колдунью, якую колысь сэкнув, у её шрам оставса. Вона вжэ нэ ходыла, а лэжала в гамаку. Во так встрэцёлыса.

Шчэ була в нас суседка, тожэ вэдзьма, із татаршчыны. Вона творыла більш пэрэд Купалам. А дзід наш ходыв на охоту, бачыць, што на дубу сэдыць дзівчіна. Вона злезла, а дзід забрав еі і прывів до хаты за жінку. Вона така була колдунья, шчо еслі хто-нэбудзь влізэ в город і возьмэ, напрымер, капусту, то він будэ стояты на місці з гэтою капустою, покуль колдунья нэ прыйдэ.

Був у гэтоі вэдзьмы сын. І наравылаcа ёму дзівчіна, яку хоців взяты в жінкі. А дівчіна пошла за другого. Тодзі колдунья сказала, шчо воны нэ будуть жыты разом. Алэ прожылы молодыі тыждэнь і хоцілы йты ў пырогы, як молодый занэдужав. В пырогы пошла молодая з свікром, свікрухою. Воны там пробулы до вэчора, ім у подарок далы корову. Прывэлы еі ў двор, корова рікае і молоды вмэр. Тодзі корову відпустылы, а молода похавала мужа і вэрнуласа до матэрі. Потом она пошла за вдовца і дожыла до старых лет. Алэ кажуць, шчэ гэто всэ зробыла вэдзьма. І всі з еі сем’і булы со

странносцямы.

***Запісана ў в. Ласіцк Пінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***адІлькевіч Ульяны Пілінаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Паўлавец В. (2006 г.)***

У нас на сяле раней жыла ведзьма, старая такая бабка. Усе яе страшыліся, бо яна з нячысцікамі дружылася. Усё плахое людзям рабіла. Магла яна і ў жывёл ператварацца.

І вось кажуць, павадзілася яна да аднаго чалавека і ў выглядзе кошкі хадзіць да яго ў хлеў. Пасля етава іх кароўка пачала менш малака даваць. І мужык вырашыў прасачыць, што там адбываецца. Ды і пайшоў ён ды і глядзіць. Прыбегла тая кошка ды – і ў хлеў. Мужык той пачаў глядзець у шчыліну ў дзвярах. Ды і запрымеціў, што тая кошка пачала піць з каровы малако. Дык мужык не сцярпеў, узяў палку ды пабіў тую кошку. А назаўтра ўбачылі тую бабу. Яна была ўся пабітая і кульгала.

А яшчэ етыя ведзьмы маглі чалавека зглазіць, дык потым чалавеку неспакойна, балець нешта пачынае ды спіцца пагана. Дык тады трэба к бабцы, якая шэпча, схадзіць, то яна і вылечыць.

***Запісана ў г. Бялынічы Магілёўскай вобл.***
***ад Селівестравай Таццяны Якаўлеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Чыжук Н. (2004 г.)***

Ведзьма – ета нячыстая сіла. Ведзьмы малако адбіралі ад кароў, паддзелвалі на чахотку, ну, дык чалавек балее, сохне.

Расказвалі, была ведзьма, адкульсьці прыехала. І адна пара ета захацела пажаніцца, і раптам дзеўка стала сохнуць, не ўставала. Адна жэншчына сказала, што відзела, калі Грышу харанілі, дык адна жэншчына палажыла хватаграфію пад галаву пакойніка. Тут матка дачкі пабегла да ведзьмы і стала крычаць на яе. Патом прасілі адкапаць магілу і дасталі хватаграфію. Дзеўка тая і паправілася, а ведзьма тая недзе знікла.

***Запісана ў в. Гатавец Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Салдаценка Феадоры Пятроўны, 1923 г.н.,***
***студэнткамі Казловай Ю., Анісавец Т. (2003 г.)***

## *Дабрахожы*

Памятаю, як маладой шчэ была, дык здарыўся адзін случай са мной. Тады зіма была. Ехаў праз вёску нашу хлапец адзін на конях, ды каля нашага двара ў яго там нешта з коньмі стала. Ну, ён да нас зайшоў помашчы папрасіць. І як толькі ўвайшоў, я тады сразу пачула песню птушыную. Пытаю ў сястры, а яна нічога не чуе. Ну, бацька хлапцу памог, і той паехаў. А пасля пачаў к нам ездзіць, а праз колькі часу я за яго замуж пайшла. І што думаеце, добры мужык аказаўся. Маці мне ўжо после сказала, што тады дабрахожы мне шчасця жалаў. Нездарма маці казала: "Дабрахожы ўлыбнецца – шчасцейка ў дом увальецца".

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Тацяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дабрахожы ў кожным двары ёсць. Калі гаспадары добрыя, то ён ім паказацца можа. Дабрахожы ростам можа быць малым, а можа быць і вялікім, але з твару з гаспадаром адно ліцо. Яго не нада крыўдзіць. От, калі ён разбушуецца, што рэдка бывае, дык нада сесці ды яму песню жаласлівую папець, то і ён з гаспадаром паплача, а потым на сваю злосць забудзецца. А шчэ ён любіць, калі дзеці на дварэ гуляюць. Тады ён будзе за імі сачыць, гуляць з малымі.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дабрахожы можа пра будушчае расказаць, толькі не кожны яго зразумее. Адзін раз у нас случай цікавы быў. Устаў мой хазяін ноччу вады папіць, чую, што войхнуў нехта. Прыходзіць і кажа, што сябе бачыў, але белага і бледнага. Я кажу, што прывідзілася табе. Добра, што к раніцы заснуў. На заўтрашні дзень паехаў рыбу лавіць і каваліўся з лодкі, дамоў чуць жывы прыйшоў. Пасля етага балеў доўга, але потым выздаравеў. Праўду ў народзе гавораць: “Дабрахожы дабра людзям хоча”.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дабрахожага я знаю. Сам ён такі маленькі, беленькі, адны вочкі блішчаць. Ён очэнь пахожы на дамавога. Дабрахожы, нада сказаць, таксама харошы. Ежалі ў сям’і нешта не ладзіцца, то гаспадыні нада на дворы ў куточку пакласці рукавічкі ды штонебудзь з ежы. Ён ніколі не адкажа. Таму людзі яго і любяць. Я на бальшыя святы яму кладу розную адзежу, каб ён да нас лепш адносіўся.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дабрахожы можа жыць і ў хаце, і ля яе. Сам ён маленькі, поўненькі, сівавусы, з доўгай барадой. Дабрахожы жыве з чалавекам, таму любіць, каб да яго адносіліся з павагай. А за такія адносіны ён добра ўзнагароджвае.

Калі дабрахожы дакранецца да цябе цёплай рукой, то будзе ў чалавека добрае здароўе, а калі рука халодная – то чакай няшчасця.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны,1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дамавы жыве ў кожным доме, толькі не ўсім даводзілася з ім сустракацца. Калісьці чула, што гэта дзядуля з барадой, ён вельмі маленькі і таму яго можна не заўважыць нават тады, калі стаіш побач з ім. Але ж, нягледзячы на яго маленькі рост, ён робіць у доме шмат спраў. Ён сочыць за гаспадаркай, за хатняй жывёлай, дапамагае гаспадару. Але ж ён добры толькі да тых людзей, якія клапоцяцца аб сваім жыллі, сочаць за ім. Ну, а калі гэта дрэнныя гаспадары, то дамавы ім проста не дасць жыцця. У доме хазяйнічае ён толькі ноччу. Грыміць талеркамі, лыжкамі, шаркае нагамі, грыміць, скрыпіць дзвярыма. Бывае, што падыходзіць да гаспадароў, якія спяць, глядзіць на іх, нават некага гладзіць, а дзе ён бывае днём – невядома.

Быў у мяне яшчэ ў маладосці такі выпадак. Мы жылі тады ў другой хаце, якая стаяла над рэчкай. Зараз ужо і не ведаю, хто гэта быў, і дагэтуль каму вельмі рэдка расказвала пра гэта. Дык вось што адбывалася. Роўна ў дванаццаць гадзін ночы прыходзіў у мой пакой нехта. Вось адчувала я гэта, а вочы раскрыць баялася. А аднойчы ўвогуле адчуваю на сабе чый-та погляд, а страшна як! Ну, я адзяяла і насунула на галаву, а ногі раскрыліся, голымі засталіся. Чую – нехта на іх дыхае. Ну, не вытрымала я і ціхенька паглядзела. Бачу, што нада мной нахіліўся нейкі старык, сам як з дыму, увесь белы, сяды. А потым неяк сон найшоў. Прачнулася ўжо утрам і думаю: “Нешта са мной учора здарылася”. Начала ўспамінаць.

Хутка мы пераехалі ў другі дом, і больш са мной такога не здаралася. Толькі бывае, знікне якая-небудзь рэч, ну ўсю хату паравернеш – нічога не знойдзеш, тады ўжо і гавару, што дамавога гэта рук справа.

***Запісана ў в. Навасёлкі Гродзенскай вобл.***
***ад Яфімік А.Б., 1927 г.н.***

## ***Дамавік***

Сам я ны бачыў гэтого домовіка. Алэ кажуць, шчо е такі. Він жэвэ ў хаты. Він ны злы, шкоды людзям нэ робяць. Стары дзід, з бородкою, маленькі такі.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Мазоль Міхаіла Васільевіча, 1962 г.н., студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Домовік жывэ ў каждой хаты, у кутку под вініком. Кажуць, шчо він добры, алэ колы яго разозлыты, то він можэ порозбіваты мыскі, пороскэдваты водэжу.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Гарбачэўскай Марыі Іванаўны, 1940 г.н., студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Есць у хаце дух такі, дамовы або дамовік завецца. Кажуць, што гэта старэнькі дзядок сівы, але барада ў яго чорная. Калі ў хаце парадак, то дамовы садзейнічае гэтаму, а калі ж не, то наадварот. Кажуць, што яны не ў ладах з катамі. Кот сядзіць сябе ціха, а тут раптам як ускочыць, шэрсць дыбам як устане і ўцякае. Кажуць, што эта он дамавога ўвідзеў.

Вельмі часта дамавыя жывуць у неасвечаных дамах. Можа быць у людзях і выжыць іх адтуль вельмі сложна. Гэтыя людзі не могуць слушаць царкоўныя песні.

У нас у хаце жыў такі дамавы. Добры быў малы. Мы з ім дружылі. Аднажды леглі мы усе спаць, а печку не закрылі і как-та агонь, ну, лучына вывалілась з печкі, і начала гарэць бумага, не то там ляжала, а мы гэтага, значыць, не чуем нічога – спім. Ну і начало мяне нешта душыць, дыхаць цяжка стала, бацька мой пакойны прыснуўся мне і я прачнулася. Адчуваю палёны запах, ну, я хутчэй на кухню, аж бачу, гарыць бумага на печке. Разбудзіла ўсіх. Патушылі агонь. Вось такі ў нас дамавы добры.

А суседка кажа, цётка Галя, распавядала, што прыязджала да іх яе нявестка і ноччу яна ніяк не магла заснуць: то пол скрыпіць, то пасуда б'ецца, то кашак мудрыць. Ну, яна праснулася і нідзе ні ката, пасуда на кухне ўся цэлая, ката нідзе няма. У тую ноч яна больш заснуць не змагла. І зараз спаць ні днём, ні ноччу не можа.

Вось такі гэты дзядок-дамавік – у кожнага свой.

***Запісана ў г. Пінск Брэсцкай вобл.***
***ад Кароль Праскоўі Сямёнаўны, 1920 г.н.,***
***(раней пражывала ў г. Петрыкаў Гомельскай вобл.)***
***студэнткай Лазіцкай Т. (2004 г.)***

Дамавік – гэта такі маленькі дзядочык з сівай барадой. У мяне ён таксама ёсць. Жыве пад печчу. Ён добры. Ён абараняе хату ад усялякай нечысці. Ён любя пакой.

Я чула, што ў адной сям'і, якая жыла раней у нашай вёсцы, тожа жыў дамавік. Але ў хаце кожны дзень ругань, таму, што мужык добра падвыпіваў. І ноччу, калі яны зноў сварыліся, почуўся нейкі крык і грохат – у іх паляцела вакно (разбілася шкло ў вакне). Прычом сцякло поўнасцю паляцела. Вутрам ёй сказала Мілка, а яна баба знаючая, што гэта дамавік іх хату пакінуў з-за іхніх крыкаў і ругані. Пасля таго і з'ехалі яны з нашай вёскі.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Кухарэнка Любові Захараўны., 1930 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Дамавік – так называлі ў нашых краях дамавога. Цяпер іх няма, воны водзіліса ў старых хатах. Раньшэ людзі булі божые, жылі по-божому. Поэтому Бог ім усякіе чудзеса посылаў. Я заўсёды чула, што дамавік – гэта вуж. У каждай хаце пасяляўся вуж, толька адзін. Жыў у штандартах, под хатай. От людзей не хаваўса. Часта можна було побачыць, як вон вупоўзае. Біць дамавіка нельга.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Бруцкай Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Дамавік – гэта вуж, каторы прыстаўлены к каждаму дому, штобы ахраняць дабро ў хаці. Кажуць, калі сам дамавік (вуж) выпаўзе со свое схованкі ў штандарах і больш не возврашчаецца, то будзе пажар.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***

***ад Ляшкевіч Вольгі Цітаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Раней казалі, што ў кожным доме жыве дамавік-вуж. Трогаць яго нельга. Еслі пад падлогай вуж, то не будзе мышэй, і гадзюкі сюды не прыйдуць – вужы з гадзюкамі не ўжываюцца.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Андрайчука Уладзіміра Сцяпанавіча, 1917 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Раней дамы булі не на фундаменці, а на штандарах. Там, пад падлогай, жылі вужы. Іх звалі дамавікамі. Ён маў валшэбную сілу, ахраняў дом. Забіць вужа-дамавіка – грэх, можа здохнуць карова.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Баган Наталлі Сцяпанаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

Так называюць яго, бо жыве ў кожнага ў хаце. Сцеражэ дом, гаспадарку. Бывае раззлаваюць яго, дык ён пакасціць пачынае. Тады ў хляве непарадак робіцца: жывёлу бударажыць, дзверы адчыніць можа, павыпускае ўсё з хлява. А ў хаце міскамі бразгае, заснуць не дае. Раней было: замесіць цеста маці, паставіць на прыпечак. А яно падыйдзе, ды пыхкаць начынае. А мы ж малыя бегаем па хаце адзін за адным, ніяк маці не можа супыніць. Кажа нам: “Чуеце, як дамавы злуецца, пыхкае. А вы бегаеце тут, спаць не даеце яму”. І па начам пад паліцамі бывае ходзе. Не ўсягда злым бывае дамавік, бывае і добрым. Калі гаспадарка добра вядзецца, дык ён яшчэ і дапамагае, не шкодзіць.

Любіць дамавік пазабаўляцца. Ляжыць кот на падлозе сам сабе. А тут як ускочыць, забурчыць, нікога не бачна, а ён некуды гдядзіць. Дык кажуць дамавік разгуляўся.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Дамавік – гэта істота, якая жыве ў кожнай хаце. Ён можа зусім сябе не праяўляць, а можа ўвесь час паказваць сваю прысутнасць. Усё гэта залежыць ад гаспадара. Жыве ён звычайна пад печчу. Але меліся і іншыя месцы. Пабачыць дамавіка вельмі цяжка. Ён сам з’яўляецца ў той момант, калі хоча аб чымсьці папярэдзіць гаспадара. Былі выпадкі, калі дамавік мог спасці дзіця і нават затушыць пажар.

Звычайна дамавіка ўяўлялі ў выглядзе старэнькага дзядка нізкага росту. У яго абавязкова была барада. Дамавік мог дапамагаць і шкодзіць гаспадару, гледзячы, які быў гаспадар. Дамавік мог пакараць чалавека за які-небудзь грэх. Пры пераходзе чалавека ў іншы дом чалавек запрашаў яго з сабою. Таксама лічылі, што дамавік баіцца чорных катоў.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на)***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Мая саседка бачыла ў кватэры за краваццю маленькага, нізенькага такога дамавога, нізенькага, лахмаценькага. За краваццю паказаўся, дак яна спугалася, стала іскаць, а яго ўжэ не відна нідзе. Ці ён спратаўся, ці дзе падзеўся.

***Запісана ў в. Асарэвічы Брагінскага р-на***
***ад Свірыдзенка Ганны Міхайлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Свірыдзенка Г. (2004 г.)***

Жыве дамавік у кварціры ці ў доме. Як усё ў доме добра, значыць ён палюбіў дом і хазяіна. А ўродзі, дамавік, як кот, уродзі, но можа выжыць з дому. Выжывае сем-’яніна, цягне яго за ногі. І ета са мной лічна было. Калі я пераязджала, то з новай хаты 3 дня за ногі цягнуў з печы, то ён ужо выжывае чалавека. Мяне выжываў з дому, пакуль я не задобрыла яго. А што яно такое было, аж страшна.

***Запісана ў в. Асарэвічы Брагінскага р-на***
***ад Заяц Кацярыны Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Свірыдзенка Г. (2004 г.)***

Яшчэ ў дзяцінстве мне мая маці казала, што ёсць чэрці, якія цябе пужаюць, не даюць ноччу спаць, прыходзяць, калі ты адзін і цябе як бы ў бок штурхаюць і палохаюць. У мяне яшчэ быў брат, добры байструк, старэйшы трохі мяне. Ён жа і маці як бы пужалі мяне тым, што калі ты не будзеш слухацца, тады да цябе прыйдуць і забяруць. Я вельмі пужалася і залівалася слязьмі, але потым маці супакойвала мяне.

Але раз са мной было такое, калі я сядзела каля печы і ў прыпячку нешта зашывялілось. Я пачала прыслухоўвацца. Можа там хтось ёсць, але нікога не нагледзела. Я яшчэ раз паглядзела, але і праўда, няма нікога. Калі я гэта расказала маці, яна кажа, што гэта, мабыць, дамавы.

Гэтае здарэнне са мной здаралася не першы раз, а багата. Я ўсё думала: “Хто гэта такі?” А калі я падрасла, чула багата чаго, і вось пачула пра дамавіка, які жыве ў хаце, ды яшчэ любіць спаць на печы. Дамавік – хатняя жывёла: і добрая можа быць, і злая. Яму падабаецца цяплыня, чыстата ў хаце. А яшчэ чула, што дамавік паважае гаспадароў, якія добра адносяцца да яго, не злуюцца, калі ён нешта схавае. Ён жыве і на даху. Калі ноччу спіш, чуеш, як па ім хтосьці ходзіць, можа бегаць, як бы ў нешта гуляе. Але гэта нічога. А калі ён раззлуецца, у хаце, ва ўсёй гаспадарцы ўсё ідзе не так, як трэба.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Вольгі Мікалаеўны, 1945 г.н.,***
***студэнткай Жаўнярчук В. (2006 г.)***

Казалі, што дамавік жыве ў кожнай хаце. Жыць ён мог ці ў печы, ці ў тым вуглу, дзе вілкі ставяць. Ён любіў працавітых людзей, ён ім спрыяў, а лянцяям наадварот пашкодваў. Ён не любіў малых дзетак, якія вельмі плачуць.

Убачыць яго можна ноччу, у сне. Калі чалавек бачыў яго ноччу, то ён мог нават прадказаць лёс. Дамавік – старэнькі дзед з сівою барадою і валасамі, маленькі, тоўсценькі.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Дамавік быў у мяне ў выглядзе ката. Быў красівы, бальшы, сераватага цвету. Як выйдзеш з хаты, то ён на вакне паявіцца і сядзіць, а як зойдзеш у хату, то ката няма.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Дзегцяровай Кацярыны Дзянісаўны, 1923 г.н.***
***(перасяленка з в. Лугінічы Буда-Кашалёўскага р-на)***
***студэнткай Тодаравай М. (2006 г.)***

У адных суседзяў згарэў дом. Астаўся толькі сарай. А была ў той сям'і дачка. Дык радзіцелі купілі ёй дом у другой дзярэўні. Яна там пажыла трохі і ўсё роўна вярнулася ў той сарай. Дык яна расказвала: "Легла я спаць, а мне на жывот нешта цяжолае лягло, памацала – кот. Тады ён на грудзі сеў. Начэй столькі мяне пугаў. Я як стала крычаць, а ён смотрыць на мяне чалавечымі глазамі". Людзі ёй сказалі, што гэта дамавік. Сказалі бабы, што трэба выехаць адтуль, што задуша.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Лапіцкай Валянціны Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Кажуць, што дамавы жыве ў кожным доме, там, дзе стаіць венік. На стале нельга астаўляць нанач соль, перац, часнок, лук, нажы. Дамавы етага не любіць. Калі яму што не нравіцца, то ён усё пераварочвае, і яго тады нужна задабрываць. А вабшчэ яго ніхто не бачыў.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Дамавы можа быць добрым, а можа быць і злым. Сматра якія хазяевы: калі яны нечыстаплотныя, дык дамавы будзе ім шкоду дзелаць. У адных людзей у нашай вёсцы быў дамавы, які абарочваў крышкі, посуд, дык і праўда, гаспадыня ў хаце парадку не дзяржала.

Гавораць, што дамавы можа выглядаць як чалавек альбо як маленькі дзядок, а можа і пераўтварацца ў вужа, які пад печчу жыве. Вабшчэ, нада дамавікоў сваіх задобрываць. Нада парадак у хаце дзяржаць і частаваць чым-небудзь смачным дамавіка, тады ён будзе добры.

***Запісана ў в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Падзянковай Марыі Аляксееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Падзянковай С. (2004 г.)***

Жыве ў каждай хаце дамавой. Еслі не взлюбіў хазяеў, то будзе шкоду дзелаць. Еслі взлюбе хазяеў, то будзе ім памагаць. Жыве ён у цёплым мясцечку. Любе очэнь сладкае, каб на стале ўсегда былі сладасці, і штоб на стале быў усегда парадак. Кагда я ўхаджу з дому, то даю наказ дамавому, штоб глядзеў за парадкам.

Другі раз ноччу чую, як шапорша, то стукае, то яшчэ што. Я тады знаю, што гэта дамавой, ён у розных месцах у доме. Дажэ некаторыя старыя людзі відзелі яго. І дачка мая відзела. З-пад койкі ноччу рука белая паказалась. Ён у нас хазяін, палюбіў наш дом. Дамавой прыбывае, калі строіцца дом. Не дай Бог удражніць дамавога.

Вот адзін раз мая старшая дочка з зяцем купілі мебель у другіх хазяеў. А жылі мы ў сваім доме. Паставілі мебель дома. Але ж ноччу зяць плоха спаў. Так і на другую ноч, яго ўсё хто-та шчакочыў. А эта дамавой, ён расшаліўся, не хацеў, каб з чужога дома мебель была. Не взлюбіў за гэта хазяіна. Што ж дзелаць? Тады я сказала зяцю, што кагда зайдзеш у хату, пагавары з дамавым па-харошаму, скажы, што будзем жыць мірна, не абіжаць адзін аднаго. Пастаў на стол варэнне, не ругайся нікагда. Зяць так і здзелаў. З таго врэмені сталі жыць мірна, дамавой большы не дзелаў нічога плахога.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Эта ж дамавы. Дамавы можа душыць па начам, садзіцца на чалавека і начынае душыць. І кагда дамавы душыць, нада спрасіць у яго: к дабру эта ілі к плахому. Тады чалавеку стане ілі лёгка, ілі цяжола.

Дамавы не ўмее разгаварываць. Кагда пераходзіш у новы дом жыць, то нада прыгласіць і дамавога, угасціць яго хлебам-соллю.

*Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Ласуновай Тамары Якаўлеўны, 1935 г.н.,*
*студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)*

Эта дамавой. Яшчэ яго называюць барабашка. Ён можа біць пасуду, выкідываць з угла венік, кагда што не нравіцца.

У каждым доме жывуць дамавыя. Хаты без дамавога німа. Кагда чалавек перасяляецца ў новую хату, то заве к сабе дамавога. У дамавога ёсць жонка і дзеці.

*Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Паплаўнай Лідзіі Мікалаеўны, 1951 г.н.,*
*студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)*

Дамавы жыве ў хаце. Ён бывае добры, бывае і злы. Залежыць ад таго, як будзеш яго прывячаць. Калі ён сердзіцца – перадвігае посуд, хавае абутак, вопратку. Калі пацяраў нешта – стань пасярэдзіне комнаты і скажы: “Вярні маю абутку (або вопратку), калі ўзяў!” Павярніся на 360 градусаў, а тая рэч ляжыць у цябе за спіной, як будта яе хто падклаў.

Дамавога трэба каштаваць сладасцямі са словамі: “Давай з табой сябраваць – я табе дам гасцінцы, а ты мае рэчы не хавай!” І пакласці гасцінцы за печ, або пліту.

Кошкі чуюць дамавога і ўцякаюць, трохі баяцца.

*Запісана ў в. Клянок Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Зубаравай Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)*

Дамавы – ета хазяін дома. Малы такі, пахож на дзеда старога. Я сама яго ні бачыла. Ну, я думаю, што ё дамавыя. І ў міне ж, вот, дамавы жывець. Ужо плахога ні дзелаць. Ну, ета рэдка бывае. Добры дамавы, значыць. Казалі, што не любяць дамавыя, калі на стале што-небудзь астаецца. Ну, у міне ніколі нічога не астаецца. Я ўсё ўрэмя ўбіраю. У каждай хаце ё дамавыя.

*Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)*

Дамавік жыве ў кожнай хаце. Асобенна любіць жыць за печкай. Кажуць, калі яго ўбачыш – няшчасце будзе. Дамавік баіцца кошак. Тады ноччу грыміць посуд, дзярэ што-та, па палу тупае. Кажуць, калі хату пасвеціш, то ён ісчазае, уходзіць з дому.

Быў у нас случай, што дамавік жыў у хазяйскім доме. Хазяйка яго выгнала, а ён разазліўся на яе і падпаліў хату. Вось, нельга дамавікоў злаваць.

*Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,*
*студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)*

Дамавы, ета такі стары дзед. Гадоў можа 20 назад у мяне ў хаце жыў дамавы. Калі памерлі мае бацькі, то я асталася жыць у доме адна. Калі я лажылася спаць і гасіла свет, то ён злазіў з печы. Я чула, што ён кашляе, як дзед стары і падыходзіць да мяне. Я чула, як ён ступаў на пол, як чалавек які, ідзе і лажыцца радам са мной і як бы піхаў мяне ў бок, каб я падвінулася. А так я яго не бачыла, а толькі чула, і так я яго баялася, што начаваць стала хадзіць к суседцы, а потым зусім дом прадала. А ў етым дамавы не жыве.

Каб задобрыць дамавога, нада было ў ноч на 10 феўраля аставіць на стале чарку віна і хлеб з салам.

***Запісана ў в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Казловай Таццяны Мікітаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Валчковай Т. (2004 г.)***

Дамавік – маленькі калматы дзядок, дух дома. Жыве ў каморы. Калі хазяева нравяцца, тады памагае ім: пачэша кароўку, каб была чыстая, пеўня пужае, каб той усіх будзіў працаваць. Еслі ж не нравяцца хазяева, дык дамавік заплятае грыву каню, можа наслаць падзеж на скаціну, чарвей на гарод.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Дамавік прынося врэд. Калі ў доме ругаюцца, дык ён пачынае дзелаць розную шкоду: валіцца са стала пасуда, можа соль рассыпацца.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любові Іванаўны, 1936 г.н.***
***(пераехала з в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на)***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Дамавой невідзім. Кагда паселіцца в доме – ходзіт па начам і не даёт дзецям спаць. Штоб ево задобрыць, клалі печэнне на угал дома в дверах.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Вот кагда я маладая была і мой дзед шчэ таксама малады быў, любілі па ягады хадзіць. Пойдзем, бывала, у ягады, весь дзень ходзім, а прыйдзем, нічога знайсці не можам. Усё на падлозе раскідана, а то не на тым месцы ляжыць. І тут саседка нам сказала, што ета дамавік завёўся. А ён жа катоў не любіць. А ў нас жа не была іх. Прынеслі мы такога здаравеннага. Пачакаў ён, наверна, дамавіка, дык ён залез к нам на чардак. Я бачыла яго. Такі кашлаты быў, белы, з барадой да пояса і вочы гараць, як у воўка. Разазліўся на нас з дзедам, наверна.

Пасля гэтага ў нас у хаце мышы завяліся. Я думаю, гэта дамавік іх нагнаў. І я рашыла яго задобрыць. Кожны дзень малако насіла, а ён жа яго так любіць. І ката назад аднесла. І пачаў ён парадкі наводзіць, а вешчы нашы не трогаў. Так і жыў ён з намі, пакуль дзед мой не памёр. А як памёр, так і знік.

***Запісана на ст. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксандраўны, 1936 г.н.,***

***студэнткай Ткачовай Т. (2004 г.)***

Дамавік – ета такі чалавек, які жыве ў доме і якога ніхто не бачыць. Ён такі маленькі і ў ніво есць барада. Мне так людзі гаварылі, хаця я не веру, што дамавы ім паказваўся, патаму што ён очань скрытны. А ў нас у старым доме тожа быў дамавы. У нас адно врэмя ў доме ўсё прападала: то з пасуды што, то абутак. А патом ета находзілі там, дзе ўжэ сматрэлі. Мы і падумалі, што ета дамавы.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Каленчыкавай Соф'і Аўрамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

Я была малая, паднялася ноччу і віжу – ідзе маленькі чалавечак увесь белы. На мяне дзвіжыцца. Я закрычала, іспугалася. Ён тожа іспугаўся мяне і прапаў.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Наброевай Марыі Мікалаеўны, 1939 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Селішчы Жлобінскага р-на)***

Асоба не веру ў дамавых. А вось маць расказвала, што пагулялі вечарам, а потым селі на ганачак і сядзяць. А вечар лунны. Бачым, з аднаго ўгла беленькі баранчык бяжыць, а потым зноў з таго вугла бяжыць. І так раз пяць, а назад не вяртаецца. То, мабыць, і быў дамавы.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Сцепаненка Надзеі Свірыдаўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Гута)***

Эта было ў 32 гаду. Был бальшой голад. Мы жілі ў Покаці. У мяне был маленькі брацік Цімошка. Мая мамка была ў хаце з брацікам, і расказавае мне: “Чую на ўліцэ ў дварэ штосьці рагоча. Глянула і бачу – залаты конь стаіць, увесь з золата і на мяне глядзіць і ўлыбаецца. Тут Цімошка заплакаў і я пaглядзела на яго, а потым зноў азірнулася, а на дварэ ўжо нікога не было”. Мамка гаварыла, што гэта был дамавы, ён любіў маю мамку, таму і прадстаў увесь у золаце.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Краўцовай Акуліны Ніканаўны, 1927 г.н.***

Расскажу вам адзін случай. Па моладасці вечарам гулялі. Я с дзевушкай адной дружыл. І вот как-та мы дамой возврашчаліcь позна, цёмна. Зашлі с ней в комнату і так жутка, страшна стала. Што-та там нехарошае было. Відзець, прадставіць, што эта, мы не маглі. Толька прысутнасць чаго-та недобрага, нячыстага ашчушчаеш, сілу нейкую. Можэт, эта і дамавы был, хто яго ведает?

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Атрошкінай Ніны Кузьмінічны,***
***Атрошкіна Міхаіла Іванавіча, 1950 г.н.***

Да, ё дамавы. У дзерэвні было. Белы стаіць каля дзвярэй у сараі. Ну, і гавару маткі: “Не хадзі”. А матка: “Не, пайду”. Ну, і пайшла, а ён схаваўся. Малы такі быў, што здалёк не ўбачыш добра. Гавараць, дамавога нельзя трогаць. Ён нічога не порця, калі яго не чапаць. Ён спакойны.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Чарвяшкінай Прaскоўі, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Тарасаўка)***

Жыве ў мяне дамавы. Я яго бачыла. Высокі мужчына такі, плечы шырокія. Забалела я была дужа, аж галаву не магла падняць. Хачу ўстаць – не магу. І пачуствавала, што мне нехта дапамагае. Я думаю, ета дамавы памог мне.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Бартноўскай Марыі Данілаўны, 1941 г.н.***
***(перасяленка з в. Стаўбун Веткаўскага р-на)***

Дамавікі жывуць у хатах, могуць і другую пабудову сабе выбраць. Дамавік рэдка жыве адзін. Ён таксама можа ажаніцца. Жонка ў яго магла быць толькі адна. Пасля яе смерці ён мог ажаніцца чатыры разы, але не на сваячках, інакш павінен быў мяняць службу. Ад сваёй жонкі дамавік мог мець сыноў і дочак. Сыны станавіліся дамавікамі ў новых дамах, а дачок выдавалі замуж за такіх жа дамавікоў.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дамавога ўсім нада паважаць, бо ён, калі разазліцца, можа сям'ю пакінуць. А ета к харошаму не прывядзе. От бацькі мяне шчэ ў маладосці вучылі, што ежалі пераязджаеш у новую хату, то трэба спачатку дамавіка пазваць. А ў апошні дзень нада печ вытапіць, а затым адтуль вугельчыкаў набраць ды несці іх у новую печ. Калі на гэтых вугальках гаспадыня зможа агонь запаліць, значыць, хатнік перабраўся з гаспадарамі ў новую хату.

І ў старой, і ў новай хаце трэба дамавіка даглядаць. Калі наступае зіма, трэба пакласці кажух на якое-небудзь нябачнае месца ў хаце, каб дамавік не замёрз, бо ён голы.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

У народзе яго называлі "дамавой". Ета нявідзімае сушчаство, якое находзіцца ў кожным доме. З ім нада астарожна абхадзіцца, штоб у двары было чыста. Ён не пакасціць на дварэ, а ў апрэдзялённым месцы ў туалет ходзіць. Калі яго абідзіш, ён можа разгневацца. Ён можа абідзіцца і прынясці бяду ў дом. Абычна ён жыве за печкай і яўляецца храніцеліем дома і дамашняга ачага.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Дамавіка нада паважаць, каб сабе бяды не нарабіць. Некаторыя людзі не вераць, што дамавік ёсць. А той на іх зліцца і розныя непрыемнасці ім робіць. А шчэ дамавік не любіць, калі яго нядобрым словам памінаюць. Можа зрабіць так, што тады хазяін ці хазяйка не змогуць знайсці, што ім трэба, ці нехта ў хаце захварэе. Во так раз у адной сям'і за нешта паругалі дамавіка. Дык пасля етага ён такія каверзы пачаў рабіць, што тыя людзі і не ведалі ў які бок кідацца. Але дамавік доўга зло не трымае, прашчае людзей.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Шчэ старыя ў нас казалі, што калі бачыш часта на панадворку ката ці сабаку незвычайных, галоўнае нічыйных, то, значыць, сам дамавік паказаўся. Тады хазяевам

нада яго прылашчыць, прыгалубіць. Дамавік за ета хазяеваў добра ўзнагародзіць. А ежалі дамавіка пакрыўдзяць, то ён будзе жорстка помсціць. Можа не толькі хваробу ці няшчасце наслаць, але і смерць. Толькі такое ўжо рэдка бывае.

***Запісана ў в. Старыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Казіміравай Ганны Іванаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дамавік – гэта дух, які жыве ў хатах альбо ў кватэрах. Я сама яго не бачыла, а вось мая сястра гаварыла, што бачыла.

Было гэта, калі мы маці пахавалі. Сядзім мы з сястрою на кухні, размаўляем ды каву п'ем. А святло было толькі ў кухні і больш нідзе. Гляджу я на сваю сястрычку, а яна бялей белага стала і вочы вялікія такія зрабіліся. Сядзіць, ніводнага слова ні кажа і толькі на дзверы паказвае. Я паглядзела туды і нічога не ўбачыла. А яна гаворыць, што там нехта стаіць. Я пайшла па кватэры, паглядзела і нікога не ўбачыла. Потым сястра мне расказвае, што адразу падумала, нібыта здаецца, што мужчына стаіць у полуцемры. Але ж паглядзела яна яшчэ раз: як стаяў, так і стаіць. Гаварыла, што стаяў ён і глядзеў на яе, не адводзячы вачэй. Але яна не вельмі напалохалася, таму што ён быў не страшны. А быў ён малады, прыгожы, светлавалосы і апрануты быў у светлую кофту і цёмныя штаны. Пасля гэтага пайшлі мы з ёю да адной бабкі-шаптухі, я думала, можа што з ёю здарылася, можа забалела? А бабка тая і кажа, што гэта і есць наш дамавы. І значыць ён сястру маю жалея больш чым мяне, вось і паказаўся ёй. Але ўжо колькі гадоў мінула з той пары, а яна яго больш так і не бачыла. Толькі вось гаворыць, што муж яе на таго мужчыну вельмі пахожы, які тады ёй пачудзіўся.

***Запісана ў в. Хальч Веткаўскага р-на***
***ад Котавай Людмілы Міхайлаўны, 1963 г.н.,***
***студэнткай Суханавай В. (2006 г.)***

Гавораць, калі ў хаце што-небудзь губляецца і нельга гэтую рэч знайсці, то, гэта значыць, дамавы ўзяў пагуляцца. Тады трэба сказаць: "Дамавы, дамавы, сам пагуляўся, аддай абратна".

***Запісана ў в. Хальч Веткаўскага р-на***
***ад Сіняцкінай Надзеі Макееўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Суханавай В. (2006 г.)***

Ета такі маленькі чалавек, як гном, у яго дужа вялікая сівая барада і такія ж валасы. Жыве ён у хаце, найчасцей пад печчу, стараецца дапамагаць гаспадарам сваім. Ды і гаспадары яго ўсе паважалі. У святочныя дні яго клікалі да стала, частавалі. А таксама дзе-небудзь ставілі чарку з гарэлкай. З часам яна знікала. Лічылі, што ёй пачаставаўся дамавік. Пасля добрых пачастункаў дамавік станавіўся яшчэ больш лагаднейшым. А яшчэ дамавы можа будучае прадказваць. Калі шчэ дзеўкай была, дык варажыла, як мама вучыла. На вялікае свята запаліла свечку прыхаваную і сказала такія словы:

Бацька-дамавы, хатнік дарагі,
На мяне ты не гнявіся,
Судзьбу маю пакажы,
Долю прадкажы.

Калі свечка затухала, то значыць нешчаслівая будзеш, а калі будзе гарэць, то будзе ўсё, як у людзей.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Хатнік жыве ў кожнай хаце. З выгляду ён напамінае звычайнага старога дзеда. Але хатнік можа кім хочаш стаць. Во ў вёсцы казалі, што раз да адной нашай жэншчыны кот шэры прыбег ды давай каля яе лашчыцца. Гаспадыня яго пашкадавала, добра накарміла, думала, што ён яшчэ прыбяжыць, але ён з таго часу больш не паказваўся. Казалі, што сам хатнік прыходзіў, хацеў сваіх гаспадароў праверыць. З таго часу ў той сям'і ўсё добра ішло.

А вось са мной тожа случай адзін цікавы быў. У малых гадах іграў я на дудзе, а адкуль тая ўзялася, ніхто ў хаце не ведаў. І такая з таго інструмента музыка лілася, што да гэтых пор не чуў. А калі я падрос, то яна некуды прапала. Людзі пасля казалі, што сам дамавік быў.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дамавік пахож на невялікага чалавека з длінная барадой. Ходзіць ён у лапцях і тулупе цёплым. Дамавік заўжды жыве ў хаце ў тым вуглу, дзе стаіць венік. Венік ў хаце нужан толькі адзін, аб гэтым кожная добрая гаспадыня ведае. Калі ж у хату прынесці другі венік, то паявіцца шчэ адзін хатнік. А ета да дабра не давядзе. Паміж двума дамавікамі такая бойка пойдзе, што гаспадары за галавы схопяцца.

Дамавы, які вельмі шануе сваіх гаспадароў, заўсёды ім дапаможа. Калі ў хаце нешта вые, у сцены грукае, крэкча, стогне, ета дамавы аб бядзе папярэдзіць хоча. Ён так можа чалавеку прадказаць, што таго бальшое гора чакае. І калі гаспадар разумны, дык адразу той знак разгадае. А ежалі рукой махне, то гора яму не мінуць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Дамавой маленький, с барадой, седой. Живет он в доме, у каво есть печка, так пад печкай. Как хату пастроили, так и паявился. Живет да и живет себе. Инагда стукает, мешает спать, пугает, если в хате больше никаво нет. Нада в хате шоб парядак был, памыта все. На празники нада тарелку с едой аставлять шо б он тоже паел. Если дамавой хароши, то ево нада с сабой в новую хату забрать. Нада палатенце или рушник или скатерку какую возле парога расстелить и пазвать дамавова с сабой. А в новай хате тоже нада развернуть эта и выпустить ево. А патом самим можна захадить. Еще нада, шоб в хате адин веник стаял. А то если два веника паставить, так может два дамавых завестись. Тагда плоха в хате будет, ругатца все будут.

***Запісана ў г. Гомель ад Сідарэнка Любові Федарауны, 1926 г.н. (раней пражывала ў в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.), студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Дамавы жыве ў хаце, ў каго пад печчу, у каго пад венікам. Ён дапамагае гаспа-

дару, ахраняе дом. Выглядзіць ён як стары дзядок у белай адзежыне з доўгімі валасамі і з барадой. Калі пераязджаюць у новую хату, дамавіка забіраюць з сабой. Дамавіку трэба пакупаць што-небудзь паесці, ён ноччу вылазіць і дапамагае ў рабоце па дому.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Домовой низкага роста, старый, седой старик. Домовой добрый, когда в квартире (дома) чистота, а когда грязно, пыльно, он сердится и прячет все вещи хозяев дома, чтобы они долго не нашли их, а когда нашли, чтобы положили на то место, где они должны лежать.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнкай М.***

Я думаю, што ў кожнай хаце ё свой дамавік. Эта такое маленькае сушчаство, старэнькае, з доўгай сівай барадой. Жыве звычайна ў запечку, бо стары і любіць там косці грэць. Я нікога не ведаю, хто б бачыў дамавіка. Відаць, ён прачыцца ад людзей, не хоча трапляць ім на вочы. Дамавік хітры і разумны. Ён даглядае гаспадарку, дапамагае тым, хто жыве ў доме, но эта тагда, калі гаспадары хаты правільна вядуць гаспадарку. Кагда гаспадары нядбайныя, дамавік па-свойму іх наказвае: пужае па начах, хавае вешчы. Я думаю, што дамавік – эта дух дома, які стараецца сахраніць лад і дабрабыт. Кагда людзі пачытаюць дамавіка, стараюцца ўлагодзіць яго, дамавік адказвае дабром. Ён папярэджвае аб няшчасцях, бедах, пасылаючы людзям вешчыя сны. Дамавік не любіць, штоб яму мяшалі, патаму не дружыць з катамі. Асабліва кагда тыя ляжаць ля парога хаты і замінаюць хадзіць з хаты ў сенцы і назад. А яшчэ дамавік любіць, каб свойская жывёла была той жа масці, што і яго барада. Калі цвет не супадае, то ён можа неўзлюбіць і нават звесці са свету. Кагда людзі пакідаюць хату, могуць паклікаць дамавіка з сабой. Гэта калі ў старым доме жылося добра. Но дамавік прывязаны толькі да аднаго – да свайго дома, які нікагда не пакідае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Медзінай Тамары Фёдараўны, 1941 г.н.,***
***студэнткамі Ваўчок А., Каляснёвай І. (2005 г.)***

Нож на столе оставлять на ночь нельзя и крошки. Он этого не любит. Домовым может считаться паучок.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Парцянковай Валянціны Іванаўны, 1950 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Шапітоўка Івана-Франкоўскай вобл.),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Дамавік – гэта хазяін у доме. Ён ёсць у кожнай хаце і за ёй прыглядвае. Калі ў доме яго нет, то не будзя шчасця ў ім. Ён дапамагае хазяевам, калі яны яго не абіжаюць, і порціць ім усё, ежалі яны яго абіжаюць. Можа пасуду пабіць і вешчы схаваць так, што не найдзеш ніколі.

Ходзіць і скрыпіць полам, брэнчыць чэм-небудзь, так ён мсціць. А калі палюбіць хазяеў, так будзе злых духаў адганяць ад дома, каб не было скандалаў, штоб мір быў і шчасце ў доме. Многія яму астаўляюць гасцінцы на ноч, каб задобрыць і як благадарнасць. Канфеткі, яблычкі, хто што. Ён вельмі любіць сладзенькае.

Сам ён маленькі дзядок, лахматы і з барадой да каленаў. Сама я яго не відзела, а мая падруга сказала, што яна відзела, но ўсё раўно ён у мяне жывець, бо ўсё добра. Трэба ў саглассі з ім жыць, тады ўсё будзе добра.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны , 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Домовой – старичок невысокого роста, с бородой. Живёт под порогом, и души умерших людей там же, под порогом. Поэтому, когда моешь пол, то надо хорошо вымыть порог. Когда приезжаешь, то тоже надо Домового звать. Надо сказать: «Домовой, нас не покидай. Будь нашим хозяином». Лежала моя сестра в постели, а ее кто-то толкает. Ей говорили, что это домовой ее выправляет, что уйдет она скоро из дому. Ну, она так и ушла – замуж вышла.

У моей сестры муж партийный был, в Бога не верил. И вот лёг он однажды, а его что-то душить начало, он схватился, а там что-то лохматое. После этого он в Бога стал верить. Я тоже пришла с работы, никого дома не было. Легла спать, но не уснула еще. Подходит ко мне женщина ниже кровати, и два раза мне говорит: «Подвинься – я лягу». А я руку не могу поднять. Уже глаза закрыла, а тут слышу, что через меня как кот перепрыгнул. Я рукой пошевелила, поднялась – никого нет. Мне сказали, что что-то плохое будет. А через три недели меня в больницу положили.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Казава Зінаіды Іванаўны, 1942 г.н.***
***(нарадзілася ў Чачэрскім р-не)***

Кагда строілі новы дом, без божыскага храста не заходзілі ў дом. Ката кідалі, штоб багатства было і жылі харашо. Все эта знали ад ніці да ніці. Мы малыя былі. Бацьку с работы ждалі. Затраслася лампочка. Он стал аткрываць дверы. Он – эта, наверна, дамавы. А матка стала держаць двер, мне сказала, штоб я рушнік прянясла, завязалі на ручку і сталі держаць. Бацька пастучал у акно, пазвал матку, і всё стіхла. Матка гавора, што дамавы зліўся за што-та.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Маісееўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Я ў гэтым доме даўно ўжэ не жыву. Мы туды летам ездзім адпачываць. І вось аднойчы, у самую раніцу, нехта ходзіць, ды так цяжка тупае, як мужык якісьці. Мы спужаліся, не ведалі, што рабіць. Я хацела выйсці спачатку, паглядзець, але дачка мяне не пусціла, пабаялася. Доўга мы яшчэ чулі гэтыя шагі. А калі ўсё заціхла, праз некаторы час, я і выйшла паглядзець, але ніякіх слядоў не было. Саседка мая кажа, што дамавы гэта хадзіў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кароль Марыі Станіславаўны, 1938г.н.,***
***студэнткай Смірновай М. (2005 г.)***

Вось кажацца мне, што я бачыла яго (дамавіка) аднойчы. Ляжала я ў краваці,

павярнулася – і бачу нейкага маленькага дзядка з белай дліннай барадой і валасамі, а ў руках ён дзержа букет цвятоў. А потым і знік. Але ў хаце часта чуваць нейкі топат і стук. Ёсць добрыя і дрэнныя дамавікі. А ў мяне ён добры.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Домовики есть, которые охраняют ваш дом. Вот одна женщина пришла к другой, а та экстрасенс. Та и говорит: "Вот что мне делать, вот дома не могу спать. Как только свет выключила, сразу начинает греметь посуда". И эта экстрасенс сразу отвечает: "Ничего вам не надо делать, всё у вас нормально, просто подружитесь со своим домовиком. Возьмите тарелочку, положите 2-3 кусочка колбаски, кусочек хлеба и полрюмочки вина или водки. Он у вас живет в углу, красный угол. И туда поставьте. Через 3 дня посмотрите. У вас будут совсем другие отношения с ним".

Сам я домового не видел, потому что это видит далеко не каждый человек. Вот, допустим, экстрасенсы – у них по-другому расположено зрение и они это видят. Вот эта женщина-экстрасенс видит руками: ложит руки на голову и видит все болезни, которые есть у человека. И вот она говорила, что переходила из одного общежития в другое жить и забрала своего домового в эту квартиру Он сел к ней на плечо, и они пошли туда. Когда она его выпустила, там был свой домовой. Они сильно дрались, пока тот уступил.

Правда это или нет, не могу утверждать. Вот у меня была собака, и вот как только в ванну там, в углу, за плитой газовой, так он кидался так. И он, видимо, видел, а я не вижу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Горбана Васіля Рыгоравіча, 1945 г.н.,***
***студэнткамі Анашкінай Н., Тараненка А. (2004 г.)***

Да, да, дамавы быў у нас. Гэта дажа пры мне здарылася. А інагда мне здаецца, што гэта быў сон. Значыць, былі мы ў нашай карчме калісьці. Сядзелі, люлькі курылі. Потым прыйшоў Іван і паведаміў нам, што ў яго не ўсё ладна з яго канямі, быццам ездзіць на ніх нехта. Яны спачатку грукацяць, а праз нейкі час у мыле стаяць, як бы на іх ездзілі, і не проста ездзілі, а заезджваюць. Потым Іван здагадаўся, што гэта дамавы ўсё робіць. І пайшоў ён вартаваць у тую ж ноч, пазіраць праз шчылінку. Каля паўночы загрукатала, і коні пачалі пераступаць з нагі на нагу, калаціцца ўсім целам. Каля гадзіны было так, а потым стала валіць пена з каней. На другую ноч быў ён ужо са сваім суседам. Запалілі яны свечку. Запалілі яны свечку і накрылі зверху гаршчком. І ўзялі вады свянцонай. Сядзелі, маўчалі і чакалі. У поўнач усё паўтарылася. Тут знялі гаршчок са свечкі і стала светла. І тут яны ўбачылі, што сядзіць на адным кані сівы дзед з барадою і паганяе ўсімі каньмі. Пырснуў на яго сусед свянцонай вадой, і ён знік. А назаўтра павесіў Іван у хляве сваім сароку забітую, якая, як казалі, засцерагае ад нячысцікаў. Так і закончылася гэтая гісторыя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Канцавога Івана Мікалаевіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Каморынай С. (2006 г.)***

Видеть домовых могут люди, которые потеряли рассудок. Это маленький человечек. Считается, что это существо бесполое. Он может любить своих хозяев, а может

и не любить. Домовик не любит, когда грязно в доме, если пьянки, скандалы. Тогда может ночами душить, щекотать. В деревне домовик живёт под печкой, за печкой, а в городе может где в канализации. Если хату посещает человек плохой, то домовик может указать на это. Например, сидят гости за столом, и если плохой человек держит в руке стакан, то домовик сделает так, что этот стакан вывалится из рук.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Ён мужскога пола. Ён харошы. Ево жана любіць. Сладасці на стале астаўляць. Месца, дзе жыць, ён должан выбіраць сабе сам. Ён можа как памагаць чалавеку, так і врэдзіць. Ево нада запрашаць пры пераездзе ў новы дом: “Дамавой, дамавой, захадзі к сабе дамой”. Ад яго засцерагацца не нада. Я помню, мой брат, кагда ему было 14-15 лет, быў адзін дома, іспугаўся, што відзел дамавога. Кагда прыйшоў з арміі, то не мог спаць на новым месцы. Гаварыў, што дамавы мяшае яму спаць. То падушку ў яго забярэ, то яшчэ што-небудзь. А лажыўся ён не на сваю кравць, а на діване. Ну і наверна эта дамавому не панравілась. І кагда он уже лёг на сваё месца, стаў высыпацца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Жил у меня домовой. На старого деда был похож, маленький, даже до стола не достает, в длинной рубахе подвязанной веревкой, с бородой, косматый. Когда что-то плохое случится, вести плохие, он стучит в окно. Однажды внучка моя чуть не утонула, так он перед этим в окно стучал. Когда хорошая новость, то он по руке гладит. Я никогда не оставляла посуду грязную на ночь. Домовой разозлится, может посуду побить. Когда выезжаешь из дома, надо забрать домового. Берешь лапоть, привязываешь веревочку, ходишь по дому и приговариваешь:

Домовой, домовой,
Поехали ко мне домой.

Когда из хаты все вынесли, лапоть вытягиваешь последним за веревку и по земле тянешь до другой хаты. А в другой хате занести у дом и положить под печку, поставить блюдце молока. Домовой любит молоко.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Пехцеравай Антаніны Іванаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)***

Дамавік жыў пад печчу і дапамагаў дбайнаму гаспадару, каб у доме быў парадак. Казалі, што гэта стары дзядок у белай адзежыне і з доўгімі валасамі. Калі пераязджалі ў новы дом, дамавога перавозілі з сабой у старым лапці. Яшчэ расказвалі шмат чаго, але я не запомніў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Жыве ён у дзеравенскіх хатах, у дзераўнях, на чардаку. Ён галоўны хазяін у хаце. Нада ўсё ўрэмя яму ставіць есць у тарэлку. І ў хаце даўжно быць усё ўрэмя чыста:

у шкафах сложана, пасуда памыта, вымецена ў хатах. Мая мамка гаварыла, што еслі не будзе чыста ў хаце, то ён разазліцца тады і ўсе, хто жыве ў гэтай хаце, будуць балець. Я яго не бачыла ніколі. А ноччу чула, як ён ходзіць па чардаку. А мая баба бачыла. Гаварыла, што ён маленькі, як карлік, а то і менш, стары, з барадою да кален. Барада сівая. Яшчэ лажылі яму грэбень, штоб ён расчосваўся. І валасы ў яго длінныя тожа. Мы ўсё дзелалі, штобы ён не зліўся і не шкодзіў, а наабарот, ахраняў хату.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Домовой тоже нематериальное существо. Обычный человек не может его увидеть. Некоторые говорят, что домовой – это энергетический сгусток, который присутствует в доме. Чаще всего он выражает настроение, атмосферу, которые царят в доме. Но я верю в то, что домовой – это душа умершего родственника семьи, которая живёт в этом доме. Она заботится о домашних, следит за их жизнью, успехами и неудачами, помогает или наоборот.

Домовой может принять нового человека в дом, а может и не принять. Если новый человек не понравится домовому, то он постоянно будет чувствовать дискомфорт в этой квартире, ему постоянно будет казаться, что он здесь лишний и что что-то ему сильно мешает.

Вот один раз приехала ко мне из России моя подруга детства Вера. У нее в детстве было мало друзей, потому что многие её не понимали. Но мы с ней ладили и дружили. Так вот приехала она ко мне погостить. И как-то мы стали с ней на балконе, а она мне и говорит: «Танечка, вот я стою, смотрю вниз и мне кажется, что меня что-то тянет вниз, будто меня хотят столкнуть вниз». Я сказала Вере, чтоб она не обращала внимание. Но я знаю, что это не просто так. Это домовой хочет предупредить меня о чём-то или избавить от чего-то. И вот когда Вера уехала, я обнаружила, что у меня пропало золотое кольцо.

Домовые вообще умеют предупреждать людей о какой-нибудь опасности. Они стараются помочь человеку избежать неприятностей. Домовые – души умерших. Они родственники людей, живущих в доме. Естественно, они оберегают, опекают своих близких.

А вот ещё был случай у моей подруги Тамары. Она работала домохозяйкой у супружеской пары. Муж с женой работали. Они уходили утром, а Тамара оставалась одна дома и убирала там, готовила. И вот как-то муж с женой ушли, Тамара готовит на кухне и слышит, будто входная дверь открывается. Только у них замок только ключом открывался, а дверь сама без ключа открывается. Тамара подумала, что померещилось, и дальше готовит. И вот чувствует, что кто-то стоит в дверном проходе и смотрит на неё. И ей так неудобно стало. Она помолилась, а когда пришла хозяйка, спросила у ней, что, может что-нибудь произошло в их квартире, может умер кто или кому-то что-нибудь плохое сделали. И на самом деле, оказалось, что у них недавно бабушка умерла здесь. Вот, наверное, это её дух тут ходил и за Тамарой смотрел.

Когда у меня умерла мама, так получилось, что муж через несколько дней в командировку по работе уехал. И я осталась одна дома. Однажды ночью я проснулась и встала на кухню за водой сходить. И вот, значит, выхожу я в коридор и вижу маму свою. Даже дурно стало. Я вот так отчетливо, так явно, будто бы она живая передо мной стоит. Я хочу пройти, а она не пускает меня. Такая вот ощутимая и объемная,

как материальное существо. Я испугалась и обратно в спальню пошла. И ночью мне кошмары снились, и мать, и отец. И снились каждую ночь. Я в церковь ходила, свечку ставила, чтоб они прекратились. Вроде помогло, но всё равно иногда ещё снятся. И я просыпалась ночью в холодном поту и всё тот случай вспоминала, как мать моя покойная мне явилась. И вот до сих пор дух её в квартире ощущается, будто она следит за нами, наблюдает.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Ларынай Тацяны Пятроўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Кажуць, што дамавы – гэта дзедушка, у якога доўгая барада і якога ніхто не можа бачыць, акрамя хатняй жывёлы. Каб задобрыць дамавога, трэба даць яму памошніка – пушыстага рыжага ката. Пры перасяленні ў новую кватэру звычайна забіралі дамавога з сабой. Для гэтага трэба было прайсці ў старую хату, пакланіцца чатыром углам, і, стаўшы каля печы, сказаць: “Хазяюшка, бацюшка! Пайдзём у новы дом, на багаты двор, на жыццё, на быццё, на багатства”. А ў новай кватэры нада, каб дамавога чакаў пірог, замешаны ў старым жылішчы, а таксама ікона, ржаны хлеб і яго памочнік – кот. Пячыся булка павінна ў новым доме: калі яна выйдзе роўная, гладкая і красівая, то ё жыццё будзе такім жа, а калі не – то жыцця не будзе. Булку гэту патрэбна 3 дні не чапаць, чакаць дамавога. На трэці дзень трэба красіва ўбраць стол і пакласці на яго асобна місачку з лыжкай і чашку з віном для новага гаспадара – дамавога. Потым разрэзаць гэтую булку на столькі частак, колькі жыльцоў у доме і адзін кусочак адлажыць дамавому. Вечарам перад сном ежу дамавога паставіць за печку ці ў іншым укромным кутку і пакланіцца таму кутку 3 разы: па 3 разы з кожнага боку, потым пасадзіць туды ката. Частаваць дамавога трэба спачатку кожнага месяца і на празнікі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Дамавік жыве ў доме, у самым цёмным вуглу. Еслі яму што-та не нравіцца, то ён пачынае хуліганіць, разбрасываць і вараваць хазяйскія рэчы, стучаць, крахцець.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Новікавай Алы Феліксаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Зялёнай В. (2006 г.)***

Пра дамавога я знаю ўсякае. Ета хазяін дома, храніцель. Ён не любіць непарадку ў хаце. Тады шкодзіць. Бывала, што ноччу не спіцца і чутны разныя скрыпы, дзыньканні, шажкі, хлапкі, хрып, уздыханне. Гэта дамавы. Бабы падказалі, што трэба дзелаць. Трэба сказаць так: “Дамавік, дамавік! Аджані нечыстую сілу ад вакон, ад дзвярэй, ад пасцелі маей”. І становіцца ціха.

Даўно яны, дамавыя, на свеце ёсць. Невідзімыя, ходзяць праз сцены. Бываюць і злыя, і добрыя. Выбіраюць месца, дзе ім панравіцца. Перад тым, як нешта павінна здарыцца, ён вельмі грукае ў хаце, не дае спаць – папярэджвае. Казалі бабы, што ён нявідзімы, а можа паявіцца маленькім дзядком, гарбаценькім ад работы па дому.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Дамавік – гэта бязрогій дух. У яго цела няма. Ён жыве ў кожным доме. Ён не

робіць шкоды, а толькі шуткуе. А калі яму падабаецца хазяін, то ён яму дапамагае. Калі зіма пачынаецца, тады ён каля печкі жыве або на печкі. А калі яму нешта не падабаецца, тады ён б'е пасуду, крычыць і тупае.

Казалі, што спяшчых людзей душыў, тады той чалавек пашывяліцца не мог і сказаць нічога не мог. Ён не любіць зеркала. А калі пераязджалі ў другі дом жыць, то яго з сабой пазваць трэба. Трэба з хлебам-соллю яго прасіць. Кажуць, ён лянівых не любіць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(перасяленка з в. Струмень Кармянскага р-на),***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

У кожнай хаце есць. Бывает случай, свісціт. Эта как храніцель, он ахраняет, предупреждает, продсказывает. Представляецца, как вецер какой-та. Он может являцца ў качестве агня, вады. Может ветрам праляцець.

Дамавік может і плахое зделаць, может сцёклы пабіць, еслі яму што-та не нравіцца. Он як прадсказацель. Еслі дамавіку ні панравіцца, может памяшаць, то, што ты дзелаеш. Еслі перабіраюцца ў новы дом, кошку з сабой бярут, а дамавік сам пераходзіт з хазяівамі. Не падчыняецца бажэственнай сіле.

Была ў нас жанчына. Шчыталі, што яна знахарка сільная. Многа людзей лячыла. І адзін раз к ёй прыехала жэншчына, ана яё палячыла, і та не ўспела выйці, у яе сразу разбілась зеркала. І ана тада гаварыла, што эта дамавой прэдупредзіл, што не нада была лячыць іё.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Дамавы – гэта маленькі чалавечак, які дзелае і добро і зло. Ёсць такое павер'е, каб дамавы не дзелаў зла, трэба яго задобрыць. Пасля вячэры, прыбраўшы са стала пасуду, пакінуць на стале трохі тога, што было на стале.

Яшчэ лічылі, калі чалавек добры, тады і дамавы будзе добры, а калі чалавек злы, тады і дамавы такі.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Берлінай Таццяны Кузьмінічны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Залессе Чачэрскага р-на),***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Дамавік – гэта добры прыяцель у доме. Ён спрыяе ўсяму, што робіць хазяін. Каб у хаце быў парадак, багата было. Дамавік ахоўвае дом. Гаспадар павінен аб ім клапаціцца, даваць пачастункі. Мая бабуля казала, што калі ўпадзе са стала кавалачак якой-небудзь ежы, то не трэба спяшацца яе падымаць. Хай дамавічок забярэ.

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на***
***ад Агеенка Таццяны Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Смолікавай М. (2010 г.)***

Дамавік – эта дзядок з белай барадой, очэнь маленькі, как пушыстый камочэк, сам весь в шэрсці. Дамавікоў нужна карміць малаком ілі сладкім чым-небудзь. Ані очэнь любят варэнье. Я іх паддабрываю ешчэ канфетамі, лажу іх за целевізар, каторы стаіць у меня ў правым вуглу хаты. Гаворацць, што іменна там ён жыве або пад печчу.

Быў у мяне такі случай. Мы з маёй саседкай сядзелі ў мяне дома і ўдваіх было

такое чуства напражэння, как-будта на нас хто-та смотрыт ілі прысутствует у доме. Мы з маёй падругай маўчалі, а кады я што-та сказала, то ана как закрычыт і ўсё напражэніе сразу прапала і ў меня, і ў неё, нам сразу стала так страшна.

А ешчо была такое. Ка мне как-та раз прыехала ўнучка і прывязла з сабой магнітафон. Кагда ана его включыла, то на некаторых песнях звук станавіўся громчэ. Наверна, ему нравіліся некаторыя песні, а на астальных песнях станавіўся такі ж звук, як і был.

Дамавікі не любілі катоў, а асобенна – кошак. У меня была кошка красівая, персіцкая – унучка прывязла, дык ана так гадзіла: і на пасцель, і на крэсла, і ўсюды-ўсюды. Наверна, дамавік яе ганяў, патаму што, кагда ана жыла ў унучкі месяц, яна хадзіла ў назначанае ёй места. А свайго ката абыкнавеннага дамавік не ганяў. Ён был спакойны, а персіцкая кошка аж бешаная какая-та была. Жалееш яе, а яна ўварачываецца ад цябе і так пасмотрыт недавольна, как-будта яе пабілі.

Дамавікі не любяць чужых людзей у хаце і пытаюцца іх выгнаць. А інагда я дажа чую: цікаюць дзесьці ў сценкі, гаварацьь, што эта дамавік у хаце жыве.

*Запісана в. Зябраўка Гомельскага р-на*
*ад Вострыкавай А., 1930 г.н.,*
*студэнткай Ятчанка Л. (2005 г.)*

У маёй хаце жыве страшэнны дамавы. Шчэ я была малая, калі з маткай жыла. Патома пераехала, і ён з мною. Кожну ноч не дае спаць пакуль я его не пакармлю. Калі не так, ён грукае па крышы. Калі дзед мой ні крыху не баяўся, а шчас дзеда няма і той зноў к мяне прыняў. Есці любіць ён толькі ўкуснае. Сало з хлебам, гурка. А запіць я яму даю малако, во тока падаю і стаўлю. Бывала карова не давала малака дык я гарэлкі трохі дам. Дык ён тады надоўга замоўкае. А самаго я нікогда не відзела, таму як ён выглядае расказаць не магу. Матка казала, што гэта кавалак гліны злепляны, на галаве салома. Раньша было страшна, а зараз ужо, ужо нармальна. Можа ён мяне і ахраняе ад каго-небудзь. У маей суседкі тожа жыў, яна ж ужо памерла. Дык яна казала, што калі ў доме шмат есці, празнік які ці што, дык ён всегда прыходзіў. Дзверы пачыналі грукаць, пол скрыпець. Куры ў ёй часта прападалі, дык яна ўсё на яго казала, гэта той дурань прадзелуе. Яна шмат чаго магла расказаць. Казала, што яго і сама відела. Выглядая добра, смешны, а я не бачыла, чаму смеялісь над ей, а можа было і так. А пра свайго чудака нічога не казала. Вобшчам, ён жыве толькі ў добрых, падсмейваецца над чымсьці. Бачыць яго не хочацца, як я казала, страшэнна вельмі.

*Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на*
*ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Данілавай М. (2004 г.)*

У мяне ў хаце жыве дамавы. Я яго бачыла. Гэта высокі мужчына, худы, у чым апрануты не бачыла, было толькі як цень. Калі я лажылася спаць, ён прыходзіў да мяне і лажыўся на мой жывот, мне было цяжка дышаць, я хацела ўстаць, а ён не пускае, тады я звала дзеда. Дзед уключаў свет і дамавы ўхадзіў. Дзеда ён не трогаў. Жыў у маёй спальні.

*Запісана ў в. Каранёўка Гомельскага р-на*
*ад Шнайдзюк Вольгі Паўлаўны, 1934 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобл.)*
*студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)*

Жила я у доме деда с мужем. Муж, когда уходил у начную смену, в спальне

слышала дыхание, вздохи, шаги. Спать ложишься, такое ощущение, как будто кто-то ложиться рядом. Однажды сильно испугалась: кто-то дотронулся до плеча. Пошла к бабке, рассказала все. Бабка сказала, что эта домовой. Когда мужа нету рядом, берешь его ремень и поверх ночной рубашки застегиваешь на поясе. Домовой больше не приходил в спальню. Домового можно перевести в другую хату. Нужно взять икону и держать ее в руке, а в другой хлеб-соль говорить: "Дедушка домовой! Пошли с нами в новый дом, мы очень тебе рады, только мы – дорогой, а ты стороной".

Еще домового можно увидеть на светлой заутрени, в хлеву, в заднем вуглу. Домовые не говорят. Они очень любят пошалить. Я одно время жила у бабушки (она приболела). Ложусь на кроват отдыхать, в хате никого не было. Слышу – в передней топот. Детских сапожек, как будто кто-то тягне стул. Я подхватилась, пошла в переднюю. Стулья на месте – никого нет. Опять легла, все повторилось. Никого нет. Я оделась и пошла на двор. Потом бабка мне рассказала, что это был домовой. Он играл.

*Запісана ў в. Каранёўка Гомельскага р-на*
*ад Салодкай Тамары Уладзіміраўны, 1934 г.н.,*
*студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)*

Пакойны мой бацька сам бачыў дамавіка, от как было: пайшоў гуляць, (тады ж на ўліцы летам гулялі) і патом ноччу прышоў дамой, а спаў ён не ў хаце, а ў сараі, на сенніку (эта он када ешчо малады быў, халасцяк), дак ён на сене так і спаў, а радам в том сарае, в стойле, там коні стаялі, ну і прышоў ён, адкрыў сарай, залез на сяннік, улёгся і, пака яшчэ не заснул, удруг адкрываюцца дзверы ў сарай, заходзе маладой, высокі, красівы мужчына, лет 25. Он падышоў да коней, па грывах іх пагладзіў, прычасаў і падходзіць к сенніку, дзе мой бацька ляжаў. Бацька, канешна ж, іспугаўся сільна, і так ён падхваціўся і как пабег, дык дамоў у дзеры не патрапіў, а ў вакно стучацца начаў. От он всех разбудзіў, і дзед мой пакойны акно аткрывае: "Чаго ты крычыш? Што там такое?" А бацька мой падумаў, што то злодзей быў, і кажа дзеду: "Пап, там злодзей у сараі!" Дзед пытае: "Дык хто там?" Бацька кажа: "Мужчына які-та ў чорным адзенні з залатымі пугавіцамі!" От, старыя іх людзі знали, што гэта такое. Паэтаму дзед і кажа: "Ідзі спаць, не крычы, эта хазяін прыходзіў".

Вот так, эта, аказываецца, дамавой прыходзіў. Эта ж, кажуць, еслі дамавой прылюбе скаціну, то эта вельмі добра: будзе яе часаць, даглядаць, а еслі не прылюбе, то эта плоха: скаціна можа высахнуць на быліну, от так.

Быў у нас конь Рабчык, неказісты конік такі. І ўдруг з нім што-та невераятнае праізашло, кагда мы сарай атрэманціравалі. Рабчык стаў неўзнаваемый, асобенна па ўтрам: он выходзіў такой прычосаны, гладзенькі, красівенькі, а грыва ўся ў касічках меленькіх. І так каждае ўтра. Ну, все гаварылі, што Рабчык прышоўся ка двару, панравілся дамавому, а многія гаварылі, што эта есць такія звяркі – ласачкі, – каторыя заплятают. Ну і так было, пака той Рабчык жыў. За дзень усе касічкі парасплятаюцца, а вот к утру он апяць такой жа.

А вот я сама іногда сіжу там на дзіване, ілі дзе там, і мне кажыцца, што меня хто-та то за спіну, то за руку хто трогае. А інагда кашылёк прападзе і вот я ево ішчу, мо, полчаса так ішчу, а патом ужэ сяду і кажу: "Ну, навернае, чорт хвастом прыкрыў", і от я пасяжу, а патом устану і найду. Ну, дак я не знаю, мо, то дух які недобры, мо, то дамавік.

Ілі во ішчо што была. Аднажды была я на кухне, і, што мне там ужэ в комнаце нада была, не помню, но пашла я в комнату. Вот я дзвер адкрываю і гляжу, а мая кофта

із шкафа выкінута, а сам шкаф аткрыты, ну, дак я так іспугалася сільна, што бягом кофту тую засунула ў шкаф і сама адтуля. Дак я думаю, што то, мо, дамавы эта здзелал?

***Запісана ў в. Краўцоўка Гомельскага р-на***
***ад Навуменка Вольгі Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Фамянковай А.***

Дамавік жыве ў кожнай хаце. Ета такі маленькі чалавечак. Е харошы дамавік, які хазяіну памагае, а ёсць плахі. Калі яму нешта не падабаецца, то ён ноч не будзе даваць спаць. Каб задобрыць яго, трэба на ноч астаўляць на стале чашку малака і трохі хлеба. А можна і варэнне.

Дамавік сцяражэ хату ад пажару. Калі хазяева не добрыя, дамавік шкодзіць ім, а калі пакрыўдзіць яго, дык можа і забіць ноччу. Дамавы звычайна жыве ў хаце за печчу. Яго ніхто не бачыць. Ён хазяін хаты. Любіць салодкае і смачнае.Калі я была маладая, то бачыла дамавіка. Мы перасяляліся ў новую кватэру. Гэта было ноччу. Я ляжала на ложку і ўбачыла, як нейкая цень рухаецца, а я была адна ў хаце. І так ён мяне пужаў цэлы тыдзень. Потым прыйшоў поп і ўсё асвяціў. Значыць, нядобрыя дамавікі жывуць у неасвечаных хатах.

Дамавік можа выглядаць па-рознаму: у выглядзе чорнага ката, тады ён любіць сцягнуць што-небудзь са стала, або ў выглядзе маленькага чалавечка, які вельмі любіць мёд.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

У кожнай хаце дамавы ёсць. У сястры страшны дамавы, кідаў пасуду, біў, матам гнуў. Каб ён супакоіўся, казалі: “Усім пакой у хаце: і дамавому, і хазяіну”.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменка В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

У нашай вёске ў адной хаце жыў дамавік. Жыў на печы, ляжаў там. Валасаты такі. Тая жанчына баялася яго. Як ні загляне на печ, той усё там ляжыць. Ды нічога плахога её ей не рабіў. Хату тую з дамавіком прадала. Дык тыя пакупнікі нікога не бачылі ў хаце. Можа дамавік і знік.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Дамавік – добры дух, але можа быць і злым духам. Калі ў хаце беспарадак, то ён можа біць пасуду, ляпаць дзвярамі. А калі ў хаце лад, то і дамавік нічога плахога не робіць. Я адзін раз памыла банкі, паставіла іх уверх дном. Уранні гляжу – банкі пераворнутыя. У сваіх спытала – ніхто не варочаў. Дамавіка я не бачыла, да і ніхто яго не бачыў. Ён нявідзімы. Можа жыць ён усюды: і за венікам у кухні, можа сядзець з табой на дзіване і за выцяжкай.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Галошынай Яўгеніі Мікалаеўны, 1955 г.н.,***
***студэнткай Галка Н. (2008 г.)***

У нас у хаце не было дамавіка і не бачыла я яго. Але ў маёй дачкі Галі быў слу-

чай. На кухне паставіла яна табурэтку, а на яе палажыла з матацыкла шапку. Выйшла яна на кухню, чуе – шапка ўпала. Вярнулася, палажыла яе зноў на табурэтку і пайшла. І хадзіла яна некалькі разоў, пакуль не палажыла гэтую шапку на полку. Значыць жа дамавіку не нравілася, што шапка ляжала на табурэтцы і займала яго месца.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Марымонавай Таісіі Дзямідаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Галка Н. (2008 г.)***

Дамавік жыве ў доме. У сяле каля печы, а ў нас, гарадскіх жыхароў, каля газавай пліты. Першага чысла кожнага месяца трэба абавязкова палажыць там на блюдзечка нейкае пячэнне, канфеткі, следующчага першага чысла выкінуць.

Калі я пераехала на новую кварціру, мне сказалі, што я далжна прыгласіць дамавога сюда. Ну вот, харошы ён, ці плахой, я ўсёроўна далжна яго запрасіць. Для етага нужна была ў новай кварціре іспечь хлебушек. Запрашаць, гаваря так: "Хазяін-бацюшка, ідзі к нам в новую кватэру".

Дамавічок нікагда не любіт, еслі кто ссорітся. Еслі хто ссорітся, ён абавязкова наўрэдзіт і ўсё астатняе. Вот і кошечку я патом себе ўзяла, трёх цветов кошечку. І еслі дамавя і кошка здружацца, то і ўсё будзе харашо. Старые людзі гаварылі, што кагда прыносіш котіка, то нада так сказаць: "Хазяін-дамавой, вот цебе друг, каб вы любілі друг друга і дружылі". Нада ўсягда к нему звяртацца. Мы его не відзелі, но всё раўно далжны к нему звяртацца".

***Запісана ў в. Скіток Гомельскага р-на***
***ад Каваленка Надзеі Цімафееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Бярэнка Ю., Кручковай Ю. (2004 г.)***

Было гэта даўным-даўно, калі бабуля і дзядуля ажаніліся і паехалі жыць ў вёску.

Аднойчы ноччу бабуля ўстала, таму што хацелася піць. Падыйшла яна да вядра, зачарпнула вады, падняла вочы і ўбачыла, што каля прыпечку нехта стаіць, такое маленькае, пушыстае, з вялікімі чорнымі пугаўкамі і ў руцэ трымае кавалачак хлеба. Раніцай, калі дзядуля прачнуўся, баба паведаміла аб тым, каго бачыла сёння ноччу. Дзед супакоіў бабу і сказаў, што махнатае і маленькае – гэта добры дамавік, ён жыве ў іхняй хаце, а па начах выходзіць з-пад прыпечку і глядзіць за парадкам. Калі на стале застанецца кавалак хлеба, ён бярэ яго і есць. З таго часу, пасля вячэры, бабуля пачала пакідаць на стале кавалак хлеба, каб дамавік не крыўдаваў на гаспадароў.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Сяргеенка Валянціны Іосіфаўны, 1940 г.н.***
***(2009 г.)***

Адна мая знакомая жэншчына расказвала мне: «Слышу, гаварыт, у мяне ўсё затрышчала ў комнаце, а што эта такое – не знаю». Яна стала па хаце бегаць, толькі нігдзе нікаго не відзела. А патом паявілася какая-та труба, будта бы яна з кірпічэй і ў ёй атверсціе. У етым атверсціі сядзеў хто-та ціпа чалавека ці мядзведзя, какой-та ён быў разінавы, з кароткімі рукамі, кароткімі ножкамі, весь у варсе, у варсе! Мардашка тожа на чалавечаскую не пахожа. Яна ўзяла какой-та прут і начала біць яго па нагам, і пасля гэтага ўсё ісчэзла і нікаго большэ нідзе не была.

***Запісана ў в. Хутаранка Гомельскага р-на***
***ад Андрэйчык Лідзіі Міхайлаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Сярогавай П. (2006 г.)***

Дамавік жыве ў доме. Усе яго ўяўляюць па-рознаму. Вось, напрыклад, кажуць, дамавы з выгляду такі: малы, на галаве нейкая шляпа-трохвугольнік, валасы белыя, длінныя, барада была, таксама белая і кучаравая.

Можа мне толькі здаецца яго прысутнасць, але аднаго разу было такое. Паклала я грошы на дыван, пасля – туды-сюды перавярнулася – няма. Куды ж дзеліся? Мабыць, з-за дурной галавы. Праз дзень гляжу – на серванце ляжаць. Вось як цікава і смешна бывае. Ён, мой дамавы, забоціцца пра мяне. Грошы ж павінны ляжаць на сваім месцы. Вось так.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Мірановіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Дамавік жыве ў кожным доме. Ён устае рана і будзіць петуха. Калі яму хазяін панравіцца, то ён будзе памагаць яму, глядзець хату. Ён жыве пад печчу. Гаварылі, што дамавы – гэта стары дзядок з дліннымі валасамі. Кале пераязджалі ў новы дом, то дамавога перавозілі з сабой. А яшчэ дамавому астаўлялі на стале ежу, каб падкараулівань яго, а то, калі не аставіць ежы, то дамавы можа абідзецца і ўйці з хаты.

***Запісана ў в. Яроміна Гомельскага р-на***
***ад Прымак Галіны Пятроўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Адаськовай Ю.***

Я чула, што ёсць дамавікі, але не кожны чалавек можа іх бачыць. Яго бачыў толькі добры чалавек. У нашай вёсцы жыла раней жанчына, яна бачыла. Гаварыла, што гэта маленькі дзядок з доўгімі валасамі. Ён ёй карміў кароў ва двары, дык яна яму пеўня забіла.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Домового еще называют хозяином или дедушкой. Домовой – это одновременно хранитель и обидчик дома. Он стучится и возится по ночам, шкодит, может даже ради шутки подушить спящего человека или погладить его своей косматой лапой.

Домовому нравятся трудящиеся люди.

В доме должен быть только один домовой, но иногда заводится и два. И тогда они между собой очень ругаются, иногда даже дерутся. Я даже как-то слышала, что домовые могут превращаться в хозяев дома, которые уже давно умерли.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Рафеевай Аляксандры Аляксееўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Міржыеўскай А. (2010 г.)***

Дамавік ёсць у каждай хаце. Маленькі ён, барада ў яго ёсць. Калі з ім па-харошаму, дык ён дапамагаць будзе, а калі пакрыўдзяць яго, тагда ён хаваць вешчы ўсялякія будзе.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Яго я знаю. Гэта хатнік. Кажуць, што ён мае від старэнькага дзядка з сядой барадой і длінными сядымі валасамі. Адзеты ён у белую рубаху. Спіць хатнік на пячы або пад печчу. З-за гэтага яго называюць падпечнікам. Устае ён рана і пугае пеўня,

талкае яго. Певень хлопае крыллямі і крычыць. Інагда хатнік уздувае агонь і ідзе ў клець і прасушвае хлеб, таксама заглядвае ў хлеў і дае корму лашадзям і каровам, гладзіць іх. Хатнік любіць дружную сям'ю, ён не церпіць сварлівых баб. З хатнікам нужна жыць у міры. Калі прагневаеш хатніка, то ён можа паўрэдзіць у хазяйстве.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

У кожным доме ёсць свой хазяін. Толькі чаму-та ён не дае аб сабе знаць, толькі к чаму-та, к нейкім пераменам у жыцці. Мы разгаварваем і ён радуецца з намі, бо мы разгаварваем харошым словам.

***Запісана ў в. Вылева Добрушскага р-на***
***ад Разрашэнка Лізаветы Пятроўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Смяглікавай В. (2004 г.)***

Дамавік жыве ў хаце. Гэта стары сівенькі маленькі дзядок у кальсонах і долгай рубашке. У него долгая сядая барада да зямлі. Ён знаходзіцца ў любом углу дома, можа жыць пад венікам. Выходзіць ён ноччу і глядзіць, што зрабілі хазяева. Калі яны плоха зрабілі работу, то ён мог уйці ілі наврэдзіць хазяйке. Ён мог пабіць пасуду, рассыпаць муку. Патаму з дамавіком нужна была дружыць, хазяева часта размаўлялі з дамавіком, называлі яго хазяінам у хаце. Такжа, калі хазяева добра рабілі работу, то дамавік дапамагаў хазяйке, даглядаў за жывёлай дамашняй.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на***
***ад Фамічовай Аляксандры Яфімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Каліноўскай Т. (2009 г.)***

Дамавік – гэта такі мужычок, або кот, толькі з хітрым розумам. Ён жыве ў кожнай хаце, звычайна пад печчу. Ён бывае добры і абараняе хату ад злых духаў і нячыстай сілы. Ён быстра бегае, як кот, на чатырох лапах, і як чалавек. Такі ён хітры, як што ўбача смачнае на стале, дык хутчэй пад печ цягне. Гаспадар бывае яму спецыяльна што-небудзь астаўляе на стале, напрымер, свежае малако ён любіць. Днём ён можа зайсці на двор чэраз комін. І праз печ абязацельна дадому вярнуцца.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-ра***
***ад Гуд Любові Ігнатаўны 1932 г.н.,***
***студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

Дамавік – маленькі дзядок, які жыве ў каждай хаце. Кожны чалавек яго прэдстаўляе па-свойму. Я дак яго адзін раз чула. Я ляжала на печы. А печ жэ ж маленька. Чую, хтосьці мяне так ета двігае, я думала, то мне сніцца. А яно так ета двігае. Я прачнулася да і кажу: "Хто ето?" Тут яно як спрыгне з печы і пабяжыць. Але я яго не бачыла. Ён невідзімы. Ён любіць шкоднічаць. У нас конь е. Дак аднаго разу пасля ночы вывелі каня, аж у яго грыве заплецены пляцёнкі. Мы абраціліся к знахару. А ён і сказаў, што ета Дамавік. Дак зайшоў у хлеў да й і кажэ: "Дзедушка-суседушка, глядзі моё хозяйство, да і грыву распляці ў коніка майго".

Да й і назаўтра ўжэ не было пляцёнак. А яшчэ кажуць: "Дамавік-дамавік, родны бацюшка, глядзі мае коровы ці яшчэ што з худобы". Дамавік любіў яшчэ вароты адкрываць. Калі ў хаці сварацца, то ён тожэ зліцца, шкоду ўсякую робіць. Ён жыў у прыпечку, на печы.

***Запісана ў в. Валаўск Ельскага р-на***

***ад Чорнай Галіны Пятроўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Паўленка Г. (2004 г.)***

Гэта гісторыя адбылася тады, калі мы былі яшчэ малымі. У нас была новая прасторная хата. Разам з намі жыў дамавік. Ён быў добры і шкоды ніякай не рабіў. Мы заўсёды астаўлялі яму на стале ежу. Дамавік любіў пажартаваць з намі. Нашу вопратку, якую мы здымалі з сабе перад сном, ён мог схаваць, абутак паставіць на шыфанеру. Маці ругала нас за тое, што мы раскідваем свае рэчы. А потым паверыла, што ўсё гэта прадзелкі дамавіка.

Аднойчы да нас прыехала наша цёця Алена, сястра маці. Яна чамусьці не панравілась дамавіку. Ноччу яна прабудзілася ад таго, што нехта зцягваў з яе коўдру. Адкрыўшы вочы, яна ўбачыла незнаёмы ўсміхаючыся твар старэнькага дзядка. Цётка ўскрыкнула і хацела падняцца на ложку, але не змагла, бо яе доўгія прыгожыя валасы былі заблытаны за поручні ложка. Цёця была вельмі напалохана. Мы з сястрой разблыталі цёціны валасы і заплялі іх. А з раніцы цёця не магла знайсці шмат сваіх рэчаў, і мы прапанавалі ёй задобрыць дамавіка. Яна спекла пірог. Павячэраўшы, вялікі кавалак паклалі на талерку дамавіку і пайшлі адпачываць. Назаўтра заўважылі, што талерка на стале пустая, а рэчы цёці Алены былі на сваім месцы. Відаць, пірог спадабаўся.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Хочам мы гэтага ці не хочам, але дамавік жыве ў кожнай хаце. Ён пахожы на чалавека, а рост у яго дужа маленькі. Ён чорны, па ўсім целе растуць валасы. Дамавыя бываюць добрыя і злыя. Якія людзі жывуць у доме, такія і дамавікі.

Жыве дамавы пад венікам, пад печчу. Ён дужа не любіць, каб на стале нажы ляжалі, соль стаяла. Дамавікі дужа любяць малако. Яны могуць біць пасуду, хаваць розныя вешчы. З дамавіком трэба жыць дружна, дагаджаць яму. Тады ён будзе абараняць дом.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К.***

Дамавік – гэта такі маленькі чалавечак, які жыве ў домі. Выглядаць ён можа парознаму. Усё завіся ад таго, добры ён ці злы. Калі яго не абіжаць, то і ён не будзе вас трогаць, а дажы наабарот, будзе ўсякімі дзяламі памагаць. Дзецям памагае быстра заснуць, калыханку ім пяе, злога чалавека ў дом нікагда не пусціць.

Но добры дамавічок усягда можа стаць злым. Каб гэтага не было, нада ўсягда на ноч лажыць на стол што-небудзь укуснае: кусочак хлеба, сахару. Сільна любіць ён канхветы. От паложыш парачку, утрам устанеш, а іх няма. Маленькі ён, сільна маленькі, не вельмі стары, но ўжэ і не малады. З дліннай серай барадой. Адзеты так, як раньшы людзі ў дзярэўні адзяваліся: які-та цёмны андарачок, шапка, валёначкі. Нешта цяперака не стала іх. Раньша многа было, пачці ў кожным доме, а цяпер не чутна. Наверна, людзі верыць перасталі, падкармліваць іх па начах, вот яны і прапалі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Содаль Яўгеніі Сямёнаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Кравец І. (2003 г.)***

Хатнік – гэта стары дзядок з барадой і сівымі валасамі. Абычна ён адзеты ў белую кашулю, босы. Еслі хатнік згаджаецца з хазяівамі, тады і памагае ім: глядзіць за скацінкай, прыбірае ў хаце і г.д. Еслі ж яму што-та не панравіцца, дык ён тады робіць усё наадварот.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Хатнік – гэта дух дома. Ён пахожы на маленькага дзядка з барадой. Кажуць, што жыве ён у падпеччы. Гэта гаспадар. Ён добры, но можа і разазліцца із-за п'янства, сямейных ссор, неакуратнасці. Ён імея жонку і дзяцей. Калі ў хаце хто-та правініўся, дык ён іх карае хваробай, ці можа дажа душыць у сне. А так ён вясёлы.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Дамавік і ў нас быў. Расказваў мой бацька, што калі хазяін быў харошы, то і дамавік усё дзелаў добрае. А калі хазяін быў дрэнны, жадны, то і дамавік такі быў.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранава М.Р., 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Дамавік ё ў каждай хаце. Я яго не бачыла, а ён, кажуць, бача ўсё. Мамка мая расказвала, што ён маленькі, з вусікамі і бальшой барадой. Ён на пячы сядзіць.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Багуновай М.І., 1930 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Маленькі дзядочак з барадой. Бывала, стукаў, не даваў спаць. Калі хазяін ушкодзіў (узліў) яго, то ён пачынаў усё раскідваць, рабіць назло.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай А.Р., 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Як гавораць, дамавік доўжан быць у хаце. Ён ахраняе дом. Калі яго не будзе, то прыйдзе злы дух. Мы дамавіка не бачылі. У хаце ён заўсёды сядзіць на покуці, там, дзе абразы. Калі чалавек перасяляецца з адной хаты ў другую, дамавік ідзе разам з ім. І зваць яго не трэба, ён сам пойдзе. Бывае, сядзіш у хаце, і тут вдруг пачынаюць трашчаць абоі, як хто іх рве. Эта ўсё дамавік робіць.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Васіліны Рыгораўны, 1948 г.н.,***
***студэнткай Берднік В. (2006 г.)***

Дамавы ў кожнай хаце жыве. Ён бывае добрым і ўрэдным, ліхім. Як яму падабаецца, як у хаце ўсё робіцца, то ён дапамагае хазяйцы, а як што не так, то ён злуецца. Бываюць, праўда, проста ўрэдныя дамавыя. Каб ён быў добрым і не шкодзіў, трэба ў доме кошку завесці. Вельмі ён катоў любіць. Тады ціхім будзе. І нельга ніяк два венікі ў хаце трымаць – два дамавыя будуць. Будуць яны спрачацца, хто ў хаце галоўны, драцца будуць.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Ганны Кандратаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Дамавікоў у мяне не было. Але матка казала, што када малая была, дык калі яны снедалі, дык пасля стол адразу не прыбіралі, бо гаварылі, што дамавы прыйдзе і паснедае.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Страха К. (2006 г.)***

Дамавік жыве дома, прыходзіць ноччу, стукае па сценах, ходзіць па хаце. Каб не пужаў, патрэбна пасвяціць мак і абсыпаць хату.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Дамавы – стары дзед. Жыве ў хаце. Даглядае малых, калі яго папрасіць аб гэтым. Любя малаком частавацца, але толькі свежым. Інагда гуляецца з малымі кацянятамі, а кошка тады злуецца, што дзеці не слухаюцца.

У нас жыве вясёлы, удалы дамавы, яго няслышна і нябачна. Але я слыхала, што на другім канцы дзярэўні прадалі дом, старыя памерлі, а маладым тая хата не патрэбна. Дык новыя хазяі пераехалі туды, зрабілі рамонт, а печ не маглі распаліць без ахапкі саломы. А потым нажы сталі знікаць. Парэзалі хлеб, нож пакінулі на стале, а наранку яго не знайшлі. Дасталі новы – тая ж песня. Як толькі не паклалі на месца – так гэты нож як ветрам здувае. І сварыліся муж з жонкай, і друг на друга пальцамі паказвалі, але так і не змаглі знайсці. Абшукалі ўсю хату, і на двары, і ў агародзе – нічога. Праз паўгода муж з жонкай так рассварыліся, што і разбегліся, дзяцей няма, хату пакінулі. Прайшоў невялікі час, ну, можа год, хата развалілася прама на вачах. Дзеці суседзяй бегалі туды пагуляцца ў пустой хаце. Адзін бег па былой спальні і праваліў пол, нага застрала. Пачалі вытасківаць, выламалі пару досак, а там паўдзясятка паржавелых нажэй. Усе здзіўляюцца, як яны туды папалі?

А я думаю, што ета дамавы іх туды паклаў. Яму не спадобіліся новыя хазяі. І дом хутка разваліўся ад таго, што дамавы зышоў адтуль. Вось як!

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Дамавік ёсць у кожнага ў хаце. Он маленькага росту і вельмі рухавы. Дамавік можа аберагаць, а інагда і здзеквацца над людзьмі, можа нават хаваць рэчы.

***Запісана ў п.Чырвонае Жыткавіцкага р-на***
***ад Цімашчэня Ганны Парфёнаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Макарэвіч А.***

Дамавік жыве ў шкафчыках. Ён стары і маленькі ростам. Ён не сядзіць ніколі на адным месцы, а бегае па ўсёй хаце. Дамавік вельмі добры, памагае людзям: прыбірае са стала і вяжа. Ён выганяе венікам з хаты нячыстую сілу. А калі ў тую ж самую хату заходзе яшчэ адзін дамавік, то пачынаецца скандал, людзям ад гэтага становіцца плоха. У яго ёсць шапка з бубончыкамі.

***Запісана ў в. Сяменча Жыткавіцкага р-на***
***ад Чарнагаловай Парассі Пятроўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кацуба У. (2006 г.)***

Дамавы – ета маленечкі дзядок з сівою барадою. Ён е ў кожнай хаці. Звычайна ён добры, але калі хазяева ў гэтай хаці ня ладзяць, дык і дамавік злым становіцца. Яго абіжаць не нада. Трэ ўсё ўрэмя яго падкармліваць. Я лажу на стол заўсёды канфет, каб задобрыць, бо ён вельмі ж любіць салодкае.

Дамавы заўсёды хазяявам памагае. Звычайна ходзіць па хаці ноччу, калі хазяяева спяць. Жыве пад печчу, калі ў дзярэўні, а ў горадзі, то ён жыве за цялявізарам. Дамавы – добры дух, ён аберагае і сцеражэ ўвесь дом.

***Запісана г. Калінкавічы***
***ад Белай Варвары Васільеўны, 1928 г.н.***
***(перасяленка з в. Навінкі Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Торап Т. (2005 г.)***

У мяне есць таварыш.І вось ён шыў дома і палажыў іголку, а яе ня стала. І ён сказаў: “Дамавой, набалывался, дык атдай” А уже на другой дзень яна ляжала на сваім месцы.

***Запісана ў г. Калінкавічы***
***ад Дулуб Віктара Андрэевіча, 1932 г.н.***

Дамавой – эта дамашні хазяін, хто абярэгае дом, памагает людзям у хазяйстве. У мяне і цяпер жывёт дамавой. Я его заву Семёнам. У каждага ў доме должэн быць дамавой. І гэта я гавару сер'ёзна. Завесці дамавога очэнь легко. Нада абезацельна спекці бліноў і паставіць на стол две румкі водкі. После этага сказаць: “Бацюшка-хазяін, захадзі ў дом” і перэкрэсціцца. Штоб ён вам харашо памагаў, нада каждую нядзелю новага месяца ўгашчаць яго. Я раскажу вам адзін случэй. Как-та раз я сушыла ў духоўке грушы-дзічкі. У эты дзень мы сабіраліся капаць картошку. Прыехалі за мной людзі, я быстра сабралася і пабежала з дома. А духоўку забыла выключыць. Кагда я з мужам прышла дамой, то ўся кварціра была чорнай: паталок, как вугаль, а вот агня не было.

Другой случэй. Убілі мы свінку. Павезлі на базар прадаваць. І ўзяла я Семёна з сабой, сказаўшы такія слава: “Бацюшка-хазяін, паехалі з намі”. На базарэ мы прадалі сваё мяса самыя первыя. Вот такіе случэі. Но еслі ноч дамавой вас беспакоіць, то нада бросіць пад криваць венік. Вам тожэ нужна завесці дамавога. Кагда он будзет з вамі вездзе, то тагда ў вас всё будзет харашо. Я расказала два случэя пра сваего дамавога, кагда он памагал мне дома, у нашэй меснасці. А кагда я ездзіла к дочке в Германію, то Семёна брала з сабой. І назад патом прывезла. Как я его перевазіла? В сумке. Нужна сказаць некатарые слава. А когда вы рэшыце завесці сваего дамавога, я раскажу всё падробней.

***Запісана ў в. Бабровічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Назаранка Анастасіі Сямёнаўны, 1941 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

Кажуць, што ё дамавік, ды людзей пужае. А я не ведаю. Кажуць, што дамавік пужае ды стукае. Гаворась, што чудзіцца гэта ноччу ў хаце. А бачыць, дык ніхто яго не бачыў.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Багдановіч Я.П., 1934 г.н.,***
***Новак В.С.***
***студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г. (2009 г.)***

У мяне ў хаці жыве дамавік. Я ведаю, што існуе добры і паганы дамавік. Спярша я пуджалася яго, а зараз ужо звыклася. Каб дамавік не пуджаў, трэба на зары пасыпаць у хаце вуглы макам і пабрызгаць святою вадою. Калі яго ўгнявіш, ён не дасць усю ноч цебе спаць, будзе тупаць па хаце. Дамавіку неабходна абавязкова пакідаць скібачку хлеба на стале, тады ён робіцца добрым. Кажуць, што ў тым доме, дзе жыве дамавы, няма нічога добрага.

***Запісана ў в. Мнагаверш (зараз Мікулінск) Калінкавіцкага р-на ад Кавалёвай Ганны Леанідаўны, 1955 г.н., студэнткай Скіданенка В.***

Разные домовые бывают. Могут быть похожи на зверюшек. Вот, например, рассказывала одна женщина. Переехала она с семьёй в квартиру бабушки мужа и целых три ночи подряд этой женщине не давал покоя домовой. По её описанию, он был малюсенький и весь такой лохматый. Он садился ей на живот и, казалось, что был он таким тяжелым, что когда она хотела позвать на помощь, то не могла из себя ни одного слова вымолвить. Потом как-то резко он исчез и больше не надоедал. Наверное, признал её своей хозяйкой.

А вот еще другая женщина жаловалась. После развода со своим мужем, когда тот ушел из дома, стало что-то странное происходить. Были слышны чьи-то шаги, скрипели полы, будто бы кто-то ходил и тяжко вздыхал. Слышно было, как открывается кран и начинает течь вода. По ночам что-то гремело на кухне, открывалась и закрывалась форточка. Когда она хотела встать, чтобы проверить, что это грохочет, то ее охватывал страх и сковывало все тело.

Это продолжалось очень долгое время. Потом кто-то из знакомых посоветовал посвятить углы святой водой, перекрестить по три раза и ложить туда конфеты, чтобы домовой успокоился. Всем стало хорошо. И женщине спокойно, и домовой доволен. А вот увидеть домового – большая редкость. Домовой не всем показывается. Являлся он только тем, кому считал нужным. Говорили, что домового видят только счастливые. У нас считалось за счастье увидеть домового. А кто и увидит его, то всё равно молчит – не рассказывает, так вот было у нас принято. Если увидишь его, то это хорошо, счастье тебе будет. Значит, хозяин и помощник в доме живет, охраняет от нечистой силы.

Да, когда семья собиралась переехать в новый дом, то они обязательно звали с собой домового. Было принято называть домового каким-нибудь мужским именем. И вот, когда вещи были вынесены из дома, то хозяин или хозяйка приглашали с собой домового, обращаясь к нему по выбранному имени. Считалось, то теперь они обрели настоящего друга, помощника и охранника домашнего очага.

***Запісана ў в. Мнагаверш (зараз Мікулінск) Калінкавіцкага р-на ад Скіданенка Ірыны Мікалаеўны, 1963 г.н., студэнткай Скіданенка В.***

Дамавыя павінны цікава жыць у хаце. Ён дапамагае. Калі штосьці згубіш, то дамавы, калі яго папросіш, ён дапаможа.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на ад Малько Тамары Іванаўны, 1936 г.н.***

Я веру ў дамавога, шчытаю, што такое сушчаство есць. Был дажа аднажды такой случай. Сядзелі мы ўсёй сям'ёй і сматрэлі целевізар. Неажыданна са сцяны ўпала

карціна і разбілась, ана была сцякляннай. Эта было странна, потому што і кручок, і гвоздзь былі на месце, яна проста ўпала ні з таго, ні з сяго. Эта быў, наверна, дамавы. Дамавы – эта што-та маленькае, махнаценькае, з дліннай барадой.

Дамавік – гэта маленькая істота, якая жыве з намі дома. Хоць мы верым, хоць не, а ён нам дапамагае. Вот калі ў сне ў нас што-та замлее і мы праснёмся, так эта ён нам памог праснуцца. Калі што шукаеш, калі пацыралі, глядзім у том месце па столькі раз і не находзім, а патом раз – і знашлі. Эта тожа дамавічок памог. Ён дом наш зашчышчае ад усякай нячыстай сілы. Гэта харошая істота, не нада яго баяцца.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Курыла Лідзіі Купрэеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Сцёпкінай С., Раманюк В.***

Мы яшчэ жылі ў Старым Млыне і каждую ноч, вот мы слышым, што адчыняюцца дзверы ў сараі. І точна хто едзе на кані. Наверна, дамавы. Слышу я, як ён праехаў, а ўжо патом прыязжаў жа назад і закрываў дзверы. А каня ж у нас не было. Па дому нічога не дзелаў. А інагда стукаў па калодцы, пакуль заснём. Вот кажды раз так. І саседкі тожа гаварылі. І мы как будта і бачым яго, када ён едзя.

Мы ішлі на танцы. Ета была перад Івана Купала. Уперадзе з аднаго боку і з другога боку – бальшэнныя кусты, два. Ну мы ідзём, трохі ж пяём. І тут з куста выязжае на кані, белым, бальшым, бальшы мужчына ў белым, жырны такі. Конь як нада ідзе. А мужчына эты сядзеў ліцом к нам, а к каню спіной. У яго была бальшая белая барада, а сам ён малады. Ета быў дамавы, а такі красівы. Мы ж, дзеўкі, перапугаліся і началі хрысціцца. І як началі хрысціцца, дык ён сразу ж паскакаў у саседнія кусты. Мы пабеглі. А назаўтры пашлі і паглядзелі, а там трапінка была, добрая такая, шырокая.

Як-та ноччу прышла сястра мая позна і есці села ля акна. Есць і глядзіць. А ў вакне нешта падходзіць, красная морда. Яна спугалася. А ета быў дамавік, точна дамавік. Нельзя есці ноччу.

***Запісана ў в. Кароцькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленка Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Я думаю, што дамавік усё ж існуе. І ў нас у хаце ён жыў. Дамавік – гаспадар у хаце. Бываюць дамавікі і добрыя, і ўрэдныя. У нас добры жыў. Жыў дамавік за печкай. Я его не відзела, но ведала, што ён есць. І каб дамавік не злаваўся, кожны вечар каля печкі ставіла яму талерку з ежай, а раніцай забірала пустую.

Дамавік пахож на маленькага старычка з барадой. У суседзяў нашых дамавік урэдны быў. Ён жыў пад полам, а па начам бегаў па хаце, моцна тупаў, раскідваў рэчы і не даваў спаць ім. Калі дамавіка вельмі раззлаваць, ён адпомсціць. Можа нават хату падпаліць ці жывёлу замучыць. Таму з дамавым усё будзе добра.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Ну, дамавікі бываюць у кожнай хаце. Іх нада шанаваць. Яны нікога не могуць задушыць, зрабіць ліхога. Яны небачныя, але бывае, сядзіш у хаце адзін, а табе кажыцца, што хто-та ходзіць, заве цябе.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Кацуба М.Х., 1921 г.н.,***

***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

Хто яго ведае, можа, і ё дамавік, а, можа, і няма. Усе пра яго гаварылі. Я думаю, што ён малога росту, такі, як звярок, пушысты, галава кашлатая. У хаце ён не жыве, а больш у лесе. Людзі шчэ гаварылі, што ён папярэджвае, калі хто памрэ. Калі ў хаце нядобра, часта хварэюць ці не ладзіцца – значыць, у хаце пасяліўся дамавік.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Ціханенка Г.В., 1947 г.н.,***
***Ціханенка Н.І., 1934 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

У хаце ёсць хазяін. Гэта дамавы. Добры ён, харошы. Жыве ў кожнай хаце пад печчу. Як хазяева харошыя, так ён ім і хазяйства беражэ, памагае. А як нерадзівыя хазяевы, дак замучае ён іх, хазяйства запусціць. Як яны пасварацца з дамавым, дык мірыцца нада. А мірыцца лёгка. Падлажыць пад печ махоркі якой ці хлеба кусок. Дамавы пасудай пагрыміць, пашчакоча, да не са зла. Яму ж тожа пазабаўляцца хочацца.

***Запісана ў в. Страрадубка Лоеўскага р-на***
***ад Логіс Кацярыны Кандратаўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Логіс В. (2009 г.)***

Дамавік жывець у кожнай хаце. Ён жа дапамагае весці хазяйства. На яго не можна ні ў якім разе ругацца. Кагда ж ты на яго крычыш, дык тада дома адно няшчасце і гора. Яны ж будуць дзелаць усё на ўрэд. А штоб прыдобрыць дамавічка, людзі на стол ложаць нештачка сладзенькае: пічэнюшку, цукерачку, могуць дажа і варэння, каб задобрыць дамавічка і ў хаце быў парадак. Дажы я так дзелаю, і мамка мая дзелала, і бабка. А кагда лажышся спаць, то слышыш шагі, як ходзіць хто-та па дому і па страхе. Жана ў яго ёсць, кікімарай яе называюць.

***Запісана ў в. Сырск Кармянскага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Ягораўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Была аднажды такое, што я сядзела за сталом, а хто-та падашоў іззаду, датронуўся да маёй спіны і ўсё. Я павернулася, а там не было нікаго. Я адразу паняла, што гэта наш дамавік. Мы дажэ далі яму імя – дамавік Кузя, як у том мульціку. З таво врэмені мы падкармліваем его, даём канфеты.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Дамавіком з'яўляецца такі маленькі седы чалавечык з длінnай седой барадой. Ён нізкава росту, з маленькімі ручкамі і ножкамі. Адзеты ў длінnае цёмнае плацье.

Дамавічок – гаспадар кожнага дому. У аснаўном ён жывець за печкай. У доме можа абітаць як добры, так і дрэнны дамавік. Добры дапамагае хазяінам дома ў быту, а дрэнны – наадварот, б'е чашкі, тарэлкі, усё робіт наабарот.

Я шчытаю, што дамавік паяўляецца в том доме, дзе няшчасце, дрэнны быт. Бывае, што ў хаце дамавік трашчыць палавіцамі, шторы ходзяць ходарам, мабыць, весяліцца.

Нужна ў тарэлачку класці хатняму гаспадару падарункі: канфеты, баранкі, пранікі, як бы трэба паддобрыць дамавіка. Бывае такое: лежыш, а цябе хтосьці за валасы шчыпае, гладзіць. Гэта ж дамавічок!

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***

***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н., студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Помню, бацька расказваў, што за домам агарод быў. Ён колышкі ўбіваў, каб провалку нацягнуць і агарод наш агарадзіць. Убіваў, убіваў і тут слышыць, гук пайшоў, быццам у трубу стукнуў. На месцы гэтым такі віхр падняўся, і толькі на гэтым месцы, больш нідзе. Тапор, якім ён колышкі ўбіваў, шчэз і потым колькі не іскалі, не знайшлі. Бацька гаварыў, што наверна дамавога ўдарыў, калі той уладзенні свае абыходзіў. Гаварыў, што плоха гэта.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Вергіенка Надзеі Васільеўны, 1939 г.н. (перасяленка з в. Красная Горка Нараўлянскага р-на), студэнткай Геаргадзе М. (2006 г.)***

Дамавік – дух дома. Паказваўся людзям у выглядзе чалавека, часта на адзін твар з гаспадаром дома. Невялікі дзядок з белымі валасамі. Жыве дамавік пад печчу або пад венікам. Ён клапаціцца пра хатнюю гаспадарку, дапамагае ва ўсіх справах. Любіць таксама хатнюю жывёлу.

Калі пераязджалі ў новы дом, пад печ ставілі стары лапаць або чаравік і казалі: “Сядай, дзядуля, у сані, паедзем з намі!” Затым лапаць на вяровачцы перавозілі да новай хаты і ставілі яго пад печ. Дамавіком мог стаць чалавек, які не атрымаў прычасця. А яшчэ людзі думалі, што ў дамавіка ёсць жонка і дзеці.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н., студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Раней у кожнай хаце вадзіўся дамавэй. Ніхто яго не відзеў. Але казалі, што ён пахож на старэнькага дзядка з длінаю барадою і длінными сера-сівымі патламі, адзеты ў льняную мужыцкую рубашку, падпярэзаны лыкам, у лапцях.

Жыў за печкаю. Ноччу толькі выходзіў, а днём за ўсім праісхадзяшчым наблюдаў. Баяўся, хоць і нявідзімы. Дамавэй любіў, калі яго шанувалі. Ён тады хазяівам памугаў. Мышэй пад мастом з лягушкамі ганяў ці з хазяінам на поле касіць хадзіў. Калі хазяін харошы, ён, калі печку дзелаў, чурачку рабіў, каб тэй зімою не замерз. Калі ж хазяін плахей, то дамавэй яму мсціць. Каней заезжваіць да паўсмерці, дражніць сабак сонных, катоў за хвасты дзярэць. Дзяцей малых шчакочыць, каб тыя вылі і спаць хазяівам не даёць. Хазяйкі можыць мазгі затуманіць. Дык тая тры разы крупеню пасоліць. Ці пачне жонку “за язык цягнуць”, каб тая бріхалася з мужыком. Тады пачынаіцца: і вілкі ў ход ідуць, і качарыга, і гальнік. А дамавэй наблюдаіць і радуецца. Ён і сам яшчэ любіць што-небудзь скінуць ці гаршчок разбіць, малако разліць.

Дамавэй любіць, калі з ім разгаварываюць, хваляць, тады ён добры, ласкавы. Любіць, калі яго прыглашаюць на вячэру. А выгнаць з хаты яго няльзя. Ён яшчэ больш тады будзе мсціць.

***Запісана ў в. Арцёмаўка Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл. ад Новікавай Раісы Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Пісталетавай Л. (2002 г.)***

У доме жывець дамавэй, канешня, дамавэй па хаце ходзіць, будзіць ноччу, стукае ў вакно. Етыя дамавыя ў нас у дзярэўні бачылі дзеўкі, як гралі на гармоні, песні

пелі. Матка наша чула, ну так што болей.

А яшчэ неяк чую званок, а потым па хаце заходжае ў спальню і шчупае за ногі, я яго тож пашчупала, дак аказаліся мужчынскія ногі. Тады я пайшла мужа будзіць, думала ён, але не, кажа,не ён. Вот так во, наверна, ета дамавы быў ці як.

*Запісана ў в. Гатавец Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл. ад Салдаценка Феадоры Пятроўны, 1923 г.н., студэнткамі Казловай Ю., Анісавец Т. (2003 г.)*

Я іщчо, кагда в дзярэўне жыла, дак у нас в доме дамавік жыў. Відзела я яго. Такой маленькі дзедушка, седой і з бародкай. Добрый он быў. У нас павучкі да мышкі вадзіліся, дак ета дамавік іх выгнаў. З таго врэмені мы сталі дамавічка карміць: то пранікам, то канхветкай угашчаць.

*Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н., студэнткай Лукашовай А.*

Дамавік жыве ў хаце пад печчу. Гэта яго месца, а калі печы няма, то жыве звычайна за венікам: куды венік паставілі, там ён будзе і жыць. Толькі трэба венік ставіць заўсёды на адно і тое ж месца, а то можа раззлавацца і такіх дзялоў нарабіць...!

Калісь лічылі: які гаспадар, такі і дамавік. Ён вельмі падобны на свайго гаспадара і знешнім выглядам, і павадкамі. Дамавіка пабачыць нельга, а калі ўглянеш, то ён сыйдзе з дому і ў доме будзе няшчасце. Дамавіка, калі пераязжалі ў новы дом, то звалі з сабой, гаворачы: “Дамавік, дамавік, мы пераязжаем, хадзем і ты з намі”. І тады дамавік адразу ішоў за гаспадаром.

Быў адзін выпадак, калі гаспадара заўсёды турбаваў дамавік, ноч не даваў спаць. І вось аднойчы прыйшоў гаспадар з гарэлкай і пачаў распіваць, хацеў напіцца, каб заснуць. Але ж не дапіў і пакінуў паўстакана гарэлкі на стале. Лёг спаць, і дамавік яго не турбаваў. А раніцай праснуўся мужык і ўбачыў, што стакан пусты. І пачаў мужык кожны вечар наліваць дамавіку стакан гарэлкі. Больш ён яго не турбаваў. Во, якія могуць быць дамавікі.

*Запісана ў в. Хамянкі Нараўлянскага р-на ад Яфіменкі Барыса Ціханавіча, 1929 г.н., студэнткай Лазарэвіч А. (2005 г.)*

У кожнай хаце ёсць дамавы, але яго ніхто не бачыць. Ён можа рабіць гаспадару добрае, а можа і благое. Калі гаспадары не дагадзілі яму чымусьці, то ён можа грукатаць сярод ночы. А можа і дапамагаць. Калі малое дзіця плача, хатнік мог качаць яго ў калысцы. Часцей за ўсё гаспадары шанавалі яго. Калі пераходзілі ў новую хату, перш за ўсё ўносілі абраз іконы, квашню з раствораным цестам, а затым кошку, менавіта для хатніка, кажучы: “Вось табе, гаспадар, махнаты звер на багаты двор”.

Гаспадар павінен пакласці для хатніка пад падлогу новай хаты невялікі хлеб, соль ды малако. Зрабіўшы гэта, гаспадар ноччу ў сарочцы павінен ісці ў старую хату і сказаць: “Кланяюся табе, гаспадар бацюшка, і прашу цябе прыйсці да нас у новыя харомы: там табе і месцечка цёпленькае, гасцінец маленькі”. Калі хатніка не пазваць на новае месца, то ён будзе плакаць кожную ноч.

*Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н., студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)*

Дамавік – ето такі маленькі дзедок. У его вялікая кудлатая барада. Ён ёю забаўляецца. Любіць, штоб не було на стале гразнаго чарэп'я. Калі ён пабачыць на стале міскі, ложкі гразныя, то начынае імі бразгаць. Не любіць, калі сварацца ў хаці, моцна гаворать. Адзін раз я его бачыла. Захожу я ў зал, там у мене шафа стаіць, а ён сядзіць на ёй, ножкі звесіў, гуляе сваёй барадою. Убачыў мене і прапаў.

Дамавые памагаюць хазяінам. Адзін раз я адкрыла хату ключом, зайшла і паклала его. Патом сабраласа ісці – няма ключа. Я і туды, я і сюды, і гавару тады: "Дамавічок, дамавічок, памажы мне найці ключ". После маіх слоў бачу, што ляжыць ключ на самой відомцы. І як я его зразу не ўбачыла. Мо, дамавік схаваў, хацеў пагуляць са мною. Вот екіе етые дамавікі.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Дамавік – такі чалавечак маленькі. Жыве ў хаце. Я яго відзеў аднажды. Выхожу ноччу на кухню, а ён сядзіць ля печы ды вачамі лупае-лупае на мяне. "Што глядзіш?" – кажу яму. Знікнуў ды і ўсе дзялы. Кажуць, як раззлаваць яго, то задушыць уначы.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Дамавік – гэта такі малы чалавечык. Жыве ў хаце пад печкаю. Дамавіка зліць не нада, бо будзе рабіць усякую шкоду. Пачне біць посуд, грымець па начах, можа падпаліць хату. Ён дзядок хоць і маленькі, но сільна шустры. Нада яму ўгаждаць, называць добрымі словамі, пакідаць яму есці, каб у хаце чыста было, бо не любіць ён гразі.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Вот бабе Ноне Свірыдавай прыходзілі. Пастаянна слышалі стук: "Тук-тук-тук", топат: "Топ-топ-топ". Адзін раз, кагда ана спаць лягла, то хто-та валасаты, барадаты, такой странны (ана рассказывала) с ей лёг. Так она его сбросіла на пол.

А кагда-та Вадзік сідзел на палу, і вот огненная змея мімо его. Дак патом он са шкафа упал і два месяца ў бальніцэ быў. Эта был дамавой, прэдупрэждал, што то і то далжно случыцца. Вот і случылася.

***Запісана ў г. Рагачоў***
***ад Мельнікавай В., 1960 г.н.,***
***студэнткай Алімбачка К.***

А я верю, что есть что-то такое. И в доме каждом есть свой хозяин, домовичок. Его бояться нечего, он плохого не сделает. Обижать не надо его. Я своего всегда угощаю чем-нибудь. Коль пирог какой пеку или хлеб, обязательно положу ему на печку кусочек. Когда покупаю чего-нибудь вкусное, тоже ложу: или печенье, или конфет каких. Он-то может их и не ест, но давать надо. И вас научу. Вот вы в квартиру заселяетесь, даже если она не ваша, а снимаете, то обязательно, когда зашли, нужно поздороваться с домовичком. Поздороваться, попросить его жить с вами дружно, мирно, дать ему угощение, лучше всего положить на шкаф или в какое-нибудь место, куда не часто-то заглядываете, конфет. Он это любит. И тогда жизнь в этой квартире будет у вас спокойная, в семье не будет ссор.

Бывает, что что-то теряется в доме, ну вроде было на глазах недавно – и нету. Не ищите. Это его проделки, он спрятал. Просто попросите ласково, чтобы вернул, он и отдаст. Для этого нужно ещё платок носовой завязать на ножку стула. На следующий день пропажа найдётся.

*Запісана ў в. Алешня Рагачоўскага р-на*
*ад Сазонавай Аляксандры Іванаўны, 1937 г.н.,*
*студэнткай Анішчык Н. (2005 г.)*

Ведаю дамавікоў, вось што было. Сабралася ў дзярэўню ехаць. А я адна дома была. Ноччу мяне душыць, не ведаю што, я запытала: “К худу ці к дабру?” Сказаў, што к худу. Палезла на печ пад утра грэцца. Ляжу і ўродзе засыпаю. У мяне на плячы 2 лапы. Трогаю – лахматыя лапы. Думаю, не нада баяцца. Пачала маліцца. Ён і знік.

Дамавік, гавораць, харошы. У кожным доме ё дамавік. Калі пераязджаеш, завуць дамавога з сабой. Ён любіць добрых, харошых людзей, парадак каб у доме быў, не дай Бог, штоб пасуда была гразная. Не любіць, калі хазяева ругаюцца. Сам ён красівы старычок з длінным барадой.

*Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на*
*ад Бужан Марыі Аляксандраўны, 1938 г.н.,*
*студэнткамі Бужан А., Гарбачовай М. (2002 г.)*

Дамавой па хаце ходзіць, паходзіць і ідзе далей. Як выйшла я замуж, ляжу на дзіване, заходзіць чалавек у шынялі, у вялізных чабатах.

Пайшоў па хаці “чух, чух”. Прайшоў да іконы і назад. Мы спужаліся. Эта сказалі, што дамавы не ўзлюбіў, трэба Богу маліцца.

*Запісана ў в. Лучын Рагачоўскага р-на*
*ад Брылёвай Праскоўі Іванаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Лебедзевай В.*

Я знаю, бабкі гаварылі, калі дзеўка баіцца, што хлопец на ёй жаніцца раздумае, дык трэба ў дамавіка дапамогі папрасіць. Калі пайдуць усе з хаты, дык яна ўжо стане пасярэдзіне комнаты, ды просіць дамавіка спадобіць. А потым трэба пад пол кавалак сахару кінуць, бо салодкае любіць. Дык с’ест ён тот сахар, а дзеўка замуж пойдзе.

*Запісана ў в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на*
*ад Міхальковай Г.А., 1935 г.н.,*
*студэнткай Алімбачка К.*

Ёсць дамавікі ў кожнай хаце. Маленькі такі, лахматы, з шэрай барадой. Людзі асоба іх не бачылі. Калі хазяява панравяцца дзелалі добрае дзела – жывёлу даглядалі, дом аберагалі. Еслі не панравіцца ці лянівыя – врадзілі ім. Мама мая кожнае васкрасенне на печ кусочак хлеба лажыла, казала: “Прыйдзе дамавы, задобрыць нада, каб урада не рабіў”. Калі замуж я выйшла, у новую хату пераязджала, мама мая брала венік, падхадзіла к печы ды шаптала там нешта, гаварыла, што на веніку трэба дамавіка ў новую хату перанесці, прынесці і паставіць яго ля печы, нядзелю не чапаць. Таму што, пакуль дамавы не знойдзе места ў новай хатцы, жыве ў веніку. А тады ўжо перабіраецца ці то ў печ, ці на хату, а можа ў склеп куды – дзе больш яму панравіцца.

*Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на*
*ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,*
*студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І.*

Дамавы – які-та чорт, які пахож на маленькага чалавечка. Жыве на печкі, там

яму цёпла. Глядзіць за дамашнімі.

***Запісана ў в. Лучын Рагачоўскага р-на***
***ад Лебедзевай Соф'і Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Лебедзевай В.***

Як расказвала мая бабуля, дамавік выглядаў, як карлік, маленькага росту, усюды хадзіў і нешта сабе бурчаў пад нос, у белай рубашке і з жоўтым адлівам валасы меў. Ён слядзіў за гаспадыней, сварак не прызнаваў. Калі яму не падчыняліся, тварыў шкоду, біў пасуду ў хаце. Яго не трэба баяцца. Заўсёды на ноч астаўляйце яму на стале есці – і ўсё будзе добра. Вельмі любіць салодкае.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Ключнікавай Аксінні Аляксандраўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

Дамавік е. У мяне таксама жыве, ну, я з ім жыву ў міры, ніколі не злю, і ён мне зла не робіць, а наадварот, ад злых духаў абараняе. Ён маленькі, чысты мужычок старэнькага ўзросту.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Макаравай Еўдакіі Якімаўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

Як выглядае дамавы, я не ведаю, таму, што яго ніхто не відзіць. Дамавічок не любіць п'яных, але ім дапамагае. Ён памагае п'янаму чалавеку дайсці да краваці. Паказвае яму дарогу. То было даўно, цяпер не.

Дамавічок бывае і плахі, і харошы. Плахі дзелае табе ўсё на зло, а харошы памагае.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Карбацянкі Мікалая Афанасьевіча, 1935 г.н.***
***(прыехаў з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Дамавы жыве ў хаце. Мне гаварыла мама, што ў кожнай хаце ёсць дамавы. Каб задобрыць дамавога, трэба пасля заўтраку, абеду і вужыну астаўляць на стале што-небудзь вельмі смачнае. Тады дамавы не будзе рабіць табе шкоды.

Мне мама гаварыла: "Калі ты жывеш у хаце і ў цябе ўсё добра, то гэта ў тваёй хаце жыве добры дамавы. А калі табе трэба будзе перасяліцца ў другую хату, а табе хочацца, каб і там было ўсё добра, то ты павінна на ноч паставіць каля сваёй краваці трохлітроваю пустую банку і пакласць крышку.

На следушчы дзень, калі ты прачнешся, сразу закрывай крышкай банку, а потым вязі яе ў новую хату. Пастаў банку пасярод хаты і адкрый крышку. Тады дамавы пераселіцца разам з табою і ў цябе будзе ўсё добра.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Карбацянка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(прыехала з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Дамавічок жыве ў хаце пад печкай, можа спаць пад паталком. У кожнай хаце жыве свой дамавічок. У разнай хаце можа быць разным. У адной хаце можа быць добрай кошкай, а ў другой – злой, у трэцяй – можа быць спрыяльным для ўсіх дамачадцаў. Яны вельмі любяць парэзвіцца ў хаце. Еслі ў сям'і бываюць непаладкі, значыць, дамавічок

можа перасяліцца ў кошку або ў сабаку і шкодзіць. Ані сапутствуют і харошаму, і плахому. Усё завісіт ад настраенія дамачадцаў. Еслі настраеніе ў хазяіна харошае, то і дамавік будзе добры, а як плахое, то і дамавік можа шкоду зрабіць. Яны любяць усё вкусненькае. Дамавічок баіцца святой вады. Дамавыя абшчаюцца з хазяінам ці з хазяйкай у ва сне.

Вось у нашай сям'і быў такі случай. Скаціна ў нас не вялася. І аднойчы ноччу маёй маме прысніўся сон, што як бы нехта ў вакно стукае. Маці ўсхапілася і відзіт, што ў акно дзядок сяды паглядае і кажа ёй: "Маладзічка, ідзі шчас у хлеў, там будуць ляжаць дзевяць яіц. Гэта вам падкінулі. Убяры іх, і скаціна будзе весціся". Сказаў гэтыя словы і ішчэз. Мама тады сільна спугалася.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Пра дамавога мне мой дзед расказваў. Калі ён яшчэ зусім маленькі быў, наведаўся дамавы шкоды розныя рабіць. Мог тапор схаваць, чашку разбіць, уноч посудам грымеў. Ды так ужо стала, што ўжо не страх, а толькі адна марока. Дык бацька стаў пакідаць на ноч калоду карт на стале. І стала спакайней. Дык казалі, што гэта дамавіку скучна было, а потым ён супакоіўся.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Скроб А.І., 1961 г.н.,***
***студэнтам Парфёнавым Д. (2006 г.)***

Дамавік – малы мужычок, чорны, з валасамі. На пячы жыве. Бывае, не ўзлюбіць каго-та, пугае ноччу, нада тады вуглы макам пасыпаць. Яшчэ нада есці даваць яму, толькі смачнае, каб ён добры стаў. Нельга яго пугаць, трэба дагаджаць. А так яны добрыя, любяць гаспадара.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

З'яўляецца дамавік таксама гаспадаром у хаце, дапамагае па гаспадарцы. Жыве ён пад печчу або пад венікам. Ён нябачна дапамагае членам сям'і ва ўсіх справах: мые посуд, чысціць у хаце падлогу. Любіць смачна паесці: цукеркі, калбаску, нейкія выпечкі. Выгляд мае старэнькага, маленькага дзядочка, з сівымі валасамі, усё яго цела пакрыта валасамі. Ён не любіць, калі ў хаце ругаюцца паміж сабой гаспадары, любіць цішыню. Больш потым прыжываецца ў гэтай хаце. Існуюць добрыя і злыя дамавікі (або іх называюць яшчэ нафані). Злыя нафані шкодзяць у хаце: б'юць посуд, наводзяць у хаце беспарадак, мяшаюць штосьці рабіць у хатняй гаспадарцы, крыўдзяць малых дзетак, адбіраюць у іх смачнае. А добрыя, наадворот, любяць дзяцей, яны з імі пацяшаюцца. Гаспадары ў час вяселля запрашаюць дамавіка за агульны святочны стол, дзе шмат ежы. Дамавікі памагаюць у якіх-небудзь бедах, няшчасцях. Дамавік умее злавацца, калі яго не паважаюць. І таму ноччу ён нікому не дае спаць: стукае, грукае. Вось такі дамавы.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Тацяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Гаворуць, што е дамавы. Ён жыве ў домі. Але яго ніхто не відзець, бо ён як тая мурашка. Дамавы – ета такое прывідзенне. Еслі ён невзлюбіць чалавека, хазяіна, то

тады ён здзелае так, што чалавек балее, не спіцца яму. Уночы на чалавека тады нападаюць начніцы, ён ходзіць па хаце ўночы тады. А еслі взлюбіць, то тады добра чалавеку, дамавы яму ва ўсім спрыяе.

Яшчэ дамавы можа шуткаваць з хазяйкі, хазяіна. Паложыць ён (хазяін) што-небудзь, а патом круціцца і найсці не можа, а ета дамавы схаваў. Пацешыцца ён і назад усё кладзе. Паходзіць, паходзіць чалавек, павернецца – а яно ўжо ўсё на месцы.

Дамавы жыве пад венікам, таму вечарам, калі вымятаеш мусар, на вуліцу выбрасываць нельзя, а ў вугалок яго нада замесці, а ўтрам ужо выбрасываць. А еслі вымеў і выкінуў мусар, то нада хаця б тры каплі вадзічкі капнуць у куточак.

Нада, штоб кажды раз на стале быў хоць кусочак хлеба. Калі ідзеш у новую хату, то нада забраць з сабой іконкі, узяць хлеба, солі для дамавога і сказаць: "Усё сваё бяру з сабой". Тады і дамавы з хазяінам пойдзе. Нада сначала ката пусціць у хату і пеўніка ўпярод пусціць, штоб ён пераначаваў, песенькі прапеў. Дамавы ёсць у кожнай хаце. Еслі яго няма, то ета плоха сільна. Калі на Юр'е выганяюць ужо кароўку на поле, то хазяін свячонай вярбічкай пабівае яе па баках, па спіне, перахрысціць ёй дарогу і гаварыць: "Выганяю сваю скацінку на Юр'еву расу і аддаю дамавому. Спасі, сахрані, прыгані".

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Дамавы жыве ў хаце за венікам. Гэта яго месца, дзе ён хаваецца ад людзей, каб яго не ўбачылі. Венікаў у хаце павінна быць некалькі, а еслі венік стары, яго трэба замяніць на новы. Калі чалавек не выпаўніць гэта, ён абідзіцца і будзе рабіць нядобрае чалавеку.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Дамавік жыве ў хаце. Ён у відзе невялікага звярка велічынёю з крысу, шэра-бурага цвету. Жыве ён пад полам у хаце. Вылазіць і ўдзень, і ўночы, калі ў хаце сціхаюць усе жыльцы. Харошага ён мала робіць. Таму што бывалі случаі, калі ён шкодзіць: перастаўляе табурэткі, ляскае некаторымі прадметамі, што вызывае трывогу, бо радасці ў гэтым мала, як быццам ён падсказвае нешта нядобрае. Каб засцерагчыся ад яго, трэба, каб быў уключаны свет.

Наша суседка Аксіння казала, што пасля вайны ў суседчыну хату прыходзілі маладзіцы, у якіх не вярнуліся з вайны мужыкі, казалі, што яна ўмее вызываць дамавога, які прадвяшчае сваімі дзеяннямі, вярнецца той ці іншы хазяін або не. Для гэтага ў парозе ставіўся стары стол на чатырох ножках. Калі жанчына пагукае дамавіка, то стол павінен "хадзіць ходарам". Гэта азначала, што той жанчыны мужык жывы і вернецца дамоў, а калі стол стаяў нерухома, то гэта прадвяшчала бяду.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Дамавік у мяне жыве – гэта павук. Ён жыве ў хаце, у вуглу і пляце павуціну. Яго нельзя ўбіваць, бо ён нічога плахога не дзелае чалавеку. Сядзіць сабе на павуціне і наблюдае за намі. Я з ім інагда разгавараю.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***

***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Дамавік жа жыве ў нас. Маленькі такі, пахожы на старога дзядка. Толькі вельмі ён валасаты. Жыве ён на печке, значыт цяпло любіць. Не любіць, калі мы закідваем печ розным хламам, тады ён сердзіцца і ноччу б’е пасуду, кідае качэргі. Ён вельмі капрызны і каб яго не агарчаць, трэба добра весці ўсю дамашнюю працу, бо ён хазяін дома. Што не панравіцца, тады творыць абы-што.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Лаўшук Наталлі Віктараўны, 1958 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Мама мая расказвала мне пра яго. Прышлі к ней её падругі гуляць. Хлоп дзвярамі ў зал. Паглядзелі – няма нікога. Потым яна пайшла спаць, і сніцца ёй сон. Старычок такі шчупленькі гавора ёй: “Ты іскала мяне. А я быў радам, каля цябе. Я жыву ў вашым доме. Я дамавы ваш”. Гаварят, што ён ходзіць в белай адзеждзе. А еслі ў хазяіна есць конь і он ему панравіцца – будзе косы ему заплятаць. Старыя бабушкі гаварят, што кагда ідзеш у чужую хату, толька перасякаеш парог, прыглашай з сабой. Нада гаварыць: “Мой дамавой, хадзі разам са мной. Жыві ты разам з намі ўмесце, абходзься каля маёй сям’і і каля скаціны па чесці. А кагда ты чужы, насыльны, ідзі к нему і пагуляй, а в маём дваре не бывай”.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Дзегцярэнка Кацярыны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Дамавік павінен жыць у хаце. У новай хаце ў мяне яго няма. А вось як жыла ў старой, усягда ставіла яму малачко пад прыпечак. Ні знаю хто, ці мышы, ці што, піло ета малако, але зранку місачка ўсягда была пуста.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Галаўко Кацярыны Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Дамавік – гэта такі чалавечак цёмны, бывае маленькі, а бывае і вялікі. Гавораць, калі ён маленькі, то есць нізенькі, то добры ён. А калі высокі, здаровы, то плахі, шкоду робіць, хаця шкоду робіць і маленькі, але яна, гэтая шкода, не такая шкодная, не плахая. Напрыклад, ключы схавае ад хаты ці хлева, дык папросіш, каб вярнуў – верне, аддасць, толькі можа на другое месца палажыць, балоўнік гэтакі. Ці, напрыклад, той жа ж нож як схавае, што гвалт, а потым жа ж і аддасць, толькі па-харошаму трэба папрасіць.

Ну, ён жыве ў асноўным у хаце пад краваццю, за шкафам, я так думаю, бо мая сяброўка расказвала: села шыць на машынцы швейнай, а быў ужо вечар, зіма, рана ж цямнее. Яна ўключыла сабе лампу каля машынкі дый і шые, а ў хаце цёмна. Чуе, хтосьці шалясціць, паварочваецца, глядзіць, а там камок лахматы каціцца, рыжа-чорны, карычнявы такі, ну, не яе кот, і закаціўся пад кравать. Яна туды – а там ужо нікога, можа, гэта і дамавік быў, бо, кажуць, што ён у кожнай хаце жыве, да не ўсе яго могуць пабачыць. Мо, ён яшчэ і пад печкай жыве, я такое чула.

Калі ў хаце завёўся добры дамавік, то гэта добра: і мужык з жонкаю меняй сварацца, і дзеці не балеюць па-сур’ёзнаму, і грошы вядуцца, і худоба добрая, сытная, не хварэя. Дык мы яго, гэтага дамавога, і задобрываем: грошы пад кравацць кінем, каб вяліся, на празнікі – цукерак там ці яшчэ чаго з ежы такое, каб не порцілась. Хвалілі яго,

а некаторыя людзі яму і імя дадуць.

А вось у мяне ў хаце жыў, я так думаю, плахі дамавік, бо палохаў майго пакойнага мужыка Васіля. Адзін раз – у хаце, другі – у сараі. Ці гэта быў хлеўнік, не ведаю... Васіль казаў, што яго разгледзеў: гэта такі здаровы чалавек, з ростам чалавека, толькі лахматы, чорны, яго скура, як вывярнутая шуба, сядзіць на ўколенцах, а тады падымецца дый і набліжаецца да Васіля, дык ён на ўцёкі. Я думаю, што ён быў плахі, бо і худоба тады магла балець, да і мужыка майго ён забраў, наверна, у сараі згарэў ад курэння – выпіўшы, курыў позна вечарам дай і папаў аганёк на сухую салому. Мо, гэты дамавік выпіўшых ці п'яных не любіць. Не знаю. Мне сказалі, каб я папырскала святой вадой у хаце і хлеве, і святую паску ў вуглы палажыла. Я так і зрабіла. Вродзе ўсё і ўціхамірылась, спакойна стала.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Дамавік жыве ў кожнай хаце. Ноччу можа грукаць, хлопаць. Але ён невідзімы чалавек, ён – згустак энергіі, метрам роста. Любіць чыстату, штоб у доме царыў лад і пакой. Ён можа ўключаць целевізар, радыва ўключаць. Вось яно не работает, а ён возьме і ўключыць. Каб задобрыць яго, нада свяціць хату, пырскаць свяцонай вадой.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Герыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

У каждай хаце ёсць дамавік. Уначы ён ходзіць, стукае, кружкі на сталe трогае. Ён злы. Я яго баюся.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Пашкоўскай Марыі Максімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

У нас у хаце пад лавай жыў плахі дамавы. Сабакі і кошкі ў нас не было, а жыў ён. Роста ён невялікага, бо ноччу спаў у дзеда на барадзе. А як мы ўзналі, што дамавы спіць на барадзе? Ноччу ён затыкаў дзедаў нос і яму не было чым дыхаць. Плахі быў і выў па начах, стукаў, грукаў. І каб паддабрыцца і яго супакоіць, мы клалі яму пад лаву хлеб, ваду. У другіх хатах яны бываюць і харошыя, дружаць з хазяінам і яго дзяцьмі. А наш быў плахі. Помню, калі дзеці не слухаліся, казалі, што гэта не дзіцёнак, а дамавы.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

А дамавыя, дзевачкі, былі, а і зараз ёсць. Ваабшчэ яго толькі папробуй дражніць, бо ён ёсць у кожнай хаце. Во ў нас было нядаўна так, што і поп, і міліцыя, і етыя, як іх, рэспандэнты прыходзілі. У адной хаце дзевачка пагуляла, прыйшла дадому, падзелала ўрокі і глядзела целявізар. Патом адкрывае дневнік, а там розныя словы: "Аддайце мне ету дзевачку, ана всё равно мая будзет". Радзіцелі спугаліся. Утрам у зале стулы паперараварачаваныя былі, букетніца была паравернута, а цветы з яе былі абкладзены вакол Кацькі. З етага дня случалася так: нідзе нікога няма, а целявізар выключыцца, часы ўпадуць, пераварочваліся крэслы і дзевачку етую ён закалебаў. Пазвалі бацюшку. Бацюшка адзеў шнурочак з крэсцікам, дык калі ён чытаў малітву, дык крэсцік застаўся на грудзях, а шнурочак упаў. Хто яго знае, як той крэсцік дзяржаўся. За-

вязалі новую веровачку. Ноччу, калі б маці не дзяржала веровачку, то дамавой бы Кацьку задушыў, а утрам вместа веровачкі бацюшка павесіў закладку з Евангелля. Другі раз вазілі яе ў Рэчыцу да бацюшкі, а пасля етава дзевачка начала відзець яго. Яна крычала, што маленькі чалавечак раздваіўся і вунь ужо пераляцеў за вакно. Патом яе павезлі да святых мошчаў у Гомель, і там сначала малады бацюшка пачытаў малітвачку, а патом стары. І вродзе ён большэ яе не трогаў і нічога не гаварыў, але яна яго бачыла яшчэ некалькі разоў. Яны пераехалі жыць у Ліскі, і як яно зараз там, не ведаю.

***Запісана ў в. Заспа Рэчыцкага р-на***
***ад Цітавец Варвары Нікіфараўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Кацярыніч А., Стрэльчанка Д., Азёма А. (2002 г.)***

Дамавы доўжан быць другам, быць у хаце, ну дык, а калі яму нешта не спадабаецца, то тады ён будзе рабіць нядобрае ў хаце. Ета такі дзядок, невысокі, сяды, адзеты ва ўсё старое. Яго нада паддобрываць, калі і есці палажыць. Я то не вельмі ў яго і веру, ну дык а, як суседка расказала, дак і не ведаю, ёсць ён ці няма яго зусім. Калі яны з мужыком ажаніліся, то ім і хату аддалі бацькі. Калі пераехалі ў яе, то кожную ноч нешта бракае, стукае, то банка разаб'ецца, то міска ўпадзе. А тады, яна расказвала, быццам яе за ногу нешта ночу чапае. Ім сказалі, што гэта трэба дамавога задобрыць. Матка нешта её сказала, яна тое і зрабіла і тады болей нічога ў іх не шастала па хаце, а яго ніколі не бачыла, ды і не хочу. А гавораць, што калі чалавек памрэ, то тады яго ноччу дамавы вядзе ў яго хату, бо мёртвы ж нічога не бачыць. А як душа мёртвага пабывае ў сваёй хаце, то тады адлятае на неба.

***Запісана ў в. Каравацічы Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Ганны Васільеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Каб дамавы не трывожыў, на шкаф у доме ложаць канфеты і пячэнне і гаворацць: "Смотри, дом хорош и не балуйся", а назавтра гэтыя канфеты і пячэнне выносяць на двор і выкідаюць ілі закопваюць, каб ніхто не знайшоў, і тады дамавы не шкодзіць і мірна жыве.

Нельга, каб было 2 венікі, таму што дамавыя жывуць пад венікамі і яны ўсігда будуць ругацца, і не будзе пакою, таму трэба, каб быў толькі адзін венік і адзін дамавы.

***Запісана ў в. Красны Мост Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Любові Трафімаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ярац Т. (2005 г.)***

Дамавік – сівы дзядок невысокага росту з доўгім валасамі на галаве. Можа з'яўляцца і ў вобразе ката. Дамавік патрабуе пастаяннай павагі да сябе, тады і ён спрыяе ўсім членам сям'і, адганяе нечысці. Калісь дык заўсёды на Дзяды запрашалі дамавіка за агульны стол, як члена сям'і. Цяпер ужо не той час і людзі пра яго забываюцца, ад гэтага дамавы можа быць злосным.

Сваячка мая неяк скардзілася, што за кароткі час пабілася шмат посуду. Я адразу здагадалася, што гэта прадзелкі дамавога. У гэтым выпадку трэба яго залагодзіць. Я ёй параіла ў куточак паставіць чысценькую талерачку і палажыць на яе цукеркі, пячэнне ці яшчэ што якое салодкае. Няхай прыйдзе і пасмакуе салодзенькае. Падкладваць пачастункі трэба некалькі месяцаў у первае чысло. Старое пячэнне, цукеркі аддаваць птушкам. Ад гэтага дамавік перастане не толькі шкодзіць, але і будзе дапамагаць людзям.

***Запісана ў в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на***
***ад Жаўновай Юліі Піліпаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Дамавік жыве ў кожнай хаце. У яго трэба верыць. Калі ў хаце малое дзіця і яно вельмі неспакойнае, так і знайце, гэта дамавік яго трывожыць. Ён не любіць тых, хто яго не паважае. З ім трэба абшчацца, пакідаць ежу нанач. На выгляд дамавік як звычайны чалавек, толькі маленькі.

***Запісана ў в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на***
***ад Панасевіч Ганны Мікалаеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Луцко М. (2005 г.)***

Дамавы ў мяне точна жыве. Недзе год назад мы з мужыком перасяліліся ў новую кватэру. Яму яе далі, як спецыялісту. Перасяліўшыся, мы сталі чуваць нейкія стукі, усё падала, чуўся голас. Бывала, мыю белізну і чую, што нехта кліча, выйду ў сенцы, а там нікога няма, было такое адчуванне, што нехта з намі жыве. Людзі старыя казалі, што гэта дамавы і ён шукае свайго месца ў новай кватэры. Мяне ўсё больш ахватваў жах і я баялася заставацца адна.

Аднойчы, прачнуўшыся ўначы, я ўбачыла, што каля дзвярэй стаіць дзядок. Ён быў маленькага росту, недзе, прыкладна, каля метра, твар быў увесь у маршчынах, невялікая сівая барада. Нечым быў пахожы на гнома з казкі. Я ляжала і некалькі хвілін на яго глядзела, а потым ён знік. З тых пор я больш не баюся адна знаходзіцца ў хаце і дамавік мяне больш не маніць. Напэўна, ён знайшоў сваё месца.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Белай Алены Мікалаеўны, 1979 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Ежалі дамавік у хляве паселіцца, то абязацельна нашкодзіць. Калі ёсць конік у каго, то можа так яго за ноч заездзіць, што той к ранню еле жывы. Каб пазнаць, ці з'язджае каня дамавік, то падсцярэгці яго трэба. Ён як мае быць у 12 часоў з'явіцца, але нявідзімы ён. Па коніку паняць можна, калі ён з'явіцца. Тады ён становіцца неспакойны такі, тупае і бегае па хляве, як бы ні з таго ні з сяго. Тады дамавічка асвяціць трэба. Свечачку ў царкве купіць трэба, запаліць і накрыць яе дзежкаю, а калі конь затопае, то хуценька скінуць дзяжу і дамавік асвеціцца. Пасля асвечвання шкоду ён ужо не робіць.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Скакун Лідзіі Кузьмінічны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Жылі мы раней у старой хаце, а калі пастроілі етую, то перасяляцца пачалі. Дамавічка з сабою пазвалі, а як жа без яго, гэта ж хазяін.

Спачатку коціка ўпусцілі, па абычаю, ікону павесілі на кут, хлеб, соль паклалі на стол. У той жа вечар і назаўтра яшчэ тут не начавалі, бо людзі казалі, што трэба даці колькі дзянькоў, каб дамавічок знайшоў свой вуглік. Ужо тады, калі перасяліліся, было відаць, што нешта яму не наравіцца. Усё ён стукаў, грукаў у етай хаце. Тады я яму і кажу: "Мой дамавой, хадзі разам са мной, жыві на месце, абходзься каля рабы Божай (імя) па чэсці. А калі ты чужой, дык абыдзі мяне стараной". Як сказала я етыя словы, так ён і пасмірнеў. Цяпер дружна мы з ім жывём.

Калі пакупаеш жывёлу, трэба кругом сябе тую жывёліну, якую купілі, абвесці, ну, пры гэтым дзяржаць вяроўку не голымі рукамі, а ў рукавіцах, і трэба сказаць: "Вот

табе, хазяін, махнаты звер на багаты двор. Паі, кармі і рукавіцай паглажвай".

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на ад Скакун Ганны Іванаўны, 1925 г.н., студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Домовой бывает плохой, бывает и хороший. Я его не видела. Но мне рассказывали, что в какой-то деревне в Гомельском районе домового так разозлили, что он посбрасывал все вазоны с цветами с окон. Лучше в доме не ругаться, чтобы домового не разозлить.

***Запісана ў п. Прыгараднае Рэчыцкага р-на ад Бучынскай Ларысы Рыгораўны,1964 г.н., студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Было гэта нядаўна. Сплю ноччу і раптам адчуваю, што нехта стаіць каля мяне. Адкрываю вочы – стаіць маленькі дзядок, мо, і метру няма, сівенькі, барада да самага полу. Я спужалася і войкнула, а ён узяў да растварыўся. Канешне ж, гэта быў дамавік.

***Запісана ў г. Светлагорск ад Бачура Ніны Мікалаеўны, 1946 г.н., студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Яго можна было ўстрэць ня ў каждай хаце. Ён быў спакойная асоба такая. І жыл толька там, дзе было ціха, людзі не ругаліся, ну, увобшчым, добрыя людзі былі.

Вот помню такую історыю з маёй жызні. Было мне гадоў дзесяць. Мы з сястрою маёй усё ўрэмя ругаліся, нават чуць не біліся. А маці нам расказвала, што ў гэтага дамавога ёсць часы. І мы сапраўды чулі, як яны цікаюць. І таму маці, каб зрабіць паміж намі мір, казала, што калі мы будам сварыцца, то не будам чуць гэтыя часы і дамавы збяжыць з хаты, і з-за гэтага мы будам жыць няшчасліва.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на ад Рудніцкай Наталлі Сяргееўны, 1931 г.н., студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Дамавік ёсць. Яго ніхто ніколі не бачыў, але ўсе жыцелі нашай вёскі знаюць, што ён жыве ў кожнай хаце. Нeяк я пайшла ў летнюю кухню каб затапіць печку. Але пазваніла суседка і папрасіла дапамагчы свіней пакарміць. Я і пайшла, але забыла пра чайнік. Калі я вярнулася гадзіны праз 2, у чайніку была адкрыта крышка, а вада была ўся на пліце. Я знаю, што гэта зрабіў дамавік, бо, калі вада б не была на пліце, уся летняя хатка згарэла б. Таму што хвортачка была адкрытая, а на вокнах былі занавескі. І яны даставалі да камфоркі, калі дуў вецер. Усё магло ўзарвацца, а дамавік памог мне.

Дамавіка я ніколі не бачыла, але знаю, што ён маленькі і вельмі прыткі. Я яго вельмі люблю і частую яго канхветамі. Лажу іх у цёмны вугал або на печку, а ён іх адтуда забірае.

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на ад Васілеўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1927 г.н., студэнткай Казлоўскай Ю. (2006 г.)***

Да, дамавік у мяне ёсць і жыве ў мяне даўно. Як ён выглядае, я не ведаю, але га-

вораць, што ён – маленькі дзядок з сівымі валасамі.

Аднойчы, калі я маладая була, муж работаў цэлую ноч на палях, а я з малой дачкой заставалася дома. Гарэла грубка, і ўвечары я закрыла юшкі. Але, як аказалася потым ужэ, печка не згарэла і ўвесь чад пайшоў у хату. А мы пазасыналі ўжо. Утрам прыйшоў муж і знайшоў нас каля дзвярэй, што выходзілі на вуліцу. Выцягнуў з хаты нас дамавік, я сільна веру гэтаму. А патом прыйшоў бацюшка, пасвяціў нашу хату і сказаў, што жыве ў нас вельмі добры дух. Пасля гэтага я павесіла ў вуглу ікону і заўсёды лажу туды канхветы для дамавіка.

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на***
***ад Почапень Ніны Васільеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Варапаевай В. (2006 г.)***

Дамавік – эта маленькі белабрысы старычок з вялікай барадой і вусамі, як у ката. Ножкі тыя кароценькія. І ён топ-топ, тупае па хаце. Маці казала: “О, Топа аб’явіўся!” І мы верылі, што гэта іменна той Топа, які шуміць дзе-та. Таму і любілі яго, хоць і ня бачылі.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Кажуць, што дамавы ё ў кожнай хаце. Я яго не бачыла, а маці казала, што ён жыве за печчу ці пад прыпечкам. Гэта нейкі сівы дзядок. А вот калі ўжэ я сама стала дзяржаць хазяйства, панадабілася і мне прасіць помашчы ў етага дамавіка.

Нешта карова мая не стала прыносіць малако, а я ўжэ не знаю, што рабіць. А тут саседка і падсказала. Узяла я даматканы рушнік, стакан вады, хлеба і соль. Палезла на крышу і кажу: “Дамавіча, дамавы, на табе хлеба, вады і соль, дай маёй карове малака даволі”. От не помню толькі, ці стала лепей, ці не.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Масальскай Анастасіі Карпаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

Дамавікі е і добрыя, і тыя, што толькі шкоду робяць. Плахія, урэдныя дамавікі робяць у хазяйстве толькі плахое ці з каровай, ці яшчэ што. А калі ўжэ нядобра з каровай, ходзяць да знахарак, успакаіваюць, шэпчуць на дамавіка.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Тукач Марыі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

У мяне пастаянна нехта па калідоры ходзіць, што аж доскі ў палу скрыпяць. Наверна, то ён і е. І стала я замячаць, што палажу ці нож, ці яшчэ што-небудзь на стале, пайду, а той нож ужо на другім месцы ляжыць. І я ўсігда праганяю ката, калі ён ляжыць на парозі, бо дамавік не любіць. Яму ж трэба хадзіць, а кот яму мяшае.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Тукач Паліны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

Дамавы – гэта такі сівы дзед, адзеты ў белую адзёжу. Валасы сівыя і длінныя. Рукі і ногі валасатыя. Усе кажуць, што ён добры, а ў мяне жыў нядобры. Пасуду ў хаце лупіў, барабаніў ложкамі, ноччу тупаў па хаце. І па паталку хадзіў. Нядобры ў мяне жыў. Задушыць мяне прыдумаў. Прачнулася ноччу, аж дышаць не можна, так нешта шыю сжымае, потым адпусціла. Казалі, гэта дамавы мяне прыдушыць хацеў, хату маю забраць сабе, я ж адна жыву, німа нікога ў мяне.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Шафарэнка Таццяны Карпаўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Дамавы любіць ложкі і нажы, асабліва начышчаныя. Кажысь, точыш, точыш – і няма. Туды-сюды – і няма. Потым, калі пазабаўляецца, і прыносіць. У феўралі якісь празнік трэба правіць, каб дамавы не шкодзіў. Калі штось счэзла, трэба сказаць: “Паіграй, паіграй, ды й назад аддай”. Асабліва ключы любіць зносіць, дамавы-та.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.***
***(прыехала з г. Вялікі Усцюг Расійскай Федэрацыі)***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

У доме жыве дамавік. Гэта дзядок такі старэнькі. Ён ахраняе дом ад злых. Кагда яго не абіжаць, ён будзе памагаць. Дамавік ходзіць па хаце і глядзіць, штоб усё добра было. Кагда ён зліцца, то перастаўляе вешчы, скідае іх. Дамавіку трэба на стале астаўляць яду. Дамавік жыве ў каждым доме, а там, дзе яго нету, значыць, яго абідзілі, і ён уйшоў.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

У каждай хаці абітаіць дамавік. Ён небальшога расточку, з длінночай барадой. Апрануты ён у ільняныя штаны і рубашку. Адзежка шэрага цвета ці трохі святлей. Мая маці яшчэ гаварыла, што вочы ў яго добрыя. Жыве ён, канешне, за печчу, бо там яго месца, і сочыць за справамі хазяеваў. Яшчэ маці казала, што ён ноччу выходзіць, калі мы спім, і смотра за хатай. Яшчэ не любя плахіх хазяек, якія неапратныя ці лянівыя. Можа прыняць аблічча ката, які жыве радам з намі. Каб дамавік памагаў, нужна парадак у хаце.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Звягавай Алены Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Дамавы ў нас у сараі жыў, дзе коні стаялі. Дзед параспрадаваў коней, бо хварэлі. Дзед казаў, гэта дамавы іх заганяў. Некаторыя нават доўга і не жылі, бо дохлі. Адные стаялі так, як бы ноч на полі рабілі. Дзед мой ноччу бачыў, як на кані дзед сівы з доўгімі белымі валасамі сядзеў. Кабыла пераступала з нагі на нагу, калацілася, і пена з рота лілася. І так да самага рання. Уранні коні былі такія, як бы ноччу рабілі. На другую ноч мы папрасілі бабу, якая шаптала. Яна пакрапіла іх свяцонаю вадою. З таго часу ён больш не чапаў нашых коней.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Дамавы ўсягда жыве з людзьмі ў хаце дзесь пад печчу ці ў прыпечку. У нас яго так вот шчэ некаторыя звалі – падпечнік. Устае ён рана, але з пеўнем. Эта ж дамавы

яго пугае, і той крычыць, і ўжэ тады і ўстаюць людзі са двара. Еслі з дамавым па-добраму, то і ён з табой добра. Ён любіць, каб у сям'і было дружна ўсё, тагда ён хоча памагаць, каб было яшчэ лепш. Калі ў хаце вешчы якія прападаюць ці пасуда б'ецца, то знай, што разазліўся дамавы і хоча, каб перасталі людзі сварыцца. Як ён выглядзіць? А хто ж яго дзетальна знае. Ну, так, думаюць, што ён такі вот старэнькі дзядок з сівой барадой і з такімі ж сядымі длінньмі валасамі. Адзеты ён у белую кофту, длінную такую. Так вот, думаюць, што ліцо ягонае пахожа на хазяйскае ліцо, хазяіна хаты. Сільна баіцца дамавы Бога, зразу ж уцякае з хаты пры малітве, уцякае, калі куты пабрызгаюць святой вадой.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Пра дамавікоў я мала ведаю. Ведаю, што яны бываюць і добрыя, і злыя. Добрыя заўсёды дапамагаюць сваім гаспадарам. Робяць так, каб жывёла добрая была, ураджай добры быў. Яны дапамагаюць не толькі па дому, але і па гаспадарцы.

А вось злы дамавік, наадварот, робіць так, каб заўсёды было нядобра. У хаце посуд раскідвае, у хлеве карова не доіцца, парасяты паміраюць. Гэта значыць, што гаспадар недзе правініўся перад Богам. Мне заўсёды здавалася, што ў мяне добры дамавік.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Ото было, цяпер такога не чутна. У кожнай хаце жыў дамавік. Ён усякі быў, у кожнага свой. Жыў ён у дымаходзе. Ён за парадкам глядзеў. Людзі калі клаліся спаць, дамавік абходзіў хату і глядзеў, усё лі добра, уся лі маёмасць на месцы.

Людзі стараліся ўгадзіць дамавіку, бо яму як што не панравіцца, то ён тады шкодзіў, порціў маёмасць, а мог і саўсім перайці жыць к другому хазяіну. А як дамавік сыдзе, дык усё не ладзіцца ў доме, дык людзі ўсё стараліся яму ўгадзіць.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Соф'і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Дамавік – гэта маленькі гномік з барадой. Ён жыве за печкай. Трэба падкармліваць яго. Калі што прападзе, кажуць, што гэта дамавік. Трэба тады задобрыць яго. Прывязаць к табурэтцы чырвоную лентачку або трапачку і гаварыць:

Старычок-дамавічок,
За абіду прасці,
А памажы мне прапажу знайсці.

***Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на***
***ад Кузьмянковай Лідзіі Васільеўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Дамавік – гэта такое сушчаство, якое жыве ў хаце ілі на дварэ. Яны такія, як і мы, людзі, но мы іх не бачым. Яны ходзяць па дарожкам, як людзі.

Быў такі случай. Аднажды жэншчына строіла сабе хату і начала эта страіцельства на тым месце, дзе хадзіў дамавік. І када ана ў гэтай хаце легла спаць, то пачула, як хто-та ходзіць. Яна спугалася, устала – а ў яе сенцы адчынены, і яна ўбачыла малень-

кага чалавечка ў красненькіх сапожках. Гэта быў дамавік, а з ім яшчэ многа хлопцаў было, якія стукалі вілкамі, ложкамі, плясалі. І прайшло врэмя, і ў гэтай жэншчыны ўздуўся жывот, і яна памерла. Кажуць, не на тым месцы хату паставіла.

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на
ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,
студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Дамавік ёсць у кожным доме. Гэта – маленечкі дзядок з сівой барадой. Дамавік вельмі любіць, каб ва ўсім парадак быў. Бывае добры і злы. Калі добры, тады дапамагае людзям ва ўсім: чысціць падлогу, мэблю, вокны можа памыць. Таксама дамавік любіць, калі яго паважаюць. Але, калі ў доме сварацца і не любяць дамавіка, то тады ён зліцца. Раней, калі людзі пераязджалі ў другі дом, то дамавіка забіралі з сабой. Дамавы можа задушыць чалавека, калі той яму не спадабаецца.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на
ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,
студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Дамавік – маленькі дзядок, які жыве ў доме. Дамавік жыве не ў кожным доме, а толькі там, дзе добрыя людзі. Ён вельмі добра адносіцца да людзей, дапамагае ім, даглядае дзяцей. Дамавік вельмі любя пачастункі. І людзі кладуць яму ці канфеціну, ці малака ў талерцы за яго працу. Калі яму нешта не падабаецца, то ён можа і рагатаць, і пішчаць, і свісцець. Дамавіку вельмі не падабаецца беспарадак, таму, калі пачуеш скрып, гэта дамавік наводзе парадак, і не трэба яму перашкаджаць. Дамавік – гэта хазяін дому, яго аберагальнік. Ён робіць усё, каб гэтаму дому было добра.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на
ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,
студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Дамавы ёсць. Але я яго не бачыла. Бывае, лягу спаць, а мае вешчы па хаце раскіданы. Гэта дамавы так чаго-та зліцца. Ён любіць, каб чыста было ў хаце, каб на стале было прыбрана. Дамавы яшчэ не любя, калі дзяцей б’юць. Мой муж раз дзіцёнка ні за што ўдарыў, дык дамавы яго напужаў і наказаў. Дзіцёнка еле спаслі, а муж ляжаў нядзелю, хварэў.

Было ў нас і такое. Адна баба пайшла позна за вадой, а дамавы ў калітцы стаіць. Яна спужалась. Але з ім не загаварыла. А каб загаварыла, то ён бы рэч адняў. Еслі ён сам загавора, тады атвячай. А так нельзя з ім гаварыць.

Калі перасяляешся з хаты, трэба перахрысціцца і сказаць: “Дамавой мой, ідзём са мной, будзем жыць-пажываць і дабра нажываць”. Дамавых нельзя пугацца, а то не будзе ў жызні толку. Дамавыя любяць добрых людзей і тады робяць ім дабро.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на
ад Лабкоўскай Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,
студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Дамавік – гэта хатні дух. Стары дзядок, ростам бы народжанэ дзіця. Яго мало хто бачыць. Вон жыве за печчу. Оберагае хату вот болезней, нясчасця, бяды. Там, дзе пасялявса дамавік, не вміралі дзеці. Удзень вон сьпіць, а вночэ ходзіць па хаце, оглядае, ці все в порадку. Обіжаць яго ня можна, трэба годзіць. Трэ яму всягда покідаць ложочку кашы або шкварачку сала на прыпячку. А еслі робяць “Дзяды”, то дамавіка тожэ трэба позваць на вячэру.

***Запісана ў в. Вулька – 2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Дамавік – гэта маленькі чалавечак, ён жыве пад печкаю. Я яго не бачыла, але ж заўсёды яго чую. А шчэ я разгаварываю з ім. Мой дамавік вельмі любіць, каб у хаце ўсё было на сваім месцы, парадак быў у гаспадарцы.

Яшчэ я чула, што некаторыя людзі бачылі дамавіка. У маёй знаёмай ён жыве пад падлогай. Ён мае выгляд старэнькага дзядка з сівою барадою, апрануты ў белую кашулю. Яна гаворыць, што з дамавым трэба жыць у згодзе, трэба яму дагаджаць. Прагневіш дамавога, то ён уночы пачынае з трэскам і гукам разгуліваць па дому і шкодзіць.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Дамавік з выгляду падобны на людзей. У маёй хаце ён жыве пад прыпячкам, але ж ён жыве ў розных месцах. Я вельмі люблю з ім размаўляць. Ён жыве ў кожнай хаце. Гэта вельмі шкадлівая істота. Людзі яго не бачылі, але ўчынкі яго даюцца ў знакі кожнаму.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Дамавік – ета такі маленькі старычок з доўгай сівой барадой. Жывець ён пачці ва ўсіх хатах. Дамавікі бываюць як злыя, так і добрыя, ета ўсё ад хазяіна завісіць. Калі хазяін у хаце добры, дык дамавік з ім у згодзе жывець і ва ўсім яму дапамагае. А калі хазяін у хаце плахі ды злы, дык дамавы на яго злуецца, шкодзіць яму: то вешчы хавае, то посуд б’е.

Жыве дамавік пад печчу. З ім дружыць трэба. Астаўляць яму што-небудзь на стале ўкуснае. Калі чалавек які перабіраецца ў новую хату, то трэба і дамавіка з сабой запрасіць. Дык ён перабярэцца ў новую хату і будзе ў ёй ахоўнікам ды памошчнікам гаспадару.

***Запісана ў г. Бялынічы Магілёўскай вобл.***
***ад Селівестравай Тацяны Якаўлеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Чыжук Н. (2004 г.)***

Вон ё ў кожнай хаце, бо колі яго няма, то ў хаце будуць пастаянныя сваркі. Людзі яго не бачаць, бо вон жыве пад печчу. Дамавы можэ быць добрым, а можэ быць і плохім, колі яго чым-небудзь угнявіць. Для того, шоб вон быў добрым, то ёго трэба задабрываць, колі-небудзь говорыць з ім. Каб узнаць, ці ё ў хаце дамавы, трэба паслаці пад пасцель малы кусочак чаго-небудзь. Як уранку яго не будзе, то, значыцца, забраў дамавы, а як кусочак ляжыць, то, значыць, дамавога ў хаце няма і трэба ёго пазваць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

## Дваравы

Адна баба расказвала случай. Ходзя адзін хлопец гуляць, і як з гульні ідзе, страчае яго дваравы. Сам белы і жоўтыя пугаўкі. А таму хлопцу шарф купілі, а раней, у каго шарф быў, дык гэта, як пан. І вось дваравы гавора:

– Ваня, падары мне шарф.

– На, бяры.

– Не, ты падары і нікому не расказвай. Тады добра будзем жыць.

Маці стала дапытвацца, дзе дзеў шарф. Ён усё ёй расказаў. І стала Ваню плоха. Пайшла маці варажыць. Ёй сказалі: “Кідай хату, а то плоха будзе”. Яны змянілі месца, і стала Ваню харашо.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Лабкоўскай Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

## Злыдзень

Злыдні етыя пахожы на дробных людзей. А якія яны ўрэдныя, дык і не раскажаш. Калі яны ў хаце завядуцца, то можаш па свету пайсці. Але ёсць спосаб выгнаць іх. Нада прыгатаваць смачную вячэру, такую, што ніколі і не варыла. Злыдні яе захочуць папробаваць, дык тады нада хуценька іх там закрыць і падалей завезці.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пиліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Злыдні – то такія пачвары, што покуль з жывёлы і людзей усё не высасуць, дык з двара не пойдуць. Малыя, голыя, худыя дзяды – то ета і ёсць злыдні. Яны па аднаму не лётаюць, а толькі стаяй цэлай. Калі ўчэпяцца за цябе, то пішы прапала. Яны спачатку ўсё хазяйства звядуць, а потым і здароўе выцягнуць. І вось папробуй ад іх адчапіцца.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Быў у нас злыдзень, не любіў, калі Богу малілася. Вось баба жыла з дзедам і Богу малілася. Дзед лёг на краваць і забыўся. А баба моліцца: “Прачысці, Божанька, душы нашыя”. А пад акном голас чуваць: “Прачысцім, прачысцім, усё вычысцім”. Тут дзед пытае: “З кім гэта ты гамоніш?” А баба кажа: “З Богам”. А то пад вакном злыдзень быў. Уранні баба адправіла дзеда ў каморку – аж там ужо нічога не было. Злыдзень усё вычысціў.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Злыдні – гэта дрэнныя істоты. Яны жывуць у хатах, і там ніколі нічога не вядзецца. Яны ў асноўным жывуць пад печчу. У лепшую чашку з вадой насыпаюць пяску, у самае тлустае малако наліваюць ваду, порцяць хлеб, у курэй крадуць яйкі. Заўсёды шкодзяць, а хата, у якой яны пасяліліся, бяднее, гаспадары хварэюць. У агародзе ніколі не дажджэшся добрага ўраджаю.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

## *Знахар*

У нас на хутары была гісторыя аб тым, як дзед, калі прыйдзе ў хлеў, бачыць, як выбегае ліса з яго. Вось ён рашыў падкарауліць яе. Заходзіць у хлеў і бачыць, што тая ліса ссе карову. Як даў па лапам – яна чуць уцекла ад яго.

На наступны дзень бачылі саседку з перавязанымі нагамі. Яна казала, што ўпала сільна на абое ногі і пабіла каленне.

А адзін раз быў няшчасны случай адзін. Той жа самы дзед адсёк цераз месяц саседцы руку, падумаў, што знахар у хлеў залез, бо бачыў часта, што ў хлеве кот ссе карову. Вабшчэ етыя знахары могуць прэўрашчацца ў розных жывотных. То ў лісіцу, то ў ласку, а бувае, што і ў ката чорнага.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

А аднойчы пайшлі мае браты паглядзець, ці жыта выспела, каб касіць, а на ім заломаў, дай заломаў. І яны скемілі, што знахарка звязала жыта. Трохі забыліся пра гэта і пайшлі касіць. І не замецілі, як скасілі заломы.

Хто-та прыбяжаў к дзеду і сказаў, што браты памруць, бо яны завезь скасілі. Дзед пайшоў да ўрача, і аднаго брата дык спаслі, а другі памер. Гарачка адразу пасля скосу на іх напала. Вот як пакасцілі колісь знахары.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Галаўко Кацярыны Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Раней усе “чорныя кніжкі” куплялі. Да і цяпер ведаю, яны іе ў некаторых баб нашых. Помню, быў такі случай у нас у вёсцы: у адной хаце жыла знахарка, якая мела такую кніжку. Прыйшоў як-та к ёй унук, залез у ету кнігу і пачытаў што-та нядобрае. Як стала плоха яму тады: як поўнач, так яго вочы нічога не бачаць, слязяцца, апухаюць. І так да самага ўтра было. Ноччу, як выйдзе на вуліцу еты ўнук, усягда чуе, як нейкія каблукі за ім стукаюць. Што ні яна сама, знахарка, лячыла ўнука, што ні вадзіла па другім знахаркам, ну ніяк лучшай не станавілася. Пакуль ёй не падказалі, што етую кнігу трэба спаліць. Як спаліла, дзе што і дзелася.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

У вёсцы нашай жыла жанчына. Добра жыла, заможна. І дзеці яе шчасліва жылі. А побач жыла знахарка, якая вельмі зайздросціла етай жанчыне, бо ў знахаркі дзеці парасходзіліся з мужыкамі і жонкамі і ўсё ў іх жыцці не так добра было, як хацелася ёй. І вось заможная жанчына прама на вачах стала сохці і сільна хварэць. Страшна сталі балець ногі, і іх пакрывіла, сталі, як калёссе! А ета, аказалася, тая знахарка зрабіла ёй.

Яшчэ людзі бачылі, як гэта жэншчына ішла па ваду ў калодзезь, а знахарка лінула ёй пад ногі нейкія памыі. І з тых самых пор і сталі яе ногі апухаць і крывіцца. А пазней у етай жанчыны памёр сын, ды так знянацку!

Падказалі добрыя людзі звярнуцца да лекараў-знахараў. Там сказалі ёй, што куты яе хаты ўсе ў іржавых іголках. Іх трэба выцягнуць і закапаць у хаце пад старой асінай. А яшчэ, каб болей не былі няшчасця ў хаце, нада пашукаць у дварэ схованыя добра курыныя яйкі, якія прэўраціліся ў баўтуны, пакласці ў кошык і закапаць пад каліткай етай знахаркі, каб яна раніцай устала і пераступіла еты кошык з яйкамі, калі б выходзіла з каліткі. Так ета жэншчына бедная і зрабіла. Тады няшчасці пакінулі ету жэншчыну, але ногі засталіся крывымі і балелі да канца жызні яе. Ой, немаведама штоб було, калі б яна не спыніла ету знахарку!

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

## Кадук

Чуў, што кадук – страшэнная пачвара. Гэта і не чалавек, і не звер. Не знаю, як назваць. Але ж больш падобны на звера з вялікай галавой із шырокай пашчай. Як пакажа свой аскал, дык не знаеш, куды дзявацца. Вельмі страшна, быццам праглыне цябе поўнасцю.

Людзі інагда кажуць: "Каб кадук цябе ўзяў!" Кадук часам "бярэ", але калі гэта ліхая часіна на ўсходзе, у поўдзень ці ў поўнач.

Кадук сам не прыходзіць, без кліча, а прыбягае толькі тады, калі выдаецца ліхі момант, і кожнае пажаданне пры гэтым кадук выконвае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Канцавога Івана Мікалаевіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Каморынай С. (2006 г.)***

Знаю адну гісторыю. Кадук – страшная нячыстая сіла. Не чалавек, не звер. Больш пахожы на звера з бальшой касматай галавой і шырокім ротам. От, другі раз чуеш ад людзей: "Каб кадук яго ўзяў!". Но ён бярэ людзей і шкодзіць ім не сразу, а толькі тады, калі плахая гадзіна будзе. Кадук над чалавекам ўлады не маець. Прыбягае ён да чалавека, калі ўсё збываецца.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

## *Кікімара*

Кікімара – гэта жанчына, якая пужала малых дзетак. Магла і курэй красці. Калі дзіця дрэнна спіць і часта плача падоўгу, людзі думалі, што ў хаце пасялілася кікімара. Яна была пахожая чымсьці на чорта. Была вельмі худая, з вялікімі зубамі і косамі.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Кікімара пахожая на мурзатую дзяўчынку. Жыве на чардаках дамоў. Калі што-сьці не падзеляць, начынаюць біцца, пішчаць. Днём спяць, а ноччу шкоднічаюць. Порцяць жаночую работу: ніткі запутаюць, смецце раскідаюць па хаце.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***

***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Кікімары многа зла дзелаюць: малым спаць не даюць, жывёлу змучваюць, у чалавека спакой аднімаюць. Нада знаць, як іх з хаты вытурыць. Трэба ўзяці хлеба мякіш, пашаптаць над ім ды палажыць пад печ, дзе жыве кікімара, а потым сказаць: "Я – табе хлеб, а ты мне – супакой, я – табе ежу, а ты мне – пакой". Калі ноччу вые, страшна плача кікімара, то чакае хай сям'я няшчасця.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Тацяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Кікімары – гэта ці нехрышчоныя, ці дзеці, якіх праклялі бацькі. Яны жывуць толькі ноччу, толькі ў дамах праклятых.

***Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Дзянісавай Веры Максімаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Дзянісавай Н., Марчанка Н. (2004 г.)***

Кікімара – маленькая дзевачка, што памерла нехрышчонай. Яна жыве ў доме за печкай, хіхікае там. А яшчэ яна – жана дамавіка. Ёсць кікімара балотная – жыве ў балоце, жана вадзянога. Строіць розныя козні, урэдная такая. І бывала, што дажа людзей тапіла ў балоце.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

У нашай вёсцы адна дзеўка незамужняя нарадзіла дзіцёнка, ды, нават на яго і не глянуўшы, сказала: "А каб ты прапаў!" Пракляла, значыць, сваю крывінку. А той адразу ж і памёр, нібы пачуў словы маткі. Пахавалі яго. І пачала дзеўка па начах чуць плач і стогн дзіцёнка, яна аж косы на сабе ірвала, а зрабіць нічога і не змагла. Хутка яна і сама за дзіцяткам пайшла.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Кікімара жыве ў лясу, ета падруга лешага. Яна запаведуе лесам, звярамі, пціцамі. Еслі прыходзіць чалавек ў лес, то яна можа яго заблудзіць у лясу. Кікімара навядзе на чалавека цьму, і ён можа хадзіць па лесе очэнь доўга. Колькі назначыла яна здзелаць яму кругоў па лесе, столькі ён і будзе хадзіць. Выйшаўшы з лесу, чалавек доўжан пасядзець некаторае ўрэмя непадвіжна. Чалавек, ідучы дамоў, не доўжан абарочвацца назад, глядзець на лес, а ісці прама. А еслі паглядзіць назад, то можа не дайсці да сваёй хаты. Для кікімары эта бальшая пацеха.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Пайшла я ў хлеў карміць курэй, гляджу, а яны да сценкі жмуцца. Думаю, што такое там. Аж бачу, што гадзюка паўзе, шыпіць. Я закрычала, і яна знікла. Не схавалася ці ўцекла, а зусім знікла. Канечне, гэта была не простая гадзюка, а кікімара. Яна шчэ патом многа гора натварыла. Чуць змаглі збавіцца ад яе.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Кікімара – ета жанчына, што злая заўжды ды і страшная такая. А сама белая, як смерць, а вочы ў яе чорныя, як крыло вароны. Маці мне казала, што з'явілася ў іхняй хаце кікімара адзін раз. Яна ўсё стукала, крахцела па начах. Спаць нікому не давала, дзяцей пужала. Дык бацькі ў кут дамавіка паставілі ежу, пітво і папрасілі аб дапамозе. Ноччу прачнуліся, аж чуюць, што нешта яшчэ больш шумець стала. А потым знікла кікімара. Эта дамавік памог.

З кікімарамі прыметы звязаны: "Чуеш у хаце, а не на двары нешта квокча, то хутка жывёла занядужа".

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пілiпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Жонка яна вельмі малюпасенькая, да стала і не дастане, а затое клыкі ў яе тырчаць ого-го, а рукі доўгія-доўгія з колкімі кіпцюрамі. Шчэ помню, малая я была, маці мяне па галаве гладзіць, цалуе, а тут нешта як загуло, як загушкала. Я спужалася і заплакала. То мяне тады кікімара пугала. Вельмі яна ўжо не любіць, калі бацькі сваіх дзяцей пестуюць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Прыйшла матка ў хату ды кажа бацьку, што ў гэты год куры добрыя пайшлі, многа куранят павыводзілі, а яйкі ў іх вялікія. І пасля яе слоў у хаце нешта застукала, запішчала, а раніцай куры ўжо не пахожы самі на сябе былі.

Шчэ знаю історыю пра кікімару. Адна дзяўчына сабіралася замуж, назаўтра далжна была быць свадзьба. І вось ноччу яна праснулася ад таго, што нехта плакаў. Раніцай яна ва ўсіх пытала, хто ж плакаў, але ўсе родныя сказалі, што спалі. Старыя людзі кажуць, што калі па начах выюць кікімары, то ета к бядзе. І праўда, выйшла тая дзеўка замуж, аднак шчасця ў яе не было.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Кікімара жыве дома за печкай. Эта маленькая жэншчына з длінными лохматымі валасамі. Она очень злітся, еслі в празднікі прядут пряжу. Она её запутывает. Пятніца – дзень кікімары. Гаварят кікімара – жена домовова.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Пехцеравай Антаніны Іванаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобласці),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)***

Кікімара – страшная, лахматая, смяецца ўсё ўрэмя, людзям шкоду дзелае ў агародах, і ў сараях, і ў хатах. Гаварылі, што гэта дух мёртвай дзеўкі, якую ўбіла маці родная, дак яна толькі гора прыносіць людзям.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Кікімара – злы дух у выглядзе карліка або маленькай жанчыны, галава ў яе з напёрстак і цела маленькае, як тая саломінка. Яна жыве ў доме за печкай, і там яна прадзе, а таксама баламуціць па начах. Яна можа дрэнь зрабіць жывёле, кідае і б'е посуд, спаць мяшае, грахаціць уночы.

Гавораць, пазбавіцца ад яе цяжка. А каб не было кікімары, у доме трэба мець камень такі, у якім адверсце даўно было само па сабе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Струмень Кармянскага р-на),***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

Кікімарамі робяцца памершыя нехрышчонымі ці дзеці, якіх праклялі бацькі. Гэтых дзяцей падбіраюць ведзьмы і ведзьмакі і падсылаюць у дом да людзей, каб тыя разарылі іх, твара розную чартаўшчыну. Калі дзевачку ўнясьлі чэрці і потым падкінулі да каго-небудзь у дом, то яна вырастала і таксама рабілася кікімарай, таму што кікімарамі маглі быць толькі жэншчыны.

Хлопчыкі, якіх унясьлі чэрці, рабіліся іх дапаможнікамі.

Кікімары жывуць толькі ноччу. Гаспадары іх не бачаць, яны могуць толькі адчуваць іх прысутнасць: хіхіканне ў цёмных вуглах, посуд б'ецца, плач і страхі дзяцей, сваркі ў доме – усё гэта справа рук кікімары.

Каб пазбавіцца ад кікімары, трэба схадзіць у царкву, узяць пасвяцонай вады і акрапіць усе вуглы і парог. Пры гэтым трэба некалькі раз сказаць: "Ізыдзі ты, кікімара-дамавая, з маяго дома скарэй, бо задзяруць цябе прутамі, сажгуць красным полымем, зальюць смалою чорнаю. Амінь".

Пасля гэтага загавара кікімары больш не вярталіся ў дом. Яшчэ можна была пасыпаць соллю дарожку к дому, каб кікімары згубілі свой след.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Кікімары – душы памёршых нехрышчоных або праклятых бацькамі дзяцей (дзяўчынак). Іх калдуны пасылаюць у чыю-небудзь хату, дзе яны пераварачваюць усё з ног на галаву і хочуць выжыць хазяеў. Штоб ізбавіцца ад іх, нужна абмесці печ і вуглы ў доме, абкурывая іх ладанам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Зялёнай Вольгі Піліпаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Зялёнай В. (2006 г.)***

**Кикиморы живут на болотах. Они как старушки, скорее маленького роста. Смотрят за порядком на болоте.**

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

У балоце жывёт, а не ў доме. Выглядзіт маладой, но очень некрасівай дзевуш-

кай. Ведзьма может превраціцца ў кікімару.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Кикимора схватила за веретено. Мама без света пряла. Мама закричала: «Ребёнки, кикимора!» А мы на печке спали. Мы попрятались, а кикимора в подпол убежала.

Я в Ленинграде была. Мне тюфяк постелили, а я, когда спать легла, то стала меня точно кикимора душить, прямо давит, я кричать стала, свет включили, а ее нету.

Сестру мою кикимора душила. Так она ее спрашивает: «К худу или к добру?» А та отвечает: «Нагажу да уйду». Вот и нагадила. Сама ушла, а сестра потом скоро умерла. И меня, когда кикимора душила, тоже не к добру, как предчувствие какое. Мужа моего тогда чуть в тюрьму не посадили.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кастровай Вольгі Мікалаеўны, 1928 г.н.***

Чула, што кікімара – пагібшая маленькая дзевачка, нехрышчоныя дзеткі, а то і ўбітыя роднымі мамкамі і папкамі. Яны ходзяць, ад ветру хістаюцца, худзесенькія, малесенькія, з галубымі валосьямі. Можэт, яны жывуць у балотах? Я знаю, што гаварацЬ: “кікімара балотная!” Знача, некрасівая, нікому не да спатрэбы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Кікімары – гэта нябачныя істоты, што жывуць у вуглах хаты. Казалі, што гэта вялікія грэшніцы, каго на могілках не хавалі ў свой час. Вясёлыя яны, кікімары. Шмат гуляюць ды хіхікаюць.

Сядзелі аднойчы баба з дзедам за сталом, вячэралі. От, чуюць, нехта ў вугле хіхікае. Думалі, дзіця якое схавалася. Глядзяць, а там нікога няма. Селі за стол зноў, думалі, што здалося, а тут зноў нехта захіхікаў, запішчаў. А там у бабы ў каробцы ніткі былі, дык каробку хто-та скінуў, і ніткі рассыпаліся па мосце.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Кікімары жывуць у доме на печы. Мае від маленькай жанчыны з доўгімі чорнымі валасамі, белым тварам і чорнымі вачыма. Кікімара – жонка хатніка. У доме можна пачуць піск кікімары. Кікімары паяўляюцца ў той сям’і, дзе праізайшло ўбійства дзіцяці, праклящце ці другі цяжкі грэх. Кікімары па начах стукаюць па сценах, непакояць малых дзяцей, па хаце рассоўваюць рэчы, ламаюць мэблю, хочуць выжыць чалавека. Калі кікімара плача ноччу, то будзе бяда.

Кажуць, што яе можна спаймаць і ператварыць у чалавека. Для гэтага ёй стрыгуць валасы ў відзе крыжа. Тады яна стане дзяўчынай.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Кікімара – ета нячыстая сіла, яна маленькага росту, з кошку ростам, адзета ў

лахманы і не гаварыла. Заводзілася ў доме, дзе паміж мужам і жонкай быў разлад. Яна тады радавалася, наводзіла страх на людзей. Каб засцярэгчыся ад кікімары, трэба было чытаць малітвы, іспользаваць абярэгі.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на***
***ад Фамічовай Аляксандры Яфімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Каліноўскай Т. (2009 г.)***

То така маленька дзевачка. Яна абычно жыве ў тых, у каго дзіця малое памерла, яны заўсегда стонуць у хаце або плачуць.

Яна жыве ў хаце, на печы або за ей.

***Запісана ў в. Валаўск Ельскага р-на***
***ад Чорнай Галіны Пятроўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Паўленка Г. (2004 г.)***

Раней быў у нас лес, калі дамоў такіх бальшых не было. Дык вось, у лесе было возера, заросшае чаротам і там, казалі, жыла кікімара. Бывала, хтосьці пойдзе ў лес, набярэ грыбоў, ягад, а калі назад вяртаецца, захоча скупацца. Паставя кошыкі, а сам у ваду і купаецца. Выходзя на бераг, а кошыкі развернутыя стаяць і ягады раскіданыя. Гэта значыць, кікімара ела ягады. А хто бачыў кікімару, казалі, што яна ўся лахматая, сама нібы гразная, а на руках доўгія пальцы з вялізнымі кіпцюрамі. Вось яна гэтымі рукамі і адбірае ў людзей ягады.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Кікімары – гэта дзевачкі, якія яшчэ не паявіліся на свет, а ўжо былі прокляты сваімі бацькамі. Жывуць яны ў хатах, дзе праізашло ўбійства дзіцяці, праклящце і другі цяжкі грэх. Кікімары па начах стукаюць па сценам, пужаюць дзетак, хаваюць і раскідваюць рэчы.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Кікімары сядзяць у балотах. Гэта нячыстая сіла. Паяўляюцца воны ўвечары. Сабіраюцца, каб гуляць друг з другам. Еслі іх чалавек увідзіць, то яны накідаюцца на чалавека. От ніх нада ўцякаць.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Васіліны Рыгораўны, 1948 г.н.,***
***студэнткай Берднік В. (2006 г.)***

Кікімара – ето та, што шуціць, калі ёсць кікімара, то ето неблагапалучнэ. На неўдачнікоў, говорацы, кікімара.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошмар Вольгі Лявонаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Кікімары – гэта плахія малодзенькія дзяўчаты, якія жывуць на печы. Яны нікагда не старэюць. Кікімары жывуць у том доме, дзе было какое-та праклящце. Тут яны і

мешаюць хазяевам, порцяць іх работу.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Кікімара – гэта дзяўчына з кароткімі нагамі і доўгімі заблытанымі валасамі. Гэта дзеці, якія памерлі нехрышчонымі. Жывуць у хаце на пячы. Робяць так, каб у хазяйкі нічога не атрымлівалася. Злыя яны.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Кікімара – гэта злы дух у доме. Жыве на пячы. Кікімары – гэта дзевачкі, якія былі пракляты сваімі бацькамі, нехрышчоныя дзеці, дзеці, якія не нарадзіліся. Кікімара – маленькая дзевачка з чорнымі вачыма і чорнымі доўгімі і лахматымі валасамі. Усё робіць назло. Тады ў хазяйкі ўсё з рук падае і нічога не атрымліваецца.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Кікімара жыве ў хаце. Гэта маленькая дзяўчынка з лахматымі і нямытымі валасамі. Яны чорныя-чорныя такія, доўгія. І голас такі пісклявы. Хоць яна дзелае ўрэд, але ж такі, калі чуе бяду, тады сільна пішчыць і плача.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Кікімары – гэта дзяўчыны, якія памерлі некрышчонымі ці іх праклялі бацькі. Такія дзеці пападаюць да ведзьм ці чорта, і тыя падкідваюць іх у дамы. І кікімары пачынаюць жыць у хаце. Ноччу пачынаюць бегаць і шкодзіць, а днём іх не бачна і не слышна. Маленькім дзецям ані могуць і шкодзіць, а могуць і па начам калыхаць.

Ад кікімары можна пазбавіцца. Трэба ўглы ў хаце асвяціць святой вадой і ў кожны вугал пасыпаць лыжку солі. Тогда кікімара ўчяцэ з хаты ў лес і стане жыць у балоце.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Кікімары – эта маленькія дзеткі, у аснаўном, дзевачкі, якія пагіблі. Робяць шаласці ў доме, наблюдаюць за дзецьмі, якія гуляюць. Калі ноччу слышыш плач кікімары, дак гэта к бядзе.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Кікімара – злы дух дома. Яна жыве на печы ці ў падпечку. Кікімарамі станавіліся загінуўшыя дзяўчынкі. У адным доме магло жыць некалькі кікімар.

Лічылі, што кікімара пасялялася ў доме, які стаяў у “нячыстым” месцы: на мяжы або там, дзе быў пахаваны самазабойца. Кікімара па начах стукае па сценах, непакоіць старых, дзяцей, раскідвае па хаце розныя рэчы, ламае мэблю, спутвае кудзелю. На двары кікімара шкодзіць хатняй птушцы.

У некаторых выпадках кікімары маглі папярэдзіць чалавека аб блізкай бядзе – пачыналі плакаць ноччу. Але ўсё ж людзі не любілі кікімар і стараліся пазбавіцца ад іх пры дапамозе замоў.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Кікімара – гэта такая маладая ведзьмачка, касматая, грязная. Дружыць з ведзьмамі і калдунамі. Любіць рабіць шкоду. Кажуць, як убачылі яе, трэба ўдарыць яе мятлою, каб не рабіла шкоды.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Кікімар у хаце чуствуюць каты. Яны тады сільна пачынаюць валнавацца. Калі кошкі, асобенна кацяняты, пачынаюць царапацца, значыць, у доме завялася кікімара. Кошка стараецца легчы всегда радам з дзецьмі ці з хазяевамі, каб зберагаць іх ад кікімар.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Кікімара заўсёды на пасылках у лешага. Гэта зялёныя дзеўкі, бабкі ў лахмоццях, падобныя на людзей, худыя толькі. Жывуць у лесе пад дрэвамі ў лісцях, могуць каля балота, ну, бліжэй к лесу. Некаторыя людзі чулі, як яны шэпчуцца ў лесе, могуць шышкамі кідацца да лешага заманіць. Другім словам – гэта нечысць гэтыя кікімары.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Кікімар я не бачыла, але чула, казалі, што гэта памёршыя маленькія дзяўчаты. Кікімары жывуць пад печчу. Кікімары жывуць яшчэ ў балоце. Гэта ўтопленнікі.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Кікімара жывець у лесі, каля балотаў. Яна як недагледжаная кабета: валасы патлатыя, клочаныя, адзета ў рваную адзёжу. Яе мужык – лешы. Так як і жонка, ён паклаты, калматы, доўгія валасы і барада. Жывець у дрэвах. Ён – ахоўнік лесу. Але ж калі разазліць яго, дык нездабраваць чалавеку, можа ў лесе назаўжды астацца. Лешы так проста людзей не чапае, як і кікімара, а калі яны шкоду наробяць у лесе.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.***
***(прыехала з г. Вялікі Усцюг РФ),***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Пра кікімару я нічога не знаю. Чула толькі, што эта очэнь некрасівы чалавек. Ён такі, як і ўсе людзі, толькі ліцо очэнь страшнае.

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на***
***ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Кікімара – злы дух, які жыве ў хаце. Лічылі, што гэта дзяўчынка, якую праклялі

бацькі і якая памерла яшчэ ў дзяцінстве. У кікімары вельмі чорныя валасы і яшчэ чарнее вочы, якімі яна палохае маленькіх дзяцей, калі тыя спяць. Кікімары могуць плакаць па начах, як малыя дзеці, і клікаць маці. Лічылі, што калі плакала кікімара, то будзе ў гэтай хаце бяда. Калі кікімара бачыць малое дзіцятка, то яна робіць ўсё, каб яму было добра, а таксама дапамагае маці. Кікімара вельмі хоча быць гэтым дзіцяці. Жывуць кікімары на пячы і вылазюць адтуль, калі нешта патрэбна. Многія людзі лічаць, што кікімара – гэта жонка дамавіка. Апранута яна ў лахмоцці, якія забрала ў людзей. Бачыць яе маглі кошкі або сабакі. Чалавек навогул не мог яе бачыць.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Кікімара – гэта лясная істота. Яна жыве ў хаце, у лесе. Кікімара састаіць з веточак. Яна вельмі прыткая і любіць дражніцца.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Кікімара гэта маленькая дзяўчынка, якую ніхто не бачыць, бо яна празрачная. Чашчэ ўсего яна жыве ў доме, на якім ляжыць пракляцце. Скарэй за ўсё гэта дзяўчынка, якая жыве ў доме з печкай. У трубе яна сядзіць і ноччу спявае песні або плача. Кікімара не робіць нічога дрэннага тым, хто жыве ў доме.Яна назірае за гульнёй малых дзяцей. Кікімара памагае мамке калыхаць дзетак. Яна ахраняе дзяцей і дарослых ад злых духаў, але чашчэй дзяцей. Можа быць і злая яна, і выглядаць як сабачка або заяц. Калі вы ўбачыце ў хаце якое-небудзь жывотнае, то гэта значыць, што ў вас жыве злая кікімара і нада ад неё збавіцца.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Кікімара – гэто таке маленьке сушчэство, которэ Бог посылае ў наказанье тым людзям, екіе заморылі сваіх дзецей. Коліся дзецей рождалосо богато. І еслі дзіця лішнее, не хоцелі ёго, ці ў грэху набытое, от ёго ізбаўляліса. Клалі на печэ, закрывалі шырмою і больш не заглядвалі. Ні кормілі, ні пеленалі. Посцепенно вонэ доходзіло. Гэто страшны грэх. Поэтому дзіцячая душа робілас ангелом, а ў хаці поселяласа кікімора, шчоб наказаць бацькоў. Её ніхто не бачыў, але чулі пастаянна. Чулі дзецкі плач. Калі ў хату заходзілі чужые людзі і чулі, што нехта ціха-ціха плача на печы, хоць дзяцей малых у гэтай хаце няма, то так панімалі, шчо тут случыўся грэх.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Бруцкай Марыі Мікалаеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

## Лазавік

Лазавік – то дух такі, што ў лазе жыве. У яго там і хата знаходзіцца. А сам ён таго ж цвету, што і лаза. Многія гаварылі, што ён на дзеда пахож малога, карлік пачці. І хоць ён некрасівы, але ж сам добры. Лазавік можа людзей спасаць ад вадзянікоў і балотнікаў. Дзядзька расказваў, што адзін раз пайшоў з жонкай ягады збіраць. І тут заўважыў уперадзе паляну, на якой было многа ягад. Ён пайшоў туды і трапіў у балота, пачаў жонку зваць. А тая, мабыць, не пачула. Дзядзька ўжо рашыў тады, што жывым яму не быць. Але потым убачыў лазовы куст і схапіўся за яго. Жонка яго тады агледзіла, што мужыка няма, пачала шукаць і наткнулася на яго. Дзядзька спасся, але гаварыў, што яму дапамог лазавік.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Лазавік жыве ля рэк, азёр, а можа і каля лесу пасяліцца. Галоўнае для яго, каб была лаза. Многія гавораць, што бачылі яго. І мне раз так павязло. Ішла калісь летам праз раку, рашыла адпачыць ля лазы. Аж бачу, што там дзед нейкі сядзіць. Ды сам смешны такі, маленькі і нейкі жоўты. Убачыў мяне і адразу знік. Яго ніхто не баіцца, бо ён зла вялікага не дзелае. От шчэ скажу, што лазавік, калі дождж ідзе, можа чалавека схаваць. Я раз у навальніцу ад хаты далёка была, дык схавалася пад лазу. Перасядзіла там, а потым сухенькая дамоў пабегла.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Летам раз заблудзіў я, хадзіў доўга, думаў, што ўжо не выберуся. Толькі прысеў, адразу ж пачуў смех нейкі. Я ўскочыў і пачаў маліцца. І што вы думаеце, знайшоў дарогу дамоў. Я потым доўга думаў, хто ж тады мяне напугаў. Ды ўспомніў, што якраз ля лазы быў. Мабыць, то лазавік з мяне пасмяяўся. За жарты на яго не злую, бо ён мне ў рабоце памагаў. Я не раз лазу на карзіны набіраў. А карзіны выйшлі добрыя, шчэ баба мая імі і зараз пользуецца.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

## Лазнік

Гэта сівенькі дзядок, але дужы, з вялікім пузам ды краснымі шчокамі. Жыве ён ці ў самой лазні, ці ў прадбанніку. Не любіць ён, як позна мыюцца, ці вельмі громка разгаварваюць. Любіць, каб баня была натоплена добра ды каб парадак быў у ёй, каб раз у нядзелю абавязкова была натопленая. Як неўзлюбіў ён чалавека, дык можа зрабіць, каб той задыхнуўся ад пару.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Лазнік – гэта істота, якая жыве ў лазні. Казалі, што які чалавек будаваў лазню, такі і лазнік. Калі добры чалавек, то і лазнік бяскрыўдны, а калі злы, то лазнік будзе шкодзіць людзям. І гаварылі, што лазня ў хуткім часе згарыць.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Казалі, што лазнік жыў у лазні. Калі людзі ішлі мыцца, то ён біў іх венікам па спіне. Яшчэ казалі, што лазнік мог падмяніць дзіця.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Лазнік – злы дух. Любіць мыцца пасля ўсіх, апоўначы. Калі ж нехта прыпазніўся і прыйшоў у яго час, ён зліцца, кідае смеццем, шыпіць. Калі сыходзіць з лазні, яна бурыцца.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

У бані жыве жэншчына. Сама яна такая бальшая, што галавой чуць у паталок не ўпіраецца. А злая, што не расказаць. Калі яна на нешта прагневаецца, дык можа не толькі кіпятком абпаліць, а яшчэ і лазню спаліць. Нішто ад яе не спасе. Таму я позна ў баню не хажу, не ругаюся там, а после сябе гарачую ваду кідаю. Мне не жалка.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Таццяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Лазнік – малюпасенькі, але сільны дзед, сам ён голы ўвесь, а барада ў яго і косы быццам бы зеленаватыя. Ён усю жызнь у бані жыве. На палках спіць, там жа есць. А шчэ і сам любіць мыцца ж. Таму мы, калі самі мыемся, потым яму кідаем мыльца, мачалачку. Ды шчэ астаўляем яму венічак душысты, хай і ён свае косці папарыць. І не дай Божа, у лазню заявіцца п’яным, ён тады цябе так адвалтузае, што ледзь жывы астанешся.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Баннік – ета сушчаство, каторае жыве ў бані. Калі прыходзіць хазяін ілі сасед у баню, каб тапіць яе, то доўжан папрыветстваваць яго і паздаровацца з ім, штоб ён не абідзеўся. Калі ён абідзецца, то ў бані з чалавекам можа случыцца няшчасце – можа паралізаваць ілі другія беды якія накліча.

Маёй бабушцы прыдаліся 3 дзевачкі, якія жавалі хлеб, калі яна тапіла баню. Баннік жыве за печкай у бані.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Лазнік – ета такі невысокі дзядок, скура ў яго чырванаватая, мабыць, таму, што ён любіць парыцца. Мыецца ён пасля двянаццаці гадзін, каб яго ніхто не бачыў, а калі хто ўбача, то ён тады злуецца сільна. А шчэ ён злым становіцца, калі яму штосьці не панравіцца. Тады ўжо бяжы з лазні, бо будзеш біты. А во шчэ харошае вам скажу. Нада, калі лазнік зліцца, пазваць дамавога такімі словамі: “Бацька-дамавы, прыйдзі, ад лазніка спасі!” І дамавы памагае.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Аднаго разу мой дзед пайшоў у лазню п’яным, потым сам быў не рад. Расказваў, што як толькі пачаў мыцца, то з’явілася нейкая жанчына з крыху зеленаватымі касамі. Яна схапіла дзеда і выкінула яго ў прыдбаннік. У дзеда аж валасы дыбам сталі. Пасля таго разу ён толькі цвярозы ў лазню хадзіў. А яшчэ браў дзед з сабой каго-небудзь з мужчын, бо адзін баяўся парыцца. Яго можна паняць, бо я сама б спужалася.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Банник – старый, беззубый, кошлатый дед. Живет в бане и никогда не выходит. Вредный такой дед, тоже пугать любит. Мы когда в бане мылись, нас еще бабушка учила, чтоб в тазу воду оставляли, всю не выливали. Нас он никогда не пугал.

Адин раз пришли мыться, а тазик с лавки упал и вода вылилась. Так Валя (старшая сестра) сказала, что ето он, а мы только посмеялись, не поверили.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Лазнік – гэта чалавечык такі, які жывець у бані. Ён можа падмяніць маленькіх дзетак, калі іх адных аставіць там. Выглядаіць ён, як голы дзядок.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Банник охраняет баню. Когда в баню идешь мыться, нельзя снимать нательный крест. Ночью в бане нельзя оставаться и рана идти нельзя, баня должна настояться, иначе человек угориць – банник бсю правду скажа. Девка раздевалась и задам станав-

илась да печки, если махнатая рука – багатый муж, если голая – бедный будет, если ударит – бить будет, если погладит – добрый будет.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Пехцеравай Антаніны Іванаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Нажоўка Пермскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І.***

У лазні мог вадзіцца лазнік. Гэта голы стары дзядок з барадой і доўгімі рукамі. Ён не любіць людзей, якія мыюцца пасля паўночы, пужае іх, кідае гарачыя камяні. Для яго пакідалі венік, мыла і трохі вады, каб задобрыць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Гэта маленькі і валасаты, з барадой дзядок, які жыве ў лазні. Сам ён ад чорта, бо не баіцца ікон і малітвы. Ён жыве ў веніках, очэнь любіць мыцца. Таму, каб ён сільна не шкодзіў, трэба яму астаўляць мыла і шампунь з мачалкай, каб ён тожа мыўся. Ён звычайна мыецца пасля 12 ночы, таму нельзя туды хадзіць у гэты час, бо ён можа каменнямі забіць, ці засячы венікам да смерці. Яшчэ ў лазні нельзя сварыцца, бо лазнік будзе зліцца і тварыць зло.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кальковай М. (2006 г.)***

Банник – существо, которое живет в бане. Так как баня – это нечистое место (там люди смывают всю грязь), там накапливается плохая энергия. Поэтому баннику приходится возиться со всей этой чернотой.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Баню не строяць радам з домам і хлевам. У бані гадалі часта. Гэта месца нечысці. Баннік жыве там. Днём ён не чапае нікога, а ноччу яму раздолле. Не любіць пьяных і матамі ругаючыхся, можэт задавіць.

Штоб яго задобрыць, астаўлялі яму мачалку, мыла і таз з вадой.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Баннік падобны на чорта. Жыве ў бане. Хаваецца ў куце за каменкай. Нельга было хадзіць ў баню пасля 12 гадзін, бо баннік можа атпарыць. А маленькіх дзяцей нават мог украсці. Нельга ўспамінаць яго імя, гаварыць: “Хай цябе баннік забярэ”. Бо ён прыйдзе і забярэ.

***Запісана ў в. Яроміна Гомельскага р-на***
***ад Прымак Галіны Пятроўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Адаськовай Ю.***

Помню, выйшла замуж адна маладая дзеўка за старога ўжо чалавека. Не знаю, зачым. Але ж гэта іх справы. Смяялася з яго, называла “старым чортам”. І вось на-

радзілася ў іх дзіця, хлопчык.

Аднойчы пайшла дзяўчына ў лазню і ўзяла з сабою малога. А мужыку загадала, каб забраў яго праз некаторы час. Праз якую часіну дзяўчына памыла хлопчыка, адчыніла дзверы і спыталася, ці прыйшоў яе стары муж. Ён адклікнуўся і забраў хлопчыка. А яна хоць бы ўзглянула на вуліцу. Праз кароткі час чуе, што яе стары муж крычыць, каб давала ўжо сына, колькі ўжо можна яго мыць! Яна, не разумеючы нічога, вельмі спалохалася. Шукалі яны яго, шукалі, але ж так і не знайшлі… Вось так, аддалі дзіцяці ў самыя рукі старому чорту-банніку.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кулаковай Ганны Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Каморынай С. (2006 г.)***

Лазня для чалавека – дрэннае месца. Там нячыстая сіла збіраецца. Дзеўкі ў бане варожаць. Гэта нядобрае месца.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Быкоўскай Пелагеі Дзмітрыеўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2000 г.)***

Лазнік жыве ў лазні. Небяспечны для тых, хто ў ёй мыецца. Уяўляўся ў выглядзе голага старога дзеда невялікага росту, з барадой, вялікімі рукамі. У іх ён трымае посуд з вадой. Лазнік любіць парыцца і мыцца, яму пакідаюць для гэтага венік і ваду. Мыецца ён пасля поўначы і таму не любіць, каб хто-небудзь заставаўся да гэтага часу ў лазні. Калі хтось застанецца там доўга, то лазнік можа забіць яго камнем з пячы.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Мы не бачылі, а гаварылі, што ў бані ён ё. Прэждзе, чым раздзецца, нада памаліцца: “Вадзіца-царыца, усяму свету памошніца. Памажы і мне харашэнька памыцца, усе грэхі змыць”. А еслі не памолішся банніку, то будзеш венікам парыцца, і ўродзе харашо, а выйдзеш – увесь будзеш у царапінах, будуць рубцы на целе. Так з нашым дзедам было, таму, чаму ж не верыць?

Баяліся задзержывацца і да 12 часоў. Былі ў бані случаі такія, быццам нападалі, шчыкаталі, білі, мучылі людзей, што асталіся пасля 12 часоў.

Выглядзеў баннік як чалавек, толькі зусім маленькі, но крэпкі. Баннік мог умярцвіць дзіцёнка, калі не спадабаюцца радзіцелі. Мог перагрэць дзіця. Калі дзіця памірала ў бані або адразу ж пасля, то лічылася, што яго забраў баннік.

***Запісана ў в. Вылева Добрушскага р-на***
***ад Разрашэнка Лізаветы Пятроўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Смяглікавай В. (2004 г.)***

Казалі, што мог вадзіцца ў лазні лазнік. Я яго не бачыла, але ўяўляю, што гэта стары дзядок, які заўсёды парыцца, калі прыходзіць ноч, і не любіць, каб там хтосьці быў.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***

***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Лазнік у лазні быў, толькі не любіў, штоб п'яныя парыцца хадзілі. Мог і загубіць там. І за трэцім парам хто хадзіў, тожа не любіў, зліўся.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Лазнік жыве ў бані за печкай. Ён невідзімы. Лазнік самы апасны, таму што можа пакараць смерцю тых, хто мыецца ў бані послі захада сонца, ілі сільна напугаць іх сваімі рознымі штучкамі.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Баннік – гаспадар бані. Голы дзядочак, толькі ўвесь у лісце з веніку, якім парацца. Усягда чысты, бо мыецца пастаянна.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Баннік жыве ў бані. Стары дзядок з доўгай барадой. Любіць, каб у бані парадак быў. Злаваўся, калі хазяін пасля сябе астаўляў венік, мыла, ваду ў тазіку. У наступны раз тады мог што-небудзь зрабіць назло.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранава Мікалая Рыгоравіча, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Яго называюць па-рознаму. Хто лазнікам, хто баннікам. Ён гаспадар лазні. Яго ніколі нельга ўбачыць. Але кажуць, што гэта маленькі дзед з доўгай барадой, усягда з венікам у руцэ. Часта мыецца, пагэтаму і чысты.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Белянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Ведаю лазніка, ведаю. Мне мамка пра яго расказвала. Усё пугала мяне, калі я малая была. Казала, што ён жыве ў лазні, на верхняй паліцы, і што ён вельмі злы. У дзярэўні дзеўкі гаварылі, што многа хто яго бачыў. Гэта такі старычок з сівымі валасамі. Ён увесь у бярозавых лістах. Адна жанчына казала, што аднойчы ён чаго-та разазліўся і ашпарыў яе кіпятком. Як даў духу, дык яна, бедная, чуць уцякла з бані, думала, што Богу душу аддасць. Дык пасля гэтага год у баню не хадзіла, так баялась яго. Тады ёй параілі яго задобрыць. Трэба аставіць яму ўсё, што нада, каб хораша памыцца, дык ён і задобрыцца. Тая так і зрабіла, дык цяпер усё нармальна, мыюцца, і саседзі ходзяць, ніхто не жалаваўся, а наадварот, усе хваляць баньку.

***Запісана ў в. Сырск Кармянскага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Ягораўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Лазнік вельмі любіць парыцца ў лазні, і яму пакідаюць для гэтага венік і ваду. Ён мыецца заўсёды ўначы і не любіць, каб хто-небудзь заставаўся ў лазні. Калі нехта застанецца, то ён кідаецца камнямі, каб забіць яго. Лазнік пужае рогатам жанчын, якія мыюцца вельмі позна. Калі ў лазні заставаўся лазнік, яна абавязкова згарыць або разбурыцца.

*Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на*
*ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Марчанка В. (2004 г.)*

Вяздзе нечысць жыве. Кажуць, і ў бані жыве добрая сіла – баннік. Няма баннікаў толькі ў старых банях, дзе ўжэ не топіцца. Не любіць ён, як баня без пару. Яшчэ не любіць, як позна мыцца ў баню йдуць. Яму ж нада сваю работу рабіці, людзей, што ў бані былі, лячыць. Баню і банніка ўсягда ўважалі, лячыцца туды хадзілі.

*Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на*
*ад Логіс Кацярыны Кандрацьеўны, 1913 г.н.,*
*студэнткай Логіс В. (2009 г.)*

Абітае лазнік у бане. Нічога і нікога не баіцца. Любіць мыцца. Людзі, гаспадары пакідаюць у бане мачалку, мыла, венік, ваду для лазніка.

*Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на*
*ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,*
*студэнткай Грыб М. (2006 г.)*

Он, лазнік, жывець у бане. Як і дамавы, гэта старычок сяды, з барадой дліннай-дліннай. Знаходзіцца пад лаўкай у бані. Любіт сядзець у веніках.

*Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на*
*ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,*
*студэнткай Грыб М. (2006 г.)*

Баннік – ета такая істота, што жывець у бані. Вось як толькі пастрояць баню, дык баннік у ёй і пасяляецца. Выгляд мае старога дзядка з сівой барадой і валасамі. Ён всегда дагледжаны, барада і валасы расчосаны. Ходзіць ён у белай рубашцэ, заўсёды чысты. Любіць парадак і чыстату ў бані, сочыць за ёю. Злуецца заўсёды на плахіх гаспадароў. Калі гаспадар добры, дык баннік яму баньку добрую дзелае ды венічак добры бярэ. Калі гаспадар плахі, дык баннік можа яму баню выстудзіць, каб той не памыўся. Зліцца баннік на тых, хто вельмі позна прыходзіць мыцца і не дае яму адпачываць.

*Запісана ў г. Бялынічы Магілёўскай вобл.*
*ад Селівестравай Таццяны Якаўлеўны, 1935 г.н.,*
*студэнткай Чыжук Н. (2004 г.)*

Лазнік – дух, які жыве ў лазні. Часцей за ўсё людзі, якія мыюцца ў лазні, яго не бачаць. Жыве лазнік за каменкай. Лічыцца, што ён таксама мыецца ў лазні. Яму пакідаюць ваду, мыла і венік, інакш ён мог абліць кіпенем, кідацца гарачымі каменнямі. Калі ўваходзілі ў лазню, то казалі: “Хрышчоны – на палок, нехрышчоны – з палка”. Вельмі дрэнна лазнік адносіўся да тых, хто ішоў мыцца “у чацвёртую чаргу” або якія мыюцца выпіўшымі. Тады лазнік мог задавіць іх, або здзерці скуру. Калі ў лазні пачыналася нешта не тое, то трэба было хутка выйсці з лазні задам наперад.

Па лазніку можна было варажыць. Ноччу дзяўчаты падыходзілі да лазні, сунулі руку ў вакно або ў дзверы. Калі лазнік дакранаўся махнатаю рукою, жаніх будзе багаты, а калі голаю, то бедны.

*Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на*

***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Лазнік жыве ў бані. Казалі, што гэта стары дзядок, які жыве ў веніках. Яго трэба паважаць, карміць, прыбіраць за ім. Але калі пайсці ў баню пасля 12 ночы, то ён можа нашкодзіць чалавеку: запарыць яго да таго, што той выйдзе ледзь жывы.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Любіць лазнік жыць у лазнях, якія пастроіў сам хазяін. Любіць, калі там пахне бярозавым духам. Я яго не бачыла. Мо ето дзедок такі невялікі, у чыстай майцы, усегда вымуты, бо ён жэ лазнік. Яму не паложано быць грязным. Любіць тых людзей, якія ходзяць у баню, муюцца там. А калі хто ў празнік ходзіць муцца, так лазнік етого не любіць. І можэ так зрабіць, што еты чалавек ад пару ўчадзее ці другое што случыцца.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Лазнік – гэта маленькі чалавечак, які жыве ў бані. Яго мы не бачым. Баннік не любіць, калі вельмі жарка. Тады ён можа задавіць гэтым парам, або венікамі да смерці заб’е.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Лазнік – гэта істота, пахожая на чалавека. Чула я, што пайшла адна дзеўка замуж за старога чалавека. Нарадзіўся ў іх сын. От пайшлі яны мыцца ў баню. А яна кажа свайму мужу: “Ну, стары чорт, пасядзі ля бані, забярэш дзіця!” Памыла яна дзіця і аддала за дзверы. А цераз некалькі мінут стары крычыць: “Давай дзіця, хваціць, мыла ўжэ!” А дзеўка выбягла ды спужалася. Аказываецца за тое, што такая языкатая, аддала старому чорту банніку сваё дзіця. І да сіх пор яго няма!

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Ні разу яго не бачыла, але знаю, што людзі для яго венік вешаюць, самі яго не бяруць, думаюць ім баннік парыцца. Пасля двенаццаці ў баню не ходзяць, гавораць, што ў гэты час баннік мыецца. Не разрашалі цяжарным у баню хадзіць. А як такое здарыцца можа загубіць іх. Калі пастрояць новую баню, дык у яе са старай усё пераносім, гаварылі, што і баннік туды пераходзіць. Еслі панравіцца яму новая баня, то і цяпло ў ей будзе добра трымацца. Еслі не рабіць усё гэта, раззлуецца баннік ды баню спаліць можа.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Называюць яго, банніка, хазяін-баншчык. Баня – гэта месца, дзе ўсю гразь, грахі адчышчаюць. Калі заходзілі ў баню, то казалі: “Хазяін-баншчык, памагі нам грахі

адчысціць". А калі памыліся, то, хто выходзіць, нада сказаць: "Спасіба". Калі пасля бані выходзілі з харошым настроем, значыцца, баннік дапамог. Но еслі перасядзіш у бані больш, чым паложана, то баннік можа нашкодзіць.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Еслі чалавек пойдзе ў баню без краста, то баннік задавіць ці задушыць чалавека.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Лазнік падобны на вялікую мыш шэрага колеру. Хаваецца пад венік. Яны бываюць добрыя і злыя. Неабходна заўсёды пакідаць мыла, мачалку ў лазні. Калі ўсё гэта астаўлена, то можна смела мыцца, таму што мы яго задобрылі. Злыя лазнікі атлічаюцца тым, што яны прыносяць шкоду.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Баннік – гэта такі нявідзімы чалавек. Трэба свяціць баню, калі баннік зусім не дае рады, чытаць малітву "Отче наш".

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Герыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.) (2006 г.)***

Баннік жыве ў бані. Ета злы стары чалавек. Ён любіць парыцца ў бані адзін. А калі прыходзяць людзі парыцца, то яны нарушаюць яго пакой. Тады ён становіцца злым, сярдзітым. Каб падлашчыцца к яму, людзі астаўлялі яму ў бані мыла і венік. Асобенна ён не любіў мужчын, якія пры разгаворы мацюгаліся і сільна смяяліся, крычалі. Калі чалавеку было сільна жарка і ён ненадоўга выходзіў у прыбаннік, то баннік мог закрыцца і не пусціць назад.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Лазнік жыве ў лазні. Дзяцей малых нехрышчоных у лазні пужае, забірае. Нельга нехрышчоных дзяцей мыць у лазні, а то будуць хварэць.

***Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на***
***ад Кузьмянковай Лідзіі Васільеўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Лазнік жыве ў лазні, бані. Гэта такі чалавек, стары чалавек, чыстаплотны, бо ён любіць купацца, расчэсвацца, таму людзі яму астаўляюць нанач мыла, палаценца, расчоску, а некаторыя і венік бярозавы, каб ён папарыўся. Гэтым яны яго задобрываюць. Не любіць, калі людзі парацца ў лазні пасля 12 ночы, можа іх напугаць, напрыклад, свет патушыць, а некаторыя гаворадь, што можа і задушыць, калі адзін у бані будзеш. Вось ён які, лазнік.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***

*студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)*

Лазнік жыве ў бані, ён там гаспадар. Пужае людзей, якія прыходзяць памыцца ў баню. Выглядае, як стары дзед з вялікай барадой. Калі лазніку не падабаецца баня, то ён яе пакідае. А потым ідзець у другую баню. Трэба заўсёды, як памыешся, астаўляць у бані венік, мыла, ваду. Яшчэ ведаю такое, што нельзя мыцца пасля 12 гадзін ночы. І што баннік не любіць п’яных.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Ёсць баннік. Каб яму ўгадзіць і каб добра было, трэба набраць, як памыўся, у кружку чыстай вады і венік палажыць на палок. Гэта робя, хто паследні мыецца.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Лабкоўскай Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Лазнік – гэта дух бані. У яго просілі, коб вон помог вугнаць порчу, вулячыць бяздзетнасць і другіе балезні. Бо раней у бані не только муліса, а і лячыліса. І баннік памагав. Але перш яму трэ було загодзіць. Повесіць пахучых трав, положыць праніка і другое.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Лазнік – гэта злы дух. Ён жыве ў лазні пад палком. Ён не любіць, калі хто-небудзь застанецца пасля 12 гадзін у лазні, таму што сам у гэты час мыецца. Хто заставаўся ў лазні, то чуў, як лазнік стучыць і варочае камяні. Для яго трэба астаўляць венік і ваду.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Ведаю, што ў баню не трэба хадзіць вечарам. Там жыве маленькі і злой дзядушка. Ён адзеты ў чорны плашч з капішонам. Не любіць ён, кагда ў баню вечарам прыходзяць ды п'яных ён тожа не любіць. Ён тады раззлуецца ды можа задушыць таго, хто любіць у баньке позна папарыцца або закідаць яго камянямі. Бо любіць ён сам пасля поўначы ў баньке памыцца. Яшчэ ведаю, што ў трэццій пар нельзя хадзіць, бо баннік прывяжа чалавека к лаўцы ды больна біць па спяне будзе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Я его не бачыла ніколі, бо ў баню не хадзіла, але думаю, што гэта стары дзед з барадою і весь валасаты. Шчэ мая бабка казала, што ў баню нельга было хадзіць пасля 12 часоў, бо там вылазяць нейкія чэрці і пачынаюць біць венікам, пака шкура не злезе, а могуць і зусім забіць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

## Ласка

Ласка – эта такая твар, што прыходзіць да кароў, шчыкоча іх, усю ноч мучае. Карова мокрая становіцца. Малака даваць не будзе. Карова худзее. Ласку трудна паймаць. Яна маленькая, дліненькая, чорна-рабенькая, быстрая, нізенькая. Я яе бачыла. Красівая істота, хлёсткая, аж блішчыць. Ласка баіцца чалавечай мачы. Ласку нада вылаўліваць, но злавіць яе трудна.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н., студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Ёсць ласкі харошыя, а ёсць плахія. Яны жывуць у сараі. Ласка лазіць па карове, мучыць яе. Можа замучыць карову да смерці. Асобенна мучыла карову рабую. Штоб ад яе ізбавіцца, мужчыны лавілі ласку ілі ўбівалі сароку і вешалі ў сараі.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на ад Ласуновай Тамары Якаўлеўны, 1935 г.н., студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Ласічка ўсю ноч ганяе кароўку, тая пацее, а калі лажыцца, дык ласічка трэцца аб вымя і кароўка сама доіцца. Каб яе вывесці, на акенца сарая клалі зеркала.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н. (прыехала з в. Пучын Брагінскага р-на), студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ласічка заводзіцца ў хляве, лашчыцца да каровы, а тая патом сама доіцца. Ласічка злізвае малако. Утрачкам карова выходзіць з хлява ўся мокрая, неспакойная.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Душкевіч Любові Іванаўны, 1936 г.н. (пераехала з в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на), студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ласічка жыве ў сараі, дзе кароўкі. Калі яна ласкаецца, дык кароўка мардуецца, ходзіць усю ноч. Каб вывесці ласічку, нада стары ці рваны абутак вымазаць у свае фікаліі і перакінуць чераз сарай.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н., Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н., студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ласка – гэта звярок маленькі, но апасны. Ён ахоціцца на дамашнюю пціцу ілі на мышэй, но можа дажа напасць на чалавека. Яна, як і хлеўнік, мучае жывёлу, якая атлічаецца ад яе. Я чула, што ласка больш усяго не любя коней і кароў.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н., студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Ласіца гоніць карову па хлеву. Шоб она туда не прыходзіла, то засцілаюць лён.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н., студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ласіца бегае па двару, крадзе яйца, калі падбяжыць пад карову, то будзе краснэ молоко. Поганы зверок, маленькі.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошман Вольгі Лявонаўны, 1927 г.н.,***
***Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ласка – гэта такі звер, які шчакоча скаціну. Калі раніцай прыйдзеш у хлеў, то жывёла ўся мокрая. А коням можа грыву ў касічкі заплесці. Каб пазбавіцца ад яе, то мачылі салёнай вадой скаціну ці дзёгцем палівалі вуглы хлява.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Падобна ласка на невялічкую вавёрку. Жыве ў хляве на сенавале. Ноччу з'яўляецца на целе жывёлы і пачынае мучыць яе. Каб зберагчыся ад ласкі, забівалі варону, з яе рабілі пугала, яго распіналі на палках і падвешывалі. Тады лічылася, што яна знікне. Від вароны адпугваў ласку.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Я сама яе бачыла. Гэта такая маленькая жывёла, менш трохі ката. Яна беленькая, з пушыстым хвастом, як у белкі, але гэта ж не белка. Жыве ласка ў хляве, мо пад палом, а мо на крышы. Гаворацць, што яна бывае і рыжая, і чорная з белым. Ласка часта ў каго сустракаецца ў хляве. Яна шкодзіць худобе, шчакоча яе па начам, што тады раніцай скаціна нават і на нагах стаяць не можа, уся асунуўшаяся. Ласка спіну так шчакоча жывёле, а можа і малака ў каровы высасаць.

Я знаю тое, што калі абмажаш тую худобу, да якой прыстала ласка, чалавечым (хазяйкі ці хазяіна) калам, то яна, ласка, адчэпіцца ад гэтай жывёліны. І гэта праўда дапамагло.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Ласіца, а яшчэ яе называюць хлеўніцай, бо жыве ў хляве. Бывала, кароўку так заганяе, што тая дзелаецца ўся мокрая. Яшчэ, кажуць, што яна і малачко ў кароўкі сасе. Я яе таксама бачыла, ка мне ў хлеў аднаго разу ўсялілася, але мы яе хутка вылавілі. Нечым на крысу пахожая, цвету серага, доўгенькая такая. Вельмі ж яна хуткая і ўвёрткая.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Скакун Лідзіі Кузьмінічны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Гэту ласку насылае на карову ведзьма. Або сама ведзьма скідаецца ў ласку. Гэта такі звярок, вон усягда ўцякае, яго трудно зловіць. Еслі зранку корова мокрая і дрыжыць, то гэта яе ласка ўсё ноч ганяла. Ад ласкі ў хляве вешалі сярпа ў куце.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## *Лясун*

У нас яго лешым называлі. Гэта маленькі дзядок, увесь у лісці, лахматы, у капелюшы, як шапка грыба. Глядзіць за птушкамі і жывёламі. Казалі, што ў гразу лешы шалее ды пачынае вырываць дзярэўя, ламаць веццe, рыць ямы. Ён заблытвае людзей у лесе. Але ёсць харошыя лешыі. Яны памагаюць выйсці з лесу. Калі людзі робяць чаго-нібудзь дрэннае, лешыі могуць наслаць балезней. Лешыя могуць рабіцца пянёчкамі, грыбамі, змяюкамі. Яны ніколі не адпачываюць. Як убачыш лешага, не ўцякай, бо абязацельна пагоніцца і прыдушыць.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Лесавік – лясная істота, яго лічаць гаспадаром лесу.

Расказвалі шмат гісторый, як лесавік дапамагаў чалавеку, які заблукаў знайсці шлях. Але казалі, што ён мог і зрабіць наадварот, завесці чалавека ў самую чашчу, адкуль чалавек ужо не мог знайсці дарогу дадому.

*Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на*
*ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.*
*(раней пражывала ў в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на),*
*студэнткай Носка Г. (2005 г.)*

Была я маленькая. З брацціямі і сёстрамі паехалі ў лес па ягады і грыбы. Я адстала і заблудзілась. Слышу, што дзе-та яны мяне завуць, а адкуль – не разумею. Мне падалося, што ў адным баку, вось і бягу туды. Бягу і натыкаюся на маленькага дзеда з барадой, ён на пяньку сядзеў. І кажа мне: “Дзевачка, цябе не тут завуць, а ў другім баку. Бягі назад”. І паказаў, куды бяжаць. Я развярнулася і пабегла. І сапраўды, прыбяжала да сваіх. Потым я бачыла ў сястры дома карцінку, на якой был старычок у шляпе, з барадой. Ён стаяў на зялёнай лужайцы. Ён быў вельмі падобны на гэтага лесавічка, якога я бачыла ў лесе.

*Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,*
*студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)*

Мая суседка ніколі ў лес адна не хадзіла. Прыехалі да яе ўнукі, і яна рашыла сама ў лес пайсці без нас. Вырашыла ягад назбіраць. А баялася ж іці. А ў лесе лясуны гэтыя пужаюць, яшчэ знаюць, хто іх баіцца. Любяць яны падражніцца. Вот і рашылі яны, наверна, нашу Маню звесці. Як ёй удалося прыйсці назад, не знаю.

Вось што яна расказвала. Бяру, гаворыць, ягады, а ён перада мной так і скача. Вялікі такі, як чалавек, у скуры тоўстай, кашлаты, нямыты, з вялікім носам і на ліцэ столькі барадавак, што аж страшна становіцца. Спужалася яна і рашыла дамой бегці, скольні не бегла – усё не туды. Так ён яе закружыў, што 2 дні блудзіла. А ён яе ўсё вёў у тыя мясціны, дзе ягад цэлае мора было. Казала Маня, што яму, наверна, не панравілась, што яна ў тым месцы збірала ягады, так ён ёй і паказваў, дзе нада. Як паявіўся перад ёй зноў, дык яна яго за хвост цопнула і атарвала яго. Так ён крычаў і вывеў яе. Пасля таго ў лес большэ адна ні нагой.

*Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Палуянавай Варвары Аляксандраўны, 1936 г.н.,*
*студэнткай Ткачовай Т. (2004 г.)*

Лешы – ета такі чалавечак, які жыве ў лесе. Ён такі стары. Ведаю адну гісторыю, як адна жэншчына пайшла ў лес і яе не было цэлы дзень. А потым яна расказала, як хто-та яе ў лесе вадзіў і смяяўся, а яна ніяк не магла адбіцца. А ёй бабкі сказалі, што ета лешы быў.

Яшчэ ведаю случай з маім дзедам. Гулялі яны як-та з дружкамі ў саседняй вёсцы. Хлопцы засталіся, а дзед вырашыў ісці дахаты. Ну і пайшоў ноччу цэраз лес. Шоў ён так, а потым адчувае, што на плячах што-та такое цяжолае стала. Ён паглядзеў – ну, нічога нету, а ісці так цяжало стала. Вот как будта мяшок цяжолы нясе. Ён ужо еле ідзе, а патом упаў на калені і начаў маліцца. І пачуў, што стала яму лёгка, і тут чуе, што хто-та як зарагоча! Ён аттуда хутка пайшоў, не аглядваўся, а тут ужо і вёска свая. Вот так на ім лешы катаўся.

*Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н.,*

***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

Хазяін леса – лесавік. Ён жыве ў самым гушчары, дзе людзі, што прыйшлі ў лес за грыбамі ці чым яшчэ, не маглі яго бачыць.

Паехалі мы па ягады, хадзілі мы, хадзілі. Ужо сонца прыпякала, стала жарка так, рашылі пайсці ў балота вады папіць. І тут сталі ўсе спатыкацца, будта нехта спецыяльна наступае на ногі, і скрып прыбліжаецца. І чым бліжэй ён, тым больш адчувалі моцны халодны струмень-воблака. Потым нешта ціхенька ўздыхнула і заціхла.

Лесавік – хазяін леса. Я калі ў лес па грыбы хадзіла, то ўсё ўрэмя яму пад якое дрэва што смачнае клала. Я ніколі не прыходзіла дадому з пустым кошыкам, ета мне ён дапамагаў, я знаю, а хто ж яшчэ, як не ён. Бывала, іду па лесе і чую, што хтось свішча. То значыць, ён чагосьці сумуе.

***Запісана ў в. Асарэвічы Брагінскага р-на***
***ад Заяц Кацярыны Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Свірыдзенка Г. (2004 г.)***

Лешы можа крычаць на ўсе лады і галасы. Галоўнае – не паддавацца на яго хітрыкі, бо ён заводзе ў гушчар.

***Запісана ў в. Клянок Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Зубаравай Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Лешы жывёць у лесе. Пахожы на чалавека, малога роста. Адзежа ў яго з лісцеў. Ё барада. Лешы добры. Дажа калі заблудзіцца хто, дык памагае з лесу выйсці.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Лясун – гэта такая нявідная істота, якая ў лесе з дарогі збівае і можаш так зайсці, што назад і не выйдзеш. Быў у нас дзед адзін. Ён любіў адзін у грыбы хадзіць. Як пойдзе, бывала, так ўвесь дзень яго няма. А аднаго разу як пайшоў, так і цяпер няма яго, а лес луччай за яго ніхто не знаў, а кажуць, лясун яго так завёў, што ён і не змог вярнуцца дамоў.

***Запісана ў в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Казловай Таццяны Мікітаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Валчковай Т. (2004 г.)***

Усе кажуць, што лешы людзям толькі харошае дзелае. Аднак можа ён, што ні гаварыце, вялікай бяды нарабіць. Дзед маёй маткі паехаў з хлопцамі ў ноч коней пасвіць і адстаў ад іх. Прыехаў на паляну, атагнаў сваіх коней у кусты, расклаў касцёр і пазваў хлопцаў. Чуе ў адказ: “О-о-о”. Тады ён надумаў ехаць да хлопцаў. Тут чуе зноў: “О-о-о”. Праз некаторы час зноў чуе гэтыя гукі, але ўжо бліжэй. Ён спужаўся, быстрэй запрыгнуў на каня і ўцікаць. А гэтае “О-о-о” за ім бліжэй і бліжэй. Ён абярнуўся, а галавешкі да нябес лятали.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

У нас у лесе гушчар адзін быў. То людзі казалі, што ета хата лесавіка. А адзін мужчына не паслухаў і пайшоў туды ці па ягады, ці па грыбы. Дык кажуць, чуць ногі

адтуль прынёс. Лешы яго некалькі дзён вадзіў. Шчэ добра, што пашкадаваў ды адпусціў. А так у лес можна спакойна хадзіць. Лесавік ніколі не будзе чапаць вядомых яму людзей. А ўсіх нас ён знае добра, бо мы ж з малых гадоў у лес бегалі. Ён нам час ад часу падказвае месцы, дзе можна поўны кош набраць грыбкоў.

А шчэ лешы можа за жонку ўзяць простую дзеўку. Баба мая казала, што ў іх вёсцы раз дзеўка прапала. Адны гаварылі, што яна ў лесе заблудзіла. А старыя дык казалі, што лешы яе сабе за жонку ўзяў, бо вельмі ж добрая гаспадыня яна была.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Мы ўсе з дзяцінства зналі, што ў лесе жыве лесавік. Але ён нам нічога плахога не дзелаў. Можа таму, што мы ў дні, калі нечысць гуляе, у лес не хадзілі. А ета правіла мы на памяць зналі, бо многа чаго наслухаліся. Бацька мой казаў, што пайшоў у лес па дровы восенню. Аж толькі ўвайшоў у лес, чуе шум, стогны, звяры ўсюль выюць. Спужаўся бацька і тут успомніў, што гэта за дзень. Дык дамоў ляцеў, баяўся нават абярнуцца. А тады якраз было семнаццатага кастрычніка. А ўсе ведаюць, што нечысць гэты дзень моцна любіць.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

У народзе яго называюць “лешый”. Ён жыве ў гушчы лясоў. Людзей, каторые прыходзяць у лес, ён заманівае ў густую чашчу. Паяўляецца лешы сначала з адной стараны, патом з другой. Чалавек блукае па лесе, не можа з лесу ніяк выйсці. Паяўляецца ў розных старанах і заве к сабе. Чалавек ходзіць да тых пор, пакулі не страціць сілы. І калі чалавек не знае малітвы “Васкрэсная”, каторую лешы баіцца, то можа случыцца трагедыя. Чалавек можа пагібнуць у лясу. Прачытаўшы ету малітву, ён ісчазае. Лешы – храніцель леса і наглядае за парадкам у лесе.

**Малітва “Васкрэсная”**

Да васкрэснет Бог і расточатся вразі его, і да бежаць от ліца его ненавідзяшчі его. Як тает воск от ліца огня, тако да погібнуць бесы от ліца любяшчіх Бога, і знаменуюшчіхся кресным знаменіем, і в веселіі глаголюшчіх. Радуйся, пречістый і жівородяшчій Кресте Господен, прогоняя бесы сілою на теле Господа нашего Исуса Христа, во ад сшедшаго і паправшаго сілу діаволю и даровавшаго нам. Табе крест свой честный, на прогнаніе всякого супостата. О, пречестный і жівотворяшчій крест Господень! Помогай мі со святою Господнею Девою Богородицею і со всемі святымі во векі. Амінь.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Лесавік жыве ў лесе ці гушчары якім. Ён можа любы выгляд сабе ўзяць. Калі захоча, можа ў дрэва прэўраціцца, а то яшчэ і ў жывёлу якую. Во, што раз са мной случылася. Шла вечарам (шчэ не цёмна было), і ўслышала, што мяўкае нехта, ну вот как кот саўсем. Іду дальшэ і бачу, што дрэва стаіць сухое, а ў ім дупло, і кот там сядзіць. Красівенькі такі, пухнаценькі, а вочы, ну, вот как чалавечыя. Я поняла, што гэта саўсім не кот, а лесавік.

***Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на***

***ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Лесавік – гэта такі чалавечак малы, што ў лесе жыве. Яго ў лесе ўсе слухаюцца. Ён, ежалі захоча, можа з чалавека пашуціць. На Каляды было так, што ідзём, ідзём і такая мяцель падымаецца, што няможна нічога бачыць. А тут рэзка вецер уціхне, а ты ўжэ ў другой старане ад той, куды ішоў. А шчэ бывала такое, што так закруціць цябе лесавік на адным месцы, што ты потым і забудзеш, дзе твой дом знаходзіцца. Толькі зрэдку лешы можа чалавеку ягадзіну якую падказаць.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Людзі казалі, што відзелі лешага на балотах. Страшэнны ён такой, не можна глядзець. Рожа, як гнілая, страшна глянуць, вочы красныя, рот, як у жабы, бяззубы нейкі. На ім усе гады балотныя сядзяць. В том месцы, дзе спіць, бурбалкі бурболяць. Таму знаюць, што лучшэ туды не хадзіць, бо зацягне на самае дно. Ды той хітрыкамі заманьвае.Так людзі і ведаюць, дзе лучшая ягада ці там расліна лекавая якая, не ідуць, баяцца.

А то бывае, крыкамі заманьвае. Пайшоў раз хлопец такі малады ў лес ды і чуе, як дзіця плача. Ён пайшоў на плач, аж ні душы не знайшоў. А тут чуе, далей ужо плача, зноў пайшоў – няма. Так ён зайшоў у балота. Аж хлопец не дурны быў, ды і поняў, што гэта яго лешы заманьвае, і ўцёк дамоў.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н., студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Лесавік – хазяін лясоў. Не кожны можа яго пабачыць. А мне ета ўдалося. Іду па лесу, і тут я пачуў: “Гэй, гэй!” Калі павярнуўся ў другі бок, то замеціў старога дзеда, які стаяў у белым адзенні. У яго была сівая, белая-белая барада, а ў руках у яго быў белы коўш. Я сначала і не зразумеў, што перада мной лесавік. Узяў і паклікаў яго, а ён, як мой голас пачуў, адразу знік. Тады ўжо я дакумекаў, што бачыў лесавіка. Пасля таго ўжо такога мне ніколі не выпадала.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н., студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Лешы – начальнік у лесе, гаспадар. Усё жывое яму падчыняецца: і птушкі, і жывёлы, і насякомыя. Ён слядзіць, каб у лесе быў парадак. Бывае, што чалавека пужае, які ў лес прыйшоў, перастаўляе з месца на месца дрэвы, каб той згубіў дарогу дамоў, а калі яму надаесць яго доўга вадзіць, дык ён сам выводзіць яго з леса. Ён так зла большэ не дзелае. Не забівае, а толькі забаўляецца інагда, калі яму сумна.

***Запісана ў г. Гомель ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны , 1930 г.н., студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Когда я была маленькой, мы ходили в лес за земляникой. Там была гора. На этой горе стоял очень высокий, белый человек. Мы очень испугались. А Миша, мой брат, сказал, что это лесовик. Мы побежали в деревню. Не собрали даже ведра. А мать нас ругала, если мы не собирали ведро ягод. Было страшно.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Маісееўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Мой отец работал на элеваторе. Четыре километры ходил лесам дамой. Вдруг што-та прыгнула яму на плечы, он упал. Бацька думал, што ён яго з'есць. Он пацярал сазнание сярод ночы. Праснулся, ничога нет. И пашел дамой.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Маісееўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Дед мой поехал в лес за ежевикой по осени. Поставил мопед в кусты (он лес хорошо знал), запомнил место, пошел собирать ягоды. Насобирал, вернулся до того места, мопеда нет. Ходит, ищет, не может найти. Запутал лесовик. Он переодел обувь с правой ноги на левую, с левой на правую. Так делают, чтобы лесовик показал дорогу домой. А другие говорят, что это уберегает от лесовика. Нашел дед мопед и поехал.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Пехцеравай Антаніны Іванаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобл.),***
***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)***

Гэта такі, што людзей, якія лес паганяць, ён заблуджае іх, яны не могуць вярнуцца. Ён – хазяін леса, можа прыкінуцца дзеравам, кустом, грыбам, пціцай, зверам – кім угодна. У нас гаварылі, што дажа памагае добрым людзям, еслі тыя заблудзіліся, то памагаў знайсці дарогу. Бачылі ў нас яго. Гаварылі, калі не прыкідваецца нікім, то пахожы на здаровага такога старога дзеда ў паліто і шапцы, і з палкай.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

А, а ён (лешы) стучаўся, а потым убяжаў. Адна мая знаёмая далёка працавала і трэба было ёй на электрычцы ехаць дадому. Вось позна вечарам яна вярталася дахаты. А трэба было яшчэ праз маленькі лясок прахадзіць. І вось яна бачыць, што нехта за ёй ідзе. Раптам ён перад ёй з'явіўся – лешы! Глаза гарацЬ, а сам такі прыгожы, але і страшны. Жанчына адразу пачала маліцца, і ён не мог да яе падыйсці. Але глядзеў такімі яркімі і ўлюблёнымі глазамі. Тая хутчэй кінулася бяжаць, а ён за ёй бяжыць і нібы плача, а сказаць нічога не можа. Так яна да дому дабяжала і дзверы зачыніла, а ён стучаўся, а потым убяжаў.

Ужо і вайна потым прайшла, не было чаго есці. Жанчына пра выпадак пачала забываць. І тут ля дзвярэй з'явіліся прадукты, а праз некалькі дзён здалёку яна ўбачыла тыя ж яркія вочы, прыгожае і страшнае ліцо. Праўда, больш ён не прыходзіў.

***

А вось яшчэ помню. Я яшчэ маленькая была і не разумела многа. А малыя ж дзеткі нічога не баяцца, вось так і я. Гулялі мы па лесу і падыйшоў да нас дзед сівы. А ў руках яго палка была асінава. Так вось, гаворыць ён нам: "Ці не хацелі б вы, малыя, на кані пакатацца?" Я гэта страшэнна любіла, і мы адразу згадзіліся. А ён некалькі шагоў прайшоў і замест палкі каля яго сівы конь з'явіўся. Добры такі! Ён нас доўга катаў,

а потым прывёз да таго ж месца, дзе забраў і сказаў, што яшчэ пакатае. Мы туды часта прыходзілі і для нас гэта страшэнная тайна была. А ён, калі прыходзіў з палкай асінавай, нас на сівым кане катаў, а калі з палкай белай – да і конь быў белы. Любілі мы яго, дзеда таго, а потым ён знік, і ўсе аб ім забываць сталі.

Я потым бацькам расказала, і яны напужаліся вельмі і мяне доўга да лесу не пускалі. Шмат нячысцікаў ёсць у свеце і ад усіх іх толькі малітва да Бога дапамагае ці крыж. Насі, дзетка, заўсёды крыж пры сабе, ён цябе абароніць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Грыцэнка Ганны Рыгораўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Чарновай П. (2002 г.)***

Лясун – стары чалавек вялікага росту ў звярынай шкуры, ад яго няма цені. Ён можа мяняць рост. У лесе ён, як дрэвы, а выйдзе ў поле – ростам, як трава. Ён аберагае лес, жывёл, пераганяе жывёл па лесу. Ён пужае людзей, збівае іх з дарогі. Каб пазбавіцца гэтага, нада пераабуцца з правай нагі на левую.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Лесавік – гэта напалову звер, напалову чалавек. У яго доўгія валасатыя рукі, і сам ён з ног да галавы пакрыты доўгай густой поўсцю. Жыве ў лесе на дрэвах. Ён можа змяняць свой рост, быць ростам з дрэва, ці ніжэй за траву. Развлякаецца лешы тым, што адклікаецца на голас аукаюшчых ў лесе людзей і дапамагае ім заблудзіцца. Калі чалавек заблудзіўся па віне лешага, ён павінен пераапрануцца навыварат, тады лешы згубіць сілу, і ісці трэба прама, не азіраючыся. Лешыя таксама могуць красць дзяцей, калі тыя прыйшлі ў лес адны, без бацькоў. Потым яны амаль што забывалі чалавечую рэч і рабіліся дзікімі, баяліся людзей.

Калі хто хацеў задобрыць лешага, павінен быў у ноч перад Іванавым днём пайсці ў лес і зрубіць там асіну, каб яна ўпала на ўсходні бок. Тады ён павінен стаць перад пнём тварам на ўсход і тройчы паўтарыць: “Гаспадар леса, пакажысь мне не воранам, не серым воўкам, пакажысь такім, які я сам”. Але пры гэтым трэба быць вельмі ўважлівым, бо лешы можа ўцягнуць у лес таго, хто яго выклікае”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Лясун – гэта лясны дух, які можа памарочыць чалавека. Калі грыбнік згубіўся ў лесе і вяртаецца заўсёды на адно і тое ж месца, , то кажуць, што яго “абайшоў лешы”. Гавораць, што трэба зняць з сябе адзёжу, вывернуць яе і тады чалавек знойдзе дарогу дадому.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Зялёнай Вольгі Філіпаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Зялёнай В. (2006 г.)***

**Калі чалавек заблудзіўся ў лесе, лесавік можа паказаць яму дарогу. Ён не любіць таго, хто наносіць урэд лесу.**

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

У лес хадзілі па грыбы, ягады. Нічога не было, нікаго не бачылі. Толькі па слухам ведаю, што лешы там, завуць яго так. А сама не відзела я нічога такога ніколі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Грэчкаедавай Зінаіды Яфрэмаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Барысавец Ю. (2010 г.)***

Кажуць, лясун на дамавога пахожы, але ён не ў дамах жыве, а ў лясах. Кажуць, ён не вельмі страшны, толькі адзеты ў нейкае лахмоцце, быццам гніль нейкая на ім.

Жыве ён у густых камышах, лясных гушчах. Яго жыллё можна ўбачыць, калі ідзеш па лесу. Гэта я сама бачыла. Шлі мы па лесу, а там нейкая гара з ветак, і шавеліцца гэта гара, стоны нейкія. Мы спужаліся і ўцяклі адтуль. Ён да чалавека можа прыйсці ў розных відах. Крычаць ён любя, народ паганяе, пугае. З пуці збівае. Тады кажуць, трэба адзежу другой стараной адзець і тады пуць знайсці можна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(перасяленка з в. Струмень Кармянскага р-на)***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

Лесавік – гэта такі лясны чалавек, які, калі ўсе з вёскі пайшлі сяліцца ў гарады, у лесе застаўся. Жыве ён у самым цёмным месцы, дзе чалавек ніколі не бываў. Не любіць ён тых, хто спакой леса парушае, зманьвае ён такіх ў дзікія месцы, адкуль прыйсці нельга. Часта любіць над людзьмі пашуціць.

Мне мой бацька расказваў, ён ляснічым быў, што как-та пайшоў ён у лес, а там птушак многа, звяроў, усе галдзяць, шумяць. Ідзе ён так, ідзе, раптам бачыць – ні звяроў, ні птушак. І ціха так. Ну, ён ідзе далей, свісціць сабе. Тут слышыць – на свіст яго нехта яму адгукаецца ціха так. Ну, бацька падумаў, што, мабыць, гэта птушка якая яго дражніць. Ідзе далей, але свісцець перастаў. А свіст усё сільней і сільней робіцца. Тагда бацька поняў, хто яго дражніць, і хутка дадому пабег, каб лешы зусім з дарогі не збіў, не зацягнуў куды. Ёсць у лешага дзеці. Гэта тыя, што ў лесе заблудзіліся. Так лешы іх прыняў да сабе. Цяпер яны яму дапамагаюць людзей збіваць з дарогі, пугаць. Чалавек ідзе па лесе, а лешага дзіця яму пад ногі палку кіне. Той спатыкнецца, упадзе на зямлю. Ці веткамі дрэў за адзёжу чапляюцца, не даюць іці далей.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Эта лесавік. Аберагает леса. В аснавном распаражаецца прыродай леса. Можа наказаць чалавека, еслі ён подласць зделает.

Вот паехалі нашы броўна рубіць, дом строіць. Прыехалі, началі пііліць – піла сламалася, і другая сламалася, тапор сламаўся. Дык не сталі большэ нічога дзелаць. Эта лясун не даў. Можэт у чашчобу завесці ілі вадзіць па лесу. Заблудзілся, гаварат, дак эта лесавік вадзіл. А можэт і вывясці чалавека, наночь. Ва ўсём лесу жывёт. Лесавік выглядзіт маладым парнем, сільным. Адзін, спутніцы нет. Может сдзелаць, што дзерева паваліцца і ўб’е чалавека, можа ў яму завесць у лесу. Эта када чалавек унічтажает в лесу цветы, траву, дзярэўя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Казалі, што ў лесе ёсць лесавік – ахоўнік лесу. Гэта такі невялікі дзядок з доўгай барадой, весь у лісцях і шышках. Ён можа дапамагаць чалавеку і наадварот, так заблытаць сляды, што і не знойдзеш назад дарогі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Лесовик – это представитель нечистой силы, враждебный к людям, дух леса, его хозяин. Говорят, что он может запутать в лесу.

Рассказывали, что одна женщина пошла в лес и заблудилась. Очень долго ходила, но возвращалась все время к одному и тому же месту. А потом сказала: “Господи, помоги мне, подскажи дорогу!”. И тут лес перед ей как бы расступился, и она вышла. Еще лесовика называют леший, лешак, лесной дядя, лесун.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Емяльянавай Алы Георгіеўны, 1965 г.н.,***
***студэнткай Цімафеевай Т. (1999 г.)***

Лесавік – гэта хазяін леса. Ён вельмі здаровы, таму і гаспадар. Кажуць, што ён у рост, як і дрэвы, што растуць у яго лесе. Калі ён робіць абход сваіх уладанняў, то яго суправаджаюць птушкі і жывёлы. Так яны паказваюць, што яны яго цэняць і любяць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Колас Ефрасінні Сямёнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ляпейка М. (2004 г.)***

Лясун – гэта такі дзядок, які жыве ў лесе. Невысокага росту, крыху вышэй за пянёк, з доўгай барадой, з разумнымі празрыстымі вачыма. Бо ў лесе нада быць усягда на падгатове. Там шмат і звяроў, і птушак, і дрэў. У лесе трэба паводзіць сябе добра, калі пойдзеш па грыбы ці па ягады, каб не ўгнявіць лясуна. Ён дапамагае мужчынам рабіць загатоўку дроў. Дапамагае грыбы і ягады шукаць. Калі ў лесе добрыя песні праспяваць, тады будзе яму вялікая радасць. Ён і дарогу дадому пакажа.

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на***
***ад Агеенка Таццяны Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Смолікавай М. (2010 г.)***

Гэта гаспадзін лесу і звярэй, ён пахож на вялізнага чалавека, вельмі старога, з белымі валасамі і з большымі і чорнымі, как вугаль, глазамі. Заўсёды адзеты ў звярыную шкуру. Яго можна ўвідзець у шкуры волка, медведзя і лісы. Кагда встрецiш яго ў лесе, ён можа направіць на месца, дзе ёсць шмат грыбоў і ягад. Ахотнікам ён паказваў, дзе блукаюць зверы, і каб яго задобрыць, нужна было класці на дарогу кусочак хлеба з солю. Все ў лесе завісіць ад яго волі і жалання. Еслі ў сонечны день, кагда людзі ідуць па грыбы, пачнецца дождж, то гэта плача лясун, бо хоча есці. Трэба паварочвацца назад, штобы не разазліць яго яшчэ больш. Але лясун дапамагаў всегда малым дзецям. Калі тыя заблудзяцца ў лесе, ён падае ім звук, на які малыя бягуць і вяртаюцца дамой.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Лясун – хазяін лесу. Ён жыве на дрэве. Ён глядзіць за парадкам і каб ўсё было добра. Гэта такі сівенькі старычок. Калі ўбачыць, што чалавек нешта дрэннае робіць, дык не схавацца яму ад гневу лясуна. Бывае, заблукае так чалавека, што ён памірае ад разрыву сэрца. Помню, калі малыя былі, дык пайшлі па грыбы і брат пачаў палкай муравейнік лупіць. Тады лясун раззлаваўся і мы заблукаліся. Ужо сцямнела, а мы ўсё хадзілі ды плакалі. А я яму кажу: "Гэта лясун нас пакараў". Тады мы прасілі прабачэння ў лясуна і ён нас вывеў да вёскі. Аказваецца, мы хадзілі зусім блізка і не бачылі яе.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н., студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Сільна бальшыя ляса ў нас. Хадзілі ў лес хлопцы некаторыя з дзеўкамі, гулялі, весяліліся. Дзеўкі лажыліся і хлопцы тожа. Устаюць, а іх няма.

Ідзёш ў лес – памаліся Богу ад ляснога цара. Прасі, каб памог, каб не заблудзіцца. Памагі, спасі, вывядзі.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н., студэнткамі Герасіменка В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Мяне заводзілі ў лес. А хто, не ведаю. Я пайшла ў лес, хаджу, думаю, што гэта наша дарога. Блукала. Потым мяне знайшлі 2 жэншчыны, но я не прызналася. Кагда я іду ў лес, я малюся – "Отчэ наш". Эта самая первая малітва ў Ісуса Хрыста.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на ад Лысенка Ганны Рыгораўны, 1954 г.н., студэнткамі Герасіменкай В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Папа мой быў малады, 34 года яму было, і я ўсё хажу на кладбішча к німу, гадоў 8 мне было. І аднажды прыйшла, бачу, каля самога краста такі красівы баравік. Адарвала і ў карзіну паклала. І пайшла. Іду, іду, узад паглядзела – за мной бяжыць белае, высокае штосьці, не то, што мне здалося, я яшчэ раз пагляздела. І зноў бяжыць. Я бягу, і яно бягом. Я пераскачыла цераз забор, грыб гэты ўпаў і прапаў. Што гэта было – не ведаю.

***Запісана ў в. Скіток Гомельскага р-на ад Каваленка Надзеі Цімафееўны, 1930 г.н., студэнткамі Бярэнка Ю., Кручковай Ю. (2004 г.)***

Помню, былі малыя яшчэ, сядзелі каля рэчкі ў лясу. Цёмна было ўжо. Сядзелі і расходзіцца ўжо сабраліся. Хлопцы нашы ўперад пайшлі, а мы пазадзі трохі. Тут слышым – шаволіцца нешта ў траве. Мы і значэння не прыдалі. Потым глядзім – пелена такая, як столб ідзёт пад метра 2 у высату. Мы крычаць началі, і пелена гэтая ад нас ўхадзіць начала быстра-быстра і знікла. Калі расказвалі каму пра гэта, то казалі, што гэта, наверна, лясун быў. Патрывожылі мы яго.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Міранович Марыі Герасімаўны, 1935 г.н. (раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на), студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Лесавік ёсць у кожным лясу. Адзеты як чалавек: красны кушак, левая пала каф-

тана запахнута не налева, а наадварот, правы сапог абут на левую нагу, левы – на правую. Глаза ў яго зялёныя, гарат як вуглі. Кровь у яго сіняга цвета. Бравей і расніц у яго не бачна. Правага вуха ў яго няма. Калі ён ходзіць па лесе, то ён будзе ростам з самымі бальшымі дзярэўямі, а можа быць ростам з травінку.

Усе зверы і пціцы павінуюцца яму. Лешы сам нямой, але ўмеет хахатаць, аукацца, свісцець і плакаць. Можа завесці ў такое месца, адкуль трудна выбрацца, а можа напусціць тумана. Каб выйсці, трэба вывернуць адзежду і надзець на сябе. Але 4 акцябра ў лес нельга хадзіць. У гэты дзень лешы бесіцца.

***Запісана ў в. Яроміна Гомельскага р-на***
***ад Прымак Галіны Пятроўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Адаськовай Ю.***

Лясун – гэта гаспадар лесу. Яго слухаюцца ўсе лясныя жыхары. Можа праявіць сябе як рэха. Можа пацешыцца над чалавекам – заставіць яго блукаць па лесе. А можа і вывесці з лесу, паказаць грыбныя, ягадныя месцы.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Быкоўскай Пелагеі Дзмітрыеўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2000 г.)***

Над лясамі і ўсім, што ў ніх, уластвуе лясун. Ён ростам ва ўзровень з дрэвамі таго леса, дзе жыве. Ён можа ўвялічвацца і ўмяншацца ў памеры. Ён моцны: калі разыграецца ў лесе ў час буры, то з кораням вырывае дубы, на кускі ламае сосны, засцілае свой пуць у лесе, каб ніякая сіла не магла прабрацца да яго жылля. А жыве ён у сярэдзіне пушчы. Жыллё акружана непрахадзімым лесам. Калі лясун разгульвае па сваім уладзенням, то яго саправаджаюць стада звяроў і стаі птушак, асобенна совы, філіны, вароны і сарокі.

Галава яго пакрыта доўгімі кудрамі. Адзеты ў звярыную скуру ваўка ці мядзведзя шэрсцю навыварат, рукі і ногі тоўстыя і крэпкія, глаза гарać, як у ваўка ці савы. Ён смяецца, калі яму весела, вые ваўком, калі яму грусна і рычыць, як мядзведзь, калі злы. Ён хлопае ў ладошы, і ад гэтага ідзе трэск па лесе. У руках ён дзержыць дубіну, ёю ўдарае па дрэвам. Ад гэтага чуецца ў лесе грохат. Можа запугаць чалавека і ваўкамі затравіць.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Лясун – злы вельмі чалавек. Мог задушыць кожнага сустрэчнага. Крычыць рознымі галасамі, як чалавек. Заманьвае чалавека ў чашчобу, тады чалавек не можа знайсці дарогу дамоў. Трэба яго задабрываць, але чым, я не ведаю.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Лясун у лесе жыў, ахраняў лес, пугаў, калі чалавек плахі быў, шумеў, крычаў, абы-што дзелаў. Тады лясун мог і з лесу не выпусціць.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

У лесе жыве лешы. Ён любіць дзерэўя і жывотных, якія жывуць у лесе, даглядае за імі. Калі ў лес прыходзяць людзі, каб паляваць на жывотных ці па ягады, то ён можа іх адурманіць, надурыць. Преўрашчаецца ў жывотных, каб надурыць ахотнікаў, ілі мог здзелаць так, каб людзі заблудзіліся. Ад лешага дапамагае малітва, абрашчэнне к Богу.

***Запісана ў в. Насовічы Добрушскага р-на***
***ад Фамічовай Аляксандры Яфімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Каліноўскай Т. (2009 г.)***

Жыве лесавік ў лесе. Ростам ён з самыя высокія дрэвы ў лесе. Яго цела пакрыта поўсцю, ходзіць ён у шкурах звяроў. Ліцо ў лесавіка дужа белае. Вушы тырчаць у розныя бакі. Калі ён ідзе па лесе, то чапляецца імі за кусты і дрэвы. Вочы ў яго свецяцца. Рукі доўгія і моцныя. Ногі тоўстыя-тоўстыя! Можа пакараць за плахія паводзіны ў лясу. Калі мусарыш, дрэва ломіш, топчаш ягады – вось тады і карае. Робя так, каб людзі заблукаліся ў трох соснах. Людзі стараліся не сярдзіць яго і астаўлялі яму на пні лакамы кусочак.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Лесавік – хазяін леса. Гэта ж ён забоціцца аб сваіх пціцах, жывотных, расценіях. Лесавік можа памагці чалавеку ў лесе, а можа і наадварот, заблудзіць яго, напужаць.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Гэта невялікі дзядок з кудлатай барадой, увесь у шышках і мху. Добрым памагае выйсці з лесу, а дрэнным – наадварот, водзіць доўга па лесу.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Багуновай М.І., 1930 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Лешы жыве ў лясу. Ён асцерагае лес ад паганых духаў. Ён дзелае ўсё толькі харошае. Жыве ў норках.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Васіліны Рыгораўны, 1948 г.н.,***
***студэнткай Берднік В. (2006 г.)***

Лесавік – той, што гукаем у лесе, то адгукаецца. Калі ночовалі ў лесе, то ноччу моўчалі, шоб лесовік не прышоў.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошман Вольгі Лявонаўны, 1927 г.н.,***
***Комар Надзеі Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ён, лесавік, – паўнапраўны гаспадар леса: усе жывёлы і птушкі слухаюцца яго. Ён можа пераўтварацца ў каго-небудзь. Часцей у мядзведзя або здаравеннага мужыка. Лешы не столькі шкодзіць людзям, сколькі злосна жартуе. Калі прыходзілі за грыбамі для сябе, дзяцей, да з добрым настроем, дык ён дае знайсці грыбоў столькі, сколькі патрэбна для тваёй задумы.

А калі дрэнны чалавек прыходзе, які ўсё на базар вязе, каб грошай пабольш зарабіць, дык ён злавацца пачынае, можа завесці ў сыры гушчар і пакінуць там яго, каб сам шукаў дарогу. Аднак да прамой пагібелі лешы чалавека не даводзіць. Як правіла, ён можа туману ў вочы напусціць, каб чалавек збіўся з пуці. Але ён карае толькі за нерадзівые паводзіны к чаму небудзь або за непаважанне да яго лёсу.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Ахоўнікам леса ён быў. Ён можа памагці, а можа так заблытаць цябе ў тым лесі, што й дарогі назад ні найдзеш.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Зараз іх, лесавікоў, не так многа. Гавораць, што раней багата іх было. Кажуць, што на дамавога ён пахожы: маленькі такі, увесь у лісці. Добрым людзям памагае. А калі не ўпадабае каго, то можа так заблудзіць, штой не выйдзеш з лесу.

***Запісана ў г. Калінкавічы***
***ад Белай Варвары Васільеўны, 1928 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Навінкі Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Торап Т. (2005 г.)***

Калісь даўно ў нашай вёсцы хадзіла гісторыя пра невядомае яўленне. Ішоў мужык з рыбалкі. Ішоў паціху па цёмнаму лесу, аж тут раптам яму на плечы нешта як ускочыць і пачало яго душыць за глотку, аж дыхаць няма чым. А яно круглае, белае, яшчэ мацней душыць. Аж тут непадалёку ўбачыў мужык свет ды хутчэй туды, і тым часам яно шмык – і няма, быццам спарылася некуды. Многа хто ведаў пра гэта яўленне ў вёсцы і казалі, што гэта лясун, які наскоквае на тых, хто нарушыць яго пакой. Шмат хто з вясковых людзей насіў туды ежу, адзенне гэтаму лясуну, каб толькі не чапаў людзей, бо моцна верылі ў яго дзейныя сілы.

***Запісана ў в. Варатын Калінкавіцкага р-на***
***ад Чырыч Мальвіны Дзянісаўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Астапенка М. (2008 г.)***

Лесавіка людзі ўяўлялі як здаровага мужчыну, які жыў у лесе. Лічылі, што лесавік гаспадарыць толькі вясною, летам і восенню, а ўзіму ён спіць. Ён мае незвычайную сілу, можа прымаць рознае аблічча. Дзяцей звычайна палохалі лесавіком, каб яны адны без дазволу не хадзілі ў лес. Калі лесавік іх забярэ, то не адпусціць. Можа ператтварыць у што-небудзь. Калі ў лесе знікала жывёла, лічылі, што гэта яе ўкраў лесавік. Але людзі кажуць, што калі чалавек заблукаў у лесе, то лесавік мог дапамагчы выйсці. Людзі верылі, што лесавік можа быць добрым і злым. Добры лесавік дапамагаў, а дрэнны, наадварот, рабіў усё, каб нашкодзіць.

***Запісана ў в. Зеляночы Калінкавіцкага р-на***
***ад Салук Вольгі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шклярэнка Т. (2001 г.)***

Лесавік – ето так старыя дзеды хаваліся і пужалі. А бывало ж так: пойдзем па ягады – ды які дзед, аброслы ды з барадой, як кырхне, дык мы гвалт крычалі ды ўцяка-

лі.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Багдановіч Яўхіміі Пятроўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г.***

Лесавік жыве ў лесе, пугае людзей. Калі хто заблудзіцца ў лесе, то ён яго водзіць-водзіць і не хоча выпускаць з лесу. Патом, еслі захоча, то выпусціць. Выглядзіць ён як маленькі дзед з длінцай барадой.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Курыла Лідзіі Купрэеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Сцёпкінай С., Раманюк В.***

Людзі самі расказваюць, што з імі случалась. Гэта такое было. Кепчык, у нас такі дзядзька быў, дык ехаў машынаю, ды к яму сеў чалавек у старой такой колішняй адзёжы. На хаду ўскачыў. Машына ехала пасярод лесу, не астанаўлівалася. І на матацыкле ехаў хлопец, і ззаду сеў чалавек. Гэта другі раз ужо. Такое вось месца, што нехта аж да самой дзярэўні катаецца. Людзі пугаюцца, нешта чуствуюць, мо, лясун так гуляе?

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Барысавец Валянціны Андрэеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Барысавец Ю. (2010 г.)***

Лясун жыве ў лесе. То мы па дзятлы хадзілі. Ад дзярэўні мо тры кіламетры пяшком. Зайшла да дзятлаў туды ў лес. Мо за гэта і пугала, штоб мы не адганялі дзятлаў. Адзін хлопец залез і ўжо пачаў даставаць іх, аж начала крычаць нешта ў лесе, такі крык, усё роўна, што чалавек які. Той спрыгнуў на зямлю і ўцякаць усе. Беглі, не аглядваліся, і казалася, што за намі нехта бег. Да самага поля так беглі, во кросу далі! А патом усё ісчэзла.

Богу нада маліцца, калі ў лес ідзёш. Памаліўся, перахрысціўся і пайшоў. Хто хрэсцікі нося, таго ён не трогае. Баіцца. Там і дзеда пугала, бацьку майго. Лясун, наверна. Дзед схаваўся за бярозу, а хто-та за хвою хаваецца. Дзед спугаўся – яно знікла. Дзед гаварыў, што колькі жыў, то ні разу не пугаўся лесу. А тут больш грыбы не сабіраў, развярнуўся і, неазіраючыся, дамой пабег. Цешыцца лесавік, а людзям – гора, страх. Пасвілі тавар, тожэ і днём пугала, дзе і па грыбы хадзілі. Скаціна раўла. Можа, зноў лясун? Кіламетраў то была каля сямі ад дзярэўні.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Барысаўца Адама Іванавіча, 1956 г.н.,***
***студэнткай Барысавец Ю. (2010 г.)***

Ну, он главный в лесу. Ето дедок низенький с белой бородой. Ходит с кийком, оберегает лес. Вот если кто заблукает, так он поможет выйти. Вот говорить «а-у», а он тебе так же ответит. И ты уже идёшь на ево крик и выходишь к пути.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Лясуны жывуць у лясах. У халодную пагоду яны пужаюць людзей, якія ходзяць па лесе. Лясун іздае дзікія гукі, і гэтых гукаў чалавек вельмі пужаецца і можа нават памерці. Каб не заблудзіцца ў лесе, трэба надзець адзёжу шыварат-навыварат.

Ёсць і добры лясун. Ён корміць бедных людзей ягадамі, грыбамі, арэхамі. Калі гаспадар паложыць нешта ў лесе абы-як, лясун абавязкова сцягне. У лесавіка просяць вярнуць жывёлу, якая заблукала ў лесе. Каб вярнулася жывёла дадому, трэба класці на дарогу яйкі, сала, трошкі хлеба і вярнуцца дадому. Тады жывёла вернецца. Каб не заблудзіцца ў лесе, трэба казаць такія словы: "Як у лес увайсці, так і выйсці".

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

У лесе лешы правіць. Камандуе лесам і ўсім, што ў ім. Ён так пераймае розныя галасы, што ніколі не паймёш. Ён і пець можа, у ладоні пляскае. Толькі сільна не любіць, як пятух крычыць. Як па лесе ідзе, то здаравенны, як дзерава, як на чыстае месца выйдзе, маленькім робіцца. Барада ў яго лахматая і па лесе ён без шапкі шастае. Калі яму нехта не спадабаецца, то можа завесці ў лес далёка, бывала, што і не выбіраліся людзі.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Логіс Кацярыны Кандратаўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Логіс В. (2009 г.)***

Жыве ў аснавном у лесе. Наглядае за меснымі зверамі, пціцамі. Можа пажартаваць над чалавекам, які ходзіт па лесе, заплутаць его. Он – лесной хазяін. Яго ішчэ называют лешым. Эта добрая істота, дзядок, весь у лісцях. Адзежа ўся на дырках, таму што ён прыгае з дрэва на дрэва, цэпляецца за сучкі.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бернацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Лясун ахоўвае лес. Жыве такжэ ў лесе. Збівае з дарогі людзей. Але он очэнь добрый старычок. Можа і дапамагаць найці дарогу, кагда чалавек заблукаў. Ён чымсьці пахожы на дамавіка: такжэ седой, з барадой, маленькій дзядок.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Малая, я хадзіла разам з дзедам у лес. Ён заўсёды расказваў аб тым, што ў лесе жыве лешы – гаспадар лесу. Гэта невялікі дзядок, якога ніхто не бачыць. Але ён можа заблытаць чалавека так, што той не вернецца назад ці не ведае, куды яму трэба ісці. Пагуляецца крыху, а потым адпусціць. Дзед казаў, што трэба ў лесе знайсці дрэва, пад якім дзяцел даўбе шышкі. У тым дрэве абавязкова будзе тарчаць шышка. Дзяцел заўсёды адну шышку засоўвае ў дрэва. Потым трэба дастаць яе зубамі і перакінуць цераз галаву. Тады ў гэтым лесе цябе лешы ніколі не будзе займаць.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Кажуць, што лесу без хазяіна не бувае. Дак вот лесавік і е той хазяін. Цела ў его махнатае, шарсцёю пакрытае, увесь аблеплены лісцем, не стары і не малады. Можэ ператварыцца ў любога звера: вавёрку, лісу, зайца. Можэ стаць грыбком. Не любіць, калі ў лесі моцно крычаць, тагды можэ завесці чалавека ў гушчэчу, што і не выйдзеш

адтуль. А калі ты ему панаравішса, так ён табе пакажэ грыбное место, ды і не аднэ. Бувае, ідзеш па лесу і чуеш, трашчаць галінкі, дык ето лесавік абходзіць свой лес.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Лясун – стары чалавек. Ты яго не бачыш, а ён звядзе цябе, што і не вернешся з лесу. Адзін быў у нас чалавек ў дзярэўні. Пайшоў ён лес валіць. Вечар – няма яго. Дзень – няма. Сталі шукаць, а ён мёртвы сядзіць, вочы вялікія і ў далеч глядзіць, відаць, убачыў яго, лешага таго. Мо, то ён і звёў яго, бо далёка яго знайшлі.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Лясун – гэта стары дзед з доўгаю сівою барадою. Жыве ў лесе. Не любіць, калі псуюць лес, забіваюць звяроў і птушак. Лесавік можа цябе чорт ведае куды звесці. Як што не па яго. А калі заблудзіцца малое дзіця, ён абавязкова вывядзе яго з леса.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Жывець у лесе маленькі дзедок з доўгай барадой. Гавораць, што можа меняць свой рост: можа стаць малым, можа – вялікім, як дрэва. Добрым людзям памагае. А еслі што плахое зробіць, дык запутвае, што дамой дарогі не знойдзеш. А еслі саўсім дрэннае што зробіць, лешы на яго хваробу пасылае страшную. Ніяк чалавек вылечыць ня можа. Гаворац: “Нада ж узяць хлеба, солі да вады, прыйсці на тое места, дзе плахое здзелаў, папрасіць прашчэння ды, не аглядваючыся, пайсці дамой, уранні хвароба і адпусціць”.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Как заходзіш у лес, так ляжыць бальшое дзерава, ілі браўно такое здаравеннае, што яго не абайсці. Яго пераступіць нельга, таму што будзеш кружыцца, заблудзішся, не сможаш выйсці з лесу. Лясун закруціць. На дрэва трэба наступіць і пайсці дамоў сваім ходам.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бужан Марыі Аляксандраўны, 1938 г.,***
***студэнткамі Бужан А., Гарбачовай М. (2002 г.)***

Лешы заводзіць чалавека ў чашчу леса, каб ён заблудзіўся. Людзі, якія пагіблі ў лесе, могуць стаць лешымі. Нячысцікі ўсяляюцца ў тых людзей, якія слабыя духам. Я, калі ў лес пайду, мяне лешы путае всегда.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Лесавік як чалавек, вот вочы ў яго вялікія, белыя. Жыве ў лесе і старажыць яго, каб нічога плахога не было там. Ён такі стары і з доўгай барадой. Жонка ў яго ёсць, дзеці быць могуць. Пугае людзей.

Вось у нас пайшоў дзед зімой у лес і не прыйшоў. А да бабы прыйшоў лешы і кажа, што ён дзеда забраў, каб ён работаў. А так ён на ахоце можа памоч, паказаць дарогу дахаты, калі хто заблудзіўся. Также можа заманіць ў гушчар, адкуль цяжка выбрацца. Крычыць, пугай лупцуе, а нада што-небудзь сняць: ці бот з левай нагі, і малітву пачытаць. Вось што.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Лесавік у выглядзе невялікага чалавека, з дробненькаю, хуткаю хадою. Ён з'яўляецца гаспадаром у лесе. Калі не шкодзіш у лесе, ён не блытае людзей у дарозе. Калі нарушаеш цішыню, шкодзіш у яго лесе, то ён збівае цябе з дарогі і шкодзіць табе.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Я чула пра лесавога. Ён як чалавек: две нагі ў нево, две рукі, но ліцом на абезьяну ці на крысу пахожы, яно ў яго такое дліннае, валасатае. Яго шчэ называюць гарыла. Ён страшны такі. Гаварылі, што пашлі як-та ў лес людзі, дак ён адну дзяўчыну злавіў і ў гняздо сваё забраў. Яна ў яго жыла. Ён яе карміў: дзе куру якую злавае, дак ёй нясе. Патом яна ад яго ўцекла.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Лешы – гэта той самы чорт, які жыве ў лесе. Ён лахматы, з хвастом, чорны. Жыве ў лісцях. Гойдаецца на дрэвах, у дупло залазе. Ростам з чалавека. Плахі дух, што тут і гаварыць. Людзей у лесе пужае, з дарогі збівае, каб блукалі, ды насміхаецца. Некаторыя чулі яго, пападалі ў яго путы. Ды толькі калі перахрысцяцца да Госпада Бога ўспомняць, тады толькі дарогу дамоў і знойдуць. У нас тут жыла баба Вольга Ёганіха, яна ўжо памерла, пайшла ў лес па ягады ці грыбы, не помню, назбірала ды дамой сабіраецца. У адну сторану пайшла – дарогі не знайшла. А лес гэты каля нашай вёскі знала як сваіх пяць пальцаў. У другі бок пайшла – зноў сюды прыйшла. Кружылась, кружылась, мо, 2 часы, ну, думае, завяжу хустку на гэтае дрэва да і пайду. Хадзіла, хадзіла – зноў на гэтае месца прыйшла. Тут яна і здагадалася, што нечысць яе вакруг аднаго і таго ж месца водзіць, дамоў не адпускае, пацешаецца.

Баба Вольга як пачала матамі ругацца ды на левае плячо пляваться, зразу дарогу дамоў убачыла і пайшла. Адчапіўся ад яе лешы. Матаў, кажуць, ён баіцца і храста, хрысціцца трэба. Усе нечысці храста баяцца.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Лясун – гэта вельмі добрая душа. Усюды ёсць хазяін, і ў лесе ён ёсць. Як жа ж без хазяіна? А хазяін ён дабрэнны. Заўсёды ў лясу ў яго парадак. Каму помашч трэба, то

абязацельна паможа. Бывала, пойдуць бабы ў лес па грыбы ці ягады, ды калі набяруць поўныя корабы, дык яны тады і кажуць, што лесавічок указаў ім гэтую мясціну. Яшчэ, калі чалавек заблудзіцца, то ў бядзе ён нікога не кіне, а з лесу абязацельна вывядзе. Бачыць яго ніхто не бачыў. Кажуць, што нявідзімы ён, але прысутнасць яго усе чуствуюць.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Скакун Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Лесавік – гэта брат дамавіка. Ён жыве ў лесе і ахраняе яго. Ён можа любіць шкодзіць людзям. Можа здзелаць так, што ты заблудзішся ў лесе і будзеш долга хадзіць па аднаму месту, а ён будзе смяяцца. Лесавік не любіць, кагда яму шкодзяць.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Дзеўка ішла ў друге сяло до радзіцелей. От маткі бегла до цёткі: там погуляць надо було. Яна пайшла вечаром, позно. І тут два мужыкі коціцца з дзерава. Это було ў лесе. Яна глянула, спужалася – і яна не знае, дзе яны дзеліся. Яна перапалохана прыбягае і плача, доўга расказывала, бо я помню, была мала. Моя сястра з ёй дружыла. І гэта былі вялікія мужчыны з сівымі валасамі. Колісь казалі, што, здаецца, штосьці пужае. Ну, можа, гэта тыя лесуны. А яшчэ от там у нас былі ўбітыя два мужыкі. Не ўбітыя, а просто яны памерлі, калі ішлі ўгору. Калі позно вечаром задзержышся і ідзеш тудой, лесом, то хто-то там говорыў і што-то показываў. Ето всегда пужало. Ну, цепер етого німа, таму што ўсе звязаны з электрыкай.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***

Жыў у нашым хутары ляснік. Адзін дзень пашоў грэбці сена. Сенакос быў недалёка ад леса. За дзень не ўспеў зрабіць усяго, утаміўся і рашыў начаваць на сенакосе. Толькі лёг, чуе – сабачка ў сяле брэша, тут і ў лесе штось затрашчала. Глядзіць, аж бягуць ваўкі, цэлая стая, а іх гоніць нейкі дзядок. Падбеглі да краю леса і спыніліся: “Чуеце, як сабачаня брэша, дак еслі вы яго да года не загрызеце, дык ён вас перадушыць”.

Утрам прыбег той ляснік і стаў спрашваць, чый сабака гаўкаў. Пайшоў, выпрасіў у хазяіна сабаку, год з пограба не выпускаў. А тады ўзяў сабаку ў лес. Той душыў усю дзічыну. І з’явіўся перад леснікам лесавік і прадлажыў памяняць сабаку на багацці. Той згадзіўся і жыў увесь час добра.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Бяспалай Ганны Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Лесавік – лясны дух, ахоўнік лесу. Гэта невялікі дзядок з доўгай барадой, у лісцях замест адзежы. Лесавік жыве ў лесе, ахраняе лес. Калі людзі адносяцца да яго з непавагай, злуецца, можа заблытаць людзей, каб не знайшлі дарогу дамоў.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Раз мы з мужам шлі і заблудзіліся. Я нагала раздзелася (усе грахі з сябе скінула). 3 разы павярнулася вакол сябе і папрасіла прашчэння ў лесавога (гэта ў лесе было). І зразу дарогу знайшлі. А заблудзіліся таму, што муж матам ругаўся. Нельга матам ругацца. І дамавы не любя гэтага тожа.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Лабкоўска Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Лесавік жыве ў лесе. Ён падобны на чалавека. Калі хто ў лесе заблудзіцца, кажуць, што ён стаў на след лесавіка. Каб выйсці з лесу, рабілі наступнае: трэба зрабіць 3 шагі назад, сесці і разуцца, некалькі шагоў прайсці ўперад і можна абувацца. Сказаць: “Госпадзі, памажы мне выйсці з лесу”.

***Запісана ў в. Гацкое Чачэрскага р-на***
***ад Гулевіч Тафілі Кузьмінічны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Лясун выглядае як дзядок. Ён невялікага росту, але калі яму трэба, можа павелічыць. Кажуць, што ён можа ў звярэй і пціц праўрашчацца. Ён зусім не злы, калі з ім па-добраму. Ён ахоўвае свае ўладанні – лес. Калі чалавек прыходзіць у лес і нічаво плахога не робіць, то лясун яму нічога не здзелае. Калі такі чалавек заблукае ў лесе, то лясун яму дарогу пакажа. А калі чалавек нядобры і дзелае шкоду, дык лясун вельмі злуе, ды завядзе, ды запутае гэтага чалавека у лесе, што той можа згінуць. Жыве лясун у чашчы лесу, на дрэве. Дарогу туды ведае толькі сам лясун. А калі ён бача, што чалавек падбіраецца бліжа, дык ён путае яму дарогу.

***Запісана ў г. Бялынічы Магілёўскай вобл.***
***ад Селівестравай Тацяны Якаўлеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Чыжук Н. (2004 г.)***

Лясун жыве ў лесе. Кажуць, што гэта гаспадар лясных птушак і звяроў. Для яго вельмі лёгка заплутаць ў лесе чалавека. Каб не заблудзіцца, трэба памяняць абутак з адной нагі на другую. Не любіць, калі ў лесе робяць шум ці гадзяць. Калі добры чалавек заблудзіцца ў лесе, дык ён дапаможа выйсці.

Аднойчы пайшла ў лес за грыбамі і дарогу добра ведала, і далёка не заходзіла ў гушчу. І колькі я заходзіла, колькі шукала знаёмую дарогу, аж не. Іду, чую дзіця плача. Я далей іду, а яно побач зноў плача. Я – ўбок, а яго не відаць. Ох, я і перапугалася ж тады. І маліцца пачала. Насілу выбралася адтуль. Больш сама ў лес не хадзіла.

***Запісана ў г. Пінск Брэсцкай вобл.***
***ад Кароль Праскоўі Сямёнаўны, 1920 г.н.,***
***(раней пражывала ў г. Петрыкаў Гомельскай вобл.),***
***студэнткай Лазіцкай Т. (2004 г.)***

У нас по другому называюць яго – лешы. Гэто стары дзед з бородой, горбаты, у порватых лапцях. Вон любіць у лесе порадок. Як зойдзе ў лес чоловек і зробіць шо-небудзь плохое, зломіць ветку, птушку яку покрыўдзіць, ці слово плохое скажэ, то гэты лешы можэ ёго заблудзіць. Але вон жыве ў лесе толькі летом, а зімой спіць, а як прыходзіць вясна, то прасыпаецца.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***

## Мара

Мара – гэта страшная жанчына. Яна шкодзіць вінаватаму, мучыць яго ў сне, пакуль той не сазнаецца.

***Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Дзянісавай Веры Максімаўны, 1930 г.н., студэнткамі Дзянісавай Н., Марчанка Н. (2004 г.)***

Гэта начное прывядзенне, жанчына маленькага росту і вельмі страшная: з белым тварам і чорнымі косамі. Яна ноччу садзіцца людзям на грудзь, каб ім цяжка было дыхаць і каб яны ў сне задыхнуліся. Галоўнае – трэба праснуцца. Ёсць яшчэ і метады, каб аберагчы сябе, але я не помню, хоць мне мая бабка пра іх казала.

***Запісана ў г. Гомель ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны, 1930 г.н., студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Мара – ета ўжасненная дачка смерці. Яна можа нагнаць мор, і людзі мруць. Кагда спіш, такое бывае, што перахватывае дыханне, націсквае на грудзі і глотку. Відна, мара аб чымсь прэдупрэждае, што-та будзе.

***Запісана ў г. Гомель ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н., студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Мара – гэта нячыстая сіла ў выглядзе жанчыны, што з'яўляецца ў сне і душыць чалавека, не даючы прачнуцца. Каб пазбавіцца ад мары, на ноч чалавеку трэба хрысціцца.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н., студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Мара – дух смерці. Днём яе не бачна, а ноччу яна робіць свае справы. У мары рост, як у маленькага дзіця. Скура яе пакрыта рэдкім кароткім пер'ем. Мара можа мяняць свой выгляд, часта мела від звяроў. Мара перашкаджае дыхаць у час сну, націскае на грудзі і горла. Абарона ад мары – павешаная ў хлеве сарока.

***Запісана ў г. Добруш ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н., студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Мара не дае маленькім дзеткам спаць. Калі яны плачуць ноччу, гэта значыць, прыходзіла мара. Яшчэ мара раскатвае калыску.

Кажуць, што гэта жанчына невялікага росту з доўгімі чорнымі валасамі, вялікімі вачыма з доўгімі вейкамі, апранутая ва ўсё цёмнае. Каб мара не прыходзіла да дзетак і не будзіла іх, трэба зрабіць звычайныя званочкі і падвесіць іх да люлькі. Мара вельмі пужаецца звону і болей не прыходзіць у той дом.

***Запісана ў г. Жлобін ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н., студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Мара – міфічная істота. Вельмі бальшая, чорная, на кароткіх лапах з жалезнымі капцюрамі. Прыходзіць мара да тых, хто плахое зрабіў. Ходзіць за такім чалавекам і мучае яго, пакуль той не сазнаецца людзям.

Мара можа прыйсці ва сне і задушыць. Можа ператварацца.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н., студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Мара – злы дух, увасабленне смерці, мору. Усе дрэнныя справы рабіла ноччу, а днём была нябачнай. Мара маленькая, як дзіця, але ўся пакрыта поўсцю або пёрамі. Яна вельмі надаедлівая істота. Мара насылала на чалавека трывожны, неспакойны сон, непрыемныя адчуванні. Яна перашкаджае дыханню ў час сну, цісне на грудзі і горла. Пудзіла мары спальвалі ў купальскую ноч або тапілі ў вадзе.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н., студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

**Мара – гэта прывід з маленькімі ножкамі. Чалавек спіць, а яна сядзіць на грудзі і пачынае душыць, толькі не сразу, а памучае беднага. Нада праснуцца, тады яна ісчазае. Рукі будуць мокрыя і ўвесь мокры.**

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н., студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Гэта енка бабка, шо ко ўсім лезе. Бо ў нас кажуць: “От, мара!” Значыць, прыстае богато, і больш я нічо не знаю.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н., студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Мара можа замарыць чоловека. У старыну людзі стараліся звечара не весяліцца, таму што калі хто перад сном набегаўся, нагуляўся, то яму спакойна не будзе. Мара замучыць, сядзе на грудзі і пачне душыць. Еслі ў чоловека млеюць ва сне рука ці нага – гэта дзела мары. Обычна, ек у чоловека “забівае” дыханне, ёму сняцца страшныя сны. Хочэш перахрысціцца, а рука нямее, нячысты не дае перахрысціцца. Екая яна, ніхто не знае і не бачыў, бо ек чоловек открывае очы – усе чары пропадаюць і злы дух отлетае от ёго. Еслі кого мара ў сне мучае, няма другога способу, ек іці до знахаркі – знімаць чары, насланыя скарэй усяго другой знахаркай. Но проста так гэтая нечысць не прывязваецца. Кажуць, мара мучыць – грэх мучыць. Не пакаешся Богу – от нечысці і знахары не збавяць.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Баган Наталлі Сцяпанаўны, 1927 г.н., студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

## Начніцы

Начніцы – ета вялікае гора. Трэба сцерагчыся ад етай пачварыны. Начніца, калі ў дом увойдзе, будзе старацца к сабе дзяцей перацягнуць. Мужык вечарам з работы варочаўся і набраў вады чыстай. А дзіцёнак наш той вады выпіў і пасля таго забалеў сільна. Добра, што знаюшчыя людзі падказалі, як нада сына лячыць. А так бы няшчасце вялікае было: начніцы сабе дзіцёнка перацягнулі.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Таццяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Начніца – то такая жэншчына, што не мела пры зямным жыцці дзяцей, а зараз помсціць шчаслівым маткам. Яна насылае на іх дзетак розныя хваробы. Ежалі начніца напоіць якога малога сваім малаком, дык можна з тым дзіцёнкам прашчацца. Рэдка хто потым рабёнка гэтага адратуе. Толькі знахары і памогуць.

Каб начніцу з хаты звезці, трэба наступнае дзеянне рабіць. Нада дзіцёнка на адну ноч з хаты вынесці, а ў каляску кукалку падлажыць. Матка павінна сесці ды качаць такога «дзіцёнка». А потым сказаць: “Надаеў ты мне, хай начніца цябе забірае!” Пасля етых слоў куклу нада ў акно кінуць, а потым хутчэй акно зачыніць, пакуль начніца падмены не ўбачыла.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Начніцы ў хату залятаюць толькі да плахіх бацькоў. Яны тады стараюцца дзяцей прыгалубіць, але з гэтага нічога добрага не выходзя. Чым больш начніца дзіцёнка жалее, тым яму горш становіцца. І калі бацькі не ўбачаць, што з дзіцёнкам робіцца, то могуць яго пацяраць. Малога, каторага начніцы прыгалубілі, нада адзець у вывернутую сарочку. Толькі тады яны ад яго адстануць.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пиліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Чула пра начніц шчэ ў маладосці. Многа ў нас чаго расказвалі, але я адну історыю запомніла. Маладая дзеўка радзіла хлопчыка, а сама з ім мала была. Маладая, дык на танцы яшчэ бегала, а дзіцё дома плакала. Туды к ім у хату і забралася начніца. Наверна, накарміла таго хлопца ядам, дык той з кожным днём пачаў хірэць. От тады толькі матка яго даглядаць пачала. Ды куды там, аніякія лекі не памагаюць. Добра хоць баба ў іх разумная, то здагадалася, што ета за хвароба.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Калі начніца прапаўзе пад калыскай або залезе туды, то дзіця будзе цэлую ноч плакаць.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на***
***ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

## Палявік

Палявік – гэта істота, якая жыве на полі. Яна таксама памагае добрым людзям, асцерагае ўраджай. А дрэнным людзям палявік навядзе шмат пустазелля на пасевы.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Ідзе мая матка па полю і бачыць: стаіць чалавек маленькі. Маці ніяк не магла ўгадаць, хто ж там стаіць. Яна гукнула чалавека, аж тут чалавек прысеў, і на яго месцы з’явіўся ці то кот, ці то сабака.

Вельмі правільна людзі кажуць: “Добры гаспадар – добры палявік!” Калі чалавек свой надзел даглядае, то і палявік яму памагаць будзе. А на плахога гаспадара палявік і не глядзіць. У такіх людзей адзін бур’ян расце.

*Запісана ў г. Ветка*
*ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

Палявік, калі хоча сам таго, то можа чалавеку дапамагчы. Толькі я на сваім вяку такога мала бачыла. Мужык з нашай вёскі ішоў зімой з другой вёскі ў сваю і нада ж, стаміўся, сеў трохі пасядзець. А вецер яму песню пяе, дык ён ужо амаль заснуў. Добра, што той дарогай на кані ехаў аднасяльчанін, дык падабраў таго, а то б і замёрз той мужык.

*Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на*
*ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

На кожным полі ёсць свой палявы. Ён пахож на малога мужыка, у якога светлыя валасы і кожа. Палявы можа на людзей зліцца, ураджай адбіраць. У нас такое і было. Узлаваўся аднаго разу палявы на майго бацьку, а чаму, мы сваім розумам ніяк не дойдзем, бо татка быў добрым гаспадаром. А тут не ўзлюбіў яго палявы і няшчасце ў нас: то ўраджай пасохне, то папорчаны стаіць. І як мы ні стараліся, а ўсё галоднымі сядзелі, бо не было ўраджаю. Тады старыя людзі параілі бацьку сабраць палявому падарунак. Сабралі мы хлеба, яек, масла ды панеслі ў поле пад вялікі дуб. Бацькі яшчэ аб нечым папрасілі палевіка. І што вы думаеце, усё ета памагло.

*Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на*
*ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

Палявік у полі жыхарыць. Ён там можа пад каменем жыць, пад дрэвам вялікім. Іду раз і бачу, што на полі вялізны камень шэры. І здаецца, што гэты камень двігаецца. Падышоў я бліжэй, і сапраўды нешта бегае вакол валуна, нібы цень які. Я прыглядаўся, прыглядаўся, ды так нічога і не поняў. Тады крыкнуў на ўсю сілу: «Хто тут?» Пасля майго крыку цень стаў, а потым зусім прапаў. Добрыя людзі казалі, што гэта быў палявы.

*Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на*
*ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,*
*студэнткай Шаўко І. (2006 г.)*

Палявік жыве ў полі. Ён забоціцца аб ураджаі. Но калі ён без настраення, тады ён порціць збожжа, іздзеваецца над людзьмі, жывёлай. Палявік баіцца мокрага, паэтаму жыве на вазвышэннях. Таму не любя ён восень і вясну.

*Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на*
*ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Шышовай К. (2006 г.)*

Жыве ў полі. Абычны чалавек. Вельмі мудры, хітраватый трошкі. Вельмі любіць, кагда ў полі ўсё воврэмя прыбрана, усё чыста. А калі не воврэмя ўбірают уражай, то вельмі злуецца.

*Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на*
*ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,*
*студэнткай Грыб М. (2006 г.)*

Палявік – гэта дамавы, які жыве ў полі. Ён дапамагае добрым людзям вырасціць і сабраць ураджай. А дрэнным людзям пасылае засуху ці патоп на палі.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Палявік – гэта той, хто ў полі водзіцца. Пахожы на лесавіка, ды толькі маладзейшы. Гуляць любя ў жыці, пшаніцы. Калі гэта яму не нравіцца, дык пужае. З русалкамі любіць вадзіцца. Зла проста нікому не робіць. Абараняе палі ад ведзьмаў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Выглядзіць як маленькі чалавечак з хітраю ўхмылкай. Знаходзіцца часцей за ўсё ў жытнім полі. Кажуць, што ахраняе зямлю да самага Благавешчання, каб яе ніхто не варочаў, а хто будзе капаць зямлю да гэтага свята, то не жджы ўраджаю, бо той, хто яе ахраняе, цябе і накажа.

***Запісана ў г.п. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Палявік – добры дух. Мы яго называем яшчэ агароднік. Ён нізенькі дзядок з барадою, чысты, у светлай адзёжы. Жыве ў полі, на лугу, у агародзе. Палявік выпрамляе калоссі на лугу, траву з іх выплятае. У агародзе гуляе з бульбай, буракамі, капустай, бо бачна, як яна зямлёй прысыпана. Гэта мне яшчэ маці расказвала, а цяпер пра яго нічога не чутна, мо яны, гэтыя палявікі, вывеліся. Но я чула, што ён нічога плахога не робіць, любіць, каб у агародзе парадак быў, усё паполана, падвязана.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Палявік жыве ў полі. А калі мы ў маладосці ішлі ў поле, то чулі свісты і перадражніванне. Ён такій жа шкоднік, як і ўсе. Ён прыгінае збожжа, адхіляе дождж, насылае шкодных насякомых.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

## Паморак

Шчэ расказваў мне дзед, што ў іх вёску паморак прыехаў з нашым аднасяльчанінам. Васіль ехаў на возе і ўбачыў чалавека, а той быў такім змораным, што мужык яго пажалеў і прапанаваў да сваёй вёскі падвезці. Во так паморак у вёску і забраўся к нам. Сяльчане яго жалелі, к сабе ў госці звалі. Але потым прымецілі, што пасля таго, як у іх пабыў еты чалавек чужы, у сям'і няшчасці пачыналіся. Людзі зразумелі, што ета быў паморак.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Гулевіч Кацярыны Фёдараўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Яго амаль ніхто не бачыў. Аднак старыя казалі раней, што выгляд ён мае старой скалечанай бабы, якая ходзіць у лахманах. Яна прытворваецца бальной для таго, каб усе яе пашкадавалі. А калі ёй паверань, пусцяць у сваё жытло, яна тады бальшую шкоду робіць. Усю жывёлу звядзе, хваробу нашле, без грошай аставіць. Спасці можа тады толькі агонь.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

У вёску адзін раз хтось ката прывёз. Бегаў ён па вёсцы, а ніхто яго к сабе не браў. Можа таму, што ён сільна страшны быў: вочы дзікія, шэрсць уся паклычана. І скора ў нас беды пачаліся. Дык адзін чалавек разумны замеціў, што кот нічыйны тоўстым стаў. Здагадаліся тады людзі, што то паморак быў. Сабраліся тады ўсёй вёскай людзі, пагаманілі і знайшлі выйсце з етага гора.

***Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Паморак заўжды выглядае як стары дзед. Ён худы-худы, аж косці тырчаць. А барада ў яго такая длінная, што ўдзівіцельна, як ён не запутаўся. Гэты паморак ходзіць па вёсках, шукае сабе добрую здабычу. Калі знойдзе сабе ахвяру, то не адпусціць, а ўсе сокі і здароўе выцягне. Вёскі паморак сам кідае, калі ўжо няма чым пажывіцца. А самім людзям яго сільна трудна выгнаць з вёскі.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Лутковай Алены Пятроўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

## Пушчавік

Сам ён высачэзны, а цела ўсё ў кары. Ды і сам ён пахож на дзерава. Еслі пападзеш туды, дзе пушчавік жыве, то не адрозніш яго ні ад сосен, ні ад бяроз. А ета таму, што ён увесь карой зарос. Ды і я некалькі разоў бачыла пушчавіка. Ета летам было, калі я па ягады ў наш лес хадзіла. Раз зашла на нейкую паляну, села і ягады бяру. Аднак мне казалася, што за мной хтосьці падглядвае. Я хутчэй адтуль пайшла. А дома ўжо агледзіла, што ягады дужа кіслыя, горкія. Ета мне такія ягады пушчавік падсунуў.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Гулевіч Кацярыны Фёдараўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ежалі к пушчавіку пападзеш, то, лічы, што дамоў не вернешся. Баба раз карову выгнала ў поле, а тую ці то авадні закусалі, ці то аса ўжаліла, дык яна ў лес пабегла. Злавіла баба карову, аж глядзіць: дрэва на карову падае. Тады яна зразумела, што з каровай жывой не выбрацца. Кінула жывёліну, а сама ўратавалася. А яшчэ знаю, што пушчавік не любіць крыку ў лесе, песняў людскіх. Сільна яму не нравіцца, што людзі пра сваё жыццё песні спяваюць. Тады пушчавік будзе старацца гэтаму чалавеку што-небудзь плахое здзелаць. А чалавек, калі не ўцячэ, можа калекай астацца, бо пушчавік абіды не даруе.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Пушчавік вельмі высокі. Ён можа быць ростам з самае бальшое дзерава ў пушчы. Не любіць ён людзей, а за што, не знаю. Людзі кажуць, што пушчавік дзелае многа гора тым, хто пападае ў тое места, дзе яго дом стаіць. Можа так разбушавацца, што дрэвы з карэннем будзе вырываць і ў людзей кідаць. Паспрабуй тады схавацца ад яго.

***Запісана ў в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на***
***ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Калі лесавіка шчэ можна ўмасліць, то пушчавік цябе жывым не выпусціць, асабліва калі ты з тапаром прыйшоў у пушчу. Тады лічы, што жывым не вернешся. Толькі тады ён цябе пажалее, калі ты яму паклонішся. А старыя шчэ кажуць, што спасешся ад пушчавіка, калі зможаш хутка з лесу выскачыць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

## Расамаха

Гэта быў канец лета. Працавалі на полі. І сусед расказаў, што калісьці ў нашых лясах вадзіліся звяры расамахі. Напэўна, памыляліся, бо гэта не звер, а нячыстая сіла, падобная на жанчыну з доўгімі валасамі. Кожная з іх забіла сваё дзіця пры жыцці, а сама ўтапілася.

Аднойчы, працуючы ў полі, захацелася суседу папіць. Пабег ён на вуліцу, глядзіць, а торбачкі з ежай няма. Замёр на хвіліну і чуе, што дзесьці недалёка чуецца плач дзіцяці. Ён да яго, а яно ўсё аддаляецца і аддаляецца. Вельмі ён здзівіўся ўсяму гэтаму. Вырашыў пайсці да ракі, пахадзіць, а там жанчына сядзіць, а на руках у яе маленькае дзіця.

Тым часам жанчына паклала дзіця і пачала расчэсваць шчупаковым грэбнем распушчаныя валасы свае. Здалёк пачуліся галасы людзей, яны таксама пачулі плач і прыйшлі. Як толькі расамаха пачула людзей, адразу ўзяла сваё дзіцятка і збегла ў ваду.

Прыбеглі людзі, пытаюцца, што здарылася, але сусед маўчаў. Перахрысціўся ён перад абедам, і з таго часу расамаха больш не трывожыла іх.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Канцавога Івана Мікалаевіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Каморынай С. (2006 г.)***

## *Русалка*

Яшчэ як малымі былі, не разрашалі нам у жыта хадзіць, гаварылі, што жыта русалкі сцерагуць, ператвараюцца ў васількі, красачкі і сцерагуць. Як зойдзеш у жыта, яны русалкамі стануць, зловяць і зашчакочуць да смерці. А ноччу ходзяць па полі і песні спяваюць – хлопцаў зазываюць. А тыя ж русалкі такія прыгажуні: валасы доўгія, кудлатыя, вочы свецяцца, як аганькі, бегаюць голыя, смяюцца, а хлопцы як убачаць, адразу і ідуць да іх. Тыя ж русалкі здзекваліся з маладых хлопцаў: падбяжыць адна і ўшчыкне, другая пацалуе, ды ўцякаюць. А хлопец усюды аглядваецца, шукае. Так і заводзілі ў лес які, а там балота ці возера было, дык укінуць русалкі беднага хлопца туды ды затопяць. Уранні знойдуць нежывога, так і гаварылі: “Русалкі затапілі”.

Было ў нас і такое: нарадзіла маладая дзеўка дзіцё, незамужам яна была, дык пайшла і затапіла немаўлятка. Русалкі забралі яго да сябе іператварылі ў такіх жа, як самі. Людзі казалі, што бачылі яе, ходзіць па тым берагу, дзе тапіла яе, як матка, дый плача, песні жалосныя спявае. Прыгожая такая сінявокая, валасы аж да пят завіваюцца, басяком ходзіць.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Русалка – гэта напалову добрая і злая істота. Яна з'яўляецца толькі ў пэўны час і хоча пагубіць людзей.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Ну, дык жа русалкі – гэта тыя, што жывуць у вадзе, у рошчэ. Памятаю, калісь казалі, што гэта звычайна маладыя дзяўчаты няхрышчоныя, каторыя патапіліся ў вадзе, у рацэ той. Казалі, што калі станавіліся русалкамі, дык вельмі прыгожымі. Твары ў іх прыгожыя, косы ў іх доўгія, шаўковыя, і заміж ног у іх хвасты. І казалі, бачылі іх такімі з адкрытым целам і, казалі, у іх былі такія намеры ўродзе і добрыя, і злыя. Хлопцаў маладых яны заўлякалі ў рэчку і тапілі іх там. Ня толькі дрэннае рабілі. Казалі, іншы раз рыбакам дапамагалі, каб добры ўлоў быў, рыбы налавіць. Казалі, гэта русалкі дапамагалі ім.

***Запісана ў в. Забалацце Акцябрскага р-на***
***ад Паповай Ганны Цімафееўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Максіменка Ю. (2004 г.)***

Яна, русалка, жыве ў вадзе. У яе ёсць плаўнік замест ног. Калі хлопец ішоў, яна пачынала яго сваёй музыкай маніць да сябе. Хлопец прыйшоў к ёй, і яна пачынала яго тапіць.

***Запісана ў в. Кавалі Акцябрскага р-на***
***ад Сінкевіч Надзеі Рыгораўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Прыходзька В.***

Русалкі – ета жанчыны, кажуць, гэта душы памёршых тапельніц і дзеці, якія памерлі нехрышчоныя. Яны, гэтыя русалкі, красівыя. У русальны тыдзень яны выходзяць з вады і могуць яны быць тады і ў полі, і могуць на могілкі хадзіць да родных, хто е. Яны могуць яшчэ і зашлакатаць чалавека, то нада аднаму не хадзіць. Русалкі ходзяць з распушчанымі валасамі і ўсягда маладыя.

На Русалачнай нядзеле, так бывала, адзяваюцца ў белае дзеўкі, вянкі наплятуць і збіраюцца. За дзярэўню ідуць, пяюць і праводзяць ужэ русалак. А хлопцы чуюць, дзе яны пяюць, дык сабяруцца да як падхвацяць тых русалак, дак хто куды бяжыць. Етыя вяночкі дак нясуць потым на капусту, так у старое урэм'я рабілі, каб добра расла, вусоў не было. Хто, напрымер, як я, са сваёй хаты прынясу вяночак і адзену на качан.

Русалкі – ета пераадзетыя дзеўкі з распушчанымі косамі. Кладуць агонь ды песні пяюць ля рэчкі. Русалкі пужаюць. У іх длінная палатняная адзежда.

***Запісана ў в. Асарэвічы Брагінскага р-на***
***ад Заяц Кацярыны Іванаўны, 1932 г.н.,***

***студэнткай Свірыдзенка Г. (2004 г.)***

Русалкі – гэта маладыя і красівыя дзеўкі з доўгімі касамі, з хвастом з жывата. Гаварылі, што русалкамі станавіліся маладыя дзеўкі, якія тапіліся, а таксама і тыя, якія памерлі і не былі замужам. Яны памагалі ўраджаю жыта. Русалкі жывуць у балотах.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Пад відам жэншчыны з длінными валасамі жыла русалка ў каноплях. Пугала дзяцей. Срэдняга росту была, волосы чорныя.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Дзегцяровай Кацярыны Дзянісаўны, 1923 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Лугінічы Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Тодаравай М. (2006 г.)***

Русалкамі пужалі дзяцей. Казалі, што яны страшныя і касматыя. "Вон яна, страшная! Паглядзі, якія валасы. Прывязалася космамі да дзерава".

***Запісана ў в. Дубавіца Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Сіпячэнка Аляксандры Анісімаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – то патануўшыя дзеўкі, якіх утапіў вадзяны, ці дзіця, якое паміраe да хрышчэння, або дзеўка, якая сама ўтапілася. Яны жывуць на дрэвах, выходзяць на зямлю на нядоўгі час, могуць зазываць чалавека да смерці.

***Запісана ў в. Крыўск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кавалёва Сямёна Барысавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Сачэнкам У.***

Ну, русалка – гэта ўтопленіца тая самая, яна з рыбім хвастом, валасы распусціла. Находзяцца яны ў любым месцы, ліш бы была чыстая вада. Яны – красівыя дзеўкі. Яны ні плахія, ну, красівыя… Яны могуць тапіць караблі, заманьваюць, зацягваюць у балоты ці азёры.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цубашава Эдуарда Фёдаравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Чураковай Ю. (2010 г.)***

Хто яна такая – я не ведаю. Але кажуць людзі, што яны жывуць у вадзе. Кажуць, што гэта дзеўкі-ўтопленіцы, якіх утапіў вадзянік.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чарняковай Кацярыны Апанасаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Чарняковай К. (2004 г.)***

Дзеўкі незамужнія станавіліся русалкамі, калі яны ўтапіліся. Жывуць яны ў вадзе. Красівыя яны, русалкі, косы ў іх скрозь светлыя, длінныя. Вот. Замест ног у іх хвост. Яны, гэтыя русалкі, усё ўрэмя голыя.

Хлопцаў маладых заманіваюць у ваду етыя русалкі сваімі песнямі. Красівы го-

лас у русалак. Яны красіва пяюць, шчэ і самі красівыя. Заманюць хлопцаў у ваду і шчакацюць да смерці. Шчэ громка смяюцца русалкі. А так вот плахога нічога людзям не дзелаюць. Могуць рыбакам памагаць. Рыбу на кручок чапляць. Хлопцаў сільна любяць маладых, ды і хлопцы іх. Яны ж красівыя, ды і голас красівы ў іх.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н., студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Русалкі – гэта такія красівыя дзеўкі. У іх длінныя валасы. Рысуюць іх з голымі грудзямі і хвастамі, як у рыбы. Яны заўлекаюць мужчын, асабліва красівых, у ваду сваімі песнямі, а потым зашчакочваюць да смерці. Русалкі дажа і ўтапіць могуць. Добрыя русалкі памагаюць рыбакам, вешаюць ім на кручкі шчук, пяюць сабе песні і нікаму зла не робяць. А злыя распугваюць рыб ад берага, калышуць лодкі людзей, зацягваюць пад ваду плаўцоў. Лучшэ ўсяго купацца з хрэсцікам хрышчоным. Тады не апасна і русалка не троне. І малітвы чытаць нада. Калі русалкі нападуць, то нада іх булаўкай калоць. Тады яны адстануць. Русалкі вельмі баяцца жалеза, крапівы.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Назаравай Тацяны Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – гэта, гаворуць, прыдумкі. Гаворуць, што калі юная дзевачка памірае ці дзевачка незамужняя памірае, уродзе б яны ператвараюцца ў русалкі. Русалкі – гэта маладыя дзеўкі, красівыя. Гаворуць, у белых плаццях яны. Яны могуць пасміяцца з цябе.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на ад Саўчанка Тацяны Аляксееўны, 1937 г.н., студэнткай Чарняковай К. (2004 г.)***

Русалка – гэта жэншчына такая, з длінным валасамі. Жыве яна ў жыце. Мы ўсё дзяцей пужалі, што як паймае, дык спужаюцца дзеці. У яе адна з грудзей залатая, дык дзеці вельмі баяліся яе тады.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н., студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Сядзіць русалка на ветках, пакачываецца. Валасы доўгія. Сама сядзіць, русая.

***Запісана ў в. Сямёнаўка Буда-Кашалёўскага р-на ад Шугаевай Марыі Пятроўны, 1922 г.н., студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі жывуць у любой вадзе: у раке, возеры, у моры, у балоце дажа.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Лебедзь А.Л., 1935 г.н., студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Мая суседка ўзяла з сабой унука і пайшла з ім жыта палоць. Яна палола, а ён у тое жыта пайшоў. Такое страхоцце зрабілася. Русалкі ж тыя, нячыстыя сілы, усё зло робяць. Завялі гэтага хлопца да давай шчакатаць. Той вырываўся ад ніх, а яны шчэ сільней. Так і зашчакаталі да смерці. Памёр маленькі, а русалкі ўсё смяяліся на жыце. І яшчэ ў нас адзін

быў случай. Хлопца маладога звялі. Красівыя ж яны, косы доўгія, зачароўваюць. Падалося хлопцу, што то яго дзеўка была. Манілі, манілі яны яго і заманілі ў рэчку. Шкада хлопца было. Казалі, што, хто памёр ад русалкі, той ніколі не знойдзе пакою, так і ён. Вечарам выходзіў на бераг і так плакаў, зваў кагосьці, што аж сэрца шчаміла.

Хто такую здань сустрэне, розум страціць. А з-пад вады ўсягды ўтрам нейкі шум ішоў, нібы хтосьці топіць некага, а хто ўслышыць, той і ўтоне, казалі.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Палуянавай Варвары Аляксандраўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ткачовай Т. (2004 г.)***

Ёсць русалкі лясные і рачные. Лясные очань прыгожыя, з доўгімі валасамі. Яны качаліся на ветках, заманьвалі хлопцаў. Я дажа знаю случай, як хлопец у лес да русалкі хадзіў, дык яна так яго зачаравала, што ён чуць не памёр.

Гэтыя русалкі вечарам выходзілі на паляну і хрустальнымі грэбяшкамі расчэсвалі свае валасы, а яны ў іх такія прыгожыя былі. А тыя, што ў рэчцы жылі, былі дочкамі вадзяногa. Тожа заманьвалі людзей у рэчку, асобенна прыгожых хлопцаў, і маглі зашчакатаць да смерці. І яшчэ лічылі, што хто русалку ўбачыць, той будзе ў бядзе.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

Русалка жыве ў жыце. Яна робіць шкоду: калі прыходзіць ноччу ў хлеў, дык карова на ўтра не дасць малака. А еслі паглядзіць у вакно – дзіця памрэ. Русалка бегае голая. У яе доўгія валасы, звонкі нахабны смех.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любові Іванаўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Русалка – дзяўчынка, якая памерла нехрышчонай. Вясной яны выходзяць з вады і пляшуць у жыце. У дзяцінстве бацькі пужалі нас, казалі, каб не хадзілі ў жыта, бо русалкі з сабой у раку забяруць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Русалка жыве ў вадзе і ў жыце. У дзяцінстве маці казала, каб не хадзілі ў жыта, бо русалка спужае. Русалка можа бегаць па лесе. Русалка – гэта дзяўчына, якую хацелі насільна выдаць замуж і якая ўтапілася ў рацэ.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Русалкі – гэта жанчыны, каторыя правініліся перад Богам. Бог іх наказаў і зрабіў вадзянымі. Раней гаварылі, што калі купаюцца красівыя дзеўкі ў рэчцы, то русалкі зацягвалі іх у омут. Мая бабка не разрашала хадзіць купацца асабліва на русальны дзень, а то русалкі ўтопяць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***

***ад Юркевіч Нілы Мікалаеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Кірпічовай І. (2004 г.)***

Русалку відзела. Там у дзерэвні па дарозе ішла і свярнула ў канаву. Бацька там свінней пасвіў, а я гуляла. Яна абросшая такая, але як чалавек. Нічога, ні хваста німа, ні плаўнікоў. Стаяла ў полі, у жыце. Яны могуць зашчыкатаць. Толькі не чапай яе, і яна чапаць не будзе. Яна не пяе, нічога не робіць. Ідзе па жыце, сама як маладая дзевушка з дліннымі валасамі. І ўсё.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Чарвяшкінай Праскоўі, 1938 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Тарасаўка)***

Русалкі – гэта маладыя дзяўчаты з доўгімі зялёнымі валасамі, замест ног у іх рыбій хвост, які пакрыты чашуёй. Яны жывуць у вадзе. Русалкамі станавіліся дзяўчынкі, якія памерлі нехрышчонымі, а таксама дзяўчаты, якія ўтанулі і якіх праклялі маці. Русалкі не любяць, калі купаюцца ў 12 гадзін ночы, могуць патапіць іх. Не любяць таксама тых, хто заходзіў у ваду без крыжа. Каб засцерагчыся ад русалак трэба на нітачку насадзіць кусочак часнака ці цыбулі і завязаць на шэі, бо русалкі не любяць гэтага запаху.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Снапковай Тамары Якаўлеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Дзядковай С. (2000 г.)***

У маёй суседкі быў унук, і вось яна мне расказвала такую історыю пра яго. Быў ён малы і пачаў штосьці на рэчку рвацца, а яна яго не пускала. Ён вырваўся і пабег. Яна яго тады ўзяла і закрыла на замок, а сама пайшла на бераг, куды ён так рваўся. Сказалі, яго рубашку трэба ўзяць і кінуць у рэчку. Яна падышла і чуе, русалка шэпча: “Нада ды няма. Нада ды няма”. Яна кінула рубашку ў ваду. Русалка забрала яе і больш нічога не гаварыла.

Авось гэта праўда была. Мая саседка, стаpанькая бабка, хадзіла на поле жаць асаку і снапы вязаць. І прыехалі на поле хлапцы распахваць кукурузу, тады раней распахвалі яе. Ну, вот яна і гавора, ета баба: “Хлопцы, у самы поўдзень не купайцеся”. А хлопцы гаворaць: “Што ты, бабка, гаворыш такую ерунду”. Яна гавора: “Мой дзіцёнак у самы поўдзень купаўся, і русалка яго забрала да сябе”.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Гатальскай Марыі Іванаўны, 1946 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Вялікія Нямкі)***

Русалкі – то дзеўкі такія, што маюць рыбі хвост, зялёныя косы. Яны могуць паказвацца людзям, але вельмі рэдка. Часцей за ўсё іх бачаць маладыя хлопцы. Русалкам любові не хапае, дык яны хочуць прыгожых хлапцоў заманіць. Дзед казаў ету гісторыю. Пайшоў ён, шчэ тады, малады, на раку і бачыць: дзеўкі там танцуюць. Ён схаваўся і за імі падглядваў. Але тыя яго ўбачылі і к сабе пазвалі. Дзед з імі начаў танцы вадзіць, аж глядзіць: радам танцуе дзеўка, што нядаўна ўтапілася. Зразумеў ён тады, што то русалкі. Выняў крыж і к русалцы прылажыў, тая завыла і ў ваду кінулася, а за ёй ўсе астальныя.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Тачылкіна Яфрэма Андрэевіча, 1932 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Русалкі – дзяўчаты, якія памёрлі яшчэ ў дзетстве. Яны былі нехрышчоныя і та-

муператварыліся ў русалак. Русалкі жылі ў балоце ці каля вады. Яны маглі загубіць чалавека, утапіць яго.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Шавялёвай Тацяны Пятроўны, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Шавялёвай Э., Навуменка Т. (2000 г.)***

Русалкі – гэта маладыя дзяўчыны, якія патапіліся самі або іх патапілі вадзянікі. Русалкі зазываюць у ваду (часцей) маладых хлопцаў, якіх потым топяць. Выглядаюць русалкі так: па пояс у выглядзе прыгожай дзяўчыны, з доўгімі зялёнымі або сінімі валасамі, замест ног у іх хвост рыбы, які дапамагае ім плаваць. Калі сустрэнешся з русалкай, то не трэба з ёй размаўляць, а лепей усяго, каб у цябе была прышпалка, тады русалка сама знікне.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Барсуковай Надзеі Васільеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Шавялёвай Н.***

Русалка – ета дзевушка, каторая ўтапілася ў вадзе. Яна прызывае к сабе ў ваду смехам. Русалка абразуе дзікі хохат і заве к сабе, ачароўвае чалавека. Яна красівая, длінnavалосая. Русалка асобенна заве к сабе маладых парней. Калі яна ачароўвае чалавека, то ён ідзець прама на яе зоў і не замячае ваду. Чалавек ідзець, як па сушы, а патом утапае і астаецца ў вадзе.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Пайшлі два хлопцы купацца. Хадзілі ўсё, рагаталі на беразе, а потым пайшлі ў ваду. А адтуль раз – і дзеўка такая прыгожая выплывае. Адзін з іх пачаў маліцца, і тая русалка адразу знікла, а калі б не памаліўся, то б точна патапіла яна іх. Кроме малітвы і крыжа святога, ёсць і іншыя спосабы ўцеч ад етай утопленіцы. Нада толькі прыгразіць ім, русалкам, палыном. Яны яго вельмі не любяць.

***Запісана ў в. Новыя Грымыкі Веткаўскага р-на***
***ад Пракопчык Надзеі Мікалаеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Русалкі жывуць у реках бальшых, людзей камкаюць. Русалкі – ета жэншчына, у іх валасы длінныя, толькі нерасчосаныя, яны разгаворваюць. Напалавіну з вады выглядуюць. Ета дзеўкі такія красівыя, очэнь паходжыя на чалавека, толькі ўсе красныя: і плечы, і морда, і рукі...

Яны рыбу ядуць, людзей заманіваюць, а ці ядзяць, я не знаю, навернае, ядзяць і людзей... У нас як хто ўтопіцца, дак кажуць, што яго русалкі пакамкалі. Сечас іх, навернае, ужо вывелі, патаму, што многа зелля ў ваду кідаюць. Вады ж тожа менш стала.

***Запісана ў в. Новы Мір Веткаўскага р-на***
***ад Хадуньковай Ганны Трафімаўны, 1914 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малінаўка Бранскай вобл.),***
***студэнткай Хадуньковай Н. (2002 г.)***

Русалкі – дзеўкі такія з хвастамі, як рыбы. Яны ў вадзе жывуць. Гаворацць, што летам, ноччу, калісь з вады выходзілі ды дурэлі, на ветках качаліся. Зараз іх не бачаць, а раней казалі, што яны такія прыгожыя, з валасамі доўгімі. Ну, простыя дзяўчаты, толькі

што хвост. Яны зла не рабілі. Яны ж добрыя. А людзі іх абіжаць сталі, дык невядома цяпер дзе яны. Русалкай станавіліся душы нехрышчоныя, таму іх і абідзець проста было.

***Запісана ў в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на***
***ад Шалюта Марыі Якаўлеўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Карніеўскай Т.***

Русалкі шкоды не робяць нікакой, толькі зашчакатаць могуць.

***Запісана ў в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на***
***ад Бардуковай Сафіі Аляксандраўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – гэта маладыя дзеўкі з хвастамі рыб па 3 метры, з лахматымі косамі і голыя. Русалкі жывуць у лесе. Ноччу калышуцца на дрэвах. Хапаюць людзей і пужаюць. Абед нясла жанчына праз лес на поле, а яна спрыгнула з дрэва, абед абернула і зноў на дрэва скокнула.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Бондар Івана Іванавіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кірчанка Н.***

Русалкі – то ж дзеўкі – самагубкі і сталі русалкамі. Голыя, яны з такімі даўжэннымі ды прыгажэннымі валасамі. Дзень на ветках качаюцца, а то бывае і пашчакоцяць. А так шкоды не рабілі, не.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Русалка – ета маладая дзеўка, якая ўтапілася, з зялёнымі косамі і белым целам. Русалкі – тожа людзі. Яны жылі ў дзярэўні, умелі закалдоўваць. Была ў нас хатка старэнькая, у ёй ужо ніхто не жыў, яна была пустая. Дык там жыла русалка. Яна ўлюбілася ў суседа. Яе ніхто не бачыў і не чуў, а Пятро бачыў яе, разгаварываў. Яна яго на гулянку праважала і з гульні страчала. Яна ішла потым лажыцца з ім спаць. Ён так і не ажаніўся, бо жыў з той русалкай.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Недалёка ад нашай вёскі рос дуб, якому было гадоў дзвесце, і ў гэтым дзераве, кажуць, жыла русалка. І калі наступала поўнач, яна выходзіла з гэтага дрэва і купалася ў рацэ. Заўлякала маладых хлопцаў у раку, і яны потым знікалі.

Над русалкамі ўсімі стаіць вадзянік. Ён ім прыказвае, што рабіць. А тыя павінны слухацца, бо не хочуць прагнявіць хазяіна. Той можа за непаслушэнства выкінуць русалку, а тая пагібне на сонцы. Таго русалкі і гнуцца, як зняволеныя, усё жыццё, каб толькі хоць так пажыць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Русалкамі становяцца дзяўчаты-тапельніцы, нехрышчоныя памерлыя дзяўчаты, праклятыя мамкамі. Яны вельмі прыгожыя, з дліннымі валасамі. Жывуць у вадзе. Могуць зацягнуць хлопцаў у ваду і патапіць іх. Выходзяць гуляць ноччу, пры свеце луны, на

луг.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Русалкі – гэта вельмі прыгожыя дзяўчыны. Яны жывуць у вадзе, у іх вельмі доўгія валасы. Яны ўстрайваюць гульні пры свеце луны і вельмі небяспечныя для маладых людзей, бо сваімі спевамі зацягваюць іх у ваду і топяць. Русалкамі маглі быць дзяўчыны-тапельніцы, нехрышчоныя памерлыя дзяўчаты і дзяўчыны, якіх праклялі маці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Русалкі – гэта вельмі прыгожыя дзяўчыны. Яны жывуць у вадзе, у іх вельмі доўгія валасы. Яны ўстрайваюць гульні пры свеце луны і вельмі небяспечныя для маладых людзей, бо сваімі спевамі зацягваюць іх у ваду і топяць. Русалкамі маглі быць дзяўчыны-тапельніцы, нехрышчоныя памерлыя дзяўчаты і дзяўчыны, якіх праклялі маці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Русалки бывают речные и полевые. Речные похожи на духов воды. Полевые – русалки плодородия. А еще говорят, что русалки – это молодые утонувшие девушки, которые могут вредить, защекотать до смерти.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Емяльянавай Алы Георгіеўны, 1965 г.н.,***
***студэнткай Цімафеевай Т. (1999 г.)***

Адна жанчына выбралась дамоў позна вечарам. А ісці трэба было праз поле. І вось яна чуе: у жыце плача маленькі дзіцёнак. Яна пайшла на плач, а ён ўсё далей і далей. Так доўга яна хадзіла, потым стамілася і астанавілася. І ўбачыла русалку. Яна была ўся касматая і громка хахатала. Тады жанчына перахрысцілася і русалка знікла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сычовай Тамары Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Сычовай Т. (2004 г.)***

У нас, в деревне, один мужик мылся в бане. Вышел к реке окунуться. Увидел женщину, с распущенными волосами. Она его звала к себе. Он пошел и чуть не утонул. А она спряталась. Все мужчины в деревне над ним потом смеялись.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Майсееўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Русалки существуют очень давно. Они не материальные существа. Их нельзя видеть обычному человеку. Русалка – существо энергетическое. Вообще это душа утопленника или утопленницы. Душа эта застряла между небом и землёй. Она будет мучиться и оставаться там до тех пор, пока не приведёт новую жертву вместо себя.

Поэтому русалки затаскивают людей и топят их, чтобы освободиться самим. Во главе русалок стоит морской царь, который управляет и распоряжается ими. И вот так эти потерянные души сменяют адна одну. И все они ищут себе жертву.

Говорят, что человек с очень сильным биополем ночью может увидеть над рекой огненные красные, ярко-жёлтые размытые пятна, чем-то похожие на рваные облака. Это души-мученики пытаются вырваться на волю. Они выходят из воды, но высоко подняться не могут: морской владыка, их господин, не пускает их.

А ещё, в какое-то определённое время можно услышать звуки, которые они издают. Это очень страшные, ужасные звуки. Они чем-то похожи на вой волка или собаки. Такие, говорят, что, если человек услышит их хотя бы один раз, они будут преследовать его всю жизнь.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Ларынай Тацяны Пятроўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

У нашай дзярэўні іх, русалак, не бачылі. Но я чула, што жывуць яны ў вадзе і людзей топяць ці шчакочуць да смерці. Караблі раней тапілі і золата на дно забіралі. У іх хвасты, як у рыбы, і валасы зялёныя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Русалка в воде живёт, в речке. Хоть и говорят, шо ета дочка водянова, но водяной страшный такой, а ана красивая очень. Воласы у нее красивые такие, длиннющие, пышные.

Так, ета девки, шо патанули. Ани русалками и становятся. Сами потопились и других потопить могут. У нас речка совсем мелкая была, так русалки там не жили.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Русалка – хозяйка озер. Старые люди рассказывали, что раньше на озерах и речках видели русалок. Одни говорили, что видели, когда солнце встает, другие – вечером на закате, а третьи – ночью. Русалку описывают почти всегда одинаково. Это очень красивая молодая девушка с длинными волосами и выразительно зелеными глазами, полуобнаженная. Вместо ног у нее рыбий хвост, покрытый чешуей.

Моя бабушка рассказывала: жил в деревне один парень. Он любил ходить на рыбалку и был хорошим рыбаком. Приносил всегда хороший улов. Однажды утром пошли на рыбалку. Погода была хорошая. Устроясь с удочкой, молодой человек думал о своем и наслаждался тишиной и великолепием природы.

Вдруг он увидел в свете восходящего солнца плавающую в воде красавицу. Он был поражен ее красотой и блеском ее тела. Девушка извивалась в воде, как рыба. Она исчезала под водой, потом вновь выныривала. Потом она подплывала к камышам и там что-то собирала. Русалка его не видела.

Парень попытался окликнуть ее, но русалка нырнула в воду, и больше рыбак ее не видел. Люди ему не поверили, а парень так и остался один, потому что всю жизнь

искал девушку, похожую на ту русалку.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сакалоўскай Алены Адамаўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Сакалоўскай Я. (2000 г.)***

Русалкі – гэта вельмі красівыя дзеўкі з длінnымі залатымі косамі і вялікімі блакітнымі вачамі. А ўместа ног, у іх хвост рыбы. Раней гэта былі незамужнія дзеўкі, якія ўтапіліся, ці нехрышчоныя дзевачкі, якія памерлі ў дзяцінстве. Русалкі злыя. Яны добра нікому не дзелаюць, а толькі шчыкоцяць ды пугаюць тых, хто прыйшоў на возера. Асобенна любяць маладых хлопцаў, бо самі не былі замужам. Яны, калі ўжо пачалі шчыкатаць, то стараюцца зашчыкатаць да смерці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Алены Уладзіміраўны , 1930 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Русалкі – то прыгожыя дзяўчаты, каторыя ўтоплі. Многія з нашых бачылі ў траве дзяўчо, кажуць, такое харошанькае. Валасы доўгія такія, светлыя, з нейкай травой. Сама голая, і вочы блішчаць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Паўленка Аксаны Майсееўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – гэта красівыя дзяўчаты з доўгімі валасамі і хвастом замест ног, на канцы каторага рыбі плаўнік. Іх цела пакрыта чашуёй, і каб скрыць яе, яны часта акутываюцца водараслямі. Русалкі – вельмі злобныя сушчаства, і сваю злосць яны пераносяць на людзей.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

У дзярэўні, дзе я жыла, гаварылі пра русалак. Ля дома нашага было поле блізка. Калі зацвіталі васількі і налівалася рож, мы хадзілі ў поле цветы рваць і вяночкі плесці. І нам тады казалі, што русалка паймае нас і забярэ да сабе ў жыта. Русалка ў белай сарочцы, і валасы ў яе длінныя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міхальчанка Ніны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Рогавай Н. (2006 г.)***

**Русалки – это души утонувших людей. Они покончили жизнь самоубийством. Это полудевушки-полурыбы. Выходят они на берег уже перед их отправлением в ад. Русалкой мог стать любой человек-самоубийца, неважно, какого пола. Живут они обычно в воде. И я знаю, что они должны затянуть хоть одну душу, только после этого их душа попадает в ад.**

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Эта русыя женшчыны, дзевушкі. Стройныя, з длінnымі валасамі, у белых плацьях, красівыя. Жывуць у вадзе з вадзяным. Выходзят немнога паіграцца перад Купалам. Іграюць у

ігры, танцуют, паiот. Могут утапіць ілі спасці. Када людзі ідуць у воду купацца ілі сціраюць бельё, оні всегда далжны гаварыць малітву, чтобы нічога не случылась, ілі заклінаніе.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)*

Русалкі – то патануўшыя дзеўкі, якіх утапіў вадзянік, ці дзіця, якое памерла да хрышчэння, ці дзеўка, якая сама ўтапілася. Яны жывуць на дрэвах, выходзяць на зямлю на нядоўгі час, могуць заказытаць чалавека да смерці. Вельмі баяцца жалеза.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,*
*студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)*

Русалкі – гэта маладыя дзеўкі або нехрышчоныя дзеці, якія памерлі.Жывуць яны ў вадзе.Выходзяць з вады ноччу ў поле вянкі плесці з кветак. Валасы ў іх доўгія-доўгія, не заплеценыя ў касу. Голыя яны да пояса, а знізу рыбін хвост, бліскучы, прыгожы вельмі. Яны вельмі прыгожа спяваюць.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Залатара Уладзіміра Іванавіча, 1952 г.н.,*
*студэнткай Зялёнай В. (2006 г.)*

Русалкі – гэта прыгожыя дзяўчаты з доўгімі валасамі і хвастом замест ног, на канцы якога рыбін плаўнік. Іх цела пакрыта рыбяй чашуёй, і каб схаваць яе, яны часта закручваюцца ў водарaслі. Яны вельмі злыя. Пераварочваюць лодкі, рвуць сеткі рыбакоў, пужаюць рыбу, заманьваюць рознымі падманамі і топяць людзей. Найболей апасна падыходзіць да ракі з русалкамі маладым парам, бо русалкі з-за зайздрасці могуць загубіць абодвух.

Русалкамі рабіліся маладыя дзяўчынкі, якія ўтапіліся, ці жанчыны, дзяўчаты, якія былі нехрышчонымі і якіх уцягнуў у ваду вадзяны. Былі выпадкі, калі русалкамі рабіліся дзяўчынкі, якія не згаджаліся выходзіць замуж за чалавека, выбранага іх бацькамі і казалі, што лепш быць жаной вадзяного, чым яго. Такія дзяўчынкі раптоўна знікалі, а потым рыбакі сустракалі іх з другімі русалкамі. Многія з іх скардзіліся рыбакам на сваю долю, хацелі вярнуцца назад, але гэта ўжо было немагчыма.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Макарэвіч Веры Мікалаеўны, 1936 г.н.,*
*студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)*

Яна выглядае так: дявочыя валасы абматваюць всё яе цела, бальшы і длінны хвост. Глаза, як азёра, галубыя, галубыя, але пад ноч меняюцца ў чорныя. Русалка – гэта душы памерлых дзяўчат, якія ўтапіліся. Увечары ані выходзяць з вады на сушу і начынаюць хадзіць па лесу і полі, прыгаюць з веткі на ветку. Калі встрэцяць чалавека, асобенна маладых хлопцаў яны любяць, стараюцца прывабіць яго, замучваюць да смерці. На сушу выходзяць таму, што ім вельмі холадна, грусна, адзінока. Яны чуюць галасы людей, успамінаюць час, калі яны тожэ былі такімі, але зараз ажыць яны не могуць.

*Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на*
*ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Данілавай М. (2004 г.)*

Мне расказвала маці, што русалкі жывуць у жыце, таму мы малыя не хадзілі ў яго. Бо русалкі маглі заманіць і заблукаць так, што ніколі не вернешся з поля.

Русалкі – гэта маладыя дзяўчаты, што ўтапіліся незамужнімі, або нехрышчоныя

немаўляты. Яны такія прыгожыя! З доўгімі валасамі і хвастом, замест ног. Па пояс яны голыя, заманьваюць мужыкоў. Калі ў іх добры настрой, выходзяць з вады і расчэсваюць валасы. А могуць і песні спяваць.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Я сама, калі маладая была, рана ўтрам ішла па ягады праз рэчку. Бачыла русалак. Гэта маладыя дзяўчыны з доўгімі валасамі. Яны спявалі цягучыя і жаласлівыя песні, плакалі вельмі. Дык я спужалася і пабегла адтуль.

У нас казалі, што гэта маладыя дзяўчыны-тапіцельніцы, якія не пайшлі замуж за нелюбімага і тыя, хто не дачакаўся хлопца з вайны.

Яшчэ кажуць, што русалкі і ў жыце водзяцца. Толькі яны другія. Яны заманівалі да сябе чалавека, ён губляе дарогу і знікае назусім. І тады кажуць, што яго русалкі ў жыта зацягнулі.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Русалкі – гэта дзяўчыны, якія ўтапіліся або памерлі нехрышчонымі. Русалкі – прыгожыя дзеўкі з доўгімі валасамі, а замест ног – хвост рыбін. Калі яны выходзяць на бераг, хвост ператвараецца ў ногі. Яны любяць сядзець на галінках. Русалкі могуць зашчыкатаць да смерці або ўтапіць.

***Запісана ў в. Яроміна Гомельскага р-на***
***ад Прымак Галіны Пятроўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Адаськовай Ю.***

Русалка жыве ў вадзе. Еслі каго ўзлюбя і гэты чалавек дастоін гэтага, дак яна не трогала, а еслі абідзіцца, дык яна можа так схваціць і зашчыкатаць, што можна памерці.

Яна выглядае так: ног у яе няма, рыб’е такое, а так – дзяўчына, красівая, валасы бальшыя, ніколі яна іх не заплятала. Яна ніколі па зямлі не хадзіла, толькі па вадзе. Харошага нічога не рабіла, пакажыцца і схаваецца.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Канавалава Уладзіміра Уладзіміравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Русалкі абітаюць у вадзе толькі з восені да русальнага тыдня. Тады яны выходзяць з вады і пасяляюцца на ветках дрэў, асобенна на бярозах. Русалкі качаюцца на іх ветках, падзываюць прахожых: “Чалавек! Чалавек! Хадзі калыхацца!” А калі хто падыйдзе блізка, то яны зашчыкочуць яго да смерці. Прадстаўляліся яны красівымі жанчынамі, з распушчанымі длінным валасамі. Пака русалкі не выйдуць з вады, лічылася апасным купацца, бо захварэеш, бо русалкі да сябе зацягнуць і ўтопяць. У русалак прэўрашчаюцца душы дзяцей, якія памерлі да хрышчэння.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Русалки – это молоденькие девушки, которые утопились. Они живут на дне озера или реки. Иногда они могут выходить и, сидя на ветках деревьев, играючи качаться, и при этом очень красиво и завораживающе поют. А если какой-нибудь мужчина

услышит ихнюю песню, то они его защекочут и утащат к себе на дно. И там он становится ихним мужем и живет очень богато, и все-все его желания русалки исполняют. Все, кроме одного: он никогда больше не сможет вернуться домой.

*Запісана ў г. Добруш*
*ад Рафеевай Аляксандры Аляксееўны, 1952 г.н.,*
*студэнткай Міржыеўскай А. (2010 г.)*

Эта мне расказвала мая матка. В 12 часоў ночы выходзяць дзеўкі з рэчкі, на берагу садзяцца, косы распускаюць і грэбешкамі чэшуць, і песні пяюць. Русалкі – эта калі дзеўкі маладыя топюцца, тады і ператвараюцца яны ў русалак.

*Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на*
*ад Рэжковай Любові Іванаўны, 1941 г.н.,*
*студэнтам Давыдавым А. (2005 г.)*

Русалкі цераз мяжу не могуць перайсці, адтаго і вывялісь. Бач, зямля цяпер ўся перамерана. А прэждзе, як зямля була не мерана, іх було многа. Бувало, выйсці нельзя – зашлокочаць. А ў лесі, дык ноччу толькі і чутна: гу-гу! Думаю, колісь старыкі казалі, дзвюх прыводзілі і к нам у дзярэўню. Сама голая, страшная, валасы доўгія ў яе – цянуцца па полі, усё так, як у чалавека, толькі не знаю, ці жэншчына, ці мужчына – усё роўна. І нічога не гавора, толькі плача і плача, ракой ільецца, пакуль пусцяць. А як пусцяць – запяе, зайграе – да ў лес. Многа було.

Цераз тыдзень пасля Тройцы была русальная нядзеля. У гэтую нядзелю дзеўкі пяюць русальныя песні, убіраюцца ў кветкі, плятуць сабе вянкі да носяць іх на галавах, а ў рукі бяруць сухі май да ідуць к рэчцы. Там яны робяць куклу з маю, дзеўку, называюць яе русалкай. Перш носяць тую русалку з песнямі па полю. А вечарам падходзяць к рацэ і кідаюць куклу ў ваду. Гэта кажуць: топяць русалку. А потым няслі гэтыя вянкі на капусту, каб расла бальшая.

*Запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на*
*ад Рыжковай Любові Іванаўны, 1941 г.н.,*
*студэнтам Давыдавым А. (2005 г.)*

Русалка жыве ў вадзе. Еслі каго ўзлюбе і той чалавек дастоін гэтага, дык яна ж не трогала, а еслі абідзецца, прыходзілі ж да ракі і мацюглівыя людзі, і злыя і другія плахія купацца, дык яна можа так схваціць і зашчыкатаць, так шчыкоце, што ў чалавека можа і сэрца астанавіцца. А харошым людзям яна нічога не дзелала, гэтыя ж людзі заходзілі ў ваду і хрысціліся. Вось чаму людзі топяцца, гэта тожа з-за яе – гэта яна шчыпае. Яна выглядае так: ног ў яе не было – рыб'е такое, а так як дзеўчына: красівая, занадта красівая, волас бальшы, ніколі яна яго не заплятае. Яна ў сілах была, па зямлі не хадзіла, толькі па вадзе. Харошым нічога не рабіла – пакажацца і схаваецца.

*Запісана ў в. Вылева Добрушскага р-на*
*ад Разрашэнка Лізаветы Пятроўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Смяглікавай В. (2004 г.)*

У вадзе жывуць і русалкі. Русалкі – ета топленіцы, дзеці, якія раждаюцца нежывымі, якія памерлі нехрышчонымі. Усе яны кажуцца адзінакавымі, пахожымі і не атлічаюцца па гадах. Русалкі без вады доўга не могуць. Яны рэдка з яе выходзяць. Толькі для таго, каб заманіць жэртву.

У русалак е царыца, якую яны слухаюць. Царыцу прыводзіць вадзяны. У Руса-

льную нядзелю русалкі выходзяць з вады надаўжэй. Яны ідуць на поле, на луг. Там яны весяляцца, пяюць песні, танцуюць. Калі нячаяна ўбачылі русалку, то трэба ўцякаць, а сначала ўкалоць сябе іголкай. Тады русалкі ўцякуць назад ў ваду. Калі так не зробіш, то яны пачынаюць злакатаць чалавека, пака той не памрэ. Нельга ў Русальную нядзелю быць блізка окала вады, лавіць рыбу. Еслі дажа здалёку пабачыш русалак ілі пачуяш іх голас, то чалавека жджэ бяда. Ён можа пацяраць слух, можа рагатаць без перарыва. Русалкі могуць абмануваць рыбакоў: выпускаць з сетак рыбу, цягаць за вудачкі. Русалкі збіраюць вёслы і раскачуюць лодкі так, што яны пераварачваюцца. Русалкі ўсягда таскуюць, яны завідуюць людзям, што жывуць на зямлі.

***Запісана ў в. Вішава Гродзенскай вобл.***
***ад Азарка Н.В., 1929 г.н.***

Русалкі – гэта прыгожыя дзяўчыны з доўгім, як у рыбы, хвастом. Валасы ў іх доўгія. Баяліся іх. Купацца ішлі з крыжыкам на шыі, а хто мог імі стаць, не ведаю.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Русалкі – дзеўкі, што маладымі патанулі. У вадзе цела не засталося, а душы ў вадзе жывуць. Дзяўчыны гэта былі з хвастом рыбіным і з валасамі доўгімі.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Кажуць, русалкі – то нехрышчоныя памерлыя дзеці. Паўстаюць у вобразе маладой прыгожай дзяўчыны. Але яны злыя. Яны жывуць у рэчках, куды і маняць людзей. Такжэ яны жывуць у жыце густым. Інагда яны людзей пугаюць, калі тые жнуць.

Е русальны тыдзень – после Тройцы. Яшчэ кажуць "русальна нядзеля". То дзеўкі ўжэ збіраюць косы і надзяюць чэпцы такіе, усю нядзелю яны яго не знімаюць, асабліва да худобы. Русалкі – гэта такжэ простыя дзеўкі. Яны робяць завіткі на жыце, прырабліваюць людзям.

***Запісана ў в. Валаўск Ельскага р-на***
***ад Чорнай Галіны Пятроўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Паўленка Г. (2004 г.)***

Русалкі – гэта красівыя дзяўчыны, якія ўтапіліся. Жывуць яны ў жыце, але блізка каля вады. Спяць у вадзе, а днём бегаюць па жыце, ламаюць яго. Калі каго ўбачаць, то бягуць да яго, пачынаюць шчакатаць. Гэта так весяляць людзей. Бабы казалі, што гэтая русалка – гэта дзяўчо, што тутака раней жыло, але ўтапілася, з таго, што загулялася. З таго часу і бегае непрытомная.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-на***
***ад Гуд Любові Ігнатаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

Русалкі – дзяўчаты з амаль празрыстымі целамі, прыкрытымі толькі доўгімі распушчанымі валасамі, з блакітнымі прыгожымі вачамі. Русалкі – гэта дарослыя дзяўчаты і маладыя дзяўчынкі. Імі сталі ў выніку ператварэння маладых утопленіц, самазабойцаў, утопленых немаўлят, дзяцей, што нарадзіліся мёртвымі ці былі задушаны. Ру-

салкі стараліся нашкодзіць маладым парам, завабіць у ваду і не адпусціць, бо самі яны пазбаўлены шчасця кахання, мацярынства.

***Запісана ў в. Роза-Люксембург Ельскага р-на***
***ад Вярбіцкай М.Л., 1942 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – ета дзеўкі незамужнія, якія ўтапілісь. Яны заўлякаюць хлопцаў і цягнуць да сябе ў ваду. Чула я, што багата маракоў патапілась за іх. А шчэ чула, што адзін хлопец узяў да жаніўсь на ёй. Кожэн раз прыходзіў на бераг і яна выплывала, палюбяцца і зноў разыходзяцца. Так і жылі. Е добрыя русалкі, а е паганыя. Дак добрых не трэ баяцца, а тых, паганых, дак, барані, Божа, не трэ чапаць, а то зразу на той свет звядзе.

***Запісана ў в.Стара-Высокае Ельскага р-на***
***ад Клімкавецкай Соф'і Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Кошаль С. (2004 г.)***

У нашай вёсцы было такое: маладая пара Іван і Вулляна ішлі дахаты разам і пасварыліся. Вулляна пабегла дахаты, а Іван пайшоў, куды вочы глядзяць. Ішоў, ішоў, думаўшы сваю думку, пакуль не апынуўся ля ракі. Сеў там на беразе.

Было паўналунне. Рака іскрылася срэбрам. Ледзь слышна шамацеў камыш, цвыркалі кузнечыкі ды квакалі жабы. Іван не заўважыў, як задрымаў. Прачнуўся ад таго, што нейкія халодныя рукі абхапілі яго за шыю. Ён павярнуў галаву і ўбачыў вельмі прыгожую незнаёмую дзяўчыну. У яе былі доўгія валасы незвычайнага зеленаватага колеру. Вочы былі вялікія-вялікія. Твар бледны, губы таксама бледныя. Адзенне яе пералівалася ўсімі колерамі. Іван недоўга думаючы, працягнуў руку, каб абхапіць дзяўчыну, але яна хутка апынулася ў вадзе і паплыла. Іван таксама прыгнуў у ваду. Дзяўчына нырнула, ляпнуўшы па вадзе перад самым тварам Івана велізарным рыбіным хвастом. Хлопец перапалохаўся і пабег дахаты. Толькі там ён зразумеў, што гэта была русалка, і яго стала трэсці.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Гэта красівыя дзеўкі з доўгімі валасамі і хвастом замест ног. Усё цела ў чэшуі, як у рыб. Яны злобныя. Пераварочвалі лодкі, рвалі снасці, пугалі рыбу, заманьвалі людзей у ваду і тапілі іх. Русалкамі станавілісь маладыя дзеўкі, якія ўтапілісь, дзеўкі, якія былі нехарошымі. Яны сначала былі дзеўкамі і жылі на зямлі, а потым, калі ўтанулі, вадзяны заставіў іх стаць яго жонкамі. Калі русалкі бачаць дужа красівага хлопца, заўлякаюць яго, а тады топяць. Яны, ой якія хітрыя!

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Русалкі – гэта істоты, якія пахожы на жанчын. Русалкі маюць на целе чашую рыбы, а ўнізу ў іх ласты. У русалак цудоўны голас. Шчэ ў русалак даўжэзныя чорныя косы. Ходзяць яны нагія, нікога не саромяцца.

***Запісана ў в. Бабоўка Жлобінскага р-на***
***ад Аўраменка Ніны Дзмітрыеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалка жыве ў рэчцы. У русалак ператваралісь жанчыны, якія закончылі сваю

жызнь самагубствам – утапілісь. Русалкі – голыя жэншчыны, з хвастамі, доўгімі валасамі. Русалкі заманьваюць маладых хлопцаў у ваду і песцяць іх. Яны могуць наўрадзіць і маладым, каторыя гуляюць па берагу.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Русалкі – ето такія дзеўкі з валасамі да пояса, якія ўтапіліся. У вадзе яны жывуць. Кажуць, што яны і па зямлі хадзіць могуць.

Неяк ішла адна знахарка вечарам дадому і знайшла ў траве красівыя такія бусы, такія празрачныя-празрачныя, як тая сляза. Забрала яна іх, а ноччу прыснілася ёй русалка, якая казала: “Аддай нам нашы бусы”.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Ганны Кандратаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Русалак я не бачыла. Але када мы хадзілі на поле жыта жаць, дык было такое, што тоненька месцамі жыта ляжала к зямле блізенька. Вось тады старэйшыя гаварылі, што эта тут русалкі гулялі ноччу, у жыце.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Страха К. (2006 г.)***

Русалка – гэта жанчынападобная істота, увасабленне воднай і лясной стыхій. Русалкі могуць быць у вобразе маладой і прыгожай дзяўчыны, яна можа быць з тулавішчам рыбы, з доўгімі, распушчанымі зялёнымі валасамі.

Русалкамі становяцца дзяўчынкі, памёршыя да хрышчэння, дзяўчаты-тапельніцы, а таксама дзяўчаты, якіх праклялі іхнія маці. Русалкі могуць жыць у полі, лесе і ў вадзе. Вельмі небяспечнымі становяцца русалкі на Русальны тыдзень пасля Тройцы. Тады асцярагаліся купацца, хадзіць у лес, у поле.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Пасля Тройцы нядзеля называлас духовой ці русальной. Счыталос, шо ў это врэмя русалкі выходзілі з вады, гулялі, бегалі по полю, заманьвалі людзей, шоб іх шчыкатаць. А русалкі – ето утонуўшые дзеўкі, екіе померлі без хрышчэння. Оны все з распушчанымі косамі. На берагу оны спеваюць песні, і хто іх пачуе, то того оны зацянуць на дно. Е такі русальчын Велікдзень, на екі не ходзілі дзеўкі купацца. А колі ходзілі, то бралі з собой полын, оны (русалкі) его бояцца.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Клімовіч Веры Ільінічны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Русалкі, ек жонкі, пейсатые, звязаные з чорцікамі, ены не божэственные, ены, як і вадзянік.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошман Вольгі Лявонаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

У русалку ператвараліся дзеўкі, што да свадзьбы ўтапіліся. Яны ўсё ўрэмя ў

вадзе і могуць зацянуць цябе, што і не вернешся.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Русалка – ета прыгожая дзяўчына, каторая выходзіць з вады. У яе доўгія валасы, а на галаве – вянок з кветак. Ана збівае путнікаў з дарогі. Калі к ёй хтось падыйдзе, то ана можа забраць к сабе. Ані пакасцяць людзям, бо хаваюць адзежу.

***Запісана ў п.Чырвонае Жыткавіцкага р-на***
***ад Цімашчэня Ганны Парфёнаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Макарэвіч Е.***

Шмат історый расказвалі пра русалак. Усе пячальныя. Само то я іх не бачыла, але кажуць, што жывуць яны ў вадзе.

Русалкі – эта ладныя, маладыя дзеўкі, у іх косы даўжэзныя, аж да пят. Русалка пахожа зверху на дзеўку, а замест ног у яе хвост, як у рыбы, з чышуёй. Ой, ліха яны робяць. Якую жэртву сабе нойдуць, усё адно зацягнуць у ваду, як ні круці.

Русалкі хлопцаў маладых да сябе заўлякаюць, а потым топяць. Яшчэ чула, што і ў жыці русалкі водзяцца. Гавораць, што русалкамі становяцца дзеўкі, якія патоплі, або, якія пры жыцці праклятымі былі.

***Запісана г. Калінкавічы***
***ад Ешман Паліны Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Торап Т. (2005 г.)***

Русалкі ў лесе граюць, касматыя доўгія косы носяць, яны плахія.

***Запісана г. Калінкавічы***
***ад Яўжэнка Наталлі Сцяпанаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Канцавой І. (2009 г.)***

Русалка – гэта прыгожая дзяўчына, якая была адзета ў белае з доўгімі белымі валасамі. Яна хадзіла па полі, і там, дзе яна пройдзе, усё расло.

***Запісана ў г. Калінкавічы***
***ад Мятлушка Праскоўі Піліпаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Казловічы Калінкавіцкага р-на)***

Пра русалку я ведаю тое, што імі былі альбо нехрышчоныя дзевачкі, якія памерлі ў дзяцінстве, альбо дзевачкі, якіх забілі маці. Яны жывуць у вадзе. У нас казалі, што яны прыгожа спяваюць, але я гэтых спеваў сама не чула. Русалкі любяць кветкі, а з іх плятуць сабе вяночкі. Я лічу, калі людзі ставяцца добра да вады і кветак, то русалкі нічога злога зрабіць не могуць.

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

У народзе лічаць, што русалка – гэта душа дзіцяці, якое памерла да хрышчэння, ці дзяўчыны, якая загінула ў вадзе. Людзі ўяўлялі русалку маладой дзяўчынай з доўгімі валасамі, з рыбіным хвастом. Жывуць русалкі ў рэках, выходзяць вясною, калі добрае надвор’е. Кажуць, што русалка можа без вады толькі некалькі часоў, пакуль не высахла цела, валасы. Потым яны могуць загінуць. Русалка выходзіць з вады, каб зама-

ніць ахвяру. Русальнае свята – русальны тыдзень пасля Тройцы. Нельга тады было працаваць, казалі, што калі не паважаць гэтае свята, то прыйдуць русалкі і перадушаць усю жывёлу. У гэты дзень русалкі вылазяць з вады. Лічаць, што, пакуль русалка не вылезла з вады, нельга купацца, бо ўтопіць яна.

Яшчэ людзі верылі, што ёсць русалкі, якія жывуць на высокіх дрэвах у густым вецці. Гэтыя русалкі палохалі дзяцей, каб адны не хадзілі ў лес, у жыта. Лічылі, што гэтыя русалкі заманьваюць ахвяру да сабе.

***Запісана ў в. Зеляночы Калінкавіцкага р-на***
***ад Салук Вольгі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шклярэнка Т. (2001 г.)***

Калі чалавек патануў, то яго душа астаецца там, і яго душэ трэба жэртвы.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Ето колісь русалкі бегалі і скакалі. Вот, я, молодая раскосмаюся ды ў сажу ўмажуся і без адзежды па сялу бегаю. Гэта шчэ да вайны было. Пасля вайны такога не рабілі. Казалі, што тымі русалкамі дзяцей пужалі. От такое было.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Багдановіч Яўхіміі Пятроўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.***
***студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г. (2009 г.)***

Русалкі – гэта тыя дзяўчаткі, якія загубілі сябе самі. Памерлі не сваёй смерцю. Толькі маладыя становяцца русалкамі. Яны вылазюць з вады ноччу і спяваюць песню – хочуць заманіць маладога хлопца да сябе ў ваду. Калі пачуеш, што лягушкі спяваюць свае песні, знацца яны ўжо паўзлазілі з вады і пяюць, але галасоў іх зусім не чутно.

Калі рыбак ловіць рыбу, дык яны пугаюць рыб, каб у іхням прудзе не зводзілася рыба. Кажуць, што яны вельмі прыгожыя: з ллінными валасамі, часцей белымі. Гэтак людзі гавораць.

***Запісана ў в. Мнагаверш (зараз Мікулінск) Калінкавіцкага р-на***
***ад Кавалёвай Ганны Леанідаўны, 1955 г.н.,***
***студэнткай Скіданенка В.***

Русалка жаночага полу, жыве ў вадзе. Красуня з доўгімі белымі валасамі і длінным хвастом, як у рыб. У яе блакітныя вочы, бялюсенькі тварык. Кажуць, што вачыма русалкі прыманьваюць да сябе маладых хлопцаў і забіраюць іх з сабою ў ваду. Мой стары бачыў аднойчы русалку. Ехаў на кані паўз наш пруд. Конь уздыбіўся, спыніўся. Стары мой вельмі тады спужаўся, калі ўбачыў яе. Твар белы, як снег, длінныя валасы да зямлі, длінны хвост. Стары кажа, што есць рыбы-русалкі.

***Запісана ў в. Мнагаверш (зараз Мікулінск) Калінкавіцкага р-на***
***ад Спірыдонавай Любові Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Скіданенка В.***

Я іх, русалак, тожа не бачыла, але расказвалі, што яны вадзіліся паблізу вады. Русалкі выходзілі з вады адзетые ў белае адзенне. Яны з доўгімі касамі і прываражвалі сваім хараством усіх, хто бачыў іх. Калі ўбачыў іх хлопец, ён быў закаханы ў яе. Калі ён хацеў пагаварыць, яна тут жа хавалася. Русалкі былі вельмі харошыя. Яны тожа па-

яўляліся ў празнікі.

***Запісана ў в. Савічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Беразоўскай Валянціны Аляксандраўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Бажок І. (2006 г.)***

Расказвалі мне і пра русалку. Майго брата заўсёды пугалі імі. Казала маці: "Пойдзеш гуляць на рэчку ці так куды-небудзь, устрэціш прыгожую дзяўчынку, а яна цябе заманіць у воду і ўтопіць". А так іх ніхто не бачыў.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Бандарэнка Елізаветы Яўменаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Русалкі – водные красавіцы. Харошые, ані должны помогаць людям.

Русалкі ў лесе граюць, як сумашэдшыя. Яны носяць косы лахматыя. Яны плахія.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Малько Тамары Іванаўны, 1936 г.н.***

Русалкамі станавіліся дзяўчыны, якія памерлі нехрышчонымі або якіх патапіў вадзянік. Русалкі – вельмі прыгожыя дзяўчыны з доўгімі валасамі, голымі грудзямі, а замест ног у іх хвост. Твары ў русалак злыя, а сваімі вялікімі галубымі глазамі могуць загіпназаваць чалавека, і ён ідзе і топіцца.

Ноччу русалкі песні спяваюць. Хто іх песні пачуе, доўга адыйсці не можа. А калі заплывеш далёка, русалка схопіць за нагу – і ў ваду. Чалавек патоне і спасці не паспеіш. У нас так адна дзяўчына патапілася, хоць і плавала вельмі добра.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Расказвалі дзяды, што былі русалкі, што імі пужалі дзетак, калі яны не слушаліся, казалі, што русалкі страшныя і касматыя.

Казалі, што русалкі сядзелі ў балоце на пяньку. Сядзіць, значыцца, яна, а потым пакажацца, а валасы ў яе длінныя-длінныя, хвост у залатой чашуе, а сама сядзіць, русая. Яна спецыяльна паказывалася, а потым спецыяльна хуценька хавалася.

А яшчэ расказвалі, што русалкі – гэта маладыя дзеўкі, якія ўтапіліся ці памерлі нехрышчоныя. Яны водзяцца ў жыце. Голыя і красівыя сільна. Мужыкі ці хлопцы, калі іх убачаць, дык не могуць адарвацца. Калі русалкі каго зловяць, так зашчакоцяць аж да ізмору.

***Запісана ў в. Сырск Кармянскага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Ягораўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалка – ето молодая девка, которая втопилась. Она, когда хто-нибудь ночью купается, может утопить таво, а особенно в ночь на Ивана Купала, ето с 6 июля на 7.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Русалкамі становяцца маладыя ўтопленіцы. Самі русалкі красівыя, з длінными валасамі, замест ног у іх хвост. Калі русалка жыве ў вадзе, то яна можа зацягнуць у ва-

ду, потым можаш не выйсці і ўтапіцца. Калі русалка ў хаце жыве, дык у галаве ў яе вянок з васількоў. Русалкамі часта пугалі дзяцей, калі яны не слухаліся, лезлі таптаць жыта, а маці не хоча, каб таптaлі, ды кажа: "Вунь, русалка там!" Пужалі так.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Ціханенка Г.В., 1947 г.н.,***
***Ціханенка Н.І., 1934 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

Русалкі – ета дзеўкі з доўгімі косамі, красівыя, якія жывуць у рэчках, азёрах ці ў жыце. Кажуць, што яны памерлі перад свадзьбай ці ўтапіліся. І вось бы як не за склаўшуюся жызнь яны топяць людзей, хвалі падымаюць, перакульваюць чоўны. Летам у русалак было свята – русальчыны дні. Тады русалкі бавіліся ў жыце і нас не пускалі ў жыта, бо маглі зашчакатаць да смерці. Русальныя дні былі пасля Тройцы.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Прымак Фёклы Кузьмінічны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

Русалкі – дзеўкі, што патапіліся незамужнімі. Красівыя яны – косы доўгія, песні пяюць непанятныя, заманююць рыбакоў да сабе. Як ужэ пападзе да яе каторы – не вырвецца ніколі. Як заманіць яго – зашчыкоча і патопіць. Болей ўсяго баяцца іх перад Купаллем. Песні тады пець нада, на вербы кудзелі закідаць. Задабрываюць іх так, адзежы ж у іх няма. У нас так і дзелаюць, бо рака вялікая радам, баяцца іх.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Логіс Кацярыны Кандратаўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Логіс В. (2009 г.)***

Русалкі жывуць у азёрах, вадаёмах. Гэта маладыя дзяўчаты з белымі, нават залацістага цвета валасамі, у белых плаццях. У валасах у іх кветкі ўстаўленыя. Яны очень красівые. Прінято тое, што русалкі – эта дзеўкі, якія ўтапіліся ў возеры. Але гэтыя дзеўкі былі незамужнія. Русалкі завлекаюць маладых хлопцаў у ваду.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Русалкі – маладыя дзеўкі ўтопленыя. Яны могуць бегаць, гуляць па жыце, шчыкаціць чалавека, каторы ходзіт па жыце. У русалак рыбны хвосцік зялёнага колеру, пераліваецца на сонцы. Яны очень красівые.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Русалка – дзяўчына, якая патанула да свайго шлюбу, калі яна ўжо была засватаная. А яшчэ русалкамі станавіліся дзяўчынкі, якія памерлі да хрышчэння або якіх праклялі іх маці.

Кажуць, што русалкі жывуць не толькі ў вадзе, але ў полі і ў лесе. Гэта прыгожыя маладыя дзяўчынкі, апранутыя ў доўгую белую сарочку. У русалак прыгожыя доўгія валасы, а на галаве вяночак з травы і кветак.

Русалкі, якія жылі ў вадзе, мелі замест ног хвост рыбы. Русалкі прыносілі шко-

ду і небяспеку. Сваёй прыгажосцю, спевамі яны закалдоўвалі юнакоў, маладых хлопцаў і казыталі іх да смерці. Калі чалавек паміраў на русальны тыдзень, казалі: «Русалкі да сабе забралі».

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Калі я была малая, то на рэчцы было адведзена месца, дзе забаранялася купацца, бо там вадзіліся русалкі. Гэта вельмі прыгожыя дзяўчынкі з длінными косамі. Яны маглі схапіць каго хацелі да сабе і не вярнуць назад. Таму мы іх вельмі баяліся.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Русалкі – ето маладые дзеўкі ў белых доўгіх сарочках, у іх усегда райспейсачаные косы, сільно доўгіе. У нас у дзерэўні е такее место, дзе ены гуляюць, скачуць. Етае место на гарэ ля крынічного берага. Усегда выходзяць на гору ў месечную ноч. Тады размахваюць сваімі рукамі, прыманьваюць каго-нібудзь да сябе, а патом шлакочуць. Шчэ, кажуць, не можно хадзіць на бераг на Купального Івана, бо русалкі толькі і ждуць, штоб заманіць у воду. Даўно нашые хлопцы бегалі гледзець на іх. Расказвалі нам, што бачылі, як яны скачуць і ўсё хахочуць. Прыманьваюць да сябе. Ну, ены не падыходзілі, зналі, што ўтопяць.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Русалкі – то дзеўкі красівыя. Косы ў іх доўгія, вочы галубыя. Кажуць, як пападзеш ім у рукі, то жывым не вернешся. Казала мая пакойная жонка, што ішла яна цераз поле неяк, а іх там багата-багата. Ды танцуюць, смяюцца, а як угледзелі яе, дык давай хавацца ў жыце ды плачуць, ды да сабе клічуць. Яна ходу з таго жыта, ды і з канцамі.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Русалка – гэта дзевушка маладая з доўгімі валасамі, галубымі глазамі. Очэнь красівая дзеўка. Водзяцца яны ў вадзе, заманьваюць да сабе красівых хлопцаў, дзяцей, мужчын.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Русалка жыве ў вадзе. Русалкамі становяцца дзеўкі, якія не выйшлі замуж, хто загубіў сваё дзіця, каго пракляла маці. Кажуць, што яны крыжа святога баяцца.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Мне расказала мая мама, што яна жыла ў дзярэўні Махавая, дык там возера было. Ля якога бальшыя дрэвы раслі, дык на іх русалкі сядзелі ды калыхаліся. А як яны

туды забіраліся, не знаю. Гаварыла, што людзей даганялі, зашчакочвалі. Еслі чалавек пабягіць удоль поля, то дагоняць, а еслі упоперак поля, тады не дагоняць. Казала, што быў такі хлопец Іван. Пайшоў купацца ноччу, адзін пайшоў. А зрання маць яго бегала па дзярэўні, галасіла, што хлопец дамой не прышоў. Пайшлі шукаць, дый знайшлі ля берага мёртвага. Казалі, што ўдоль поля пабег ён, сляды бачылі ў полі. Дык і дагналі русалкі яго, утапілі. Русалкі на Купала заўсёды ў жыта хадзілі, весяліліся там.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Гэта як звычайна, яны водзяцца гуртамі. А па старых паданнях, гэта дзеці, якія былі праклятыя бацькамі яшчэ ў малым узросце.

Істота вельмі прыгожая, цела чалавека, а замест ног – хвост. Мае залацістыя доўгія валасы. Жывуць у рэчцы і сваім смехам заварожваюць к сабе маладых хлопцаў.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Сотнікавай Галіны Серафімаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

Гэта нечысць. Сіла нячыстая. Іх бачаць толькі ноччу. Жанчына ілі дзяўчына з доўгімі распушчанымі косамі. У вадзе. А мая саседка бачыла ў полі голую, падобную на дзеўку.

***Запісана ў в. Ціхінічы Рагачоўскага р-на***
***ад Каржовай М.П., 1934 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Калісьці русалку вадзілі ў лес, у вулачку. Русалкамі з'яўляліся вясковыя дзяўчыны. Іх лавілі на вуліцы (адбывалася гэта на Купалле). Калі зловім, тады вазьмём цвяты і спляцем вянок, адзенем ёй. Завядзём у жыта, скажам словы, а тады ўцякаем.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Карбацянка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Русалкамі становяцца непарочныя дзяўчаты. Калі ўбачыш русалку, нужна ўкалоць сябе іголкай. Калі чалавек купаецца і яго бярэ сударага, эта яго русалкі шчакоцюць.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Русалка – гэта дзяўчына, напалавіну чалавек і рыбіна, праклятая бацькамі ў дзявоцтве і вельмі каварная.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Сілінай Ніны Данілаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

У вёсцы, дзе я нарадзілася, іюньскімі вечарамі са стараны возера раздаюцца неўцешныя стогны. Калі спрашывала пра ніх у бабулькі, то яна мне расказала гэту гісторыю.

У даўнія часы адна паненка закахалася ў парабка. Празнаўшы пра гэта, пан загадаў завесці яго на возера і ўтапіць. А дачка яго кінулася ўслед за слугамі, каб выратаваць яго. Бацька адправіў за ёй пагоню. Бегла дзяўчына, не разбіраючы дарогі, а

сцежка за ёю ператваралася ў зыбкую трасіну, з-за гэтага пагоня не змагла іх дагнаць, а ў месцах, дзе яны правальваліся, абразоўваліся вокны з вадой, якія і ў наш час ёсць на берагах гэтага возера. Але не змагла спасці свайго любага дзяўчыначка і з роспачы ўтапілася. А гукі ўначы – гэта стогн той дзевушкі па свайму каханаму.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Скроб А.І., 1961 г.н.,***
***студэнтам Парфёнавым Д. (2006 г.)***

Русалкі – гэта дзяўчыны, якія памерлі нехрышчонымі ці ўтапіліся. Жывуць у вадзе. У лесе сядзяць на дрэвах. Яны прыгожыя, песні пяюць. Чалавек, каторы відзел русалку ці выратаваўся ад яе, стане глухім ці сляпым.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Купалу водзяць русалку па жыту. Збіраюцца дзеўкі і плятуць вянкі з хмеля. Ну, і потым ідуць па жыту і песні пяюць. Потым трэба было з галавы ўкрасці хмель і бегці да хаты. Калі каго паймаюць русалкі, дык начынаюць шчыкатаць. Мяне раз паймалі, я яшчэ малая была, дак штоб не Галя, зашчакаталі б. Хмель, які ўкралі ад русалак, лажылі на капусту, каб не было мядведкі.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Грышкавец Вольгі Ільінішчы, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А. (2010 г.)***

Русалкі – умершыя дзеці, радзіцелі якіх па какім-та прычынам не пахрысцілі. Бог забіраў іх русалкамі.

Маці мая расказвала мне пра русалку. Не ведаю, бачыла яна іх, чы не, аднак гаварыла. Яны вельмі красівыя. Гэта дзяўчаты, якія ўтапіліся ад няшчаснай любві. Яны шкодзяць маладым парам, якія гуляюць каля рэчак. Пужаюць, могуць так паглядзець на цябе, што чалавек колам стане і не зможа двінуцца з месца, паралізуе. А то й можа і ўтапіць, калі не панравіцца што-небудзь.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Канавалава Уладзіміра Уладзіміравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Русалкі – гэта некалькі дзяўчат, 3-4, якія прыгожыя, у валасах вянок палявых цвятоў або ў руцэ, распушчаныя валасы і блакітныя вочы, так і прызываюць да сябе кожнага. Жывуць яны ў возеры або ў вадаёме. Праз некаторы час можна заўважыць, як яны плаваюць па вадзе, зазываючы кожнага. Казалі, што яны выходзяць уночы, калі свеціць месяц, іх можна заўважыць плаваючымі ў вадзе. Кожны, хто асмеліцца паплысці да іх, адтуль ужо не вернецца, бо яны заслакочуць і зацягнуць на дно. Вабшчэ, русалкі – гэта незамужнія дзяўчаты, якія паміраюць нехрышчоныя.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Русалкі ў розных abліччах бываюць. Але больш за ўсё яны людзям відзяцца як

маладыя дзяўчаты. У нас жа колісь ета русалка ўсім бачылася ў выглядзе жэншчыны ў белым плацці. Яшчэ мая матка казала, што була такая дзевушка, якая сабіралась выйсці замуж за афіцэра, але ў дзень свята ён не прыехаў да нявесты, бо яго забілі. Але ж ёй ніхто етага не сказаў і яна змеціла па-свойму. Падумала, што ён яе абмануў і павесілася.

Вось, ага, з тых самых пор яна ператварылася ў русалку. Яе багата хто бачыў у дрымучым лесе пасля 12. Колісь лес, лес був. Густы, густы… А ў лесе том, пасярэдзіне, вырыты такі катлаванчык, чы копанка, я ўжэ не помню добра сама. Дык казалі, што пасля паўночы яе бачылі на беразе катлавана ў лодцы. Стаіць прыгожая такая, косы доўгія-доўгія, ліца не відна як бы, а ўлыбаецца табе. Лодка гойдае яе туды-сюды. А раз яна да пайшла за маладзёжжу. Ой, як яны спужаліся!

У нас русалка даходзіць толькі да апрадзялённага месца. Як ідзе за кім, за ёю следам совы ляцяць і так жалобна галосяць, бы дзіцятка плача. Даходзіць да тога месца, а далей стаіць, як укопаная. Гаворацць, што ёй туды няльзя, нешта ёй мяшае, значыцца.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Сыч Сафіі Барысаўны, 1911 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Русалка – ета прывідзеніе такое. Яно ў вадзе паказуецца. Пастаіць, перакружыцца, воздухам яе пераб’е, і яна ісчазае. Русалка – ета дзяўчына такая прыгожанькая, валасы ў яе длінныя, белае плацця на ей. Дзяўчынка ета русалкай стала, бо ўтапілася.

Помню, я яшчэ малая была, дак мне мама расказвала, што ў нашай дзярэўні было балота, дык там утапіліся дзеткі маленькія. Дак ноччу яны паказываліся на етым балоце. Яны каталіся на карытцы па вадзе. Як 12 часоў ночы было, усе баяліся тудой хадзіць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Русалкі пугаюць людзей. Яны жывуць у лесе і ў вадзе. Калі іх нешта напужае, яны падымаюць лямант. Яны ўзбіраюцца на дрэвы і падманваюць людзей.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Пашкоўскай Марыі Максімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Русалкі – гэта тапельніцы, што скончылі жыццё самагубствам. Гэта жанчыны, маладыя дзеўкі. Яны прыгожыя, з дліннымі касамі, распушчанымі. Апранутыя ў празрачныя, белыя длінныя плацця і з вянком на галаве. Яны жывуць у вадзе: рацэ, канаве. Іх мужык – вадзянік. Но нашыя людзі (з нашай і суседніх вёсак) бачылі іх толькі ў жыце, каля жыта, на полі. Яны такія дзеўкі нехарошыя, хоць і красівыя. Як каго спаймаюць, дык да смерці зашчыкочуць.

Адзін мужык, падвыпіўшы, ішоў з вяселля з Перасвятога ў Гарываду, а гэта было перад Купалам, яны тады найбольш гарцуюць, шукаюць над кім пазабавіцца, ну, дык вось, яны яго і клічуць, зазываюць, ды і імя яго ўжо знаюць, хадзем, мол, у карагод к нам, мы табе паспяваем, а ён уцякаць, дзе і хмель дзеўся, доўга пасля таго ён не піў, а потым усё раўно пачаў, доўга баяўся і днём па тому полю адзін прайсціся.

Гаворацць, што трэба, каб русалкі цябе не забралі, не зашчакаталі, быстрэй круг

нарысаваць, ды пабольшы, каб рукі не працягнулі, яны яго баяцца, пасмяюцца, парагочуць ды і пабягуць.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Хто ведае, што гэта за яны? Кажуць, што жанчыны. Сама голая, страшная, валасы доўгія, аж то па зямлі цягнуцца. Бачылі іх ці ў гаі, ці на возеры. У іх там гульбішча бывае. Прывяжа космы да галля дрэва і калыхаецца. А то з нябожчыкам, бачылі, ходзіць, гуляе, пачвара. Казалі, што калі ля нейкага дрэва не расце лебяда, то яны скакалі тут. Старыя казалі, каб не хадзілі ў адзіноце, бо як пойдзе хто адзін, яна як нападзе, ды як пачне біць, аж няможна, і пух ляціць з цябе. Аж паміраеш.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Русалкамі становяцца дзеўчыны, якія загубілі сябе самі ці ўтапіліся. Памёрлі не сваёю смерцю. Ета толькі маладыя дзяўчыны, а старыя дык не могуць быць русалкамі. Яны вылязаюць з вады ноччу і песні розныя пяюць. Калі ўчуеш, што жабы квакаюць і жукі стракочуць, ета значыцца, русалкі вылезлі з вады і спяваюць, але галасоў іх ніхто не чуе, толькі жаб ды жукоў чутна, яны разам русалкам падпяваюць. Яшчэ, калі хлопцы маладыя плаваюць летам, русалкі любяць іх шчакатаць. А калі хлопец спадабаўся вельмі, хапаюць яго за нагу, дык і ён тоне. А ўсе людзі думаюць, што ён за карагу зачапіўся. Яшчэ таксама русалкі рыбу путаюць, калі рыбак ловіць яе. І яшчэ, калі вада не спакойная, ета значыцца, што русалкі гуляюць. У русалак валасы доўгія, прыгожыя, часцей за ўсё белыя. Ета так людзі гавораць.

***Запісана ў в. Каравацічы Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Ганны Васільеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Русалкі – гэта дзеўкі, якія сядзяць у рэчкі. Русалкай становіцца дзеўка, што тапілася. У іх заместа ног рыбін хвост. Яны заўлякаюць хлопцаў, а тады іх топяць.

***Запісана ў в. Дземяхі Рэчыцкага р-на***
***ад Герыловіч Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Русалкі, канешне, ёсць. Ета ж душы тых дзевак, якія ўтапіліся. Раней стары чалавек у 12 часоў к вадзе ніколі не пойдзе. Казалі, як толькі 12 стукне, так яны вылазяць з вады. Паўсядаюцца і сваёю красатою, і песнямі прыцягваюць людзей. Дзеўкі ж яны вельмі красівыя, хоць замест ног у іх хвост.

Ёсць яшчэ ж русалкі, дзе па зямлі ходзяць. Калі пракляне матка дачку, то яна русалкаю абарочваецца. І ўсё жыццё блукае, не знаходзячы сабе месца. Ежалі спаймала каго русалка, то ўжэ не пусціць, а заслакоча да смерці. Калі ўбачыў русалку, то ні бяжы, а стань ды перахрысціся і малітву якую прачытай.

***Запісана ў в. Паравалока Рэчыцкага р-на***
***ад Лапіцкай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Ізбынь Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Было ў нас такое. Некаторых жанчын у вёсцы русалкамі называлі. Гэта злыя бабы былі. Ідзе русалка ў поле, дзе пасеяна зерно, распускае косы, сабірае каласы ў нейкі чуб і звязвае іх, прыгаворваючы нешта. У асноўным, казалі, што ноччы ета яны дзелалі. А хто будзе ета жыта жаць і не заўважыць чуб з каласоў, то ў таго рукі паадымае, ногі пагне. А некаторыя, казалі бабкі старэйшыя, і на смерць нагаворвалі. Ну як хто на што нагаворыць. Знали яны нешта.

А яшчэ русалкі і на беразе ракі былі. Ета матка мне казала. Ідуць етыя русалкі на рэчку, садзяцца на беразе, плацці пазадзіраюць, нешта ў вадзе боўтаюць, гавораць самі сабе. Так ману на людзей наводзяць. А што яны гаварылі, словы якія, то я, дзетка, не ведаю.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Кандраценка Н.П., 1935 г.н.,***
***студэнткай Шэндрык Т. (2001 г.)***

Русалкі – гэта абыкнавенныя дзеўкі, што ўміраюць, з вяночкамі і лістамі на валасах. Русалкамі становяцца дзеўкі, якія не былі замужам, а памерлі.

***Запісана ў в. Сямёнаўка Рэчыцкага р-на***
***ад Крэпко Пелагеі Рыгораўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Русалкі – гэта такія ж людзі, як і мы. Мама гаварыла, што ў час вайны людзі гаварылі з рыбамі. Вось былі дзьве дзеўкі. А немцы ўзрывалі ўсё, што было зроблена чалавекам, і не толькі. І эці дзяўчаты схаваліся з рыбамі ў вадзе. І у ніх былі русыя валасы. І яны сталі звацца русалкамі.

***Запісана ў г. Светлагорск***
***ад Макарчук Надзеі Яфімаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

У русалак у нас вераць. Ніхто пры маёй памяці іх не бачыў, але расказвалі ўсякае. Гаварылі старыя, што русалку можна ўстрэціць не толькі ў вадзе, але і ў лесе каля возера ці рэчкі. Прыгажэнныя вельмі яны. Валасы доўгія, кожа празрыстая, адзетыя ў белыя сарочкі або зусім голыя. Галасок танюсенькі. Пачынае гаварыць – быццам вадзіца журчыць. Але калі сустрэнеш яе, размаўляць нельга з ёй ні ў коем разе. Зашчыкоча тады да смерці. А калі не будзеш звяртаць на яе ўвагі, то яна пагамоніць сама колькі часу і знікне.

А некаторыя русалкі не размаўляюць, а плачуць. Ідзе чалавек па лесу, бачыць – сядзіць прыгажуня і плача. Ён падыходзіць, пачынае ўцяшаць яе ці пытаецца, што здарылася, а яна як накінецца на яго ды давай шчыкатаць!

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на***
***ад Васілеўскай Надзеі Дзмітрыеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Варапаевай В. (2006 г.)***

Гавораць, што русалкі паказваюцца людзям толькі на Купалле. Яны не любяць, калі на іх глядзяць, а калі з імі яшчэ і пачынаюць размаўляць, то могуць зашчыкатаць да смерці. А на Купалле яны самі выходзяць з вады, некаторыя нават гуляюць з моладдзю.

Пры маёй маладосці старэйшыя расказвалі, што незвычайны случай быў у нашай вёсцы. Празнавалі Купалу. Сабралася моладзь, развялі касцёр, пачалі прыгаць праз яго. Дзяўчаты вянкі плялі, песні спявалі. І паявілася дзяўчына незнаёмая. Прыгожая – вачэй

ні можна адвесці. Падышла да кастра, сказала, што прыехала з другой вёскі да дзеда з бабуляй у госці. Папрасілася гуляць з усімі. Яна стала з усімі песні пець. Ды так спявала – заслухацца можна. Сказала, што Ганнаю яе завуць. І вельмі спадабалася яна аднаму хлопцу. Ну, яны там увесь вечар і праз касцёр разам скакалі, і ў карагодзе разам стаялі. А потым, ужо раніцою амаль, знікла яна, быццам бы і не было яе. І ніхто не відзел, куды яна дзелася. А хлопец той засмучаны хадзіў колькі дзён, сохнуў на вачах. А потым пайшоў у лес за ягадамі, да так і не вярнуўся. Казалі ўсе, што Ганна тая русалкаю была ды й прысушыла хлопца. А пасля зацягнула яго ў лес і аставіла з сабою назаўсёды. Праўда гэта ці не, але хлопца таго ніхто болей не бачыў і дзяўчыну ніхто не сустракаў.

***Запісана ў в. Астроўчыцы Светлагорскага р-на***
***ад Пазняк Надзеі Канстанцінаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Варапаевай В. (2006 г.)***

Старыя людзі гаварылі, што русалка – гэта чалавечая істота. Калісьці тапіліся дзяўчаты і прэўрашчаліся ў русалак. Мой бацька расказваў такі случай. З ночы на коні ехаў ён з Мозыра чэраз возера. Стаяць каля возера дзяўчаты ў белым. Коні сталі дыбам, а дзяўчаты смяяліся, а потым пабеглі са смехам да вады і сталі купацца. Бацька пачаў хрысціцца, і дзяўчаты зніклі. Русалкі з’яўляюцца ў поўнач (у дванаццаць ночы і ў час ночы).

***Запісана ў в. Асташкавічы Светлагорскага р-на***
***ад Бельскай Зінаіды Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Завадскай М. (2004 г.)***

Колісь казалі, русалкі хадзілі па дарозе, калыхаліcь. Быў такі случай. Аднойчы жанчына ехала на конях. Русалкі яе пазвалі: “Арына, хадзі к нам”. Жанчына ехала далей, а яе ўсё роўна гукалі. Жанчына вярнулася дадому. Казалі, што русалкі хадзілі голыя, у іх былі вялікія грудзі.

***Запісана ў в. Асташкавічы Светлагорскага р-на***
***ад Пунтус Ірыны Сцяпанаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Завадскай М. (2004 г.)***

Русалкі – гэта памёршыя на Траецкай нядзелі. Я знаю, яны іе, бо сама бачыла. Пасвіла я карову. Гадоў мне было 14 – 15, ужэ не малая. Бачу: па жыту пабеглі дзеўкі, чалавек 6, ды так смяюцца, рагочуць. А спачатку думала, што гэта дзеці з Зарэчча, а потым думаю: хіба ж яны будуць па жыту бегаць? Вот кажуць, што русалкі з рыбячымі хвастамі, а тады, як жа яны бегалі? Можа ёсць і русалкі з нагамі, Бог яго ведае. Нязьзя купацца на русалчынай нядзелі і пасля Іллі, бо русалкі могуць зашчакатаць да смерці ці зацягнуць у ваду і ўтапіць.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Масальскай Анастасіі Карпаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

А яшчэ яны, русалкі, маглі агарод порціць, парыць ці павырываць што-небудзь у гародзе.

***Запісана ў в. Дуброва Светлагорскага р-на***
***ад Тукач Марыі Васільеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч Ю. (2006 г.)***

Гэта даўно было. Тады чагось часта з’яўляліся русалкі. Ой-я! Мужык мой пайшоў па малако. Прышоў – ужо цёмна-цёмна і без малака. Кажа, русалку стрэў. Праз лес трэба ісці было, а там і рака паблізу – Бярэзіна. Сыра было, халодна, туман вялікі.

І там на берагу ўбачыў дзевак маладых. Кажа, яго ногі самі сабой туды павялі. Яны як мо манілі яго да сябе, песні прыгожыя спявалі. Дзеўкі былі голыя, валасы доўгія-доўгія, праставалосыя. Адна на берагу сядзела, валасы часала, і да сябе вачамі цянула. Ой-я! Ён жа паплёўся! Дурань стары!

Старыя людзі казалі, што яны вараждбіткі, што прыманьваюць толькі мужчын. Мужыка майго цалаваць пачала, ой-я, дый у ваду цягнуць, дый казытаць. Ён і не памятае, як да хаты прысунуўся. Ад старой Гічыкіхі чула, што русалкі ў лесе жывуць на дрэвах, такія ж голыя. Срамата! Але ж во, стары мой бачыў, не ведаю... А дзе ж быў? Я ж сама іх не бачыла. Кажуць, толькі мужыкі бачылі іх, русалак етых.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Мы, калі малыя былі, матка нас да 6 гадоў у поле, у жыта не пускала, русалкамі страшчыла. Казала, што яны грымаснічаюць і калі дзіця пагледзіць на гэтую грымасу, дык і застанецца з такім тварам на ўсё жыццё сваё.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Вялікі Усцюг Расійскай Федэрацыі),***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Русалкі могуць зашчакатаць чалавека. У іх длінныя валасы і галубыя вочы, і, наверна, яны голыя і халодныя, бо ета ж тыя дзеўкі, што патапіліся.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Русалкі жывуць у возеры, разам з вадзянікамі, але не на дне. Яны, канешне, прыгажуні, але многа шкоды робяць: песні пяюць, каб заманіць чалавека да сябе, хлопцаў любяць заманіваць і з сабой у воду затасківаць. Яны адна на адну уж очэнь пахожы: валасы длінныя з цвяткамі, кожа белая, гладкая і хвост вместа ног. Любяць не па адной быць, а разам, бо так легчэ чалавека заманіць да сябе. Сабіраюцца ў какі-та дзень на сушы і водзяць свае хараводы, песні спяваюць. Іх тагда нельзя трогаць, мяшаць ім, бо гора будзе таму чалавеку, могуць навсегда за сабой уташчыць.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Звягавай Алены Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Ну, як табе сказаць, русалак глазамі сваімі я не бачыла, ну, гавораць, што яны ёсць. Эта красівенные дзеўкі, што самі сябе загубілі ці то ў русалак прэўраціліся малыя дзевачкі, што памерлі нехрышчонымі. Жывуць яны ў вадзе. У асноўном у іх красівенныя воласы – длінные, русыя, да ног. І ў іх есць хвост, як у рыбы. Бывае, што выходзяць з вады на зямлю. Па адной не хозяць, а толькі гуртоўкай. Карагоды водзяць умесце. На дзеравах сядзяць ці то на сонцы грэюцца. Вот калі плаваем, бывае, што ногу зводзіць, ці вот так як-та шлакоча што-та, так знай, русалка эта. Нада з сабой браць булаўку і ўкалоць у ногу – і пройдзе. Малітвы чытаць нада. Хоць врада яны не прыносяць, но чытаць нада.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***

***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Чула я пра русалак. Бог ведае, што гэта за русалкі такіе. Кажуць, што жанчына. Сама голая, страшэнная, валасы доўгія ў яе.

Было ў нас возера (яно ўжо ссохла). Дык туя яны і гулялі. Гэта мне бацька расказваў. Каля возера бярозы стаялі. Дык тая возьме і на бярозу ўлезе ды за галлё валасамі прывяжацца, уніз апусціцца ды калыхаецца, крычыць: "Уу-гу, уу-гу!"

Бацька казаў: "Во, дачка, каля бярозы трава не расце. Гэта тут русалкі скакалі. Танцуюць тут, кружацца, за рукі пабраўшыся". Нават гаварылі, што яны могуць чалавека ўбіць.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Русалкі – маладыя дзяўчынкі. Яны ўсягда голыя. У іх длінныя валасы і галубыя вочы. Русалкі – гэта маладыя дзяўчынкі, якія памерлі нехрышчоныя. Сваімі вачамі яны могуць загіпнацізіраваць чалавека. Калі чалавек іх пабачыць – то можа не вярнуцца абратна.

***Запісана ў в. Хутар Светлагорскага р-на***
***ад Казловай Анастасіі Яўхімаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Гаворуць жа, што русалкамі становяцца душы маладых памерлых дзевак, якія самі сябе загубілі. Русалкі былі сільна красівыя, а так могуць зашчыкатаць, што да смерці. За сваімі жэртвамі яны могуць выскакваць і на бераг. Русалка прымячае сабе жэртву, і бедны той купальшчык можа ўтануць ад судараг. Так кажуць, а хто яе бача, тую русалку?

***Запісана ў в. Батвінава Чачэрскага р-на***
***ад Баранавай Алены Ягораўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Пісарэнка М.***

Русалкі шчэ некія былі. Балота ў нас калісь было, дык яны там жылі. Гэта тыя жанчыны, якія ўтапіліся самі і ўтапілі сваіх дзяцей. Іх калісь мужыкі бачылі, што сена касілі. Казалі, учулі дзіцячы крык. Яны да яго, а яно далей. Шукалі ў траве, а дзіця ўжо каля ракі. Падкраліся, а там на паваленым дрэве дзеўка сядзіць і дзіця дзержыць на нагах, а сама косы чэша. Учула шэпты ды бултых у ваду. І больш яе не бачылі.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Яўгеніі Адамаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Русалка – гэта маладая дзяўчына, якая жыве ў вадзе. Лічылі, што гэта дзяўчаты, якія ўтапіліся ў рацэ, ці якіх праклялі маткі. Сваёй прыгажосцю яны заманьвалі прыгожых хлапцоў, а потым маглі іх утапіць. Русалкі вельмі не любяць тых дзяўчат, якія пускаюць вянкі на Купалле, бо самі не ведаюць нічога пра каханне. Русалкі заўсёды голыя, у іх длінныя валасы і блакітныя вочы. Яны ніколі не гуляюць па адной. Яны вельмі прыгожыя і сваёю прыгажосцю могуць загіпнацізаваць любога, хто падыйдзе да ракі. Ад русалкі ёсць засцярога – гэта жалезная іголка. Лічылі, калі ўкалоць іголкай русалку, то ўсе іншыя русалкі знікнуць.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***

***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Русалкі – гэта ўтопленыя маладыя дзеўкі. Вельмі прыгожыя, любога мужчыну зачаруюць. Добрага ад іх мала.

***Запісана ў в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на***
***ад Кузьмянковай Лідзіі Васільеўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Ета расказывалі, што калісьці красівыя, самыя красівыя дзеўкі, у белым былі адзетыя, каторыя вот утапіліся када-то, прэўраціліся ў русалак, так расказывалі. І ў поўнач яны ўсегда выходзілі і пелі песні. Некаторыя іх бачылі: самі белыя, валасы даўгія і спявалі дужа красіва. І людзі, не знаўшы, ішлі на іх песні. Прыцягвалі, як магнітам, сваім голасам, а як людзі падходзілі, то яны зразу хаваліся ў ваду. Дзелаць нічога ўрэднага яны не дзелалі.

***Запісана ў в. Палессе Чачэрскага р-на***
***ад Кандраценка Анастасіі Васільеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Горла В. (2004 г.)***

Русалка – гэта дзеўка очэнь красівая, у яе длінныя, па пояс, валасы. Калі яны выходзяць з вады, то адзетыя ў белыя длінныя плацці.

Аднажды два мальчыкі паехалі купацца і адзін утануў, а другі прыехаў дамоў. Доўга потым шукалі ў вадзе мальчыка і знайшлі, а маці яго цэлымі днямі плакала і галасіла па ім. А аднажды яна легла спаць і сніцца ёй сон, што сын расказвае ёй: “Мамачка, не плач. Мяне забрала цёця, з якой я ехаў у аўтобусе. Яна з длінными валасамі, очэнь красівая, і мне тут харашо. Мама, толька не плач, патаму што ад таго, што ты плачаш, я тут увесь мокры”. Вот такая історыя была.

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на***
***ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Я не бачыла русалак, але ж людзі кажуць, што гэта зусім як звычайныя дзеўкі, толькі голыя, з доўгімі валасамі. А то былі шчэ русалкі, такія голыя, страшныя. Гуляюць яны на гранай нядзелі. Узлезе на бярозу, за галючку валасамі прывяжацца і крычыць: “Угу-гу!”

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нам расказвалы, шчо русалка ходыць у жыты. У іх е опрэдзелённэ врэмя, колы выходыты. Русалкамы нас – дзітэй – лякалы, бо мы самы і булы дома, а родыцелі робяць.

Русалка, як дзівчіна. Вона получаецца од того, шчо заручаная дзівка вмрэ альбо втопыцца. Русалкы нэ робылы нычого доброго, алэ і плохого тожэ.

Був такы случай. Дві русалкы прышлы в хату, у якій спав хлопчык. Алэ він нэ спав, а лэжаў з запюшчэнымы вочыма і бачыць, як у хату зайшлы дві хороші дзівчіны. Шчэ ў хаты був кот. Одна русалка кажэ: “Давай забэрэм хлопца”. Друга ж кажэ: “Лучшэ забэрэм коціка собі”. І забралы воны коціка, і він нэ вэрнувса назад. Хлопца русалкы нэ чэпалы. Колы вэрнулыса родзіцелі, він всэ ім расказав.

***Запісана ў в. Ласіцк Пінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Мількевіч Ульяны Піліпаўны, 1925 г.н.,***

***студэнткай Паўлавец В. (2006 г.)***

Русалкі гэты тыя дзяўчыны, якія ўтанулі. Ані прыгожыя, маладыя, з дліннымі і зялёнымі валасамі, украшанымі водараслямі. Ані маладых хлопцаў хватаюць за ногі і цянуць іх на дно возера. Вместа ног у іх хвасты. А хвасты ў іх, як у рыб, з чашуёй. Яна пераліваецца разнымі цвятамі. Плёскаюць яны імі па вадзе, і брызгі ляцяць у разныя стораны. Кагда ані плаваюць вечарамі на возеры, песні паюць. Галасы ў іх прыгожыя. Нялься слушаць песні, якія яны паюць, таму што забалець можна.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Русалка – гэто молодая дзеўка, шо жыве ў вадзе, з зялёнымі валасамі, мае хвост рыбы і доўгія валасы. Вона могла забраць з собою на дно молодого хлопца, шоб быў ён мужэм, а дзевок вона только пужала.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Такая нечысць, як русалка, паказваецца людзям вельмі часта. Потому ў ее верацъ почці ўсе. Русалкамі становяцца людзі, которые ўмерлі на русальны тыдзень – пасля Тройцы. У гэты тыдзень русалкі не хаваюцца, гуляюць па жыці, возле рэк. Так заўсёды старые казалі. Выглядаюць русалкі бы молодые красівые дзеўкі з роспушчанымі косамі. Хвост рыбін у іх бывае только ў водзе, на земле ж – чоловечыя ногі. На русальны тыдзень коло жыта блізко ходзіць не трэба – русалкі залоскочуць. Тые, хто бачыў іх, расказваюць: воны танцуюць, хороводы водзяць, весяляцца, бы й обычные дзеўкі. Потому што только на гэто врэмя Бог разрэшае русалкам показвацца на землю. Тут воны ўспомінаюць свою прэжнюю жызнь. Чоловека, которого зловяць, заслокочуць до смерці не со зла, а потому шчо веселіцца хочуць, меры не знаюць.

А ў нас коліся буў случай. Дзеўкі з села захоцелі пожартоваць. Пороспускалі косы і коло рэкі на дуба залезлі. А мужчына сено згрэбаў, почуў нейкі гомон. Пошоў побачыць до дуба, а там дзеўкі з косамі по пояс распушчанымі. Так у бедного со страху і серцэ стало.

***Запісана ў в. Сямігосцічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Баган Наталлі Сцяпанаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Тарасевіч М. (2003 г.)***

## Хлеўнік

У нас яго дамавіком называлі. Прынёс мой Вася авёс каню, паставіў, а сам выйшаў, а калі вярнуўся, то хтосьці гэтага аўса ўжо каню ў карыта насыпаў.Вася прыйшоў, кажа: "Чаго ты аўса каню багата дала?" А я кажу, што не давала нічога. То ж, наверна, дамавік быў. Бывае, у каня і грыва, і хвост пазаплятаны. Гэта дамавік любіць эта рабіць. Эта мог здзелаць такое ён. Калі ён узлюбіць скаціну, то не будзе яе чапаці, а не то – ждзі бяды. Нада, штоб у хляве чыста было. Ён можа шкодзіць скаціне.Бувала, карова мычыць. Зойдзеш – няма нікога. Ён можа на ёй ездзіць. Тады яна малака мала даваць можа. Васіль казаў, што дамавік сарок баіцца. Калі паселіцца злы дамавік, то ўжэ нада прачытаці малітву ў хляве і дубцоў пасвечаных колькі там аставіць. А ў мяне быў, то непаганы дамавік, добры.

***Запісана ў в. Асарэвічы Брагінскага р-на***
***ад Свірыдзенка Ганны Міхайлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Свірыдзенка Г. (2004 г.)***

У каждым двары ёсць хлеўнік. Ён адказвае за жывёлу, то есць ахраняе жывёлу. А хлеўнікі тожа могуць быць і харошыя, і плахія. Калі харошы хлеўнік, дык ён нічога плахога скаціне не дзелае, а еслі плахі пападзецца, то можа жывёлу мучаць. Гавораць: "Хлеўнік заездзіў" ці карову, ці каня. Ета калі хлеўнік садзіцца вярхом на жывёлу і пачынае ганяць яе і мучыць, катацца. Скаціна тады ўтомленая, мокрая ад поту.

***Запісана ў в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Падзянковай Марыі Аляксееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Падзянковай С. (2004 г.)***

Хлеўнік – гэта ў сараі каторы жыве. Гэта каторы за скацінай глядзіць, гэта харошы, гэта хазяін. Маленькі… Ён і скаціне косы запляце. Косы ўсігда заплятае коням. Ён плахога нічаво не дзелае. Хлеўнік, ён усігда глядзіць за скацінай. Хлеўнік самы лучшы са ўсяго хазяйства.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цубашава Эдуарда Фёдаравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Чураковай Ю. (2010 г.)***

Ну, хлеўнік у сараі жывець. У мяне няма хлеўніка. Ета матка пакойная скрозь расказвала, што хлеўнік у сараі ў нас жыў. Мы ў настаўніцы жылі тады. Ну, я шчэ малая тады была. Вот матка гаварыла, што даіў карову хлеўнік, ганяў яе ўсё па сараю. Матка ўжо ні знала, што дзелаць. А тады ўжо прапаў ён. Ні знаю чаго. Знаю, што матка пасвяцонай вады насіла туды скрозь.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Хлеўнік ў сараі жывець. У нас даіў карову хлеўнік. Ужо не зналі, што дзелаць. Налілі туды святой вады, і прапаў ён.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Хлеўнік – ета той жа дамавы, які ноччу ходзіць у хлеў і ездзіць на конях і можа так замучыць, што конь можа дажа і памерці. Свіней і другіх ён не трогае, толькі можа трогаць яшчэ і карову. Хлеўнік удзень жыве ў доме, а нанач ідзе ў хлеў. Ён не любіць, калі на ганку сядзіць кот ці сабака, бо ён іх баіцца. Тады ён злуецца і сільней мучыць каней. У мяне хлеўнік не жыў, а ў суседкі так мучыў каня, што той чуць не памёр.

***Запісана ў в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Казловай Тацяны Мікітаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Валчковай Т. (2004 г.)***

Хлеўнік жыве ў хляве з коньмі, каровамі. Не любіць коз і казлоў, сарок.

Калі хлеўніка звесці, загіне ўвесь скот.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Хлеўнік жыве высока на куросадні. А шчэ можа выбраць любое места ў хляве. Бачаць хлеўніка толькі некаторыя, а мне ета ўдалося. Раз бачыла такі маленькі беленькі і пушысты камочак. Чую, карова мычыць не сваім матам, прыйшла, а яна ўся мокрая ад поту, і нешта спрыгнула з яе, шусь – і няма. Мы потым чуць ад гэтага духа ізбавіліся, доўга ён з нас усе сокі цягнуў. А памог звычайны казёл, яго хлеўнік моцна не любіць.

***Запісана ў в. Барталамееўка Веткаўскага р-на***
***ад Кавалёвай Вольгі Сцяпанаўны, 1948 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Калі хлеўнік пачынае нядобрае дзелаць, дык нада хутчэй яго высяляць. Але ж не так лёгка гэткае зрабіць. Людзі розныя спосабы прапаноўваюць, ды толькі не ўсе яны дзействуюць. Я раскажу пра спосаб шчэ маіх дзядоў. Нада ўзяць лентачку любую, але лучшэ льняную, пасвяціць у царкве, а можна і дома акрапіць святой вадой. Затым ету лентачку на шыю к скаціне прывязаць. Дык хлеўнік пасля етага знікне.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Ён жыве ў хляву, аберагае скаціну. Увайшоўшы ў хлеў, нада яму пакланіцца, сказаўшы: "Добрае ўтра ілі вечар, хазяін скацінкі мае і хлева майго"! Ён аберагае скацінку ад балезней, ад урокаў, ад паганых вачэй. У хляву нада, штоб было чыста, усягда падаслана салома пад ногі скаціне. Хламу ніякага нельзя лажыць у хлеў, бо ён можа абідзіцца і натварыць бяды.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Хлеўнік злы сільна. Ён над жывёлай здзекуецца. Аднойчы раніцай прыходзім у хлеў, а конь увесь, як у мыле. Тады бацька сказаў, што так хлеўнік ноччу на нашым кані скакаў. Ды ета яшчэ нічога, а ён можа скаціну і са свету звесці. Калі хлеўнік скаціну не ўзлюбіць, то гаспадарам мала што паможа. У етым случаі нада ад хлеўніка ізбаўляцца. У нас казалі, што лепш усяго на дзверы забітую сароку павесіць.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Пілipаўны, 1933 г.н.,***

***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Хлеўніка адны любяць, а другія вельмі сільна баяцца. Аднак тут усё ад чалавека залежа. Калі мужык добра сваю скаціну даглядае, то яе і хлеўнік любіць. Жыве хлеўнік высока на столі. Ежалі хлеўнік сільна палюбіць скаціну, то точна будзе ў любімага каня пад бокам спаць. А коні тыя на цацку будуць пахожы. Хлеўнік, як і дамавы, сільна любіць цёплыя рэчы, асабліва кажух. Таму, калі штосьці не ладзіцца ў хазяйстве, нада хлеўніку добры падарунак зрабіць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікава Івана Дзмітрыевіча, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Знаю, што нада с ним па-харошаму, злить нельзя. Нас мамка с бацькай, ой, как ганяли, шо б мы па хазяйству памагали. У нас бальшое хазяйства была: и куры, петухи, и кролики, и свиньи, козы, карова с теленкам. За всеми сматреть нада была и кармить, и пасти. Тяжело была, а все равно работали, хоть и малые были еще.

Адин раз был случай такой. Хто-та в курятник залез и курей падушил, так матка гаварила шо ета хлевник, патаму што плоха почистили в хлеве. А кагда батька паймал рысь и дамой принес, так все панятна стала. Ана и у соседей палазила, не толька у нас.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдарауны, 1926 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Мне расказвалі пра істоту такую, якая жывець у хляве, але я нікагда яе не відзела. Казалі, што выглядае ён такім малым, худзенькім дзядком і жывець ён у хляве. Робіць ён усялякую шкоду, можа падаіць карову, тады ў каровы няма малака. Бываець, што ездзіць на канях, з-за чаго яны тады худзеюць. Але кажуць, што калі гаспадар добра адносіцца да хлеўніка, тады ён не шкодзіць, а дапамагае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Хлеўнік – гэта дух, жывучы ў хлеве, ахраннік жывёл. Не помню, штоб яго можна было ўвідзець. Кагда к яму добра адносяцца хазяева, то і ён беражэ жывёліну: чысціць грыўкі, хвасты, поіць яе вадой. Бывае, што хлеўнік можа быць урэдны. Тады ён мардуе скаціну. Тагда яго зганяюць, каб не гарцаваў на конях.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Хлеўнік жыве ў хлеве. Ёсць такія духі, праўда, я нічога такога не бачыла.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Хлеўнік жыве ў хлеве. Гэта нейкі невялічкі чалавек, якому трэба ўвесь час дагаджаць, тады ён будзе ахоўваць жывёлу. Але казалі, што калі завядзецца хлеўнік – гэта дрэнна, таму што жывёла гіне.

***Запісана ў г. Гомель***

***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Хлеўнік у нас не жыў. У саседзей ён быў, у іх скаціна часта балела, а ён балезні прынасіў. А ў нас толькі куры былі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Хлеўнік жыве ў хлеве. Гэта нейкі невялічкі чалавек, якому трэба ўвесь час дагаджаць, тады ён будзе ахоўваць жывёлу. Але казалі, што калі завядзецца хлеўнік – гэта дрэнна, таму што жывёла гіне.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Если в хлеву заводился зверек, то отбирал молоко ад худобы. Садится на вымя или на спину, и утром корова остается без молока.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Маісееўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Да, была у нас такая беда. Ласка заплетала лошадям косы. Щекотала лошадей до пота. Если ласка привяжется, то утром лошадь не могла работать. Выпивали куриные яйца. Ее видели. Зверек, как белочка. Выпивала у коровы молоко. Сосала вымя, ну и все, а сколько надо ей было.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Парцянкова Яўгена Дзмітрыевіча, 1941 г.н.***
***(перасяленца з в. Турск),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Казалі, што хлеўнік – гэта малы худы чалавек. Ён жыве ў хлеве. Ён больш шкодны, чым дамавы. Ён ездзіць па начах на конях, з-за чаго яны худзеюць, слабеюць і могуць здохнуць. З хлеўнікам можна падружыцца, але як гэта зрабіць, я не ведаю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Хлеўнік пахожы на дамавіка. Ён скот не любіць. Ганяе ноччу кароў ў хлеве. Раніцай прыходзіт хазяін, а карова стаіць мокрая.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Хлеўнік жыве ў хляве. Гэта нядобрая істота. Ён робіць, каб жывёла хварэла, забірае яйкі. Гэта злы сябр дамавога. Бывае, ноччу так палохае скаціну, што тая памірае. Кажуць, што трэба асвяціць хлеў, тады ўсё будзе добра.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***

***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Ён (хлеўнік) жыве ў хлеве. Казалі, што яго нельга гневіць, бо ён іспорціць жывёлу. Бралі вядро вады і разлівалі яго на чатырох вуглах, клалі кусок хлеба на белую трапачку, ставілі іконы.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Ужо некалькі начэй падрад наш дзед Мікола прачынаўся ад шуму ў хлеве. Моцна іржаў конь, мычалі карова з цялём, хрукалі свінні. Хутка апрануўшыся, запаліўшы лямпу-керасінку, ён бег у хлеў. Увайшоўшы, ён бачыў перапалоханую жывёлу. Мокрыя ад бегу, яны ціснуліся да сцяны, моцна нюхалі паветра, чмыхалі і з жахам паглядалі ў левы куток хлева. Дзед з лямпай хадзіў па хлеву, гладзіў перапалоханую жывёлу, хлопаў па баках і, як і раней, нічога не зразумеўшы, ішоў у хату.

На другі дзень дзед рашыў падпільнаваць, хто ж гэта палохае яго жывёлу. Ён сеў на бервяно каля дзвярэй, загасіў лямпу і пачаў чакаць. Раптам заржаў конь, за ім замычалі каровы, захрукалі свінні. Акрамя гэтага дзед пачуў і нешта яму да гэтых пор незнаёмае. Гэта было крыху падобна на сабачы візг, нейкае рыканне. Дзед хутка адкрыў дзверы і ўскочыў у хлеў. Там, у левым вугле, сядзела нейкае чудзішча махнатае з палаючымі чырвоным колерам вачыма і длінными, як у асла, вушамі. Яно было невялікае, белага колеру, з доўгім тонкім хвастом і лапамі, як у сабакі. Дзед перапалохаўся і пачаў хрысціцца. Чудзішча заплакала, нібы дзіця, і знікла.

Раніцай дзед пайшоў да бабкі, якая ў вёсцы была знахаркай. Яна сказала, што гэта звычайны хлеўнік. Яна ўзяла свечку і пайшла туды. Узяла свечку ў левую руку і абыйшла хлеў па ходу сонца, хрысцілася правай рукой і чытала малітвы. Пасля таго хлеўнік знік.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Хлеўнік жыве ў хляве. Калі хлеўнік памрэ, то скаціна не будзе вясціся ў хлеве. Хлеўнік заезджывае коней, кароў. Яго ніхто не бачыў.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Хлеўнік – гэта той чалавечак, што жыве ў хлеве. Раньшэ людзі гаварылі, што хлеўнікі сільна любяць ездзіць на конях, а такжа пугаць другую скаціну – кароў, свінак.

Раз праснулася я рана і пачула штo-та нядобрае. Устала я і пайшла ў хлеў. Рагулька мая цяліцца даўжна была. Падыходжу, ажно бачу, конь, усягда ціхі, як-та странна вядзе сябе: бегае, капытамі стукае. І Рагулька сільна валнуецца. Ня поняла я тады, чаго гэта скаціна так сябе вяла. А ўтрам сусед сказаў, што гэта хлеўнік скаціну валнаваў.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Содаль Яўгеніі Сямёнаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Кравец І. (2003 г.)***

Хлеўнік – эта дух, каторы жыве ў хлеве. Ён можэт не тока памагаць свайму хазяйству, но і шкодзіць яму. Яны любяць не ўсю жывёлу. Еслі хлеўніку нравіцца хазяін, то ён памагае жывёле: корме яе, чысце. А еслі не нравіцца, то наадварот, іздзіваецца над скацінай. Ё плахія хлеўнікі, якія заязджаюць на кані ў хлеў і спецыяльна порцяць жывёлу. Еслі хочаш выгнаць плахога хлеўніка, то ў хлеў прыводзяць казла, каб хлеўнік ісчэз.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Ён мучае жывёлу ў хлеве. Страшны такі, лахматы. Толькі малітвамі яго можна выгнаць з хлеву.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Багуновай М.І., 1930 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

У мужыка былі 3 кані. Аднойчы заходзіць у хлеў, а конь у мыле. Аказваецца, хлеўнік шчыкоча каня, а той бегае па хлеву. Калі ў хлеве многа кароў і каней, то хлеўнік не зашчыкочвае, а калі адзін, то зашчыкочвае да смерці.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Бураковай Ніны Максімаўны., 1934 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Жыве ў хляве, яму трэба ўвесь час дагаджаць, тады ён будзе даглядаць жывёлу. Кажуць, што калі завядзецца хлеўнік, дык ета плоха, бо жывёла гіне.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Дзела была ў Лозаве. Значыць, зайшоў я раз у хлеў, каня паставіў, даў яму хлеба і пітва. Бо назаўтра гарод пахаць. Устаў ураннi, от эта ж во худобіну пакарміць нада дай трэба ж ісціць за канём. Адкрыў хлеў – не пазнаю каня. Стаіць, ноздры раздуў, фыркае і на мяне, як елапунь, глядзіць. Я – за яго, а грыва ў каня ў касу ўплецена і красна лента ў касе. Што гэта – не ведаю... но конь цэлы дзень не даваўся.

***Запісана ў в. Варатын Калінкавіцкага р-на***
***ад Пятрук Вольгі Карпаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Астапенка М. (2008 г.)***

Хлеўнік – гэта чалавечык, які жыве ў хлеве. Кажуць, што ён сільна плахі. Дык калі нешта западозраць, што ён у сараі пасяліўся і шкодзіць скаціне, то яго ўсімі сіламі выганялі адтуда. А вось, калі ў гаспадароў былі ў сараі конь ды кароўка, тады хлеўніка не баяліся, бо казалі, што ён спрыяў кароўке і коніку. І нават было, што раніцамі яны чыстыя-прачыстыя. Казалі, што гэта хлеўнік іх так вычысціў уночы.

А ізбаўляліся ад хлеўніка во як: перад тым, каб вывесці жывёліну ранкам, абматывалі скарынку хлеба ў трапку, абходзілі карову 3 разы і нешта гаварылі, але што, я не ведаю. Даўно мне ета ўжо бабка расказвала. Дык во, тагда считалі, што ні адзін нячысцік і блізка да жывёлы не падойдзе, а яшчэ ніколі не паселіцца ў гэтым хляве.

***Запісана ў в. Сырск Кармянскага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Ягораўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Новікавай Г. (2006 г.)***

Хлеўнік – гэта істота, якая жыве ў сараі. Ён смокча карову, і тады яна не дае многа малака. Можа карова захварэць ад гэтага, не браць сена, піць. Карова не хоча заходзіць у хлеў, баіцца. Трэба ўтыкнуць у кутку пасвечаную вербу, папырскаць сарай свячонай вадой.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Кацуба М.Х., 1921 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

Хлеўнік – гэта дрэнная істота. Яна шкодзіць жывёлам, якія абітают у этам хлеве. Нужна пазбаўляцца ад хлеўніка.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Хлевнік жывёт у хлеве. Хлевнік дзелает зло жывотным, якія есць у етым хляве. Трэба аберагацца ад хлеўніка, штоб жывёлам добра было жыць.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Хлеўнік – гэта дух, які жыве ў хляве. Ён жыве ў заднім вугле хлява або садзіцца на курынае седала і адтуль назірае за жывёлай. Хлеўнік добра адносіцца да коней і кароў, не вельмі любіць коз і свіней, не пераносіць казла.

Калі гаспадар добра адносіцца да хлеўніка, той дапамагае яму. Але часцей людзі лічылі, што калі ў хлеве ёсць хлеўнік, то хварэе і нават гіне скаціна.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Мне расказвалі старые людзі, шо ў каждам хлеве жыве такі звер, каторый наглядае за дамашней скацінай. Называюць яго хлеўнік, а па другому – ласка. Ва врэмя ночы он заплятае каням грывы і хвасты, а каровам – хвасты проста. Некаторыя жывотныя, каторым не нравіцца эта, ані начынают гарцэваць па хлеву. І утрам, кагда заходзім у хлеў, тые жывотные, каторые этага не любяць, стаяць у мыле, мокрые, у пене. А тые, каторым эта нравіцца, – грыва і хвост у каней заплецены ў касічкі. А ў каровы – хвост.

***Запісана ў в. Дзяржынск Нараўлянскага р-на***
***ад Пінчука Аляксандра Іванавіча, 1976 г.н.,***
***студэнтам Каравякіным Ю.***

З хлеўнікам я ніколі не сустракалася. Але мая маці казала, што вельмі дрэнны звер. Асабліва шкодзіць каню. Ноччу можа залезці на яго і заганяць амаль да смерці. Але гэта тычыцца не толькі каня, але і каровы.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Хлеўнік – ето што ў хлеве жыве. Нічого харошаго ён не робіць. А толькі худобу порціць. Прыхожу я адзін раз раненько карову даіць, а ена ўся мокрая, потная. Ето хлеўнік ее так заездзіў. І малака ена мало дала. А бачыць я его не бачыла. Толькі

знаю, што трэба вешаць убітую сароку, ён ее баіцца. Не будзе займаць худобу.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Знаю яго. Жыве ў хляве і скача на жывёле. Неяк суседка казала, што нешта карова яе як здурнела, дык то ж ён, гэты хлеўнік, мучыў яе. Трэба яго не злаваць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Гэта такі чалавечак, як дзед стары. Жыве ў хляве. Ахраняе жывотных. Но як яго ўзліш, начынае іздзевацца над імі: то карова захварэе, то ацельваецца цяжэло. Я думаю, што жыве ён у кожным хляве. Нада толькі не ўзліць яго. Тады ўсё будзе добра.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Хлеўнік – злы дух, які врэдзіць худобе. Калі хлеўнік паяўляецца, то гавораць: хлеўнік, чаго ты прыйшоў сюды, зло прынёс? Калодай залажу, зялёным тынам агараджу, зялёным макам засаджу. Чорнага маку не падабраць, калоды не запаліць, зялёнага тыну не перарваць, злога духа ў хлеве не бываць.

***Запісана ў в. Лучын Рагачоўскага р-на***
***ад Брылёвай Праскоўі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Лебедзевай В.***

В сараі цёшча дзяржала адбіты рог каровы, падвешвала да паталка, каб у хляве ўсё добра было, ці дзяржала жоўць, каб не вадзіліся хлеўнікі. А калі я быў малы, то ў нас дома скаціна не вадзілася. Жыве кароўка два-тры года і памірае. То людзі гаварылі, што нада нячысціка вывесці.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Зямляніка Віктара Сцяпанавіча, 1949 г.н.***

Гаварылі людзі раней, што ў хлеве жыве ласіца. Яна многа шкоды дзелае людзям. Ласіца – ета дамавы, каторы жыве ў хлеве. Ён можа сільна заганяць скаціну ноччу. Утрам кароўка выходзіць з начы ўся мокрая.

Мяне вучылі, што нада тады кароўку абціраць, нада свечачку запаліць і хадзіць вакруг яе, падкурваць, тады ўсё пройдзе. Ласіцу ніхто не бачыць. У хлеве нельзя ругацца, нельзя чалавеку апраўляцца, патаму што ласіца разгневаецца.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Хлеўнік жыве ў хлеві. На каго ён паходзіць, Бог яго ведае, а то, што ён не спрыяў у хазяйстве – гэта точна. З каровай ён не дружыў. Наша карова саўсім давала мала малака. Яно было пустое, без смятаны, як вада. Масла мы ніколі не збівалі. І тады нам людзі пасаветавалі ету карову прадаць і чараз другія рукі сказалі, што яна перародзіцца. Карову хлеўнік часта ганяў. Мы так рашылі таму, што калі ўранні заходзім у хлеў,

карова стаяла напужаная, з рота вісела пена, не падпускала, каб яе падаілі, біла капытам па даёнцы. І адзін раз зайшлі ў хлеў, а яна ўжо здохла. Хлеўнік тожа не любіў і свіней. Яны ў нас тожа не вяліся. Яны ў нас дохлі ці маленькія, ці бальшым кабаном. Быў такі случай, калі апарасілася свіння, то ўсе 8 парасятак у адзін дзень здохлі. Ё такая прымета, што, калі купіш парасёнка, яго нада занясці ў хату і абвесці кругом стала 3 разы, тады ўжо гаварацъ, што хлеўнік падружыцца са свіннямі. Вот такія бываюць злыя хлеўнікі.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Хлеўнік скаціну ахраняе і глядзіць, штоб у хляве быў парадак і скаціна не балела. Ад ведзьмаў ахраняе.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Хлеўнік – гэта той, што жыве ў хляве, але яго ніхто не бачыў. Некаторыя гавораць, што ён выглядае як дамавы, а некаторыя – малы, то есць нізкарослы стары дзядок, вось такі неакуратны. Хлеўнік можа і выйсці на вуліцу, але недалёка ад хлява, дзе ён пасяліўся, ну, на еты двор. Ён шкодзіць той скаціне, якая яму не спадабалася, катаецца на ёй усю ноч, што нельга потым выгнаць яе на пасбішча. Карова ці конь узмурнелыя. А якая скаціна яму спадобілась, то расчэсвае яе, чэша спіну, піць вады падлівае, сена прынясе, і такая шэрсць у гэтай скаціны аж блішчыць.

Каб выгнаць паганага хлеўніка з хлява, трэба павесіць дзе-небудзь у хлеве, лепей у яком куту, забітую сароку. Ён чагосьці яе баіцца. А еслі і гэта не дапамагло, то трэба прадаваць ці ўбіваць жывёлу.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Хлеўнік – ета такі дзед, а ў яго яшчэ брат младшанькі ёсць – дамавы, ён яго баіцца, бо хлеўнік набагата яго злейшы. Хлеўнікі розныя бываюць. А як карову прывядзеш, дык калі яму яе масць не спадобіцца, дык і будзе яе па начам ганяць, а ўранні бедная кароўка ўся мокрая. І калі етую карову не звезці з хлеба, то хлеўнік яе заганяе, дык тая здохне. Трэба ведаць, значыцца, якую карову прыводзіць у двор, каб тая масці была такой, каб хлеўніку спадабалася. Калі яму добра жывецца ў хлеве, дык ён абараняў жывёлу ад вароў, хваробы, розных звяроў. Як сонца ўзыходзіла, дык ён і пеўня мог пабудзіць, каб той у свой час пабудзіў гаспадароў. З ім добра жывецца, калі яму добра рабіць, то і ён будзе дапамагаць у гаспадарцы. Мог крыс ці тхароў лавіць, каб тыя кур не елі.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Пашла я аднойчы карову даіць. І так вот ухожу ў стойла і – “шысь” белая штота. Думаю, што кот, но еты жа большы за ката. Мы так з дзедам і забеспакоіліс, і так вот дзед прыдумаў паставіць заркала. Вот як буду даіць карову, адным глазам у зерка-

ла паглядваць, авось і вернецца. На жаль, больш не ўбачыла.

Выглядзіць хлеўнік як высокі чалавек, ва ўсім белым, і ў яго яшчэ такія вот, як у камандзіра, белыя блісцяшчыя пугавіцы. Сільна нада быць астарожнай з каровай. Кагда хлеўнік зазліўся на сям'ю, то ён карову ці то, бывае, кабылу ганяе па хляву, і ўтрам яны мокрыя, тады трэба ці лучш карову памяняць, ці хлеўніка задобрыць – угасціць чым смачным.

Бывае, што хлеўнік можа ператварыцца ў ката. Усягда нада астаўляць дзве місачкі малака – кату і хлеўніку. Адным словам, хлеўнік – ета той самы дамавы, толькі што жыве ў хляве.

Шчэ хлеўнік прэўрашчаецца ў ласку. Ласка – ета маленькая жывёлка, трохі што меншая за белку. Сільна апасна, кагда хлеўнік у ласку прэўрашчаецца, бо яна малако з каровы здойвае, грывы кудлаціць каням, што не расчасаць, не разгрэбці.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Хлеўнік – гэта такі звярок, які жыве ў хляве разам са скацінай. Ён пахож на ката, толькі такі длінненькі, і называецца ён ласічка. Ласічка лазіць па карове, і ад гэтага яна ўся мокрая становіцца і балее.

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на***
***ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Хлеўнік жыве ў хлеве, можа пужаць жывёлу. Калі завёўся хлеўнік, то ў жывёлы плечы будуць мокрымі, таму што хлеўнік бегае за ёй, шчакоціць. І карова ўсяго малака тады не аддае. Каб выжыць хлеўніка з хаты, трэба павесіць на дзвярах у сараі забітую сароку.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Бабкуновай Еўдакіі Ягораўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Кебікавай Т. (2006 г.)***

Хлеўнік – гэта нячысцік, які жыве ў хляве і пужае жывёлу. Ён вельмі дрэнны. На выгляд хлеўнікі маленькія і бяленькія. Асабліва хлеўнік пужае каня. Ён можа ўсю ноч на ім ездзіць, пакуль той не ўпадзе і не памрэ. Хлеўнікі вельмі баяцца сарок, таму кожны гаспадар падвешваў мёртвую сароку каля хлява. Самаго хлеўніка ніхто не бачыў, бо ён выходзіць толькі ноччу.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Калі хлеўнік палюбя якую скаціну, тады яна спраўная ходзя, красівая. Адзін дзед расказваў, што бачыў – стаіць хлеўнік, а вакол яго конь бегае кругамі. Дык той конь пасля таго лятаў, як птушка. Блісцяшчы, добры быў, хуткі.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Лабкоўскай Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Хлеўнік – гэта істота, якая жыве ў хляве. Калі дюдзі дазнаюцца, што ён завёўся,

адразу стараюцца яго выжыць. Ён лічыцца вельмі шкодным. Сама я яго не бачыла, але знаёмыя казалі, што ён псуе жывёлу. Ён вельмі страшны.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Я ад мамкі чула, што быў у нас у хлеўчыку хтосьці. Бывае, ноччу ўстанеш ды чуеш, как па хляўку скацінка бегае. Мама гаварыць, што відала яго. Такі маленькі, як сабачка, ды валасаты. Валасы ў яго рыжыя і на руках, і на нагах, а хваста няма. Ганяе ён скацінку, таму што яна не падабаецца яму. Ганяе яе да тых пор, пакуль кароўка не ўпадзе. Перастае яна з-за яго малако даваць. Таму нада купіць другую кароўку, якая спадабалася б хлеўніку. Тады ён не будзе чапаць жывёлу.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Хлеўнік – гэта вельмі плахі дамавы, які жыве ў хляве і па начах заезджвае коней і кароў. У нас яго яшчэ называюць ласіца. Як хазяін зайдзе ўранку ў хлеў і ў каня ідзе пена з рота, і вон мокры, то значыць, гэта была сама ласіца. Яна яшчэ коням заплятае грывы і хвасты, таксама каровам хвасты заплятае.

Раз мой мужык уначы пачуў, як наш конь іржаў. Вон узяў фанарык і пайшоў у хлеў. Кажэ, зайшоў і ўбачыў, што на коне сядзіць некі чорны звер і вон хлопае па коню, царапае яго. Мы ўзялі, забілі сароку і павесілі ў хляве. Пасля таго больш ласіца не ездзіла на коні.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

У хляве жывець хлеўнік, па двару ходзя, скот шчакоча. Ня відзела толькі ні разу яго.

***Запісана ў в. Гатавец Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Салдаценка Феадоры Пятроўны, 1923 г.н.,***
***студэнткамі Казловай Ю., Анісавец Т. (2003 г.)***

## *Цмок*

Даўней жа былі такія рекі нячысленныя! У іх ніхто не хадзіў. Там жыло многа змееў, якія людзей давілі. Былі такія змеі, якія на галавах па 11 галоў насілі. А патом вада стала збягаць і рек стала мала. А Цмок, ён адзін жыў. У яго рогі і рот такі бальшэнны, можа паўтара метра і ён чалавека сразу праглынае. А сам бальшы такі змей. Усегда ў вадзе жыве.

Здаўна-здаўна ды былі людзі, яны не верылі Госпаду Богу, а верылі паганаму Цмоку. А етаму Цмоку, а кожды дзень па аброку – па чалавеку. А дайшла череда да са-

мога царя: “Хоць сам царь ідзі, хоць дачку шлі!” А сам царь ня йдзець, а толькі дочку шлець: “Ідзі, цареўна, к сіняму морю, к самому Цмоку!” Ідзець цареўна, плача-рыдае ды к сырой зямле прілегае. А навстречу ей Юрій-Ягорій на сівым кані: “Не плач, цареўна, не плачь, не рыдай, а к сырой зямле не прілегай! На табе, цареўна, шнуры залатыя, закідай Цмоку на рогі крутыя. І вядзі Цмока к царю на двор, прівядзі Цмока за жалезны стоўб”. А царь у ваконца ды зазірьвае, гарячу малітву ен зычытывае: “Хто етага Цмока і з двара звядзець, хто етага Цмока ды кап’ём праб’ець, аддаю я яму полцарства і дочку-цареўну”. А едзе ж то Юрій, Юрій-Ягорій на сівым кане: “Я етага Цмока ды з двара звяду, я етага Цмока ды кап ём праб'ю. А не нада мне палавіна царства і твая цареўна, а застрой-ка ты цэрькаўку, штоб людзі хадзілі і Богу малілі”. І ён яго ўбіў. Сам на кані сядзіць і кап ём у рот прабіў Цмока.

***Запісана ў в. Новы Мір Веткаўскага р-на***
***ад Хадуньковай Ганны Трафімаўны, 1914 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малінаўка Бранскай вобл.),***
***студэнткай Хадуньковай Н. (2002 г.)***

Пра цмока я ведаю, што гэта страшны змей. Ён шкодзіць людзям, паліць хаты.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Цмок – гэта мнагагаловы змей. Ён вельмі бальшы, з хвастом, длінnымі кіпцюрамі, а з глоткі агонь пускае. Я, праўда, не знаю, дзе ён жыве і ўрэдны ён ілі добры. Но мне кажацца, што цмок злы, як і другія духі.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікадаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Цмок – гэта такі вужака, які адбірае малако ў кароў, ён сільна цмокае, таму яго так і празвалі. Жыве ў зараслях, кучах мусара, каля канавы. Як павадзіцца ў сарай да каровы – спасу няма. Тады трэба яго вылавіць, ноччу падкараўліць, у сараі знянацку свет уключыць і тапаром парубіць.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Ён душу чалавека і жывёлы п’е (цмокае). Змій страшэнны. Чалавек чахне і памірае ад хворы. Гэта цмок яго душу выпіў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Я не знаю, які вон, але людзі кажуць, што вон можэ зробіць плохе чоловеку, а ў короў молоко забірае, а больш про ёго я нічого не знаю. Раз ёго называюць цмок, значыць, вон нешто цмокчэ – смокчэ.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

## *Чараўнік*

Чараўнік – гэта калдун добры, я думаю. Ён абычны чалавек, можа памагаць нам якімі-та спосабамі, сілай. Калдунства, наверна, перадаецца па наследству. Но кроме добрых ё і плахія калдуны, каторыя пасылаюць на людзей розныя балезні і дажэ смерць. Штоб аградзіць сябе ад калдуна, нада знаць нейкія малітвы.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Як і калдун, чараўнік – гэта звычайны чалавек таксама. Валодае магічнай сілай. Можа накінуць чары на чалавека так, што той не выпутаецца з іх.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

## Чорт

Чорт – чорнае сушчэство, з рожкамі на галаве ды капыцікамі на нагах, з доўгім хвастом, як у каровы. Робіць усё плахое: можа пасварыць людзей. Калі заводзіцца ў хаце, значыць, што тут жывуць плахія людзі. Ён жыве ў каміне ці пад печкай. Яго шчэ называюць служкай д'явалу. Калі плахі чалавек памірае, гавораць: “Пойдзе служыць чорту”. А калі ў гразу маланка пападае ў якоесь дрэва, то гаворым, што бог з чартамі расправуляецца. Калі дрэва згарыць, значыць, там чорт жыў, дык таго места абыходзілі.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Ішоў адзін добры чалавек па дарозе. Дайшоў ён да перакростка дарог і бачыць, што нейкі казлёнак бегае і крычыць. Той чалавек ўзяў яго сабе на рукі і нясе. А несці цяжало так, аж пот з мужыка цячэ. Так ён нёс-нёс таго казлёнка, а патом казлёнак як прыгне з рук мужыка, ды як зарагоча дзікім рогатам і знік. Дык ёта чорт быў. Пасмяяўся над чалавекам і знік.

А другі мужык во што гаварыў. Ішоў ён дамоў, прыйшоў, разбуўся, парцянкі павесіў на пячы, каб сушыліся, сам залез на печ і заснуў. А калі праснуўся, гляжу, кажа, а я на дзераве вішу. І парцянкі вісяць на сучках, і сам на дзераве, а яму бачылась, што дамоў прыйшоў. Дык ён злез ды хутчэй дадому пайшоў. А патом людзі старыя разгадалі, як яго ўгараздзіла. Ета яго “чорт папутаў”.

Шчэ было, што ішоў адзін мужчына дамоў і цёмна ўжэ было, а мужчына той п’яны быў. І ўпаў ён у гразь, а якраз той ноччу холадна было, дождж такі ліў сільны. І во ён упаў, і якраз недалёка ад кладаўя, а там знаходзіліся красты. Так ён там праліжаў аж да ўтра і не мог падняцца, быццам бы яго давіла нейкая сіла чорная. Ну, пад утра ўжо як-та ўдалось яму ўстаць. Дык после таго аж урача вызывалі.

А яшчэ расказвалі, як прыйшлі да дзевак хлопцы. Ну селі, гаманілі. А патом адна з іх замеціла, што ў хлопцаў капыта казліныя. Дык усе перапужаліся, а хлопцы прапалі. Дык то былі чэрці, а не хлопцы.

***Запісана ў в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Падзянковай Марыі Аляксееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Падзянковай С. (2004 г.)***

Чорт – втары па сіле после Бога. Ета Бог света. Аднажды ён пайшоў проціў Бога з вастаннем. Бог рассердзіўся і паставіў яго ў царства ночы. Аддаў яму ў памочніцы бабу з касой. Чорт быў маленькі і чорны. У галаве рогі і длінны, касматы хвост, якім мог убіць людзіну. Ногі былі як чалавечыя, толькі лахматыя. Вочы гарэлі агнём, з воч ён пускаў молніі.

***Запісана ў п. Баравое Ляда Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Валчкова Лявона Арцёмавіча, 1928 г.н.***
***(раней пражываў у в. Хоўхлы Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткамі Карташовай Т., Вайцішкінай А. (2000 г.)***

Чорт – праціўнік усяго добрага, увасабляе адмоўныя варожыя сілы. Ён прыносіць людзям толькі шкоду. Можа ператварацца ў чалавека, ката чорнага, ваўка.

Сам ён з выгляду чорны, касматы, на галаве мае 2 рагі, ззадзі каровячы хвост, на нагах капыты, на руках доўгія, вострыя кіпцюры.

Чорт заўсёды сочыць за чалавекам, шкодзіць яму, стараецца навесці на грэх, лічыўся віноўнікам сварак у сям'і. Жыве чорт у балоце, бо нездарма кажуць: "Было б балота, а чорт будзе". Чэрці баяцца толькі грому, бо толькі гром можа іх забіць. Самі яны не паміраюць.

***Запісана ў в. Буркі Брагінскага р-на***
***ад Шкурко Святланы Пятроўны, 1961 г.н.,***
***студэнткай Яфрэмавай А. (2005 г.)***

Чорт – нячыстая сіла. Водзіцца ў балоце, жыве ў балоце. Страшны. З барадой і рагамі. Ёсць хвост. Каб засцярэгчыса ад чорта, на вокнах ставілі крыжы.

***Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Дзянісавай Веры Максімаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Дзянісавай Н., Марчанка Н. (2004 г.)***

Чорт мог быць у выглядзе ўсяго. Як раней хтось нарабіў маладому хлопцу, дык ён ідзе з гулянкі, так гэтая цень (чорт) вядзе яго абы-куды. А потым ён адтуль выйсці не можа аж да самага ўтра. Аднойчы хлапец гэты схапіў гэтага чорта за хвост (толькі, не за той, што атражаўся ў цені), а за яго сапраўдны хвост, пайшоў разам з гэтым чортам у хату. Там ён уключыў святло і гэты чорт ператварыўся ў дзяўчыну, якую ён добра знаў. Ён яе пабіў а потым адпусціў

Казалі людзі, што чорт мог быць у абліччы чалавека. Казалі, што тыя людзі, што нараблялі, душу чорту прадалі. Яшчэ казалі, што чорт баіцца святла.

Калі маладыя жаніліся без бласлаўлення бацькоў, то гэта было вельмі пагана. Казалі, што яны не будуць жыць шчасліва і што ў іхнюю хату ўселіцца чорт, які будзе радавацца, што маладыя пажаніліся самі па сабе. Тыя дзеці, якіх клялі бацькі, былі таксама вельмі нешчаслівымі. Гэтая пракляцце можа перадацца на іх дзяцей. Такія дзеці яшчэ рана паміралі.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

О-о, ён непанятны чалавек. Ну, ні пятак у яго, ні свінога рыла, а рогі – ё. Ні ўсягда чорны ён. Чорта яшчэ апрэдзяліць нада. Усягда ўрэднічае. Такія і людзі бываюць, як чорт. Плахія – гаворась, што чорт.

***Запісана ў в. Рагінь Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цубашава Эдуарда Фёдаравіча, 1940 г.н.,***
***студэнткай Чураковай Ю. (2010 г.)***

Чорт – ета такая гадкая істота з хвастом, казлінымі рагамі і нагамі. Так, чорт сільна пахожы на чалавека, толькі шчэ пакрыты чорнымі валасамі. Я вот чула, што людзей, якія бачылі чорта, многа. Асобенна часта яго бачаць жэншчыны. Вабшчэ чорт рэдка паказваецца ў сваім прывычным відзе. Чорт часта ператвараецца ў жывотных.

Усяк стараецца чорт нашкодзіць чалавеку, хоча ўвесці етага ў грэх, каб забраць сабе яго душу. Вельмі крэпка баіцца краста і малітвы. Ета і ё срэдства проціў разных чарцей. Казала мне матка пакойная, што чорт жыве дзесь у глыбіні зямлі, яшчэ кажуць,

што чорт знаходзіцца ў балотах, шчэ любіць у лазні сядзець. Шчэ знаю я, што жэніцца чорт на ведзьме. Чэрці не паміраюць. Чорт усягда находзіцца ў чалавека за левым плячом. Калі ў чалавека ўсяляецца чорт, то выгнаць яго адтуль толькі знахар можа.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Чорт – ета такая гадкая істота з хвастом, казлінымі рагамі і капытамі. Чорт сільна пахожы на чалавека, толькі шчэ пакрыты чорнымі валасамі. Я вот чула, што людзей, якія бачылі чорта, многа. Асобенна часта яго бачаць жэншчыны. Асобенна часта чорт паказваецца ў сваім прывычным выглязе, часта ператвараецца ў жывотных.

Усяк стараецца чорт нашкодзіць чалавеку, хоча ўвесці етага ў грэх, каб забраць сабе яго душу. Вельмі крэпка баіцца крэста і малітвы. Ета і ё срэдства проціў розных чарцей. Казала мне матка, што чорт жыве ў глыбіне зямлі, балотах, шчэ любя ў лазні сядзець. Шчэ знаю я, што жэніцца чорт на ведзьме. Чэрці не паміраюць. Чорт усягда находзіцца ў чалавека за левым плячом. Калі ў чалавека ўсяляецца чорт, то выгнаць яго адтуль толькі знахар можа.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Чорт прыходзіт у хату, можэт дзелаць вред: хазяеваў паругае паміж сабой ці дзецей.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***ад Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Чорт увесь чорны патаму што, кагда Бог даў у наказанне Адаму і Еве агонь, каб тыя грэліся каля яго на зямлі ды ўспаміналі Бога, ён яго ўкраў, развёў да самага неба і ўскочыў, каб пагрэцца, ды і абгарэў.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Чорт жыве ў балоце. Ён з хвастом, касматы, з рагамі і капытамі, як у каровы.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Чорт – ета такое сушчаство, валасатае, з рагамі, хвастом, капытамі. Ета нячыстая сіла. Ён баіцца краста і малітвы. У нас такія случаі былі, што чорт вадзіў людзей па балоту і яны чуць выбіраліся. Калі хто-та з іх памаліўся, ета і памагло. А вось тыя людзі, што калдуюць, душу чорту прадаюць, а хто на сабе рукі накладвае, таго на тым свеце чэрці мучаць будуць.

***Запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Каленчыкавай Сафіі Аўрамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Гічка Я. (2004 г.)***

Калі ў хаце ля парога і на вокнах павесіць хоць трохі чосніка, то гэты пакаснік не пасмее ў хату ўзлезці. У мяне чоснік на вокнах ляжыць, каля двярэй сохне. Хай толькі паспрабуе ка мне сунуцца, я яго тады павучу. А калі ета не паможа, то на такі выпадак у мяне крыж ёсць. Ён мяне кожны дзень спасае ад усяго плахога. Перад сном чорта памянеш, дык ета нечысць будзе ўсю ноч каля цябе сядзець і сны плахія насылаць, а то шчэ можа хваробу якую прычапіць. Яны ўсе на такую справу здатныя.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Кузьменка Людмілы Аляксееўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Чэрці пахожы на дзяцей малых, але твары ў іх зморшчаныя і старыя. Калі непарадак у хазяіваў на двары і ў хаце, то, значыць, злыдні забраліся. Яны хітрыя, могуць туманам прыкрыцца. Помню, летам то было. Выйшла я на вуліцу, а сонца так пячэ моцна, што доўга і не пастаіш. А тут гляджу – ля хаты туман. Я ўдзівілась тады сільна. А скора на нашу хату няшчасці ўсякія нападаць сталі. Ета тады злыдні туманам прыкінулісь, каб у хату ка мне прабрацца.

***Запісана ў в. Глыбаўка Веткаўскага р-на***
***ад Яфрэмавай Тацяны Антонаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Малады хлапец адзін сільна жаніцца на адной дзеўцы хацеў. А бацькі дачку за яго аддаваць не хацелі: самі ж пры грашах, а жаніх – галыцьба. Дык хлапец вечарам пайшоў на чортава балота. Праз колькі часу на дзеўцы той жаніўся, бо грошы з'явіліся. І ведама ж адкуль. Пажылі етыя маладыя, ды жонка зноў да бацькоў збегла. Людзям гаварыла, што мужык на сябе не пахожы стаў: ругаўся, пабіваў, куском хлеба папракаў. А шчэ казала, што, як звер, на яе глядзеў. І скора пасля таго яго мёртвым нашлі на той чортавай балаціне. Казалі ўсе, і ета праўда, што ў мужыка яе чорт усяліўся.

Чорт часта жэніцца на ведзьме. Бярэ яе, бо яна такая ж нячыстая, як і ён. Калі свадзьбу іграюць, то ўсё вакол нейкі віхур захватвае. Людзі гавораць, што ежалі кінуць ножык туды, то ён пападзе ў якога-небудзь чорта ці другую нечысць.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Талкачовай Антаніны Мікалаеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Чорт – ета такі дух, што жыве для таго, каб людскія душы ў пекла перацягнуць. Адны людзі яму душу аддаюць па сваёй волі, а ў другіх ён яе хітрасцю аднімае. Баіцца чорт крыжа, малітвы, маланкі. Раз мужыкі з поля ішлі. І тут такі лівень з маланкай пачаўся, што ўсе да ніткі прамоклі. Усе мужыкі схаваліся пад адно дрэва, а адзін чалавек – пад іншае. І якраз у ета дзерава маланка і ўдарыла. Чалавека таго спаслі. Але ўсё ж не павязло, бо пад тым дзеравам чорт хаваўся.

***Запісана ў в. Куты Веткаўскага р-на***
***ад Азарушкінай Аляксандры Анатольеўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Чорт жыве ў балоце, заводзе людзей у балота. Можа яўляцца ва ўсякіх месцах, падманываць людзей і зваць іх к сабе. Адзываецца ў адным месцы, паяўляецца ў дру-

гім. Можна ад яго збавіцца пры помашчы малітвы "Васкрэсная". Ён яе очэнь баіцца. Нужна ад яго крэсціцца на ўсход сонца і дзелаць 12 паклонаў.

***Запісана ў в. Неглюбка Веткаўскага р-на***
***ад Герасіменка Ганны Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Лупікавай А. (2006 г.)***

Чорт – ета нячыстая сіла. Ен з рагамі, з хвастом, длінным такім, распушаным, як у каня, рот бальшы, ушы на макушцы вмесце з рагамі, цела ў яго, як у скаціны, шэрсць такая...

Ета была дзела ў 1927 гаду. У нас баба адна ішла дарогай у другую дзярэўню. Там паўз дарогі – рытвіны, парытвіны і больш нічога. Яна ідзе той дарогай, а ён наперад ёй выйшаў і хахоча, і хахоча: "Ха - ха- ха!" Ён стаіць і глядзіць на яе – рогі маленькія, а вушы такія бальшыя і хвост ззадзі. І вот прыг к ей, а яна на каленькі – і Богу маліцца. А ён забаўляе яе, штоб Богу не малілася, а яна усё раўно моліцца, дак ён ныр у нору – і няма яго. А баба тая дак, навернае, кілометраў сем бегла не астанаўліваясь. А патом, як ішла яна дамой, дак яе мужчына справадзіў аж да самага дома.

***Запісана ў в. Новы Мір Веткаўскага р-на***
***ад Хадуньковай Ганны Трафімаўны, 1914 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малінаўка Бранскай вобл.),***
***студэнткай Хадуньковай Н. (2002 г.)***

Калі чорт захоча, то за жонку можа сабе ўзяць простую дзеўку, якая яму панравілася. Але рабіў ён гэта рознымі хітрасцямі: прыкідваўся прыгожым і багатым жаніхом. А дзеўкі ішлі за такога з радасцю ды потым прападалі. Я знаю, што чорта, калі добра прыгледзіцца, можна пазнаць. Вочы ў яго ў любы час чырвоныя і злыя, клыкі відны страшныя, а сам ён любой малітвы баіцца.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Кавалёвай Валянціны Іванаўны, 1946 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Калі бацюшка пяе песню, то людзі павінны стаяць роўна, ногі, рукі трымаць разам, прыжымаць к целу, каб чорт не праскочыў.

Пасля дванаццаці гадзін толькі чэрці мыюцца. Калі ж чалавек ходзіць ў лазню, то там ён выганяе ўсіх чарцей, яны згараюць там, таму што не вытрымліваюць такой жары. Пагэтаму чэрці ходзяць мыцца пазней, як баня астыне. А я эта знаю, таму позна мыцца не іду.

Чарцей ніколі не нада зваць, а то яшчэ сам сабе горш зробіш. Пазавеш рагатага, а ён па тваю душу явіцца. А яшчэ, калі рассыпеш соль, то нада яе праз левы бок выкінуць. Усе знаюць, што злева чорт ў нас ходзіць.

***Запісана ў в. Чамярня Веткаўскага р-на***
***ад Грамыка Марыі Піліпаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Болей усіх чарцей не люблю, бо яны хочуць нашыя душы ў пекла зацягнуць. Я ўжо на свеце пажыла, дык ведаю, што яны робяць. І вы паслухайце. У жанчыны памёр муж. Праз некаторы час з'явіўся яго воблік. Ён хадзіў кожны вечар, дапамагаў па гаспадарству, разам вячэралі. Але калі жанчыне параілі прыглядзецца да гэтай істоты, то яна ўбачыла, што ён мае і рогі на галаве, і хвост. А каб збавіцца ад чорта, трэба ўзяць

свяцоны мак і абсыпаць парог і вуглы ў хаце.

Жанчына ўкрала казу, а калі ёй указалі на ета, то яна сказала: «Клянуся дзіцёнкам, што казы я не брала». Пасля етага яе дзіцё пачало хварэць і памерла. Чорт баіцца агню. Агонь яму вочы слепе, і калі ён гляне на агонь, стане сляпым. Ніколі нельзя каляску пустую качаць, бо чорт туды можа ўлечся, а пасля дзіця будзе плоха спаць.

***Запісана ў в. Шэйка Веткаўскага р-на***
***ад Рослікавай Ніны Канстанцінаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І. (2006 г.)***

Упасі Бог, нельзя пра етага гаварыць у хаце. Ён ё ўсюды. Знешне пахожы нечысцівец на чалавека. У яго рогі, хвост з кісткай, увесь чорны, валасаты. Ён можэт станавіцца прадметам, птахам ці жывёлінай. Многа людзей пагубіў. Кагда хто хацеў убіцца, то нечысць усё адно на трэці раз зацягвае ў магілу. Часта слышала, што гавораць: “Не калышы нагой, чарцей катаеш”. Кагда штось прывідзіцца, трэба хрысціцца і маліцца, чытаць “Отче наш”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Мне рассказывала бабушка очень старенькая. Вселилась она в маленький дом. В нем раньше жил зажиточный человек. Он был колдуном, лечил животных, зверей. В 30-е годы его выселили. Дом стоял пустой. После войны она вселилась. По ночам изза подпола лился неяркий свет, как будто свеча горела, и шум стоял. Однажды на нее что-то навалилось тяжелое, покрытое шерстью и начало душить. Она была комсомолкой и не верила в это. Но начала читать «Отче наш». То, что душило, отступило. Она зажгла керосинку, увидела открытый погреб. На полу стоял гроб. Она увидела хвост. И это что-то затянуло гроб в подпол. Больше оно не приходило.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Балдагова Аляксандра Антонавіча, 1972 г.н.,***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Чорта ўсе ведаюць. Ён злы. Людзей не любіць, таму і шкодзіць ім. Бывае, што з дарогі путнікаў збівае ці п’яных куды зводзіць. Но вось людзі гаварылі, што любіць ён п’яных, аберагае ад усяго. Можа п’яны ісці дамоў і ўпасці і стукнуцца сільна. А калі праснецца, то нічога з ім не будзе, дажа сіняка.

Баяцца чэрці крэсціка нацельнага, ікон, крэшчонай вады. Пагэтаму нужна насіць крэсцік на целе, піць ваду крэшчоную ў цэркві, іконы ў хаце вешаць і асвяшчаць хату сваю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Колас Ефрасінні Сямёнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ляпейка М. (2004 г.)***

Чорт – гэта такі нячысцік, які жыве ў балоце і робіць людзям плахое. Можа і ў балота зацягнуць. Мне бабушка расказывала, якая з ёй здарылася гісторыя. На скрыжаванні 3 дарог, дзе праходзіў шлях, на гары пабудавалі царкву. Вакруг аколіцы было 5 вёсак, каб усе людзі маглі памаліцца ў царкве. Прайшло не многа год і гэта царква па невядомым прычынам ушла пад зямлю. На гэтым месцы абразавалася балота, якое парасло кустарнікам. Каля гэтага балота былі тарфянікі. Вось аднойчы вечарам вярталіся 2 жанчыны з тарфянікаў, праходзілі міма таго балота. І тут раптам яны ўбачылі маленькія агеньчыкі, пахожыя на вочы. Спачатку яны круціліся ў іх пад нагамі. Тады

жанчыны пайшлі хутчэй. Тады тое невядомае пачало кідаць ім пад ногі сена і збіваць з ног. Яно вяло іх па балоту да самой вёскі. Пакінула яно іх у пакоі, калі жанчыны пачалі хрысціцца і чытаць малітву. Тады гэта невядомая сіла знікла.

***

У адной жанчыны муж дужа сільна любіў выпіць. Аднойчы ішоў ён дамоў і здалося яму, што вядуць яго пад рукі. Ён упіраўся, а яго ўсё роўна валаклі (было гэта зімой). Прывялі яго на раку, якая была пакрыта тонкім льдом. І пачалі з ім танцаваць. Яны цяглі яго па гэтаму льду. Потым гэты мужык ледзьве вырваўся ад іх. А калі бяжаў дадому, яму казалася, што хтосьці бяжыць за ім. Пасля таго выпадку мужчына 3 дні праляжаў у ложку, таму што ў яго балела ўсё цела.

***

Аднаму сельскаму пану цыганка прадказала па руцэ дзень і час яго смерці. І сказала, што смерць яму будзе ад вады. Гэты дзень прыходзіўся на адзін з вялікіх праваслаўных свят. Яго родныя і слугі ведалі пра гэта і засцерагалі яго, не пускалі да рэчкі, а калі пускалі, то ставілі ахрану. Аднойчы яму ўсёж-такі ўдалося вырвацца. Невядомая нячыстая сіла цягнула яго да ракі. І вось сведкі гэтай трагедыі расказвалі, як бачылі пана, які нёсся на тройцы лашадзей, невядомая сіла правіла коньмі. І вось прама ў берага ў ваду падае пан. Волны самкнуліся ў яго над галавой.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Пяхота Ганны Мікалаеўны, 1959 г.н.,***
***студэнткай Сычовай Т. (2004 г.)***

Этат в аду жывёт. Валасаты, з дліннымі рукамі в відзе ног, з хвастом.
Чэрці муцяць ваду – прызываюць, штоб хто-та ўтанул. Дзелают плахое чалавеку.
Вот, напрымер, пападзе хто-нібудзь пад машыну, кажуць: “Пацянуў”.
Можа прэвраціцца в любое жывое і нежывое сушчаство.
Будзеш іці, і ў цебе ні з таго ні з сяго столб на пуці вырасце – эта чорт.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

На Новый год, когда гадали, то ходили в баню. Надо было из бани, из каменки, кирпич принести. И вот мужик один пошел, там его черт и схватил, а тот говорит: «Поиграй и брось!» Ну, черт и бросил.

На старый Новый год гадать ходили на перекресток. Ну, и спрашивать стали, а там слышим, за нами погоня – кричат, бегут черти. Мы испугались, тоже побежали, а нам стали кричать люди: «Раскручивайтесь!» А был у нас бодог, в бане спаленный. Ну, мы им водить стали, а если б не было, то так бы и забрали нас.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кастровай Вольгі Мікалаеўны, 1928 г.н.***

У лесе було дзве крыніцы, тамака лес, балота. Мы по брусніцы, по ягоды хадзілі, по буякі, другія ўсякія. З адное крыніцы мы воду пілі ўсё ўрэмя, отдыхалі, яна спакойна була. А з другое крыніцы – не, бо там вода бушовала і река була така зверху бела, як у піві. Так бабы старыя казалі: “Туды не йдзіце, тут піце водзічку. Тамака водзяныя чэрці гуляюць”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шыкун Любові Якаўлеўны, 1934 г.н.***

***(раней пражывала ў в. Галоўчыцы Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Чорт – гэта чалавекападобная істота, абросшая шэрсцю чорнай, з казлінымі капытамі, рагамі і доўгім хвастом. Знаходзіцца ў пекле. Увесь час сочыць за чалавекам, спакушаючы яго на розныя дрэнныя ўчынкі – гэта яго галоўная задача.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Черт является представителем нечистой силы. Черта еще называют дьяволом или сатаной. Это злой дух или глава злых духов, которые противостоят Богу. Они – властелины ада. Черт невидимый и вредит людям.

Больше всего черт боится ладана и креста. Ладан – ароматическая смола, которой окуривают помещение для изгнания нечистых духов.

Если случится в дороге попасть под козни нечистой силы, то надо перекреститься, потому что на кресте был распят Бог и победил этим нераздельную власть бесов.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Емельянавай Алы Георгіеўны, 1965 г.н.,***
***студэнткай Цімафеевай Т. (1999 г.)***

У маёй свякрухі памёр мужык і мы пераехалі з мужам да яе. Праз некаторы час началі заўважаць, што ноччу нехта ходзіць па дому. Спачатку думалі, што гэта хто-та з нас, але хутка высвятлілася, што ў той час, калі мы чуем гэтыя крокі, усе знаходзяцца ў ложку. Калі нехта выходзіў з комнаты паглядзець, то ўсё сціхала. Кожную ноч так чуваць было крокі і прыглушаны стон.

Аднойчы раніцай мы прачнуліся і нічога незвычайнага не ўбачылі. Але як толькі я адчыніла шафу, то адразу заўважыла, што новая вопратка, якая была куплена зусім нядаўна, парэзана на ласкуты. Парэзаныя рэчы пачалі пападацца ўсё часцей.

А калі мы паехалі з таго дома, то ўсё скончылася. Ніхто больш ноччу не прыходзіў. Мне здаецца, што гэтаму «нехта» не хацелася, каб мы жылі ў гэтым доме.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лагуновай А.А., 1932 г.н.,***
***студэнткай Платонавай А. (1999 г.)***

Якая-та сіла е. Калісьці быў выпадак такі. Ішоў мужык адзін, на кане ехаў, на вазу. Воз еты быў пусты, саўсім пусты, а конь так цягне, як-будта там 5 тон і ўвесь у пату. Дык мужык перахрысціўся, памаліўся, і ўсё прайшло.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Алешкі Мікалая Нікіфаравіча, 1940 г.н.,***
***Алешка Ганны Трафімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Анашкінай Н., Тараненка А. (2004 г.)***

Чорт – то анёл, які правініўся перад Богам, і за тое Бог яго пакараў. З таго часу і змагаюцца чорт і Бог за душу чалавека. Казалі, што і іншыя нячыстыя – то таксама былыя анёлы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Чорт – гэта злая нячыстая сіла. Мне ўжо 72 гады, а я ўспамінаю, як мая маці, якая пражыла 90 гадоў, заўсёды гаварыла, што слова гэта вельмі нядобрае, яго ніколі не трэба ўспамінаць. Калі садзішся за стол, то нада перахрысціцца, памаліцца трэба, а слова гэтае ніколі не казаць.

Яшчэ я памятаю, як дзед, які пражыў 98 гадоў, расказваў нам такі выпадак. У яго было шмат дзяцей, трэба было шмат засяваць зямлі, каб пракарміць вялізную сям’ю. Ён амаль на начаваў дома, увесь час у дарозе. Едзе на поле, пакуль едзе, спіць на вазе. Неяк ездзіў у лес карчаваць пні, каб пашырыць поле. Напрацаваўся, стаміўся і стаў вяртацца дахаты. І сустрэўся яму перад суседняй вёскай знатны чалавек. Вось ён і кажа: “Клім, ужэ позна, заедзем да мяне, ты пераначуеш, а раніцай паедзеш”. Дзед не згаджаецца. Тады ён кажа дзеду: “Ну, чорт з табой”. Дзед паехаў сабе дадому. І не паспеў ад’ехаць і пару крокаў, як пачуў голас: “Едзь сюды!” І так доўга зваў. І дзед трапіў у балота. Воз застраў, дзед не на жарт перапалохаўся. І галасы са ўсех бакоў рагочуць, свішчаць, крычаць. А дзед ведаў мноства малітваў. Ён пачаў хрысціцца і маліцца – і раптоўна воз выскачыў з балота. Доўга яшчэ дзед чуў той жа голас.

***Запісана ў в. Глыбоцкае Гомельскага р-на***
***ад Агеенка Таццяны Андрэеўны 1938 г.н.,***
***студэнткай Смолікавай М. (2010 г.)***

Чорт – з хвастом, з рагамі, а хто ён такі – ніхто не ведае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Чорт – гэта маленькі чалавек, у якога замест ног капыты, вострыя вушы на макушке і нос пятаком, як у свінні. Яшчэ ў яго хвост есць, з кістачкай на канцы. Ён сядзіць у чалавека на левым плячы і робіць шкоду заўсёды, не любіць іконы і калі людзі не хрэсцяцца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Платонавай Ірыны, 1986 г.н.,***
***студэнткай Зялёнай В. (2006 г.)***

Чорт – вельмі шкодная істота. Яна можа пашкодзіць ураджай, здзелаць чалавека бальшым грэшнікам, спугаць, наслаць хваробу, спаліць дом. Каб дабіцца дамовы паміж чалавекам і чортам, трэба пайсці ў манахі.

Чорт больш за ўсё баіцца храста. Чорта памінаць нельга, бо гэта вялікі грэх. Чорт можа мець шлюб з жанчынай і народзіцца тады ў яе дзіця з хвастом ці махнатай галавой. Душа самагубцы заўсёды трапляе да чорта, бо забіваць сябе – вялікі грэх.

Нячысты ніколі не можа папасць у царкву.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Калі штосьці згубілася, перавязваюць чорту бараду (ножку стала абвязваюць платком): “Чорт, чорт, поіграй ды зноў аддай”. Яшчэ гаворацьь, што нельга качаць нагамі пад лаўкай – чорта забаўляеш.

***Запісана ў в. Каранёўка Гомельскага р-на***
***ад Шнайдзюк Вольгі Паўлаўны, 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Нажоўка Пермскай вобл.),***

***студэнткамі Цыганковай К., Жытнік І. (2003 г.)***

Раз пайшлі мы з падругай у жыта, калі сцямнела. Бачым – нехта ідзе. Мы схаваліся, каб ён нас не бачыў. Ідзём назад у дзярэўню. Ідзём доўга, а жыта ўсё не заканчваецца і дзярэўні не відна. Тут была – тут няма. Хадзілі мы, хадзілі, утаміліся, селі ў жыце і сядзім. Тут пачало святаць, пятух прапеў. Глядзім, а самі на краю дарогі сядзім, а побач – дзярэўня.

А другі раз пайшлі мы з падругай у другую дзярэўню па полю. Гэта далёка было, больш 5 кіламетраў. Пабылі мы там і назад пайшлі. Доўга ішлі, а дарога ўсё не канчаецца. Бачым уперадзе дамы, падыходзім, а аказалася, што мы неяк вярнуліся туды, адкуль выйшлі.

Гэта нячысты нам розум затуманіў і дарогу напутаў, таму мы і прыйшлі туды, адкуль дамоў вярталіся. А потым у нас разум прасвятлеў і мы яўна дарогу бачылі.

***Запісана ў в. Прасвет Гомельскага р-на***
***ад Майсюковай Марыі Яўгенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Платонавай А. (1999 г.)***

Сабраліся дзеўкі ўтраём, рашылі атмячаць какой-та купальны празнік і пайшлі к раке, а там усё зарошшае камышамі. Яны там дабылі да ночы. Удруг с этага балота выходзяць 3 хлопцы. Эці хлопцы былі очэнь красівыя. Сталі з дзеўкамі знакоміцца і прыгласілі іх танцаваць. Яны ўсе на берагу этага балота сталі танцаваць. Дзеўкі ўсталі і ажно пацець сталі. Адна дзеўка пасматрэла ўніз і ўвідзіла, што ў эціх хлопцаў хвасты балтаюцца і какія-та ногі неабыкнавенныя, будта бы какія-та лапы сабач'і ці волч'і. Дзеўкі перапужаліся і паглядзелі на іх ліца, а ў ніх ужо прама на глазах гэтыя ліца прэўрашчаюцца ў страхі какія-та: у іх паявіліся шырокія крашаныя рты, патом такія небальшыя рожкі, а патом яшчо маленькія ўшкі, і яны панялі, што танцуюць з чарцямі. Слава Богу, у то ўрэмя ў дзярэўні запелі петухі, а ўсе ў дзярэўні знаюць, што еслі петухі прапаюць, то ўся нечысць етая ісчазаіць. І хлопцы абратна ў сваё балота ўшлі, а дзеўкі пабяжалі дамоў і большэ нікагда так позна не гулялі.

***Запісана ў в. Хутаранка Гомельскага р-на***
***ад Андрэйчык Лідзіі Міхайлаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Сярогавай П. (2006 г.)***

Чорты не бываюць align розпага росту: ад аднаго і некаторыя ж дажа да двух метраў. На галаве ў іх можа быць да пяці рагоў. Чорты маюць шэрсць, хвасты, рогі і капыты. Замест носа ў іх маленькі пятачок, на галаве рожкі, але маленькія, мо, санціметраў дзесяць. Праз рогі чорты атрымліваюць адзін ад аднаго нейкія звесткі. Даўжыня хваста такая ж, як даўжыня роста самаго чорта.

Бывае так, што дзеці раждаюцца з кароткімі хвосцікамі, ніжэй копчыка. Дык ета раждаюцца будучыя вельмі сільныя калдуны або ведзьмы.

Чорты калдаваць не ўмеюць. Яны только могуць ператварацца ў розных жывёл: казу, свінню, сабаку. Калі чорт усяляўся ў чалавека, то етаму чалавеку трэба было схадзіць у баню. У бані пры жаркай цімпературы чорты гараць у чалавеку. Трэба было таксама “пабіць” сябе дубовымі, бярозавымі і асінавымі венікамі. Тады можна было не сумнявацца, што чорт пакіне етага чалавека.

***Запісана ў в. Вішава Гродзенскай вобл.,***
***ад Уласік А.П., 1930 г.н.***

Чорт – гэта зло. Ён сачыць за чалавекам, хоча прычыніць яму зло, увесці яго ў грэх, пагубіць яго душу. Ён унушае чалавеку дурныя думкі і паступкі. Ён асобенна моцны, калі воля чалавека слабая, сазнаніе мутнае. Тады чорт уступае ў барацьбу з ім. На галаве ў чорта рогі, казліная барада, двухкапытныя ці аднакапытныя ногі, каровій хвост, на руках длінныя когці, цела пакрыта шэрсцю. Хто з чарцей важней, той яшчэ храмы і гарбаты. Чорт можа прыняць воблік казла. У гэтым відзе ён любіць падшучваць над людзьмі. Яшчэ чорт любіць збіваць путнікаў з дарогі, збрасываць калёсы з васей у час язды, заводзіць п'яных у балота ці ў прорубі. Чэрці не ўміраюць. Іх можа забіць толькі гром. Грома яны баяцца.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***студэнткай Антончыкавай Н. (2000 г.)***

Нячысцікаў можна ўбачыць, але лепей не трэба. Спакойней без іх жыць. Чэрці не аднолькавыя. Маладзейшыя слухаюцца старэйшых. Ёсць і самы галоўны – д'ябал. Ёсць пякельнікі. Яны знаходзяцца ў пекле і мучаюць душы, жаруць іх. Яны без шэрсці, з доўгім хвастом, рагамі, вогненным языком. Чорт мог ператварыцца ў чорнага ката, казла. Чорт можа выдаць сябе хвастом, страшэнным рогатам.

Чорт мог спакусіць чалавека, каб той грашыў, робячы розныя заганы яму, настройвае супраць Бога. Можа даць багацце ў абмен на душу. У ведзьмаў бярэ душу, аддае ім мошчную сілу. Чорт баіцца малітвы, крыжа, царквы, маланкі, спеваў петуха ў ночы. Чорта лепей не памінаць. Ён можа за гэта пакараць ці сам з'явіцца перад чалавекам.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Быкоўскай Пелагеі Дзмітрыеўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2000 г.)***

Чорт мог з'явіцца ў любы час. Ён як чалавек, толькі з рожкамі і хвастом. Яго, казалі, усюды можна было сустрэць. Я ведаю, што яны шкоду робяць, сварацць з суседзямі, могуць нешта ўкрасць.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Чорта называлі па-рознаму: дз'явал, сатана, нячысты, рагаты – усяк называлі. Чорт баіцца зеркала, калі сам сябе там бачыць.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Чорт – гэта такі маленькі чалавек, які кашлаты, чорненькі, вочкі маленькія, блішчаць, на чорненькай галаве два рогі.

Бог робіць дабро, чорт жа зло. Калі была малая, дык бачыла чорта. Мая суседка папрасіла паглядзець яе дзіця, а ў яе хаце была дзеўка, кажуць: "Ведзьма". На дзвярах вісела калыска, калыхалася. Я ўзяла ды і пасадзіла дзіця ў калыску, а яно як закрычала крыкам, з той калыскі да на ложак. Я гляджу – у дзвярах чорт стаіць. Людзі казалі, што гэта ведзьма адправіла. Я сільна спужалася. Маці мяне потым доўга па бабкам-

шаптухам вадзіла. Кажуць, што чорт часнаку і цыбулі баіцца, таму што яны пякучыя.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-на***
***ад Гуд Любові Ігнатаўны 1932 г.н.,***
***студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

Расказваў дзед з нашай вёскі, як ён раз набраў дроў у пасцілку і вяртаўся дахаты. Раптам адчуў, як нешта ўпала на яго ношу, ад чаго яна стала цяжалейшая. Ён падумаў, што падалося і пайшоў далей, але дома ўбачыў, што на дравах сядзіць маленькае чарцянё. Яно было чорнага колеру. На галаве, побач з вушамі тырчалі рожкі. Ён пaціху хістаў хвосцікам. Чорныя вочкі гарэлі, як вугельчыкі, нос быў, як рыльца парасяці. Чорт, моцна стукаючы па падлозе капытцамі, падыйшоў да стала, потым ускочыў на яго і пачаў есці. Пры гэтым паглядаў на дзеда і падмаргіваў вачыма. Наеўшыся, чарцяня ўскочыла дзеду на плечы, стукнула яго капытцам па галаве і праз трубу выскачыла на вуліцу.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Бес баіцца крыжа, малітвы, пасвечанай вады. Калі ты робіш дабро, ён злуецца заўсёды. Ён баіцца Бога. Ёжалі чалавек моліцца, то бес уцякае. Больш за ўсё ён баіцца пасвяцонай вады. Нада не толькі піць яе, а і хату ёй свяціць, двор, сарай, штоб нічога не здзелалася. Яшчэ яны баяцца хрэсціка нацельнага. Трэба чалавеку насіць хрэст – тады можна не баяцца нячыстага.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Карпенка Ніны Максімаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Журавічы Рагачоўскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Гэта недалёка было, у саседнем сяле. Адзін чалавек ехаў з дзецьмі з места, куды яны вазілі збожжа, а іх нячысцік дурыў усю ноч. Усю ноч праездзілі з аднога месца на другое, заблыталіся так, што траплялі на адно месца пастаянна.

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на***
***ад Кір'янава Віктара Анатольевіча, 1938 г.н.***

Чорт – эта тот, каго мы баімся. Ён жыве ў пекле і людзей цягне туды. А які ён страшны, чорны, з рагамі, капытамі, хвастом.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Чорт вельмі злы. Ён не любя Бога і нас, людзей. Ён увесь чорны, некрасівы, з рагамі і хвастом. Чорт – хазяін ада, паэтаму порце людзей, каб забраць іх к сабе.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Чорт – страшная істота. Такога росту, як і чалавек, толькі весь у валасах, з рагамі, капытамі і хвастом, рылам падобны на казла, увесь чорны. Шкодзіць людзям як у доме, так і гаспадарцы. Засцярэгчыся ад чорта можна малітвамі і крыжом, а таксама

святой вадой. Калі яго ўбачыць, то папырскаць.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на
ад Воранава Мікалая Рыгоравіча, 1937 г.н.,
студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Чорт – гэта чорны чалавек з рагамі, капытамі, хвастом. Ён махнаты, недзе паўтара метра. Вельмі любіць шкодзіць людзям. Каб ад яго спасціся, трэба маліцца і ўсягда насіць крыж на шыі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на
ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,
студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Чорт можа паявіцца ў вобразе страшнага чалавека, ката – у любым вобразе можа паявіцца. Гэта ж нячыстая сіла. Вот вецер сільна дуе, значыць, радам чорт. Я скажу, што ад чорта можна засцярэгчыся толькі малітваю. Чорта нельзя ўспамінаць. Эта ліхая сіла.

Даўно неяк дзяўчына гуляла з хлопцам. Яны моцна любілі адзін аднога. Але раптам хлопец той памёр. І вот чорт перавярнуўся ў гэтага парня і пачаў хадзіць за яго дзеўкай. І вана пачала сохці. Яе маці сказалі, штоб яна ўпляла ў касу сваёй дачкі буркун і тою (зелле такое). Маці ўпляла. Дзяўчына пайшла на свіданне к чорту, і ён сказаў: “Распляці буркун і тою, то будзеш мая”. А яна сказала: “Не распляту”. Тады чорт сказаў так: “Тады ўсё, ты больш не мая”. Вот така была гісторыя.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на
ад Юнчыц Васіліны Рыгораўны, 1948 г.н.,
студэнткай Берднік В. (2006 г.)***

Чорт – ён такі касматы, з рагамі і капытамі, і хвастом, вельмі хітры, любіць шкодзіць людзям, паскудствы розныя робіць. Можа станавіцца чалавекам, але людзі абучаныя ўсё роўна могуць убачыць яго хвост і рогі. Любіць ён маладых дзевак губіць, падманваць.

Было гэта даўно. І была ў нас вельмі прыгожая дзеўка, такая красівая, што ўсе хлопцы на яе глядзелі. А яна ж такая непрыступная, гордая – усім “нет” да “нет” у атвет. І вось неяк пагрdown сена на полі, сабраліся дахаты, як гэтая дзеўка кажа: “Ідзіце, я вас потым даганю”. Ну, мы і пайшлі. І на другі дзень тое ж самае. Потым яна сваёй падружцы сказала, што хлопца добрага знайшла, прыгожага такога, добрага. Спадабаўся ён ёй. І так доўга яна з ім заставалася. А яго ніхто не бачыў. А потым сталі ўсе заўважаць, што стала бледная дзеўка, пахудзела, асунулася, ходзіць неяк не так. Страшна яе мамцы стала, пазвала яна бабку-шаптуху. Тая паглядзела на дзеўку і адразу сказала: “Чорт у яе суджаны”. Спыталі ў дзеўкі, а яна маўчыць – налажыў, значыць, чары на ёй. Так яе доўга бабка лячыла. Праўда, яна ўсё роўна потым маўчала ды маўчала, рэдка размаўляла значыць. Мы ўсе збярэмся ў клубе, гуляем, а яна ў старонцы стаіць. І замуж так і не выйшла.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на
ад Юнчыц Ганны Кандрацьеўны, 1935 г.н.,
студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Была ў нас бабка Просья, дык гаварылі, што ў яе хаце водзяцца чэрці. Мы тады дзеці былі, такога не зналі. Патом, як тая бабка ўмерла, мы ля яе плота гулялі ў лапту, туды мяч упаў, і мы баяліся лезці туда, баяліся, што чэрці там сядзяць. Казалі, што

яны лахматыя, хвастатыя, у красных сапагах там бегаюць. Гаварылі, што чорт любіць здзекавацца з людзей і тое, што чорт – гэта даверазны дзьявала. Я яго ніколі не бачыла.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Страха К. (2006 г.)***

Чорт – гэта злы дух. Чортам можа абярнуцца малады хлопец, дзед, падарожнік, старац, пан. Чорт ніколі не прымае жаночай знешнасці. Чорт можа абярнуцца жывёлай, птушкай ці прадметам. Чэрці – гэта былыя анёлы, якіх скінуў Бог на зямлю. Чорт не можа знаходзіцца ў тых месцах, дзе растуць лён, каноплі ці пшаніца, таму што з іх вырабляюць алей і прасфоры, якія пастаянна ў царкве.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Чорт – гэта такая пакасць, якая ўначы ходзе па вуліцах і заглядвае ў акенцы. Таму і гавораць, што нельга клікаць "чорта нанач". Калі ён бачыць, што ў хаце сварацца, ён тады іх яшчэ больш пачынае зліць, каб яны гаварылі такія злосныя словы, аб каторых дажа ня думалі. Чорт увесь чорны, таму і ходзе толькі ноччу, каб яго не відаць было.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Эту гісторыю расказвала мне ешчэ мая маці про своего бацьку, это значыць, дзеда моего. Звалі его Сцяпан. Вельмі хорошэ Сцяпан на скрыпцы іграў. І от раз на Рэздво позвалі его ў суседню вёску Чэрнічы поіграць на свято. Пойшоў он, а маці его казала, коб ноччу толькі дамоў не шоў. Іці трэба было церэз болото. Это зарэз поосушалі да сухо, а раней болото было. Поіграў он там, трэба дамоў ужэ іці, а ноч на дварэ, цёмно вельмі, але ж што зробіш, трэба – значыць трэба. Ідзе он праз болото это, глядзь – а там перад ім пара коней стоіць і тры паны на возу. Ён познаў, шо это былі паны, бо тады шляпы ніхто окром іх не носіў. Позвалі тые пане его з собой, пошоў он за імі. Прышоў у некіе хоромы. Столы кругом накрытые, людзі моўклівые стояць. Попросілі его поіграць. Іграў он, а оны гулялі. І тут петухі закрычалі первые, і ў ту жэ мінуту ўсё пропало. Зноў стоіць вон серод болота, але ж ужэ і село свое відно, это там, значыць, петухі крычалі. Прышоў он дамоў і расказаў усё, шо з ім было. А маці ему і кажэ: "Ох, сынок, это ты іграў на веселлі нечыстой сілы, у это ўрэмя воны спраўляюць своі свадзьбы. Лучшэ бы ты не ішоў домоў церэз болото. Дай, Бог, штоб усё добрэ было". Не знаю, праўда было, ці не, але так казалі.

***Запісана ў в. Старажоўцы Жыткавіцкага р-на***
***ад Рай Галіны Іванаўны, 1945 г.н.,***
***студэнткай Анішчык Н. (2005 г.)***

Чорт, як і ведзьма, – ета нячыстая сіла. Он увесь чорны, з рагамі, капытамі. У яго доўгі хвост, жывуць на балотах. Он паявіўся, калі Бог стварыў першага чалавека і нячыстая сіла ўдыхнула ў чалавека сваю сілу. Калі Пярун грыміць, ета значыць, он пускаець стрэлы ў чорта, а той перабегвае з месца на месца, чапляецца да людзей. Шчэ чорт баіцца крыжа. І каб засцерагчыся ад яго, трэ прачытаць малітву.

***Запісана ў п.Чырвонае Жыткавіцкага р-на***

***ад Цімашчэня Ганны Парфёнаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Макарэвіч Е.***

Чорт – такая ж нячыстая сіла. Чорт мае вобраз мужчыны. Сам ён маленькі ростам, вочы лупатыя ды страшныя, цела пакрыта чорнымі валасамі ці шэрсцю, а яшчэ ў яго ёсць доўгі хвост.

У нас у вёсцы казалі, што жыве ён на балоце. А яшчэ казалі, калі яго часта ўспаміналі ў гаворцы, то чорт сяліўся ў хаце побач з людзьмі, тады і пачынаў шкодзіць. Наводзіў хваробы, шкодзіў, парушаў пакой дзяцей. На маю думку чорт – гэта д'ябл, бо і першы, і другі дабра не прыносяць.

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Мог зрабіцца кім хочаш. Ён і чалавек, але толькі з рожкамі, хвастом. Ён шкоду робіць. Смяяцца з яго ні трэба, бо можа адмсціць. Ён сільна баіцца краста, малітвы.

***Запісана ў в. Бабровічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Зайцавай Марыі Савельеўны, 1937 г.н.,***
***Васільевай Г. (2004 г.)***

Чорт, па ўяўленнях людзей, худы, чорны, калматы, на галаве мае два рогі, а ззаду – доўгі тонкі хвост, на нагах – капыты. Верылі, што чорт можа пераўвасабляцца ў розных істот. У сваім сапраўдным вобліку ён рэдка з’яўляецца. Чорт мог ператварацца ў жывёл, часцей у казла ці ката. Некаторыя людзі кажуць, што ён мог прыняць выгляд пана.

Верылі, што жыве чорт у балоце.

Чорт падштурхоўвае чалавека рабіць дрэнныя ўчынкі. Людзі кажуць, што чорт – гэта злы дух. Чорт вельмі рухавы і балбатлівы. Больш за ўсё чорта баяліся ноччу, баяліся хадзіць праз балота. Людзі верылі, што чорт можа пасяліцца ў чалавеку і потым вельмі над ім здзекуецца. Ён прымушае чалавека рабіць тое, што ён не хоча рабіць і сам ніколі б не зрабіў такога. Яшчэ людзі верылі, што чорт можа забраць душу. Людзі ніколі не паміналі чорта, бо лічылі, што гэта прывядзе да бяды.

***Запісана ў в. Зеляночы Калінкавіцкага р-на***
***ад Салук Вольгі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шклярэнка Т. (2001 г.)***

Саседка мая даіла кароў радам у дзярэўні. Утрам ранечка хадзіла. Ну, ідзе яна, і баранчык, маленькі, пушысценькі, беленькі, за ёй. Яна толькі стане браць яго ў рукі, а ён назад. Яна яшчэ раз хацела пагладзіць, а ён паднімае галовачку і “бэ-бэ”, і назад. І так вёў яе да самай рэчкі, думаю, што эта чорцік. Пабегла (а эта была ў чатыры часы ранечка). Ён на павароце адстаў. Расказала мужыкам на рабоце. А яны ёй і сказалі, што ў еты час как раз для іх самае врэмя. І што эта быў сам чорцік.

Ехаў як-та Іван наш на кані. І ўжо пазнавата была. А тут на дарозе ляжыць клубочак, махнаты такі. І ён як ускоча на санкі, так конь і не едзе. Зіма тады была. Іван яго скіне, праедзе трохі, а клубочак апяць на санкі прыгае. І так усю дарогу. І інцерэсна ж: як толькі ўскоча на санкі, дык конь не едзе. І Іван перапужаўся, і конь. Пакуль даехалі, конь увесь змакрэў. А дарога была добрая, гладзенькая. Гэта ўсё чорцік.

А яшчэ мы былі як-та на кладзьбішчы. Якраз вось-вось пахаранілі маладога мужчыну, яго збіла машына. І тут бягуць дзеці, крычаць, ды громка так. А за імі белы стоўб такі і ідзець за імі. Куды яны, туды ён. А стоўб еты такі велічэзны, як дым. Ета ён бег на крыкі, бо калі, наверна, яго збіла машына , яму ж крычалі. Вось дык ён і за імі.

***Запісана ў в. Карацькі Кармянскага р-на***
***ад Маскаленка Іны Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смірновай І.***

Буў случай. Ідзе з гульні дзед. Ідзе ён – стоўб уперадзе ідзе. Глянуў у другі бок – баба блохі ганяе. Аглянуўся, глядзь, а ета баба ў акне. Падляцеў ды па вакне, а тая перапужалася ды на печ. От ён і падумаў, што ето чорт напужаў.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Мужыкі казалі, што бачылі чорта. А ці гэта было – я не ведаю. Са мной гэта не здаралася.

***Запісана ў в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Багдановіч Яўхіміі Пятроўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткамі Архіпенка Г., Чэрнікавай Н., Чыксоевай Г. (2009 г.)***

Помню, сядзем раней з дзеўкамі і пачнём расказваць пра чортаў, ведзьмаў, дык ноч не спіш – страшна.

Напрыклад, раней дзеўкам не было хадзіць куды і яны сабіраліся ў адной хаце. Ну, і сядзелі, пралі. Ну вось, сядзяць, размаўляюць і заходзяць к ім хлопцы прыгожыя, чорныя, высокія. Дзеўкі працу пакідалі, пачалі знаёміцца, усміхаюцца. А хлопцы кажуць: “Дайце мы сядзем, але патрэбна, каб на стулах былі дыркі”. Дзеўкі не разумеюць, што гэта такое. І тут бачаць, што ў хлопцаў хвасты. Ох, бабы ўцякаць хто куды, але не паспелі, усіх іх падушылі, толькі адна засталася.

А яшчэ мой дзед расказваў, што ён пасвіў кароў, а адна кудысь дзелась. Ну, што сказаць гаспадару?.. Ён атвёў усіх кароў у вёску, а сам пайшоў тую шукаць. Ідзе, ідзе, а там балота. Чуе ён адтуль: “Му-му, му-у-у”. Глядзь, а там малады бык. Ну, ён яго дагнаў ды сам думае: гэта ж маладое мяса. Прыцягнуў да хаты, а гэты бык як пачаў рагатаць да прыгаць. Дзед спужаўся ды ў хату.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Рагальскай Марыі Міхайлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Чорт – гэта злы дух, ён звязаны з нячыстай сілай. Чорт пахож на чалавека, толькі з рагамі на галаве і з капытамі замест рук і ног. Я сама чарта не відзела, а вот саседка гаварыла, што відзела. Чорта можна ўвідзець у вобліке ката ці яшчэ якой-небудзь жывёлы. Он як кот, но па вачам відна, што чорт. Вочы злыя.

Чорта Бог прагнаў з неба і ён пачаў жыць у балотах, шкодзіць людзям. Не дай Бог сустрэцца з ім. Мы не далжны яго відзець.

Чорт можа прысніцца і задушыць чалавека. У ва сне яго нельга ўбачыць, можна адчуць, што ён прыйшоў. Трэба тады сразу ў царкву ісці і доўга маліцца. У цэркаў чорт не можа прыйсці: ён баіцца крыжоў і малітв.

Каб пазбавіцца ад чорта, хату трэба асвяціць святой вадой, кожды дзень маліцца

і чорта ў хаце не памянаць, а то абавязкова з'явіцца.

Чорт душы чалавечыя сабірае. Чым больш душ у яго, тым ён сільнее. А душы ў яго п'яніц, бандытаў і самагубцаў.

Ну, больш я не хачу пра чорта ўспамінаць, жудасна робіцца.

***Запісана ў в. Лужок Кармянскага р-на***
***ад Гапеенка Марыі Яўменаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

Не пры хаце буде казана на нач. Чорт – ето очень плохо, и ево не надо вспоминать. Ну, да ладно. Чорт – ето такой злой дух. Всё плохое пошло от нево и вот ета пьянка, усе вот эти вбивства – ето ён. А на вид я ево не видела, но так слышала, что он чёрный, волосатый, и у нево есть хвост и рога.

***Запісана ў г.п. Лельчыцы***
***ад Колас Алены Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Дваракоўскай Т. (2004 г.)***

Чорт – гэта нячысцік. Ён невялікага росту і з доўгім хвастом. Рукі і ногі доўгія, на руках кіпці, пакрыты весь шэрсцю. Былі случаі, калі чорт збіваў мужыкоў з правільнай дарогі. Вось ідзе выпіўшы мужык, конь пацiху ідзе, а праз некаторы час мужык прачнецца, а конь распрэжаны стаіць. Усё гэта чортавы прадзелкі.

Шчэ гаворагь, калі паміраюць людзі, то некаторыя пападаюць у рай, а некаторыя – у пекла.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Булацкай Марыі Дзмітрыеўны 1936 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010 г.)***

Ніколі нельга, на лаўцы седзячы, матаць нагой. Бо казалі, чарцей калышаш. Як усе нячысцікі, чорт баіцца малітвы, краста.

***Запісана ў в. Ручаёўка Лоеўскага р-на***
***ад Кацуба М.Х., 1921 г.н.,***
***студэнткай Коўзік В. (2010г.)***

Чорт – гэта істота, пакрытая поўсцю. У яго ёсць рогі і барада, хвост і капыты. Кажуць, што ён водзіцца з вядзьмаркамі. Любіць шкодзіць людзям.

Быў у нас такі выпадак. Хадзілі хлопцы гуляць з дзеўкамі. І быў сярод іх вельмі прыгожы гарманіст. І так ён іграў на гармошцы, што да самага рання ўся моладзь танцавала. І так пастаянна.

Адной дзяўчыне назаўтра трэба было рана ўставаць. А яна ніяк не магла кінуць скокі. Тады яна стала, ды і кажа: "О, Госпадзі, што ж гэта такое?" Пры слове Госпадзі гарманіст кінуў гармошку вобзем. Тады ўсе ўбачылі ў яго ззаду хвост. І ён адразу знік. І тады толькі моладзь зразумела, хто іх весяліў. То быў чорт.

Больш за ўсё чорт баіцца канаплі, лёну, хрэсціку, а асабліва – ладану, бо ладанам бацюшка выкурвае нехрысцяў. Чорт можа перакідвацца ў каго захоча і рабіць толькі чорныя справы. А калі пачуе пах ладану, то не можа справіцца з задуманым. І хрэсціка ён баіцца, таму што Гасподня сіла заўсёды сільней за яго.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Прымак Фёклы Кузьмінічны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

Самы плахі нячысцік – чорт. На казла пахожы, і капыты ў яго, і рогі, і хвост, і смярдзіць ад яго. Сама што плоха, што ён у людзей усяліцца можа. Абы што дзелаць будуць. Я сама нячысцікаў не бачыла, пра ўсё людзі расказуюць.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Логіс Кацярыны Кандрацьеўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Логіс В. (2009 г.)***

Чорты – эта нечыстая сіла, духі. Яны ўяўляюць сабой такую валасатую чорную істоту з капытамі, у якой на галаве рогі, як у каровы, хвост длінны, рыльца, як у парасяці. Водзіцца каля людскога жылля. Кагда чалавек плахіе дзела робіць, то гаварат, што в него чорт вселіўся.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бернацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Нячыстая сіла, што і гаварыць. Водзіцца ў балотах. Рабілі дрэннае яны людзям. Маглі зацягнуць у балота. У іх былі рогі, хвост, як мятла, увесь чорны, калматы. Чорт пахожы на чалавека. Чарты слядзяць за людзьмі, робяць, радуюцца, калі людзі сварацца. Чорт вельмі баіцца вады святой.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Даніленка Наталлі Уладзіміраўны, 1966 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Чорт – злы дух. Жывуць яны ў лесе, у полі, у вадзе, але асноўнае месца іх знаходжання – пекла. Чорт падобны на чалавека, але ўвесь пакрыты чорнай шэрсцю, з рогамі, хвастом і капытамі.

Чорт можа ператварацца ў жывёл, птушак, людзей. Ён прыносіць непрыемнасці, уводзіць у грэх, застаўляе блытацца п’яных. Чорт імкнецца атрымаць душу чалавека.

***Запісана ў в. Раманаўка Мазырскага р-на***
***ад Аляксеевай Марыі Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткамі Аскерка М., Громавай К. (2003 г.)***

Чорт – ето тожэ нечыстая сіла. Ох, і страшны ён! Рогі, як у каровы. Ногі – капыты, нос, як рыло свінячае.

Чорт – ето зло. Не можна его ўспамінаць. Жывуць чэрці ў пеклі. Раней прыходзілі му з вечорок і садзіліса есці. А маці нам казала: “Не ешце, а то чорт прыдзе”. Мы ее не паслухалі. Селі есці і нехто ў вакно пастукаў. Вот мы і папужаліса. Больш ніколі ноччу не елі.

Шчэ казалі, буў у нас такі случэй: пасярод ночы песні чуліса. Чутно было па ўсёй дзярэўні. Нехто і бачыў ее, я ўжэ не помню хто. Так, казаў, што коні булі запрэжаные, ззаду як воз і поўно людзей – не людзей, а ето чэрці булі.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Чорт – страшэнная істота. Лепш пра яго зусім не гаварыць. Даводзілася мне яго бачыць. Ішла я малая з падругай і бачым, стаіць нейкі слуп на дарозе, от як раз як це-

ляфонны столб. А гэта мо і быў чорт – нячыстая сіла. Грэбля там была. Сяброўка была старэйшая за мяне, яна ўсё поняла, ды давай навотмах ад гэтага слупа. Махае рукамі, а тады зір мы, а ён паваліўся і знік. Мы тады ходу дадому. А трэск быў, як падаў ён, нібыта дзерава хто звальвае. Нешта нас пужала!

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Гэта то-лі звер, то-лі чалавек. Увесь чорны, кашлаты, вочы красныя, нос пятачком, на галаве рогі. Замест ног капыты. Мне адзін раз давялося з ім сустрэцца. Ішла я цёмначы дадому, а ён як бы на дзвярах вісіць. Вочы агнём гараць і нешта хоча сказаць. Я стала хрысціцца і ў Бога помашчы прасіць, тады ён знік. З тых пор часцей хажу ў царкву.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Чорт – нячыстая сіла. Я думаю, што жыве ў пеклі. Расказвалі ў нас у сяле, што аднойчы навязаўся гэты чорт к адной жанчыне. Прыходзіў у выглядзе мужчыны і лашчыўся к жэншчыне. А яна яго не хацела. А тая жэншчына пайшла к старым бабкам ды спрасіла, што ёй рабіць. Яны параілі залезці на печку, а калі ён прыйдзе, перагнуцца ракам і паказаць яму фігу.

Прыйшла ноч. Жэншчына залезла на печку і чуе грымат, а гэта чорт ідзе. Яна здзелала ўсё, як вучылі яе бабкі, і мужчына ператварыўся ў чорта і сказаў: “ Еслі бы ты яшчэ падаждала трохі, то я бы сам ісчэз, а так – ты памрэш за гэта”. І жэншчына назаўтра памерла. Гавораць, як пабачыш яго, нада маліцца Богу і чытаць “Отче наш”.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Чорт баіцца, калі хрэсцішся. Калі што згубіў, кажы: “Чорт, чорт, вазьмі сваё, аддай маё”. Нагой нельга матаць – чарцей на іх качаеш. У празнікі нельга памінаць чорта, чорта зусім памінаць нельга, ён тут, як тут.

Адзін сушыў лён і застаўся начаваць. Прыйшлі чэрці, а ён залез наверх і сядзіць сабе. Чорт стаў цікавіцца, што робіць мужык, той яму адказваў, а сам чакае, каб певень пракрычаў. Як толькі гэта здарылася, чорт прапаў.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на ад Бужан Марыі Аляксандраўны, 1938 г.н., студэнткамі Бужан А., Гарбачовай М. (2002 г.)***

Чорт – гэта жывёла серага цвета з капытамі і хвастом, стаіць на двух нагах. Звычайна жыве ў балоце і прыносіць няшчасце. Нельга яго ніколі памінаць, бо ён прыйдзе і будзе гора ў хаце.

Помню, мой бацька шыў хамут, а маці на яго лаілася і сказала: “Чорт ты стары, кідай гэту работу!” А ў нас тады цялілася карова і цяля нарадзілася шыей прыросшае да спіны. Гэта ўсё чорт нарабіў.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на ад Лазаравай Таццяны Фёдараўны, 1931 г.н., студэнткай Маславай Л. (2006 г.)***

Чорт ніколі не паказваецца. Ён можа прыкінуцца кім хоча. Но не трэба назы-

ваць яго. Ён часта ператвараецца ў курыцу, ката і многа яшчэ. Вочы ў яго свецяцца ноччу, чорныя тоўстыя валасы, кудлаты, хвост тонкі, голы, як змяя. Ён лятаць тожа можа. Чалавек дрэнным стаў, таму што чорт яго трогае, не дае спакою. Чорт баіцца, калі пачынаеш маліцца і хрысціцца. Баіцца пеўня.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Выглядзіць, як кот вялікі, чорнага цвету, вушаты, з доўгім хвастом, з сабачымі лапамі. Кажуць, што чорт жыве ў лазе. Ён шкодзіць людзям, пішчыць, зазывае да сябе, пугае людзей. Трэба хуценька перахрысціцца і прамовіць: "Свят, свят, свят", – дык ён хуценька знікне.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Чорт такі, як сабака, як воўк, кашлаты такі, хвост у яго доўгі. Чорта ніхто не бачыць. Нельзя яго памінаць. Бо еслі ты яго памінаеш, то ён злуецца, што яго ругаюць, і тады пасылае на чалавека бездну: ён то ўпадзе, то руку зламае, то нагу.

Чорта і молнія не бярэ. Яго Бог не прымае к свайму дзелу. Гаворуць, што чорт як воўк выглядае, але ж у ваўка вочы блішчаць, а ў чорта – не.

Еслі чалавек жыве-жыве, а патом жыць не хоча, ён тады можа атравіцца, павесіцца. Пра такога чалавека гаворуць, што ён чорту душу прадаў. Бог душу такога самагубцы не прымае, кажа: "Ідзі да чорта, раз пагубіла сама сябе". Еслі чалавек утоп, дык ета яшчэ нічыя душа. Яго душу Бог можа і прыняць, еслі не спецыяльна ўтапіўся".

Калі матка сваё дзіцятка ўб'е, то яе душа патом тожа да чорта пойдзе, бо яна – душагубка.

Нікагда не нада гаварыць: "О, гора жыць!" Нада жыць, як Бог даў. Тады ад чорта спасешся.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацціяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Чорт – гэта сатана, самая страшная нечысць. Ён чорны, з рагамі, капытамі і длінным хвастом. Можа быць махнаты, а можа і гладкая ў яго скура быць. Ён з чалавека ростам. Ён і пахожы на чалавека, толькі вельмі чорны. Можа ператварацца ў сабаку, казла. Жыве чорт у пекле, аду, а паяўляецца ўсюды: і ў доме, і ў агародзе, і на дварэ, і ў лесе, сараі, акрамя цэрквы, і на дарозе, асабліва на перакростку, а царквы баіцца, як і краста. Ён толькі плахое і робіць: пужае людзей, другіх у пятлю цягне да павешання, яму тады радасна, у бубны б'е, іх столькі тады багата збіраецца, са ўсіх старон, не знаеш, адкуль яны і павылазілі. Песні спяваюць, гарэлку наліваюць.

Гэта мне сусед расказваў. Гляджу ў вакно – стаіць, а ўжо цёмна на вуліцы, я яго праганяў, а ён усё раўно стаіць. Я выйшаў на двор – ён ужо не адзін, ужо некалькі іх. Я выпіўшы троху быў. Яны мяне акружылі, гэтыя чэрці, ды ў сад павалаклі. Танцуюць, спяваюць. Гляджу – на дрэве вяроўка з пятлёю вісіць, а чэрці мяне да яе цягнуць. Гарэлка ў іх у руках, мне наліваюць, у бубны іграюць, танцуюць. Я спужаўся да Госпада ўспомніў, да давай хрысціцца. Усё знікла, як нічога і не было.

А яшчэ мне мой пакойны мужык расказваў. У нас недалёка ад дзярэўні, паміж лесам і вёскай, ёсць такое месца – Крузько завецца, кавалак поля. Там, гавораць, нечысць гэтая і водзіцца. Багата хто іх там бачыў, аблюбавалі яны гэтае месца. Ну, мой мужык ехаў на кані, а позна ўжо было, мо з горада ехаў, не помню ўжэ. Едзе, едзе, глядзіць, штосьці коні еле-еле ідуць, еле цягнуцца, потым чуе, як бы хтосьці па возу топчыцца, абірачуецца, глядзіць, а там поўны воз чарцей рагатых, хвастатых. Ён іх пугаю – яны пападалі, зноў залезлі на воз. Ён зноў іх пугаю. Смелы быў у мяне Васіль. Пападалі яны з возу і зноў лезуць, дак ён як начаў мацярыцца, толькі тады яны зніклі. Матаў, значыць, нечысцё баіцца.

Прыехаў дадому і расказвае мне. Я яму гавару, што не будзеш больш тудой ездзіць, а Васіль адказвае: "Ездзіў і буду ездзіць! Хай яны там не блытаюцца. А будам іх баяцца, дык яны нас са свету зжывуць".

Знаю яшчэ, што ў хаце гэтае слова (чорт) праізнасіць нельзя, а то можа з'явіцца. Пабачыўшы яго, нада быстрэй хрысціцца, Госпада Бога памінаць. А Васіль мой казаў, трэба матамі ругацца.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Чорт – ета злы дух. Сам ён чорны, на галаве ў яго рогі, усё цела пакрыта шэрсцю, на нагах – капыты, а на руках – пальцы з бальшымі кіпцямі. Морда яго як свіное рыла і тонкі доўгі хвост. Ён добрым не бывае. Ён дзелае ўсё, каб паўрадзіць людзям. Асобенна ён не любіў п'яных. Калі ідзе чалавек п'яны, чорт к яму абязацельна падкоціцца. Ён падгаваруе чалавека і заводзіць яго ў глухое месца, каб чалавек прапаў, не выбраўся. Зімой сільна п'яных людзей ён ніколі не адпусціць. Чорт увярае чалавека, каб ён лёг спаць на снег і гаворыць, што ён ляжыць на печы, што яму цёпла. І так чалавек замярзае, а чорт радуецца, што забраў яго душу.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Чорт – ета памошнік д'ябла. Як толькі нешта дзелае чалавек дрэннае, то зараз і цапляецца чорт за яго душу і ўжэ да самай смерці. Сёння яны ў кожнага за спіною ходзяць. Няма зараз чыстых людзей. Смяяцца з яго нельга: ён тады будзе помсціць. Ён баіцца краста, малітвы, святой вады, царквы і гразы. На галаве ў яго рогі, а капыты на нагах.

***Запісана ў в. Каравацічы Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Ганны Васільеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Слова чорт нельга гаварыць у хаце. Гэта очэнь страшны нячысцік. Яго ніхто не відзеў, і то добра, бо казалі, што на яго б было страшна глядзець – чорны, з рагамі, з хвастом, з длінными нагцямі. Ён ходзіць за людзьмі, і да яго пападаюць людзі, якія налажылі на сабе рукі. Нада помніць, што чорт баіцца Бога. Таму нада маліцца і не забывацца на Бога, тады і ніякая нячыстая сіла не будзе чапляцца.

***Запісана ў в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на***
***ад Панасевіч Ганны Мікалаеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Луцко М. (2005 г.)***

Вяртаючыся да хаты, а было ўжо недзе к дванаццаці часам, мы с сяброўкаю прыселі на лаўку, каб яшчэ трошкі паразмаўляць.

Было лета, цёпла, зорнае неба, але на вуліцы было вельмі цёмна. Нашу размову перабілі нейкія крыкі, размова, сварка. Метраў 100 было да гэтага месца, але відаць нічога не было. Мы яўна чулі галасы, чулі, як на працягу дзесяціі хвілін трашчаў забор вельмі моцна. Не звяртаючы ўвагу, мы з сяброўкамі далей і размаўлялі. Думалі, што гэта к старой жанчыне, а гэта было каля яе хаты, палезлі ў ягады, і плот быў для іх перашкодай, або нехта пахуліганіць вырашыў. Развітаўшыся, мы пайшлі па хатам.

Калі ўранні я прачнулася, адразу спытала маці, ці стаіць у гэтай жанчыны плот. Плот стаяў, як і раней. Тады я расказала, што чула. Маці сказала, што нешта падобнае ўжо тут было чуваць, што на вырубленым саду паставілі хату. А хату на вырубленым саду ставіць нельга, так кажуць старыя людзі.

***Запісана ў в. Паравалока Рэчыцкага р-на***
***ад Белай Алены Мікалаеўны, 1979 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Калісь мой дзед ішоў з гульні, а было ўжо цёмна, недзе пад поўнач, як яму на плечы прыгнуў кот і сказаў, каб той яго нёс. Дзед моўчкі нясе, а той і кажа: "Два". І дзед кажа: "Два". Той кажа: "Тры". І дзед кажа: "Тры". Тады чорт у абліччы ката кажа: "Каб ты за мной не паўтараў, дык я б цябе задушыў". Сказаўшы гэта, ён саскочыў з плячэй і знік.

***Запісана ў в. Паравалока Рэчыцкага р-на***
***ад Шабетнік Любові Рыгораўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Была я яшчэ маладой, гадоў 16, і тады я ўбачыла чорта, скінуўшагася ў чалавека. Было яшчэ рана, усе спалі, як забрахаў сабака. Спачала думалі, што прыбег які другі сабака, але наш не сціхаў. Матка захацела паглядзець, чаго сабака брэша. Яна пайшла, але хутка прыбегла да бацькі, каб той выйшаў і паглядзеў на дзіва – у нашым агародзе быў голы чалавек. Ён сеў на калені, рыў рукамі зямлю і рыкаў, як тая свіння. Страшна было на такое глядзець. Мой бацька зайшоў у агарод, падыйшоў да яго, але той нават не звярнуў на яго ўвагі і далей рыў зямлю. Але раптам ён устаў і пабег. Я не помню, што была далей, але потым старыя гаварылі, што гэта чорт усяліўся ў гэтага чалавека.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

Я малая была. Маці пашла на поле, а мяне ў хаце пакінула, бо малога трэба даглядаць было. І тут-ка ў акно пастукалі і я ўбачыла малое чарцянятка, бо без рог было, дый бачна было, што яно малое. Я так спужалася, бо там за акном іх было мо штук сем. Яны чорныя, на нагах і руках – капыты, касматыя. І ўсе яны скакалі ды танцувалі. Я хуценька на дыбачках падбегла да брата, схапіла яго, і мы схаваліся за мяшкі з пшаніцай. Калі малы перастаў крычаць, зазірнула я ў акно – чарцей ужо няма. Я потым усё маткі расказала, але яна сказала, што я ўсё сасніла, не паверыла яна мне.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Шафарэнка Таццяны Карпаўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Во, пра чорта мне бабка мая казала. З Богам ангелы ляталі. А некаторыя захацелі

так, як і Бог, створыць жывёл і чалавека, але не змаглі, і так яны счарнелі ад злосці, выраслі ў іх рагі, капыты, хвост. Так і пайшлі ад таго часу чэрці. Людзі ж кажуць: "Злы, як чорт".

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Дзед мой расказываў. Раз ішоў позна вечарам, а тут вакруг раньша было балота, дак ідзе ён міма балота. Як прыцапіліся да яго якіясь, хто гэта быў – невядома. Яны былі ў длінных адзежах да давай плясаць. Завялі яго ў балота, пасадзілі на пень, а дзе той пень у балоце – на купіну, наверна, да давай плясаць. Той прасіўся пусціць дадому: "Пусціце, мяне дзеці там ждуць". А яны ўсё бегаюць вакол, ды не пускаюць. Прыйшоў дзед ужо позна, мокры па пояс да і расказаў усё гэта.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Казьмярчук Галіны Аляксееўны, 1950 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Чорт той, хто ведае, калі з'явіўся. Як быў Бог, то і ён быў. Але быў трохі не такі. Патом Бог, каб ён не быў да яго падобны, зрабіў рогі і хвост. Той увесь час хаваецца, пад зямлёй жыве. Там іх багата – смолу вараць. А як выходзяць на свет, то людзі іх бачаць, як якую жывёліну. Яны, тыя чэрці, любяць шкодзіць, смяяцца з людзей, шуціць. То зробяць, то што схаваюць ды і зноў пад зямлю.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошкі Яўгеніі Адамаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Чорт хацеў павесіцца, бо надаела хадзіць па свету. Падышоў к бярозе – бяроза заплакала, а падышоў к асіне – яна спугалася і затраслася. І ён пайшоў і павесіўся на вербалозіне. Таму етае дрэва роўна не расце і яно такое скручанае.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Чорт – гэта чалавек, які ператварыўся ў чорта. У яго на галаве рага бальшыя, а ззаду – длінны хвост. Я яго ні разу не бачыла. А чула гісторыю, што адна жанчына далжна была ісці на сабранне нейкае, паставіла паміж ног цапок і паляцела. Прыляцела ў нейкую хату, а там столькі чарцей на куце сядзяць… І галоўны чорт здаровы, весь ў золаце. Ён спрашывае ў гэтай жанчыны, хто каму што плахое дзелае, штоб патом атамсціць. А чэрці ўсе танцуюць, ядзяць усякую яду. Патом гэтая жэншчына села зноў на цапок і трапіла дадому. І так спужалася, што сказала, што больш век нікуды не паедзе і не пойдзе.

Чорт яшчэ можа завесці ў балота або багну. Аднажды жэншчына шла позна ўвечары дамой. Было очэнь цёмна. І да самай раніцы яе чорт вадзіў кругамі, а яна нічога не панімала. І толькі, калі пачало світлець, яна прыйшла да сваёй хаты. Ешчо нікагда нельзя гаварыць, калі ідзеш, і вельмі цёмна, і спатыкнёшся: "Чорт яго бяры!"

***Запісана ў в. Сярэднія Малынічы Чачэрскага р-на***
***ад Пацёмкінай Галіны Нікіфараўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Пацёмкінай Т. (2006 г.)***

Чорт – нячыстая сіла. Ён такі, як чалавек, але ўвесь у валасах. Ён мае вельмі

длінны хвост ззаду і нос, як у парасяці. Гэта вельмі дрэнная істота, бо яна шкодзіць людзям. Перад людзьмі ён паяўляецца ў абліччы чалавека, каб яго не палохаліся. У чорта таксама ёсць рогі, капыта і барада. Жыве чорт глыбока пад зямлёй, куды збірае душы грэшных людзей. Гэта месца называецца вогнішчам або пеклам. Асабліва чорт губіць тых людзей, хто п'е. Чорт вельмі баіцца ладана і жалеза, таму людзі насілі кавалак жалеза ў кармане. Лічылі, што дрэнны чалавек, убійца прадаў чорту душу. Ад такога чалавека адракалася сям'я.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Гэто самы главны помочнік сатаны. Вон бы чоловек, але ў яго рогі на голове, лыч, бы ў поросяці, і хвост. Вон до людзей, якія з Богом, не ідзе, боіцца, а ідзе до ведзьмаў, пьяніц і шкодзіць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Чорт вельмі злосны, ён пляце людзям розныя шкоды. Ён прысутнічае на ўсіх вяселлях і перашкаджае. Яшчэ я ведаю, што ў хаце не трэба яго памінаць, бо ён можа паявіцца ў выглядзе чорнай кошкі, сабакі…

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Его нэ всі бачать. Одны люды булы завэрбованы ў Росії. Воны там нішчо робылы і з імы був шчэ одын хлопэц. Пасвылоса стадо товару. Хлопэц і кажа: "Зарэ молока наемоса". Выняв ножа да в дрэво кынув. А з дрэва полылоса молоко. Коровы лэжать і рыкають. Пастух побачыв, шчо товар волнуецца, і пойшов до людэй. Зняв свою світку, положыв на зэмлю і начав быты еі. Як бы біў па світцы, а больно хлопцу. Можэ, гэто був чорт. Каб чорт нэ зробыв плохого, трэба хрыстытыса, молытыса.

***Запісана ў в. Ласіцк Пінскага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Мількевіч Улляны Піліпаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Паўлавец В. (2006 г.)***

Чорт – нечысць. Ён, як расказвала мне Коласіха, кашлаты такі, чорны, з рогамі, длінным хвастом і з капытамі. Ён плахі, робіць зло.

Коласіха раз, калі была яшчэ маладая, шла праз балота і бачыла, як сядзелі ў балоце два чорты. Спачатку адзін высуніцца, пакажыцца ёй, а потым другі. Бедная баба перахрасцілася ды пабегла хутчэй ад гэтай нячыстай сілы.

У іх яшчэ вочы, як чорныя пугаўкі. Гэта яна так казала.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на***
***ад Архіпенка Надзеі Васільеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Гэта маленькі паўчалавек з рожкамі і капытцамі. Ззаду ў яго хвост, а кожа пакрытая чорнымі валасамі. Вельмі чорт непрыгожы. Ён глядзіць за людзьмі і падшучвае над імі. Псуе ўсё, што пападзецца на вочы. Вочкі ў яго маленькія, пахожыя на пугавічкі. Ён жыве ўсюды як з добрымі, так і з плахімі людзьмі. Ён можа ператварацца ў чалавека або якую-небудзь жывёлу. Нельзя ўпамінаць у разгаворы яго імя, бо кагда ён

паявіцца, то пракляне цебе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н., студэнткай Лукашовай А.***

Ой, гэто вельмі плохі дух. Як чоловек стаў робіць плохе, так ў ёго чорт усяліўся. Вот жыве ў чоловека на левым плячы, туды трэба пляваць, каб адышла нячыстая сіла.

Неколі бачыла я чорта. У нас у дзярэўні стаяла старая хата, там жыла бабка. Ёй ужэ было больш за 100 год. І вот я была яшчэ молода і шла ноччу сама з вячорак, і тут бачу – на плату, коло тое старое хаты, сядзіць нешо чорнэ з хвостом, рогамі і краснымі вочамі. Я спугаласа і побегла. А на следуюшчы дзень тая бабка померла. Вот гэто што чорт зробіў.

Шчэ неколі быў адзін случай: по одному дзераву лазіў чорт і вонэ ўсохло. Гэто дзераво спіліў одзін мужык і колі строіў хату, то положыў гэтэ брэўно. І як ужэ вон жыў у гэтой хаці, то ў сцены нешо стукало кожную ноч. І тут ёму людзі посоветовалі, шоб вон разбурыў хату і выкінуў тэ браўно. Вон так і зроіў. І праўда, больш вонэ не стукало.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н., студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Чорт – гэта нячыстая сіла. Выглядзіць чорт некрасіва і страшны такі. З рагамі ён, лапы бальшушчыя, касматы такі, хвост ёсць, нос свіны, чорны ўвесь. У болоце водзіцца, плахое дзелае людзям. Баяліся яго людзі.

***Запісана ў в. Гатавец Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл. ад Салдаценка Феадоры Пятроўны, 1923 г.н., студэнткамі Казловай Ю., Анісавец Т. (2003 г.)***

Шчэ як баба Воля жывая була, то росказвала про чорта. Ніколы даўно було вэсілле ў дочкі. Ну, ужэ колы водгулялы і почалы прыбіраты і разносыты столы, і зайшлы з мужом до яго брата, пасэдзілы трохі да ўжэ ідэм дохаты. Ідэм, а тут як подняўса вецер, як поподымаўся пэсок, а мні так страшно стало, я кожу мужу: “Побіглы дохаты”. А він кажэ: “Не, Волька, стой, ты токо подывэса, што там у нашай сосідкі ў будцы світыцца!” Мы ўжэ побіглы хутко туды, бо думала, што там нішчо горыць. Подбэгаем, бачым… двэрцы прыводкрытыі, а там… чэрці зерно мэлюць. Мы іх добрэ ны розглядзілы, бо як рванулі водтуль!.. Потом усю ночку ў хаты нашой, то я, то муж малітвы чыталы, бо страшно було…

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Мазоль Міхаіла Васільевіча, 1962 г.н., студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

Чорт – ето сатана. Він можэ перэробляцца ў чоловіка, алэ сам подобны до жывёлы. Він страшны токі, кажуць, шчо весь чорны, з копэтамі, з хвостом, з вэлэкімі вушамі.

***Запісана ў в. Аўсямірава Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Гарбачэўскай Марыі Іванаўны, 1940 г.н., студэнткай Мазоль В. (2010 г.)***

***Святлана ВЯРГЕЕНКА***

## *Персанажы ніжэйшай міфалогіі ў замовах*

Асобную групу замоўных твораў складаюць "ахоўныя замовы ад злых духаў і шкодных істот, прыродных з'яў: ад перуна, ад дамавога, ад хлеўніка, ад лесавіка, ад ведзьмы, чараўнікоў, ад залому, ад нячыстай сілы, "нарадкі", "стацця", "падвею" [1, с.15]. Заўважым, што запісы замоў ад нячысцікаў нешматлікія. У асноўным гэта тэксты "Ад дамавога", "Ад дваравога", "Ад хлеўніка", "Ад лесуна", "Супраць русалкі", "Ад нячыстай сілы", "Супраць ведзьмаў" і інш. У тэкстах замоў "Ад нячыстай сілы" нячысцікі ўзгадваюцца ў шэрагу іншых небяспечных "аб'ектаў", ад якіх неабходна пазбавіцца, напрыклад, "... храбры пабеданосец, зашчыці і памілуй ад звера ляснога, ад чалавека ліхога, ад чарадзей, ад ліхадзей, ад непрыяцеляў, ад наступетнікаў, ад ябеднікаў, каторы на нас наступаюць і нам ўсё зло думаюць..." ("Замова ў дарогу ці куды") [1, с. 47, № 61], "...і загаваруюся і замаўляюся ад чараўніка і ад чараўніцы, і 'д разлушніка і ад разлушніцы" ("Ад нячыстай сілы, нарадкі") [1, с. 49, № 69], "ангалі мае храніцелі, збаўця раба божага ад нячыстыя сілы, ад трыдзевяць калдуноў, ад трыдзевяць ведуноў і вядунняў, ад калдуна і ад калдуніхі, ад уражэскія сілы, ад нячыстага духа, ад ведзьмы-чарадзейніцы" ("Ад нячыстай сілы, нарадкі") [1, с. 49, № 70] і г.д.

Сустракаюцца тэксты, якія можна аднесці да групы ахоўных замоў, калі фармальна ўзгадваецца адзін персанаж, а па сутнасці гаворка ідзе пра іншага. Для прыкладу прывядзем тэкст замовы "Ад дамавога", запісаны ў в. Барталамееўка Веткаўскага раёна: "Добры вечар табе, дзядзішча, шырокая барадзішча, кучаравая галавішча. Калі ж ты свой дамавы, жыві ж на месце..." [1, с. 41, № 37]. На першы погляд, замаўляльнік звяртаецца да дамавога (у тэксце нават прыводзіцца яго апісанне), аднак далей персанажу прапануецца "абходзься каля гэтай скаціны, бурай (чорна-пёстрай) шарсціны па чэсці". Словы замовы падмацоўваюцца рытуальна-акцыянальнай часткай: "... калі з каровай (ці іншай скацінай) нешта здарыцца. Тады адразаюць з цэлай булкі хлеба акрайчык, бяруць соль і на велікодным ручніку ўносяць у хлеў, тройчы абходзяць жывёлу, прагаворваючы замову, а потым усё прынесенае кладуць недзе на бэльку – «ніхай ляжыць там доўга»" [1, с. 398]. Як бачым, у творы і вербальны, і акцыянальны кампаненты звязаны з жывёлай, а хлеб (як атрыбут ахвярапрынашэння) нясуць у хлеў. Толькі прысутнасць у вербальнай частцы звароту да дамавога "…калі ж ты свой дамавы, жыві ж ты на месце" фармальна нагадвае замову ад дамавіка. Паводле ўяўленняў беларусаў-палешукоў, у асяроддзі прадстаўнікоў ніжэйшай дэманалогіі існавала свая субардынацыя. Выказаць падобнае меркаванне дазваляе тэкст замовы "Ад дамавога" [1, с. 42, № 41], у якім замаўляльнік вылучае дамавіка як галоўнага над дваравым ці хлеўнікам і нават над калдунамі, "калдуніцамі" і ведзьмамі і звяртаецца да яго, называючы "дамавы хазяін і дамавая хазяюшка". Як і ў папярэднім тэксце, дамавік выконвае функцыі хлеўніка: "жывотных не абіжайце: коней і кароў – і карміце, паіце і прыглядайце". У той жа час дамавік выконвае і ахоўную функцыю: "нахожых і наброжых хлеўнікаў і хляўніц, і дамавікоў, і дамавіц да гэтага хлева не дапускайце – і ведзьмаў калмыкоў і калдуноў-чараўнікоў, ведзьмаў-калмыцаў і калдуніц-чараўніцаў да гэтага дома не дапускайце".

У замове "Ад нячыстай сілы" да дамавіка, як і да іншых прадстаўнікоў ніжэйшай міфалогіі (лесавіка і палевіка), замаўляльнік звяртаецца з просьбай аб дапамозе:

“памажы рабу божаму ад прыткі раннія і палудзенныя, і вячэрнія і палуношныя, і з буйнай галавы, з ясных воч, з румянага ліца, з гаручай крыві, з буйнай касці і ‘д жыл, ад чорнага печаня, ад белага леганя” [1, с. 43, № 44]. Акрамя тэкстаў замоў, прысвечаных непасрэдна персанажам ніжэйшай міфалогіі, дэманападобнікі сустракаюцца і ў замовах іншых функцыянальна-тэматычных груп, асабліва ў групе гаспадарчых. Нагадаем, што згодна з класіфікацыяй замоў (паводле іх прызначэння), прапанаванай Г. Барташэвіч, у групу гаспадарчых уваходзяць і сітуацыйныя (“Ад пажару” і інш.). У замове “Ад пажару” дамавіку разам з іншымі міфалагічнымі персанажамі пад сілу дапамагчы чалавеку пры пажары: “Цар зямны. Цар нябесны, цар вадзяны, цар агняны, цар лесавы, цар дамавы, прашу я вас, малю я вас, уцішыця, цніміця” (“Ад пажару”) [1, с. 38, № 23].

Паводле народных уяўленняў, дамавік з’яўляўся істотай амбівалентнай: мог як дапамагаць людзям, так і шкодзіць ім. У замове, запісанай у в. Хутар Светлагорскага раёна, гаворка ідзе менавіта пра шкоднага дамавіка, ад якога імкнуцца пазбавіцца назаўсёды. Замаўляльнік звяртаецца да яго з просьбай-патрабаваннем “тут табе не бываць і ўрэда не дзелаць ні схода, ні малода, ні пад поўна, ні маладзіком, ні вавек вяком” [1, с. 43, № 42]. Зварот замаўляльніка суправаджаецца матывам адсылання, які ў дадзеным тэксце выказаны даволі нетрадыцыйна. Звычайна ў матыве адсылання называюцца месцы, куды адсылаецца хвароба, або, як у нашым выпадку, нячысцікі. Такімі месцамі з’яўляюцца сухі лес або балота, або мхі, гнілыя калоды і г.д. У аналізуемым тэксце матыў адсылання прадстаўлены прапановай “ідзі шукай лесавіка”. Па сутнасці замаўляльнік адсылае шкоднага дамавіка далей ад дома, у лес да лесавіка (якога, дарэчы, трэба яшчэ знайсці).

Нягледзячы на шкодную сутнасць дамавіка і іншых нячысцікаў (лесуна, вадзянога), у некаторых выпадках іх можна задобрыць рознымі пачастункамі (“сталы настаўляю, скацерсцямі засцілаю, хлеб-соль пакладаю, мёд і віно ў кубкі наліваю”) і дамовіцца, каб яны “сваю ярасць унімалі з такога-та раба чалавека, з буйнае галавы, з румянага ліца, з чорных бравей, з ясных вачэй, із нутрэй, із печані, із жыл, із пажыл, з сустаў, з палусустаў” [1, с. 43, № 43].

І ўсё ж дамавік, як і іншыя нячысцікі, ва ўсведамленні нашых продкаў паўставаў небяспечнай істотай, ад якой неабходна абараняцца, у тым ліку і з дапамогай вышэйшых боскіх сіл: “Господу Богу памолімся і матары Божай прыклонімся! Хрэст Хрыстоў у рабу божам (Паўлу), хрэст Хрыстоў і на Паўлу; храстом Хрыстовым бесяў адганяяць. Адступіцеся, бесі праклятыя, да ня дзелайця ні ядыныя ўрэды! Тут жывуць ангалы і архангалы, харувымы і сарахвымы і чатыры вангалістыя: Матвей і Марка, і Лука і Іван Баслоў, і раб божы Павял” (“Ад дамавога”) [1, с. 43, № 45].

Яшчэ адным з найбольш распаўсюджаных вобразаў сярод дэманалагічных персанажаў з’яўляецца ведзьма (“чарадзейніца”, “малашніца”). Паводле народных уяўленняў, адлюстраваных ў замовах, ведзьмы падзяляюцца на “роджаных” і “навучоных”, могуць мець выгляд чалавека з наяўнымі фізічнымі недахопамі (“храмыя і сляпыя, і бяззубыя і сухарукія, і крываногія” [1, с. 52, № 79]), могуць абарочвацца змяёй. У замове “Ад ведзьмы” (запісана ў в. Раковічы Светлагорскага раёна) замаўляльнік аберагае карову “ад паганых вачэй і [няшлюбных] дзяцей” [1, с. 61, № 106]. Ведзьмы знаходзяцца паўсюдна (“хадзіла лугамі, барамі, лясамі, жоўтымі пяскамі” [1, с. 57, № 94], “у том кусце (ракітавым – С.В.) тая самая чарадзейніца, каторая малокі адбіраець” [1, с. 61, № 105]) і для таго, каб ад іх пазбавіцца, неабходна сіла, напрыклад,

“нябеснага вайводы Міхайлы”, да якога замаўляльнік звяртаецца з просьбай: “Міхайла – нябесны вайвода, саскачы з вышняга неба, сталяным мечам закалі ведзьму, роджаную і навучоную; каторая ззадзі даганяець, тую закалі, і каторая наперад забягаець, тую закалі, каторая збоку заглідаець, тую закалі” [1, с. 48, № 68] або святога Ягорыя: “І едзець па калінавым масту святы Ягоры з кап’ём, войстрым мячом: выхадзі ты, нячыстая сіла, з ракітава кусту на калінавы мост. Войстрым мечам буду цябе сеч-рубаць, кап’ём прабіваць, тваю кроў разліваць: аддавай малако краснай карове” [1, с. 61, № 105].

Вобраз ведзьмы сустракаецца ў групе гаспадарчых замоў, і ў першую чаргу ў функцыянальнай групе “Ад залому”. Паводле народных уяўленняў, праз заломы на палях, якія рабілі ведзьмы або “ліх чалавек” (як у аднайменнай замове: “Мікулай святы па межам ходзіць да рож росьціць па цёплым начам, па вутранім зарам, а ліх чалавек па межам хадзіў да залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам” [1, с. 37, № 16]), можна было наклікаць хваробу як на гаспадара і яго сям’ю, так і на жывёлу: “Не лажысь, квяціна, не прападзі, скаціна. На лажысь, колас, на землю, не будзі хваробу на сем’ю” [1, с. 37, № 15]. Для таго, каб пазбавіцца ад шкоднага ўздзеяння, неабходна было вырваць залом (“завітак”), прагаворваючы пры гэтым словы замовы, у якой замаўляльнік звяртаецца да Бога, каб ён паслаў на “ліха чалавека” “на смерць, на балесьць... яму хлеба ня з’ісць, вады ня піць, а ў магіле быць” [1, с. 37, № 16], або “хто еты залом заламіў, занямей яго цела і кроў на векі вяком, і амін яму!” [1, с. 37, № 17]. У апошняй з прыведзеных замоў замаўляльнік таксама звяртаецца да Бога за дапамогай “вырваць вянок”, прычым гэтыя словы суправаджаюцца дзеяннем: неабходна “скруціць залом і наступіць на яго”. Паводле народных уяўленняў, для таго, каб ведзьма не шкодзіла і пасля смерці, у яе магілу забіваюць асінавы кол. Падобныя дзеянні рэкамендуецца выканаць і ў прыведзенай замове: “... еты залом возьмеш і ўвы ржавіння ўвапрэш і колам асінавым заб’еш, а тоды раськепіш яго і раскінеш на беі стораны” [1, с. 394].

Ведзьмы таксама маглі забіраць малако ў кароў. Для таго, каб засцерагчы карову “ад злога чаравання”, неабходна было прагаварыць замову, у якой спосабам уздзеяння на ведзьму было наступнае: “Станаўляю ведзьмам-чараўніцам вочы стаўбамі, рукі граблямі, каб яны свае пальцы кусалі, проці сэрца кроў смакталі, каб маёй сівай (рабай і г.д.) каровы ўладзення не малі” [1, с. 55, № 89]. На дапамогу замаўляльніку прыходзіць святы Юрый з залатым мячом: “Ехаў Юрай на сваём кані, дзяржаў задатую меч, засякаў наглым ведзьмам губы і рэч, каб ведзьма не хадзіла, чорнай сцежкі не таптала і да маёй сівой кароўкі ўладзення не мала”.

Ад шкоднага ўздзеяння ведзьмы найбольш пакутуюць маці, якія кормяць грудзьмі, і немаўляці. У якасці сродку аховы выкарыстоўваюцца вострыя, жалезныя прадметы: “Первым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, сваё дзіця карміць бяруся, жалезным тынам абгараджуся, кап’ём абаб’юся, змей, ведзьмаў не баюся” (“Супраць ведзьмаў”) [1, с. 49, № 71].

Як вынікае з прыведзеных тэкстаў, асноўным спосабам засцярогі ад ведзьмаў было выкарыстанне вострых металічных (у тым ліку і з каштоўных металаў) прадметаў, магіі слова і магіі дзеяння, а таксама дапамогі вышэйшых боскіх сіл.

Месцам знаходжання чорта, паводле народных уяўленняў, адлюстраваных у замовах, з’яўляецца дуб (“на моры, на кіяне стаіць дуб, на том дубі сядзіць чарціца”

(“Ад патніцы”) [1, с. 89, № 210]) або пень (“... пры шляху, пры дарозі стаіць пнішча і дурнішча, а ў том пнішчы ў дурнішчы сядзіць чарцішча” (“Ад пералогу”) [1, с. 89, № 211]). У замовах звычайна не прыводзіцца падрабязнага апісання персанажа, тым больш што не было сэнсу падрабязна апісваць чорта, бо старажытны чалавек добра ўяўляў яго знешнасць і сутнасць, аднак адносіны да яго перадаюцца пры дапамозе пэўных моўных сродкаў, напрыклад, найменняў. Як бачым, у вышэйпрыведзеных прыкладах, выкарыстоўваюцца назоўнікі з павелічальна-зневажальным суфіксам -ішч. Як слушна заўважае Г. Барташэвіч, словы, утвораныя пры дапамозе названага суфікса, “з аднаго боку надаюць з’яве ці прадмету, стану чалавека гіпербалічны характар, з другога – тут адценне варожасці, пагарды, наўмыснае прыніжэнне. ... Я выказваю свае пагардлівыя, негатыўныя адносіны, скажам, да хваробы, значыць я не баюся яе, я здольны яе перамагчы...” [2, с. 116]. У замове “Ад пералогу” чорт уяўляецца асноўным сярод іншых міфалагічных персанажаў: “Аддалі пэрэлогі старшому (чорту) у ногі” (“Ад пералогу”) [1, с. 89, № 211].

Сярод вобразаў, якія “суседнічаюць” з чортам у замоўных тэкстах, сустракаюцца поп, войт, мужык, прычым падкрэсліваюцца іх сяброўскія адносіны з замаўляльнікам: “Іду я дарогаю, сустрэчаю трох друзей: попа, войта, чорта. Попу дала штаны, войту рукава, а чорту пералогі” (“Як выганяюць тавар першы раз на пашу”) [1, с. 69, № 133], “Ішло іх тры дарогаю: ішоў войт, і чорт, і мужык. Найшлі яны рукавіцу і вязёнку, трэці пералог. Войту рукавіца, мужыку вязёнка, а чорту чэмер і пералог” (“Ад хвароб жывёлы”) [1, с. 88, № 205]. У дадзеных тэкстах прасочваецца аналогія з матывам “Як тром не схадзіцца...”, які сустракаецца ў лекавых замовах, і прысутнічае элемент сацыяльнай няроўнасці з ярка выражанымі адносінамі да прадстаўнікоў той ці іншай сацыяльнай групы, у прыватнасці спачуванне да мужыка, які знайшоў вязёнку (від плоткі). У замове “Ад хвароб жывёл” чорт ішоў разам з апосталам Пятром: “Ішоў апостал Пётра, а з ім ішоў чорт. Пётра нясець паляніцу (ляпёшку), а чорт рукавіцу. Чорт, чорт, кінь рукавіцу, вазьмі чэмер і партніцу” [1, с. 88, № 206]. Як адзначаў А. Багдановіч, “чорт – гэта, так сказаць, прынцыповы праціўнік усялякага дабра, гэта чыстае ўвасабленне зла. І Вадзянік, і Лясун і іншыя стыхійныя богі могуць рабіць зло, але могуць і не рабіць яго, а Чорт не можа – такая ўжо ў яго натура…” [цыт. па кн. 3, с. 163]. Аднак у вышэйпрыведзеных замовах чорт дапамагае людзям насуперак сваёй сутнасці: менавіта яму аддаюцца хваробы (“няхай нясе (**пэрэлогі – С.В.**) за мхі, за балата, за ніцыя лозы, за крутыя горы, дзе пеўні не няюць, дзе й гусі ня крычаць...” [1, с. 89, № 211]).

Такім чынам, у творах замоўнага жанру адлюстраваліся народныя ўяўленні, звязаныя з персанажамі ніжэйшай міфалогіі, іх знешнім выглядам, месцам знаходжання, функцыянальнасцю і спосабамі засцярогі.

Спіс выкарыстаных крыніц

1. Замовы / уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Г.А. Барташэвіч; рэдкал.: А.С. Фядосік (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – 597 с.

2. Барташэвіч, Г.А. Магічнае слова: Вопыт даслед. светапогляд. і маст. асновы замоў / Г.А. Барташэвіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1990. – 128 с.

3. Коваль, У.І. Народныя ўяўленні, павер’і і прыкметы: Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі / У.І. Коваль. – Гомель : Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай і

***Екатерина ПОБОРЦЕВА***

## *Образы и термины западноевропейской низшей мифологии*

Низшая мифология – мифология суеверий. Ее персонажи зачастую являются предсказателями или предвестниками надвигающихся событий. По народным верованиям, они активно и непосредственно взаимодействуют с людьми, способны влиять на их судьбу – как позитивно, так и негативно. Образы низшей мифологии гораздо ближе народному сознанию, чем далекие боги космогонии. Отметим характерную тенденцию к вытеснению официальной мифологии высоких богов чрезвычайно распространенной в быту «неофициальной», так называемой домашней мифологией.

Обратимся к персонажам низшей мифологии европейских народов. Отметим, что бадб (ворон) – в ирландской традиции “высшей” мифологии – богиня войны и разрушения, представительница высших божеств, впоследствии перешла в разряд персонажей народной мифологии, придает воинам перед битвой храбрость и злость. Этот персонаж по функциям близок к морриган и в текстах ирландских сказок ассоциируется с банши, появление которой в образе ворона сулило смерть. Наименование бадб или банши в “низшей” мифологии стали соотноситься со злой и коварной ведьмой. В кельтской мифологии само появление банши (женщины из садов), сверхъестественного существа, принимающего образ прекрасной женщины, сулит смерть. В Словении, Хорватии, Венгрии существует название цопрница, происходящее из немецкого языка; в Черногории встречается название романского происхождения – штрига, а в западной Болгарии используется для обозначения персонажа «ведьма» термин бродница.

В русской мифологии слово «ведьма» связано с корнем «вед» (ведать – знать), что свидетельствовало о представлениях, связанных с наделением отдельных людей сверхъестественной силой. Если славяне относились к своим ведьмам терпимо и казнили их только при чрезвычайных обстоятельствах, то в «Западной Европе подозреваемых в ведовстве сотнями жгли на кострах» [1, с. 154].

Для южнославянской ведьмы характерен ряд устойчивых признаков: «это женщина преклонного возраста, обладающая сверхъестественными свойствами, которые она использует для нанесения вреда людям» [2, с. 218], а на западе функции ведьмы расширяются: «она может вызвать град, дождь» [2, с. 221].

Обратим внимание на бытующие в разных мифологических традициях вариантные наименования мифологического персонажа домовой, который, по народным представлениям, является покровителем семьи и хозяйства. В кельтской мифологии встречаются названия: английские боггарты, брауни (покрытые коричневой шерстью), паки, уэльские бегле – малютки с лицами старичков. Как повествуют былички, эти сверхъестественные существа живут в домах, заброшенных строениях, иногда в мертвых деревьях. Они с интересом и пристрастием следят за жизнью хозяев, активно вмешиваются в нее. Домовые могут помочь хозяину, который к ним добр, но могут и навредить: перебить посуду, поломать мебель, погубить всю семью. Исходя из народных мифологических верований, с этими существами следует быть крайне осторожными и относиться к ним уважительно.

Схожие черты встречаем у домового в славянской мифологии. В соответствующих поверьях выявляется его связь с домашними животными, причем выразительно подчеркивается амбивалентный характер связанных с этим персонажем представлений: он

обеспечивает благополучие, но вместе с тем «может и изводить животных» [3, с. 120]. Домовой часто именуется по месту обитания. У русских – это голбешник, запечник, у белорусов – подпечник. Встречаются такие названия, как хозяин, дид, богатир, гуркало (в украинской терминологии), а также особо почтительные имена – избенной большак, дедушка-браток, братанушко, кормилец. Иногда подчеркивается его принадлежность к нечистой силе: у русских – лихой, другая половина; у белорусов – «чорт дамавы, не свой дух, у украинцев – нечистий» [4, с. 279]. Согласно народным верованиям, основатель рода, первый устроитель домашнего очага или один из хозяев дома становится домовым после смерти. Считается, что образ жизни домового обычно бывает похож на привычки одного из прапрадедов. Полагают также, что домовой – это дух животного, заложенного в фундамент дома.

По народному убеждению, водяные распоряжаются определенными территориями в воде, выбирая тихие и глубокие места. В кельтской мифологии водяной, или каепи, враждебен людям. Он обычно являлся человеку в образе пасущегося у воды красавца-коня; заманивал жертву соблазном поскакать на нем и вместе со всадником уходил под воду. В славянской мифологии водяного считали оборотнем, который может менять свой облик, прикидываясь «бревном, лошадью, собакой или рыбой» [5, с.178]. Исследовательница Е. Левкиевская, ссылаясь на тексты быличек, отмечает, что водяной мог явиться и бараном, свиньей, черной собакой, кошкой: «Водяной по-всякому бывает. Высунет голову на сушу и положит. Цветом бывает синий или, как налим, цветной, это летом около Петрова дня. У него есть два уса. Он похож на рыбу с хвостом. Снизу у него два крыла» [4, с. 341].

В славянской мифологии встречаются такие названия водяного, как водяник, водовик, водяной дедушка, а также термины, подчеркивающие отрицательные черты водяного – водяной черт, топельник. В чешской мифологии водяного называют водник, сербо-лужиц, а в Словении он известен как поводний, водний мож. «В белорусских поверьях водяные бывают разные: тот, кто живет в омуте, зовется омутником, кто в водовороте – вирником, кто в стоячей воде – тихоней» [4, с. 342]. По разным мнениям, водяной либо холост, либо у него есть семья. Так, его жену называют «водяниха, или водяница, а детей – водяненки» [4, с. 343]. В славянской мифологии встречаются такие термины водяницы: «водяниха, водява, водяная чертовка» [5, с. 177]. Ее облик схож с обликом русалки «страшной» [5, с. 177]. По народному убеждению, против водяниц помогают различные обереги; для того, чтобы водяница не вредила людям, старались соблюдать определенные правила – (запрет на купание или работу).

Рассмотренные термины персонажей низшей мифологии демонстрируют богатство связанных с ними народных представлений, обусловленных географией распространения и бытования, а также разнообразием функций того либо иного персонажа.

Литература

1 Костюхин, Е.А. Лекции по русскому фольклору: учеб. пособие для вузов/ Е. А. Костюхин– М.: Дрофа, 2004. – 336 с.

2 Плотникова, А.А., Этнолингвистическая география Южной Славии/ А. А. Плотникова– М.: Индрик, 2004. – 768 с.

3 Славянские древности: Этнолингвистический словарь в 5-ти томах / Под общей ред. Толстого Н. И. – Т.2: Д-К. – М.: Международные отношения,1999. – 704 с.

4 Левкиевская, Е.Е. Мифы русского народа/ Е. Е. Левкиевская – М.: Астрель, 2005. – 526 с.

## *Уяўленні аб сусвеце, прыродных стыхіях і з'явах.*

## *Ад і рай*

У Раі багата цвятоў і красівых садоў.

Пекла – там ўсё ў гразі, там, хто сільна саграшыў, той гарачую скавародку лізаць будзе.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Дзегцяровай Кацярыны Дзянісаўны, 1923 г.н.***
***(перасяленкі з в. Лугінічы Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Тодаравай М. (2006 г.)***

У рай пападаюць душы хрышчоных людзей, якія саблюдаюць празнікі, пасцяцца, а ў пекла – нехрысці, алкаголікі, бандзюгі, і там мучаюцца ад вечных мук.

У навальніцу нада запальваць свечку і ставіць пад абразы ці акурваць хату купальскім зеллем, можна ўзяць у рукі пасвяцоны велікодны хлеб і трымаць у руках.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ад – гэта вечная смерць, агонь. Людзі, якія не прымуць Госпада Іісуса Хрыста як спасіцеля, то яны самі адказываюцца ад істочніка жыцця. Значыць, яны згараць навечна. Бог не хоча паліць грэшніка, но Богу нужна ўнічтожыць грэх. А грэшнікі ўсе згараць, но гарэць ім будзець не вечна, а кажды па дзялах сваіх будзе гарэць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Валачко Валянціны Дзмітрыеўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Тодаравай М. (2006 г.)***

Ад – гэта поўная праціваположнасць раю. Гэта зло, распры, разнагласія, соры, завісць. Патаму, што сатана там ходзіць, як рычашчы леў, ішча, каго паглаціць ужэ ў гэтай жызні. А будушчай жызні не будзе – агонь і вечная смерць.

Рай – гэта ўсё, што адносіцца к Богу, іба Бог есць любоў. І сатварыў Бог чалавека па вобразу сваяму, па вобразу Божыю Адама і Еву. І даў чалавеку свой закон: не ўбівай, не крадзі, не пралюбадзействуй, пачытай айца і маць, каб прадліліся дні твае. На зямле 10 запаведзей, каб чалавеку было харашо. Бог любіць усіх адзінакава, усіх аберагае і пасылае дождж на праведных і няправедных. Любоў долга церпіць, міласэрствуе, любоў не зайздросціць, не гардзіцца, не раздражняецца, не мысліць зла, не праходзіць.

Бог у гэтым жыцці дае ўсё добрае, а ў будучым – жыццё вечнае, цэраз Госпада нашага, Іісуса Хрыста, дзе будзе вечны рай.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мікалаенка Ганны Уладзіміраўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Рогавай Н. (2006 г.)***

Рай будзе на зямлі. Гэта вечная жызнь, патаму, што Хрыстос спас нас на крэсце. Там будуць сады, цвяты, радасць, і там не будзет ні балезней, ні гора, ні смерці. Усе будуць шчаслівыя. Будуць строіць дамы і жыць у іх. І волк, і ягнёнак будуць пасцісь разам. І леў, як вол, будзе есці салому, а не мяса. Не будзе больш зла.

Зараз на такое пытанне і адказваць цяжка, таму што і па радыё, і па тэлевізары гэта тлумачыцца навукова, нават з космасу на Зямлю зірнулі. Гэта раней, вялікую колькасць стагоддзяў назад, людзі меркавалі, што Зямля плоская, як блін, і ляжыць той блін ці то на трох кітах, ці то на трох сланах. Некаторыя думалі, што Зямля падобная на бальшую чарапаху. Эта мы сейчас знаем, што яна круглая і края не мае. Колькі ні ідзі, ні едзь, а да краю не дойдзеш, хоць і бачыш гарызонт, а ён з кожным крокам аддаляецца.

Я думаю, што неба – вялізны шацёр, які днём украшае сонца, а ноччу – зоркі. Яны (зоркі) падобныя на рассыпанае зерне або на мноства жукоў-светлякоў, што ўзняліся высока-высока. І недзе ў самай вышыні жыве Бог. Я ўяўляю яго старым чалавекам з доўгімі сівымі валасамі, прыгожай белай барадой, з разумнымі, добрымі вачыма. Ён усё бачыць, усё слыша і ўсё пра ўсіх знае. І кожнаму ўздае па яго заслугам: каго карае, каго зашчышчае, каму раіць, падказвае, як пасгупіць у розных сітуацыях, каб пасля смерці палучыць жыццё ў раі і не трапіць у пекла. Рай там, дзе Бог, – на небе, а пекла – дзесьці ў сярэдзіне Зямлі. Там жарка і страшна, і ўсім запраўляюць чэрці.

Свет і ўсё, што ў ім ёсць, не паявілася само сабой. Усё стварыў Бог. А да пачатку свету была пустата і цемната. Бог падзяліў пустату на дзень і ноч. Дню ён даў сонца, штоб грэла і свяціла, а ночы – зоркі і месяц. Пасярод усяго паклаў зямлю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Медзінай Тамары Фёдараўны, 1941 г.н.,***
***студэнткамі Ваўчок А., Каляснёвай І. (2005 г.)***

Ужэ еслі схаваюць туда, то будзе табе і рай і ад. Усе згніецъ. Мы не знаем, што там на вярху. Мы ўсе кажам неба, неба. А праверылі ўжо: ракеты там лятаюць, і людзі жывуць там. Я веру, што людзі, так гаварылі прадзеды, жывуць другі век. Людзі ўжо ад большай навукі ўсе ісчэзла на Зямлі. А цяпер зноў ракеты, газы заграздняюць усе.

Вучоныя атама баяліся. Вады расчапіць. Вада есць вездзе, і ў воздухе, і ў чалавеку. Яны баяліся, што атам вады нада расчапляць, то ўсё ісчэзне. А нічога не случылася. Но яны прыдумаюць як гэта зрабіць.

***Запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на***
***ад Заранок Аляксандры Іванаўны, 1926 г.н.***

У рай пападаюць людзі, якія вераць у Бога, пакланяюцца яму, ходзяць у цэркву, робяць добрыя ўчынкі, не сквернасловяць. Райскія сады, цэркві е, усё ў цветах. У ад пападаюць плахія людзі. У аду чэрці жараць на скаварадзе. За сквернасловіе яны скаблюць смалу нажом з языка.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бернацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Рай знаходзіцца на небе. Там заўсёды харошая пагода і дзень. А так, усё астатняя, як і на зямлі. Людзі работаюць у раі, але лёгкі там труд: бібліяцекар, прадавец, пастух, толькі ета ўсё як-та лёгка там даецца. І вяселлі спраўляюць, толькі без гарэлкі. І вельмі многа ў раю птушак, так красіва спяваюць, вось чаму птушак трэба шанаваць і карміць іх, бо гэта бажэственная, райская істота.

Пекла знаходзіцца пад зямлёй. Там заўсёды ноч, холадна, і людзі, якія туда папалі, цяжка работаюць, ім есці мала даюць, б'юць іх. А хто гаворыць, што ў аду людзі ў смале кіпяць, а іх чэрці плёткамі б'юць і гарачую смалу ўсё падліваюць і падліваюць.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Рай – гэта жыццё праваслаўных людзей пасля смерці, якія былі добрымі, веруючымі.

Калі ўмірае чалавек, яго на сёмым небе сустракаюць два анёлы: ахоўнік і д'ябл. Кожная душа прыносіць свае грахі: калі чалавек быў угодны Госпаду, ён пападае ў рай, які прадстаўляецца вечна цвятушчым садам і акружэннем добрых людзей. Душа злога чалавека, які не верыў у Бога, трапляе ў пякучую смалу, дзе заўсёды вялікая цемра.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

## *Рай і ад*

Рай на чацвёртым небе. Там добра, усё зялёнае, зямелька добрая. І людзі там жывуць у спакоі. Яны ўсе такія ў белым адзеты. Жывуць у садах. Тут ім можна і сем'і заводзіць. А калі палучаліся дзеці, то Бог іх на зямлю скідваў, бо нельга ім было жыць тут. Але і на зямлі яны не жылі – рабіліся валунамі.

А ўжо ў адзе адны чэрці былі. І столькі іх там было, што аж кішэла. І ўсе такія злыя, з рагамі, хвастатыя былі. На канцы хвастоў агонь гарэў.

Грэшнікам там прыходзілася, ой, як нядобра. Іх і палілі, і пяклі, і ў катле варылі. І мучаліся іхныя душы.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

## *Бог*

Бог сатварыў і нас, і ўвесь свет, і саму зямлю. Усіх ён бача, пра ўсіх усё знае. Знае, якая жызнь у чалавека будзе, калі памрэ, гэта ён сам рашае. Гаворaць, што добра, калі ў сне прыходзіць Бог. Ён любіць усех – і харошых, і плахіх. Калі плахі чалавек папросе прашчэнне, пайме, што здзелаў плоха, Бог яго прашчае. Праведных людзей, калі паміраюць, забірае да сябе, у рай. Бог сам рэшае, куды каго адпраўляць: каго ў рай, а каго – у ад. Маліцца Богу трэба не абы-як, а з думай, каб Бог быў завсегда ў сэрцы тваім. Богу маліцца можна ўсюды, усюды ён пачуе, усягда паможа. Мы ўсе як у Бога на ладоні. Не любіць ён убійствы, калі абманваюць. Тым ён насылае іспытанні. А хто праходзіць іх, у тых душа і сэрца ачышчаюцца. Царква, кажуць, – дом Бога, там дзверы заўсегда адкрытыя. Любы можа прыйці, памаліцца, папрасіць. Нада ж, каб кожны чалавек хрышчоным быў, каб д'явал не прыставаў. Бог сваім сынам выратаваў усіх нас, сын яго амыў крывёю сваёй усе нашы грахі. Дык людзі ж усё раўно грашаць, не звяртаюцца к Богу. Што ж зробіш? Хай прасціць іх Бог.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Хурсевіч Тацяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)***

Я веру ў Бога. Ён ёсць. Баюсь здзелаць што-та не так, таго што Бог наказвае. Бог – эта якая-та сіла. Мы не відзім Бога.

У нашай дзярэўні быў такі случай пасля вайны. Жылі мама і дочка. Вот гэта баба палола агарод і бачыць, што па яе гароду ідзе чалавек, ідзе прама па фасолі. Баба эта стала клясьці яго. А чалавек сказаў, каб не кляла яго, а то есці фасолі етай не будзе яна, і ісчэз. Фасоль паспела, сабрала баба яе. А кагда ставіла яе варыць, то быў тленны запах, есці яе нельзя было. Усе людзі прыходзілі з дзярэўні глядзець на тую фасоль. Гаварылі, што эта будта бы быў Бог, як чалавек. Не нада нікаго клясьці. Мы не ўмеем пользавацца благамі, што дае нам Бог.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Зямлю і свет стварыў Бог, стварыў Адама і Еву. Спярва з'явіліся Адам і Ева, а потым астальныя людзі пайшлі.

Сонца абаграе, а месяц толькі свеціць.

У Бога веру. Без Бога – не да парога. Бог не дасць – не будзе ні ўраджаю, ні здароўя. Да Бога молімся, каб бяда мінавала ці балезнь адстала, калі спаць лажуся і калі прачынаюся, каб дзень выдаўся харошы. Бог так рашыў, каб жанчына всё врэмя працавала.

* * *

Ішоў мужык па дарозе. Падыходзе да яго Бог і гавора: "Куды ідзеш? Сядзь, адпачні са мной". Мужык пасядзеў з Богам, адпачыў і пашоў далей. А Бог застаўся на сваім месцы. Патом бачыць – ідзе жанчына. Ён з тымі ж славамі да яе. А жанчына сказала, што ёй некалі. Тады Бог і кажа: "Раз так, дык бегаць табе ўсё жыццё, спяшаючыся, ды без адпачынку".

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Я ў Бога веру. Ён правіць усім светам. Па тэлевізару паказваюць, як амерыканцы з-за нефці ды чужой зямлі ваююць. Каб не Бог, дык і ў нас тожа б вайна была, а так, слава Богу, жывём ціха. Богу людзі нашы нравяцца, працавітыя мы, і ўсё врэмя былі такія.

Раскажу легенду пра Бога. Хадзіў па свету Бог. Ідзе раз па дарозе, каля поля, а там жанчына жыта жне. Ён падышоў і спрашывае: "Гаспадынька, пакажы, як выйсці на шлях?" Жанчына, як рабіла, так і робіць, ды разам і расказвае, як прайсці. Бог ёй і кажа: "Сядзь, адпачні ды толкам раскажы!" А яна: "Некалі мне сядзець! Вунь работа стаіць".

Пайшоў Бог далей. Бачыць – мужчына косіць. Ён да яго: "Добры чалавек, пакажы, як на шлях выйсці!" Адклаў мужчына касу, прысеў каля Бога і, не спяшаючыся, расказаў, а патом яшчэ і правёў да шляху. А калі вярнуўся, дык хутка дакончыў сваю справу. Так і павялося спрадвеку: мужчына справу пачаў і скончыў, а жанчына, сколькі не робіць, а ўсе справы ніколі не канчае.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ці веру я ў Бога? Веру. Чым болей гадоў, цім болей прычын верыць. Бо колькі ўсяго здараецца, адзін Бог памагае. З Богам дапамога заўсёды прыходзіць. Толькі ве-

рай чалавек і трымаецца ў самыя цяжкія хвіліны.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

У Бога я веру, ён нас саздаў. Я яму малюся, ён памагае. Бога ніхто не бачыў. Як ён выглядае – не ведаю. Прадстаўляю, калі малюся, такога, як на іконах Хрыста рысуюць.

Кажуць, што сколькі на зямле людзей, столькі на небе зорак. Калі чалавек паміраe – яго зорка падае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Бог стварыў чалавека з гліны: зрабіў галаву, тулавішча, рукі, ногі, а потым удыхнуў у яго жывую сілу. Ад Бога ў чалавека знешнасць і тое, што ён можа рабіць розныя добрыя ўчынкі, а ад чорта тое, што ён можа быць такім жа няверным, спакуслівым.

Першага чалавека звалі Адам. Яго жонку звалі Ева. Бог бачыў, што Адам жыве адзін і невясёлы. І вось, калі ён спаў, Бог узяў рабро Адама і зрабіў жанчыну і сказаў, што гэта яго жонка. Адам і Ева жылі ў Эдэме, не ведалі працы, дабра і зла. У Эдэме расло дрэва ведаў, якое стаяла пасярод рая. Бог забараніў людзям чапаць яго плады. Але змей спакусіў Еву: яна сарвала яблык і дала паспрабаваць яго Адаму. За эта Бог наказвае людзей: ён выганяе іх з Эдэма на зямлю і кажа, што на зямлі яны спасцігнуць дабро і зло, будуць працаваць, а Ева будзе раджаць дзяцей у вялікіх муках. Калі Ева дала Адаму ўкусіць яблык, а потым сказала, што ён з запрэтнага дрэва, Адам падавіўся. З тых пор у яго ў горле хрышч – адамаў яблык.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Бог стварыў свет і людзей. Людзям Бог здзелаў вельмі гожы рай. Людзі там і жылі, пакуль не зграшылі. Рай – гэта такі сад, у якім усігда многа ўсяго, што толькі захочаш. Там было заўсёды цёпла, там усігда лета. Цела людзей было пакрыта якімсьці панцырам, скарлупою. А кагда яны саграшылі, дык тая скарлупа куды-та прапала, толькі на пальцах асталась, штоб людзі не забыліся, як колісь жылі. Первых людзей звалі Адам і Ева. Калі яны з’елі яблака, саграшылі да пашлі скітацца па свету, дак яны вельмі плакалі, жалелі, што загубілі сваю долю, загубілі сваё райскае жыццё. Бог зміласаўся да й сам прыходзіў к ім і вучыў іх, як жыць, як дзелаць усялякае дзела. Бог абяцаў людзям, што калі яны не будуць грашыць, то послі смерці пападуць у рай і будуць там жыць разам з ім.

Рай знаходзіўся ўгары, каля яснага сонца, а пекла – унізу пад зямлёю, дзе цёмна. Там чэрці ў катлах са смалой вараць душы грэшных людзей. Душы гараць, мучаюцца, ды й ніколі не могуць згарэць.

Бог у нашых людзей з’яўляўся ў выглядзе дзеда. Сначала ён хадзіў па зямлі, а патом, калі людзі зграшылі, Бог стаў жыць у небе сярод ангелаў. Калі раджаецца чалавек, Бог пасылае яму з неба ангела-храніцеля, які аберагае яго да самай смерці. Калі чалавек на зямле многа грашыў, Бог пасля смерці адправіць яго ў пекла, а калі не, то ў рай.

Калі Бога прасіць, то ён заўсёды дасць тое, што прасілі. Бог справядлівы. А ліхое дзела Бог не даруе, калі не на етым свеце, то на тым. Чалавека Бог стварыў з зямлі.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Марусавай Ніны Мінаўны, 1918 г.н.,***

***студэнткай Марусавай Д.***

Свет стварыў Бог. Раней яшчэ казалі, што свет трымаецца на рыбах. Зоркі на небе –душы людзей. Нават кажуць, што калі падае зорка, то нехта памірае, а калі загараецца – то нехта нарадзіўся.

У Бога я веру і ўвесь час лічу, што Бог на небе. Свет стварыў Бог за 7 дзён: да першы дзень – свет, за другі дзень – ваду, за трэці дзень – сушу, за чацвёрты дзень – сонца, луну і зоркі, за пяты дзень – рыб і ракушак, за шасты дзень – жывёлу і чалавека. На сёмы дзень Бог не тварыў нічога, але гэты дзень быў дзень яго. У гэты дзень Бог адпачываў.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Я веру ў Бога, таму што з гэтай верай жыццё становіцца лягчэйшым. Так лягчэй пераносіць усе цягаты жыцця, бо мы ў жыцці часта робім паступкі, якія па закону Божаму – грэх. Калі мы звяртаемся з просьбай к Богу, то ён нас прашчае. Я пашчуся. На кожнае свята і ў нядзелю хаджу ў царкву. У гэтыя дні стараюся не рабіць работы: шыць, сеяць, вязаць, бо, кажуць, на свята рабіць – гэта грэх. Бог чалавеку дае на працу 6 дзён, а нядзеля лічыцца днём отдыха.

Чалавека стварыў Бог. Яшчэ стварыў усё тое, што маецца на зямлі. Чалавек не павінен раптаць на сваю судзьбу, бо ўсё тое, што адбываецца ў нашым жыцці – усё гэта па волі Божай. Бог вядзе па жыцці.

Я лічу, што пры хрышчэнні Бог назначае ангелаў, якія заўсёды з чалавекам, а калі чалавек непахрышчоны, значыць, ён без зашчыты. Багата хто пачынае верыць у Бога, калі што случаецца з ім альбо з блізкімі яму людзьмі.

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

У Бога веру. Калі была Савецкая ўласць, з капліцы зрабілі баню, то пайшоў чалавек – апарыўся. Яго лячылі, дак запіналі вокны, яечкам лячылі. Гэты чалавек лічыўся святым. А яшчэ ў нас на хвоях булі крэсцікі на могілках, кажуць, відно було ў Мозыры. Верылі ў Бога людзі, хаця і заставлялі на Пасху работаць. Прывозілі папа, каб пакрасціць дзяцей. Шчадраваць хадзілі. Наймалі хаты і хадзілі на вячоркі. Былі большыя і меншыя гурты. Бога ніколі не адцураліся.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

У Бога веру. Бог – эта самае высокае сушчэства, катораму ўсе пакланяюцца і верат. Ён міласэрны, вечны. Не імеет ні начала, ні канца свайго быція. Всегда он быў, ёсць і будзет.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Бог – гэта ацец Ійсуса Хрыста. Ён стварыў зямлю і чалавека. Я сама яго бачыла. Мужык мой пакойны піў. Я і гавару: "Дзе на цябе той Бог? Ёсць ён ці няма?" Ноччу, той жа ноччу, прасынаюсь ад святла. Гляджу: ідзе да мяне старычок нізенькага росту.

Прыходзіць і кажа: "Чаго табе трэба?" Я анямела, цела стала цяжолае. Гавару: "Нічога". А гэты дзядок гаворыць: "Ты спрашывала, ёсць Бог ці няма, так знай, што ёсць!" Сказаў так іісчэз. Болей ён мне не паяўляўся.

***Запісана ў в. Іванаўка Рэчыцкага р-на***
***ад Ружыцкай Валянціны Ульянаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Бог зямлю зрабіў. Сем дзён рабіў, толькі раней адзін дзень дліўся цэлыя тысячы гадоў, таму зямля так доўга і стваралася.

***Запісана ў в. Іванаўка Рэчыцкага р-на***
***ад Ружыцкай Валянціны Ульянаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Неяк ішоў Бог па зямлі і ўбачыў, што жэншчыны жыта жалі на полі. Ён да адной з іх падыйшоў і спрасіў, як прайсці да дзярэўні. А гэтая жэншчына нават і галаву не падняла, так, кіўнула ў бок дзярэўні і далей жала.

Бог пайшоў далей і ўбачыў, як мужчыны траву касілі. Ён да іх падыйшоў і спытаў дарогу да дзярэўні. Мужчыны перасталі касіць, селі на мяжу, закурылі і расказалі Богу, як да дзярэўні дабрацца.

З тых пор яно так і пайшло. Бабы етыя трудзяцца не прысядаючы, а мужчыны час пакурыць усё роўна знойдуць.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Семчанка Антаніны Маркаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Бог – сіла, якая з намі заўсёды. Яму трэба маліцца, трэба пасціцца, і ён заўсягда дапаможа. Яго сіла самая моцная. Пасля яды і перад ядою трэба прачытаць малітву Богу. Я дык заўсягда так раблю і веру ў Бога, у яго святую сілу.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Да пачатку свету жылі на зямлі другія людзі, больш развітыя. Тыя людзі перасталі верыць у Бога зусім, чаго і праізашоў іх канец света. Але Богу так больна было глядзець на тое, як яны танулі (канец света быў патопам), што ён рашыў болей так не рабіць і прыдумаў радугу, якая яму напамінала аб гэтым.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Бог заўсёды жыў і жыве сярод людзей. Ён можа з'явіцца ў вобразе жабрака, старой бездапаможнай жанчыны або дзіцяці.

Вера ў Бога павінна быць у сэрцы кожнага чалавека. Гэта не толькі любоў да Бога, а і да ўсяго акружаючага, так як гэта дадзена Богам, гэта яго тварэнне.

Гэта гісторыя дайшла да нас з даўніх часоў, і аб ёй спяваецца ў псальме. У адной мясцовасці прайшла чутка, што завітае Бог у госці. Людзі старанна рыхтаваліся сустрэць дарагога госця. Адна жанчына ўпэўніла сябе ў тым, што завітае Бог і к ёй. Пякліся пірагі, прыбіралася ў хаце, рыхтаваліся кветкі і пачастункі для дарагога госця. Яе працу перапыняў стук у дзверы неаднойчы. Яна з задавальненнем адчыняла дзверы з надзеяй, што Бог і пра яе не забыўся. Але на парозе з'яўляліся нежаданыя госці.

Спачатку завітаў жабрак, потым жанчына, дзіця. Людзі прасілі ў яе дапамогі. Жанчына ім не давала, бо чакала дарагога госця. Але Бог прыйшоў да яе толькі ў сне і паведаміў, што днём завітаў да яе тройчы, але яна яго не прыняла. Трэба не толькі нам прасіць дапамогі ў Бога, але і самім аказваць дапамогу бліжняму.

***Запісана ў в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на ад Калацэй Раісы Сцяпанаўны, 1929 г.н., студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Бог раздаваў звярам вочы, каб пабачылі яго і пакланіліся яму. Усім вочы даў, а ліса спазнілася, але сказала Богу, што яна рабіла. Бог даў ёй хітрыя вочы, бо ведаў, што шкодзіла яна. А рак-то прышоў па-за ўсіх, і засталіся яму самыя страшныя вочы. Ён закабыліўся і пайшоў назад, так Бог яму туды іх і прыляпіў. А крот так да Бога і не пайшоў, таму і сляпы астаўся.

Калі Бог стварыў зямлю, ён узяў жменьку, кінуў угару, дунуў, і яна абярнулася ў птушак. Чорт зрабіў так, як і Бог. Узяў жменю, шыбануў дагары. Дый куды яму да Бога! Пасыпаліся на зямлю ўсялякія мошкі, авадні, камары. Так і па сённяшні дзень пякуць яны.

Калісь, калі пчолы кусалі чалавека, яны паміралі, і Бог зрабіў так: калі пчала каго ўкусіць, той памірае.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н., студэнткай Горскай Т.***

Я веру ў Бога! Ён есць! І як жа ў яго не верыць, калі ён усё саздаў: і цябе, і мяне, і зямлю – ну, адным словам, усё, што вакруг. Без Бога нельзя пражываць на свеце. Ён і ад злых людзей ахраняе, жыць дапамагае. Ён міласцівы і любіць усіх людзей на свеце, бо ён іх тварэц. Над кожным чалавекам ён трудзіўся: каму якое злічча даць, судьбу.

Бог – Ацец. Ён стварыў зямлю і ўсё, што на ёй, за 6 дней. Многія ў гэта не вераць, а я веру, бо гэта ў Божым слове – Бібліі напісана. А ўсё, што напісана ў Бібліі, – праўда, ісціна. У сёмы дзень Бог адпачываў і нам заканаваў – пачытаць суботу і, па-нашаму – нядзелю!

Існуе зло і дабро. І гэта праўда. Зло саздаў Сатана. Раней сатана быў адным з ангелаў у Бога, но ён пазавідаваў сіле і власці Бога. Бог Сатану наказаў. Сатана явіўся Адаму і Еве ў вобразе змея. Ён саблазніў Еву, і яна саграшыла: укусіла яблык з дрэва, плады якога Бог забараніў людзям есці. І тагда Ева дала адкусіць і Адаму. За грэх Бог выгнаў іх з раю. Цяжэй жыць жанчынам, бо Ева сатварыла першай грэх. З-за першага граха ўсе людзі раждаюцца ўжэ грэшнымі. З пачатку саздання свету прашло больш 5 тысяч гадоў, і людзі нарушалі Божыя заветы. І тагда Бог паслаў у свет свайго адзінага сына – Ісуса Хрыста.

Ён нарадзіўся ад святой Марыі. Яго айцом зямным был Іосіф. У малым возрасце Ісус быў ужо вельмі мудрым. Бог паслаў яго ў мір па вялікай любві к нам ў жэртву. Ісус пераҗыў вялікае гора, і яго кроўю амываліся нашы грахі, но штоб папасці к Богу і атрымаць вечную жызнь з ім, то нада пакаяцца і паверыць, што Ісус – гэта Божы Сын, і папрасіць у яго прашчэнне. Жыццё – пастаянная барба паміж плоццю грэшнай і духам. Калі чалавек каецца, то Бог з часам мяняе его жыццё, робіць яго цікавым, з мірам у сэрцы.

Бог існуе ў трох ліцах: Бог – Ацец, Бог – Сын Ісус Хрыстос, Бог – Дух святы. Дух святы – гэта нябачная сіла. Кагда Хрыстос у 33 гады хрысціўся, на яго ў выглядзе голуба сайшоў Дух святы, і Ісус тварыў бальшыя чудеса – васкрашаў мёртвых, вяртаў

зрэнне, убіваў хромату і г.д. Дух Святы вітае вакруг святых людзей. Святым можа стаць кажды, хто прыме Хрыста ў сваё серца.

Я веру ў жыццё пасля смерці. Ёсць Рай і ад.

Ад – гэта гіена вогненная. Там страшна! Там вечная смерць, людзей будзет мучыць жажда. Яны будуць гарэць і не згараць. Туды пападуць усе, хто цяпер бярэ ад жызні ўсё, сільна грэшыць. А святыя будуць наслаждацца жыццём вечным у Раі са сваім Тварцом. Бог храніць тых, хто верыць у яго, а тых, хто не і хуліць Бога, ён стрэбляе.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Гаварылі, што раней людзі верылі і ў Бога, і ў нечысць. У нечысць верылі тыя, хто нарабляў. Іх яшчэ называлі «змяюкамі». Такія людзі ішлі ў ад, які, гаварылі, знаходзіцца пад зямлёй. Там стаяць бочкі, у якіх кіпіць смала, і там кіпяць гэтыя грэшнікі.

Там стаіць трон, і на гэтым троне сядзіць той цар і камандуе, каб больш падалі агню ў смалу. Хто на етым свеце гнуў маты, там за ета яны сядзяць каля дрэў, за якія абмотаныя іхнія языкі.

Рай на небе находзіцца. Там мерлыя жывуць, як жывем мы на зямле. Яны робяць там тое ж, што рабілі на етым свеце. Хто быў начальнікам, той і астаўся ім, а хто рабочым, той і там рабочы. Там лётаюць голубы і анёлы-храніцелі. Тут жа жыве і сам Бог.

Раней людзі думалі, што зямля круглая і яе дзержыць чарапаха. Казалі, што зямля не мае ні канца, ні краю. Расказвалі, што неба мае 7 нябёсаў, а людзі бачаць только першае. На сёмым небе жыве сам Бог. Раней людзі маглі заходзіць на неба, а пасля таго, як пачалі грашыць і нават не верыць у Бога, то Бог закрыў гэтую дарогу.

Звёзды ў небе ўяўлялі як кропкі, якія блішчаць. Некаторыя людзі маглі пракладаць шлях па зорках. Калісь быў такі чалавек, які так добра ведаў зоркі. Ён выйдзе вечарам на вуліцу і можа сказаць, якой няма зоркі на небе.

Калі загаралася зорка на небе, то казалі, што нарадзілася дзіця, а калі патухала – што паміраe чалавек. Яшчэ казалі, што калі каціцца зорачка, то гэта нехрышчонае дзіця, якому Бог нідзе не дае месца на тым свеце. Калі бачыш такую зорку, трэба перахрысціцца і сказаць: “Ідзі ў рай”, каб Бог яго прыняў да сябе.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Сонца і месяц утварыліся з планеты. Ангел – харошы чалавек, які аберагае, у яго ўсе вераць. Бог дае чалавеку судзьбу. Бог – звычайны чалавек. Справы дзеляцца на мужчынскія і жэнскія. Так падзяліў Бог. Еслі чалавек дзелае дрэнныя паступкі, дык ета чорт усяліўся.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любові Іванаўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Зямля мае форму ў відзе шара, і паварачваецца яна медленна на сваёй асі.

Да пачатку света была адна вада кругом. Тады Бог задумаў зрабіць свет такім харошым, як рай, і пачаў тварыць. Ён за 7 дней саздаў мір: і траўку, і жывёл, і птушак, і пчолак. А тады ўжо і чалавека. Першы мужчына быў Адам. Яго Бог зрабіў з гліны.

Удыхнуў у яго свой святы дух, і чалавек прачнуўся. І вось Бог зрабіў яго па свайму падобію. Потым Бог падумаў, што Адаму яшчэ трэба зрабіць жонку. Ён узяў з Адама рабро і з яго зрабіў Еву. Гэта была першая жанчына ў свеце. Ад іх пайшлі ўсе людзі. І вось хадзілі Адам і Ева па зямлі і не стыдзіліся адзін аднога. А потым змей падгаварыў Еву і яна адарвала яблычка з дзераўца, сама з’ела палавіну, а другую палавіну аддала Адаму. Ён таксама паспрабаваў яблыка, і вось так першыя людзі саграшылі. Бог прыказаў ім, каб яны не чапалі гэтае яблыка, а яны не паслухаліся. Вось чаму іх пакрыў стыд. Яны пачалі шыць адзёжу з лісцеў, таму што стыдзіліся. І вот людзей на свет пусцілі.

Неба празрачнае, як сцякло, і ніхто не ведае, дзе яго край знаходзіцца. На небе знаходзяцца зоркі. Бальшыя зоркі – гэта ўзрослы чалавек, маленькія – гэта яшчэ маленькі. Калі зорка гарыць вельмі ярка, то чалавек добры. Раней казалі, што калі зорка падае і ад яе застаецца яркі след, то гэта чалавек памірае добры. Калі адразу згасае, то памірае злодзей ці нейкі грэшнік яшчэ.

Колькі зорак на небе, столькі людзей на зямлі. І вось, калі памірае чалавек, то яго зорка падае, і яе ўжо няма на небе. Чалавек пераходзіць у другі свет.

Бог чалавечую душу пасылае ці то ў рай, ці ў пекла, як ужо заслужыць. У рай пападае той, хто нікагда не аскарбіў, не абгаварыў, а ў пекла – хто ўбівае людзей, крадзе – усе злодзеі.

Калі чалавек толькі памрэ, яго душа находзіцца ў доме, дзе ён жыў, 40 дней.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Святой счытаецца пасвяцоная вада з калодзежа, узятая прыкладна з 5 да 7 гадзін раніцы, пакуль ніхто не замачыў у калодзежы вядра.

Чалавек нараджаецца, і разам з ім нараджаецца судзьба. Кагда ў чалавека сільная воля, ён можа змяніць сваю судзьбу.

Першага чалавека стварылі Адам і Ева. Іх дзіця нарадзілася ў яслях, куды клалі сена скату. Ад Бога всё ў чалавеку. Можэ такое быць, што і чорта памянеш. Цела дае Бог, а думкі – чорт.

Зямля круглая. Ідуць на край свету, каб ніхто не найшоў, каб уцекці ад непрыятнасцяў. У рай пападаюць тыя людзі, што вераць у Бога, добра жывуць, а ў пекла – тыя, што ругаюцца, робяць нешта дрэннае.

Месяц дзеліцца на 4 кварты: палавіна, сходок, маладзік, поўня. Усю хатнюю гаспадарку робяць, гледзячы на гэтыя кварты: усе закаткі дзелаюць на сходок, валасы стрыгуць на маладзік. Плямы на месяцу кажуць аб дажджы, а зімой – аб снезе, светлыя плямы – на добрае надвор’е.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Зямля сушчаствуе ўвесь час. Ева адкусіла яблык, а Адам стаяў і наглядаў за гэтым, і не астанавіў яе. Бог рашыў, што яму тожа хацелася папробаваць, і наказаў іх. Пачалі нараджацца людзі.

Сонца і месяц з’явіліся ад Бога, усё Божае.

Плямы на месяцы – гэта хаты памерлых людзей.

Ёсць маленькія ангелочкі. Радзілася дзіця – гэта з'явіўся яшчэ адзін ангелочык.

Калі кладзешся спаць, трэба гаварыць малітву:

Янгалы мае, храніцелі,
Сахраняйце маю душу
З вечара да поўначы,
З поўначы да свету,
Да канца веку.

Бог – гэта чалавек, які валодае вялікай сілай.

Мужчына святы, а жанчына – грэшніца.

Жывая вада – гэта пасвяцоная вада.

Ад Бога ў чалавека харошае здароўе, а балезні – ад чорта.

Зямля круглая. Край свету ўсюды, а ідуць на край свету з гора.

У рай пападаюць веруюшчыя людзі, а ў пекла – злодзеі, воры.

Ад маланкі хрысціцца нада, чытаць малітву. Калі сыпле град, дык выстаўлялі хлебную лапату. А яшчэ трэба выносіць з хаты ікону і ставіць на парозе, каб Бог абараняў дом і людзей.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Спачатку быў адзін воздух. Патом Бог кінуў сваё рабро і з яго зрабілася зямля.

Неба і ўсё, што на ім, зрабіў Бог. На сонца нельзя паказваць пальцам, бо палец адсохне.

Калі народзіцца дзіця, Бог запальвае для яго зорачку. Еслі ж памірае чалавек, зорка падае і згарае. А яшчэ казалі, што на зорках жывуць душы памёрлых людзей і яны сочаць за жывымі.

Анёл – памочнік Бога. Бог, пры ражджэнні чалавека, пасылае да яго ангелочка. Еслі чалавек Богу нравіцца, ангелочык ахоўвае чалавека ўсю жызнь, а еслі не, тады адпраўляе яго да другога чалавека. Анёл заўсёды каля чалавека з правага боку, таму пляваць направа нельзя.

Жывая вада ёсць, але яе нельзя дастаць, патаму што находзіцца яна на краю света, а як туды папасці, ніхто не знае.

Мёртвая вада – эта замоўленая вада.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

* * *

У Бога я веру. Бацькі маі верылі. Усе гавораць, што гэта той, хто зрабіў свет з цемры, чалавека, усё жывое, сонца. Ён усіх відзіць. А мы яго не чуем і не відзім. Людзям добрым, якія добра працуюць, якія моляцца, ён робіць толькі добрае. Калі чалавек забалее, тожа памагае. А людзі за гэта яму благадарны. Ніхто ж яго не відзеў, але думаюць, што ён пахожы на чалавека, думаюць, што на небе жыве. Туды забірае хорошых людзей, калі памірае хто. Гавораць так: "Бог даў, Бог узяў". Бог усягда пама-

гае, калі папрасіць. Ён дае харошы ўраджай, здароўе кожнаму. Але хто вельмі грэшны, забірае ў таго чалавека, што даў. Калі дзеці родзяцца, нясуць у царкву хрысціць, каб Бог прыняў к сабе пад апеку.

*Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на*
*ад Бравай Марыі Іванаўны, 1926 г.н.,*
*студэнткамі Хурсевіч Г., Бравай І. (2004 г.)*

**Свет састаіць з частак: зямля, вада, агонь і воздух. Зямля круглая, і там нету края. Высказванне “пайсці на край света” азначае: пайсці туды, дзе далёка.**

У Бога я веру. Бог як Сонца. Сонца абагравае ўсіх людзей светам, так і Бог.

Жыццё пасля смерці ёсць. Ёсць рай і ад. Рай знаходзіцца павыша, ад – ніжэй. У рай пападаюць людзі, якія дзействіцельна ідэяльныя, нягрэшныя, якія саблюдаюць усе запаведзі Божыя. Грэшнікі пападаюць у ад. Ад і рай находзяцца между зямлёй і небам.

Кожнаму даецца анёл-храніцель. Но толькі ён можа аставіць чалавека, калі той не будзе памятаць Бога. У нехрышчоных яго ўвогуле няма. А каб анёла вярнуць, трэба чытаць малітвы.

Душа, калі ўсяляецца ў чалавека, ёй намечан пуць для іспраўлення. Калі чалавек іспрaвіўся, то яму ў следуюшчым жыцці будзе лепей.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Іванчыкавай Людмілы Аляксееўны, 1962 г.н.,*
*студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)*

**Зямля круглая. А неба лёгкае, вaздушнае, яно як іспарэнне ад вады.**

Я ў Бога веру. Калі звяртаешся да Бога, прадстаўляеш яго па-рознаму. Адзін раз ён як пажылой, а другой раз – маладой.

Жызнь пасля смерці, магчыма, ёсць.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,*
*студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)*

Зямля – яна самая багатая. Без яе нельга жыць. Яна шмат вякоў карміла весь народ. Чалавек вельмі шмат разоў крыўдзіў зямлю, але яна заўсёды адплачвала народу дабром, давала вельмі добры ўраджай. Калі харанілі чалавека, то абавязкова бралі з могілак зямлю, а потым выкарыстоўвалі яе, каму для чаго патрэбна. Многія людзі, калі ўязджалі са сваёй краіны, то бралі з сабою жменьку роднай зямлі. Яны ведалі, што пра іх памятаюць на радзіме.

Усе ўяўлялі зямлю ў вобразе прыгожай жанчыны, якая была вельмі мудрая. Было вялікім грахом біць зямлю. Таксама на зямлю нельга пляваць – у гэтага чалавека магла ўзнікнуць якая-небудзь цяжкая хвароба.

Зямля прымала людзей, якія ачысціліся ў цэркве, а грэшнікаў увогуле не любіла.

*Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на*
*ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,*
*студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)*

Раней казалі, што свет – гэта талерка. Яна круглая і ў яе ёсць край. Ён знаходзіцца далёка-далёка, мы яго не можам бачыць. Ён там, дзе неба зліваецца з зямлёй.

Неба знаходзіцца далёка ад нашай зямлі. Мая маці мне заўсёды казала, што гэта хата Бога. Ён там жыве з ангеламі, і ўсё там вельмі добра. Там шмат света, і калі я бу-

ду рабіць шмат дрэннага, то Бог мяне не возьме туды жыць.

Яшчэ казала, што звёзды – гэта наша жыццё, гэта мы. Калі звязда вялікая, то ты добры чалавек і дарыш людзям дабро. Калі малая і нябачная, то ты злы чалавек. А калі зорка падае, значыць, нехта памрэ на зямле.

У Бога я заўсёды верыла, малілася яму. Я ведаю точна, што ён есць. І няпраўду кажуць людзі: “Які можа быць Бог, калі ў маём жыцці ён мне ні разу не памог?!”

Жыццё – гэта выпрабаванне. Чым болей цяжкасці ў тваём лёсе, тым больш цябе любіць Бог. Як мы вытрымліваем гэтыя праблемы, так і будзем жыць пасля смерці.

У чалавека ўсё добрае ад Бога, а злое – чуць-чуць ад нячыстай сілы. А нячыстай сілы ў наш час шмат.

Канешна, есць рай, ад. Але, навернае, у рай мала людзей трапляе, бо людзі ў апошні час злыя-злыя сталі, усё к сабе цягнуць, нічога ім не скажы. Мне здаецца, што скора на зямлі будзе другі патоп. Бог церпіць, церпіць, але ж ён не захоча, каб на зямле такое тварылася. Канешна, калі чалавек раждаецца, то Бог яму дае ангела, які будзе яго ахраняць. Але трэба ведаць, што калі ты не верыш у Бога, то ангел не будзе цябе ахраняць, ён будзе толькі ўвесь час ля цябе і раскажа ўсё Богу.

Не, ты выбіраеш сам свой пуць. Бог адпраўляе цябе на зямлю, каб праверыць цябе, дае пэўны срок. Гэта значыць, час да смерці. У мужчыны есць адамава яблыка. Гэта, калі ён быў з Евай. З таго часу гэта яблыка напамінае ўсім, што мы самі вінаватыя. Таму кожны дзень мы і бачым яго.

Бог – гэта святая тройца. Маці яго нарадзіла ад святога духа, без ніякага граха. Ён не мае аблічча, але ён усюды. Ён увесь час каля нас. Гэта дух, які запаўняе ўсю зямлю. Я штось чула пра сёмае неба, але адкуль яно ўзялося, хто яго ведае... Я знаю, што на сёмым небе шчасце, так людзі кажуць.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Рагальскай Марыі Міхайлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Хто яго знае, адкуль узнік свет. Ніхто мне нічога пра гэта не расказваў. Можа Бог саздаў, можа тыя інапланіцяне. Ну, калі ёсць Бог, то свет ён зрабіў за 7 дней. Спачатку зямлю, ваду, затым звяроў, а нас – апошніх.

Сколька я пражыла, а нячыстай сілы не відзела. Няма чаго людзям рабіць, дак папрыдумвалі ці сказкам вераць. А тыя, што кажуць, што бачылі нячыстую сілу, можа, яны п’яныя былі.

Гэта адамавае яблыка ў мужчын для таго, каб было чым атлічацца ад жанчын.

Бог дае людзям дабро, а д’явал – зло.

Звёзды – гэта планеты. Наверна, яны пахожы на сонца, але проста знаходзяцца далёка ад нас.

Ад Бога ў чалавека дабро, а зло ад чорта. Гэта ўсе ведаюць.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Ліліпейка Антаніны Мікіфаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Зямля круглая, як шар. Але людзі кажуць: пайшоў ён на край свету. Але ж да гэтага часу ніхто не дайшоў, бо, напэўна, яго і няма.

Зямлю стварыў Бог, таксама і неба, зоркі. Зямлю ён стварыў для людзей, а неба –

для Бога. А вось нячыстая сіла ie і на зямле, і на небе.

Да пачатку свету правіла чорная сіла, напэўна, усё тады павымірала. А Бог зрабіў зямлю светлую, прыгожую, зялёную.

Калі чалавек нараджаецца, то яму ўжо напісана на раду, што ён будзе рабіць, дзе жыць, ад чаго памрэ. Усё наша жыццё належыць Богу.

Зоркі на небе – гэта людзі. Падае зорка, значыць, памёр чалавек. Падае хутка – чалавек памёр быстра, не мучаўся на зямлі.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Бандарэнка Лізаветы Яўменаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А. (2005 г.)***

Зямлю, канешне, Бог стварыў, але раней другая жызня была, лепшая. Па свету хадзіла адно дабро. Жылі людзі ў дастатку, і ўсяго ў іх хапала. Колас рос дык ад самай зямлі. Мукі ў людзей тады хапала ўволю.

Адзін раз пекла баба блінцы, а тут дзіця падбегла і пачало прасіць анучку, каб нешта выцерці. Баба, доўга не думаючы, кінула яму блінца. Бог раззлаваўся за такое абрашчэнне са збожжам і зрабіў так, што збожжа зусім перастала расці і радзіць. Ад голаду пачалі плакаць дзеці, мяўкалі каты, брахалі сабакі, уся худоба прасіла есці. Бог зжаліўся над імі і вярнуў ім усё назад. Усё ды не ўсё. Жыццё пасля гэтага змянілася. Колас стаў меншы, а раней рос ад самай зямлі. Такі колас у нас і зараз. Ды не людзям гэта ўсё дадзена, а жывёле і нявінным дзеткам. А мы з такім атнашэннем нічога не заслужылі. Вось і зараз старыя людзі кажуць, што ядзім мы "коцікаў" хлеб.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Шабетнік Любові Рыгораўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Раней людзі казалі, што зямля стаіць на трох сланах, а тыя стаяць на бальшой рыбіне, а рыбіна етая плавае ў моры. Шчэ чула я, што зямля дзержыцца на спіне ў кіта.

Старыя людзі казалі, што ё ў зямлі край. Вось, як станеш прама ды паглядзіш далёка-далёка, дык відна, што неба і зямля зліваюцца. То, кажуць, і ё канец света.

Шчэ матка пакойная расказвала, што ё 7 нябёсаў, як пападзе чалавек туды, то крэпка шчаслівы будзе. Неба цвёрдае, а да яго прылеплены звёзды. Звёзды на небе – то душы людзей. Калі нараджаецца чалавек – на небе зорачка паяўляецца, а калі той чалавек памірае, дык зорка падае.

Свет стварыў Бог за 6 дней. У шосты дзень здзелаў Бог чалавека і назваў яго Адамам і сатварыў яму жэншчыну. А на сёмы дзень прыказаў Бог усім аддыхаць.

Да начала свету была цемрадзь. Сонца і звёзды Бог сатварыў. Першыя людзі жылі ў раю. Бог сказаў ім, каб не елі плады з аднаго дрэва. А чорт падкінуў змея, тэй і падгаварыў Еву ўзяць з гэтага дрэва яблыка. Ева стала есці яблыка, а потым дала Адаму. Як стаў той есці, то Бог ета ўбачыў. Адам спужаўся і не пракаўтнуў тое яблыка. Вот і застрала яно ў яго ў горлі. Бог сільна раззлаваўся і выгнаў людзей з райскага саду. Так і пайшлі людзі па зямлі.

У кожнага чалавека ё анёл-храніцель. Калі чалавек памірае, то анёл пакідае яго. Ці калі чалавек нешта нядобрае зробіць, анёл пакідае.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Бог саздаў зямлю. Раней была кругом вада.

У кожнага чалавека ёсць свой анёл-ахоўнік. Ён з табой па правую руку. На праву́ю старану нельга пляваць.

Рай – гэта прыгожы сад, птушкі там спяваюць, сонца, ежа ўсякая і адзенне.

Пекла – гэта месца пакарання грэшнікаў. Там іх на агні смаляць, на крутарэгі круцяць, яны там скавародкі гарачыя ліжуць за брахню.

***Запісана ў в. Гацкое Чачэрскага р-на***
***ад Гулевіч Тафілі Кузьмінічны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Пішчук Н. (2006 г.)***

Чула я такі расказ пра пабудову свету: вялікі акіян, у якім плавалі тры вялікія кіты, якія дзяржалі на сваёй спіне трох сланоў. Сланы дзяржалі тарелку, над ёй вісеў купал, на якім былі прыбіты зоркі, сонца і луна.

Раней людзі лічылі, што зямля – гэта цэнтр свету, а вакол яе рухаюцца розныя планеты, зоркі.

Зямля мае выгляд тарелкі, над якой вісіць купал. Там, дзе сходзіліся тарелка і купал – гэта і быў край зямлі. І калі да яго дойдзеш, то можна ўпасць у акіян. Купал – гэта неба, яно зроблена са шкла. Людзі лічылі, што можна зрабіць вялікую лесвіцу і далезці на ёй да неба і датронуцца да яго.

Зоркі на небе – гэта душы людзей. Калі чалавек нараджаецца на свет, загараецца зорка, а калі ён памірае, яна падае на зямлю.

Вакол нас існуюць розныя нябачныя сілы. Яны нас альбо абараняюць, альбо наадварот, чыняць розныя недарэчнасці. Бог, вядома, таксама існуе. І пасмяротнае жыццё ёсць, таксама рай і пекла.

Пасля смерці чалавек трапляў у рай або ад. Рай – гэта цвятушчы сад. У варот стаіць стража, якая прапускае туды тых людзей, якія не грашылі на зямлі. Галоўны ў раі – Бог-айцец, шмат тут і анёлаў. Людзі ў гэтым месцы жывуць добра, весела.

Пекла знаходзіцца пад зямлёй. Галоўны там чорт, ён прымае да сябе грэшныя душы людзей і варыць іх у катлах са смалой.

* * *

Свет быў створаны Богам за 6 дзён. Да пачатку свету была цемра і хаос, але Бог не хацеў, каб усё засталося так, і за 6 дзён ён стварае свет. Вада, якая была пад небам, сабралася ў адно месца. Гэта і была зямля, на ёй сталі расці розныя травы, дрэвы. На цвёрдым небе былі пастаўлены сонца, луна і зоркі, каб асвяшчалі зямлю.

У тым месцы, дзе грашылі Адам і Ева, Бог кідаў камяні. У адным месцы іх было больш, у другіх – менш. Яны прыцягваліся адзін да аднаго – так і ўзніклі горы.

Дзьявал заслаў на зямлю розных нячысцікаў. Ён хацеў, каб людзі грашылі і траплялі не толькі ў рай, але і ў пекла. Калі чыстая сіла саграшыла, то яе кідалі з неба і яна трапляла ў розныя месцы. І вось па месцы іх знаходжання яны і атрымалі такія назвы: дамавік трапіў у дом і стаў яго ахоўнікам, лясун трапіў у лес, вадзянік трапіў у ваду.

* * *

Колькасць зорак раўняецца колькасці людзей. Калі зорка падала, але гарэла ярка, то чалавек быў чысты, добры, а калі гарэла цьмяна, то ён шмат грашыў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***

***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Раньшы людзі бачылі мір такім: была зямля, як блін, плоская, на ёй жылі людзі, а зверху яна накрывалася сцякляным калпаком. Блін – зямля, а калпак – неба. У зямлі краю няма. Яна не круглая, як шар, а то бы як бы мы на ёй жылі? Яна бісканечная, гэта Бог так саздаў. Старыя людзі казалі, што канца зямлі няма, як і канца свету.

Бог пастроіў лесвіцу, яна стаіць на залатой гары, дзе Ноеў каўчэг прыстаў. Па той лесвіцы падымаесся на неба. На першым небі душы памерлых стаяць, на другім небі пяюць песні ангелы, на трэцім небі вада жывая з мёртвай цічэць, на чацвёртым – райскі сад расце, на пятым – все архангелы за лірамі сядзяць, на шостым – сонца, луна і звёзды жывуць, а на сідзьмом – сам Бог правя. Неба ні крепкае. Неба далёка, і яно высокае. Бог паля свечкі. Ета і есць звёзды на небі.

Да пачатку света нічога не было. Бог адзін на небі быў. Свет узнік так: спачатку быў бальшы патоп. І людзі тагда жылі ўжэ. І ішоў дождж, і ўсё счэзла, і лес стаў пакрыты з верханню.

Святы чалавек пастроіў каўчэг і плаваў 40 дней. Дык людзі на дзярэўях пазастравалі. Ной выпусціў голуба, і голуб лятаў. Гэты каўчэг астанавіўся на кусочку зямлі. І яго жонка выйшла на вуліцу, і гаспадар казаў, каб яна ішла, не аглядалася. Яна глянула – і стала сталбом.

* * *

Ноччу сонца закрываецца дзесьці. Казалі раньшы, што хаваецца ў моры, каб с утра на лучах расу разносіць.

Пятны на поўным месяцы – гэта два браты, што кружаць месяц, калі ў адзін бок, а калі ў другі. Красная луна – значыць, зацьменне было.

Млечны шлях – гэта малако Бог вазіў, што паразлівалася, вот яно так і стала белым.

Чорт свісціць і вецер падымаецца. Яго ўяўлялі віхром, стаўбом пылі.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Быкоўскай Пелагеі Дзмітрыеўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2000 г.)***

Сам па сабе свет вялікі. Неба ёсць, і зямля пад ім ёсць. Прамая зямля, някруглая. Калі б круглая была, ды і нас не было б, мы ж ба пападалі. Гаварылі раньшэ, што і чалавек такі быў, што хадзіў глядзець, дзе край той зямлі, а ці дайшоў, ніхто не знаець.

Ёсць там на небе сядзьмое неба. Яно, калі чалавек на зямле очень харошы будзе ці што, дак і ён там будзе. Харашо там. А во калі каму харашо, так і гаварац, што ён на сядзьмом небе.

Раней так неба ўяўлялі, як і сегодня. Сам Гасподзь Бог на небе, Ісус Хрыстос, Багародзіца, анёлы – усе там. Ну, яно, як чалавек харошы, ды жыў усю жызню харашо, так патом і будзе ў раю, Гасподзь Бог на небе да сябе возьме. А калі ж паганы – дык ён тады ў ад пападзе, куды ж. Там за грахі плаціць будзе. Грахі, каб прасціў Гасподзь, дык нада ж замаліваць, прычашчацца. Калі пагода харошая, яно, значыцца, што людзі харашо жывуць, не грашаць ці мала грашаць. Яно ж і сонца тагда будзе. А калі дождж з громам, то Гасподзь гэта ругаецца на нас, што такія плахія, што грахі дзелаем. Зімою могуць маразы сільныя быць, а еслі ў дзярэўне, не дай Бог, калодзец замёрзне, то, значыцца, ёсць чалавек плахі, вядзьмак ці ведзьма. Магло так быць.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на***
***ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

Я веру ў Бога і лічу, што ён існуе. Я ведаю, што ён хадзіў па зямлі і прапаведаваў хрысціянскую веру. Гэта наш бацька, які дапамагае нам жыць і працаваць. Сама я саблюдаю ўсе пасты, хаджу ў царкву.

У кожнага чалавека ёсць анёл-ахоўнік. Калі дзіця нараджаецца, да яго прыстаўляецца анёл. Але гавораць, што некаторых людзей аберагае сам Бог.

Жыццё пасля смерці існуе. Калі чалавек памірае, яго душа перадаецца дзіцёнку, які толькі нарадзіўся.

Свет і ўсё, што ў ім ёсць, стварыў Бог за шэсць дзён, а на сёмы дзень ён аддыхаў. Спачатку нічога не было. А потым Бог сатварыў сонца і зоркі, каб было відна, потым – зямлю і ваду, трошкі пазней – звяроў, самым апошнім – чалавека.

Нячыстая сіла таксама існуе. Гэта д’ябал. Ён захацеў стаць вышэй, чым Бог. Аж у яго нічога не адбылося.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Аксёнавай Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Сычовай Т. (2004 г.)***

Народ представлял Бога большим старым человеком с белыми волосами, с белой бородой, в белом одеянии, который жил, как они думали, на небе. Но некоторые думали, что Бог среди простых людей живёт и работает. Кто думал, что Бог живет на небе, они говорили, что он управлял жизнью на земле с неба. Целый день он управлял жизнью на земле, “катаясь на облаке”, т.е. на земле был день, солнце светило, было светло. Но как только люди тревожили, волновали Бога, он злился, а его злость проявлялась в виде грома и грозы.

Вечером Бог ложился спать, и наступала ночь. Ночи люди боялись, потому что ночь, по их мнению, считалась временем Сатаны.

Бог хотел, чтобы люди не боялись ночи, хотел ночь забрать у Дьявола и людей, которые находились в его царстве, он отправлял на звезды, и они там жили, и чтобы их не забывали, они светили ночью. Так должно было светить целое небо, и тогда б ночи не было. Еще считали, что рождение человека – появление новой звезды, а когда человек уходил из жизни, то звезда гасла.

Небо люди считали божьим раем. Бог жил на седьмом небе с ангелами. Там не было злости, войн. Всё чисто и прекрасно.

Рай люди представляли как мир без забот, без проблем, как жизнь без лжи, без грязи, без лицемерия, предательства, т.е. они представляли рай, где жизнь совершенна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сакалоўскай Алены Адамаўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Сакалоўскай Я. (2000 г.)***

Бог – гэта нябесны оцец. Еслі ты з Богом жывеш, то ты нікогда не будзеш красці, убіваць, не опусцішся до п’янкі, усё будзеш маць: і здороўе, і грошы. А шоб з Богом жыць, трэба маліцца, хадзіць у цэркву, ставіць свечкі, ходзіць до споведзі, соблюдаць усе святы.

Жывая вада – гэта сьвятая вада. Вона от Бога. Ею лечацца. Еслі сурочылі, ею ўмываюцца. Вона можэ стояць довго і нікогда не спорціцца.

Мёртвая – гэто вода, якою обмывалі покойніка. Еслі яе подліць в яду, то гэты

чалавек і памрэ.

Огнем вупальваюць болячку з головы. Бяруць кужаль і робяць галушкі з яго, а потым запальваюць над галавою і просяць, каб болячку забрав і вупалів.

Еслі дзіця народзілосо ў плевцы, то кажуць: "Народзілосо шчаслівэ, бо в рубашцы". Такі чоловек шчасліві. А еслі ў дзіцяці була пуповіна обмотана вокруг шиі, то гэты чоловек будзе нешчасліві.

Рай – гэто Божый дом. Еслі не будзеш грашыць, то попадзеш туды. Трэба не сварыцца, не завідоваць, ходзіць у цэркву, помагаць.

А пекло – гэто дом сатаны. Там людзі, которые грашылі пры жызні: кралі, убівалі, пілі, блудзілі – мучаюцца на векі вечные. Кажуць, там іх чэрці ў смоле паляць.

Зоркі на небі – гэто душы померших. На зоркі не можна показваць пальцам, а еслі показав, то яго трэба ўкусіць 3 разы.

Гром – гэто Бог сварыцца. На свято "Стрэчанне" трэба купіць грамнічную свечку і запаліць яе, і гром ніколі не стукне ў хату.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Зямля, і ўсё, што на ёй, усё стварыў Бог. У Бібліі гаворыцца, што Бог працаваў над утварэннем зямлі 6 дзён, а 7 дзень адпачываў.

У кожнага жыхара есць свой ангел-ахоўнік. Гэта душа добрага чалавека, якая адышла на той свет, а потым Бог паслаў яе ў выглядзе ангела. Ён аберагае чалавека ад нягод. Але ж трэба яго адчуць, бо калі яго не адчуваеш, то ён пакідае яго.

Бог – гэта тварэц усяго свету, гэта ўсевышняя сіла над усім, што сатварэно. Гэта сіла дае нам жыць, вядзе нас па дарозе жыцця. Бог надае нам толькі харошага, але ж трэба выконваць яго запаведзі.

Калі нараджаецца чалавек, то Гасподзь вызначае яго лёс, але ж запрашчае ўсім ведаць час сваёй смерці, таму што трэба працаваць, а не думаць пра свой час.

Першыя людзі – гэта Адам і Ева. Першым Бог саздаў Адама, а з яго рабра – Еву, каб Адаму не было сумна ў жыцці. Добра ім жылося ў раі, а калі яны паелі забароненых яблак, то Бог іх ізгнаў із рая за грэх. З гэтага часу ўсе людзі сталі грэшнікамі.

Зоркі стварыў Бог. Калі чалавек нараджаецца, то на небе зажыгаецца зорка, а калі памірае – зорка ісчэзае.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Я думаю, што спачатку нічога не было: ні зямлі, ні неба – усё было ў цемры. Вось Бог і сатварыў свет і ўсё, што на ім.

Сонца даў Бог, каб яно свяціла і ўсіх абагравала, а месяц спатрэбен для таго, каб сонейка адпачыла.

Бог – штосьці ўсявышняе, гэта тое, што нам дапамагае, толькі патрэбна верыць у яго.

Агонь святы. Бог даў людзям агонь для таго, каб яны ўспаміналі яго, каб любілі агонь і баяліся яго, бо агонь вельмі жорсткі.

Раней людзі верылі ў сваю смерць і аб ёй ведалі, а зараз ведаюць вельмі праўдзівыя людзі. Яшчэ, калі чалавек родзіцца, то ўжэ яму назначана, калі ён памрэ.

Бог сатварыў свет і чалавека. Людзям ён даў і зрабіў рай, але ж людзі саграшылі ды пайшлі скітацца па свеце.

Рай – гэта сад, у якім шмат усяго, вельмі цёпла і прыгожа.

Пекла – гэта наадварот, там пячэ, там жывуць чэрці, якія здзекваюцца над грэшнікамі.

Кожны чалавек мае сваю зорачку. Колькі на небе зорак, столькі на зямле людзей.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

У Бога я веру, ён у мяне ў душы. Ён, як сонца: праменні і цяпло ад яго. Ацец, Сын і Святы Дух – Святая Троіца. Без Бога нельга жыць на белым свеце. Ён нам дапамагае жыць, дае сілу працаваць і цярпенне пераносіць няўзгоды. За усё, што мы маем, павінны дзякаваць Бога. Перад якой-небудзь справай я прашу Бога: “Госпадзі, благаславі!” Пасля работы дзякую Усявышняга: “Дзякуй Богу за дапамогу”. Калі кладуся спаць, то дзякую Бога за пражыты дзень і прашу, каб дапамог спакойна ночку пераначаваць і здаровай назаўтра ўстаць. Бог любіць людзей і усё, што ёсць на свеце. Бог сядзіць на сёмым небе, а мы бачым толькі першае.

Ад сваёй бабулі я чула, што да пачатку свету была цемра, было холадна, страшна, дзіка. Бабуля гаварыла: “Першы чалавек быў створаны так: доўга ішоў моцны дождж, кругом была вада. Быў пачатак нядзелі. Бог ішоў па зямлі і знайшоў хлеб, а потым з мякіша зляпіў чалавека”.

Ад Бога ў чалавека ўсё добрае. На правым плячы чалавека сядзіць ангел, а на левым – чорт. Таму нельга пляваць цераз правае плячо. Анёл прылятае да чалавека адразу, як нарадзіўся, і вядзе яго па жыцці. А калі чалавек памірае, то ён стаіць у галаве. Яшчэ казалі, як раднічок у дзіцяці на галаве зарастае, то яно перастае размаўляць з ангеламі. Таму дзіця трэба хутчэй пахрысціць.

Кажуць, што людзі раней ведалі час сваёй смерці. Але мне здаецца, што пра гэта ведае толькі Бог. На ўсё воля Божая.

Калі я была малая, мне здавалася, што край свету там, дзе сходзіліся зямля і неба. Глыбока ўнізе вялікая чорная яма, а ўверсе толькі туман. І ўяўлялася, што свет трымаецца на пазалочаных разных стаўбах.

Рай ўяўляю недзе высока. Там цвітуць сады, блакітнае-блакітнае неба, вельмі цёпла, усім добра. Там усе адзін аднаго любяць, німа зайздрасці і злосці, ніхто нікога не абіжае. А ад – гэта нешта чорнае, страшнае, гадкае, халоднае. Там цемра і знаходзіцца ўнізе.

Кажуць, што колькі зорак на небе, столькі і людзей на свеце. Як на небе загарыцца зорка, так нарадзіўся чалавек і яна яму свеціць усё жыццё.

Вецер – гэта вялікі дзядзька з тоўстымі губамі і шчокамі. Калі на зямлі сыра, гразка, ён пачынае злавацца і моцна дуць, як студзіць гарачую яду. А калі ўтоміцца, то дзьме ціха.

Калі пачыналася навальніца, уся сям’я збіралася разам. Старыя людзі чыталі васкрэсныя малітвы. Лічылі, што ў час навальніцы трэба на галаву завязаць хустку і нельга есці, каб не прыцягнуць маланку. Як блісне маланка, то мая бабуля казала: “Во, бліснула маланка, а зараз будзе ехаць Пярун на калясніцы з жалезнымі калёсамі”.

Каб выклікаць дождж, трэба забіць жабу. А мая бабка казала такія словы: “Госпадзі, памажы. Усё жывое вадзіцаю напаі, бо ўсё папячэцца”.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Раней людзі казалі, што зямля стаіць на трох сланах, а сланы тыя стаяць на вялізнай рыбіне, а рыба тая плавае сярод мора глыбокага. Зямля стаіць у цэнтры свету, а вакруг яе знаходзяцца зоркі, сонца і месяц. Якія двіжуцца вакруг зямлі. А зараз гавораць, што ў цэнтры знаходзіцца сонца, а зямля круціцца вакол яго. А як правільна, я не ведаю, мабыць так, як кажуць вучоныя, бо яны – людзі разумныя.

Я чуў, што зямля мае край, але ён вельмі далёка. Цяпер даказалі, што зямля круглая і края ў яе нет. Край света знаходзіцца вельмі далёка, а калі ты дойдзеш да яго, то зможаш паглядзець на тую рыбіну, на якой сланы стаяць, на якой зямля дзержыцца.

Свет дзержыцца на трох сланах, што знаходзяцца на вялізнай рыбіне, якая плавае ў вялікім моры. Яшчэ казалі, што зямля дзержыцца на спіне ў вялікай рыбіны-кіт.

Раней верылі, што неба цвёрдае, а да яго прылеплены зоркі, казалі, што на небе жыве Бог. Цяпер я віжу, што неба – гэта воздух, а то як бы ракеты ў космасляталі?

Калі чалавек пападзе на 7 неба, то там ён будзе вельмі шчаслівы. Так і зараз гаварацъ: "На сёмым небе ад шчасця". А большай нічога не помню. Да неба вельмі далёка, як і да краю свету.

Зоркі – гэта знак чалавека на небе. Жыве чалавек – гарыць зорка, памёр чалавек – патухла зорка.

Я веру ў Бога, веру, што ён памагае чалавеку ў жыцці.

Я веру ў жыццё пасля смерці. Людзі, якія былі добрымі пры жыцці, пападуць у Рай, а якія былі дрэннымі – у Пекла, дзе будуць мучыцца. Рай знаходзіцца на небе, там вельмі хараша. Людзі там усе шчаслівыя. Пекла знаходзіцца пад зямлёй, там чэрці мучаюць людзей, якія пры жыцці былі дрэннымі і злымі.

Свет, і ўсё, што ў ім, стварыў Бог за 6 дней, а сёмы дзень ён аддыхаў. Усё гэта Бог стварыў з нічога. А раней казалі, што да пачатку света нічога не было, пуста была, цёмна. Калі Бог стварыў свет, ён аддзяліў свет ад цемнаты, патом ён стварыў зямлю і ваду (акіян), а каб на зямлі было відна, ён стварыў сонца і зоркі.

Калі Бог стварыў зямлю, чорт украў у яго трохі зямлі і схаваў у роце, але зямля пачала расці ў чорта ў роце. Тады ён стаў пляваціца ў розныя стораны, так і з'явіліся горы, а раней зямля была роўная і гладкая.

Калі Бог стварыў першага чалавека, чорт падглядзеў, як гэта было і стаў сам рабіць людзей. Так і паявілася нячыстая сіла. Гэта тыя людзі, якіх зрабіў чорт.

Чалавека Бог стварыў з гліны па свайму вобразу і ўдыхнуў у яго жыццё. Першага чалавека звалі Адам, яго жонку – Ева. Калі Бог стварыў чалавека і назваў яго Адамам, то вельмі панравілась яму гэтае стварэнне. Але чалавеку было адзінока, і тады Бог усыпіў яго і з рабра Адама зрабіў яму жонку Еву. Першыя людзі жылі ў райскім садзе Эдэме, дзе было ўсё для іх жыцця: яда, піццё і другое. Бог сказаў, каб людзі елі плады з усіх дрэў, але з дрэва Дабра і Зла не елі. А чорт перакінуўся ў змяю і падгаварыў Еву з'есці яблык з таго дрэва. Ева сагласілася і дала Адаму папробаваць той яблык. За гэта Бог разазліўся на іх і выгнаў з райскага сада. А каб людзі не вярнуліся туды, ён на варотах паставіў ангела з вогненным мячом. Так людзі пайшлі па свеце.

Пры нараджэнні кожнага чалавека да яго спускаецца ангел, які будзе аберагаць гэтага чалавека ў жыцці ад усялякай бяды. Але калі чалавек не будзе жыць па законе Божым, то гэты ангел пакідае чалавека і на яго звальваюцца розныя няшчасці.

Я думаю, што ўсё, што робіцца ў жыцці чалавека, вызначана ў час яго раждзення і ён не можа што-небудзь змяніць у сваім жыцці. Усё будзе так, як павінна быць.

Казалі, што раней Бог хадзіў па зямле і дапамагаў людзям, але тыя яго пакрыўдзілі і цяпер не могуць яго бачыць, а даўней бачылі.

Сонца свеціць толькі днём, ноччу яно аддыхае, а яму на змену прыходзіць месяц – родны брат, з якім яны ніколі не сустрэнуцца.

У час наражэння кожнага чалавека запальваецца зорка, а калі чалавек памірае – зорка падае.

Людзі верылі, што ё такая вада, што можа ажывіць чалавека, даць яму сілу ці, наадварот, забраць сілу. А дзе яна знаходзіцца, я не ведаю, казалі, што пра гэта ведаюць птушкі, напрыклад, варона.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Она, зямля, адна ва ўсім космасе. Нету края ў зямлі, яна круціцца і круціцца, у ёй канца і края няма. Здаецца, край зямлі блізка, але што на тым краі – не бачна.

Я веру ў Бога, але пра гэтае не гавораць. У пекла і рай я веру. Еслі хто преступленне дзелае – ідзе ў пекла, а хто на гэтым свеце заработае – будзе ў раі. Рай знаходзіцца ў ваблаках, на небе, а пекла пад зямлёй.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Яшчэ мая матка чула ад сваёй бабкі, што зямля нашая мае выгляд разрэзанага шару на 2 палавіны. І вот гэтая зямля стаіць на трох кітах. Людзі думалі, што яны самыя магутныя ў міре.

Людзі раней думалі так, што зямля толькі адна наша на свеце, а болей зямлі няма. І сонца свеціць для нашай толькі зямлі. Зямля не мае мора, яна плоская. А краю? Ніхто яго не бачыў, ніхто яго не глядзеў, дзе ён канчыецца, дзе начынаецца.

Неба, наверна, далеко, там жыве Бог. І людзі знаюць, што туда дабрацца нельзя. Там жыве толькі адзін ён.

Зоркі на небе ўяўлялі, што гэта домікі ангелаў. І калі ўвечары свецяць тыя звёздачкі, то, кажуць, што гэта ангелы адкрылі свае акошачкі.

У Бога я веру. Бог – гэта Ісус Хрыстос. Ён у падобіі чалавека хадзіў па зямлі. Вучанікі з ім хадзілі яго. А нячыстая сіла – гэта діабал, які не хацеў быць з Богам і пастроіў пекла, дзе жыве са сваімі чарцямі. Яны сыходзяць на землю і робяць харошых людзей злымі.

А рай, кажуць, што на небе ёсць такі сад красівы. О! Гэта рай. Ёсць яшчэ і кацёл з вадой кіпяшчай і многа вагня там. І грэшнікаў кідаюць у той кацёл. Гэта ад.

Бог сатварыў зямлю, а тады людзей, а тады расценія. Яшчэ сатварыў і ваду, штоб было піць ім і жыць. Сатварыў жывотных, а патом чалавека, штоб ён камандаваў жывотнымі.

Потым быў Ноеў патоп тады, калі сціхла ўжэ гэтая вада, усяго пананосіла. Так сталі і горы, і балоты.

***Запісана ў в. Лядцы Гомельскага р-на***
***ад Кашлаковай Матроны Зосімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Лук'яновіч І. (2000 г.)***

Зямля круглая, як шар. Яна круціцца. У зямлі ёсць край, але ён далёка, не ўсе ведаюць, дзе гэты край. Я чула пра 7 нябёсаў. Добры чалавек можа пабываць там, на сёмым небе, дзе знаходзіцца сам Бог. Неба далёка, яно быццам бы паветра.

Зоркі на небе – гэта душы, знакі ўсіх жывых істот. Нараджаецца дзіця, і Бог запальвае зорку. Калі памірае чалавек – Бог зорку гасіць, зорка падае. Душа застаецца жыць.

Ёсць Бог і розная нечысць. Ёсць рай і пекла. У рай трапляюць толькі добрыя людзі, якія не грашылі. У варот рая стаяць людзі, якія ахраняюць уваход. Пекла – гэта месца, куды ідуць грэшнікі, гэта страшная кара.

Усё стварыў Бог. Спачатку неба, зямлю, свет, дрэвы, а потым чалавека.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ігнатаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н. (2000 г.)***

Зоркі на небе – гэта Бог агні зажог. Зорачкі на небе – душы памершых. Бог на небе разлажыў сваю кнігу і на людзей глядзіць, а побач з ім аблака белыя-белыя, пушыстыя, сам ён з белай барадой, дліннай, сядой-сядой. Гасподзь – ён адзіны.

Чалавеку пры нараджэнні даецца ангел-храніцель. Адразу, калі чалавек нараджаецца, судзьба яму даецца. Судзьбу сваю можна абайсці, проста нада захацець.

Бог ляпіў чалавека з гліны. А тады адвярнуўся памыць рукі. А чорт тут як тут. Усунуў апендыцыт і ўсяго яму туды.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бужан Марыі Аляксандраўны, 1938 г.,***
***студэнткамі Бужан А., Гарбачовай М. (2002 г.)***

Кажуць, што свет – ета бальшое мора. У етым моры бальшая рыба плавае і дзержыць на сабе зямлю. Зямля, яна круглая. Але край у яе есць. Што на краю? На краю жыцця нету, а яшчэ там што, хто яго знае. Неба зверху над зямлёй находзіцца. Мы жывём унізу, на первым небе, а зверху Бог жыве і ўсё неба ягонае. На небе многа зорак. Зоркі – ета душы людзей. Сколькі зорак, столькі і людзей на зямлі. У дзяцей яны малыя, а ў дарослых – бальшыя. Кагда чалавек памірае – яго зорка падае. У Бога ўсе веруць і я веру ў Бога і нячысцікаў. Бог усягда памагае людзям, кагда ім плоха. Нячысцікі любяць шкодзіць чалавеку, але есць і добрыя, каторыя тожа памагаюць. Я знаю многа нячысцікаў.

Сушчаствуюць рай і пекла. У рай харошыя людзі пападаюць. Рай на небе находзіцца, а пекла – пад зямлёй.

У кожнага чалавека ёсць свой ангел-храніцель. Ён памагае яму, кагда нада.

Усе зве    ры і расцення адкуда-та пашлі. Living Рознае кажуць.

Раньша сонца і ноччу свяціла, але Бог здзелаў так, штоб яно толькі днём свяціла. Ноччу хай адпачывае.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

У Бога я веру. Свет сатварыў Бог. Была цьма, а патом з'явілася зямля. Без Бога не пераступіш парога.

Наконт несмяротнасці – ніхто там не быў. А вабшчэ што-та есць. Пасля смерці душа чалавека преўрашчаецца ў птушку ці ў звярэй. Калі чалавек быў добры, то душа яго пераходзіць к харошаму, а злога – да злога. Усё харошае ад Бога, плахое – ад чорта.

У кожнага чалавека ёсць анёл-ахоўнік. Ён заўсёды разам з чалавекам, у душэ. Калі чалавек памірае, то анёл-ахоўнік пакідае яго.

Сколькі на небе зорак, столькі і людзей. Калі зорка ўпала з неба, значыць, чалавек памёр. Дабрасовесны чалавек, які верыць ў Бога, пападае ў рай. Там сады цвітуць кругом, там усягда цяпло. Людзі там работаюць і жывуць. Людзі, якія грашылі ўсё сваё жыццё, пападаюць у ад.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Раньшэ людзі думалі, што небасхіл з'яўляецца канцом света. Неба пачынаецца ў тым месце, дзе зямля сутыкаецца з небам. Людзі верылі ў нябесныя сілы. Свет быў створаны Богам за 6 дней, а на 7 дзень Бог отдыхаў. Першага чалавека звалі Адам, а яго жонку – Ева.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Свет – гэта ўсе людзі, якія жывуць на зямлі, а сам свет састаіць з неба, зямлі, вады, воздуха.

Наша зямля – гэта шар, які круціцца коло нечого і кажуць, шо воно не імее краю, бо круглае. Але я веру, шо вон е, і там стаіць вялікі дуб. Як гэты дуб упадзе, то і наступіць конец свету, а мо Бог прыдзе на землю і затопіць усё. Точно я не знаю.

Пра 7 нябёсаў я чула, але смутна. Кажуць, на тых нябёсах жывуць тые, хто памірае. Тые, шо былі вельмі плохімі, то былі на першых нябёсах і гэтак далей, а тыя, хто не грашыў Богу, то жыве з імі (з Богам) на 7 небе. Вот на 7 небе і жыве Бог.

Зоркі – гэто людзі, што родзіліса, а як хто-небудзь памірае, то зорачка падае, хоця я не вельмі веру. Я больш думаю, што гэто вочкі Бога і вон глядзіць за намі, а як хто саграшыў, то зорачка падае.

Я веру ў Бога, рай, пекла. Я кожны дзень молюса перад іконой, прошу ў Бога, шоб послаў моім дзецям добру жызнь і вон мне помогае. Значыць, вон ё на небі. А таксамо я веру ў рай і пекло. Колі чоловек на зямлі не грашыў і быў добрым, то вон попадае ў рай, до Бога і жыве там вельмі добрэ, а колі чоловек быў плохім, то ёго чэрці забіраюць з собой у пекло і там ёго мучаюць.

Да началу свету, думаю, было нейко болото ці цьма. Горы намёў вецер, а болоты не знаю, як появіліся.

Першого чоловека створыў Бог. Это быў Адам, а Еву зрабіў з рабра.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Пясоцкай Евы Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Чэрнянок І. (2008 г.)***

Я веру ў Бога. Ён мяне спас. Калі была вайна, я думаў, што не выжыву. Сколькі разоў рваліся міны, снарады ля галавы, а я жывы. У кнізе памяці я пазначаны як пагібшы, а я жывы. А таму, што насіў ікону Божай маці з сабою. Яна мяне і спасла. А Бог –

гэта добры чалавек. Ён не раз з'яўляўся мне ў час бою. Такі высокі малады чалавек, увесь у белым. Вочы ў яго добрыя, цяпло ідзе ад іх.

Чалавеку вызначаны лёс ад нараджэння. Калі дзіця нараджаецца, то загараецца звязда на небе. Но дзіця ды і дарослы чалавек не ведаюць пра свой лёс. А тое, што кажуць вяшчуны, няпраўда.

Рай – гэта красівы сад, там добрыя людзі з Богам жывуць. А неразумныя, злыя – у пекле. Там чэрці іздзяваюцца над імі – вараць у катлах, пашуць поле на іх, мучаюць рознымі спосабамі. Душа грэшная і за гэтае мучаецца.

Агонь – гэта вялікая сіла, зашчытнік хатняга ачага, але і вораг, калі не ўмееш з ім абрашчацца. Агонь азначае жыццё, свет.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Раней было цёмна вездзе. І Бог прыдумаў сушу, зацем дзерэўя, травы, а зацем пусціў Адама і Еву, каб дзяцей нараджалі. Так Зямля палучылася.

У каждага чалавека ё на правым плячы ангел, а на левым – чорт.

Бог – гэта наш заступнік. Жыве на самых высокіх небесах, увесь у белым, красівы мужчына. Ён нас любіць і аддаў сваю душу за нас, грэшнікаў. Ён яўляецца шмат каму, але я яго не бачыла, толькі на іконах.

Да пачатку света было цёмна. Страшна было. Толькі вецер дуў страшэнны, не было нічога відаць: ні краю, ні канца. Бяздоннае пространства.

Зямля, наверна, круглая. Так жа і вучоныя гаворащь. Каб быў дзе край, дык ўжэ б нашлі яго.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Знаю, што Бог сатварыў свет. Сначала быў хаос. А зацем, калі Ной спасаўся ў сваім каўчэгу, Бог пашкадаваў і спас яго. Сатварыў сушу, а потым расценія. Так і зямля паявілася.

У Бога я веру. Было ў маёй жызні многа случаеў. Прасіла я ў яго помашчы, і ён мне памагаў. Як-та было маёй маме очэнь плоха. Я думала, што ўжэ ніхто ёй не паможа. Паехала я ў царкву і стала прасіць у Бога міласці. А ноччу ён мне прысніўся і сказаў: "Добрая жанчына, будзе жыць твая маці яшчэ, но не доўга, яе ждуць там". Выглядзеў ён як абычны мужчына. Малады такі, косы дліннаватыя, адзеты ў светлым. Мама мая яшчэ трохі пажыла, а зацем умерла.

Агонь – свяціла ачага. Мы знаем легенду, што агонь прынёс на землю малады Бог – Прамятэй. Агонь здабывалі і старыя нашы прэдкі. Агонь раней паважалі і ўшаноўвалі не так, як цяпер. Нязьзя было пляваць у агонь, кідаць мусар і абзываць яго. Агонь счытаўся свяшчэнным. А калі яго не шанавалі, то Бог наказваў людзей і агонь перативараўся з добрага служыцеля ў злога. Магла згарэць хата ці хлеў, ці плантацыя жыта.

Ад Бога чалавеку дана дабрата, розум, красата, рукі, ногі і т.д. А ад чорта плахія прывычкі: дурасць, злоба, шкода.

Чорт злуецца на Бога, стараецца падманіць прастых людзей і звесці іх з свету, каб перамагці Бога і стаць правіці мірам.

Зоркі – гэта божыя свечачкі. Гаворащь, як Бог сатварыў Адама, так і першая зорка паявілася. Зорка – гэта жызнь чалавека. Калі нарадзіўся чалавек – зорка загараецца,

а калі памрэ – падае.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Зямлю дзержаць тры сланы. Стварыў яе Бог.

Чула пра сем нябёсаў. Казалі, што на сёмым небе жывець сам Божа. На 6 – багі пасля вялікага Бога: Пярун, Ярыла, Афрадзіта. На пятым – добрыя людзі. А на ніжэйшых нябёсах – душы звярэй і пціц.

Як толькі чалавек нараджаецца, на небе паяўляецца зорка. Бог запальвае свячу: прадвяшчае нараджэнне дзіцяці, а судзьба яго запісана ўжо на шырокай ленце.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Чалавека Бог здзелаў, з зямлі зляпіў і дыхнуў яму ў рот сваім дыханнем, дык во ён ажывіўся. Адамам яго звалі. З зямлі здзеланыя ў зямлю потым і вяртаюцца, када хароняць. Жонку яго Евай звалі. Адам сказаў Богу, што, мол, яму скучна аднаму. Дык Бог здзелаў Еву, усыпіў Адама, потым узяў ягонае рабро, во Ева і палучылася. Жылі яны ўмесце ў саду райскім, работалі ўмесце, дык патом Ева саграшыла, бо з’ела запрэтнае яблака. Яе так змей навучыў, мо самы галоўны гэта чорт быў, у змея прэўраціўся, штоб Ева саграшыла. Дык Бог прагнаў іх з саду на нашу зямлю, штоб ужо самі жылі сваім трудом. У райскім саду голыя былі яны, а када на зямлі ўжо ачуціліся, дык гром ужо пачуствавалі, адзявацца нада было. Дык так, мо, і палучылась, што душахна у чалавека Божая, цела ўжо грэшнае, чорту прынадлежыць. Када які чалавек глядзіць дужа за целам, дык яго ўжо душахна псуецца. А патом када ўжо прышло ўрэмя паміраць, дык Бог падзываець к сабе чалавека і глядзіць, грэшны ці дабрадзецелі дзелаў. Усю ягоную жызнь Бог глядзіць за чалавекам, беражэць яго ад чортавых напасцей. Ён паставіў з правай стараны сваяго ангела-храніцеля, штоб аберагаў ад чорта. Чорт дык, мо, сам і стаў з левай стараны чалавека, усё ўрэмя гаварыць, штоб чалавек плахое дзелаў. Када толькі плахое дзелае чалавек, дык ангел-храніцель ад яго адварачываецца і не памагаець к таму ўрэмені, пакуль чалавек не станець дзелаць дабрадзецелі. Дзяцей малых ангел дык усё ўрэмя аберагаець. Када яны падаюць, падкладывае пад іх падушку, дык яны за гэтага і мала б’юцца. Свайго малога раз несла, дык зачапілася за траву ды сільна ўпала, а рабёнак нічога, быў цэлы, значыцца, ангел-храніцель падушку падлажыў пад яго.

Ужо як чалавек радзіцца, дык Бог душы раздае, і ўжо ён знае, гдзе і када ён памрэць. У Біблії, кажыцца, штоб дольшы пажыць, дык во трэба паважаць сваіх радзіцелей, тады дольшы пажывеш і свае дзеці будуць тожа харошыя. Дык во і палучаецца, што чалавек дзелаець, так і жыць будзець патом. А када плахое здзелаеш, то плахога табе і вернецца ў дзесяць раз большы. Гэта ж шла раз у магазін і віжу, што ў бабы аднОй дзеньгі з кармана сыплюцца, і не сказала, прашла міма і забылася. А патом ужо гадоў, мо, праз сем кофту на сумцы несла, дык яна і звалілася, абярнулася, дык ісчэзла, няма. Жалка было. А патом і думка такая ў галаве, што гэта мне наказаніе за той мой грэх, і ўрэмя ўжо прашло многа, а наказаніе прышло. Дык так, мо, і после смерці, глядзець будуць, чаго здзелана больш. Ёсць спецыяльныя вясы: на адну старану ложуць грахі, ды на другую – дабрадзецелі. Када грахі ўніз цягнуць, дык і пойдзець уніз чалавек, пад зямлю, у ад парыцца, за гэта ўсё расплачывацца трэба. Када дабрадзецелей больш, дык чалавека ў рай панясуць ангелы, на неба, харашо там жыць будзець.

Сасед мой гаварыў, што чуў расказы, што адзін мужчына ўсю жызнь грашыў, а патом ужо дужа забалеў і мучыўся, і плакаўся ў платочык. Дык во, када гэты платочык на вясы палажылі, дык ён перавесіў грахі, значыцца, ён сваімі страданіямі іскупіў грахі, і душахна яго пойдзець ужо пасля смерці на неба жыць у рай.

Некаторыя людзі могуць знаць, када паміраць будуць. Я знаю, што святыя, бацюшкі знаюць, гэта ім Бог адкрываець. Дык яны самі моюцца, пераадзяюцца і гаворць, када памруць, могуць дажа і час назваць. Адна жэншчына к сабе ў хату заходзіць і слышала, як атпеваюць як бы каго, дык у яе, мо, праз тры дні маць памерла. Мо, хто і чуствуець, када памрэць, сон, мо, які сасніць, а яно можа і не спраўдзіцца.

***Запісана ў в. Ніжняя Алба Жлобінскага р-на***
***ад Рогавай Наталлі Ануфрыеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Глушаковай В.***

Я знаю, што Зямлю здзелаў Бог. А сначала дык пропасць была. Не была ні раслін, ні звяроў, ні людзей – нічоганькі. А Бог здзелаў усё гэта. А сам астаўся жыць на небе, адкудава і глядзіць на нас.

Месяц тожа Бог стварыў, штоб ён ноччу людзям свяціў. Месяц – гэта муж сонца. Месяц усягда мяняецца: то расце, то ўбывае. Чаго так праісходзе, не знаю.

Бог жыве на небе. Ён радзіўся на зямле, вырас, вучыў людзей жыць, памагаў ім збавіцца ад розных няшчасцяў. Патом яго ўбілі, і ён уваскрэс і стаў жыць у небе, у раю. Я тожа веру ў Бога, знаю малітвы да яго. Ён ніколі не старэе, не мяняецца. Я знаю, што ён добры, таму што ўсігда мне памагае, калі я яго прашу.

Неба – эта тожа, навернае, як і зямля, толькі находзіцца ўвярху, окала звёзд, месяца і сонца. А пра 7 нябёсаў я нічога не чула.

Агонь Бог даў першым людзям.

У кожнага чалавек свой лёс, і яго ўжэ не ізменіш. Нам ад самага раждзення ўсё напісана там, на небе. Судзьба наша і завісе ад Бога.

Я не знаю, дзе край свету. Но мне кажыцца, што яго німа. Бо як гэта ж ён можа быць, еслі наша Зямля круглая?

Рай – гэта там, дзе Бог жыве. Туды ўсе добрыя людзі пападаюць пасля смерці. Там ім добра жывецца. А пекла тожа там, тока там чорт жыве. Туда ўжэ тока плахія, грэшныя людзі ідуць. У пекле, наверна, сільна плоха.

Усё здзелаў Бог, і зоркі таксама, і нам даў усім па адной зоркі.

Калі грыміць, нада хрысціцца, каб адагнаць ад сябе чорта. Бо, кажуць, што гром убівае чарцей. А ваабшчэ нада хавацца пад што-небудзь маленькае, таму што маланка можа біць у самое высокае.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Месяц і сонца – гэта брачная пара. Яны паявіліся, калі Бог стварыў зямлю. А калі ён гэта рабіў, так нічога не было: ні зямлі, ні неба. Адна цемра была. Вот Бог і рашыў саздаць зямлю, неба, людзей, жывых істот. І сонца з месяцам здзелаў. Месяцу прыказаў работаць уноч, а сонцу – удзень свяціць добрым людзям. Я заўсёды на месяцы якісь малюнак бачу. Мне казалі, што гэта паказана, як Каін брата свайго ўбіваў.

Бог – наш пакравіцель. Я веру ў яго і ў цэркаў хажу на празнікі, малюся. Бог –

гэта тожа чалавек, толькі ён радзіўся з какім-та дарам. Ён спачатку жыў на зямлі, а потым, калі яго распялі, пайшоў на неба і там шчас жыве. Ён да сябе ў рай добрых людзей забірае. Ён нам грахі нашыя прашчае.

Неба спачатку было блізка к зямле, а кагда людзі сталі грэшнымі, дык Бог адсунуў неба вон як далёка. Там сам і жыве. Но неба не адно, а цэлых 7. Вот Бог і жыве на сёмым.

Зямля круглая і не мае ніякіх краёў. І я так думаю.

Рай – гэта красівы сад на небе ў Бога. Там многа розных пціц, дрэў. Людзі там жывуць лепей, чым на зямле. А вот пекла знаходзіцца ў зямлі глыбока, дзе чорт панствуе. Ён забірае к сабе грэшных, як і ён сам. Там, я чула, людзі мучаюцца ў агні, но не гараць.

Зоркі тожэ Бог здзелаў. На небе стока зорак, сколькі людзей на зямлі. Кожны чалавек мае сваю зорку. Калі чалавек памірае, яго зорка гасне.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Раней людзі лічылі, што ўся зямля – гэта тое, што яны маглі бачыць вакол сябе (поле, рэчка, лес). Яны зналі, што ёсць дзесьці край гэтай зямлі і некаторыя чудакі хадзілі шукаць гэты край. І яны думалі, што ён за лесам. Так лічылі толькі зажытачныя гаспадары, таму што яны ўсё мелі (коней, бульбу), а ў тых, у каго няма нічога, лічылі, што край зямлі вельмі далёка.

Мы даўно зналі, што ёсць сем нябёсаў. Баба яшчэ казала, што на першым знаходзіўся дождж, на другім – сонца і гэтак далей. А на сёмым небе быў рай. Лічылі, што неба знаходзіцца вельмі блізка і можна было залезці на крышу і дацягнуцца да яго.

Зоркі – гэта душы памёршых. Калі чалавек паміраў, то на небе з’ўлялася новая зорка.

Канешне, я веру ў Бога. Бог, як чалавек, але па душы зусім розны.

Існуе пасмяротнае жыццё. Калі чалавек быў на зямлі добрым, безграхоўным, то яму і пасля смерці было добрае, чыстае жыццё. Пасля смерці чалавек пападае ў рай або пекла. Рай знаходзіцца ў небе, а пекла – у зямлі. У раі людзі не маюць ніякіх турбот, а ў пекле людзі цягаюць смалу за грахі.

Свет сатварыў Бог. Людзей таксама. А потым ён сатварыў жывёл: сабак, катоў. А людзі думалі, што Бог першым стварыў сабак, і яны павінны іх шанаваць, карміць. А пасля як Бог убачыў, што людзі разбэсціліся, ён кінуў ім павучкоў, розных гадаў.

Да пачатку свету кругом была адна вада. Сонца, зоркі, зямлю сатварыў Бог. А чалавек быў сазданы з Адама і Евы. Ева нарадзіла двух людзей і так пачаліся мы пладзіцца.

Ад Бога чалавеку перадаўся розум, чэснасць, душа. А ад чорта – няпраўда, лож. Бог даў чалавеку здароўе, сілы, а чорт толькі спакушае.

Спачатку людзі жылі ў раю, але саграшылі, не паслухаліся Бога і былі выгнаны ім. А віна іх у тым, што яны з’елі запрэшчаны плод – яблыка. І калі Адам яго ўкусіў, то яно застрала ў яго ў горле, і адсюль мужчына мае на горле “адамаў яблык”.

Калі толькі чалавек радзіўся, то для яго ўжо распісана ўсё жыццё па дням і па часам.

Раней Бог часта бываў на зямлі. Ён ізлечваў людзей, дапамагаў ім. Але пасля людзі перасталі яго шанаваць і пачалі здзекавацца з яго. І як вынік, яны распялі яго на крыжы. І пасля гэтага людзі перасталі яго бачыць і больш ён ніколі не з’яўляўся на зямлі, але ён заўсёды з намі ў нашым сэрцы.

Я толькі чула пра тое, што з чалавека пайшоў бусел. Гэта быў чалавек, які не шанаваў Бога і жыў па сатанінскім законам. Прыносіў шмат крыўды людзям, і таму

Бог яго і пераўтварыў у бусла.

А яшчэ адна гісторыя аб тым, быццам бы чалавек сабраў усіх гадаў – камароў, мух, мошак у адзін мяшок і папрасіў, каб адзін чалавек занёс і збавіўся ад яго. Але той з-за сваёй няўважлівасці развязаў яго і ўсё павыпаўзала. І тады Бог пакараў яго і ператварыў у бусла. І да цяперашняга часу ён ходзіць і збірае іх. А зязюля пайшла з жанчыны, якая пакінула сваіх дзяцей, і цяпер яна сядзіць і плача.

А сабака была створана ў адзін час з чалавекам, і жылі яны ў розных месцах. І аднойчы сабака заўважыў у лесе агонь і прыйшоў да чалавека. З тых часоў яны сябруюць і дапамагаюць адзін аднаму.

Нельга крыўдзіць жывёл і асабліва буслоў, таму што яны ад роду чалавечаскага. Кветка Іван-ды-Мар'я – гэта пераўтвораныя брат і сястра, якіх зачаравала старая ведзьма.

Сонца свеціць толькі ўдзень, бо ноччу яно асвяшчае іншую частку зямлі, якая знаходзіцца пад намі.

Калісьці, а нават і зараз інагда бывае пачырванелы месяц. Гэта гаворыць аб тым, што дзесьці сільна правініліся людзі і за гэта Бог пасылаў на зямлю мароз. Так і кажуць: пачырванелы месяц – на мароз.

Гавораць, што Млечны шлях з'явіўся ад таго, што нібы адна жанчына разліла малако.

Калі грыміць гром і бліскае маланка, то лічаць, што гэта едзе Пярун на калясніцы.

Ад навальніцы ў нашай мясцовасці палілі грамнічныя свечкі. Гэта свечкі, якія былі асвячоны да Грамніц. Яшчэ лажылі крэст-накрэст пярэд дзвярамі і маліліся Богу.

Людзі хадзілі ў царкву і асвяшчалі ваду, якая ўжо шчыталася жывой. Ёй акраплялі хаты, хлявы, давалі піць хворым людзям. Яна заўсёды дапамагала. Але ж была і мёртвая вада. Яе загаварывалі злыя знахары і карысталіся ёй толькі ў тым выпадку, калі камусьці жадалі зла. Яна магла прынесці шмат гораў і няшчасцяў.

Віхор і буран утвараліся за грахі якія-небудзь для наказання людзей.

Калі была засуха, то людзі казалі, што нехта загарадзіў свой агарод да свята Благавешчання. Тады людзі даведваліся, хто гэта зрабіў, і ішлі і разгарожвалі яго. Каб засуха прайшла, трэба было жанчынам без вопраткі раненька, уранку абысці вёску тры разы.

Так, камяні растуць. І лічаць, што гэта зачараваныя людзі, грэшнікі. І ім даецца шанс іскупіць свае грахі. І за кожную добрую справу яны крыху падрастаюць. І калі дасягаюць патрэбнай велічыні, то Бог іх ператварае зноў у чалавека.

***Запісана ў в. Гаць Акцябрскага р-на***
***ад Будкоўскай Ніны Антонаўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Маскалёўка Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Носка Г. (2005 г.)***

Сусвет прадстаўлялі ў форме шара. Зверху жыў Бог і яго анёлы (душы памёршых), знізу жыве чорт і ўсе нечыстоты (грэшныя душы, паўзучыя істоты), а з левага боку жывуць людзі, а з другога боку знаходзіцца край сусвету, у які пападаюць людзі, якія знаходзяцца сярод рая і аду, пасяродке между Богам і чортам.

На седзьмым небе можна ўбачыць, калі туды пападзеш, самых чыстых душой людзей, там находзіцца Рай, у каторым можна распазнаць усе чуства, але толькі добрых, людзей, зямных.

Неба для людзей знаходзіцца і далёка, і блізка, але гэтыя параметры расшыф-

роўваюцца тыпам людзей. Грэшным людзям бліжэй пекла. Неба складаюць душы памерлых дзяцей, якія гуляюць паміж небам (Богам) і зямлёй. Зоркі з'яўляюцца вокам Бога, якія сочаць за зямнымі істотамі.

Бог існуе, існаваў і заўсёды будзе існаваць у памяці чыстага чалавека. Бога немагчыма апісаць. Яго воблік туманны, ён як бы растварaецца ў воздухе, толькі можна выдзеліць некаторыя часці цела: яго сядыя валасы, мудрыя вочы, сталая постаць – амаль невідныя.

Бог узяў з раю крыху зямлі і вылепіў шар, і апусціў яго на трох кітоў. Але ж тады адразу была цемра, свяціла ліш зорка Бога.

Нячыстая сіла з'явілася ад чорта, і ўсё дрэннае пашло ад яго. Чалавек быў злеплены з зямлі, а жанчына – з косці чалавека. Ад Бога у чалавека засталася душа і сэрца, а ад чорта – думкі. Таго і саслаў Бог першых людзей з раю, іх чорт спакусіў на грахі. Адам саграшыў, з'еўшы яблык, таму зараз у кожнага мужчыны на шыі выступае "адамаў яблык".

Пры нараджэнні чалавеку даецца анёл-ахоўнік, які аберагае гаспадара свайго ад грахоў, але ж калі гэты чалавек зрабіў дурное дзела, дык анёл слабее і можа зусім адляцець ад яго, тады душа гэтага чалавека памірае.

Лёс чалавека залежыць і ад яго імя, і ад дня, на які ён нарадзіўся.

На землю Бог спускаецца амаль заўсёды і толькі да добрых людзей, якія паміраюць, каб забраць іх душы з сабой, таксама заўсёды знаходзіцца каля веруючага чалавека.

***Запісана ў в. Хамянкі Нараўлянскага р-на***
***ад Ефіменка Барыса Ціханавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Лазарэвіч А. (2005 г.)***

Госпад сатварыў зямлю. Дзякуючы яму мы зараз існуем. Спачатку Бог стварыў Адама, потым з яго рабра Еву. Яны жылі ў нябесным царстве. Бог дазваляў ім піць, есці, рабіць усё, што яны хочуць. Але было адно выключэнне: ім нельга было есці яблыкі з забароненай яблыні. Але Ева з'ела яблык і дала паспрабаваць Адаму. Бог рассердзіўся на іх за гэта. Пагэтаму мы зараз жывем на зямлі, а, магчыма, маглі б жыць у нябесным царстве.

Калі нараджаецца чалавек, то Бог дае яму свайго пасланца, які ахоўвае чалавека на працягу яго жыцця. Але чалавек, які робіць усё наадварот закону Божаму, можа страціць свайго анёла-ахоўніка. І толькі пасля таго, як намучыцца, яму зноў Бог вярне анёла-ахоўніка.

Чалавеку ўсё запісана на небе ў кнізе. Там запісана, калі і што з ім здарыцца.

Зоркі загараюцца на небе, калі нараджаецца чалавек. Калі зорка падае, то, значыць, нехта памёр і яго зорка перастала свяціць.

У чалавека ўсё ад Бога, калі ён на самым дзеле чалавек, а калі гэта не так, то ў яго не толькі ёсць што-небудзь ад чорта, а ён сам – чорт.

Края свету няма. Зямля знаходзіцца ў космасе, мае круглую форму, таму нельга ведаць, дзе край свету, што на ім робіцца.

Я веру ў жыццё пасля смерці. Добрыя людзі пасля смерці пападаюць у рай, а дрэнныя – у пекла. Я веру ў рай і пекла, таму так і кажу. Калі чалавек на зямлі быў дрэнным, то пасля смерці пападаў у пекла. Там ён вельмі мучыўся, бо чэрці здзекваліся з яго. Добры чалавек трапляе ў рай. Там пачынаецца сапраўднае добрае жыццё.

Месяц расце – маладзік, паўналунне – поўня, памяншаецца – старык. Па тым, як змяняецца месяц, людзі садзяць агароды, стрыгуць косы.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н., студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

– Як вы лічыце, хто такі Бог? Ці верыце вы ў Бога?

Бог – ета такая сіла. Але як ён выглядае, я не знаю. Ды і хто ж знае? Мы ж яго не бачым. Бог можа памагаць людзям. Як ідзеш у дорогу, памолішся, папросіш у Бога помачы, дак ён памагае. А можа і мучаць людзей. Я ў Бога веру.

– Ці ведалі людзі раней час сваёй смерці? Чаму перасталі ведаць?

Людзі нікагда не зналі, калі прыдзе смерць. Чалавеку не дадзена етага, штоб ён знаў, калі памрэ. А калі ўжо паміраць яму час, дак ён чуствуе. Калі ўжо прыдзе смерць, махне касой, дак ужо ніякімі грошамі не адкупішся, тады ўжо ідзеш за ёй.

Вабшчэ, у чалавека тры смерці: дзве наглыя і адна лічная. Еслі чалавек абыдзе дзве смерці (машына не падаб’е, не ўтопне), то ўжо будзе ён жыць і памрэ толькі тады, калі прыдзе свая, лічная смерць. А калі б чалавек знаў, калі яна прыдзе, то ён бы яе мог абыйсці. Тады б ён жыў вечна.

Гаворуць, што ёсць і рай, і пекла. Вот калі чалавек памірае, дык яго душа ад яго адыходзіць. Яна падымаецца ў неба і ляціць сначала на ўсход сонца. Еслі чалавек пры жызні нічога благога не дзелаў, то там будуць дзверы адчыненыя, а калі ўсё ж штось здзелаў, то дзверы там замкнутыя. Тады етая грэшная душа ляціць на захад сонца, а там дзверы адкрытыя. Яна залятае туды і бачыць: катлы кіпяць невыкіпушчыя, агні гараць неўгамушчыя. Ета пекла. Душа бачыць, што папала не туды, куды хацела, і давай плакаць, а ёй гаворуць: “Ты чаго, цела, не цярпела, а ты, душа, рана ела?” І астаецца душа ў пекле. І будзе яна ў катле кіпець. Ну, а ў раі, там ужо як на белым свеце”.

– Як быў створаны першы чалавек?

Хтось гаворыць, што першы народ пайшоў з абязьянаў. А я ўсё ж думаю, што чалавек ад Бога пайшоў.

– Ад чаго мужчына мае адамаў кадык?

Старыя раньшэ расказвалі, што да Спаса яблака не ядуць, а вот Адам з’еў, дак ета вот у нево цяпер “воля”. А Ева яблак не ўзяла, дак у неё і няма “волі”.

– Як называецца месяц, пакуль ён расце? Як месяц расце, то называецца маладзічок. Пры паўналунні – паўналуніе. Калі памяншаецца, то называюць яго сходок.

– Што азначаюць плямы на поўным месяцы?

На месяцы відаць вочы, рот і нос. А яшчэ гаварылі, што калісь брат брату галаву адсёк. Дак ета бачна, што брат з тапаром і дзяржыць у руцэ галаву брата.

– Чаму часам месяц пачырванелы?

Калі месяц чырванее і становіцца такі касмаценькі, і па ім як бы стрэлачкі такія беленькія, то ета на вецер, на буру сільную.

– Чаму нельга пляваць цераз правае плячо?

Раней гаварылі, што правая рука – ета рука божая, а левая – бязбожніца, бо на правым плячы ў чалавека ангел сядзіць, а на левым – чорт. Як плюёш на левую старану, дак у чорта плюеш. Яшчэ, як рожу лечуць, дак тожа плююць чэраз левае плячо. Левай рукой нельзя крэст лажыць пасля малітвы. Правай нада лажыць. На правую старану апраўляцца нельзя.

Калісь гаварылі людзі, што калі месяц-маладзік на чалавека свеціць, калі ён

спіць, то ета сільна плоха. Нельзя, штоб свяціў, бо чалавеку тады плоха будзе. А як свеціць на дзіцятка маленькае, то ў яго тады палучаецца чорная балезнь.

Звёздачка зажыгаецца, як новы чалавек нараджаецца. Ё такія тры звёздачкі ўмесце, дак іх Змяя называюць, бо яны як бы перакручваюцца.

Зямля дзяржыцца на планеце. Ё такая воздушная, в відзе падушкі. Зямля круглая па планеце не ідзёт, ета Зямля вакол ходзіць. Еслі б Сонца хадзіла, дык абарвалася б – і ўсё.

Радуга мае тры паласы: жоўтую, зялёнькавеньку такую і галубую. А кагда і красная палоска бывае. Яна набірае ваду з рэк сваімі кончыкамі, а патом дождж ідзе.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Раней людзі казалі, што Зямля стаіць на трох сланах, а тыя стаяць на бальшой рыбіне, а рыбіна тая плавае ў моры. Шчэ чула я, што Зямля дзержыцца на спіне ў кіта.

Старыя людзі казалі, што ё ў Зямлі край. Вот, як станеш прама ды паглядзіш далёка-далёка, дык відна, што неба і зямля зліваюцца. То, кажуць, і ё канец свету. А вот зараз кажуць, што Зямля круглая.

Шчэ матка пакойная расказвала, што ё 7 нябёсаў, і як пападзе чалавек туды, то крэпка шчаслівы будзе. Кажуць, што там сам Бог ё.

Чула шчэ я, што неба цвёрдае, а да яго прылеплены звёзды. Ды я ў ета не веру. Неба – ета воздух. Звёзды на небі – то душы людзей. Як нараджаецца чалавек, то на небе зорачка паяўляецца, а калі тэй чалавек памірае, дык зорка падае.

У Бога я веру і ў жызнь послі смерці тожа веру. Як харашо чалавек жыве на Зямлі, нікому нічога дрэннага не робя, дык пападзе ён тады ў рай, а як дзелаў зло другім ды запаведзі гасподнія не выпалняў, дык тады пападзе еты чалавек у пекла, там тэй і будзе мучыцца, чарцей на спіне вазіць і работу гразную дзелаць. У раю чалавеку жывёцца хараша. Чула я ад маткі пакойнай, што там лета ўсё ўрэмя. Рай знаходзіцца радам з Богам.

## *Пра стварэнне свету, зямлі, неба, чалавека, жывёл, раслін*

Свет стварыў Бог. Стварыў ён яго за 6 дней. Неба, зямлю, мора, звёзды – усё ета Бог здзелаў. І расліны, і жывотныя – то тварэнні божыя. У шосты дзень здзелаў Бог чалавека і назваў яго Адамам, патом бача, што тому скушна, і сатварыў яму жанчыну. А на сёмы дзень прыказаў Бог усім атдыхаць.

Да начала света была цемрадзь, Сонца і звёзды Бог сатварыў, каб на зямлі светла было. Вот чула я шчэ, што балота стварыў чорт, а не Бог. А вот як тое было, етага не помню.

Бог стварыў чалавека, а чорт заслаў на Зямлю ўсякіх нячысцікаў, бо з іх помашчу хацеў быць вышэй Бога.

Первыя людзі жылі ў раю. Бог сказаў ім, каб не елі плады з аднаго дрэва. А чорт падкінуў змея, тэй і падгаварыў Еву з'есці з етага дрэва яблыка. Ева стала есці яблыка, а патом дала папробаваць Адаму. Як стаў тэй есці, то Бог ета ўбачыў і стаў ругацца. Адам тады спужаўся і не пракаўтнуў тое яблыка. Вот і застраў ён у яго ў горлі. Шчэ чула, што Бог тады сільна разазліўся на людзей і выгнаў іх з райскага саду. Так і пайшлі людзі па зямлі.

Шчэ чула я, што есць у каждага чалавека анёл-храніцель і ідзе з ім усю жызнь. А калі чалавек памірае, то анёл пакідае яго.

Можа пакінуць і тады, калі чалавек нешта нядобрае здзелае.

Матка мая пакойная казала, што як чалавек нараджаецца, то і лёс яму сразу даецца, скольki яму пражыць і якой смерцю памерці.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н., студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Ну, як еты свет з'явіўся… Калісьці даўно була кругом адна вада. Бог плаваў на лодцы па гэтай вадзе, і надаела яна яму ўжэ. І захацеў зямлю пабачыць. Пазваў да сябе чорта ды й сказаў, каб той са дну мора дастаў зямлі. Той чорт яго паслухаў ды й апусціўся пад ваду за зямлёю, набраў у рот зямлі ды й прынёс Богу яе, але трошачкі зямлі засталося ў яго ў році. Бог пасыпаў тую зямельку ды й прыказаў ёй расці. А ў чорта ў році тожа зямля расла. Ды й начаў ён яе выплёўваць. Дык там жа, дзе Бог насыпаў зямлю, дык там роўныя мясціны. А там, дзе чорт павыплёвываў, дык горы павырасталі. Вот так і було.

Свет стаіць на трох кітах, зверху було неба з воздуху, ну, а зямля сама плоская. Зямля адна сусчаствавала і находзілася ў цэнтры сусвету. Ну, а канец краю! Ніхто яго не бачыў, бо ніхто яго і не глядзеў, дзе ён канчаецца, дзе начынаецца.

Неба, наверна, далёка, мо там жыве Бог на небі. І ўсе кругом знаюць, што да Бога дабрацца нельзя, бо ён адзін там жыве. Бога раней усе зналі, сільна маліліся і перад ядой, і перад сном. Людзі раней усе празнікі зналі і сабіраліся, каб ні наказаў. Ну, у Бога доўжан верыць кажды. Як ета ў яго ні верыць? Ён жыў і будзе жыць. Ну, кажды зная сваю веру.

А адамавы яблык на горлі ў мужчыны? Ну, дык ета ад таго, у нас казалі, што, калі Ева дала Адаму паспытаць яблыка, ён укусіў яго ды й папярхнуўся, і той кусок яблыка застраў у яго ў горлі. Дык плод жа ж той быў запрэтны Богам.

Чалавеку ад Бога даецца жыццё, дабро, а ад чорта – дык нічога добрага, усё зло, слёзы, а ні смеху, а ні радасці.

Першыя людзі жылі ў Раі, а калі Ева з'ела яблыка, якое Бог запраціў усім есць, дык яе выгналі з Раю.

Пры раждзенні каждага чалавека да яго спускаецца ангел, які ўжэ будзе аберагаць етага чалавека па ўсім жыцці. Але калі чалавек не будзе жыць па законе Божым, дык еты ангел пакідае чалавека, і тады на яго сыплюцца ўсе няшчасці. Я думаю, што ўсё, што робіцца ў жыцці чалавека, вызначана ў час яго раждзення, і ён нічога ні можа ўжэ змяніць у сваім жыцці. Усё будзе так, як і даўжно быць. Яшчэ казалі, што калі дзіця ў сне смяецца, то ета яго ангелы калыхаюць. Ну, а калі чалавек памірае, дык і ангел яго памірае. Лёс чалавека вызначаны тожа ад раждзення, і нікуды ад яго ўжэ ні схаваешся.

Пчала, калі жаліць, памірае таму, што яна аддае ўсю сваю сілу.

Варона каркае ўсягда к недабру.

Яшчэ казалі, што буслоў ні трэба крыўдзіць. Було ў нас такое, што хлопчык пакрыўдзіў бусла – скінуў з кубла. А той бусел заляцеў у хату чэраз камін і спаліў хату.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н., студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

У Бога веру. А какой он, не знаю, ево никто не видел. Но я так себе думаю, што он крупный, седой мужчына. У нево тоже седая борода. Он сидит на троне, а рядом с ним ево сын.

– Ці існуе пасмяротнае жыццё?

Канешна. Вот когда человек не грашыл, то он попадал на небо, у рай, там жил. А вот если человек грешный, пьёт там, например, то он попадает в пекло и там мучается.

– Якім вы сабе ўяўляеце рай, пекла? Дзе яны знаходзяцца?

Ну, вот рай – это такой сад, где много света и разных деревьев. Там живут ангелы и ещё там много птиц. А находится он на небе. А вот пекло, так оно под землёй. Там агонь и везде сажа. А еще говорили, што там есть котлы, и вот грешники там мучаются.

– Якім чынам узнік свет?

Бог сотворил небо, землю, разные звери, человека. Но это было не сразу. Он всё это делал за шесть дней. За пять дней он сотворил всяку живность, а вот в шестой день человека, а на седьмой он отдыхал.

– Што было да пачатку света?

Сначала было темно. Везде была вода. А вот когда Бог начал наводить свет, то он воду в одну сторону отделил, и тогда появилась земля.

– Ці ведаеце вы, як узніклі горы і балоты?

Ну, вот, когда чорт ещё мог быть в раю, он сорвал с дерева яблоко. И вот он захотел искусить Еву и дал ей его. А она дала ему ево укусить. А он ему во рту песком сделался. И вот начал чорт ево выплёвывать. И где на землю он плюнул, там стало балото, а куда песок упал, там горы стали.

– Адкуль узялася на свеце нячыстая сіла?

Були на небесах ангелы хорошие. Бог сотворил Адама, сотворил с земли. С ребра сделал Еву, ему жану. Они жили в раю, а там было дерево, што им нельзя вкушать. А тут оказвается, што два ангела не хотят Богу служить, и они искусили Адама и его жану. И вот за это Бог выгнал тех двух ангелов, и вот от них и пошли вот все эти нечистики.

– Як быў створаны чалавек?

Ну, вот на шестой день Бог решил сотворить человека по образу и подобию своему. А вот Ева була зроблена уже с ребра Адама.

– Дзе раней жылі першыя людзі? Чым яны правініліся перад Богам і што з гэтага выйшла?

Ну, первые люди жили в раю. Им там было хорошо. Они не знали ни горя, ни счастья. И чорт захотел их искусить, и он Еве сказал, штоб она взяла и сорвала яблоко. Она дала то яблоко и Адаму, попробвали, то им сразу стало стыдно, што они голые ходят. И они стали прятаться. Бог всё это видел и выгнал их с рая, а Еве за то, что она не послушалась, рожать детей с болью.

– Ці даецца чалавеку ад нараджэння анёл-ахоўнік? Калі анёл пакідае чалавека?

Ангел-хранитель даётся, когда он родился, особенно если число какого-нибудь святого, то вот этим именем и надо назвать. А уходит ангел от человека тогда, когда он начинает грешить, пьёт водку, не ходит в церковь. Нечистая сила ахватывает его, и он уже не слухает ангела.

– Ці прадвызначаны лёс чалавека? Чаму мы гаворым “як на раду напісана?”

Господь всё намечает. Например, я в молодости чула, што в одной хате родился ребёнок. Иде Бог с ангелом, а то дитя гумкают высоко, и он каже, што он повесится, а

хто плачет, тот втонет, а хто спит спокойно, тот счастливым человеком будет.

В одной хате рождались дети и умирали. И вот им сказали взять за кума первого встречного. И шёл старец, и они его взяли, а он сказал, што в 18 лет тот ребёнок втопится, так они уехали от озера туда, где не было ничево. А когда ему 18 лет было, то старец приехал и сказал над колодцем натянуть кожу. И вот пошёл дождь, и началась гроза. И на коже собралась вода. И пошёл этот ребёнок на улицу и утонул в той воде на коже.

– Ці бачылі раней людзі, як Бог ходзіць па зямлі, і чаму зараз перасталі верыць?

Бога ніхто не бачыў. Но вот і слышала такое, што, где Бог шёл, там и жито. И вот у нас в деревне появился старик, но на нево никто не смотрел. И он ушёл, а потом, где он шёл, там в ево следах жито выросло.

– Ці ведаеце вы гісторыю аб паходжанні?

Бусел: Бог одному человеку дал горшок, но сказал, чтобы тот не открывал. А тому человеку очень интересно стало, и он решил тот горшок открыть, а оттуда всякие гады полезли. И сказал Бог ему: «Теперь тебе всё время их собирать». И пошёл тот человек в болото и ходит там, собирает их.

– Што рабілі, каб пазбавіцца ад засухі?

Ну вот, рядом с нашей деревней ещё есть деревня, и там люди безвольные. Они могли работать в неделю или даже на святые дни. И вот за это их Бог и наказывает. Вот у нас в Летошевичах дождь идёт, а у них нету. А когда у нас лето сухое, так надо молиться святому Луке, Илье. Ещё у нас с иконами Луки и Ильи обходят деревню.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на***
***ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

У Бога я веру. Гэта ён саздаў зямлю і чалавека. Бог дапамае ў цяжкі час, трэба толькі ў яго верыць і любіць.

Веру і ў жыццё пасля смерці. Грэшнікі пападаюць у ад, добрыя людзі – у рай.

Як напісана ў Бібліі, Бог зрабіў зямлю за 6 дзён, а на сёмы адпачываў, таму і мы ў нядзелю не працуем, адпачываем.

У свеце ёсць і дабро, і зло. Таму і ў нячыстую сілу я веру.

Зямля наша круглая, яна круціца і не мае ні канца, ні края. Існуе 7 нябёсаў. На сёмым жыве Бог, на шостым анёлы, а мы бачым толькі першае неба.

Веру я, што зорак на небе столька ж, колькі людзей у свеце. І ў кожнага свая. Радзіўся чалавек – зажыгае зорачка, памёр чалавек – патухла.

Зараз людзі не знаюць, калі памруць, а раней зналі. Я такое ведаю: было гэта ў тыя часы, калі Бог яшчэ па зямлі хадзіў. Адзін мужчына строіў сабе плот, каб чэраз рэчку пераплыць. Падышоў да яго Бог і пытае:

– Што ты робіш чалавек?

– Плот строю.

– А чаму з такіх плахіх дрэў? Плот жа нядоўга праслужыць.

А чалавек адказаў:

– А навошта мне добры плот, калі я праз тры дні памру.

І зрабіў тады Бог так, што перасталі людзі знаць, калі памруць.

Чалавек жыве столькі, сколькі яму лёсам дадзена. І нельга нешта змяніць ці смерць абмануць. Калі настане час, яна прыходзіць і забірае чалавечую душу.

Існуе прыкмета, што калі на перавулку (у вёсках, дзе свае дамы) ўсю ноч сабака брэша, то хтосьці з гэтага перавулку памрэ. Вось і дзед калі памёр, ноччу саседкі сабака брахаў.

Калі птушка стучыць клювам у акно – к навасцям.

Жыццё пасля смерці існуе і таму, што памёршыя прыходзяць к нам ва сне. Могуць расказаць тое, чаго не бачыш вакруг, могуць прэдупрадзіць аб бядзе, а могуць прыйсці, узяць за руку і пазваць за сабой. І тады чалавек памірае. Прылятае ангел і забірае яго душу.

А потым дзесьці нараджаецца чалавек з душою таго, хто памёр. Так душа можа спускацца на землю 7 разоў.

І ў кожнага чалавека ёсць ангел-храніцель. Ён ходзіць па пятам за табой і аберагае ад бед, дапамагае, калі зусім становіцца плоха.

Еслі сніцца пажар – сварка, яйца – сплетні. Калі ва сне бачыш, як ідзе скот, будзе пакойнік, іменна ў тым напрамку, куды скот ідзе.

Сніцца карова таксама к смерці. Калі левы глаз чэшыцца – радасць, правы – слёзы.

Правая рука чэшыцца – к грошам. Калі ў час снедання падаець ложка, у госці спяшыць жанчына, нож – мужчына.

Калі кот хавае мордачку паміж лапак, пахаладае.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на***
***ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

– Дзе знаходзіцца Зямля?

Раньшэ гаварылі, што зямля стаіт на трох кітах, но зямля, как все планеты, дзержыцца в невесомасці. Край яна не імеет, яна – край. Куды не пайдзёт, вернётся к тому месту.

– Ці верыце вы ў Бога?

Сіла какая-то есць, но нікому яна неведама. А раньше ўсе ў Бога верылі. Асобенна бедныя. А багатым чорт памагаў. Есць такая прыгаворка: “Багатаму і чорт дзяцей калыша”.

– Ці чулі вы расказы пра пабудову свету.

Гаварат, што свет абразаваўся ад Адама і Евы. Ева дала яму яблака, і Бог іх на землю скінуў.

– Якім уяўлялі сабе неба? Ці далёка неба?

Шчыталі, што на аблаках находзіцца Бог, каторы смотрыт аттуда і распараджаецца людзьмі. Бог, он с крыллямі, галава чалавеческая. Былы.

– Ці верыце ў пасмяротнае жыццё? Якім вы сабе ўяўляеце рай, пекла? Дзе яны знаходзяцца?

Есць какая-то загробная жызнь. Есть рай і ад. Еслі зла ні будзіш дзелаць, дабро будзеш дзелаць – пападзёш в рай.

В раю ангелы, спасіцелі, а в аду – бесы, каторыя дзелаюць зло.

Рай. Умірае чалавек, ідзёт, і стаят варата залатыя. І еслі чалавек харошы, Бог яму вароты аткрывае і яго прапускае.

Там сталы накрытыя, пішча разная, людзі радасныя, давольныя.

Варата тыя самі адкрываюцца. Значыт, эта Бог прапускаіт в рай. Он пашчытал нужным.

А ад – эта другія варата: цёмныя. Там бочкі, катлы са смалой. І людзі адбываюць пакараніе. За грахі эта. В аду чэрці катлы варут са смалой і людзі работаюць.

Рай находіцца на небе, а ад дзе-та ў зямле. Цёмнае такое, страшнае места.

– Што такое Сонца? Як яно ўзнікла?

Был бальшой пажар на небе. Дак огненны шар разарвался і завіс у воздухе. Вот і сонца эта стала.

– Што вы ведаеце пра тое, як з'явілася зямля, зоркі?

Не прыпамінаю, штоб гаварылі пра эта. Знаю, што еслі звезда падает, это анёл с неба на зямлю леціт.

– Ці ёсць у чалавека анёл – ахоўнік?

Считаецца, што ў каждага чалавека есць анёл-ахоўнік, каторы аберагае яго ўсю жызнь. Чалавек умірае, а анёл з яго душой ідзёт у загробную жызнь.

– Ці прадвызначаны лёс чалавека?

Когда чалавек раждаецца, яму ўжэ заранее прадсказаны дзень смерці. Но ён сам этага не знае. І жызнь вся прадсказана. Кажды дзень распісан, кажды час, каждая мінута.

– Што вы ведаеце аб волатах, асілках?

Волаты, асілкі … Эта сільныя людзі, высокія, каторыя всё могуць пабедзіць, как в сказкі. Былі такія на землі.

Но са врэменем уся прырода мяняецца, людзі становяцца слабые. Как дзерава: начынае расці, маладое – сільнае, а патом умірает.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Я лічу, што для чалавека вызначаны лёс ад нараджэння.

Кагда-та жыла дочка з зяцем у мамы. Ждалі яны первенца. Радзіўся вечарам мальчык, а цёшча пашла даіць карову вечарам у хлеў. І ў яслях паявілся Бог і гаварыт: "Ваш унук утопіцца ў 3 гады". Дажылі да гэтага возраста, пазакрывалі калодцы плёнкай, не пускаюць сына ні на возера, ні на рэку, нікуды. А пасля дажджу на плёначкі, якой закрылі калодзеж, абразавалася пятнышка вады. Малы хлебануў гэтай вады і ўтапіўся. Вот і судзьба. Бог яму назначыў судзьбу. Як яны не абярагалі, але дзіця не абышло сваю судзьбу.

***

Аднажды прысніўся жэншчыне Бог і кажа: "Ждзі вялікага госця, я к цебе прыду". Жэншчына паднялася ўтрам, нагатовіла ўсяго, пірагоў панапякала, і жджэ ўжэ Бога. Прыходзіць утрам жэншчына і просіць падаянія, а хазяйка адказала, што нічога не дасць, бо жджэ вялікага госця. Патом прышоў старац, якому хазяйка такжэ нічога не дала. І апяць сказала: "Я госця вялікага жду". Патом прыйшло дзіця і яму хазяйка адказала. Ждала-ждала да вечара, але Бог не прыйшоў. Сніцца ёй ноччу апяць Бог. Яна спрашывае ў яго: "Чаго ж ты ка мне не прышоў?" А Бог адказвае: "Я прыходзіў у трох абліччах, а ты мяне не прыняла".

***

Задумал Бог стварыць чалавека, каторый станет гаспадаром над усімі звярамі і ўсёй зямлёй. Узяў ён кусочык зямлі і з яго вылепіў цела чалавека. Пасля ажывіў его, даў ему добрае серца і розум. Паэтаму, кагда чалавек умірае, то гаваріт: "З зямлі зроблены, зямлі і аддадзены". А душа чалавека – вечная.

Первага чалавека звалі Адам. Ад Бога чалавеку перадалася дабрата, удзячнасць,

служэнне і дапамога людзям, любоў да іх. А ад чорта – сквернасловіе, вражда, ненавісць, хамства, жаднасць.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

## *Смерць*

Пайшла я да вады, іду абратна, а хто-та лезе ў вакно на дварэ. Я прыглядзелася – мужчына ў куфайцы, высокі. Я яму кажу: "Куды лезеш?" А тут вакно стала трашчаць – і нікаго няма. Я зайшла ў хату, а тут бацька мой памёр. Так я бачыла смерць.

***Запісана ў г. Буда-Кашалёва***
***ад Дзегцяровай Кацярыны Дзянісаўны, 1923 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Лугінічы Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Тодаравай М. (2006 г.)***

Гаварылі, што зямля стаіць на трох кітах. А потым пачала вярцецца. Заўсёды казалі, што калі нараджаецца чалавек – на небе загараецца зорка, а калі чалавек памірае – зыходзіць яго зорка. Зорка азначае наканаваны лёс чалавека.

***Запісана ў в. Клянок Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Зубаравай Ніны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Ішла я раз дамой. А ноч лунная-лунная была. Дахожу да Сіланцьевіча і чую, як нешта стукае, як будта з машыны дровы сыплюцца. Да такі звук сільны. А назаўтра чую, што Сіланцьевіч памёр. Матка кажа, то смерць за ім прыходзіла.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Смольскай Зінаіды Васільеўны, 1951 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Калісь ішлі мы гуляць, а багата ж нас было. Яшчэ не дайшлі да хаты бабы Хімы, як штось ляпаць начала, як усё роўна доску на доску кідалі. Як дашлі да яе – усё перастала. Як прайшлі яе хату – і зноў тое самае пачалось. А назаўтра казалі, што Штэкаліха памерла, саседка бабы Хімы. А то смерць хадзіла, так бабы старыя казалі.

***Запісана ў в. Перавалока Рэчыцкага р-на***
***ад Садоўнікавай Ніны Фёдараўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Белай А. (2005 г.)***

Адной нашай жэншчыне, Мані Захаркавай, яна яшчэ жыве і цяпер, ноччу прыйшла смерць – жанчына гадоў пад 50 у белай длінна адзежы і гаворыць: "Ну, што, Маня, сабірайся. Пойдзем". А яна просіцца: "Не забірай! У мяне дзеці, унукі, трэба ім дапамагчы, яшчэ пажыць". Смерць гаворыць: "А хто тут блізка ад цябе старэйшы жыве?" Маня адказала, што бабка праз хату. Яна і пайшла. Тая бабка ноччу і памерла.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

## *Пасмяротнае жыццё*

Пасмяротнае жыцё канешне існуе гэта. Ці тады нашто тыя рай ці той ад? І куды б яны, бедныя гэтыя людзі, пасля смерці ішлі? Там ужо іншае жыццё ў іх было.

## Час смерці

Ішоў Бог калісьці па лесу і бачыць, як адзін мужык драва на зіму гатовіць. Ды мала зусім было іх у яго. Таму і пытае Бог, чаму мужык так мала загатаўлівае, зіма ж та – длінная?.. А мужык яму кажа: "А нашто мне, калі заўтра я пamру...". Таму Бог узяў, і ня даў назаўтра памерці этаму мужыку. І тады людзі і перасталі верыць у дзень сваёй смерці.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Рудніцкай Наталлі Сяргееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Колісь людзі ведалі, калі паміраць. Зараз – не. Бог так зрабіў, бо колісь убачыў, як баба карову даіла. Мо на кружку надаіла ды й бросіла. Бог пытае: "Чаго ты бросіла даіць?" Яна кажа: "Дык навошта мне вядро, калі я заўтра памру, а на сёння з мяне хопіць".

Бог падумаў, што нядобра, калі чалавек ведае, калі памрэ. Во і зрабіў так, каб чалавек не ведаў, калі надыдзе час аддаць яму душу.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

## Духі памерлых

У адной жанчыны памёр бацька. І вось на другую ноч ляжыць яна адна ў кватэры і слыша, што нехта ходзе па хаце такімі цяжолымі шагамі. Канешне, гэтая жанчына спужалася, запаліла святло, і тады зноў стала ціха. Так працягвалася некалькі дзён, пакуль яна не пайшла ў царкву і не паставіла свечкі свайму пакойнаму бацьку.

Усё ж такі душы памерлых ходзяць па зямлі, чуюць і бачаць усё, што адбываецца пасля іх смерці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Ліцвінка Марыі Пятроўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Карпенка Н. (1999 г.)***

## Свет

Зямлю стварыў Бог. В першы дзень он стварыў святло, штобы была светла на зямлі. На другой дзень Бог стварыў неба. На трэці дзень Бог сказаў, каб раслі на зямле травы, цветы, агародніна. І зямля сразу стала красівай. Дальшэ Бог стварыў свяцілы на небе, пусціў рыб у воду, у паветра – пціц. На шэстой дзень стварыў жывёл і звяроў і на земле стала добра і весела. Всё радавалася жызні. Бог всё сматрэў на сваё тварэнне і радаваўся. На чацвёрты дзень Бог здзелаў на небе свяціла і загадал, штоб свяціла днём сонца, а ноч'ю – месяц.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Здзелаў свет Бог. У народзе людзі гаварылі, што зямля адна. Яна ў сярэдзіне сусвету. Яна сначала была, як талерка, тонкая такая, а ета ўжо потым нейкі вучоны сказаў, што яна круглая, як мячык.

## Анёл

Абязацельна ёсць ангел-храніцель. У каждага чалавека ён свой, ён ахраняе чалавека. Чалавек раждаецца, у яго паяўляецца ангел-храніцель, і ён ахраняе да самай смерці.

Кагда ўходзіш з дому, то нада сказаць вот такія слава: “Ангел мой, храніцель мой, пойдзем са мной. Ты – уперадзе, я – за табой”.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Да, я веру ў ангела-храніцеля. І думаю, што кагда памолішся яму, то ён табе паможа і зашчыціць. Ангелы-храніцелі – эта памочнікі Бога. У іх, як і ў людзей, ёсць душа, но нету цела. Ангелы – добрыя духі.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Анёл – гэта маленькае дзіцё з крылламі, якое памерла нехрышчоным або проста памерла ў малым узросце. Бог прыставіў да кожнага чалавека ангела, і ён яго ахоўвае.

Ангел знаходзіцца з правай стараны чалавека, таму нельзя пляваць праз левае плячо, бо там сядзіць ангел. Ангел пастаянна знаходзіцца з чалавекам, і калі ён спіць таксама.

***Запісана ў в. Іванаўка Рэчыцкага р-на***
***ад Ружыцкай Валянціны Ульянаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Анёл-ахоўнік знаходзіцца па правую руку чалавека і сядзіць на плячэ. Ён бароніць ад д’ябла. Чалавек, лажыўшыся спаць, моліцца свайму анёлу-ахоўніку, які будзе ўначы яго ахраняць ад дрэнных сноў. Гавораць малітву: “Спаць лажуся, крастом абграджуся. Божа Мацер – у галавах, ангелы – па баках, сцеражыце мяне з вечару да поўначы, да свету і да майго веку”.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Чалавеку анёл даецца пры нараджэнні і суправаджае, і ахоўвае яго ўсё жыццё, да самай смерці. Анёл-ахоўнік пакідае чалавека тады, калі ён трапляе ў пекла, а не ў рай. Лёс чалавека вызначаецца Богам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

Чалавеку анёл даецца пры нараджэнні і суправаджае і ахоўвае яго ўсё жыццё, да самай смерці. Анёл-ахоўнік пакідае чалавека тады, калі ён трапляе ў пекла, а не ў рай. Лёс чалавека вызначаецца Богам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Драбышэўскай Надзеі Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Канавалавай Т. (2000 г.)***

## Зямля

Зямля ўтварылася даўно, мільёны лет таму назад. Дзе-та была пыль, пясок, іх

ганяла ветрам, шлі дажджы. Усё скаплялася. Гэты працэс не астанаўліваўся. Пыльныя буры змяшаліся ў шар, вот паэтаму зямля круглая.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

На зямлю пляваць нельзя. Бог пакарае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Зямля – маці наша родная. Не трэба на зямлю кідаць брезд, трэба пакланяцца ёй, каб кожны год у нас быў вельмі добры ўраджай.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Зямля – гэта наша карміцелька. Без зямлі нам было б вельмі цяжка жыць на белым свеце. Няма нічога багачэй за зямлю. Колькі ж у зямлі багаццяў усялякіх розных. Інака ж і жалеза з зямлі здабываюць. Вадзічка ж нашая таксама з зямелькі. Раней, калі людзі адпраўляліся ў дарогу, бралі з сабой у мяшэчак зямельку з роднай старонкі. На пахаронах, калі закапваюць дамавіну, то трэба сыпнуць у яму тры жменькі зямлі, каб нябожчык ведаў, што яго не забылі і прыйшлі на пахароны, і каб зямля яму была пухам.

***Запісана ў п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***ад Логвінавай Марыі Мікалаеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Фёдаравай Л.***

На пахаванні, перад тым, як закапаць памёрлага, трэба сыпнуць у ямку тры жмені зямлі, каб памерламу зямля была пухам.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Зямля – наша другая маці. Калі людзі ехалі кудысьці надоўга, яны бралі з сабою трохі зямлі з роднай старонкі, каб не так скучаць.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

На зямлю нельга пляваць, бо адплаціць яна тады тым самым і ў сям'і не будзе хлеба.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Грэх вялікі зямлю біць. Яна ж наша карміліца. З яе мы ўсе жывем, кормімся. Толькі ў крайнім случаі дазваляецца біць зямлю колам, калі яна мёрзлая і трэба капаць яму, каб пахаваць нябожчыка.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Раней зямля была не заклятая, бо людзі раней не такія былі, не ругаліся. Дык

многа страхаў хадзіла па зямлі. Хадзілі яны і людзей пугалі. А цяпер ужо рэдка пpackазуюцца, бо зямля цяпер заклятая. Цяпер людзі грэшныя пасталі, ругаюцца сільна, дажа ў святыя празнікі. Еслі мужчына ругаецца, дык яшчэ нічога, а як жанчынка, дык зямля ў тры сажні ўгарае.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Калі хаваюць нябожчыка, абавязкова кожны прысутны кідае жменю зямліцы, бо нябожчык павінен ведаць, што яго не забудуць. Раней, трошкі зямлі насілі ў мяшэчку – яна дадавала моцы.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.,***
***ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

## Край зямлі

Які там край у зямлі? Яна ж, як той шарык, без канца і без краю. Мо, калі была зямля плоскай, дык і быў на ёй край. Бачылі людзі яго, а дайсці не маглі. Бо калі да яго падыходзілі, ён уцякаў, нейкі пужлівы быў, баяўся людзей.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

## Месяц і зоркі

Зоркі – гэта быццам душы чалавечыя. Калі чалавек раждаецца, на небе з'яўляецца зорка. А калі ён ужо памірае, тады і зорка ета гасне. Кажуць, што калі чалавек плахі, то ў яго і зорка неярка свеціць. Колькі людзей на зямлі, столькі і зорак. Яшчэ гавораць, што калі ў чалавека дзень нараджэння, то зорка яго свеціць красным цветам. Я сама гэта бачыла.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Архіпенка Надзеі Васільеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Месяц не можа быць адзінакавым, бо ў яго ёсць фазы луны: маладзік, палналуніе, сход. У палналуніе нечысць вылазіць. Можа быць бяссонніца ў людзей. У маладзік добра косы стрыгці, капусту крашыць. На сходу месяца апірацыю можна рабіць, рамонт можна дзелаць.

Плямы на месяцы – гэта брат брата ўбіў, віламі закалоў ад завісці. Той, што ўбіў, быў злы, завіслівы, а другі – харошы, добры, веруючы, людзям дапамагаў, рабацяшчы быў.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Месяц і сонца ніколі не сустракаюцца. Сонца калісьці даўно заўсёды свяціла: і

днём, і ноччу. А цяпер не свеціць. Гавораць, што сонца і месяц – брат з сястрою.

***Запісана ў в. Іванаўка Рэчыцкага р-на***
***ад Ружыцкай Валянціны Ульянаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Выязджае кажды вечар медленна па небу ў сваёй калясцы, запрэжанай чорнымі канямі, ноч. Яна пакрывае сваім чорным пакрывалам землю. А яе дзеці – звёзды, усё каля яе, багата іх. Разбегліся яны па ўсёй той посцілцы.

За ўсім глядзіць месяц, каб усё было добра. Возяць яго па небу крутарогія быкі. Месяц у длінным белым плацці аб'язжае неба і спускаецца на дзень дзесьці у гарах: чакае следуюшчы дзень.

Сонца паяўляецца ўтрам. Звёзды бегуць з неба, як бачаць сонца, і адна за другой хаваюцца пад начным пакрывалам. А сонца дае зямлі цяпло.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ну, а зоркі – гэта ўжо людзі. Колькі людзей на зямлі, столькі і зорак на небе. Чыя зорка большая, ярчэйшая, значыцца, той болей і пражыве. Калі засвеціцца зорка, хтосьці нарадзіўся, паляцела на зямлю – паміpае чалавек. Вось і ўсё, тут нічога цяжкага няма.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Рудніцкай Наталлі Сяргееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Зорак на небе столькі, сколькі людзей на свеце. Калі радзіўся чалавек, то на небе ангелы запальваюць зорку, а калі чалавек памірае, то яго зорка падае з неба. Яе тушаць ангелы. Калі чалавек многа грашыць, то яго зорка чуць блісціць, а калі мала, то яна свеціць ясна-ясна.

Млечны шлях – гэта шлях на небасхіле, па якім птушкі ляцяць у вырай. Яго спецыяльна сатварыў Бог, штоб птушка не заблудзілась. Шлях еты яшчэ называлі гусіным.

На небе жыве Бог, ангелы, божая Мацер, Ійсус Хрыстос, Нікалай чудатворац, усялякія святыя, іх багата. Яны за намі з неба наблюдаюць.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Месечка Бог, як цеста, месіць. Калі цеста падыходзіць і перакульваецца цераз край, раджаецца малады месечка, потым саўсім перакульваецца і тагда месечка на небе цалёхенькі, а потым прападае. Тагда Божанька ставіць новую дзежку. А астаткі цеста крышыць і шыбае етыя кавалачкі на неба, зоркі тагда паяўляюцца.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

## Адам і Ева

Жылі етыя Ева і Адам і было ў іх усё. І жылі яны шчасліва. Яны не баяліся стыда і хадзілі голыя. І вось нейкая вядзьмарка паднесла ім яблык з запрашчонага дзера-

ва. Ева з'ела яблыка і адразу яна пазнала стыд і сумленне. А Адам, калі пачаў есці яблыка, то ён не змог яго праглынуць. І таксама пазнаў увесь стыд.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н., студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

## *Уяўленні аб сусвеце*

Свет стварылі Адам і Ева з аднаго рабра, таму жана далжна падчыняцца мужу, і яны саграшылі. Іх саблаз укусіць плод з дрэва, які нельга было есці, яны з'елі, і ад таго время пачалі саромецца адзін аднаго. Шылі вопратку з лісцей. Патом сталі яны саблазняцца і раджаць дзяцей. У іх нарадзілася два сына – Кавель і Явель. І сталі размнажацца людзі. Мужчына быў крэпчы характарам, жанчына – мягчы, яна больш рабіла за мужа. Ішоў старык і спрасіў дарогі. Ёй было некалі, і яна паказала дарогу нагой, таму яна больш робіць у муках і раджае дзяцей у бальшых муках.

Калісьці считалі так: каждая зорка на небе пазначае ўмёршага чалавека, як умрэ чалавек – абразоўваецца зорка на небе. І дажэ дзеці, калі памрэ маць, шукалі зорку на небе, дзе будзе іх маць.

Я веру ў пасмяротнае жыццё. Гавораць, па-старынушкі, што после жывой жызні, ёсць жызнь вечная. І нада яе заслужыць, хто заслужа жызнь вечную, той будзе ў раю, а хто дзелае плахое для людзей, той пападзе ў ад і будзе там вечна. Гавораць так: душа, як умрот чалавек, калі мозг робе тры дні, душу водзяць, паказваюць, як хто жыве, хто заслужыў, душа ходзя на етым свеце. Калі пройдзе 40 дней, адпраўляюць у царкве мёртвага чалавека і паказваюць яму тое месца, дзе ён будзе жыць вечна.

Зямля не імее краю, яна круглая і верціцца, гаварылі, што зямля край імее і стаіць на трох сланах.

## *Пра стварэнне свету*

Знаю, што нячыстая сіла ёсць, што была больш, як у гэта врэмя, людзі чулі яе ў хаце, бачыць не бачылі, толькі грук і смех. Здавалася, ездзілі на конях па дварах, білі пугай, іх называлі лесавыя людзі. І ат іх станавілася людзям плоха, ці калі хто стане на іхную сцежку ці ўбача іх, балелі доўга і ўміралі, нельзя была атлячыць.

Бог любя ўсех і хоча, штоб усе людзі жылі харашо і друг друга любілі, Бога не кідалі і между сабой жылі харашо. А чорт стараецца іскусіць такіх людзей, хоча штоб людзі между сабой ссорылісь, плахога ім жалае, ідзе проціў Бога.

У Ізраіле нарадзіўся Хрыстос, там жылі першыя людзі.

Мужчына мае Адамаў яблык на горле, таму што Адам пакушаў яблака, якога яму не разрышалася. Гасподзь сказаў кушаць з усіх дрэў плод, а з аднаго нет. Яны не выдзержалі і пакушалі, таму ў мужчыны на горле такое яблака.

У каждага чалавека ёсць свой аберагальны анёл. Таго пакідае, хто не вера ў гэта, хто ідзе проціў, ён адказваецца ад гэтага чалавека. Яго нада прасіць, маліцца аб помашчы ў анёла.

Лёс чалавеку даецца к яго нараджэнню, сколькі яму пражыць, якой смерцю яму памерці. Гавораць: "Сколькі адмерана, столькі і адрэзана".

Варона больш каркае над домам, калі бяда ў доме, мяртвец.

Сабака – лепшы сябар чалавека, патаму што ён усё панімае, яго нікагда не падвядзе, друг можа чалавека падвесці, а сабака вумны, ён ніколі не падводзіць хаязіна,

можа саабшчыць і радасць, і бяду. Калі ў доме чуствуецца пажар ці мяртвец, ён задзірае галаву ўгору і вые.

* * *

Колькосць зорак на небе – гэта мёртвыя душы.

Калі грыміць гром і бліскае маланка, то будзе дождж.

Ё такі гром, што ён дужа раскаціста б'е ў зямлю, завецца Перуном.

Каб адвесці навальніцу, ля дома садзілі дрэвы.

Дабывалі агонь. Бралі камень і крысала, білі ёй аб камень і бралі губу, якая расла на дрэве. Калі білі, быў дымок, яны прыторквалі той губой і раздувалі дымок, з якога палучаўся агонь.

Вада была ў такіх крыніцах, што называлася жывой вадой, людзі бралі яе, набіралі, пілі. Шчыталі, што яна была лячэбнай, выздараўлівала людзей.

Каб пазбавіцца ад засухі, сабіраліся людзі, бралі ікону, хадзілі вакруг дзярэўні, маліліся Богу, прасілі ў яго дажджа, пахалі дарогу плугам, сыпалі мак ў калодзеж.

Камяні раслі і растуць зараз.

## *Сацыяльныя ўстаноўкі, звычаі*

Предпалагалі час сваёй смерці, але не ўсе, бальшанство не зналі.

Шанаваць старых людзей трэба, таму, што ўсе мы будзем старыя. Хто шануе старыкоў, тэй верае ў Бога, яму благадаць даецца за тое, што ён шануе старых людзей. Гаварылі калісьці, што пабыць у цэркві – гэта як памоч старому, немашчаму чалавеку.

Даўней маліліся, хто кому пакланяўся ўсякім статуям, сонцу, хто ў шір верыў.

Нельга пляваць цераз правае плячо, таму што чалавек, як моліцца, то ён кладзе першы крэст на правае плечо.

Жанчына, якая робіць у святыя дні, наказваецца. Казалі, што на том свеце будуць людзі адпачываць у святы дзень, а яна рабіць. Ёсць такая Господняя запаведзь: "Шэсць дней рабі, а на сёмы маліся Госпаду Богу".

## *Пра паходжанне этнасаў*

Сяляне і паны сталі дзяліцца на два класы: бедныя і багатыя. Багатыя дзелаліс панамі, а бедныя рабілі на іх.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Паўлюковай Надзеі Сямёнаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Калюды Кармянскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай Т. (2004 г.)***

## *Як узнік сусвет?*

Слыхала я пра чарапах, на якіх сусвет стаіць. Пра слана таксама слышала. Да думаецца мне, што няпраўда ўсё гэта. Свет белы наш, усе добра знаюць што сатварыў Бог. І ёсць многа гаворак пра тое, як гэта ў яго палучылася, але я памятаю толькі адну.

Бог сказаў сонейку, свяціць на ўсіх людзей, што ходзяць пад небам. На ўсіх, гэта значыць і на добрых, і на плахіх. А сонца стала жаліцца і плакацца Богу, што яму цяжка свяціць ды свяціць заўсёды, што няма ў яго часу на адпачынак. Тады Бог, не

знаю я, пакараў ці наградзіў соннейка і прыказаў свяціць яму толькі ўдзень, а ноччу не, каб яно аддыхала ды на плахіх не свяціла. Так можа паявіліся і дзень, і ноч.

## *Як узнікла зямля і вада?*

А як паявіліся зямля і вада, мне маці мая даўно гаварыла. Быў раней, яшчэ да нашага Бога, хоць і знаем мы, што Бог наш быў вечна, нейкі бажок, але вялікую сілу меў, не помню, як звалі яго. Як бы нехта раззлаваў яго і той выклікаў гром з маланкай. Маланка тая папала ў дрэва, ад таго ажно іскры паляцелі і папалі ў ваду (а вада да гэтага была мёртвая), вада стала каламуціцца, а потым хуценька пасвятлела і аддзялілася ад зямлі. Тады ўсё і пачалося. Пачалося жыццё на зямле і ў вадзе. З тых пор і паявіліся рыбы ды звери ўсякія.

## *Адкуль узялася гарэлка?*

Хоць думаюць людзі, што няпраўда ўсё гэтае, а я ўсё ж-такі веру ў гэтую гісторыю, бо гарэлка – яна зараза такая, як і чорт, які зварыў яе.

Было гэта тады, калі чэрці па зямлі хадзіць не баяліся, бо чалавек грэшны быў, бо можа і яны зараз ходзяць як і раней, ды толькі мы іх не бачым. Дык вось, хадзілі чэрці раней, ператвораныя ў людзей, і нічога нячысцікі не баяліся. Неяк прыйшоў да аднаго беднага чалавека малады хлапец. Мужык думаў, што можа жабрак які і ўзяў таго на работу. Добра той работаў і не прасіў нічога: ні грошай, ні яды, ні вады. Гэта здзіўляла мужыка, але прайшло ўрэмя і той не стаў абрашчаць на гэта вніманне. А трэба было мужыку дацямекаць, што чорт гэта быў. Так і жыў чорт у таго з зімы да вясны. Калі наступіла вясна і людзі пабаранавалі і пасеялі свае гароды, а потым восень прыйшла, вялікая радасць была ва ўсіх, бо ўраджай вельмі добры быў. І на той радасці сказаў хлопец хазяіну, што пойдзе і навара для ўсіх такога напітку, што кожнаму падабаецца.

Мужык назваў гасцей са ўсёй дзярэўні, каб паспрабавалі яны чортавай гарэлкі. І так ўсе госці з хазяінам умесце нахлябаліся, што пад вечар ніхто з іх на нагах стаяць не мог. І паваліліся ўсе, хто куды можа, а хто шчэ стаяў на нагах, тыя лаяцца як сабакі началі. Усе чэрці абрадаваліся гэтаму і глядзелі з насмешкай на п'яных людзей. Вось таму і цяпер п'янага чалавека чэрці да дурнога зводзяць.

## *Адкуль горы і балота з'явіліся?*

Калі Бог рабіў зямлю, вельмі добра ў яго ўсё палучалася. Красата была такая, што вока не адвядзеш. А чарцям не нравілася ўсё гэта, бо хацелі яны, каб не птушкі па воздуху не лятaлі, не звери па зямлі не хадзілі, а толькі гады паўзучыя поўзалі ды нячысцікі розныя. Дык вось сядзелі чэрці, гледзячы на ўсё гэтае, і трэсліся ад злосці. Завідавалі яму, што ўсё ў яго так добра падучаецца. А як толькі Бог усё дадзелаў, дык сразу паляцеў на небясы к сабе дадому. Раззлаваліся чэрці і давай са злосці як сабакі зямлю рыць. І так рылі, рылі яны зямлю, а куды кідалі – там гара вырастала, а ад пота іх балоты на месцах сталі ўзнікаць. Так чэрці і зрабілі зямлю такой, якой мы зараз яе бачым. Самі яны ж так капалі, што зарыліся пад зямлю, ды так і жывуць там да сіх пор. А чаго Бог нічога не перадзелаў. Я не знаю. Мабыць, ужо не хацеў людзей трывожыць.

***Запісана ў в. Высокі Хутар Добрушскага р-на***
***ад Восевай Лідзіі Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Касабукінай В. (2007 г.)***

## Пярун. Перуновыя стрэлы

Гром і маланка бываюць тады, калі па небу едзе Ілля. Ён ездзіць на сваёй калясніцы вельмі хутка, што тыя грукаюць.

Гром злуецца на людзей, каб яны пакаяліся і болей не грашылі.

А яшчэ казалі, што калі Пярун ударыць, то гэта Бог забівае злых духаў. Таму, калі бліскае, трэба хрысціцца, каб адагнаць чорта ад сабе.

Лічым, што еслі ў сябе на агародзе знойдзеш якія-небудзь металіческія прылады, то перуновы стрэлы. Яны, ударыўшысь аб зямлю, сталі такімі цвёрдымі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Мельнікавай Алены Рыгораўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Марусавай Д.***

## Уяўленні пра агонь

Агонь Бог даў людзям тады, калі яны скіталіся. Калі ён выгнаў першага чалавека з раю, то чалавек пачаў дрыжаць ад холаду. І тады чалавек, па загаду Бога, узяў два кускі дрэва і стаў іх церці. І так дабыў агонь. І стаў грэцца так. Агонь служыў чалавеку і для таго, каб у цемнаце іскаць сабе дарогу. Чалавек яго бярог, шанаваў, ні пляваў у яго, ні кідаў нічога плахога.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Мельнікавай Алены Рыгораўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Марусавай Д.***

Агонь паслаў на зямлю Бог, каб убіць д’ябла. Агонь – гэта гром, грамавыя стрэлы. Таму нельзя, калі гром, навальніца, хавацца пад дрэва. Кажуць, там чорт хаваецца і агнявыя стрэлы Бог меціць у чорта, таму можа закрануць чалавека. Агонь чалавека саграває. Пішчу на ём можна варыць. А можа і спаліць, пажар нарабіць.

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Святы агонь прыносяць з цэрквы ў хату ў Чысты чацвер пасля малебні. Данесці неабходна запаленым ад цэрквы. Дома неабходна, не паліўшы свет, над дзвярыма зрабіць свечкай тры красты, якія ахоўваюць цэлы год ад небяспек.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Адзін чалавек зацікавіўся папараць-кветкай. І ў ноч на Івана Купалу ён пайшоў ў лес, каб адшукаць гэту кветку. Калі ён адшукаў папараць-кветку і прыйшоў дадому, то разумеў размову курэй, коз, свіней і іншых жывёл, што жылі ў іх. Ён сядзеў на двары і толькі ўлыбаўся, слухаючы жывёл. Калі жонка спытала, чаму ён улыбаецца, ён нічога не адказаў. Гэта вельмі разазліла жонку і яна дажа збіралася кідаць мужыка. Але, усё ж, ён расказаў жонцы, што знайшоў папараць-кветку і стаў разумець размову жывёл. І як толькі ён расказаў пра гэта, уся неабычная сіла пакінула яго і ён стаў, як і быў, звычайным чалавекам.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Гаўрыльчык Алены Іванаўны, 1906 г.н.,***
***студэнтам Харшуновым С.***

## *Агонь*

Першы агонь прынёс людзям Прамятэй, ён зрабіў дабро, але зло перамагло і Прамятэй загінуў ад рук зла.

Раньша люди знали когда умрут, знали день, час, месяц. Но как-то шёл Бог в облике простого человека, и бачит – мужик забор сабе з саломы делает. Бог падашёл к этому мужику и спрашивает: "Почему ты забор з саломы делаешь?", а мужик ему и сказал: "Дак завтра всё ровно помирать, зачем мне хороший забор?" Бог подумал и решил, что каждый человек должен после себя что-то оставить и сделал так, что люди и сейчас не знают когда умрут, чтобы каждый после себя что-нибудь оставил детям, внукам, правнукам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Кажыць, што нельга позычаць агонь злому люду, а то ета прывядзе да бяды.

Дзяўчаты і хлопцы праз агонь на празнікі скачуць, штоб здаравенькімі булі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шынкарэнка М.І., 1947 г.н.,***
***студэнткай Філан Н.***

Першы агонь, як лічылі, к нам прыляцеў з Перуном. Людзі збегліся адусюль хапаць галавешкі да па сваіх зямлянках у попелі перахоўваць. Аднак нічога з гэтага не атрымоўвалася, пакуль аднаму калёсніку не паслаў Бог думкі, штоб ён папрабаваў кружкі на верацёнах вышпульваць яснёвым клінком да не нажом вырэзваць як дасюль.

Застругаўшы яснёвы клінок, прыставіў яго к верацяну, моцна прыжымаючы, і зачаў смычком шморгаць то сюды, то туды, што раз скарэй, як пайшоў дым з верацяна, да як пахне бы з вогнішча. Дак вось як чалавек знайшоў агонь. Тагда людзі ўсюды патушылі перуновае цяпло да завялі свойскі агонь і з тых пор сталі лепш жыць.

***Запісана ў п. Бальшавік Гомельскага р-на***
***ад Логвінавай Марыі Мікалаеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Фёдаравай Л.***

Первый агонь першабытныя людзі палучылі ад грому. Гром запаліў дзерава, і яны ўжо тады ўвесь час яго аберагалі і плясалі ўжо круга таго агня.

***Запісана ў в. Лядцы Гомельскага р-на***
***ад Кашлаковай Матроны Зосімаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Лук'яновіч І.***

Першы агонь здабывалі трэннем камянёў або церлі дрэва аб дрэва. Ішоў дымок, а калі абвугліваліся рэчы – загараліся.

***Запісана ў в. Карма Добрушскага р-на***
***ад Сакаловай Алены Ізотаўны, 1917 г.н.,***
***студэнткай Уласавай Н.***

У вайну спічак ні було, і мы двума красаламі церлі і так запальвалі агонь. Вельмі сільна любілі і шанавалі агонь. Аддаваць агонь з сваёй хаты – гэта не быць век багатым.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

У агонь палкі кідаюць, а вот пляваць у агонь нельзя, бо ваўкі будуць.

Вот еслі проста касцёр гарыць, то яго можна вадой тушыць, а як пажар, дак яго тушыць нада сывараткай ці малаком. Яшчэ, як пажар, дак бяруць іконку, называецца яна "Залатая купіна", і з етай іконкай ідуць за ветрам вакол хаты, што гарыць, тры разы яе абыходзюць, адносюць агонь. І пажар тады пойдзе за ветрам.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Нельзя пляваць у агонь (і ў печы) – "огнік" (прышчык) выскачыць на языку.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

Калі цяжарная жанчына ўбачыць агонь і схопіцца рукой за сваё цела, то дзіця можа нарадзіцца з плямай.

Нельга цяжарнай жанчыне здзіўляцца, калі яна бачыць агонь, дзіця заікай будзе.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Таццяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

## *Як чалавек перадаў душу чорту?*

У адных людзей былі 2 сыны. Адзін быў старшы за другога на шмат гадоў. Таму радзіцелі любілі большэ меньшага. Яму аддавалі ўсё цяпло, ласку. А старшы сын раўнаваў страшна. Ён вельмі зліўся, калі бачыў, як радзіцелі гадавалі малодшага. І вось, калі іх паслалі пасці кароў на пасбішча, малы заснуў. Старэйшы брат доўга хадзіў вакруг яго. І тут яму здаўся чорт. Але быў ён у выглядзе братца. Ён смяяўся і крычаў, што цябе, мол, ніхто не любіць, ты тут як за раба. А мяне дастанецца ўвесь дом з хазяйствам.

Тут старшы брат не вытрымаў і схваціўся за кнут. Ён задушыў меншага і скінуў яго ў рэчку. Тут раздаўся страшны смех, хохат і забойца ўвідзеў, як на неба паднімаўся чорт з мяшком, з якога віселі ногі малога брата.

***Запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на***
***ад Еўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Драбышэўскай А. (2000 г.)***

## *Гісторыя пра 40 мучанікаў*

Аднойчы агледзела лукавая сіла, што 40 чалавек служаць Хрысту і загнала іх у раку ў мароз, а на беразе баню затапіла. Яна хацела, каб яны на яе бок перайшлі, думала, што холаду спужаюцца. Адзін з 40 чалавек не выдзержаў і пайшоў у баню. Але як толькі ён пераступіў праз парог, то тут жа і памёр. А той чалавек, што па загаду лука-

вага баню тапіў, перайшоў у ваду, і 40 мучанікаў усё роўна засталіся.

## *Гісторыя пра пятніцу*

Жыла на свеце жанчына маладая, што старых людзей не слухала. Яна работала заўсёды: і ў будні, і ў святы. Казала, што работаць – не грэх. І вот аднажды ўстала яна рана ўтрам і стала прасці. Тут ёй у вакно пастукала старая бабулька і запытала, чаму жанчына прадзе ў святы дзень. Тая адказала, што работа чакаць не любіць. Тады бабка дала ёй работу і сказала, каб выканала да вечара. Жанчына спужалася і не ведае, што рабіць. А бабка знікла. Жанчына заплакала. Тут да яе прыйшоў дзядок і сказаў, каб яна падманула бабку – наматала з клубка гатовай пражы і аддала ёй. Калі бабка прыйшла, жанчына так і зрабіла. А патом успомніла, што дзядок той быў Мікола-чудатворац. Яна падзякавала яго і сказала, што ніколі больш не будзе прасці ў святую пятніцу, бо яна дагадалася, што бабка гэта і была сама Параскева Пятніца.

## *Як даўней маліліся?*

Жыў у адной вёсцы чалавек. А царква ад той вёскі далёка была. І каб жанчыны далёка не хадзілі і пад небам у полі не начавалі, бо дабрацца туды больш дня трэба было, то зрабіў гэты мужык з дзерава свайго Бога, паставіў у двары і пачаў яму маліцца па 3 разы, бо Бог жа любіць тройцу. Жанчыны гэта ўбачылі і сталі таксама там маліцца. Яны прыносілі падарункі і прасілі аб міласці.

## *Адкуль пайшлі беларусы?*

Было раней у свеце цёмна. Але аднойчы грымнуў гром, блiснула маланка, ударыла аб камень і высекла з яго іскры. З той іскры, што белай была, і пайшлі беларусы.

Жылі раней 2 браты. Яны заўсёды слухаліся свайго бацьку. Калі бацька памёр, ім няма каго было слухацца. Таму яны ажаніліся. Жонкі трэбавалі, каб яны раздзялілі паміж сабой зямлю, што засталася ў спадчыну. Браты пачалі спрачацца, але каб нікому не было абідна, вырашылі яны пакінуць сваю зямлю і пайсці шукаць іншую, і хто дзе знойдзе, той там і застанецца.

Шлі яны доўга. Малодшы брат стаміўся і застаўся ў лесе. А старэйшы пайшоў далей, каб выбрацца з лесу. Выбраўся ён на паляну і ўпаў там ад стомы.

Дзеці таго, што астаўся ў лесе, сталі называцца палешукамі, а таго, што дайшоў да поля – палявікамі.

## *Адкуль татары на Беларусі?*

Расказвалі, што вельмі даўно, пасля вайны, калі ўсіх мужчын пабілі, няма было каму дапамагаць жанчынам. От наш пан забраў татар з іх зямель, пазваў сюды і дазволіў жаніцца на нашых жанчынах. Так яны тут і засталіся.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Усе раней у белай адзёжы хадзілі, так і празвалі, што беларусы. Валасы, і тое светлыя былі. Татары нападалі, хацелі, каб яны былі нам за паноў, але пабядзілі ж іх, прагналі, асвабадзіліся.

Паны раней злыя былі. Старые казалі, што і да дзевак простых заляцаліся і абы-

што рабілі. Дзе далёка можа і былі добрыя.

***Запісана ў в. Крупец Добрушскага р-на ад Мішуравай Сцепаніды Архіпаўны, 1914 г.н., студэнткай Яфрэменка В. (2000 г.)***

## Прывідзенне

У нас у дзярэўні раней прывідзенне было. Дзед у нас быў такі дабрэнны, знахар вядомы. Быў у яго ўнук. Ён вельмі дзяўчыну адну любіў. І яна яго тож моцна любіла. Збіраліся яны ўжо ажаніцца. “Падаждзі, – кажа дзед, – не жанісь пакуль. Калі я памру, усё скажу і перадам”. Паслухаўся ўнук. І сапраўды, праз колькі дзён памер дзед і пахавалі яго на кладбішчы.

Ноччу прыйшоў дзед да ўнука і кажа: “Прыхадзі ў 12 часоў ночы ў капліцу, што каля кладбішча, тады ўсё скажу і перадам”.Тыя словы пачула нявеста. А ўнук і кажа: “Калі не баішся, дык пайшлі са мной”.

Прыйшлі яны на кладбішча ў 12 часоў. Унук аставіў нявесту на камні сядзець, а сам пайшоў у капліцу. Праз нейкі час выйшаў унук з тое капліцы і кажа: “Дзед сказаў, што я служыць у армію пайду і чэраз паўгода пагібну”. Нявеста сказала аб гэтым сваёй сястры. І ўсё роўна ажаніліся. Пайшоў унук у армію служыць, чэраз паўгода ёй прыйшла вестка, што ён пагіб. Вось такое было прывідзенне.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н., студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

## Горы і балоты

Бог рабіў зямлю. Любіў рабіць усё да ладу, таму зямлю гладкай, роўнай зрабіў. І чорт тады быў. І не нравілася гэта чорту. Таму даждаўся чорт, калі Бог пойдзе дадому, і пачаў зямлю драць. Пуду жменю кіне – там і гара стала. Дзе ад злосці плюне – там і балота. А сам пад зямлёю стаў жыць.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н., студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

## Прымхліца

Было гэта даўно. Расказвала мне яшчэ мая бабуля. Памірала адна жанчына на дзевятым дзясятку, як нарадзілася дзіця. Ой, жа гора было. Як пахавалі яе, то ў першую ж ноч заходзіць нейкая жанчына ў хату і сядае каля калыскі дзіцяці. Цэлую ноч сядзіць над ім, паглядае на яго і плача. Калі падыходзілі да яе, то яна знікае. Людзі кажуць, што гэта памерлая жанчына прыходзіць к свайму дзіцяці.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на ад Савіцкай Марыі Сцяпанаўны, студэнткамі Казятнікавай С., Цікавец Д.***

У Бога я веру. Ета такі ж чалавек, як мы. Еты ж чалавек усё можа: можа і палячыць, і хваробу паслаць, мы ж усе пад Богам ходзім.

Калі людзі паміраюць, то на тым свеце тожа жывуць. Мне здаецца, што Бог на тым свеце ўсіх прымае. Мабуць, толькі злых людзей наказвае, а потым усё роўна прымае.

У кожнага чалавека ёсць свой анёл-ахоўнік. Калі дзіця родзіцца, дык яно родзіцца з анёлам. Анёл зберагае яго, а калі дзіця вырасце і робіць што-небудзь ні так, як трэба, то ён яго можа і кінуць. Тады еты чалавек робіцца нешчаслівы. Тады трэба памаліцца ці к бацюшцы схадзіць.

У зямлі краю няма, яна ж круглая. Калі Бог паявіўся на зямлі, то на небі зорка засвяцілася. Пасля таго і загараюцца новыя зоркі, як чалавек родзіццановы.

На небе, дзе жыве Бог, знаходзіцца Рай. А пекла далёка пад зямлёю.

***Запісана ў в. Боркі Жыткавіцкага р-на***
***ад Юнчыц Ганны Кандратаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Бог – гэта чалавек, які жыў і жыве, але яго ніхто не бача. Амаль усе людзі душой вераць у яго.

Першае, аб чым я ўспамінаю, калі гавараць пра агонь, гэта свята Купалля, энергія, якая дапамагае ачысціцца, зноў паверыць у каханне.

Людзі заўсёды верылі ў рай і пекла. Баяліся зрабіць якую злоснасць, каб пасці ўніз.

Пасля смерці душы памершых прылятаюць на суд Божы, дзе рашаецца: падуць яны ўніз ці ўзнімуцца ў вырай.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

## *Чаму мужык кіруе жонкай?*

Бог стварыў не толькі зямлю і неба, але і чалавека. Спачатку Адама, а потым Еву. Жылі яны ў раю. Бог наказаў Адаму, каб ён не зрываў яблык з дрэва пазнання дабра і зла. Але хітры змей, які жыў у садзе, угаварыў Еву, і яна сарвала яблык. Адаму было сорамна, што ён так зрабіў. І ён сказаў Госпаду, што ета Ева не паслухала яго, а паслухала змея.

Тады Гасподзь раззлаваўся і выгнаў іх з раю. І сказаў Еве: "Раз ты сама не маеш розуму, то табой вечна будзе кіраваць мужык, а ты будзеш усё жыццё праводзіць у працы, будзеш нараджаць дзяцей у болях. Не будзеш маць пакою".

## *Чаму сталі шанаваць сталых людзей?*

У даўніну старых людзей, калі яны рабіліся нямоглыя, іх завозілі ў лес і там кідалі паміраць. У адных быў стары бацька, які таксама стаў нямоглы. Сыну жалка стала весці яго ў лес. І ён вырашыў схаваць яго дома, хаця за етае яго чакала цяжкая кара.

І так здарылась, што ў гэты год быў вялікі голад, няўражай. Людзі мерлі ад голаду, як тыя мухі. Тады бацька пазваў сына і сказаў яму, каб ён зняў салому з крышы, якой была пакрыта хата і абабіў яе. Сын гэтак здзелаў. І гэтага зерня хапіла, каб не памерці з голаду і яшчэ паласу пасеяць.

Людзі дзівіліся, адкуль там ёсць збожжа. І тады сын рассказаў усю праўду. Вось з таго часу і сталі паважаць і шанаваць старых людзей і прыслухацца да іхніх навучанняў.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Прымак Фёклы Кузьмінічны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

## *Чаму жанчына працуе?*

Бог рашыў, што яна павінна быць болей вынослівай, хоць і мужчына робіць болей цяжкую работу. Жанчына і дзяцей раджае. Раней роды былі не балючыя, а за то, што Ева саграшыла, аслухалася Бога, ён так зрабіў, штоб больна ражаць было. І Адама да граха падштурхнула. Вось Бог і думае: "Работай ты, жанчына, пастаянна, раз такая непаслухмяная".

***Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на***
***ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

## *Што рабілі, каб пазбавіцца ад засухі?*

Собирались все жильцы поселка на то место, где стояла церковь. Ее ставили на пригорках, на видное место. Люди шли с иконами, громко молились Богу, призывали Бога послать дождь.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Міралюбавай Раісы Майсеяўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Бога просили. Молилась моя бабушка, штоб заступил и помиловал от стихии. Да, засуха – это у нас стихия.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Парцянковай Валянціны Іванаўны, 1950 г.н.***
***(перасяленка з в. Шапітоўка Івана-Франкоўскай вобл.),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Бралі нядораслых, няўзросшых дзяцей, а такіх ужо хлопчакоў, дзевочок. Бралі плуга і цянулі по вуліцы. Уродзе бы оралі ўліцу для того, штоб пошоў дождж.

А потом яшчэ бралі гладышку, кувшын, которы для молока, корову доілі, молоко подсажывалі. От беруць еты кувшын, пробіваюць у ім дно і кідаюць у колодзеж. Ето тожэ должны робіць нядорасткі, штоб потом пошоў дождж.

***Запісана ў в. Карані Светлагорскага р-на***
***ад Малец Вольгі Якаўлеўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Кіраў Нараўлянскага р-на)***

Штоб прыкрацілся град, на вуліцу выкідалі венік.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсееўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Хадзіла старая бабка па хатам у каго былі малыя дзеці. Яна давала ім пасвяцоны мак. Потым дзеці хадзілі па сялу і раскідвалі еты мак у кожны калодзец, каб пайшоў дождж.

Стаяў крыж у канцы дзярэўні асвяшчоны. На етым крыжы вісеў рушнік. Як толькі не было дажджу, людзі прыходзілі туды і маліліся, прасілі дажджу. І яшчэ было такое. Прыходзіў бацюшка ў нашу вёску, запаліваў свечку, чытаў малітвы і разам з людзьмі выходзіў у поле, каб пайшоў дождж.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Сабіраліcь чатыры бабкі, толькі абавязкова ўдовы, каля крыніцы. Бралі плуг за вяроўку і абворвалі кругом вады тры разы. На наступны дзень ішоў дождж.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Шылец Аляксандры Мітрафанаўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Нудзічы Брагінскага р-на),***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Было мне гадоў 12. А суха яксьці было! Не было дажджу, дый не было. Бабы тады старыя і кажуць: "Дзевачкі, збярыцеся, дый абайдзіце вёску вакол". Мы так і рабілі. Сабяромся, нас было ці то сем, ці то восем – многа, і хадзілі, а затым на крыжавай дарозе перарывалі. І пад вечар такі дождж даў … Ой-ёй-ёй! Жудасна было. Во так і дзелалі.

З васемнаццаць кіламетраў ад месца, дзе жылі тады мы, быў Сіні калодзеж.

Рэчка каля яго была цякла, вунь як да тэя хаты. Ой, колькі ж люду туды прыязджалі. І пеўчыя. Дзядзіна мая там была, ад калодзежа жыла. Я сама тамака ету ваду і брала. Мы тады голыя хадзілі. Тры разы трэба было акунуцца і тады, казалі, відна і цёпла будзе. Толькі ноччу. Мы прыходзілі ноччу. Я ж не верыла. Пайшлі мы ноччу.

Раздзеліся і тры раза акунуліся. Божачкі! Як днём! Во, як зараз! А цёпла стала і, відна, як градусаў трыццаць. Гавораць, дзеўка тама затанула і выйшла, рукамі махнула і во (паказвае, што здарова стала).

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на***
***ад Драчовай Марыі Яўсееўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Валодзькінай А.***

Ад засухі ў хаце сабіраліся самыя старыя бабкі ў дзярэўне ды чыталі малітвы. Патом выхадзілі на вуліцу ды кідалі ў пустой калодзеж бальшой кувшын.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Калі доўгі час была засуха, то, каб пайшоў дождж, малады мужчына распранаўся сначала, браў у руку жменю мака, ішоў да калодзежа і сыпаў туды гэты мак. Тады скора павінен быў пайсці дождж.

***Запісана ў в. Жарацінo Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Сарокінай Веры Пятроўны, 1947 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай К. (2010 г.)***

Штоб засухі не было, нельга кутаць двор і капаць градкі да Благавешчання. А еслі хто кутае, то нада ноччу выламаць адну частаколіну з плоту, тады дождж пойдзе. Еслі плот гародзяць, то дождж загараджваюць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Ад буры выносяць з хаты май і свешчаную вярбу і падтыркаюць пад стрэху.

Штоб не было засухі, штоб дождж пайшоў, дык бяруць гладышкі з забору і кі-

даюць у калодзец. Яшчэ жабу раздзіраюць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Як выклікаць дождж?

Калі хто на Стрэчанне рабіў забор, то вырывалі гэтыя палкі і абавязкова павінен быў пайсці дождж. Яшчэ пераворвалі зямлю тры разы на перакростку. Ставілі крыж, маліліся.

Казалі, што калі на Тройцу ў царкве пасвяціць свечку, а потым яе запаліць, то абавязкова павінен пайсці дождж.

***Запісана ў в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Малчанавай Ніны Сцяпанаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Малажаўскай Т.***

Казалі, што калі на перакростку збіраліся ўдовы, станавіліся кругам, а ў цэнтры лажылі барану, казалі нейкія заклінальныя словы, то праз нейкі час пачынаўся дождж.

***Запісана ў в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кулічовай Ірыны Віктараўны, 1967 г.н.,***
***студэнткай Малажаўскай Т.***

Калі ў дзярэўні доўга не было дажджу, уся дзярэўня сабіралася кала рэчкі. Жанчыну-ўдаву запрагалі ў плуг, і яна павінна была прапахаць уздоўж рэчкі некалькі метраў. Усе астатнія людзі ішлі следам за ёй і прасілі Бога, каб ён паслаў на зямлю дождж.

Яшчэ, калі доўга не было дажджу, сабіралася маладзёж ці каля рэчкі, ці каля крыніцы – на тым месцы, дзе была вада. З сабой прыносілі ўсякі посуд, куды потым налівалі ваду. Пасля гэтага з песнямі, жартамі пачыналі абліваць адзін аднаго гэтаю вадою. Гэта таксама садзейнічала дажджу.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Бралі барану, цянулі па дзярэўні, цягнулі ў раку, там яе мачылі, а потом апяць па дзярэўні, каб пайшоў дождж.

А яшчэ з забора знімалі куўшыны і кідалі ў калодзеж, каб дождж пайшоў.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Грышкавец Вольгі Ільінішчы, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А. (2010 г.)***

## Гром

Калі гром страшны, сільна маліліся, закрывалі зеркала, юшкі. А такжа, калісь, лажыліся жыватом на земляны пол і датуль ляжалі, пакуль не сціхала грымець і міргаць. Усе думалі раней, што ета Бог на людзей сердзіцца, вось і грыміць.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

## Дождж

Калісь дождж па-свойваму задабрывалі старыя людзі. Верылі ва ўсё ета. Ткалі

палатно і нада було за дзень наткаць столькі палатна, што і за месяц не наткаў бу. Тады на наступны дзень пойдзе моцны лівень.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Сыч Сафіі Барысаўны, 1911 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Я веру ў Бога і ў чорта. Як жа не верыць, калі ёсць шмат прыкладаў, і я сама бачыла, што было. Была ў адном месце царква. Але нешта пасля вайны яе закрылі і зрабілі школу. Там дзеці вучыліся пець, танцаваць. Але там пачалося нешта страшнае: дзверы самі закрываліся, адкрываліся, чуліся нейкія звоны, шумы, галаса. Пазвалі туды свяшчэнніка, а ён кажа, што трэба гэтую школу закрываць, бо гэтае месца Бог назначыў для царквы. Яе закрылі. Цяпер усё там добра.

Нячыстая сіла баіцца, калі хрэсцішся. У вялікія празнікі нельга ўспамінаць чорта, нельга ругацца. Калі ты, напрыклад, ідзеш і баішся, то трэба чытаць малітву і нельга ніколі абарачвацца, бо тады ты пакажаш нячыстай сіле, што баішся, і яна пачне што папала рабіць.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Бандарэнка Лізаветы Яўменаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Захаравай А.***

Калісьці дзядзька мой (жывы яшчэ быў), дык казаў мне гэта. Дачка яго ў Будцы жыла, тут недалечка ад нашай дзярэўні, мо, кіламетраў 15. Свяжына ў дачкі была, дык яна і просіць бацьку, каб паначаваў, але нічога яму не кажа. Выпілі там па колькі, ды ён і палез на печ спаць. Кажа, чуе, нехта ідзе па хаце, тады на печ скокнула і начала душыць яго, чорнае, лахматае такое. А ён дзед набожны быў, малітваў багата знаў, ды давай хрысціцца. Хрысціцца і на ўсю хату крычыць: “Гасподзь Бог ка мне, а нячыстая сіла ад мяне!” Яно ў тую мінуту і прапала.

Хадзілі мы калісь к аднае бабе на попрадкі. Папралі ды і па хатах разыходзіцца пачалі. Мы з падругаю пайшлі ў адзін бок, а ўсе астальныя – у другі. Мая хата была бліжэй, я і звярнула раней. А яна дамой пайшла. Кажа, ідзе, а на плоце коцік сядзіць, ды і такі ж красівенькі, лахмаценькі, беленькі такі. Яна яму і кажа: “Кіс-кіс”. А ён ёй чалавечым голасам атвячая: “Кіс, кіс”. Як спужалася яна, як шмыгнула ў хату. Ета было якраз ля яе хаты. Толькі ўвайшла і бачыць, што брацік маленькі памёр.

***Запісана ў в. Пераралока Рэчыцкага р-на***
***ад Юрэвіч Аляксандры Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Белай А.***

Гулялі мы вяселле, якраз Грышка, пляменнік мой, жаніўся. Ну, разышлісь дзесь к поўначы. Ідом. А нас багата-багата ішло. Даходзім мы да выгана, дзе раней Сапоніха старая жыла, а па выгану чуецца, як бы рота салдат бяжыць адзін за адным, мо, чалавек 20. Ды не людзі, а толькі цені нейкія. Мы і анямелі. Мы ўсе хрысціцца началі, то яны і прапалі. Хаця, як дамой прышла, не помню.

***Запісана ў в. Пераралока Рэчыцкага р-на***
***ад Шабетнік Любові Рыгораўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белай А.***

## *Чаму на зямлі языкоў многа?*

Як Адам з Евай саграшылі і Бог прагнаў іх з рая, то людзі сталі многа грашыць.

Сатана так стаў іх іскушаць, што даў ім такі парок, як гордасць. І вот людзі захацелі дастаць да Бога, убачыць яго ўладзенні. І вот яны рашылі пастроіць башню. Ой, жа ж, ета ў Вавілоне прахадзіла. І вот Сатана іх так падаграваў, падбіваў, што яны ўсе сілы аддавалі на страенне етай башні. Так уладзенні Гасподні пасцігнуць хацелі. А Гасподзь быў проціў такога. Яго царства толькі верныя і сіродшыя ўбачаць. І вот ён улажыў каждаму чалавеку свой язык, каб яны сябе не panімалі. А калі яны сябе, адзін аднаго не панімаюць, то работу прадаўжаць яны тожа не могуць. І так праізашло – цэлых 72 языка. Ну а ўжэ са врэменем, канешна, і больш стала.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

## *Гром і маланка*

Каб засцярэгчыся ад грому і маланкі, трэба было закрыць юшку ў пячы і адкрыць шторы. Ля вакна нельга было сядзець.

***Запісана ў в. Івольск Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Малчанавай Ніны Сцяпанаўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Малажаўскай Т.***

Было такое. Люди верующие, долго когда нет дождя, собирались. И в деревне обычно была какая-то оброчная икона, переносная. И люди у нас в деревне абраклися и икону поставили. Под этой иконой справляли молебен и ждали дождя. И был дождь. Говорили, если молишься, просишь с чистой душой, то пройдет дождик обязательно. Хоть маленький, хоть какой, но обязательно пройдет. И я сама свидетель. Я помню с детства это.

***Запісана ў в. Рандоўка Гомельскага р-на***
***ад Кундас Лідзіі Аляксандраўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Тарасавай Я.***

Бог зліўся, калі людзі многа грашылі. Спачатку людзі баяліся, таму што ня ведалі, што эта такое гром і маланка.

***Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на***
***ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Бялько І. (2005 г.)***

Бог сказаў: "Зайдзі ў сваю келью, закрыйся і маліся Богу, ідзе Божая страсць!" Паэтаму, калі гром, нужна зачыніць ўсе вокны, дзверы, дымаход і маліцца Богу.

***Запісана ў в. Агародня Лоеўскага р-на***
***ад Кушняровай Васы Пятроўны, 1909 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

Каб абараніцца ад грому, людзі асвячалі ў цэркві свечкі і запальвалі іх ў навальніцу, каб маланка не спаліла хату, а гром не пагубіў людзей.

***Запісана ў в. Сінск Лоеўскага р-на***
***ад Прымак Фёклы Кузьмінічны, 1916 г.н.,***
***студэнткай Краўчанка Н.***

Есць такая ікона – Неапалімая купіна. У час маланкі нужна аббегці вакол хаты з этай іконай.

Калі находзішся ў полі ў час маланкі, трэба прылегці да зямлі і прачытаць замову: “Сцеражы, Божа, тучу гразавую. Збережы, Божа, ніву трудавую. Дай, Божа, у добры час”.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

У царкоўны празнік “Вербнае” трэба пасвяціць вярбу і паставіць гэтую вярбу на вакно ў вуглік у кожнай комнаце. А яшчэ, як бачыш, што надвігаецца навальніца, адкрый комін у печы ці грубе, запалі гэтую святую вярбу трошкі, каб душок толькі з яе прайшоў, і закрый комін, і тады не страшна ніякая маланка.

Кралі ў суседзей гаршкі гліняныя, мы ж іх раней на заборах вешалі, разбівалі гэтыя гаршкі і кідалі ў калодзеж.

Да святога празніка Благавешчання заборы не строілі, не рабілі іх, не падбівалі, бо дажджу не будзе, а калі і хто забор рабіў, так людзі сабяруцца, пойдуць і паламаюць гэтаму чалавеку забор.

Яшчэ дагаварваліся ўсёй вёскай у адзін дзень ткаць, праць, і потым ідом і вешаем гэтыя рушнікі на красты, якія ў нас стаялі пасярод вёскі, у канцы, і ў начале. Бацюшка прыязджаў, хадзіў з намі па вёсцы, маліўся. Мы харугі насілі з сваімі вытканымі рушнікамі, багата жанчын збіралася, пачці ўсе. Так мы дождж зазывалі, і ён тады ішоў, як бы пачуўшы нас, пачынаўся.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Каб засцерагчыся ад маланкі, трэба запаліць свечку ад Крашчэння і памаліцца Богу. Каб засцерагчыся ад засухі, трэба зламіць некалькі сцебляў канаплі або забіць жабу, вось тады і пойдзе дождж, а яшчэ можна ў суседа ўкрасці жменю канопляў.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Маланка з громам – гэта калі Ілля-прарок па небу катаецца, кола грукоча, дык гром грыміць. Маланка – гэта ён злуецца.

Каб чалавека не ўбіла маланкай, на Іллю (2 аўгуста) не трэба працаваць, бо ліха будзе.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.***
***(прыехала з г. Вялікі Усцюг Расійскай Федэрацыі),***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Каб засцерагчыся ад грому і маланкі, нужна прятацца не пад дрэва, не пад стагамі, таму што граза б'е ў дрэва. Граза разрывала дзерава напапалам, а стагі гарэлі. Нужна пратацца ў цёмнай комнаце і закрываць вокна, штоб не папала маланка. Нет, не маланка, страла какая-та.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Анісімавай Антаніны Майсеяўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Рандоўка Гомельскага р-на),***
***студэнткай Царковай В. (2001 г.)***

Сначала бралі пасяцоную вербу кідалі ў печ, каб згарэла верба. Затым у руцэ дзяр-

жалі запаленую страсную свечку і гаварылі такія словы: "Свят Гасподзь, святое места".

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Я толькі адно ведаю, што як старыя людзі гавораць, нельзя, еслі граза, пад скаціну трэба хавацца – там чорт. Пры маланке здаюцца прызракі, а так дык хто іх ведае? А наша баба яшчэ раней казала, што маланка – каб не была прасеяна людская кроў. У час маланкі здавалася людская кроў. Жыў у нас дзедаў брат дый рассказваў, што ў дванаццаць часоў ночы дадому йшоў і тут во (паказвае на скрыжаванне дарог) пасёлак быў, ну, людзі во дзе во жылі. А ён смену йшоў.

Насустрач, расказваў, ідзе жанчына, фартук у яе падвязаны. Узяла яго пад руку і павяла. А ў нас тут, дзе зараз гэты сад, дык раней мост быў і там людзей многа памерла, не стала іх. Правяла яна яго і сказала: "Ідзі. Каб я цябе не правяла, дык ты тут і памёр ба б". А гэта цёшча яго. Так прапала кудысьці, а тады сказалі – памерла.

У Бога я верую. У нашае хаты ёсцяка іконы, дзе Бог нарысаваны. Бог – ёсць Бог. Як ён яшчэ можа выглядаць.

Акрамя гэтае й ёсцяка прысвятая Багародзіцца.

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на***
***ад Самуйлавай Ганны Дзмітрыеўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Валодзькінай А.***

## Ад пажару

Каб не было пажару, аббягалі вакол хаты з іконай.

Гаварылі, што калі абмываюць пакойніка, дак у каго мужык алкаш, дак давалі яму этай вадой напіцца, і тады ён пераставаў піць.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Грышкавец Вольгі Ільінішчы, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А. (2010 г.)***

## Вада

После таго, як чэлавек умірае, то его душа летае 40 дней над хатай. Так вот, ешчэ мая бабуля расказвала і сама бачыла, што душа памершага бацькі ў відзе пары лятала над хатай. Гэтая пара лятала над хатай і наглядала, як жывуць родныя. Потым чэраз 40 дней яна вазврашчалась у труну і адтуль магла дапамагаць жывым.

Шчэ асвянцонай вадой лячылі кароў, п'яніц. От, бывала таке: то карова сільна макрэла, то яе акраплялі асвянцонай вадой. А п'яніцы незаметна падлівалі асвянцоную ваду ў яду.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Жывая вада, каторая жывіт чалавека, ісцэляет ад усіх балезней. Мёртвая вада – вада, якую вып'еш – і ўсё. Адмірае ўсё ў чалавека.

Неба складаецца са звёзд, месяца, сонца і ўсякіх пароў, воздухаў. На небёсах жывуць Богі і ўсё бачаць, што дзелаецца на зямле.

*Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на*
*ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,*
*студэнткай Грыб М. (2006 г.)*

Жывая вада – гэта тая вада, якая цячэ з крыніц. Людзі памыюцца ёй і здаравейшыя势 станyць. Яна ісцэляюшчая. Яе набіраюць з крыніцы і ўмываюць бальную часць цела. Зараз гэтых крыніц вельмі мала стала, бо людзі плахія сталі, завідуюшчыя.

Мёртвая вада – гэта тая вада, якой мерцвяка мыюць, яна і становіцца мёртвай. Мёртвая вада – гэта вада, якая набрана з 12 часоў ночы да 3 часоў утра.

*Запісана ў в. Перасвятое Рэчыцкага р-на*
*ад Грабок Анастасіі Паўлаўны, 1936 г.н.,*
*студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)*

Верылі ў тое, што ёсць жывая мёртвая вада, але знайсці ніяк не маглі. Хто яго ведае, а ці яна там у гары якой унутры, ці пад зямлёю? Але ж вось гавораць, што ёсць, а каб не бачылі, дык і не казалі б.

*Запісана ў в. Асінаўка Светлагорскага р-на*
*ад Цвірчанка Надзеі Станіславаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Бялько І. (2005 г.)*

Лічылі, што вада – гэта малодшая сястра зямлі, агонь – гэта іхні брат. У вадзе жыве вадзянік, таму нельга было пляваць у ваду, каб не выклікаць яго гневу. Вадою, якую асвяцілі на Вадохрышча, можна было ажывіць чалавека. Яе яшчэ называлі “святою”. Але я ў гэта не веру. Людзі лічылі, што калі памыешся гэтаю вадою ўраніцу, то ўвесь год будзеш здаровы.

Лічылі, што вада, якой мылі пакойніка, яна мёртвая. Таму, што ў ёй засталося тое зло ад гэтага чалавека. Яе нада была выліваць вельмі далёка ад хаты. Вада, як і зямля, дапамагае чалавеку ў яго справах. Палівае з неба яго палі, сады. Лічылі, што калі ідзе дождж, то гэта Бог Пярун на небе шкодзіць.

*Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на*
*ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,*
*студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)*

Жывая вада – эта святая вада. Все цяжолыя балезні лечацца святой вадой. Эту ваду бралі з трох цэркваў. Так гаварылі старыя людзі. Ваду набіралі моўчкі. Патом яе змешвалі. А кагда шлі дамоў, то ні з кім не разгаварывалі. Такжа, кагда ўтрам раса, то гэта, гаварылі, жывая вада. Яна памагала тым, у каго баліць спіна, ногі. А асобенна жывой вадой счыталась вада на Крашчэнне.

Купацца маглі толькі да празніка Іллі. После этага дня купацца не разрашалась, можна патануць.

Яшчэ гаварылі, што калі вада стаячая, то яна мёртвая, а кагда цячэ, то жывая.

*Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на*
*ад Паплаўнай Лідзіі Мікалаеўны, 1951 г.н.,*
*студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)*

Раней казалі, што ёсць жывая вада, якая можа і мёртвага ажывіць, і ўсе раны зажывіць, і хваробы любыя лячыць.

*Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на*
*ад Мельнікавай Алены Рыгораўны, 1923 г.н.,*

***студэнткай Марусавай Д.***

Ня трэба пляваць у ваду.

Ваду ня трэба ліць на двор.

Святая вада, напрімер, прыносіць дабро. Я знаю, што перад тым, як заспець, памыць ліцо гэтай вадой, падумаць аб і ўсё будзе харашо.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Ёсць вада жывая і мёртвая. Вада жывая, яна бяжыць і бяжыць. Вада мёртвая – у Мёртвым моры. У Мёртвым моры людзі не тонуць, бо вада салёная. Памёр адзін чалавек за ўсё ўрэмя ў тым моры.

***Запісана ў в. Жытанежжа Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Прываленка Марыі Іванаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Прышчэпенка Г. (2002 г.)***

Пра мёртвую ваду не чула. Пра жывую ведаю. Ну, калі ёсць жывая, то ёсць і мёртвая. Але дзе яна? Калісь у нас была жывая вада. Толькі ў нас не гавораць “жывая”, гавораць “лічэбная”. У ручайку была яна. Бывала, вочы баляць, пойдзем, памыем іх, дык і боль сунімецца. А калі дзіця хварэе, абмыем яго ў лічэбнай вадзе, хвароба сыходзіць. За гэтай вадой шмат адкуль прыязджалі да нас. Зараз яе ўжо няма. Знікла.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на***
***ад Сайкінай Ніны Гаўрылаўны, 1930 г.н.***

Каб зняць порчу, знахаркі загаворвалі ваду і давалі піць, а то і вылівалі пад асіну ці бярозу. Няльзя пляваць у ваду. Ета святое.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Считалася, што калі не вып’еш ваду пасля таго, як памыеш пакойніка, то можа памерці яшчэ нехта з суседзяў.

Пасвяцонай вадой пырскалі на дзетак, каб не плакалі ноччу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шынкарэнка М.І., 1947 г.н.,***
***студэнткай Філан Н.***

Кажуць, што ёсць жывая вада і цячэ яна ў радніках. Гэтая вада вылечвае шмат хвароб. Вада, пасвечаная ў царкве, таксама вылечвае хваробы і ачышчае чалавека, яго душу ад грахоў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Вада, як і зямля, – гэта першакрыніца жыцця. Але вада ўяўляецца і як стыхійнае бедства, небяспечнасць. Вось, напрыклад, калі сніцца брудная вада, то гэта дрэнна павінна адбіцца на тым чалавеку, які бачыць яе ў сне сваім, а калі ён яшчэ там мыецца альбо купаецца, то гэта значыць, што сон – прадвеснік хваробы.

Нельга пляваць у ваду, каб не выклікаць гневу Вадзяніка. Асаблівай павагай карыстаецца святая вада, якую асвячаюць у свята Вадохрышча (19 студзеня). Такую ваду давалі піць хвораму і паміраючаму, ёю апрыскваюць новую хату (вуглы асабліва). Святой вадой асвячалі труну, перш чым пакласці нябожчыка. Трэба ў гэтае свята з самай раніцы памыцца, каб увесь год быць здаровым.

***Запісана ў п. Бальшавік Гомельскага р-на ад Логвінавай Марыі Мікалаеўны, 1924 г.н., студэнткай Фёдаравай Л.***

Людзі вераць, што святая вада – гэта жывая вада. Яна лечыць ад хвароб і яе п'юць, каб пазбавіцца ад сурокаў.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н., студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

А і не знаю, што сказаць. Можа веру, а можа і не. Думаю, што ўсё эта няпраўда. Але ж кажуць, што сначала пырскалі мёртвай, а потым ужо жывой вадой. Каму гэта дапамагала, той верыў. Калі б я гэту воду пабачыла, дак паверыла б. А так, мабуць, не – не веру.

***Запісана ў в. Бабоўка Жлобінскага р-на ад Аўраменка Ніны Дзмітрыеўны, 1930 г.н. (перасяленка з в. Дронькі Хойніцкага р-на), студэнткай Ядчанка В. (2000 г.)***

У нас гаварылі, што вада, у якой варыліся пасхальныя яйкі, якую потым пераліlі цераз рэшата, станавілася неабычнай. Як бы заражалася энергіяй. Да нашага часу такой лічаць і ваду, якую свецяць у царкве на празнікі. Яе яшчэ называюць святой вадой.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н., студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі хто хоча загубіць сабе, трэба папырскаць на яго пасвяцонай вадой або падкурыць яго ладанам.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Людзі верылі ў жывую ваду. Яна лячыла чалавечыя раны. Асаблівай пашанай карысталіся дрэвы, якія раслі ля крыніц, рэчак, азёр, бо ў такіх мясцінах людзі звярталіся у сваіх малітвах да дрэў і да жывой вады.

***Запісана ў в. Ударнае Лельчыцкага р-на ад Лін Алены Міхайлаўны, 1922 г.н., студэнткай Траханoвіч С. (2002 г.)***

Вада – істочнік жыцця. Вада іе святая. Ёю арашаюць вуглы хат, каб чэрці не вадзіліся.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Пасвяцоная вада мае цудадзейную сілу, яна можа стаяць шмат часу і не сапсавацца.

Святую ваду выкарыстоўваюць у лекавых цэлях.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на
ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,
студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

З васемнаццаць кілометраў ад месца, дзе жылі тады мы быў Сіні Калодзеж. Рэчка каля яго была цякла, вунь як да тэя хаты. Ой, колькі ж люду туды прыязджалі. І пеўчыя. Дзядзіна мая там была, ад калодзежа жыла. Я сама тамака ету ваду і брала. Мы тады голыя хадзілі. Тры разы трэба было акунуцца і тады, казалі, відна і цёпла будзе. Толькі ноччу. Мы прыходзілі ноччу. Я ж не верыла. Пайшлі мы ноччу. Раздзеліся і тры раза акунуліся. Божачкі! Як днём! Во, як зараз! А цёпла стала і відна як градусаў трыццаць. Гавораць, дзеўка тама затанула і выйшла, рукамі махнула і во (паказвае, што здаровая стала).

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на
ад Драчовай Марыі Яўсееўны, 1939 г.н.,
студэнткай Валодзькінай А. (2002 г.)***

У нас тагда тожэ было тры крыніцы, но яны, праўда, у рознае врэмя паявіліся. Там кресты ставілі і ручнікі вешалі на іх.

***Запісана ў в. Навасёлкі Рагачоўскага р-на
ад Катлінскай Ніны Пятроўны, 1936 г.н.,
студэнткай Валодзькінай А. (2002 г.)***

Пасля Іллі купацца нельга, бо ўжо па рацэ плывуць конскія валасы. Яны спутаюць чалавека, і ён патоне.

Аднойчы ў дзяцінстве я вельмі моцна нечага спужалася. Тады мяне павялі да старэнькай бабулькі лячыцца. Яна з калодзежа набрала вады, наліла ў нашу бутылку, а потым нешта доўга шаптала. Калі мы прыйшлі дадому, я папіла нагаворанай вады, затым мама пакрапіла мой ложак. Хутка я заснула. Прачнулася вясёлай і вельмі захацелася есці.

***Запісана ў г. Рэчыца
ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Жывая вада ёсць. Мо, толькі ў нас яе няма, але чулі, што вот у Кіеве яна ёсць. Яна струйкай такой з-пад зямелькі б’е, яе “лячэбнай” вадой называюць, бо яна лечыць ад усіх балезней. Той, хто умываецца етай вадзічкай ці пап’е, балець не будзе.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на
ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,
Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,
студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

На Крашчэнне хадзіў свяшчэннік, маліўся Богу, свяціў ваду. Людзі яе бралі для лячэння. Як што баліць, мазаліся. Казалі, што гэта жывая вада.

***Запісана ў г. Светлагорск
ад Майбусавай Ніны Іванаўны, 1929 г.н.,
студэнткай Ларыонавай І. (2002 г.)***

Святая вада ад усяго памагае. Калі лажышся спаць, вазьмі святую ваду, трапі ў пасуду і папрыскай етай вадой сваю кравац, як бы перакрысці.

Мёртвая вада – несвячоная вада, вада, што мыеш пакойніка. Ваду не нада ліць

на двор. Нельзя, каб іголку, што шыюць падушку пакойніку, укралі, кажуць, што калі ўкрадзеш, дак можна хлопца прывараджваць.

На святое Крашчэнне сабіраецца багата людзей. Бацюшка пачынае на вячэрнюю службу служыць. На ўтра так жа людзі сабіраюцца на літургію. Адслужыць бацюшка службу, а людзі паўз цэркву становяцца пад адзін бок і другі станаўляюцца. Бацюшка ідзе паўз людзей, каторы раз ідзе паз 1, а еты год праз адзін. Ён прыказвае: прасвяціце ў сваёй хаце і двор, і хлеў. Як свеціцца ў хаце пяецца і "Спасі Госпадзі людзі твае. Пабеды праваслаўных хрысціянам на сапраціўнае даруеш. І твае сахраняем крастом тваім жыцельства". А як на Храшчэнне ў цэркві, то пяюць: "У Іардане храшчаюцца, цябе Госпадзі, тройчаскае явіся пакланенне. Радзіцелеў бо глас свідзецельствуюшчая цябе, вазлюбленая сына і дух відзя галубіне славесе уцверждзенне яўляйся хрісця. Божа і ўмер прасвеціш слава цябе". Як умрэ чалавек, трэба каб яна была, гроб пасвяціць, магілку і бацюшка кажа каўтануць хто болей, а хто меней. Калі будзеш піць яе, то добра будзеш жыць, яна ж так завецца жывая – жыццё.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Ходас Марыі Адамаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Вайтовіч К., Салаўёвай Т., Івашчанка О.***

Вада дапамагала пры хваробе і ўсякіх выпадках. Адмоўнымі якасцямі абладала вада, якой мылі пакойніка. Яе яшчэ называлі мёртвай.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Святая вада ад ўсяго памагае. Хворага чалавека трэба пырскаць вадой, каб хвароба адышла. Святой вадой пырскалі кожны вугал, каб у хаце не было якіх-небудзь нячысцікаў. Трэба было палівацьсвятой вадой і ложак маладых, каб яны жылі ў шчасці.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

## *Нябесныя свяцілы, стыхіі*

Месяц бывае малады (ета калі ён расце) – ета маладзік; калі ён становіцца поўны, а тады зноў памяншаецца і зноў сходзіць, называецца сходнік. Тады, калі яго ўжэ нядзелі дзве няма, дык ета ўжэ бязлуннік.

А пра тыя плямы на месяцы, дык у нас казалі, што там жывуць людзі. Глядзелі на луну і казалі: "Вот там людзі жывуць". Казалі, што бачылі, як яны там варочаюць, ходзяць.

Пачырванелы месяц паказываў, якая будзе пагода. Плямы на поўным месяцы яшчэ значылі, што снег будзе. Яшчэ, з якой стараны плямы, дык з той стараны і вецер будзе.

Гаворацць, што Млечны Шлях вядзе да Бога ці паказывае дарогу людзям. Ета ж тая самая дарога для ўлюблённых: звёзды, якія разам сабіраліся і жыць адна без адной ні могуць. І еты шлях паяўляецца ў апрэдзялённыя дні.

Казалі, што калі раждаецца чалавек, то на небі загараецца новая звязда; калі яна будзе вельмі яркай, то і чалавек будзе сільна шчаслівы.

Калі гром грыміць, то, казалі, што ета Бог едзе на калясніцы і кідае зоркі. А калі пачуеш першы гром ды й у кармані будзе пуста, то лічылася, што і ўвесь год не будзе

грошаў. Дык вясной усягда ў кармані хоць якую капейку насілі для первага грому. Калі гром быў зімой, то ета ж к вялікай бядзе було.

А калі гром грымеў, дык выносілі з хаты качэргу, вілачнікі – усё, што ў хаце было – ды й на парозі ставілі.

Яшчэ баяліся купацца пасля Іллі, казалі, што можа маланка ўбіць.

А штоб засухі не было, дык давілі жаб, кідалі ў калодзеж чарапкі ад глінянага гаршка.

Раней была вада жывая і мёртвая. Жывой вадой лічылі тую ваду, якая была пасвяцоная ў цэркві. Мёртвая вада, лічылі, што вылечвае балезні ўжэ памершага чалавека, зажыўляе раны.

Камяні раслі раней і зараз растуць, растуць яны на багатым полі, дзе харошы ўраджай. І яшчэ казалі, што на адным месцы і камень абрастае.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на***
***ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

## *Сацыяльныя ўстаноўкі і звычаі*

– Ці ведалі раней людзі час сваёй смерці і чаму перасталі ведаць?

Если человек будет знать, што он умрёт, то он не будет работать. У нас говорят так: «Собираешься умирать, а жито сей». Мы живём одним днём, а на месяц надо харчей.

– Чаму нельга пляваць праз правае плячо?

Люди говорят так: «С правой стороны Господь, а с левой чёрт». А ещё с правой стороны ангел всегда твой, вот поэтому и нельзя.

– Якія вы ведаеце гісторыі з удзелам святых Юр'я, Міколы, Пятра і Іллі?

Юрий, Петро, Микола – это суместный праздник. Это три спасителя, Божьи хранители.

У народе гавораць:

– На Юрья штоб было сена і ў дурня.

– На Міколу падавай і вілы захавай.

– На Міколу варона захавалася ў камне – то жыто будзе хорошое.

У нас Петровка – голодовка, бо огороды уже посадили, а шчэ ничога на их не выросло.

– На Петра весь хлеб перепекла.

– До Петра (за 2 дни) 3 карча картошки надо выкопать, штоб только попробовали, а на самога – весь чыгунок.

– На Петра пропекла, а на Илью поўну печ напяку.

Илья – это пророк на урожай.

Илья – 2 августа; Пётр – 12 июля; Юрий – 6 мая; Микола – 22 мая; 19 декабря.

– У якія дні забаранялася працаваць і чаму?

Ну, работать нельзя в святые дни и в воскресенье. У нас говорят: 6 дней работай, а седзьмой отдай Богу.

– Чаму нельга ткаць у забароненыя дні?

У нас матка гаварыла так: «Да Каляд пралі, а пасля Каляд ткалі».

– Ці ведаеце вы гісторыю, калі чалавек на Вялікдзень працаваў і акамянеў?

Не знаю, но вот, что со мной случилось в молодости. Была я в положении (сыном). Муж надевал рубашку, и у нево оторвалась пуговка. А то было как раз на Пасху. Он мне говорит: "Пришей". Я пришила ниточку, вот где-то 2 раза только. А

когда родился сын, то у нево член обрезан был и вуха проколотое. А ещё я слышала вот что: «Была у нас в деревне семья одна (я еще тогда совсем малая была). И вот пошли они жито жать. Жали жито, а дочка положила на плечо серп и стала. А её матка ей и говорит: «Чтоб ты каменем стала». И она сразу стала каменем.

***Запісана ў в. Стрэльск Мазырскага р-на ад Мельчанка Алены Міхайлаўны, 1929 г.н., студэнткай Мельчанка Т. (2004 г.)***

## Птушкі

– Чаму варона каркае?

Када нарадзіўся Ісус Хрыстос, іўдзеі аб этам узналі, і тада ж многа дзяцей унічтожылі, но Маці Божая хавалася з Хрыстом, і када бегла па жыту, а за ней іўдзеі, то павук заплятаў дарогу і паднімаў жыта, каб не нашлі, а варона ляцела ўперадзі і крычала: “Кра! Кра!” Вот эта она і каркае.

А патом ішчо есць пра варону: када мучылі Хрыста, када яго гваздзямі прыбівалі, то от жа ён прыбіт дзве рукі ўрозь, от і ногі хацелі прыбіваць урозь, а варона адзін гвоздзь украла, і вот таго яму аднім гваздзём две нагі ўмесце і прыбілі. І з цех пор варона крычыць: “Кра! Кра” – эта значыць “Украла! Украла!”

– Чаму зязюля не мае гнязда?

А кукушка? Нету ні гнязда, ні дзяцей, вот када Маці Божая ўбігала з младзенцам на руках, то кукушка найдзе іх і крычыць: “Ку-ку! Ку-ку!” – так Маці Божая пракліла яе і сказала: “У цябе ні дзяцей, ні гнязда не будзе!” Вот с цех пор і нет у неё ні дзяцей ні гнезда.

## Месяц

– Што гэта за плямы на поўні месяца?

Ну, мама када та расказавала, што када прысматрэцца на месяц, то можна ўвідзець, як брат брата на вілах дзержа. Што там праізашло, не знаю, а то што адзін другога закалоў, то праўда. І када прысматрэцца, то вот пятны – браты этыя і ёсць.

## Сацыяльныя установкі і звычаі

– Чаму нельга выліваць праз парог памыі і выкідаць смецце?

Калі от хату там падмятаюць і праз парог выкідаюць мусар, то сільнаругаліся, эта ка-будта багацце вымяталі за парог. А асоба, када бярэманная жэншчына хату падмятае, то тада ж фартухі насілі, і от нужна была смецце тое ў фартух сабраць і вынесці на мусарнік, ці куды там.

Эта для таго штоб дзеці, ну тое дзіця, каторае нарадзіцца ў неё, не было саплівае, ні слюняватае.

– Чаму нельга было працаваць у святочные дні?

Вот быў празнік – Мітрафан, і адна баба сабіралася прасць, і к ней прышла саседка і кажа: “Сёдня ж Зміцер! Нельзя!” А та баба кажа: “А! Зміцер, а я яшчэ хітрэй”, – да і палезла на чардак за вяшчамі і ўзяла кросны, і як яна там стала слазіць, абмахнулася і ўпала, і паламала сабе рэбры! От табе і на, кажуць, што эта Мітрафан яе скінуў.

Асоба работаць няльзя ў празнікі бярэменным жэншчынам, бо ўсё эта можа перадасца на дзіцёнка. Вот кажуць, адна бярэменная ў бальшы якісь празнік пугавіцу ўзяла і прышыла. Дак вот падышоў ужэ час ражаць, яна радзіла, убачыла, што от у дзі-

цёнка на вухе точка, такое ж пятно была, як тая пугавіца, якую яна прышыла. От таго і нельзя работать ці што дзелаць там.

## Ці ведаеце вы, адкуль пайшла назва вашай вёскі?

Када-та тут быў лес і бальшая рэчка. І вот названіе дзерэўні Лагуны пайшло ад аднаго мужчыны. Он быў какім-та беглым, не знаю, но он прышоў здалёк. А здесь быў лес, луг і возле рэчкі красівае места. І этат мужчына тут пасяліўся. Завёл сабе сям'ю, а яго звалі ўсе Лагун, і так, наверна, і названіе пашло нашай дзярэўні – Лагуны. І вот патом яна ўжэ, эта дзерэўня, разрасталася, і ўжэ ва врэмя рэвалюцыі, када ад памешчыкаў зямлю паадбіралі і дзялілі беднякам, падзялілі і лес бальшы, і паля. І началі строіцца пасёлкі, усе людзі там, якія былі, то выхадцы з Лагуноў. Эта ўліцы – *Граза*, пасёлак *Ваевод*, *Зарніца.* Вот тыя людзі выхадцы з Лагуноў. Када пасёлак строілі, то людзі лес вырубалі і дама сабе строілі. І з бальшога леса астаўся маладняк і кустарнікі, і леса не стала. Была рэчачка, но ў Лагунах у рэчцы дочка ўтапілася адной жэншчыны. І вот этая маць так на тую рэчку разазлілася, што пракляла яе. Укінула туды, у ваду, загавораную грэбёнку і шчотку. І пасціпенна рэчка стала высыхаць і сужацца, і асталась там толькі адно балота, так і той рэчкі, як і леса, не стала.

## Звышнатуральныя сілы

– Ці існуе пасмяротнае жыццё? Якія гісторыі Вы ведаеце пра звышнатуральныя сілы?

Вот маей бабушке было 86 лет, паследні год яна ляжала ў пасцелі і не падымалась. А нашыя дама стаялі радам, і як раз окны палучаліся адно напраціў другога. І в адзін вечар бабуля савсем аслабела, і мая мама пашла к ней, там сабраліся ўсе бабушкіны дочкі, ну, і я вышла ва двор, эта было осенью, дзе-та часоў 10 вечара, і пагода такая была ціхая і лунная, што дажэ слышна было, как с дзерава лісток падае. Я пашла ў сад, а напроціў нашага дома, на ўзгорку было кладбішча. І ўдруг я ўслышала быстрыя шагі па нашаму саду, то шагі былі па апаўшым лісцям. І ўдруг мне стала страшна, што хто-то па саду так таропіцца. Увідзець фігуру чалавека я не смагла, не ўвідзела, а толька ўвідзела падлятаюшчае лісце ад этых быстрых шагоў, і этыя шагі тарапіліся туды, у сторану акна, дзе бабушка нашая ляжала. І мне так стала страшна, што ажно воласы дыбам усталі. І я бросілася бягом у карыдор. Калі ўскочыла ў карыдор, я старалася яшчэ ўвідзець, хто ж там бяжаў. І патом я зашла в дом і нікаму нічога не сказала, а мамы шчэ не было. І патом мінут чэраз дзесяць яна прышла і гаварыць, што ўмерла наша бабушка Ефрасіння. І я тагда паняла, што эта смерць бяжала са стараны кладбішча, тарапілася да бабкі. І я патом усё маме расказала, і мама сказала, што када ані сідзелі возле бабушкі, то ў паследнія мінуты раздаўся шорах у акно із вуліцы. От тады я паверыла ў этыя "сілы" загробныя.

А вот яшчэ адна історыя. У адной дзірэвне жыла жэншчына, мо, яна і шчас шчэ жывая, Анюта яе звалі, і от быў у яе зяць Віця, малады шчэ хлопец быў, гадоў 20, мо, і болей. Он быў трохі "не ў сабе", не очэнь харошы. І от не знаю, как там, што там у іх палучылася, а толькі Віця той атравіўся: выпіў клею, дня 2-3 паляжаў і памёр. Так ён палучаецца самаўбійцай, і эта быў бальшы грэх тада, і када ўжэ яго харанілі, то свяшчэннік не ўзяўся яго "запячатаваць". Так яго і закапалі, "не запячатаўшы".

Вот, мо, ішчо і 40 дней не было, а мы з мамай шлі з поля міма кладбішча, вечар был ціхі, мы немнога аташлі ад кладбішча; мама шла ўперадзі, а я за ней следам, і

ўдруг і што-та шуганула прама нам пад ногі, как віхр. Но я на эта вніманія не абраціла. Прышлі мы дамой, ва двор, і я захацела шчэ гуляць пайці, а матка кажа: “Божа ўпасі, нікуда не хадзі! Разве ты не відзела, што там на полі, возле кладбішча? ” І стала мне расказываць, што белы столб з віхрам мчался на нас, а патом шурнул нам пад ногі. От тада я спрасіла, што эта за столб, а мама тада ўжэ расказала, што эта лятае Віцева душа, таго, што яго не пахаранілі па-чэлавечаскі, не “запячаталі”, от Бог яго і не прынімае ні та той свет, ні на эты.

* * *

Быў адзін мужчына, яго звалі Аляксей, памёр яго ацец, летам памёр. І чэраз нядзелю, он рэшыл пасецібь магілу ацца сваяго, вот када падашол да кладбішча, то ішчо іздалека ўвідзел свецяшчыйся столб. Он сразу не разабрал што эта, а кагда бліжэ падашол, то ўвідзіл што эта іменна ў крыста над магілай яго ацца. Он очэнь іспугался, блізка не падашол і быстрэй убежал адтуда. Он бежал, аглядывался, бо яму казалася, што столб за ім бяжыць, і так да самай дзярэўні. От он днём назаўтра рашыў праверыць, а прыйшоў – і там нічыво не была. Дак он і не мог саабразіць: ці то яму казалася, ці то праўда было што.

* * *

Вот пакойная баба мая расказала, 5 ці 6 гадкоў када ей было, у её быў меншы брацік Фёдар. І вот ён сільна забалеў, ляжаў на пасцелі, быў саўсем слабенькі і на пасцелі паміраў, каля яго мама сідзела, а на печы праціў краваці мая баба Жэня сідзела. От, а тада ж окны не завешваліся нічым, а на ўліцы цёмна было, і баба мая Яўгенія закрычала: “Мама, мама! Паглядзі ў акно: там цётка стаіць!” От, как ана патом ужэ расказала, што там стаяла маладая, высокая жэншчына ў белам платочке. І маць у акно паглядзела, но нікога там не ўбачыла, дак вот в эта врэмя, када Жэня ту жэншчыну ўбачыла, памёр брацік яе.

Дак патом мая баба, ужэ када старая стала, казала, што эта смерць прыходзіла.

– Ці ведалі людзі раней час сваёй смерці?

Ну, ведалі ці не ведалі, я не знаю, а вот то, што судзьбу прадсказывалі і так і было, то эта праўда.

Вот, казалі, што ў адной сям’е радзіўся хлопчык, жэншчына тады ж дома ражалі з бабкамі-павітухамі. І от, што там радзіўся, то яго судзьбу ўвідзела. Яна прэдсказала, што ў 16 ці 17 лет ён утопіцца ў дварэ ў сваём калодцэ. Бацькі яго сільна аберагалі, сколькі ён рос, а калодзец на замок закрылі. Но вот када яму ісполнілася 16 гадоў, ён у калодцы ўтапіцца не змог, а падашол к калодцу, лёг на крышку і памёр.

Вот паэтаму каждаму судзьба даецца пры раждзеніі.

***Запісана ў в. Лагуны Добрушскага р-на***
***ад Канавалавай Тамары Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Фамянковай А.***

– Як даўней людзі ўяўлялі пабудову свету? З якіх частак ён складаецца? Ці чулі расказы пра гэта?

Як уяўлялі? Хто яго ведае, раньшэ ж ніхто не знаў, як цяпер, з чаго зямля ці дзе. Мы толькі знали, што е зямля, неба.

– Дзе знаходзіцца зямля?

Раньшэ маці казала, што зямлю дзержыць фантан, які пускае кіт. Казалі, што як толькі кіт паварушыцца, так мы ўсе ўпадзём.

– Ці мае зямля край?

А я знаю, ці мае? Казалі: “Пайду на край свету”. А ці круглая? Дык кажуць, што круглая, бо ды на тэ самэ место прыйшоў. От так яны кажуць!

– Дзе знаходзіцца край свету? І што там?

А край свету ж дзе, калі абойдзеш усе гарады, дзярэўні, сёла, і дзе не будзе ўжэ нічога, там і край будзе. Кажуць, як абрыў, калі глядзіш уніз да і не відна нічога, хоч ты вочы выкалі, не відна. А ў цямры чорт жыве і людзей туды маніць. О!

– Ці чулі пра сем нябёсаў? І што знаходзіцца на сёмым небе?

Ці чулі? А так і чулі, кажуць: “На сёмым небе ад шчасця”. Відна ж, было сёмае неба. А на сёмым небе Бог сядзіць, а на астатніх шасці – ангелы.

– Якім уяўлялі сабе неба? Цвёрдым, як шкло, ці як паветра? Ці далёка да неба?

Мы, як былі малыя, то думалі, што неба – то вата. Бо янэ ж так і е. Думалі, што на тых воблаках прыгаць можна. Неба далёка, бо ніхто яго не можа ні дастаць, ні ўбачыць, дзе пачынаецца, дзе заканчваецца.

– Чым уяўляліся зоркі на небе?

Раньшэ казалі, што звёзды – гэта іглы молніі, бо яны такія яркія, як молнія. Казалі: “Колькі на небе звёзд, столькі на галаве ў людзей валос”. Звёзд не можна палічыць, бо іх сільно многа. І другое казалі людзі: “Калі паміраў чалавек, то і звязда тухла. Калі нараджаецца чалавек, то і звязда загаралася”.

– Ці верылі вы ў Бога? Які ён?

У Бога верылі і зараз вераць. Бог – чалавек. Ён сільно красівы. Ён вельмі падобны на нас. Казалі таку історыю, што ішоў Бог дарогаю, а жонка нейка жыта жала. Ён кажэ: “Жоначка, хозяешка, пакажы дарогу ў сяло”. Жонка кіўнула галавою, паказваючы ў сторану. Бог пайшоў дальшэ. Сустрэў ён мужыка, да і кажэ: “Пакажы дарогу ў сяло”. Мужык правёў яго туды, у сяло. А Бог і кажэ: “У мужыка будзе ўрэм’е ўсегда, а ў жонкі ніколі хватаць не будзе”.

Бог сільна мудры быў. Бо людзі не зналі, як ложкамі есці, да і спрашываюць у Бога: “Пакажы, як есці, бо ў нас рукі не згінающца з ложкамі”. А Бог і кажа: “Ты набяры ложку і таму дай, а ты – таму”. Так і былі людзі сытыя.

Яшчэ была історыя.

Чалавек араў свае поле. Падайшоў другі да гэтага і кажа: “Дай Божа, каб парасло ўсё”. А тэй і кажа: “Я і без Бога знаю, што парасце”. Дык Бог сільно раззлаваўся і не даў добрага ўражаю.

– Ці існуе пасмяротнае жыццё?

Хто кажэ што е, хто кажэ што няма. Але е, бо жонка расказвала, што була померла яна, а потым ажывілася. Да бачыла там усё красівае, усю радню бачыла – бацьку і маці. Там, кажэ, вельмі добрэ. Ей там і застацца хацелася.

– Якім вы сабе ўяўлялі рай? Пекла? Дзе знаходзяцца?

Рай знаходзіцца ў небе, каля Бога. Там добрэ, людзі ўсе маладыя, ніхто там не хварэе. А ад у падзямеллі дзесьці. Калі злы чалавек або з чортамі знаўся, памірае, то чорт яго валачэ за сабою і ў кацёл кідае, варыць ужэ там яго.

## *Пра стварэнне свету, зямлі, неба, чалавека, жывёл, раслін*

– Што ў пачатку свету было?

Спачатку было неба і Бог. Жыў Бог сам, да не хацелася яму самому жыць, пачаў ён зямлю рабіць. Калі не было зямлі, то там було ўсе чорнэ.

– Як з’явілася сонца?

Сначало на зямлі было вельмі холадно, да Бог даў сонца, каб грэла.

– Як узніклі горы?

Кажуць, горы – то маленькія каменьчыкі выраслі.

– Адкуль узялася на свеце нячыстая сіла?

Нячыстая сіла яшчэ была тады, калі Адам і Ева былі. Бо хто ж іх тады падманіў? Нячыстая сіла.

– Дзе раней жылі першыя людзі?

Як былі Адам і Ева, дык яны ў раі жылі, на небе, а калі яны саграшылі, дык ён іх на зямлю паслаў, і яны не маглі больш вярнуцца да Бога.

– Чым яны правініліся перад Богам, што з гэтага выйшла?

Калі Адам і Ева былі ў раі, яны ж вельмі добрэ жылі. Усё сільно хватало. А чорт ператварыўся ў вужа і сказаў, каб з'елі яны тэ яблака, якое не разрэшыў есці Бог. Яны папробвалі, да Бог і выгнаў іх.

– Адчаго ў мужчын ёсць "адамаў яблык"?

Калі Адам еў гэтае яблака, то як бы папірхнуўся ім, там і асталась гэта яблака ў яго горле.

– Ці даецца чалавеку анёл ад нараджэння?

А я знаю? Мабыць, даецца.

– Калі анёл пакідае чалавека?

Ангел кідае чалавека тады, калі чалавек памірае. Ангел шукае ўжэ сабе новую душу, каб ужэ ахраняць яго.

– Ці прадвызначаецца лёс чалавека?

Кажуць, што калі чалавек нараджаецца, то ў яго ўжэ свая судзьба. Ужэ Бог знае, калі ён памрэ і што з ім будзе.

– Ці бачылі людзі, як Бог хадзіў па зямлі? Чаму зараз не бачаць?

Бо Бог разазліўся на людзей і не спускаецца з неба.

– Хто такія веліканы?

Веліканаў не було. То людзі самі ўжэ прыдумвалі іх. А іх не було, не.

– Ці ведаеце вы гісторыю, чаму пчала памірае, калі жаліць?

Таму, што калі яна жаліць чалавека, жала яе застаецца ў чалавеку, а пчала без яго жыць не можэ. А больш я і не знаю чаго.

## Нябесныя свяцілы, стыхіі

– Чаму сонца свеціць толькі ўдзень?

Кажуць, што сонцэ цэлы дзень свеціць, а потым закачваецца пад зямлю і там аддыхае, спіць.

– Чаму месяц то расце, то памяншаецца?

Месяц – гультай, і ён мала свеціць, не так як сонцэ. І Бог сказаў яму, каб той перараджаўся.

– Што гэта за плямы на поўным месяцы?

Кажуць, што колісь брат свайго брата ўбіў. Да Бог сільно ж разазліўся, і, каб той заўсёды помніў, ён на месяцы зрабіў карціну, як шчас паглядзіш – да і відно. Толька трэ сільна ўглядацца.

– Чаму гром называюць "Перуном", а маланку "Перуновымі стрэламі?"

Хто кажэ, што Пярун – гэта слуга Бога, хто кажэ, што Пярун – гэта проста гром, а маланка – гэта стрэлы Перуна, якімі ён стрэляе ў чорта.

– Ад чаго ўтвараецца вецер? Віхор?

А я такога і не знаю. Толькі кажуць, што калі сільна вецер, буран, то чарты з ведзьмамі веселяцца.

А яшчэ кажуць, што калі сільны вецер, то сільна знахарка, ведзьма памерла.

## Павер'і, звычаі

– Ці ведалі людзі час сваёй смерці?

Мы так не ведаем, калі наша смерць прыйдзе, а тыя людзі, якія з чартамі знаюцца, то знаюць калі. Але ж бывала і такое, што жанчына прыбярэцца, памыецца, складзе рукі і ляжэ на ложак, да так і памрэ. Відно ж жонка знала, калі памрэ.

– Чаму ў сям'і мужык старшы над жонкай?

Таму, што калі Ева Адаму прэдлажыла з'есці яблака чортава, то іх выгнаў Бог з раю. І тады Адам сказаў Еве, што ўсягда будзе рашаць усё сам.

– У якім дні забаранялася працаваць і чаму?

Запрэшчалася працаваць ва ўсе празнікі, бо Бог разазліцца і сільно пакарае. Усе людзі ж сільно баяцца.

– У якім аблічча мог з'явіцца чорт?

Ах Божэ ж мой! У якім хочэш, у такім прыйдзе. Ён жэ ж можэ ў любога чалавека, худобу, гада зрабіцца. Ён можэ зрабіцца катом, сабакай, канём, вужом, кім толька захоча.

– Якім чынам мог сябе выдаць чорт?

Абычна яго ніхто не разлічае, ён як зробіцца, дак і не загадаешся. Але ён ніколі не можэ схаваць свае рогі.

– Чаму гавораць "Ён чорту душу аддаў?"

Бо чорт усімі спосабамі чалавека падмануць хочэ, ён жэ ж не можэ, каб каго-небудзь не зачапіць. Чорт угаварвае чалавека, каб той яму служыў і ў яго ўсё будзе, што ён захоча. Да так ужэ і гавораць.

– Чаму душа самагубцы трапляла да чорта?

Ну, як чаму? Бо Бог чалавека да такога не прымусіць. То ж чорт яго так надаумвае, каб душу сабе забраць.

***Запісана ў в. Валаўск Ельскага р-на
ад Чорнай Галіны Пятроўны, 1930 г.н.,
студэнткай Паўленка Г. (2004 г.)***

## Радуга

Шчэ ў тыя старыя врэмена, калі жыў Ной, не было радугі. Радуга паявілася пасля Ноя. Людзей саздаў Гасподзь, но яны сільна ў тыя врэмена грашылі, і Бог рашыл патапіць людзей, а аставіць толькі Ноя і яго сям'ю. Яны былі праведнымі і Бог хацеў, каб людзі былі толькі такімі. І вот Бог сказаў Ною, што ён хоча затапіць зямлю, а яго аставіць. І яму даўжны былі перасядзець патом. Бог сказаў Ною, што ён доўжан узяць з сабою і па самцу з самачкай усіх жывёл, птіц. Сорак дней і начэй шоў дождж. І ўжэ калі вада спала, то каўчэг астанавіўся на гарэ. Калі ўся сям'я і ўсе тыя жывёлы вышлі з яго, то паблагадарылі Бога, і на небе паявілася радуга. Цераз радугу Бог сказаў, што ён больш ніколі не будзе затапляць людзей.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н., студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

## *Камень*

Растуць камяні, і кірпічы растуць. Бывала, увосень пазбіраеш усё з агарода, а вясной зноў поўна. У мяне кірпічы растуць. Я спачала вніманія не абрашчала, пасля ў бабы адной запытала, дык яна сказала, што беспалезна ўбіраць, бо ўсё раўно вырастуць.

***Запісана ў в. Старое Сяло Веткаўскага р-на ад Сайкінай Ніны Гаўрылаўны, 1930 г.н.***

Я раней чула, што камяні – гэта ператвораныя людзі. Гэта грэшнікі, якія працавалі ў святыя дні. Альбо людзі, якіх праклялі. Камянямі маглі станавіцца і жывёлы, на якіх наракалі гаспадары.

***Запісана ў п. Бальшавік Гомельскага р-на ад Логвінавай Марыі Мікалаеўны, 1924 г.н., студэнткай Фёдаравай Л.***

Раней лічылі, што гэта людзі становяцца каменнямі. Вось хадзілі людзі ў падарожжа. Доўга ішлі, спыніліся адпачыць, прыселі, ды так і засталіся надоўга. Праз час іх абнесла зямлёй, яны мохам пакрыліся. А потым і зусім закачанелі, сталі цвёрдыя.

***Запісана ў в. Гадзічы Гомельскага р-на ад Жукавай Галіны Мікалаеўны, 1922 г.н., студэнткай Балачэўцавай Н.***

На зямлі ўсё жывое, толькі мы гэтага інагда не заўважаем, гаварыць з імі тожа не можам – Богам не дано. Кажуць, расці маглі толькі вялікія камяні, якія доўгі час ляжалі на зямлі і іх ніхто не трогаў, не варушыў. Цяпер ужо такога няма, да і камяні не растуць.

***Запісана ў в. Бабоўка Жлобінскага р-на ад Аўраменка Ніны Дзмітрыеўны, 1930 г.н. (перасяленка з в. Дронькі Хойніцкага р-на), студэнткай Ядчанка В. (2000 г.)***

Бярэменнай нельзя садзіцца на камень, таму што ў яе дзіця не будуць расьці красівыя валасы.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н., студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Як забаляць ногі, ідзі тою дарогаю, дзе ляжыць камень. Павадзі нагою па камню, а потым камнем па тому месцу, што баліць. Пры гэтым трэба казаць: “Камень, вазьмі маю балезнь, аддай мне сваё здароўе”.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Даўно раслі, дажэ гаварылі, як людзі. Людзі ж тады ўсе веруючыя булі. Камні гаварылі, пакуль верылі людзі, а цяпер жа ў нічога не вераць.

Знаю, я була малая, маці расказвала, што ў нашым сяле мужык жыў з жонкаю і пайшоў араць у поле. Панесла жонка яму есці, бачыць, што той мала нааpаў. Кажа яму: “Каб ты каменем стаў, гультай!” А той разам з валом у тую ж мінуту і стаў каменем.

Не трэба ж клясці, дзеткі, тое ж усё збуваецца.

***Запісана ў в. Ванюжычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кудравец Вольгі Максімаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Фурман А.***

Падбіралі спецыяльны для засолкі. Пад ім плесневелі агурцы. Наверна то крэмень быў. Бераглі яго як агонь. Не давалі дзецям гуляць з ім.

Не ўсім удавалася знайсці такі камень, але калі находзілі, то шанавалі.

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на***
***ад Коваля Сцяпана Мікалаевіча, 1946 г.н.,***
***студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

Камень адбіралі для закваскі капусты. Кажуць, што злых людзей, і тых, хто працаваў на святы ў полі, Бог ператварыў у камяні. Так яны там і ляжаць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Камні – гэта людзі, якіх Бог ператварыў за тое, што яны працавалі ў святыя дні.

У камні садзержыцца сіла. Раней людзі хадзілі да свяшчэнных камней і прасілі ў іх помашчы. Датрагіваліся да іх рукой і думалі, што сіла каменя перадасца ім.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Крамянёвыя камні кідалі ў ваду, каб была смачнай і чыстай.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Гаворуць, камні растуць, але не ўсе. Тыя, што растуць, называюць “дзікія” камні.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

У нас у вёсцы стаяла некалі ферма. А каля гэтай фермы ляжаў камень. У ім была ямачка, пахожая на слядок. Усе гаварылі, што гэта слядок анёлчыка. А з гэтага слядку сцякала вадзічка. Але ўсе людзі баяліся да гэтага камню падходзіць.

Аднойчы ішлі сляпыя і нашчупалі гэты камень, учулі, што з камня цячэ вада і папілі яе. І сляпыя пасля гэтага пачалі бачыць свет.

З тых пор людзі заўсёды прыходзілі лячыцца гэтай вадзічкай. І празвалі гэты камень святым. Цяпер я не знаю, дзе гэты камень. Нехта, якісь нядобры чалавек яго звёз.

***Запісана ў в. Слабань Светлагорскага р-на***
***ад Гвоздзь Любові Рыгораўны, 1943 г.н.,***
***студэнткай Грыбанавай Л. (2006 г.)***

***Алена КАСТРЫЦА***

# *Міфалагічныя ўяўленні ў прыкметах і павер'ях беларусаў*

Найцікавейшай часткай народнай традыцыйнай культуры беларусаў з'яўляюцца прыкметы і павер'і, сярод якіх найбольш распаўсюджаны, як сведчаць фалькорна-этнаграфічныя экспедыцыі апошніх гадоў, гаспадарчыя (прымеркаваныя да народнага календара), а таксама звязаныя з сямейнай абраднасцю і паўсядзённым жыццём чалавека.

З мэтай засцярогі ад нячыстай сілы на Каляды ў в. Асінаўка Чачэрскага р-на было прынята "напісаць мелам крыжы на гаршку з куццёй, на варотах", а каб прадвызначыць будучы ўраджай і забяспечыць плён у гаспадарцы, назіралі за накірункам дыму, калі палілі ў печы: "у які бок дым, у той бок жыта ляжа". Для засцярогі свойскай жывёлы ад звышнатуральнага ўздзеяння хлеўніка яму на Каляды трэба было прынесці ахвяру: "На Каляды прыносяць ахвяру хлеўніку – духу, які жыве ў хлеве. Раніцай, на першы дзень, трэба забіць сароку. Вешаюць яе ў хлеве ля дзвярнога вушніка, хлеўнік будзе зганяць на ёй сваё зло і не катацца ноч на скату".

З магіяй цотнага ліку звязаны калядныя прыкметы, павер'і, варожбы шлюбнай скіраванасці: "На Каляды абдымалі штыкеціны. Хто абдыме цотнае чысло – будзе з парай, а хто не, будзе без пары" (г. Жлобін).

Купальскае свята – час актывізацыі, паводле народных вераванняў, нячыстай сілы. Невыпадкова гаспадары, каб засцерагчы кароў ад звышнатуральнага ўздзеяння ведзьмы і захаваць малако, "абкладваюць дзверы хлявоў крапівай" (в. Пірэвічы Жлобінскага р-на). Гэтую ж расліну ў некаторых мясцовасцях выкарыстоўвалі, каб засцерагчыся ад русалак: "На Купалле рвуць крапіву і вешаюць у дзвярах – русалкі баяцца" (в. Асінаўка Чачэрскага р-на).

Магічная сіла надавалася кветкам і травам, якія збіраліся жанчынамі на Купалле. Асвечаныя ў царкве, яны выкарыстоўваліся пры выгане скаціны ў поле, лячэнні хворага чалавека: "На Купалле вечарам збіраюць кветкі і травы, потым асвяшчаюць у царкве і абкурываюць бальнога чалавека, скаціну пры выгане ў поле, дом перад гразой" (в. Асінаўка Чачэрскага р-на).

Да нашага часу не страцілі сваёй актуальнасці прыкметы і павер'і сямейнай абраднасці. Вялікай цікавасцю і запатрабаванасцю ў грамадстве вылучаюцца вясельныя прыкметы і павер'і, скіраваныя на забеспячэнне шчаслівага жыцця маладых ("Нявеста не даўжна даваць нікому "на пракат", як кажуць, свій свадзебны нарад, таму што не будуць маладыя шчасліва жыць" (в. Салтанаўка Жлобінскага р-на)), на вызначэнне лідэрства ў сям'і ("Хто адкусе большы кусок ад хлеба-солі, той будзе ў сям'і галавой" (в. Салтанаўка Жлобінскага р-на)), на доўгае сумеснае жыццё ў шлюбе ("На вяселлі перад тым, як дзяліць каравай са стараны жаніха і стараны нявесты, сядзелі дзевачкі, якія дзяржалі запаленыя свечкі. Калі свечкі гарэлі роўненька ды не гаслі, то лічылі, што маладыя будуць жыць шчасліва і доўга" (в. Азарычы Калінкавіцкага р-на)), на вызначэнне асабістага лёсу ("Нельга на свадзьбу зваць удаву, бо нявеста памрэ"(в. Краснаўка Светлагорскага р-на)), на працяг роду ("Жаніху не трэба хадзіць у баню напярэдні вяселля, бо жонка будзе бяздзетная" (в. Краснаўка Сетлагорскага р-на)).

Сярод радзінна-хрэсьбінных найбольш папулярныя – засцярогі для жанчыны-парадзіх. Апошнім, зыходзячы з народных вераванняў, забаранялася пераступаць праз вяроўку, стаяць на парозе, глядзець на людзей з фізічнымі недахопамі, піць кісель і інш. Безумоўна, некаторыя з засцярог маюць рацыянальнае зерне, а некаторыя заснаваны на прымхлівасці і забабоннасці, народжаны страхам перад з'явамі прыроды і адсутнасцю прафесійных медыцынскіх ведаў.

Прыкметы і павер'і, звязаныя з радзінна-хрэсьбіннай абраднасцю, складаюць асобную старонку ў народнай энцыклапедыі выхавання дзіцяці. Вельмі важнымі для бацькоў былі клопаты, звязаныя з яго першымі крокамі: "Калі дзіця маленькае робіць первуй шаг, то трэба ўзяць нож і крэст-накрэст перарэзаць путо, тады яно хутчэй пойдзе" (в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на).

Каб дзіця было спакойным і ўраўнаважаным, трэба было яго пакласці "пад загнет" (г. Гомель), каб вырасла здаровым і шчаслівым, забаранялася яго "біць венікам" (в. Скепня Жлобінскага р-на), каб вырасла разумным, "дзіцёнка да года нельга было стрыгчы" (г. Жлобін).

Спектр прыкмет і павер'яў, звязаных з паўсядзённым жыццём чалавека, надзвычай разнастайны. Гэта вераванні пра прадметы побыту, якім надавалі магічнае значэнне ("Хлебную лапату маці выстаўлялі на двор, калі начыналася граза"; "Венік нельзя аддаваць з дому, іначай хазяін з дому сыйдзе"; "Сякеру вешалі на сарай, каб карова была малочнай і добра пладзілася, а малому – пад кравацць, каб добра спаў" (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на)), пра вопратку ("Кажух сцелюць маладым у час вяселля на кут, дзе яны будуць сядзець. Таму што кажух – сімвал дабрабыту, цяпла ў доме і багацтва"; "Шапку нельзя круціць, бо будзе балець галава"; "Хустку дарылі салдатам, каб хутчэй вярталіся дамоў" (в. Уборак Лоеўскага р-на)), пра прыродныя з'явы – выкліканне дажджу і засцярогу ад маланкі, навальніцы ("Ад засухі жаб трэба біць" (в. Меркулавічы чачэрскага р-на); "Каб засцярэгчыся ад маланкі, трэба было хрысціцца некалькі разоў" (в. Залессе Чачэрскага р-на); "Калі доўга німа дажджу, то какая-нібудзь бярэ галоўку мака, і ходзіць па дварах, і кідаець па некалькі зярняткаў у калодзец. Пасля етава скора бывае дождж" (в. Пірэвічы Жлобінскага р-на)).

Штогадовыя назіранні, своеасаблівасць народнага светапогляду, асацыятыўнае мысленне паспрыялі стварэнню шэрагу парад, забарон, прыкмет, павер'яў і звязаных з імі магічных дзеянняў, якія на доўгі час сталі маральным і практычным кодэксам паводзін гаспадара.

## *Прыкметы і павер'і*

Чэраз парог нельга нічога даваць. Іначай тое, што даў, у рабоце будзе няспраўным. Яшчэ кагда дзіця зглазяць, дык яго клалі на парог і хрысцілі.

Венік нельзя аддаваць з дому, іначай хазяін сыйдзе.

Не пакрыты скацеркай ці салфеткай стол накідваць нельзя – раіш беднаты.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Сякеру вешалі на сарай, каб карова была малочнай і добра пладзілася, а малому – пад кравацъ, калі плоха спаў.

Калі цяжарная жанчына носіць у фартуху смецце – народзіцца лянівае дзіця.

Дзіравы лапаць ці тапак вешалі пад крышай, каб зберагчыся ад суроку.

Каб валасы не выпадалі, нада некалькі разоў на гаду мыць галаву кабыліным малаком. Косы будуць густыя і даўгія, як кабылін хвост.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Соль даваць у долг нельзя – аддаеш сваё багацце.

Шапку нельзя класці на стол, патаму што будзе балець галава, а пазней развядуцца мышы.

Расчоску нада хаваць, каб не балела галава.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Емельянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Шапку нельга кідаць ці круціць на руцэ, а то галава потым балець будзе сільна.

Нельга рассыпаць соль, а то ў сям'і ўсе перасварацца.

Цераз парог не вітаюцца, не развітваюцца і нічога не перадаюць. Трэба абавязкова перайсці на адну старану. А то нядобрае што-небудзь здарыцца можа.

Калі ластаўка на доме гняздо звіла, то ў гэтай хаце ніколі не будуць хораша жыць.

У нас гаворацъ, што калі варона на зямле каркае, то к нябожчыку, а на дрэве – к чаму-небудзь добраму.

***Запісана ў в. Хальч Веткаўскага р-на***
***ад Маргунова Васілія Якаўлевіча, 1955 г.н.,***
***студэнткай Суханавай В. (2006 г.)***

Вот все плюют через плечо, а меня бабушка всегда за это ругала. Она говорила, что там ангел живёт, его обижать нельзя, а то помогать не будет.

### *Вяселле*

Если кольцо упало – ето очень плохо. Если на короваи трещины, то тоже очень плохо. Жених должен невесту через порог переносить на руках.

## *Цяжарная жанчына*

Нельзя ей вязать, переступать через разные верёвки, чтоб дитёнок не закрутился в пуповину.

Нельзя, когда смотришь на огонь, держаться за живот, а то у дитёнка будут родимые пятна.

Чтоб легче было рожать, надо распустить волосы, перестёгивать пуговки, застёжки, какие есть.

## *Пахаванне*

Мыть того, кто помер, можна только чужим людям, а эту воду надо вылить туда, где никто не ходит: под забором где-нибудь.

Беременным на похороны ходить нельзя. Когда с кладбища приехали, надо помыть руки.

Когда в хате покойник, надо завесить зеркала и всё, что блестит, и остановить часы.

Чтоб покойник не снился, надо его за ноги падержать.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Нельга выціраць крошкі са стала рукой – будзе лысы муж.

Нельга за сталом матаць нагой – чарцей зазываеш.

На празднік трэба ўсім сабірацца за сталом – тады будзе дастатак і здароўе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Калі кот у печ дзярэцца і ляжыць на прыпячку, значыць, будуць пахаладанні.

Калі ў хляве ластаўкі гняздзяцца, то не ў коім случаі не трэба гнязда бурыць, бо не будзе прыплоду.

***Запісана ў в. Дуброва Ельскага р-на***
***ад Гуд Любові Ігнатаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Яцухна Т. (2006 г.)***

Калі навароджанае дзіця па начах плача, трэба яму пад падушку класці невялікі нож ці ручку ад нажа. Нож адганяе цёмныя сілы, якія прыходзяць да дзіця, асабліва калі яно нехрышчонае.

Ні трэба астаўляць пасля прыгатавання страў на стале нож, бо будуць сваркі ў сям'і.

Нельга класці грошы на стол, бо яны не будуць вадзіцца.

Нельга цяжарнай жанчыне пераступаць праз вяроўку, бо дзіцё можа абкруціцца пупавінай.

Нельга ў празднік дрэвы рубіць тапаром, ды і, наогул, з тапаром нічога нельга рабіць у тым доме, дзе ёсць цяжарная жанчына, бо можа дзіця радзіцца са зрошчанымі пальцамі ці зусім без ручкі.

Калі нешта зашываеш на сабе, трэба ў роце трымаць нітку, бо можна свой розум зашыць.

Нельга стаяць у парозе, перадаваць што-небудзь праз парог.

Шапку нельга класці на стол – будзе балець галава.

Валасы нельга выкідываць, бо птушкі могуць увіць у гняздо, і тады будзе балець галава. Лепей валасы спальваць.

Крошкі са стала лепей змятаць на талерку, а не ў руку, бо будзеш каму-небудзь вінен грошы.

Ключы нельга класці на стол, бо не будзе ў доме шчасця і багацця.

Калі купілі какую-небудзь жывёлу, напрыклад парася ці карову, то ў той дзень нічога нельга даваць нікому. Бо тады жывёла будзе хварэць, каровы будуць мала даваць малака.

Калі ўсяляюцца ў новую хату або кватэру, то першым праз парог перайсці доўжан кот – тады жыццё ў новым месцы будзе добрае.

Нельга пасуду на ноч гразную застаўляць, бо дамавы будзе скардзіцца і не будзе хату зашчышчаць ад нягод.

Нельга глядзецца ў разбітае люстэрка, бо губляеш сваё шчасце. А калі сам пабіў люстэрка, трэба асколкі сабраць і закапаць, прыгаворваючы: “Што ідзе на мяне, хай ідзе ў зямлю”. І так 3 разы.

Хто ўбачыць бусла ў гняздзе без пары, той увесь год будзе без пары, а хто двух, той будзе з парай.

На Каляды абдымалі штыкеціны. Хто абдыме цотнае чысло – будзе з парай, а хто не, той будзе без пары.

Нельга пераязджаць жыць на новае месца ў суботу, бо будуць вельмі хварэць дзеці.

***Запісана ў г. Жлобін***
***ад Казловай Эльвіры Паўлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Ульянкінай Ю. (2004 г.)***

Калі памрэ хто, дык нада ж усе дзверы ў хаце паадкрываць, каб душа памёрлага магла хадзіць. У хаце зеркалы ці ручнікі, ці, мо, якою вялікаю трапачкай трэба прыкрыць, ета так трэба, каб памёрлы хадзіў па хаце і яго ніхто не бачыў, бо душа ў зеркале відна. Як сядуць памінаць яго, трэба адно пустое места каб было за сталом, бо душа таксама сядзе за стол. Ні пець, ні танцаваць нельга сорак дзён. Ну, дык калі чалавек памірае, апускаюць гроб на палаценцах, абразаюць палаценца і аддаюць тым, хто капаў ямку. Калі дзеўка памірала, то яе абязацельна на палаценцах спускалі, то не разразалі палаценца і не дарылі, бо яна не пайшла замуж і падаркаў не давала, і каб на тым свеце пайшла замуж. А як чалавек нараджаецца, на небе зорка начынае гарэць, а як памірае, дык зорка етая згарае.

***Запісана ў в. Каравацічы Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Ганны Васільеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

## На Купалле

На Купалле ў кароў часта прападае малако – ета ведзьмы забіраюць ево. Для таво, штоб малако асталась, абкладваюць дзверы хлевоў крапівай. Ведзьма яе баіцца, таму абмінае гэтыя дзверы і не можа залядзець у стойла.

## На малако ў каровы

Кагда карова ні даёт малака, то нада схадзіць у царкву і ўзяць пасвіцонай вады,

яе прынесці ў сарай, каб ніхто ні відаў, і тры разы памазаць вымя і сказаць: "Хрыстос васкрэс, а бес ісчэз".

## На дождж

Кагда долга німа дажджу, то какая-нібудзь жэншчына бярэ галоўку мака і ходзіць па дварах і кідаець па некалькі зярняткаў у калодзец. Пасля етава скора бывае дождж.

Еслі нізамужняя дзіўчонка первы раз у етым годзе відзіць пару буслоў, то ў еты год ана будзіт у пары і выйдзіт замуж, но толька еслі буслы стаят ілі ходзят. Еслі ані сідзят, то ні выйдзіт у еты год.

***Запісана ў в Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Шчадровай Аляксандры Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Батуравай Т.***

Калі ад разбітага гаршчка з кашай узяць кавалак, то табе будзе нейкае шчасце.

Кавёр, на якім везлі гроб, павінен ляжаць у комнаце памерлага 40 дней. А патом можна яго ўбраць.

Нельга глядзець пакойніку ў пераносіцу. Таму што тады ён не пакіне сваё цела. Першыя 40 дзён не называйце памёрлага па імені.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

## Вяселле

Хлеб-соль маладых ніхто не должэн есці, кроме родных.

Еслі нявеста на свадзьбе парве сваё плацце – к няўдачы.

Кусочкі хлеба-солі, якія маладыя "атарвалі", яны далжны з'есці.

Нявеста не далжна даваць нікому "на пракат", як кажуць, свой свадзебны нарад, таму што не будуць маладыя шчасліва жыць.

Хто адкусе большы кусок ад хлеба-солі, той будзе ў сям'і галавой.

Еслі румкі, з якіх маладыя выпіваюць перад вяселлем, не разбіць, то гэта знак хуткай бяды.

## Пахаванне

Машыну ці каня, на якім гроб вязуць, нада абкідваць ёлкай. А пасля пахавання аднесці ёлкі ў лес.

Калі плачам аб пакойным, нельзя гаварыць: "На каго ты нас пакінуў", а то ён можа не адысці ў той мір.

Плоха пра пакойніка за 40 дней не гавораць, бо ён тожа можа астацца.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на***
***ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Венікам не б'юць дзяцей. Тым самым выганяюць здароўе, шчасце.

Малога дзіцёнка нельга паказваць у зеркала да года, бо дзіцёнак напужаецца, не будзе ноччу спаць.

На свадзьбу маладым клалі на лаўку кажух, каб багата і шчасліва жылі. Акрамя маладых, ніхто не павінен садзіцца на яго.

Варожылі на чаботах. Дзеўка брала чабот і кідала ўзад. У які бок будзе павернуты нос у чабота, туды і замуж пойдзеш.

Нельга рассыпаць соль – будзе бальшое гора.

Нельга шыць на сабе, розум зашыеш. Нітку трэба браць у рот.

Нельга біць венікам маладых дзяўчат, бо замуж не пойдуць.

Нельга астаўляць кавалак хлеба недаедзенага, бо здароўе пакідаеш.

Калі за абедам кусаеш не адзін кусочак хлеба, а некалькі – столькі разоў выйдзеш замуж.

Нельга стаяць на парозе маладой дзяўчыне, бо не выйдзе замуж.

Нельга наступаць на парог, калі ідзеш куды-небудзь, бо здарыцца што-небудзь нядобрае.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Н.І., 1937 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Калі едзе нехта ў дарогу, нельга за ім мясці хату да тых пор, пакуль той не прыедзе да месца назначэння.

Малога дзіцёнка да года нельга стрыгчы, бо састрыжэш розум.

Нельга выбрасваць валасы з грэбня на двор. Бо пціца здзелае гняздо, тады будзе балець галава. Трэба валасы кідаць у печ.

Калі люстэрка разбілася, нельга ў яго глядзець, бо нехта з родзічаў памрэ.

Калі бярэш у доўг грошы, трэба каб табе грошы не ў рукі давалі, а клалі на стол. Калі аддавалі доўг, таксама клалі на стол.

Нанач нож не клалі на стол. Лічыцца, што гэта дрэнная прымета.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранава М.Р., 1937 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Венік трэба ставіць у хаце веццем уверх, тады ў хаце будуць весціся грошы.

Нельга перамятаць праз парог венікам смецце, бо вымятаеш багацце і шчасце. Лучшай сабраць і закапаць.

Калі хто памірае, тады ручніком накрываюць люстэрка.

Калі хто-небудзь сабраўся ў дарогу, трэба было ставіць качаргу дагары, каб вярнуцца назад.

На пахаранах перад тым, як закапваць памёрлага, трэба сыпнуць у ямку 3 жмені зямлі, каб памёрламу зямля была пухам.

Калі чалавек перайшоў табе дарогу з пустым вядром, трэба даждацца, пакуль ён не пяройдзе з поўным.

Левая рука свярбіць – к грошам, а правая – здаровацца.

Нельга дзеўкі маладой садзіцца на стол, бо не выйдзе замуж.

Калі са стала рукамі сціраць мусар – не будуць грошы вадзіцца.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Нельга самому сабе абразаць валасы, бо судзьбу сваю абрэжыш.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай А.Р., 1937 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Каб валасы раслі, трэба стрыгці на маладзік.

Нільзя праз парог нічога перадаваць, здароваццa, перамятаць. Усё гэта вядзе к няшчасцю.

Калі ідзеш у дарогу, нельга вяртацца назад. Трэба, калі ты ўжо вярнуўся, пагглядзець у люстэрка і паказаць язык.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Бураковай Н.М., 1934 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Колі зязюля крычыць, то нехта памрэ радам.

Колі ўсяляюцца ў новую хату, то первого кідаюць чорного кота, шоб той усю хворобу з той хаты забраў.

Колі певень на Стрэчэнне нап'ецца воды, значыць, будзе цёплая вясна.

Колі собака лежыць скручаны, то мороз будзе.

З царквы, колі везлі похрышчанэ дзіця домоў і загубяць крэсціка, то дзіця будзе няшчасліва.

Колі мертвец ляжыць яшчэ ў хаце і ўжэ набракае, то скоро зноў нехто помрэ.

Колі на помінках вілка под стол упадзе, то еты чаловек скоро помрэ.

Шоб молодые жылі богато, іх сажалі на кожух, вывернуты навыворот.

Еслі на свадзьбу дождж пойдзе, то ето добрэ, колі снег, бура – плохо.

Неможно нікому даваць спаць на брачнай посцелі, нехто тогды ізменіць.

Неможно обручальнэ кольцо даваць другім мераць, бо можно поцераць свойго мужа.

Калі заходзіш у чужую хату, дзе жыве незамужняя дзеўка, то на парозі не стояць, бо та дзеўка замуж не выйдзе.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Певень спевае под вечэр к перэмені погоды.

Ек заец перэбежыць дорогу, то плохо, ек воўк, то добрэ.

Не можно, шоб дуб і ёлка коло хаты рослі, бо дуб здороўе забірае, а колі ёлка перэросце хату, то з етой хаты начнуць людзі поміраць.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошман Вольгі Ляванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Гаворaць, што вянчацца і выходзіць замуж трэба пасля паста. У нас казалі: «Той, хто выходзіць замуж у мае, будзе ўсю жызнь маяцца».

На вяселлі паміж маладымі ніхто не павінен праходзіць, бо, лічылася, што яны развядуцца.

На вяселлі перад тым, як дзяліць каравай са стараны жаніха і стараны нявесты, сядзелі дзевачкі, якія дзяржалі запаленыя свечкі. Калі свечкі гарэлі роўненька, ды не гаслі, то лічылі, што маладыя будуць жыць шчасліва і доўга.

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2006 г.)***

Як лечаць, нажы бяруць. Нажом перакрэшчваюць накрэст. Прыклала к назе бабка нож – ёй так палегчала.

Не трэба біць ні скаціну, ні дзіця венікам, бо драч нападзе.

Казалі, нельга дзіця да года ў люстэрка паказваць. Нельга глядзецца ў разбітае, бо будзе няшчасце.

Не трэба пераступаць бяремэннай праз вяроўку, бо пупавіна закручваецца.

Калі зглазілі дзіцё, то трэба, каб маці падолам сваёй кохтачкі выцірала яму тварык, ручкі.

Соль бяруць, штоб не зглазілі. Кажуць: "Соль табе ў вочы".

Калі дажыналі жыта, астаўлялі кучачку жыта, уверсе заўвязвалі, а ў сярэдзіне робяць бараду, кладуць хлеб, соль, каб быў ураджай. Паскачуць кругом етай барады.

Іголку затыкаюць у пазуху, каб не зглазілі.

На стале ляжалі блінцы, хлеб, засцілалі скацеркі палатняныя, каб у хаце ўсё вялося.

Сабакі калі брэшуць – на смерць. Сабака ў нас выла, дык сын пагіб і яго маці памерла.

Куры як на седало ляцяць і сільна крычаць, то знай, што смерць будзе на сяле.

У дубовым лесе няльзя доўга нахадзіцца, таму што ён забірае энергію.

Як маладую вязуць, на вароцях кладуць агоньчык, каб добра жылі.

Складвалі ў гумно жыта, стукалі каменьчыкам аб каменьчык, каб мышы не елі жыта, каб у іх зубы паўпадалі.

Калі хлопец ідзе ў армію, то астанаўліваецца каля кожнай каліткі і прашчаецца.

***Запісана ў в. Кротаў Калінкавіцкага р-на***
***ад Цімашэнка Вольгі Рыгораўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Зубрэй А. (2006 г.)***

Каб засцярэгчыся ад навальніцы, грому, маланкі, трэба ў першую вочарадзь хрысціцца. Мыліся вадой, каб не баяцца. Закрывалі юшку, форткі, выключалі свет. Таксама перакрэшчвалі кожнае вакно крыжом 3 разы. Яшчэ лажылі разіну, выносілі з хаты касу, сярпы.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранові́ч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Нельга валасы выкідваць. Калі пачэшаш, то трэба паліць у печы, каб шчасце не адышло.

Яшчэ валасы трэба ў газету закручваць, а потым не выкідваць, а ў месца асобае пакласці.

Калі кошка чорная дарогу перабягае, то трэба за пугаўку дзяржацца, калі тое месца пераходзіш.

Нельга спаць, калі сонца пачынае заходзіць.

У цэркву без пакрытай галавы заходзіць жанчыне нельга.

Нельга хадзіць па тым месцы, дзе дарогі скрыжоўваюцца, бо там нячыстую сілу астаўляюць, калі загавор знімаюць.

Калі сабака награбае зямлю, то на гэтае месца станавіцца нельга, бо цела часацца будзе.

Маладым дзяўчатам на край стала сядаць нельга, бо дзяцей у яе не будзе.

Цяжарным жанчынам нельга стаяць на пароге, бо не родзе.

Младзенца пад загнет лажылі, каб спакойны быў.

Нельга ў гразу размаўляць громка.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Маханавай Паўліны Пятроўны, 1908 г.н.***
***(перасяленка з в. Струмень Кармянскага р-на),***
***студэнткай Казловай А. (2005 г.)***

Нельзя дарыць нож, а еслі дарыш, то нада даць за гэты нож грошы таму, хто яго дарыць.

З нажа нельга есці, бо будзеш злым.

Нельзя стукаць сякерай дома, дзе бэрэменная жэншчына, таму што народзіцца дзіця непрыгожае.

Нельзя аддаваць, браць праз парог што-та, бо будзеш з чалавекам ругацца.

Кагда кот, кошка залезе ў печ або на печ, то гэта к марозу.

Нада ўсегда закрываць засланку ў печы, каб цябе ніхто не зглазіў.

Нельзя вымятаць венікам пасля гасцей, бо рэдка будуць хадзіць госці.

Нельзя вымятаць, калі хто-та паехаў у дарогу, каб добры пуць быў.

Нельзя дарыць люстэрка па наследству, бо ўся судзьба таго, хто падараваў, перадасца табе.

Нельзя вешаць зеркала напроці краваці, бо яно забірае ўсю тваю энергію.

Пасля гасцей трэба люстэрка абмыць праточнай вадой, каб вымыць усё нядобрае.

Калі жэншчына памірае, то нада пахараніць яе ў фартуху. Фартух адзявалі берэменныя жанчыны для таго, каб скрыць сваю цяжарнасць, свой сорам.

Кажух сцелюць маладым у час вяселля на кут, дзе яны будуць сядзець, таму што кажух – гэта сімвал дабрабыту, цяпла ў доме і багацтва.

Калі чалавека зглазілі, то нада ўцерці яго падолам сваёй кашулі с ізнаначнай стараны па часавой стрэлке.

Шапку нельзя круціць, бо будзе балець галава.

Хустку дарылі салдатам, каб хутчэй вярталіся дамой.

Платок, якім звязвалі рукі пакойніку, захоўвалі, таму што ён дапамагаў ва ўсіх дзелах.

Соль рассыпеш – к ссоры. Еслі рассыпеш соль, то яе нада смачыць вадой, каб не ссорыцца.

Нельзя выкідаць валасы на ўліцу. Трэба ўсегда зжыгаць у грубе або ў печы валасы.

Нельзя на сабе шыць, бо розум свой увесь зашыеш. Трэба калі ўжо і пачаў шыць на сабе, то ўзяць у рот нітку.

На хрэсьбінах разбівалі гаршок з кашай. Чарапкі лажылі на галаву маладым жанчынам для таго, каб у іх дзеці здаровымі былі.

Калі пасля абеду падае ложка, то трэба чакаць гасцей жаночага полу.

На стале нельзя сядзець, бо цяжка будзе ражаць жанчыне.

Нельзя сядзець на ўглу стала, бо не выйдзеш замуж.

Калі села сарока на сарай або на акно, то будуць весці. Як кажуць, сарока нясе весці на хвасту.

Калі каркае варона, то яна хоча аб нечым папярэдзіць.

Гаворац, калі сабака вые, то гэта к смерці.

Мышы водзяцца ў тым доме, дзе заўсёды непарадак, неакуратная гаспадыня.

Калі кот або кошка, перакатваюцца з боку на бок, то гэта к гасцям. Калі кот лезе ў печ або на печ – к марозу.

Нельга свісцець у хаце, бо не будзе грошай.

Нельга стаяць бярэменнай жэншчыне на пароге.

Калі госць падавіўся за сталом, то хазяін, значыць, жалее.

Нельзя есці з нажа – паругаешся з кім-небудзь.

Нельга выносіць мусар, падмятаць вечарам, каб дома было ўсё добра.

Нельзя месці на сябе, а трэба ад сябе. Калі мяцеш на сябе – замятаеш сваё шчасце.

Калі ў хаце пакойнік, трэба закрываць усе зеркала.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Павук калі сядзіць пасярод павуціны – дрэнная пагода будзе.

Калі сонца заходзіць і аблачкі такімі калечкамі, будзе дождж.

Сінічка калі пачынае пішчаць зранку – ждзі марозаў.

На аблаках калі башанкі відны – граза будзе.

Калі туман утрам апускаецца на ваду – будзе дождж.

Калі дым с трубы стаўбом – к марозу, карамыслам – к цяплу.

Калі дрэва ў печцы трашчыць – мароз будзе, калі дыміць – отцепель будзе.

Калі ногу ломіць – радасная весць будзе.

Шчокі калі чэшуцца і гараць калі – слёзы ліць будзеш.

У левым ухе калі звініць – худыя весці, а ў правым – так добрыя.

Рука калі правая чэшыцца – к прыбылі, левая – к убытку.

Калі двое разам зеваюць – гарэлку разам будуць піць.

***Запісана ў г. Бабруйск***
***ад Вергіенка Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Красная Горка Нараўлянскага р-на),***
***студэнткай Геаргадзе М. (2006 г.)***

Калі хочаш, каб нічога не было дрэннага ў сям'і, трэба ў первую ўспаханую баразду кінуць пясок і сказаць: "Калі гэты песок узойдзе, тады к нам у дом смерць прыйдзе".

Калі купіла новае вядро, то скажы: "Ведру поўнаму быць, а мне пра беднасць забыць".

Калі пахаранілі чалавека і забылі забраць ікону ў грабу, трэба ў дом прынесці тры новыя, а на 40 дней папрасіць прашчэння ў той іконы, якую пакінулі там.

Калі стаіш каля пакойніка, не глядзі яму ў пераносіцу, будзеш цяжка спаць, будзеш мучацца.

Чысты чацверг – дзень чыстаты. Трэба абавязкова памыцца і ўбраць у хаце, а то цэлы год у хаце будзе гразна і будуць заўсёды ссоры.

Скарлупкі з яек на Пасху не выкідаюць, імі лечаць дамашніх жывёл.

Чым болей у вас пабеленых дрэў, тым больш светлага будзе ў вашым жыцці.

***Запісана ў в. Хамянкі Нараўлянскага р-на***
***ад Яфіменкі Барыса Ціхановіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Лазарэвіч А. (2005 г.)***

Не можна бярэменнай глядзець на людзей-інвалідаў, бо дзіця такее родзіцца.

Калі берэменные работаюць у празнік, то дзеці іхніе будуць хварэць.

Калі берэменная абпячэ аб што-небудзь гарачае рукі, не можна хапацца за сваё цела, а то ў дзіцяці будуць красные пляміны.

Калі жэншчына ражае, трэба штоб у ее косы былі распушчаные – дзіця хутко выйдзе.

Не трэба берэменным піць кісель – дзеці будуць саплівые, а калі будзе есці семкі, то ў дзіцяці будзе цекці слюна.

Калі на крысцінах разбіваюць гаршок ад кашы, то трэба ўзяць кусочак сабе і падзержаць на галаве – будзе моцнае здароўе.

Калі сабака вуе ўночы, значыць хто-нібудзь памрэ.

Калі свербіць дзюбка носа – к мерцвецу.

Калі ў мерцвеца не закрываюцца вочы, значыць, хутко шчэ хто-нібудзь памрэ.

Воду, якою мулі мерцвеца, вулівалі пад вугал хаты, дзе ніхто не ходзіць.

Вероўкі, екімі звязвалі рукі і ногі мерцвеца, насілі на шыі, штоб не балела галава, завязвалі на паесніцу, штоб не балела спіна, церлі зуб, які балеў.

Калі неслі на могліцу дамавіну з мерцвецом, то астанаўліваліса на перакростку і поп махаў кадзілом, адганяў нечыстую сілу, і ішлі дальшэ. У яму кідаюць капейкі: купляюць у нечыстой сілы место.

Калі хаваюць, не можна спаць, а то сам умрэш, не можна рабіць на полі, у хаці.

Калі хароняць, не можна глядзець у вакно, пераходзіць дарогу перэд дамавіною, заходзіць уперад.

Калі мерцвеца перэнесці цераз ката, то ён (памёршы) будзе прыходзіць у хату кожную ноч.

Трэба падмесці падлогу ў хаці, калі панесуць дамавіну на могліцы, тады больш ніхто не памрэ.

Мерцвеца мыюць усегда жэншчыны. Нагрэюць вады, намочаць трапку і абціраюць цела. Патом прыбіраюць у новую адзежу. Выносяць гроб мужчыны.

Е такее шчэ павер'е. Калі ў чалавека е какая-небудзь пляміна на целі, то, калі возьмеш палец мерцвеца і абведзеш ім вакруг пляміны тры разы, ена прападзе.

Калі верабей ці другая пціца пастукае дзюбаю ў шыбку, будзе ў хаці смерць.

Казалі, калі уб'еш жабу, то пойдзе дождж. Штоб не было грому, дажджу, трэба на хмару махнуць тры разы лапатаю, якою адсеклі вужу галаву, у якой ён дзяржаў жабу.

Каб не было засухі, не трэба ў празнікі нічого рабіць: шыць, касіць, араць. Калі людзі будуць так рабіць, то дажджу не будзе, таму што Бог сердзіцца.

Перад тым, як вугнаць карову пасля зімы на пашу, пад вароця хлева клалі сякеру, нажа і яйцэ. Шчэ ставілі вядро вады, штоб малака багато давала. Давалі свечаны хлеб.

Калі дзіця маленькае робіць первуй шаг, то трэба ўзяць нож і крэст-накрэст перарэзаць путо, тады яно хучэй пойдзе.

Калі табе прысніўся нядобры сон, то трэба ўстаць і, ні з кім не разгаварыўшы, сказаць у акно: "Куды ноч – туды і сон". Тры разы трэба сказаць так – і сон не споўніцца.

На маладзіку трэба перабірацца ў новую хату, тады будзе поўна ў хаці, а калі на сходзі, то пуста.

Трэба падрэзваць косы на поўном маладзіку – будуць хутко расці.

Вельмі важко патушыць агонь пасля грому. Калі ў нас такее було, так звалі знахара, ён хадзіў вакруг з іконаю тры разы.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***

***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

На радзіны трэба ісці чэсна. Калі ў жанчыны месячныя, то нельга ісці, бо нагадзім дзіцёнку. Клалі ў карман што-небудзь жалезнае і ішлі, каб на жалезе засталася гразь ад месячных, а дзіцяці было добра. А калі ты кросная, то нельга перад хрэсьбінамі спаць з мужам дзве ночы падрад, каб быць чыстай і нягрэшнай.

***Запісана ў в. Коззе Рэчыцкага р-на***
***ад Шынгірэй Юліі Дзмітрыеўны, 1923 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Хлеб двумя нажамі не рэж – будуць муж з жонкай ругацца.

Вось няма дожджыка і зямелька сухая. Нада ваду з другога калодзежу сітам перанесці ў свой, вось дождж і пойдзе.

Калі што дома прапала, нада завязаць вяроўку на ножкі стала і сказаць: “Чорт, пагуляй, а цяпер мне аддай”.

Вось чалавек пайшоў з хаты, то сразу не месці, бо не прыйдзе болей.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Калі дарогу пераходзяць з пустым вядром – будзе нешта дрэннае.

Калі сееш агарод, нельга есці на ём – усё, што вырасце, з’есць што-небудзь.

У новую хату трэба ехаць пад поўню, каб поўна было ўсяго.

***Запісана ў в. Азершчына Рэчыцкага р-на***
***ад Пяшук Вольгі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Згурскай Т. (2005 г.)***

Калі нешта садзілі на агародзе, трэба спачатку садзіць сабе, а то калі даш каму і той пасадзіць раньшэ, то ў цябе нічога не вырасце.

Пасля першага купання трэба ваду выліць пад крэпкае дрэва, каб дзіця расло здаровае.

Калі хто памірае, то на абед ложаць толькі ложкі, вілкі нельзя.

Нельзя хадзіць позна ў баню і там пець.

Незамужнім дзеўкам нельзя стаяць на парогі, бо не выйдуць замуж.

***Запісана ў в. Красны Мост Рэчыцкага р-на***
***ад Ярац Любові Трафімаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Ярац Т. (2005 г.)***

Нельзя качаць нагой, калі сядзіш – нячыстую сілу качаеш.

Трэба заўсёды астаўляць чотнае калічаства дроў возле печы.

Нельзя месці хату, калі ў ёй госці.

У печы засталася галавешка – к нядобраму.

Губы чэшуцца – да пацалунка.

Нельзя есці з нажа – злым будзеш.

Пачуў на перакростку нейкі голас – нядобры знак.

Калі на хату сеў бусел – чакай дзіцятка.

***Запісана ў в. Новы Барсук Рэчыцкага р-на***
***ад Ліпінскай Марыі Сцяпанаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Луцко М. (2005 г.)***

Дзярэўя перад хатаю садзіць нельзя, так як толькі пасадзіў перад хатаю, а корні пад хату палезлі пад фундамент, то, значыцца, і нячыстая сіла к табе абязацельна прылезе, не абміне.

*Запісана ў в. Переавалока Рэчыцкага р-на*
*ад Луцко Ганны Фёдараўны, 1936 г.н.*
*(перасяленка з в. Лясное Рэчыцкага р-на),*
*студэнткай Белай А. (2005 г.)*

Сякеру кладуць пад палоўнік ля парога. Гэта абазначала, што злы чалавек не з'явіцца ў хаце.

Нож трэба каб ніколі не ляжаў вастрыём к верху – гэта к няшчасцю.

У парозе нельга стаяць цяжарнай жанчыне, таму што роды будуць цяжкія.

Нельга змятаць смецце з парога, калі з хаты нехта ад'ехаў, каб нічога нядобрага не зрабілася ў дарозе.

Калі пры жыцці чалавек насіў грэбень у валасах, трэба каб ён з ім не разлучаўся і на тым свеце. Яго ложаць у труну.

Не трэба кідаць смецце ў печ, бо будзе сварка.

Нельга месці ў хаце, калі хто будзе ў дарозе.

У разбітае люстэрка нельга глядзецца і дзяржаць у хаце, гэта к няшчасцю, к разводу.

Рассыпаць соль – к няшчасцю. Пад вялікае свята не трэба ў суседа прасіць солі, бо будзе няшчасце ў таго, хто даваў соль.

Нельга выкідваць валасы, бо будзе балець галава. Трэба спаліць або затыкнуць пад страхою.

Калі знойдзеш у непрывычным месцы іголку, то не бяры яе голымі рукамі, а рукавіцамі патрэбна вынесці на скрыжаванне чатырох дарог.

Нельга шыць на сабе, бо прышыеш розум.

Стол павінен стаяць пад абразамі, заўсёды пакрыты чыстым абрусам, на якім ляжаць хлеб, зверху пакрыты рушніком.

Нельга голымі рукамі са стала заграбаць крошкі – к галадоўцы.

Вой сабакі – к смерці хазяіна або суседа. Гэта калі яго галава апушчана да зямлі, а калі паднята кверху, то сабака вые к пажару.

Калі кукуе зязюля, можна спытаць у яе, якім будзе доўгім твой век, палічыць, колькі раз яна пракукуе, столькі табе год прадназчанана пражыць.

З'ядаюць мышы бульбу пад палом – к галоднаму году.

Калі бусел пакідае сваё гняздо, то гэта к стыхійнай бядзе.

Калі бусел высока ляціць, то будзе добрая пагода. Калі стаіць на адной назе – гэта к непагодзе.

Нельга каб елка расла пад хатай. Гэта к няшчасцю.

Калі маладыя ідуць да шлюбу і сустракаюць пры гэтым нябожчыка – гэта к няўдаламу жыццю. Калі ў дзень вяселля дождж – к багаццю. Калі маладыя ідуць да шлюбу, трэба пільна глядзець, каб ніхто не перайшоў дарогу. Калі хто пяройдзе з поўным вядром вады – будзе шчаслівае жыццё. Калі ў сне бачыла, што загубіла абручальнае кальцо – к разводу.

Калі нарадзілася дзіця, не трэба каб чужыя глядзелі ў калыску, бо дзіця не будзе спаць. Не трэба яму паказваць зеркала, бо доўга не будуць зубы расці.

Калі нясуць хрысціць дзіця, то трэба сачыць, каб ніхто не перайшоў дарогу, бо

будзе неспакойным. Маці хросная павінна адзець усё новае, каб было шчаслівым жыццё.

Нельга пераходзіць дарогу з пустым вядром, а то таму чалавеку будзе ўвесь дзень пуста.

Калі сустрэнеш папа, то трэба, пакуль ён не пройдзе, дзяржацца за паліцу паліто, каб не было непрыемнасцей у гэты дзень.

Калі дзіця не спіць, трэба 3 раза выцерці твар сарочкай.

Калі пераходзіць чорны кот дарогу, трэба падзяржацца за што-небудзь чорнае.

Калі ты спужаўся, патрэбна праліць ваду праз 3 шклянкі.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на ад Сохар Алены Марцінаўны, 1944 г.н., студэнткай Сопат І. (2006 г.)***

Цяжарнай нельга станавіцца на вяроўку, бо дзіця родзіцца задушаны пупавінай.

Нельга цяжарнай есці з чугуна ці скаварады, бо дзіця чорны будзе.

Калі пераступіць цераз малое дзіця, то расці не будзе.

Нельга калыхаць пустую калыску: дзіця мёртвы родзіцца.

Нельга да двух лет, каб малое глядзелася ў зеркала.

Не трэба снімаць дзяцей, калі яны толькі-толькі нарадзіліся.

Дзетак малых не бяруць на пахараны.

Нельга цяжарнай жанчыне, калі яна спужалася, хватаць сабе за ліцо, бо ліцо дзіцяці ў плямах будзе.

Нельга валасы абразаць.

Нельга на свадзьбу зваць удаву, бо нявеста памрэ.

Жаніху не трэба хадзіць у баню напярэдні вяселля, бо жонка будзе бяздзетная.

Нельга жаніцца 1 марта: жаніх ці нявеста могуць памерці.

Жаніху нельга валасы стрыгці, бо дзеці балець будуць.

Нельга, каб паміж маладымі прашоў удавец ці ўдава.

На падвянечнае плацце трэба прышпіліць булавак у крэст.

Нельга калі ў хросных будзе брат ці сястра, бо ў дзіцяці будзе кароткая жызнь.

Нельга хрысціць блізнятак у адзін дзень.

Людзей трэба хараніць у абед, а не апасля, бо скора пакойнік у хаце зноў будзе.

Нельга насіць адзёжу, у якой чалавек памёр, бо сільна забалееш.

Нельга чапаць пакойніка за ногі, бо многа ў хаце будзе пакойнікаў.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н. (прыехала з г. Вялікі Усцюг Расійскай Федэрацыі), студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Калі жаніх і нявеста прыходзяць пасля шлюбу дадому, то, для таго каб у будучым жылі мірна і дружна, пад парог лажылі разамкнуты замок. Пасля таго, як пераступяць праз яго, замок паднімаюць, закрываюць і брасаюць ключ у рэку ці калодзеж.

Калі нявеста не хоча, каб у яе былі дзеці, то, калі ідзе да вянца, кладзе за пазуху замкнуты замок. Яго ж трэба палажыць і ў першую шлюбную ноч.

Калі ж жанчына хоча імець дзяцей, але не можа, то ложыць адкрыты замок.

Маладых абсыпаюць зернем, каб жылі шчасліва, багата і каб быў ураджай.

Маладым даюць каравай салёны, гарэлку горкую, каб гэта былі апошнія хвіліны горкага, салёнага жыцця.

***Запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на***

***ад Еўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н., студэнткай Драбышэўскай А. (2000 г.)***

Казалі, што смецце не выносяць на захадзе сонца, штоб з хаты не выносіць ссоры.

Еслі жанчына бярэменная, то нельзя памыі выліваць праз парог. Бо тады дзіця будзе бляваць сільна (рвоты будуць).

Бумагай не сціраюць сталы, бо шум будзе за сталом.

Нельга стол сціраць голай рукой, бо будзе голы стол, пусты. Стол – гэта прэстол Гасподні.

***Запісана ў в. Чкалава Гомельскага р-на ад Седавусавай Таццяны Сцяпанаўны, 1930 г.н., студэнткай Скачковай Н. (2000 г.)***

Дзецям малым нельзя ногці адразаць, а то косці ў іх слабыя будуць. Нада іх зубамі адкусваць і казаць: "Як у мамкі зубкі крэпкія, так у сына (дачкі) косці крэпкія".

Калі яду перасальваеш, то, навернае, улюбілася ў каго-та.

Вельмі чудадзейная святая вада. Яна і ад спуга памагае, і ад хвароб, і ад зглазу. Нада яе ці піць ці ўмывацца ёю.

Нельзя валасы ў ваду з цячэннем кідаць, бо галава балець будзе. І паліць таксама валасы нельзя, бо нядобра табе будзе.

Нельзя злізваць з нажа, бо будзеш злы.

Калі на Іллю дождж ідзе, то яшчэ 40 дзён будзе ісці.

Цяжарным жанчынам забаранялася садзіцца на камень, бо плод скамянее.

Нельга ступаць на парог, бо дзіця не нарадзіцца.

Таксама нельга хадзіць пад вяроўкамі, бо дзіця будзе абкручана пупавінай.

Нельга абстрыгаць валасы, бо плод не будзе развівацца.

Калі ў хаце мышы, значыць, там беспарадак.

Калі дарогу перабег чорны кот, трэба дзяржацца за жалезную пугавіцу.

Калі гарыць твар, трэба правесці па ім чым-небудзь красным, і тады ён перастане гарэць.

***Запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Гаўрыленка Тамары Мікалаеўны, 1927 г.н., студэнткай Марчанка В. (2004 г.)***

Нельга прышываць гузік на адзенне на сабе, трэба ўзяць у рот нітку, бо розум так прышыеш.

Нельга выціраць стол паперай, бо грошы вадзіцца не будуць.

Нельга даваць сваю адзёжу насіць другім, бо аддаш сваю энергію.

Нельга даваць адкусваць ад твайго куска, каб другі не мог прачытаць твае мыслі.

Нельга пераступаць праз граблі.

***Запісана ў г. Гомель ад Аксёнавай Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н., студэнткай Сычовай Т. (2004 г.)***

Маладым дзеўкам нельга глядзецца ў зеркала і ў той час есці ці жаваць. Была ў нас дзеўка ў сяле, прыгажуня такая. Любіла яна ўсё семкі жаваць і ў зеркала глядзець. Дык на яе сабакі суседскія ні з таго ні з сяго напалі і ўсё ліцо пакусалі. Вось тое зерка-

ла дык з’ела яе прыгажосць.

Нельга выкідваць свае валасы, бо пціца зацягне іх у сваё гняздо. Тады галава дужа будзе балець і нічым вылячыць нельга, пакуль сама не перастане.

Калі ў хаце ёсць зеркала, трэба каб яно вісела насупраць дзвярэй. Тады злыя людзі будуць баяцца заходзіць у хату.

У святы нельга пазычаць ваду, соль і хлеб, каб з хаты шчасце не вышла.

Калі прысніўся сон, трэба яго расказаць бягучай вадзе, тады добрае дык астанецца, а плахое ішчэзне.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Зуевай Марыі Лаўрэнаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Казюкінай Т. (2004 г.)***

Ад засухі жаб трэба біць. Раней, як жураўлі ляцелі, дык гаварылі, што гэта не жураўлі ляцяць, а “паны” ляцяць. Тады сам будзеш як пан.

Нельзя на вуліцу выходзіць голаму – абідзіцца двараві. Калі сходзіш на двор, трэба сказаць: “Хто пры мне, прасціце мяне”. Сказаць 3 разы.

Калі захочаш у туалет на дарозе – нельзя хадзіць на правы бок. Трэба толькі хадзіць на левы. Па правы бок ідуць ангелы.

***Запісана ў в. Меркулавічы Чачэрскага р-на***
***ад Лабкоўскай Зінаіды Афанасьеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Кароў трэба выганяць у поле на Юрая, хлеб абнесці 3 раза вакол печы, выйсці на вуліцу і сказаць: “Иди, моя коровка в поле, в череду, усих папераду”.

Зерне мяшаць з соллю: “Иди, моя коровка, в поле, хай цябе Бог пасе и дадому нясе”.

Дубчыкам вербы, пасвяцоным у царкве ў вербную нядзелю, біць карову 3 разы па крыжу і гаварыць: “Еш, мая кароўка, траўку з расою, як косіш з касою”.

Замок замкнёны на парог: “Иди, моя коровка, в поле, будзь здарова цэлы год, як зямля і лёд”.

Калі на Юрая зязюля кукуе, ураджаю не будзе.

Вядро вады і рабінавую палачку ставяць на крыльцо, каб поўна было вядро малака.

На Купалле вечарам збіраюць кветкі і травы, потым асвяшчаюцца ў царкве і абкурываюць бальнога чалавека, скаціну пры выгане ў поле, дом перад гразой.

На Каляды прыносяць ахвяру хлеўніку – духу, які жыве ў хлеве. Раніцай, на першы дзень, трэба забіць сароку. Вешаюць яе ўверх нагамі ў хлеве ля дзвярнога вушніка, хлеўнік будзе зганяць на ёй сваё зло і не катацца ноч на скату.

Для кароў сабраць траву браткі і вечарам даць карове. Дзверы шчыльна зачыніць, стрэчнай свечкай на дзвярах напісаць крыж, на канцах яго пакапаць воскам і павесіць на дзверы дзядоўнік, а свечку пакідаць не трэба: ноччу прыйдзе ў постаці змяі ведзьма забіраць малако, а запячатаныя дзверы не пусцяць, яна са злосці будзе грызці траву, потым пойдзе ў поле, у жыта і там цадзілкаю будзе збіраць расу з каласоў да ўсходу сонца.

На Купалле рвуць крапіву і вешаюць у дзвярах – русалкі баяцца.

На Купала на перакростку раскладаюць агонь і вараць цадзілкі і вартуюць ведзьму, якая крадзе цадзілкі. І адсякаюць ёй пальцы.

Ведзьму можна пазнаць: на Юр’я трэба накідаць мурашніку на вуліцы – яна не можа і кроку ступіць вакол яго.

Можна ўбачыць ведзьму, якая адбірае малако ў кароў. Трэба сесці на дварэ каля

хлева пад бараною з запаленай свечкай. Ведзьма прыйдзе ў адной кашулі з распушчанымі валасамі.

Некаторыя жанчыны-ведзьмы голыя бегаюць з даёнкай да ўсхода сонца, каб не апала раса – збіраюць расу, перацягваюць да сабе спор з хлябоў і жывёлы, якая пройдзе па тым месцы, дзе сабрана раса. Гэта цяжка для простага чалавека – выклікае прыгнечаны душэўны стан. Таму чарадзейнікаў стараюцца задобрыць. "Бога хвалі, але і чорта не гняві, бо ліхое і Бога перамагае".

На Купалле пастухі не пераганялі кароў цераз межы другіх вёсак: ведзьма ператворыцца ў жабу і высасе малако. Адзін пастух не паслухаў і перагнаў, а калі ўбачыў жабу – адсёк ёй лапу, а ў сяле яго хросная асталася без рукі і сканала.

Ведзьмы сабіраюцца на луг і гавораць: "Як раса ўбывае з-пад рушніка, так і малако ўбыло ў гэтай каровы. Як раса ўбіраецца ў мой рушнік, так і малако пераходзіць ад гэтай каровы ў вымя маёй каровы". Ведзьма выкручвае ручнік з расой і дае выпіць карове. У хлявах затыкаюць усе дзіркі, вешаюць крапіву, касу, свечкі грамнічныя. На Купалу ведзьма прыходзіць чаго-нібудзь прасіць у суседа: агню, запалак. Убіваюць у полі колышкі асіны, каб ведзьма не забрала ўраджай.

На Каляды да ўсхода сонца бяруць ваду, запаліўшы ў пячы, глядзяць: у які бок дым – у той бок жыта ляжа.

На Юр'я калі хто да ўсходу сонца выгане карову і напасе на маладым жыце да ўсходу сонца – увесь год будзе з малаком.

Каб абясшкодзіць дзьябла, на Юр'я трэба ўзяць столькі яек, колькі коней. 3 разы абысці вакол хлява, кладзя яйкі пад парогам. Перахрысціцца 3 разы, адчыніць хлеў і казаць: "Прыйшла Юр'ева раса, не дам табе аўса". Гладзіць коней рукой па ўсёй спіне, надзець аброць, выводзячы з хлява, самому правай нагой стаць на парог хлява, дзе пакладзены яйкі.

***Запісана ў в. Асінаўка Чачэрскага р-на***
***ад Пугачовай Валянціны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Кандрашовай Т. (2006 г.)***

Цяжарнай жанчыне ніколі нельга было пераступаць праз сякеру і вяроўку, бо лічылі, што дзіця задушыцца пупавінай.

Нельга пры цяжарнай жанчыне сячы сякерай дровы, бо дзіця народзіцца з губой, як у зайца.

Забаранялася лажыць нож або сякеру верхам, бо зараз жа чакалі якую-небудзь дрэнную весць. Нож вельмі шмат выкарыстоўвалі ў малітвах, і ён лячыў розныя хваробы. Пасля таго, як нешта зробіш нажом, яго патрэбна было схаваць, бо магло здарыцца непрыемнае.

Венік быў амаль самым галоўным прадметам, якім выганялі нячыстую сілу з хаты. Венікам змяталі весь мусар з хаты, калі выносілі мертвеца. Лічылі, што всё плахое ён забярот с сабой. Нельга было мясці мусар і выносіць яго пасля захаду сонца, бо хата магла апусцець. Нельга было босымі нагамі наступаць на венік, бо лічылася, што ўся нечысць, якая жыве ў ім, можа перайсці к табе. Для таго, каб выгнаць нячыстую сілу, ставілі на ноч венік, перавёрнуты ўгару. Уся нечысць вылятала.

Нельга было бярэменнай жанчыне стаяць на парозе, бо дзіця магло не радзіцца.

Калі бачыш у сне чалавека, які дапамагае табе, то ў сапраўдным жыцці гэты чалавек цябе пагубя.

Каб пайшоў дождж, то забівалі лягушку. Гэтая прымета захавалася і сёння.

Калі радзілася дзіця, нельга было яго паказваць 30 дзён (дзевачку) і 40 дзён (хлопчыка), каб злы глаз не пашкодзіў яму.

Калі на небе многа зорак, то ўсё лета будзе цёплае.

Каб засцярэгчыся ад маланкі, трэба было хрысціцца некалькі разоў.

Калі сонца садзілася і было вельмі чырвонае, то наступны дзень будзе вельмі цёплы.

Калі са стала падаў хлеб, то ў дом прыйдзе нядобры чалавек.

Калі мыецца кот, то патрэбна чакаць гасцей або пагода памяняецца.

Калі на сабе шыць, то можна зашыць розум.

Калі нехта разбіў зеркала, то нехта памрэ.

Нельга есці з нажа, бо с кім-небудзь пасварышся.

Каб быў добры ўраджай, гаспадар павінен быў у 4 гадзіны раніцы голым успахаць зямлю.

Калі хлеб случайна ўкусіў з двух кускоў, то будзе ў цябе два мужа.

Калі сустрэнеш чалавека з пустым вядром, то чакай няшчасця.

Нельга валасы кідаць на дарогу, бо птушка падбярэ, а ў цябе будзе балець галава.

Калі птушка стучыць у вакно, то гэта да дрэннай навіны.

Нельга дзяўчыне садзіцца на вугал, бо яна не выйдзе замуж.

Калі кошка спіць на печцы, то будзе холадна, калі на палу – цёпла.

***Запісана ў в. Залессе Чачэрскага р-на***
***ад Карпенкінай Ганны Якаўлеўны, 1941 г.н.,***
***студэнткай Парукавай Н. (2006 г.)***

Ня можна ехаць молодому і молодой в одной машыні.

Еслі параймаюць па дорозі з хлебом до вянца – останавліваццa няможна.

Еслі молодая на свадзьбі будзе наступаць молодому на ногі, то вон будзе ёй подчыняцца.

Ня можна, каб у молодой во врэмя вянчання або роспісі булі пальцы на ногах голые, оба будуць бедные.

Ня можна, каб молоды кольцо надзявав на пярчатку – будзе гуляць, ня будзе любіць.

Еслі баішся марца, то трэба сначала падзівіцца на свае ногці, потым на ногі марца, а потым на ліцо.

Ня можна пераходзіць дорогу, ек вязуць марца, бо можэ за сабою забраць.

Ня можна наступаць на цвяты або галінкі, якія кідають за марцам, бо будзе косці ламаць цэлы год.

Еслі выносяць марца з хаты і грымнуў гром, то гэто буў плохі чоловек, а еслі дождж ідзе, то про такого чоловека кажуць: “Дажэ Бог плакаў по ём”.

Еслі ў марца ў голове вошы, то вон зразу без суда пойдзе ў рай. Бо вошы выдумаў Бог, і воні не заводзяцца з гразі.

Бярэменнай ня можна нюхаць яду, бо ў дзіцяці будзе непрыятны запах з рота; носіць юбкі короткіе, бо ўкорочаеш жызнь свойму дзіцяці; пры пажары хватацца рукамі за сваё цела, бо ў дзіцяці будзе пляма на тым месцы; стрыгчы валасы, бо ўкороціш розум дзіцяці; каб дух марца не ўсяліўся ў дзіця, трэ жывот паравазаць красною лентою.

Каб лёгка родзіць, трэба, ек едзеш у роддом, зняць з іконы ручнікі.

До года дзіцячые рэчы ня трэ оставляць на дворэ после захода сонца; нічога

дзецкага пазычаць нікому.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

До году дзіцяці няможна даваць рыбу есці – доўга гаварыць не будзе; казытаць за пяткі – доўга хадзіць не будзе; показаваць у зеркала – шчаслівы не будзе.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Як сабака перад хатаю вые ці грабе яму, то ў той хаце хтось памрэ, ці яна згарыць.

У падушку пакойніку кладуць трохі хмелю, каб на том свеце было весялей.

Сваякі нічога не робяць для мертвяца: ні адзёжы, ні труны, толькі ўсё чужыя.

Як маладая выйдзе з хаты, каб ехаць пад вянец, то яна не павінна аглядацца на сваю хату, каб не вярнуцца.

Між жаніхом і нявестай ніхто не доўжан прайсці.

Калі хто ўкрадзе кусок караваю, то ў тых маладых не будзе дзяцей.

Нявеста павінна быць у новай адзежы.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Хто радзіцца на маладзік, тому ніколі не будзе старасці.

Калі дзіця ляжыць на зямлі, ці поўзае, не можна цераз яго пераступаць – не вырасце.

Нельга качаць пустой калыскі – каб дзеці не ўміралі.

Як маладыя едуць да вянца, то яны не павінны нікому зварочвацца з дарогі – будуць уступаць людзям.

Перад выездам маладую нужна садзіць на падушку.

Прынята было, каб жаніх не бачыў нарада маладой.

Трэба, каб у маладой былі тухлі, а не басаножкі.

Нельга праходзіць меж маладых на вяселлі.

Калі ноччу самі адчыняюцца дзверы, то гэта ў проведы смерць прыходзіла.

Калі ў дарозе здарыцца якой-небудзь выпадак ці прыгода, то дзіця будзе нешчаслівае.

Кум і кума павінны піць чарак да пары, каб дзіця добра расло.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нельга садзіць бярозу ля хаты – к няшчасцю.

Дуб – гэта дзерава чорта. Чаму от і б'е маланка ў асноўным толькі ў яго. Хоча чорта ўбіць, што схаваўся ў дубе.

Гавораць, перад цем, як дзеўку замуж аддаць, садзяць на падушку самае меншае дзіця.

Трэба на свадзьбе разбіць чаркі, з якіх піў, каб добра жылося.

Калі хаваюць нябожчыка, трэба кінуць тры разы пясок, як будуць закапваць.

Калі ў хаце нябожчык, то закрываюць зеркалы, бо душа яго можа перайсці туды жыць.

Па ўсопшаму не трэба багата плакаць, бо яму будзе цяжка на тым свеце.

Калі пцічка стукае ў акно, хто-та памрэ.

Мышы завяліся ў хаце, значыць грахоў багата.

Калі ў хаце нядобра і сны сняцца страшные, трэба пасвяціць вуглы хаты пасвяцонаю вадой.

Калі ў дзіцяці выпадае зуб, то дзіцяці трэба кінуць гэты зуб у вугал печы і сказаць: "На табе прасты, дай мне залаты!"

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Выюць сабакі – к смерці.

Калі сніцца, што выпаў зуб з кроўю, то памрэ свой чалавек.

Бярэменнай жэншчыне нядьзя абзываць людзей, бо родзіцца дзіця дурное.

Нельзя хлеб кідаць на пол, а калі ён упаў, то трэба падняць яго, абдуць і папрасіць прабачэння.

Нялзьа валасы кідаць на вуліцу, бо будзе балець галава.

Варона каркае – к дажджу ці к бядзе.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Нельга біць жывёл, якія носяць у сабе дзяцёнышаў, бо родзіцца дзіця з дзефектамі.

Нельга есці і глядзець у зеркала – заясі свой розум.

Не кідаць косы на вуліцу – будзе балець галава.

Не аддолжываць грошы ўвечары, бо не будуць вяртацца.

Не глядзецца ў разбітае люстэрка, не піць з трэснутых чашак, бо будзе жыццё разбіта.

Не шыць на сабе, бо зашыеш розум.

Калі сабакі выюць на сяле – да смерці.

Калі прысніў, што кароў гоняць на сяло, то хто-та памрэ.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Осыновым кыём нэ поганяють скотыну, бо кажуть, шчо Іуда повысывса на осыны, от того осына шэвэліцца.

Кажуть, еслі в хаты е табурэтка з осыны, то коты вэстыса нэ будуть.

Як чэрэз повалэнэ дрэво чоловік пэрэступыть, лэгко запутацца в лісті.

Шчоб нэ зрывало хату, крышу, трэба на Вэлыкдэнь святы хліб да шкарлупу з яйца заткнуты на крокву, на крышу.

Як скучаеш по чым-нэбудь чы кому-нэбудь, тра зьісты "забудочного хліба" (того, шчо забулы з пэчы выйняты чы в полі забулы) і зразу пэрэстанеш скучаты.

***Запісана ў в. Ласіцк Пінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Мількевіч Ульяны Піліпаўны, 1925 г.н., студэнткай Паўлавец В. (2006 г.)***

Весной, когда услышишь первый гром, надо быстренько умыться водой и вытереться красной тряпочкой, чтобы быть всегда здоровой и краснощекой. И ещё ложиться на спину на землю и покататься по земле, чтобы не болела спина круглый год.

Если младенец очень беспокойный, кричит, плохо спит, его носили ночью к 12 часам или немного позже, после 12.00, под куриный насест (в это время куры крепко

спали). И ребеночек будет спать.

В большие церковные праздники ничего нельзя отдолжать и вообще после захода солнца, вечером, тоже из дома своего ничего не давать (а то в доме будет пусто).

Если у тебя просят каких-то семян или растений для размножения, то должны давать какую-то денежку, чтобы был урожай и у тебя, и у того, кто берет.

Если кто-то на что-то позавидует и выскажется, всегда говорили в след: «Соль тебе в очи».

Не переходи дорогу навстречу идущему, если сам с пустым ведром, чтобы тому не было пусто.

Весной, когда услышишь первую кукушку, надо пошелестеть денежкой в кармане, чтобы быть всегда с деньгами.

Когда идешь по какому-то нужному делу и встретишь похороны, лучше вернись – не повезет.

Нельзя отмечать заранее день рождения.

Нельзя возвращаться обратно, если что-то забыл.

Не повезет, если тебе перейдут дорогу с пустым ведром (или чёрная кошка перебежит).

Если идешь в дороге с большой группой людей, старайся идти первым – будет легче.

При венчании в церкви или регистрации брака в ЗАГСе надо строго смотреть, чтобы между молодыми никто не прошел, крепко держаться за руки нужно.

Старый веник (деркач) надо сломать, а не выбрасывать.

Нельзя давать со своего огорода землю, чтобы не отдать свой урожай.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Штылёвай Галіны Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Тарасавай Я. (2010 г.)***

Нельзя показывать новорождённого чужим, чтобы не сглазили. Ещё, чтобы не сглазили, завязывали красную ленточку на руку ребенку.

Семена сначала посей, посади себе в огороде, а потом только можешь дать ещё кому-то, чтобы был урожай себе.

Надо примечать, у кого плохие глаза – может сглазить, а у кого тяжёлая рука – не ведется ничего.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Штылёвай Галіны Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Тарасавай Я. (2010 г.)***

Еслі заяц перабяжыць дарогу – будзе бяда.

Нанач нельзя выносіць мусар – будзе скаціна дохнуць.

Калі сабака ўгору вые – к пакойніку, уніз – к пажару.

Кошка мыецца – госці будуць.

Калі карова сніцца – гэта к дабру, калі кошка – к слязам.

Еслі хочаш, каб цельная карова ацялілася ўтрам, то паследні раз даіць яе трэба ўтрам, калі хочаш, каб цельная карова ацялілася вечарам, то трэба яе вечарам даіць.

Калі сарока сядзіць на плоце і гургоча – новасці будуць.

Калі верабей неажыданна стукнецца аб вакно, то некаторыя гаварылі, што гэта

к навасцям здалёка, а некаторыя – што гэта к смерці.

Еслі на крышы дома сабіраецца многа галак, то кажуць, скора тут будзе свадзьба.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н., студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Незамужняй дзеўцы нельга сядзець на вуглу стала – яна так і не пойдзе замуж.

Нельга незамужнюю дзеўку абмятаць венікам – астанецца ў дзеўках.

Венік нада ставіць уніз ручкай, штоб дзеньгі вадзілісь.

Перадаваць цераз парог нічога нельга.

Смецце цераз парог выкідываць нельга – багацтва выкідаеш.

Калі аддаеш банку ад малака – нада палажыць туды хлеба, штоб не было пуста ў хаце.

Еслі выходзіш адкуль-небудзь і зачэпішся за парог, значыць, будзеш тут яшчэ раз.

Калі нехта з пустым вядром пераходзя дарогу – пуста будзе. Нада падаждаць, калі той чалавек пойдзе абратна. Нельга пакідаць ключы на стале, бо ў сям'і ругацца будуць.

Нельга мераць абручальнае кальцо – будзе падобная судзьба.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н., студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Як хто памрэ, дак бярэменным нельзя праводзіць памерлага на кладзьбішча, бо дзіцятка нежывое народзіцца.

На пажарышчы будаваць хату нельзя, бо ета плоха.

Як журавы ў вырай ляцяць і кракаюць нізка, будзе зіма блізка.

Калі кот лезе ў печ – значыць, мароз будзе, бо яны холад чуюць.

Мне шчэ мая мамка гаварыла, што на Паску пцічка і тая гнезда не ўе, дак людзям тым больш нельзя работаць.

Хату на Паску ўмятаць нельзя, штоб кура не грэбла грады.

Як сонца зімой яснае, і кругом яго ярка, то ета будзе сільны мароз.

Як сонца зайдзе, то не мятуць ужо, і смецце не выкідаюць, і посуд не мыюць, бо не будзе багацця і грошай у хаце.

Са стала ладошкай не змятаюць, бо нічога ў хаце весціся не будзе.

Калі закапуюць на зіму капец, дак ложуць туды ўжо дзяркач і кірпіч, палын кругом па копчыку ложуць. Дзяркач і палын ложуць, ета штоб мышы бульбачку не пагрызлі, а кірпіч ложуць, штоб бульбачка не пагніла і не памерзла за зіму, штоб крэпенька была.

Калі малых парасятак купляеш, дак глядзі, штоб іх за ножку заднюю бралі і галавой у мяшок садзілі, а еслі задам содзюць, то лучшэ не купляй, а то не павядуцца, пойдуць на звод.

Гаворуць, што еслі дым прама з дымахода ідзе, то, значыць, будзе пагодлівы дзень, а еслі сцеліцца, уніз падае, то будзе сырая пагода.

На Паску ўсёй худобе даваць нада паспытаць паскі, штоб здаровенька была.

Утрам на Паску п'юць тры глатка вады, штоб не балець увесь год.

Шкарлупінне ад яечак, што ядуць на Паску, курам аддаюць, штоб добра нясліся.

Як у палажэнні ходзіш, дак нельзя сабаку, ката выспяткам біць, бо дзіця будзе корчыцца, неспакойнае будзе.

На Каляды, як засеюць, дак патом хазяйка саграбе семкі ці ячмень і сыпе куркам, штоб добра нясліся.

На свадзьбе, калі малады з маладою цалуюцца і ідзе дождж, дак яны будуць шчаслівыя і багатыя.

Маладога кругом стала водзюць перад тым, як ехаць за маладой, штоб іх жызнь умесце была нескончонай.

## Павер'і, звязаныя са сном

Еслі сніцца сад, цвяты белыя, то ета ўжо на смерць. Вот сасніліся мне як-та астры: сінія, жоўтыя, красныя, белыя. І раслі яны ў двары саседкі. І такія ўжо красівыя! А патом сказалі мне, што саседка ўтапілася.

Еслі сніцца, што гонюць кароў у поле, дак ета тожа на смерць.

Еслі сніцца, як падаеш у сне, дак патом плаха стане ці забалееш.

Як бацюшку бачыш у сне, дак пасварышся з кім, скорб якаясь будзе.

Еслі лес відзіш у сне, ходзіш па лесе, дак у чужыя людзі пападзеш ці прыедуць чужыя людзі.

Еслі сніцца пакойнік, ён заве цябе к сабе ці па спіне паводзіць, пацапае, тады забалееш.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Прыкметы на ўсе бакі жыцця

Калі з печы выскачыць вугалёк, хутка прыйдзе госць. Хутка пагасне – госць ненадоўга.

Калі дровы ззаду загараюцца, тады госці здалёку прыедуць.

Дзеўкам на вугал стала нельза садзіцца, бо замуж не выйдуць.

Нельга месці на сябе, бо замяцеш сваё шчасце.

Калі кошка мыецца, госці прыедуць.

Калі хто з пустым вядром табе дарогу перашоў, нешчаслівы дзень будзе.

Калі паміж двух сталбоў праходзіш, дзяржы ў кармане кукіш.

На сабе шыць нельзя, а як ужэ сільна нада, красную нітку ў зубах трэба дзяржаць.

У карыя ці чорныя вочы глядзець нельзя, бо зглазяць.

Жаб рукамі нельзя трогаць – барадаўкі будуць.

У нядзелю работаць нельзя – Гасподзь накажа.

Калі дым з каміна не прама ідзе – к марозу.

Калі хто сам на сабе стрыжэ валасы – жыццё адзін пражыве.

Нельга спаць класціся, як сонца заходзіць, бо будзе галава балець сільна.

Нельга хлеб не даядаць, бо дзяцей не будзе.

У вугле, асобенна у качарэжніку, нельга мусар астаўляць, а то пойдуць няшчасці, бо дамавы ўзліцца.

Калі стрыжэш валасы – не выкідай іх на пол, у печ – сразу ці ўвярні ў бумажку, каб галава не балела.

Калі сніцца, што ловіш рыбу, то значыць, скора забярэменяеш ці ўжэ бярэменная.

Кагда сасед у сне бярэ ў цябе воз з канём, значыць, ён скора прыдзе к табе пазычаць грошай.

Кагда бярэменная сніць свайго рабёнка бальшым, значыць, што калі ён родзіц-

ца то будзе вельмі мала балець.

Нельзя пазычыць агонь нядобраму чалавеку, бо багацтва звядзецца.

Вот для бярэменнай, так нельзя стаяць на парогу, бо рабёнак можа не выйці.

Бярэмянная не даўжна цераз вяроўку пераступаць, бо ў дзіцяці будзе закручана пупавіна.

Кажуць, за што бароліся, на тое і напароліся.

Вот кагда дзіця хрысцяць, а яно крычыць, то будзе бойкім у жыцці, а маўчыць – слабы і хворы.

Нельзя сядзець на перавёрнутым вядрэ, а то грошай не будзе.

Нельзя астаўляць шапку на стале, бо, можа, хто-нібудзь памрэ.

Калі ясі за сталом, абезацельна нада даядаць хлеб, бо можаш забалець.

Калі ластаўкі лятаюць нізка над вадой, то, значыць, скора будзе дождж.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельзя на ноч ключы на стале астаўляць, каб быў дабрабыт у хаце.

Калі чалавек едзе ў дарогу, то нельзя за нім сразу ўбірацца, пака не даедзе да места, штоб усё добра было.

Када ў хаце мяцеш, ну, вы, напрыклад, маладыя дзеўкі, так нельзя месці вакруг себя, вы так жаніхоў замятаеце.

Нікагда нельзя глядзецца ў разбітае зеркала з трэшчынамі, бо гэта плоха.

Дзеўкам нельзя валасы з грэбня кідаць на вуліцу, на вецер, а то будзе балець галава. Нада іх паліць.

Ешчо мая матка гаварыла, што трэба браць нітку ў рот, кагда сам на сабе шыеш.

З нажа нельга есці, а то злым будзеш.

Калі госці апаздывают, то нада за скацерць падзёргаць, дык яны хутчэй прыйдуць.

Калі еш і ўпадзе вілка, то нада пастучаць ёй па палу 3 разы, і тады не будзе нечаканых гасцей.

Калі дома пацяраеш што, то нада так дзелаць: стул узяць, абвязаць яго чатыры ножкі платком, абайці 3 разы і сказаць: “Чорт, чорт, не іграй. Паіграў – так аддай”.

Ладошкай нельзя страхіваць крошкі са стала, а то грошай не будзе.

Усегда сваім дзецям і ўнукам гаварыла: “Кагда ядзяць, не нада чытаць, так можна сваю памяць з’есці”.

Яшчэ ведаю, што нельзя хлеб на гарбушку ставіць. Эта к смерці ці балезні якой.

Кагда я ўчылася шыць, то мне мамка гаварыла, што перадаваць іголку нада, утыркнуўшы ў кусок тканіны якой.

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Марчанка Наталлі Уладзіміраўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Анопрыкавай Ю. (2010 г.)***

Нельзя сумкі на стол ставіць, бо не будуць грошы весціся.

Кагда мяцеш мусар, нельзя месці чэраз парог. Эта значыць, жаніхоў вымятаеш.

Венік у хаце нада ставіць уверх ветачкамі, штоб багатым быць.

Нельзя хлеб кідаць у ваду, бо будзе якое-небудзь няшчасце. Закрываюць зеркала, калі молнія і гром.

Калі встрэціш чалавека з пустым вядром і он перейдзёт табе дарогу – гэта дрэнна. Тады кажы так: "Пуста вада – пуста бяда".

***Запісана ў в. Страдубка Лоеўскага р-на***
***ад Атрошчанка Людмілы Мікалаеўны, 1933 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пярэдзелка Лоеўскага р-на),***
***студэнткай Анопрыкавай Ю. (2010 г.)***

Маладым жанчынам нельга доўга глядзецца ў люстэрка, бо яно забірае маладосць, красату.

Нельга глядзецца ў разбітае люстэрка, гэта да няшчасця.

Нельга есці з нажа – дрэнная прымета.

Калі што-небудзь падае з рук, значыць, скора прыйдуць госці.

Калі памірае чалавек, то трэба закрываць люстэрка тканінай.

Праз парог нельга здаровацца, перадаваць што-небудзь, усё гэта да непрыемнасцей.

Нельга рассыпаць соль – дрэнная прымета.

У празнік царкоўны нельга нічога пазычаць і даваць пазыкі.

У доме павінен быць толькі адзін венік.

Нельга смецце кідаць у печ.

З грэбня валасы нельга выкідваць на вецер, на вуліцу, іх трэба спальваць.

Нельга круціць шапку на руцэ – будзе балець галава.

***Запісана ў в. Стаўбун Веткаўскага р-на***
***ад Чахоўскай Галіны Ягораўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Крупянковай А.***

Нельзя хадзіць маладым парам пасяродку двух сталбоў, значыцца разойдуцца скора і не будзя ў ніх шчасця.

Еслі ўдруг пайшол дождзь у час пахарон, значыт, харошы чалавек памёр і па ім плачут ангелы.

Калі на крышы пасяліліся ластаўкі, гэта значыць к шчасцю: вось у мяне жывуць на даху, і я амаль што гора не ведаю.

Калі была якая-небудзь засуха, то людзі раздзіралі жабу і пачынаўся дождж.

Калі ўся сям'я садзілася снедаць і на стале заставалася адна лішняя ложка, то гэта значыць к госцю.

А мая мама мяне заўсёды ругала маленькую, калі я пасля яды пераварочвала лыжку, гаварыла, што ат этава есць тры дня не захочаш.

Калі чалавек памірае, то яго радня ў магілу ложа грошы – плоця за места на тым свеце.

Пасля таго, як зашло сонца, нельга выносіць мусар – лічыцца, што выносіш сваё дабро.

Калі сніцца смецце, то гэта к багаццю, грашам.

Калі ламалася качарга ў хаце, значыць к хуткай смерці аднаго з членаў сям'і.

Калі ў хаце б'ецца пасуда, гэта значыць к шчасцю.

Калі адзенеш адзежду шыварат навыварат, то трэба пасля таго, як гэта заўважыў, хутка сняць адзенне і патаптацца па ім, бо цябе хтосьці паб'ець.

Нельга чалавека біць венікам – лічыцца, што яго пакусаюць сабакі.

***Запісана ў в. Дзербічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Казловай Валянціны Дзянісаўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Дзераўковай К. (2010 г.)***

## *Абярэгі*

Вянок сплятаюць з палявых кветак і кладуць пад галаву малому дзіцяці ў калыску, каб ноччу добра спала.

Калі будавалі хату, то пад вугал, дзе будзе вісець ікона, лажылі пятак, каб гаспадар быў багаты і шчаслівы.

Пасля захаду сонца не выносілі смецце з хаты, каб не было плётак.

Калі карова ацялілася, нельга ў той дзень нікому нічога даваць, каб не забралі ў каровы малако.

На захадзе сонца нельга лажыць малое дзіця спаць, а то ноччу будзе плакаць.

Перад родамі жанчыны зашывалі ў споднюю кашулю проскурку (хлеб выпечаны з белай мукі, не салёны, пасвечаны ў царкве), каб цяжарная добра і хутка радзіла.

***Запісана ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на***
***ад Гержы Любові Мікалаеўны, 1949 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

## *Сон*

Я ешчо знаю, у які дзень сон ісполніцца, а ў які не ісполніцца.

Панядзельнік – сон можа ісполніцца, еслі чалавек радзіўся ў панядзельнік.

Уторнік – сон можа ісполніцца чэраз 7 або 10 лет.

Серада – сон прадвяшчае што-небудзь.

Чацверг – сон не іспалняецца.

Пятніца – сон вешчы, прадказвает.

Субота – сон збываецца, но неабязацельна.

Васкрасеніе – еты сон нельзя нікому расказываць.

Кагда сняцца вшы, то гэта к грошам; цвяты сняцца – к удачы; гроб, калі сніцца старым, то гэта смерць, а калі маладым – грошы; цыгане сняцца ўсягда к чаму-та плахому і абману.

***Запісана ў в. Хутаранка Гомельскага р-на***
***ад Андрэйчык Лідзіі Міхайлаўны, 1942 г.н.,***
***студэнткай Сярогавай П.***

Кагда табе сніцца, што ў цябе зубы павыпадалі – нехта памрэ. Калі з кроўю – родны, кроўны.

Калі сніцца гразная вада, то ў справах чакае недобрае. А калі чыстая – будзе ўсё добра.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## *Імя*

Нельга называць навароджаных дзяцей імёнамі сваіх бацькоў, каб не паўтарыць іх лёс. Калі ў сям'і здарылася такое, што памёрла дзіця, то ў далейшым гэтым імем нельга называць іншых нованароджаных дзяцей у гэтай сям'і.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

## *Надвор'е*

Калі хаваюць памерлага і на вуліцы дрэннае надвор'е – была дрэнная душа ў памерлага.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

## *Хваробы*

Нельзя паказваць на сабе. Калі паказваеш пра якія-небудзь балячкі, то лічылі, што ў чалавека, які паказвае на сабе, будуць такія ж болькі.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

***Валянціна НОВАК***

## *Міфалагічныя ўяўленні пра рэчыўны свет*

Багаццем міфалагічных вераванняў вылучаецца рэчыўны свет беларусаў. Звернемся непасрэдна да характарыстыкі народных уяўленняў, звязаных з **акном**. Сімвалам сувязі паміж хатай і навакольным светам, а таксама паміж жыццём і "тым светам" з'яўляецца акно. "Акно – частка дома, якая надзяляецца шматстайнымі сімвалічнымі функцыямі і фігуруе ў абрадах у якасці нерэгламентаванага ўваходу або выхаду, супрацьпастаўленага дзвярам" [1, с. 286].

Паводле народных вераванняў, акно лічылася своеасаблівым "вокам" дома і праз яго ажыццяўлялася сувязь са светам мёртвых. "Праз яго выносілі памерлых нехрышчоных дзяцей і дарослых нябожчыкаў, якія памерлі ад "гарачкі". "Акно – адзін з міфапаэтычных сімвалаў і элементаў жытла. У семантыцы вобраза акна найбольш рэалізуюцца такія апазіцыі, як вонкавы – унутраны і бачны – нябачны. Суадносіцца з ідэяй уваходу, пранікальнасці. Акно звязвае жыллё са светам, са светам касмічных з'яў і працэсаў (з сонцам, месяцам, бакамі свету)" [2, с. 21].

Лічылася асабліва небяспечным пакідаць вокны адчыненымі і не перахрышчанымі нанач, таму што праз іх могуць тады ўвайсці нябожчыкі і нячысцікі і задушыць спячых" [2, с. 21]. Можна заўважыць, што міфалагема "акно" займае даволі значнае месца ў пахавальнай абраднасці. "Калі памірае чалавек, на акно ставяць свечку, кладуць цукеркі, якія павінны ляжаць да 40 дзён, а ў дзень саракавін гэтыя цукеркі трэба аддаць дзіцяці, тады яно не будзе хварэць" (запісана ў г. Рэчыца ад Галавіной Лідзіі Пятроўны, 1927 г.н.). "На акно ставілі ваду, каб душа абмылася" [2, с.21].

Паводле мясцовых вераванняў, калі птушка пастукала ў акно або пранікла ў дом праз яго, то хутка ў гэты дом прыйдзе бяда або нават і смерць. Гэтыя ўяўленні атрымалі шырокае распаўсюджанне ў міфалагічнай традыцыі жыхароў Гомельшчыны. "Раней быў пашыраны звычай мець у хаце тры акны "ў імя святой Тройцы", а большая колькасць вокнаў рабілася толькі ў выключных выпадках, і то з благаслаўлення святара і дазволу сходу" [2, с.22].

Як вядома, "ва ўкраінцаў, беларусаў, палякаў і іншых славянскіх народаў перадавалі праз акно дзіця, чые браты і сёстры да гэтага паміралі, з мэтай, каб яно засталося жывым. Праз акно выносілі дзяцей, якія памерлі нехрышчонымі, а іншы раз і дарослых нябожчыкаў" [1, с. 286].

Такім чынам, міфалагема "акно" асэнсоўваецца ў народных традыцыях як вока, якое звязвае навакольны свет з унутраным жыццём (жытлом чалавека), свет продкаў са светам жывых.

**Печ**, як дзверы і акно, таксама мае сувязь з навакольным светам, бо "пячная труба – гэта спецыфічны выхад з дома, прызначаны ў асноўным для звышнатуральных істот і для кантактаў з імі: праз яе ў дом пранікаюць вогненны змей і чорт, а з яго вылятаюць наружу ведзьма, душа памёршага, хвароба, доля, заклік, звернуты да нячыстай сілы, і т.п." [1, с. 310]. Народныя міфалагічныя аповеды звычайна звязваюць печ з такім персанажам, як дамавік. Невыпадкова частаванні для гэтай істоты пакідалі каля печы.

Зыходзячы з розных тэарэтычных даследаванняў па асэнсаванні міфалагічных вераванняў, звязаных з печчу, вынікае, што печ – цэнтр хаты. Напрыклад, паводле

сведчанняў Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н., "печ раней, расказвалі, ставілі пасрадзіне хаты. Ой, я помню: дзіця малое народзіцца, яго ў карыта, ды на печ. Ляжыць сабе там, яму цёпла". Але печ з'яўляецца і неабходным атрыбутам сялянскага жыцця. Печ саграваe людзей, у ёй рыхтуюць ежу, у становішчы на печы лечаць хваробы і г.д. Ва ўсіх значэннях печ для людзей – неабходнае, патрэбнае, самае галоўнае для чалавека-селяніна.

Печ як прадметны аб'ект прысутнічала ў шматлікіх абрадавых дзеяннях і асэнсоўвалася як рытуальны цэнтр у хаце, дзе адбываліся як сямейныя абрады, так і каляндарныя. Шмат прыкмет і павер'яў было звязана з печчу: "Калі гром грымеў і маланка бліскала, людзі кідалі ў печ усякія травы, напрыклад, папараць, лапух ці крапіву. Лічылася, што гром хутка пройдзе, не нарабіўшы дрэннага" [2, с.256]. Вяскоўцы былі перакананы ў тым, што попел, узяты з печы ў пэўныя святочныя дні, будзе вельмі карысным для ўраджайнасці агародніны: "У праздзнік Чысты Чацвер выграбаюць з печы попел. Ім добра летам пасыпаць капусту, каб не паела вусень, ды і ваабшчэ добра на гарод пасыпаць" (запісана ў г. Рэчыца ад Галавіной Лідзіі Пятроўны, 1927 г.н.). Ва ўкраінскіх і беларускіх павер'ях, звязаных з печчу, адлюстраваны розныя матывіроўкі яе пашаны: з аднаго боку, пасля таго як выцягнулі выпечаны хлеб з печы, трэба было пакласці туды адно, два або тры палены: "Рабілі гэта ў асноўным для таго, каб па іх на "тым свеце" перайсці праз пекла, праз вогненную раку або канаву з кіпячай смалой. Вядомы, аднак, і іншыя матывіроўкі: вынуўшы хлеб з печы, трэба кінуць туды палена, каб хлеб не выводзіўся…" [4, с. 311].

Звычайна каля печы выконваліся вясельныя абрады і звычаі. "Калі раней прыходзілі ў сваты, дзеўка сядзела на печы. Злезці з яе даўжна была тады, калі сагласіе даюць на замужжа" (запісана ў в. Ямпаль Рэчыцкага раёна ад Ярашка Антаніны Іванаўны, 1932 г.н.). У печы выпякалі вясельны каравай. "Каравай, канешна ж, пеклі ў печы. І дровы ў печы злажваюць асобенным спосабам, калі пякуць вясельны каравай" (запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.).

Прыгадаем прыклады міфалагічных уяўленняў пра печ у радзінна-хрэсьбіннай абраднасці: "Калі малое дзіця купаюць, ваду трэба выліваць пад печ" (запісана ў в. Ямпаль Рэчыцкага раёна ад Ярашка Антаніны Іванаўны, 1932 г.н.). Як вядома, да печы звярталіся і на працягу далейшага жыцця дзіцяці, што было звязана і з яго першым пострыгам, і з выпадзеннем зубоў і з іншымі момантамі: "Когда-то мы, когда были маленькие, если выпадал зуб, бегом бежали к печи, бросали зуб и говорили: "Мышка, мышка! На тебе зуб костяной, дай мне золотой" (запісана ў г. Рэчыца ад Потрусавай Зоі Антонаўны, 1949 г.н.). "Калі дзіцяці стрыгуць у год валасы, трэба іх абавязкова спаліць у печы" (запісана ў г. Рэчыца ад Галавіной Лідзіі Пятроўны, 1927 г.н.). "Калі зубы выпадалі, іх кідалі за шыйку печы, штоб раслі крэпкія, роўныя зубы, і казалі: "Мышка, мышка, вазьмі мае зубы" (в. Узнаж Рэчыцкага раёна).

Паводле народных уяўленняў, печ валодала магічнай сілай вызвалення ад хваробы. Невыпадкова іншы раз людзі лячыліся, грэючыся ля печы: "Хворага саджалі на чарэнь печы, грэлі плечы, пяткі. Печ выцягвала хваробу" [2, с.258]. "Ой, я помню, дзіця малое народзіцца, яго ў карыта дый на печ. Ляжыць сабе там, яму цёпла" (запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.).

У сувязі з тым, што печы ў міфалагічнай традыцыі надавалася вялікае магічнае значэнне, то і "ўшаноўвалі" яе перад пэўнымі святочнымі днямі: звычайна печ

заўсёды бялілі. Гэта з'яўлялася выражэннем асаблівай павагі да печы як да самага галоўнага аб'екта ў хаце. "Да святаў печ бялілі, каб людзі не абгаворвалі" [2, с.258]. Увогуле печ атаясамлівалі з гаспадыняй хаты, якая заўсёды павінна саграваць сваім гасцінным цяплом тых, хто зойдзе ў хату. Жыхары Рэчыцкага раёна прадказвалі надвор'е, кіруючыся міфалагічнымі ўяўленнямі, звязанымі з печчу: "Тапілі печ: так, калі дым да долу кучараецца, то пагода мяняецца на сырую. Калі дым сталбом, то – на мароз ці жару" [2, с.278].

Цяжарная жанчына ніколі не ела ў становішчы перад печчу, бо гэтая прыкмета "страшыла" будучую маці, якая перажывала, каб нічога благога не было з яе дзіцём. "Нельзя спажываць яду перад печчу, каб дзіця не было саплівым" [2, с. 281].

Звернемся да палявых экспедыцыйных матэрыялаў пра міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з **парогам**. У славянскай міфалогіі парог асэнсоўваецца як "сімвалічная мяжа паміж домам і знешнім светам" [1, с. 318]. “Да 19 стагоддзя дзесьці на Украіне захоўваўся звычай закопваць пад парогам памёршых нехрышчонымі дзяцей; гэта адпавядала асэнсаванню парога як месца, дзе знаходзяцца душы памёршых, і як мяжы паміж светам жывых і светам мёртвых” [1, с. 319].

У паўсядзённым жыцці беларусаў было прынята ўшаноўваць парог. Паводле народных вераванняў, спатыканне сватоў на парозе азначала іх няўдачу ў вырашэнні пытання аб згодзе маладой на шлюб. Жаніх абавязкова пераносіў маладую цераз парог (ці яна пераступала сама). Паводле сведчанняў жыхароў в. Скепня Жлобінскага р-на "праз парог нельга здаровацца, передаваць што-небудзь, месці смецце праз парог, доўга стаяць у парозе, не праходзячы ў хату, усё гэта да непрыемнасцей, няшчасця" [3, с. 232].

Як заўважыла жыхарка з в. Пятровічы Светлагорскага р-на Таццяна Пятроўна Пузына, 1925 г.н., “месці смеццё праз парог нельга, бо так як бы са смяццём і ўсё з хаты вымятаеш”. Устойлівымі ў народнай свядомасці з'яўляюцца міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з забаронамі передаваць што-небудзь у становішчы цераз парог, а таксама здаровацца: “Праз парог нічога нельга перадаваць, бо не вернуць і сам не забярэш. Здаровацца нельга, бо пасварышся”.

Жыхары в. Першамайск Рэчыцкага р-на таксама былі перакананы, што калі здаровацца, перадаваць праз парог што-небудзь, месці смецце, то гэта можа прывесці да бяды: “Праз парог нельга здаровацца, перадаваць што-небудзь, месці смецце цераз парог, доўга стаяць на парозе, не праходзячы ў хату, усё ета да непрыемнасцей, няшчасця” (запісана ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.).

У становішчы на парозе забаранялася есці, інакш “будзе няшчасце ў хаце” (запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.).

Пра важнае значэнне парога гаворыцца і ўміфалагічных аповедах, запісаных у в. Ямпаль Рэчыцкага раёна: "Нельзя даваць што-небудзь праз парог, нельзя вітацца з людзьмі праз парог" (запісана ад Ярашка Антаніны Іванаўны, 1932 г.н.). Гэта звязана было з тым, што парог з'яўляўся той мяжой, якая аддзяляла свет жывых ад свету памерших продкаў.

Паводле сведчанняў жыхароў в. Бабічы Чачэрскага р-на “не дазвалялася гасцям стаяць на парозе, лічылася, што калі ў хаце ёсць незамужняя дзяўчына, то яна не выйдзе замуж” (запісана ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.). На пытанне, чаму нельга размаўляць, стоячы на парозе, жыхары з в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на патлу-

мачылі, што “ссора будзе” (запісана ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1921 г.н.).

Вяскоўцы імкнуліся мінімізаваць небяспечнае ўздзеянне нячыстай сілы, таму “пад парог клалі нож, каб нечысці не праходзілі” (в. Пятровічы Светлагорскага р-на). Прытрымліваюцца і ў сучасным жыцці такіх правіл для маладых людзей, якія датычаць забароны для іх ступаць на парог хаты: “Муж ужэ доўжан жану ўзняць на рукі і на адной наге перапрыгнуць разам з жаною парог…” (в. Пятровічы Светлагорскага р-на).

"Большасць з нашых сучаснікаў ведаюць аб гэтым, але не могуць растлумачыць, чаму парог стаў такой незвычайнай зонай у хаце. Адказ можна знайсці, калі ўважліва ўгледзецца і паразважаць пра ніжні ўзровень пабудовы хаты. Яшчэ і сёння ў многіх вясковых хатах адразу за парогам ёсць "вечка" ("вочка" – тое ж вока), праз якое можна трапіць у пограб (падполле, склеп), дзе на працягу халоднага часу захоўваецца бульба, квашаная капуста, засоленыя гуркі, грыбы і інш. Але гэта цяпер. А раней, недзе паміж 6 і 14 стагоддзямі пограб (паграбенне) быў месцам пахавання памершых. Гэта быў перыяд крэмацыі – трупаспальвання. Памершага чалавека спальвалі на рытуальным месцы, а ўрну з прахам хавалі пад парог. Значыць, гістарычна парог – месца обо зона захавання продкаў. Тады становяцца зразумелымі ўсе пералічаныя вышэй сітуацыі" [2, с. 301].

"Парог, найбольш рытуалізаваны сімвал мяжы паміж хатай як максімальна засвоенай, акультуранай чалавекам часткай прасторы і навакольным, патэнцыйна варожым светам (іншасветам, светам памершых). Найбольшае значэнне парог меў у сямейнай абраднасці і знахарстве. У радзіннай абраднасці ў адпаведнасці з дародавым, родавым і пасляродавым этапамі парог інтэрпрэтаваўся ці то як самая небяспечная, ці то як дапаможная і лёсастваральная частка прасторы. Так, цяжарнай жанчыне, кантакты якой з навакольным светам моцна абмяжоўваліся, забаранялі затрымлівацца і сядзець на парозе, бо будуць цяжкія роды [2, с.12]. “Бярэменным жанчынам нельзя ў парозе стаяць, таму, што дзіця будзе ў праходзе доўга стаяць у час родаў” (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.).

"Для аблягчэння родаў муж павінен быў пераступаць жонку якая ляжала на парозе, захінуўшыся ў кажух (адбывалася сімвалічнае размыканне мяжы з іншасветам, адкуль, паводле ўяўленняў, і прыходзіла дзіця).

Пад парог закопвалі дзіцячае месца, што сімвалізавала своеасаблівы выкуп, дар іншасвету за дзіця" [2, с.302].

З парогам у народзе звязвалі ўяўленні пра духаў памерлых, якія, лічылі, маглі ўплываць на жыццё сваіх родзічаў. “У Харкаўскай губерні дзіця-сірата ў дзень пахавання бацькі або маці павінна было, седзячы на парозе, з’есці кавалак хлеба з соллю, каб не сумаваць па памёршаму і не адчуваць страху” [1, с.319].

У гэтай сувязі з’яўляюцца невыпадковымі прыкметы і павер’і, якія і раскрываюць лёсавызначальную ролю парога. Разам з тым, іх можна класіфікаваць у адносінах да полаўзроставай катэгорыі: "Пасля купання дзяўчынкі ваду адмыслова вылівалі за парог, каб у свой час тая выйшла замуж. Перад тым, як везці дзіця да хросту, бацькі клалі на парог рэчы (сякеру, далато, калі хлопчык, лён, верацяно – калі дзяўчынка), якія мусілі ў будучым развіць у дзіцяці ўмельства ў пэўнай галіне" [2, с.302]. Замаўляючы дзіця ад сурокаў ці спуду, сплёўвалі цераз парог. У становішчы цераз парог вылечвалі і тых людзей, у якіх балелі зубы.

У абрадавай практыцы беларусаў важнае месца адводзілася і такому аб’екту, як **стол**, які з’яўляўся, зыходзячы з народных вераванняў, адным з найбольш рытуалізава-

ных і шанаваных прадметаў у традыцыйнай культуры. Паводле меркаванняў даследчыкаў, зыходзячы з прасторавай характарыстыкі інтэр'ера, стол асэнсоўваецца як прадметны атрыбут, звязаны з верхам, (бел. "столь"), усходам і адпаведна са святлом (месцазнаходжанне стала – покуць, чырвоны кут). У міфалагічнай традыцыі за гэтым прадметам замацавалася выразная мужчынская сімволіка. Стол, як правіла, займаў у хаце цэнтральнае месца, быў засланы абрусам, на якім ляжалі хлеб і соль. Яго месцазнаходжанне змянялася толькі ў выключных выпадках падчас абрадавых дзеянняў.

"Стол ёсць неад'емны атрыбут рытуалаў, цэнтральную ці значную частку якіх складае абрадавая трапеза (Дзяды, вяселле, пахаванне, Каляды, Вялікдзень і інш.), дзе ён набывае «падкрэсленую функцыю сакральнага цэнтра, своеасаблівага ахвярніка, калі пачастунак прызначаецца не толькі прадстаўнікам чалавечай, але і касмічнай супольнасці" [2, с. 490]. "Паводзіны за сталом жорстка рэгламентаваліся і ў штодзённым жыцці. Катэгарычна забаранялася сядзець на стале, што магло прывесці да жудаснай нястачы ў сям'і, класці на стол рэчы, ніяк не звязаныя з яго функцыямі" [2, с. 490]. Напрыклад, ураджэнка в. Баршчоўка Лоеўскага раёна Юлія Раманаўна Масленчанка адзначыла: «Нельга на стол садзіцца, лажыць шапку, адзёжу. Павінен стол чыстым быць заўсёды. Нічога не астаўлялі на ім, а калі астаўлялі, то накрывалі ручніком – хавалі ад нячыстай сілы» [3, с. 253].

Паводле ўяўленняў жыхароў в. Узнаж Рэчыцкага раёна «садзіцца на стол – гэта вялікі грэх. Калі мужчына шапку на стале аставіць – напасць будзе» [12, с. 259]. "Так, калі на стол пакласці сякеру – ваўкі будуць чапляцца да жывёлы, калі шапку – у хаце адбудзецца сварка (Слуцкі пав.), грэбень – будзе балець галава і інш.)" [3, с. 253].

Нельга не пагадзіцца з выказваннем С. Санько, што "чатырохкутнасць стала сімвалічна суадносіла яго з бакамі свету і іграла значную ролю ў падтрыманні полаўзроставай і сацыяльнай іерархіі ў межах сям'і, што выяўлялася ў размежаванні сямейнікаў за сталом падчас трапезы (на чале стала – пад абразамі – гаспадар, справа ад яго іншыя мужчыны, злева – жанчыны адпаведна з іх статусам у сям'і)" [2, с. 490].

Уяўленні людзей аб стале былі звязаны не толькі з унутраным або духоўным станам чалавека (напрыклад: "нельзя сядзець на стале, бо дзень закончыцца непрыемнасцямі" (Запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.), або "на стале не пакідаюць шапку, бо будзе балець галава" (Запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Кацярыны Рыгораўны Борсук), але і з яго знешнім выглядам, здароўем. "На голым стале нельзя есці. Абязацельна стол далжон быць накрыты скацеркаю. Гэта штоб былі абутыя і адзетыя" (Запісана ў в. Ямпаль Рэчыцкага раёна ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). "Нельзя яшчэ на стале астаўляць недаедзены кусок хлеба, бо астаўляеш сваё здароўе" (Запісана ў в. Свірыдавічы ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.).

**Люстэрка** з'яўляецца сімвалам мяжы паміж гэтым і тым светам. "Люстэрка ў народных уяўленнях – сімвал падваення рэчаіснасці, мяжа паміж светамі, прадмет-абярэг. Люстэрка – у месцы знаходжання прадстаўніка іншага свету адкрывае да таго доступ, робячы тым самым яго бачным для людзей, і таму люстэрка не любілі Дамавік, Хохлік, якія дакучаў каню, хваробаносная жаба ды інш." [2, с.296]. Лічылі, што адлюстраванне нячыстай сілы ў люстэрку можа прывесці да страты адмоўнай сілы ўздзеяння. Гэта было звязана, як падкрэсліла Т. Валодзіна, як з эфектам падваення, так і з агульнай негатыўнай семантыкай парнасці. Люстэрка выконвала функцыю пасрэдніка, што

можна назіраць у шматлікіх абрадах. "У люстэрка забаранялася глядзець цяжарным жанчынам, навароджанаму дзіцяці, а таксама нябожчыку, бо лічылася, што могуць праз люстэрка правесці нячыстую сілу на жывога чалавека, або перавесці яго ў іншы мір і там пакінуць" [3, с. 254].

Асцерагаліся, каб не разбілася люстэрка: "Калі паб’еցца зеркала, сям’е плоха, смерць можа быць родных» [3, с. 260]. "У гэтым плане люстэрка выконвае функцыю праекцыі ці адлюстравання і тым самым стасуецца з ценем і рэхам" [2, с. 296].

У сістэме агульных уяўленняў праз свет жывых і мёртвых, на думку Т. Валодінай, менавіта люстэрка служыць у якасці "мадэлі іх судачыненняў: той свет нярэдка асэнсоўваецца як «залюстроў’е», як перавернуты свет жывых, як гэты свет, дзе, прынамсі, правае і левае мяняюцца месцамі» [2, с. 297].

Зыходзячы з асэнсавання асаблівасцей светаўспрымання старажытных людзей, можна меркаваць, што люстэрка адлюстроўвала ўсе тыя пачуцці чалавека, якія былі звязаны са страхам перад невядомым, непазнаным або будучым чалавека. У гэтым плане можна растлумачыць семантыку паводзін дзяўчат у час варожбаў.

Шмат народных прадпісанняў, звязаных з люстэркам, адносіцца да пахавальнай абраднасці: "Калі ў хаце быў нябожчык, то абязацельна закрывалі ўсе зеркала, штоб смерць ушла і не вярнулася» (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). «Усе люстэркі закрываюць тканінай, калі ў хаце памёр хто-небудзь, каб не дай, Бог, нябожчыка не было відаць, бо тады смерць можа ў хуткім часе зноў у гэтую хату прыйсці», – адзначае Ганна Захараўна Вазюра, 1925 года нараджэння, жыхарка в. Свірыдавічы. У в. Узнаж існуе такое ж павер’е. "Калі ў хаце нябожчык, зеркала закрывалі, каб не ўбачыць атражэнне" [3, с. 260]. У гэтым выяўляецца, як бачым, страх чалавека перад смерцю.

Зыходзячы з вераванняў жыхароў Рэчыцкага раёна люстэрка забірае моц і энергію чалавека, таму што ў ім знаходзіцца «нячыстая сіла». «Ваабшчэ ў зеркале нячыстая сіла.У яго грэх глядзецца ўвечары» (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.).

"Нельзя глядзецца ў зеркала, калі ясі, бо адбірае харошасць у дзеўкі» (запісана ў в. Свірыдавічы ад Кацярыны Рыгораўны Борсук). «Нельзя есць і глядзецца ў зеркала – з’ясі сваю красату» [3, с. 260]. Адзначаюць у народзе, што і дзеткам нельга глядзецца ў люстэрка. «У зеркала нельзя глядзецца маленькім дзеткам» (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). «Дзіцяці нельга глядзецца ў зеркала – пугацца будзе» [3, с. 259].

**Венік** надзелены амбівалентнымі ўласцівасцямі: з аднаго боку, гэта “небяспечны” і “нячысты” прадмет, сродак псоты і чараўніцтва, з другога боку, гэта абярэг ад злосных сіл [1, с. 75]. Паводле народных уяўленняў пад венікам жыве дамавік, невыпадкова, калі пераязджалі ў новую хату, абавязкова забіралі з сабой стары венік [1, с. 75]. Як падкрэсліла Вікторыя Яфімаўна Яфрэмава, 1936 г.н. з в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна, “Нельга венік кідаць, гдзе папала, бо там дамавы жыве. Ён абідзіцца”. Прыведенае меркаванне пацвердзілі жыхары іншых мясцовасцей, напрыклад, з в. Краснае Гомельскага раёна: “Пад венікам жыве дамавік, таму не трэба кідаць венік на пол, астаўляць гразным” (запісана ад Бажковай М.А., 1936 г.н.). Паводле перакананняў апошняй, нельга падмятаць падлогу ў хаце, калі хтось ад’язджае ў гэты дзень: “Калі хто паехаў з хаты, не нада падмятаць услед, бо вымяцеш чалавека і ён не вернецца”.

Прынцып сімільнай магіі (па падабенству) ляжыць у аснове вераванняў пра венік, якія датычаць сямейна-шлюбных адносін: "Калі дзевушку нікак замуж не бралі, то яе падруга, якая выходзіла замуж, далжна была яе "вымесці" з хаты новым венікам" (запісана ў в. Краснае Гомельскага раёна ад Бажковай М.А., 1936 г.н.). "Забаранялася месці ў хаце пасля таго, як нехта выправіўся ў дарогу, а таксама ў памінальныя дні" [2, с.78]. Прыведзеныя звесткі пацвярджаюць жыхары г. Рэчыца і Рэчыцкага раёна, напрыклад, яны з нейкай асцярогай прыгадвалі пра забарону месці ў хаце, калі нехта выпраўляецца ў дарогу. Зоя Антонаўна Потрусава, 1949 г.н. зазначыла: "Нельзя подметать в доме, если кто-то из домашних собирается в дорогу, особенно в дальнюю, потому что будет дорога трудной, и ни в коем случае нельзя мести именно в тот момент, когда человек выходит из дома, потому что может не вернуться домой.

"Калі госці ўязджаюць, то пакуль яны ў дарозе, нельга месці ў хаце, каб людзям была добрая і спакойная дарога" [3, с. 235]. Вялікую магічную сілу мелі і павер'і пра смецце, якія былі непарыўна звязаны з павер'ямі пра венік. "Калі хтось хоча штось плахое зрабіць каму-небудзь, то ён у Каляды выкідвае сваё смецце ў гарод, а куры нясуць яго ў чужы гарод. Тады ўсё плахое з той хаты ідзе да другога чалавека" (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). "Нельга і ад парога ў хату месці смецце, трэба наадварот" (запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Кацярыны Рыгораўны Борсук). "Нельга перамятаць смецце праз парог, каб у доме быў дастатак, грошы" (запісана ў в. Свірыдавічы ад Кацярыны Рыгораўны Борсук). "Ставілі венік уверх нагамі, каб было багацце ў доме" (запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). "Нельзя, каб хто чужы вымятаў смецце з хаты" (Запісана ў в. Свірыдавічы ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.). Адсюль выразна відаць, што смецце, як і венік у павер'ях беларусаў, было звязана з дабрабытам, дастаткам.

"Цераз венік пераступаць нельзя" (запісана ў в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.). "Нельзя месці пасля заходу сонца. І ў хаце месці нельзя, і на вуліцы. А мы мятом усюды, і двор мятом. Таго мы і такія" (Запісана ў в. Ямпаль ад Антаніны Іванаўны Ярашка, 1932 г.н.). З прыведзеных звестак можна зрабіць вывад, што людзі лічылі за грэх адступаць ад павер'яў, звязаных з венікам, са смеццем. Верылі, што калі перад Новым годам падмесці старым венікам хату, а потым яго і спаліць, то можна пазбавіцца ад усяго дрэннага: "Перад Новым годам абязацельна вымяталі хату, а стары венік ламалі і выкідалі ці спальвалі ў печцы, штобы ўсё плахое з хаты пайшло" (в. Краснае Гомельскага раёна). У рускай міфалагічнай традыцыі "да свята Івана Купалы быў прымеркаваны абрад знішчэння старых, сцёртых венікаў і падрыхтоўкі новых. Старыя венікі спальваліся на купальскім кастры, што сімвалізавала знішчэнне ведзьмы" [1, с. 77]. "Пасечаны венік, на якім заставаліся ўсе грахі, спальвалі ў печы, раскідвалі па двары, па хляве, выносілі разам са смеццем у сад пад пладовае дрэва. Нярэдка гэыя дзеянні разумеліся як абярэг ад нячыстай сілы, чараўніцтва, псоты, хвароб або як магія" [4, с. 312]. У паўночных раёнах Чарнігаўшчыны пасечаны венік таксама выкідывалі, а іншы раз яго выкарыстоўвалі дзяўчаты падчас варажбы: "Выносілі венік і смецце на засланцы да перакрыжавання і слухалі, з якога боку данясецца брэх сабак або іншыя гукі, па якіх меркавалі аб сваім замужжы" [4, с. 312].

У штодзённым жыцці ў розных бытавых сітуацыях мы даволі часта карыстаемся рознымі відамі венікаў: венік бярозавы, з якім можна папарыцца ў лазні; венік, якім падмятаюць падлогу ў хаце; венік, якім мятуць вуліцу.Як сведчаць фактычныя

матэрыялы, толькі “хатні венік” у народных павер’ях, надзелены глыбінным сэнсам і магічнай сілай. Магічныя ўласцівасці веніка адзначалі многія даследчыкі. "Венік, прадмет хатняга ўжытку, надзелены ў народных уяўленнях дэманічнымі і апатрапейнымі якасцямі. Утылітарная яго суаднесенасць са смеццем паказвае на сувязь з продкамі, бо смецце само па сабе з’яўлялася як бы матэрыяльным увасабленнем душы чалавека: будучы ў судакрананні з чалавекам, яно "ўцягвала" яго ў пэўную ідэальную частку, надоўга захоўвала яе. Таму натуральнае атаясамленне веніка з хатнім духам. У вёсках забаранялася выкідваць венік, так і казалі: "Не нада выкідваць гаспадара" [2, с. 77]. "Пад венікам жыве дамавой, ён заўсёды там. Таму нельга кідаць венік дзе папала. Трэба, штоб стаяў ці ля парога, ці пад печчу" (запісана ў в. Свірыдавічы ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.).

Можна адзначыць сімвалічную ролю веніка ў пахавальнай абраднасці. Як адзначае Т.В. Валодзіна, венік дэманструе рысы як абярэга, так і ўвасаблення душы памерлага продка (што ў дыяхраніі арганічна звязана) [2, с. 77]. "Вымяталі смецце з хаты, калі выносілі труну з нябожчыкам. Гэта для таго, каб смерць ішла за нябожчыкам" (запісана ў в. Свірыдавічы ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.).

"Вядомыя прадпісанні перакідваць венік праз страху для паляпшэння агоніі таму, хто памірае. Семантыка веніка як увасаблення і локуса дамавіка (душаў продкаў) абумовіла выкарыстанне яго ў народнай медыцынскай магіі. Адметна, што венік мог "прымаць на сябе" хваробу ("ад урокаў матка хуценька праводзіць венік злева і выкідвае той венік з хаты") і служыць своеасаблівым каналам для яе выдалення. З утылітарнай функцыяй ачышчэння, вымятання нечысці звязаны абарончыя, ачышчальна-прадукавальныя функцыі веніка, успрыманне яго як сродку пазбаўлення ад сурокаў і хваробаў" [2, с. 78].

"У народнай культуры выразна размяжоўваюцца функцыі зялёнага веніка і веніка сухога, "змеценага", які ў дыялектах называўся "галень", "дзяркач". Паводле народных уяўленняў, такі венік быў звязаны найперш з дэманалагічнымі вераваннямі. Жыхарка в. Ямпаль Антаніна Іванаўна Ярашка 1932 г.н., адначыла, што "нельзя венікам біць чалавека, асобенна сухім, каб чалавек не сох". Можна зрабіць вывад, што венік у народных вераваннях быў надзелены амбівалентнымі ўласцівасцямі: сухі венік быў звязаны з адмоўнай сілай магічнага ўздзеяння, зялёны венік меў станоўчую сімволіку. “Зялёны, лазнёвы венік, наадварот, увасабляў мужчынскую моц, здароўе, хоць і лічыўся датычным да праяваў іншасвету” [2, с. 78].

**Качарга** – прадмет пячнога начыння, арганічна звязаны з агнём. У мясцовых запісах гэты прадметны атрыбут асэнсоўваецца як надзвычай важны асабліва тады, калі чалавек выпраўляецца ў дарогу: “Калі чалавек выпраўляўся куды-небудзь, то родныя ставілі качаргу ўверх (дагары), каб везла ў той справе, па якой чалавек паехаў ці пайшоў” (запісана ў в. Старыя Дубровы Акцябрскага р-на ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.). Забарону падпіраць качаргой печ звязвалі з тым, што муж будзе здраджваць жонцы: “Няможна падпіраць печ, бо мужык гуляць будзе” (запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Сумар Агаф’і Аляксееўны, 1929 г.н.). “Выкарыстанне качаргі ў радзінных і вясельных абрадах падкрэслівае, з аднаго боку, зварот да іншасвету па спрыянне (сват, адпраўляючыся на перамовы, кідаў качаргу і ўсё, што ёсць у качарэжніку, на печ, каб сватаўство было паспяховым, а з іншага – актуалізуе яе фалічнае значэнне: праз качаргу пераступалі і парадзіха, і нявеста, у час сватання звязвалі качарэжнік матузом. Падчас калядных варожбаў на качарзе скакалі толькі дзяўчаты і ніколі –

хлопцы” [2, с. 241].

Шмат прыкмет і павер’яў было звязана з **нажом**. “Вострая, металёвая прырода нажа абумовіла функцыянаванне яго ў якасці абярэга і сродка супрацьстаяння нячыстай сіле, як ахоўнай мяжы супраць пранікнення смерці. Нож укладалі ў калыску, каб абараніць дзіця, і ў труну чарадзею, каб засцерагчыся ад яго вяртання. Значная колькасць прадпісанняў народнай медыцыны, звязаная з выкарыстаннем нажа, абапіраецца на матывы рэзання хваробы, спрыяння з боку агню, на яго апатрапеічную моц” [2, с. 343].

Звернемся да фактычных матэрыялаў, якія пацвярджаюць факты магічных маніпуляцый з нажом: “Аднаго разу перад вяселлем маладой зрабілася вельмі плоха. У хаце было многа дзяўчат, жанчын. Хросная маладой узяла ціхонька ўстрыкнула нож у стул, які стаяў у кутку. Яна яго ўстрыкнула знізу, так, што не было відна. Праз некаторы час на гэты стул села жанчына, суседка. Яна на ім сядзела вельмі доўга, увесь час круцілася, як бы ёй штось муляла, але не ўставала з яго. Устала толькі тады, калі падышла хросная маці дзеўкі (маладой) і выняла з-пад стула гэты нож. Яна выгнала гэту суседку, бо яна хацела зрабіць маладым штось плахое, а нож дапамог узнаць, чаму маладой зрабілася так плоха” (запісана ў в. Свірыдавічы ад Ганны Захараўны Вазюра, 1925 г.н.). Як бачым, нож з’яўляўся ў некаторых сітуацыях абярэгам людзей ад звышнатуральнага ўздзеяння “ведзьмаў” і пры дапамозе нажа можна было засцерагчыся ад усяго злоснага. Нож выкарыстоўвалі, калі трэба было засцерагчы жанчыну пасля родаў ад звышнатуральнага ўздзеяння нячыстай сілы: “На Палессі, выходзячы з хаты пасля родаў, жанчына затыкала за пояс нож (радзей – ключ або цвік)” [1, с. 275]. Ва ўкраінскай міфалагічнай традыцыі “кум і кума”, адпраўляючыся ў царкву хрысціць дзіця, пераступалі праз нож, пакладзены каля парога або на парог, так рабілі, “каб да дзіцяці яшчэ не хрышчонага, не змог падступіць нячысты дух” [1, с. 275]. У некаторых сітуацыях нож выкарыстоўвалі з пэўнай прагматычнай мэтай, напрыклад, каб на вяселлі госці менш елі: “Калі свадзьба, а бацькі маладых ці скупыя, ці бедныя, ці не радыя шлюбу, то яны нажа ў стол застыркалі пад ніз, штоб госці на вяселлі менш елі або штоб зусім нічога ў рот не лезла” (Запісана ў в. Запясочча Жыткавіцкага раёна ад Русай Мелахі Іванаўны, 1915 г.н.). Аналагічныя павер’і зафіксаваны і ва Украіне: “У Ровенскай і Валынскай абласцях вядомы выпадкі, калі ў час вяселля, збору моладзі або вялікага свята ў стол утыкалі знізу нож, каб госці менш елі” [1, с. 275]. І ў беларускай, і ва ўкраінскай традыцыях выкарыстанне нажа падчас абраду падрыхтоўкі каравая сімвалізавала плён зладжанай працы каравайніц: “У Чарнігаўскай губерні ў час падрыхтоўкі вясельнага каравая пасля таго, як цеста вымалі з дзяжы і пачыналі мясіць на стале, у сярэдзіну пустой дзяжы ўтыкалі востры нож і пелі” [1, с. 275].

Сярод міфалагічных уяўленняў, звязаных з нажом, можна адзначыць наступныя: “З нажа нельзя есць, а то будзіш злым” (запісана ў в. Бярозкі Добрушскага раёна ад Касцюковай Яўгеніі Аляксандраўны, 1939 г.н.); “на стале нельзя астаўляць нож, а то будзе пусты стол” (запісана ў в. Марозаўка Добрушскага раёна ад Глушаковай Веры Сцяпанаўны, 1934 г.н.); “нож упаў – зойдзе недруг” (запісана ў в. Кругоўка Добрушскага раёна ад Лугавой Кацярыны Захараўны, 1937 г.н.).

Засяродзім увагу на шматлікіх міфалагічных уяўленнях, звязаных з **соллю**. “Соль у рытуальных кантэкстах выкарыстоўвалася з хлебам, часта яны разглядаліся як адзінае цэлае: “клішэ “хлеб-соль” наогул выкарыстоўвалася для абазначэння ежы і пачастунку. Як сведчаць этнографы, беларусы заўсёды трымалі на стале хлеб і

драбінку солі” [2, с. 477].

“Рассыпанне” солі сімвалічна асэнсоўвалася як негатыўны факт: лічылася, што гэта можа азмрочыць добрыя адносіны паміж людзьмі. У сувязі з гэтым асцерагаліся падобных маніпуляцый з гэтым рэчывам: “Нельзя рассыпаць соль – паругаешся з кем-небудзь” (запісана ў в. Будзішча Чачэрскага р-на ад Елавой Наталлі Васільеўны, 1964 г.н.); “Еслі рассыпаецца соль, то ў хаце будзе сварка” (запісана ў в. Хізаў Кармянскага р-на ад Матвейчыкавай Марыі Іванаўны, 1929 г.н.).

Жыхары в. Літвінавічы Кармянскага р-на лічылі, што “соль не трэба даваць з дому, бо, гаворац, што дома будзе вялікая сварка, таксама могуць навесці порчу”. Каб не дапусціць сваркі ў тым выпадку, калі рассыпалася соль, трэба было, зыходзячы з народных вераванняў, яе “адразу паліць вадой” (запісана ў в. Літвінавічы Кармянскага р-на ад Балотнікавай Галіны Пятроўны, 1928 г.н.).

У в. Хізаў Кармянскага р-на вышэйпрыведзенае павер’е дапаўнялася яшчэ і тым, што пазыку солі звязвалі не толькі з дрэнным жыццём, але і з адсутнасцю грошай: “А яшчэ гаворац, калі пазычаць соль, то не будзе грошай” (запісана ў в. Хізаў Кармянскага р-на ад Матвейчыкавай Марыі Іванаўны, 1929 г.н.).

Жыхары Добрушчыны былі перакананы, што “соль дарам нікому не даюць, бо паругаюцца паміж сабой” (запісана ў в. Бярозкі ад Касцюковай Яўгеніі Аляксандраўны, 1939 г.н.).

Магічнае значэнне солі як важнага прадметнага атрыбута ў рытуалах вылячэння людзей ад спалоху пацвярджаецца сведчаннямі інфарматараў з розных раёнаў Гомельшчыны: “Бабкі-шаптухі іспользуют соль, калі адшэптваюць іспугі” (запісана ў в. Будзішча Чачэрскага р-на ад Елавой Наталлі Васільеўны, 1964 г.н.).

**Хлеб** як прадметны атрыбут і як вобраз даволі часта выкарыстоўваецца і ў абрадавай практыцы беларусаў, і ў розных фальклорных жанрах.

“Як найбольш сакралізаваны від ежы, сімвал дабрабыту, шчасця, дастатку. “Як Дар Божы” з’яўляецца ўвасабленнем чалавечай (калектыўнай і персанальнай долі, карыстацца асаблівай пашанай і выклікае амаль рэлігійнае стаўленне)” [2, с. 532].

Невыпадкова пра хлеб, зыходзячы з народных вераванняў, “не нада дажа думаць плахога. Як пачынаеш рэзаць, дак нада перахрысціцца” (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Ком Марыі Гардзееўны, 1933 г.н.). Забарона “рэзаць хлеб” вынікае з рэлігійных уяўленняў аб тым, што гэта грэх, бо “нада хлеб ламаць, бо і Ісус сказаў, каб так было. Ён разламаў хлеб у чысты чацвер і даў людзям” (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Ком Марыі Гардзееўны, 1933 г.н.).

Вялікім грахом лічыцца і выкідванне хлеба: “Выбрасываць хлеб – вялікі грэх, нада яго скаціне лепш аддаць” (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Века Вольгі Мікалаеўны, 1927 г.н.). Хлеб выкарыстоўвалі ў калядных варожбах: “На хлебе ж і гадаюць. Дзеўкі ложаць кускі хлеба: чыйго сабака хутчэй схваціць – тая і замуж хутчэй выйдзя” (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Века Вольгі Мікалаеўны, 1927 г.н.). З дапамогай хлеба імкнуліся вызначыць, якім будзе сямейны лёс: “Калі кусаеш з двух кускоў хлеб, то будзе два мужыкі” (запісана ў в. Бярозкі Добрушскага р-на ад Сафонавай Ніны Васільеўны, 1934 г.н.).

**Гаршчок** – адзін з тых прадметаў побыту, які выкарыстоўваецца ў шматлікіх абрадах, рэпрэзентуючы пры гэтым сабой чалавека – яго галаву і чэрава, а таксама

дом рэальны, зямны і дом – дамавіну апошнюю [2, с. 116].

На вялікі жаль, у беларускім энцыклапедычным выданні па міфалогіі адсутнічаюць сучасныя запісы звестак пра гаршчок. Таму прапанаваныя даследчыцай Т. Валодзінай меркаванні адносна яго семантыкі патрабуюць пашырэння базы фактычных дадзеных. Экспедыцыйныя палявыя запісы – надзейная крыніца сведчанняў на карысць розных магічных характарыстык, якія надаваліся гэтаму прадметнаму атрыбуту, што займаў належнае месца ў рытуальных практыках беларусаў. Напрыклад, з магічнай сілай чарапкоў ад разбітага гаршка, звязвалі ўплыў на дзетанараджэнне: "Гаршчок з кашай разбіваюць на хрэсьбінах. Чарапкі кладуць на галавы маладым замужнім жанчынам, каб у іх былі здаровыя дзеці" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Балянковай А.С., 1917 г.н.). Прынцыпам сімільнай магіі абумоўлены той факт, што "даюць патрымаць чарапкі ў зубах тым, хто жадае мець здаровыя зубы" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Балянковай А.С., 1917 г.н.). Выкарыстоўвалі гаршчок у рытуалах вылячэння хваробы "залатнік: "яго (гаршчок) ставілі на тое месца, дзе баліць" (запісана ў в. Баршчоўка Лоеўскага р-на ад Масленчанка Юліі Раманаўны, 1935 г.н.).

Выкарыстоўвалі гаршчок у рытуалах вылячэння хваробы "залатнік: "Яго (гаршчок) ставілі на тое месца, дзе баліць" (запісана ў в. Баршчоўка Лоеўскага р-на ад Масленчанка Юліі Раманаўны, 1935 г.н.).

Важнае месца адводзілася менавіта гаршку, калі вырашалася пытанне пошуку месца для будаўніцтва дома: "Гаршчок выкарыстоўвалі пры будове дамоў ці калі шукалі ваду. Яго ставілі на тое месца, дзе збіраліся строіць дом. Калі раса была на гаршку, то, значыць, вада блізка і дом тут строіць нельзя. Калі ж гаршчок быў сухі, то можна будаваць дом" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Балянковай А.С., 1917 г.н.).

Спектр міфалагічных уяўленняў, звязаных з **грэбнем,** не такі і шырокі. Паводле палявых матэрыялаў, зафіксаваных на тэрыторыі Гомельшчыны, нельга дапускаць наступных маніпуляцый з грэбнем: "нельзя грэбень браць у рот, бо будзе слюнявы рот" (запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.); "нільзя на стол лажыць, а то вошы заядуць" (запісана ў в. Збароў Рагачоўскага р-на ад Восіпавай Марыі Пятроўны, 1936 г.н.).

Імкнуліся захоўваць грэбень, "у нейкія месцы ад другіх вачэй, каб галава не балела" (запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.). Грэбень, лічылася, валодае апатрапейнымі асаблівасцямі. Яго невыпадкова кладуць у труну, "калі чалавек насіў яго пры жыцці. Кажуць, што ён можа спатрэбіцца на тым свеце" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кімянковай Г.Н., 1917 г.н.).

Забарона перадаваць свой грэбень чужым людзям была абумоўлена тым, што яго "раней насілі на галаве, каб ніхто іншы яго не ўзяў" (запісана ў в. Дублін Баргінскага р-на ад Піляк Тамары Іванаўны, 1940 г.н.).

Грэбень – важны прадметны атрыбут у варожбах: "Грэбень дзяўчаты выкарыстоўваюць у гаданнях, каб убачыць свайго суджанага. Кладучыся спаць, дзяўчаты кладуць пад падушку грэбень і палаценца і гавораць: "Сужаны, ражаны, прыхадзі да мяне, умой і прычашы". Той, хто сасніцца, той і будзе сужаным" (запісана ў в. Хізаў Кармянскага р-на ад Сцепаньковай Надзеі Мікалаеўны, 1956 г.н.).

Матыў прычэсвання валасоў мае несумненную шлюбную скіраванасць. "У міфалагічным успрыманні часальны грэбень выступае як сакральная прылада, з дапамогай якой з хаатычнага неапрацаванага лёну ствараўся арганізаваны пачатак – валакно.

Гэтак жа, прычэсванне чалавекам сваіх валасоў сімвалізавала пераход да культуры соцыуму. Адсюль набыццё грэбнем якасцяў прадмета-медыятара паміж прыродным і культурным і выкарыстанне яго ў варожбах і магічных рытуалах кантакту з нечысцю" [2, с. 127-128].

Шматлікія міфалагічныя ўяўленні звязаны з **іголкай**, "згадкі пра якую выяўляюць сувязь яе з ідэяй руху і адпаведна з матывам кантакту з тым светам. Іголка ўваходзіла ў склад пасагу, што, акрамя ўтылітарных намераў, звязвала яе з ідэяй паспяховага стварэння, "сшывання" новай сям'і" [2, с. 203].

Звернемся да аналізу канткрэтных матэрыялаў, якія выяўляюць амбівалентны характар міфалагічных уяўленняў, звязаных з іголкай. Напрыклад, у в. Запясочча Жыткавіцкага р-на калі "хацелі нашкодзіць маладой, то непрыкметна "затыкалі іголку ў падушку, адзіяла. У адной жанчыны з-за гэтага не было дваццаць год дзяцей" (запісана ў в. Запясочча Жыткавіцкага р-на ад Русай Мелахі Іванаўны, 1915 г.н.); "Каб штонебудзь плахое здзелаць, кідаюць таму чалавеку іголку пад парог, пад самыя дзверы" (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Века Вольгі Мікалаеўны, 1927 г.н.).

З другога боку, лічылі, што іголка – абярэг: "Іголку мужчыну ў шапку хаваюць, каб не было прыстрэку" (запісана ў в. Сырод Калінкавіцкага р-на ад Века Вольгі Мікалаеўны, 1927 г.н.). "Над дзвярамі пры ўваходзе ў хату трэба ўтыркнуць іголку, каб нехарошыя людзі плахога не зрабілі гаспадарам хаты" (запісана ў в. Хізаў Кармянскага р-на ад Маеўскай Марыі Пятроўны, 1929 г.н.). Існаваў шэраг рэгламентацый адносна дзеянняў з іголкай. Напрыклад, асцерагаліся пазычаць іголку без ніткі, бо лічылі, што "будзе ў хаце сварка" (запісана ў в. Пабядзіцель Лоеўскага р-на ад Марозавай Вольгі Пятроўны, 1929 г.н.).

Паводле народных вераванняў жыхароў Рэчыцкага р-на калі аддаць каму-небудзь іголку з хаты, то будзеш хварэць: "Ні нада іголку з дому даваць, бо будзеш тады балець, і, як кажуць у народзе, калючкі войстрыя будуць калоць у плечы" (запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.). Але ж калі так адбылося, то імкнуліся ўкалоць іголкай таго чалавека, у каго пазычалі, каб пазбегнуць чакаемай шкоды. Паўсюдна распаўсюджанымі з'яўляюцца ўяўленні, звязаныя з забаронай "шыць на сабе, бо розум зашыеш" (запісана ў г. Гомель ад Міцкевіч Марыі Іванаўны, 1925 г.н.). Іголку як прадметны атрыбут, які меў сімвалічныя суадносіны з ідэяй шлюбу, выкарыстоўвалі ў рытуалах умацавання сям'і: "Еслі новою голкою пошыць наволочку на подушку, а потом гэтою ж голкою прышываць гузікі мужыку, то вон нікагда з другімі гуляць ня будзя" (запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобласці ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.).

Семіятычны статус **шапкі** падкрэслівалі многія даследчыкі, выкарыстоўваючы ў якасці аргументаў шматлікія прыкметы і павер'і. Гэты від галаўнога ўбору звязаны найперш з сімволікай мужчынскага пачатку, вылучаецца багатым спектрам міфалагічных уяўленняў. "Надзетая шапка вылучае, фіксуе нутраную, замкнёную, абмежаваную прастору і гарантуе ахову ад небяспекі з боку наваколля. Адсюль апатрапеічныя рысы галаўнога ўбору" [2, с. 563].

Сярод найбольш распаўсюджаных на Гомельшчыне павер'яў, звязаных з шапкай, вылучаюцца найперш тыя, згодна з якімі забаранялася класці яе на стол, бо, лічылі, што "галава забаліць" (запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.). Апошняе звязвалі з неабходнасцю купляць на рынку толькі тую шапку, якая спадабаецца самому пакупніку: "Калі пакупаеш на базары

шапку, не трэба слухаць прадаўца ў тым сэнсе, што мераць трэба тую шапку, якая падабаецца, а не тую, што дае сам прадавец. Галава балець будзе" (запісана ў в. Лапічы Буда-Кашалёўскага р-на ад Лапіцкай Алы Уладзіміраўны, 1932 г.н.). У в. Вышамір Рэчыцкага р-на боязь класці шапку на стол была звязана з тым, што аглухне будучая цешча ў маладога чалавека: "Шапку на стол лажыць нельзя, бо будзе глухая цешча ў нежанатага хлопца" (запісана ад Склімянок Тацціяны Аляксандраўны, 1933 г.н.). "Так, забаранялася есці ў шапцы, бо іначай аглухне цешча або людзі будуць лічыць за дурня. Нельга было класці шапку на стале, каб не выклікаць клопатаў на сваю галаву – сваркі ў хаце ці расплоду мышэй" [5, с. 564].

Асэнсаванне **кажуха** са значэннем багацця, шчасця ў міфалагічных уяўленнях беларусаў пацвярджаецца шматлікімі прыкладамі фактычных запісаў. Напрыклад, паводле сведчанняў Зоі Іванаўны Бандарэнка, 1934 г.н., "кажух – сімвал багатства, када жэняцца, садзяцца на кажух. Гэта сімвал шчасця ў доме" (г. Гомель).

Кажух як прадметны атрыбут, які сімвалізуе еднасць маладых, займае важнае месца ў сістэме вясельнай абраднасці. Невыпадкова маладых садзяць на кажух, бо апошні асэнсоўваецца ў народных уяўленнях як "едзінае палатно – едзіная сям'я" (запісана ў г. Гомель ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.). З вывернутым поўсцю наверх кажухом звязвалі багацце маладых: "Маладых трэба садзіць на кажух, вывернуты поўсцю наверх, каб багатыя былі" (запісана ў г. Гомель ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.). Акрэсленая ідэя багацця, што дэманструецца ў рытуалах з вывернутым поўсцю наверх кажухом, пацвярджаецца шматлікімі фактычнымі матэрыяламі, запісанымі ў г. Добруш ("Кажух – сімвал багацця, матэрыяльнага дастатку і дзетанараджэння"), в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ("На кажух на вяселлі садзяць маладых, каб багата жылі"), в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ("Было, молодую як до венца нараджалі, то садзілі яе на дзежку, наверх покрытую кожухом, коб за мужом была, бы за паном. Коб був всягда хлеб і вяліса овечкі") і інш.

"Рытуальнае выкарыстанне кажуха пачыналася з першых хвілін жыцця чалавека і працягвалася да самай смерці. На кажух клалі народжанае дзіця, садзілі яго ў час першага пострыгу, адымання ад грудзей, у чорны кажух захутвалі парадзіху, усюды на кажух клалі толькі што памерлага чалавека. Нават у гарачае надвор'е кажух апраналі маладыя, сядзелі на ім за вясельным сталом. Усе гэтыя кантэксты сцвярджаюць наяўнасць у кажусе глыбокага сімвалічнага зместу, калі ён пачынаў маркіраваць пераходнасць, маргінальнасць самой сітуацыі і адпаведна лімінальнасць істоты, што яго апранала" [2, с. 209-210].

Важнае значэнне надавалася ў штодзённым побыце беларусаў **кашулі**, якую выкарыстоўвалі ў народнамедыцынскай практыцы: "Яе раздзіралі падчас прыступаў радзімцаў; пры начніцах вешалі кашульку дзіцяці каўняром уніз; адзенне хворага чалавека працягвалі праз адтуліну ў дрэве ці наогул спальвалі" [2, с. 249]. Матыў вывернутай кашулі ў некаторых мясцовых традыцыях меў негатыўнае значэнне: "Калі надзявалі наізнанку – эта плоха. Значыць, цябе хто-та абгаворвае ці хто-та падроб зробя, ці нешта дрэннае праізайдзёт дома. Калі так адзенеш, нада яе быстрэнька здзець і папрасіць, каб цябе хто-та па спіне пабіў, тады ўсё добра будзе" (запісана ў г. Гомель, ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.).

Амбівалентнасць міфалагічных уяўленняў, звязаных з кашуляй пацвярджаецца

тым, што іншы раз вывернутая кашуля з'яўлялася абярэгам ад зглазу: "Малым дзецям адзявалі кашулю наізнанку, каб уроку не было" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.).

Дзейсным сродкам пазбаўлення ад сурокаў з'яўляліся дзеянні маці ў дачыненні да дзіцяці, якое зглазілі: "Калі дзіця зглазілі, то маці трэба падолам сваёй кашулі з із-наначнай стараны працерці яму адкрытыя месцы, і твар, і ручкі" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.).

Міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з прадметнай атрыбутыкай, можна раскласіфікаваць па асноўных накірунках магчымага, зыходзячы з народных вераванняў, магічнага ўздзеяння гэтых прадметаў. У розных лакальных традыцыях семантыка таго або іншага прадметнага атрыбута асэнсоўваецца па-рознаму, але ў кожным канкрэтным выпадку яскрава прасочваецца амбівалентны характар народных міфалагічных уяўленняў, звязаных з парогам, сталом, венікам, акном, люстэркам і інш.

Сімвалічныя значэнні прадметаў побыту выводзіліся намі з непасрэдных сведчанняў інфарматараў. Падобных прыкладаў зафіксавана дастатковая колькасць, каб пацвердзіць факты разнастайных праяў міфалагічных уяўленняў, звязаных з такімі ўзроўнямі асэнсавання аб'ектаў рэчыўнага свету, як касмаганічны, земляробчы, касмалагічны, тэхналагічны, антрапалагічны, дэманалагічны і інш.

Як бачым, рэчыўныя аб'екты з'яўляюцца матэрыяльнымі адлюстраваннямі сваіх сімвалічных уласцівасцей. Вышэйпрыведзеныя фактычныя матэрыялы, звязаныя з рэчыўным светам, і іх асэнсаванне з'яўляюцца яскравым сведчаннем праявы багацця міфалагічных уяўленняў беларусаў.

Зафіксаваныя намі новыя міфалагічныя звесткі, звязаныя з рэчыўным светам, упершыню ўводзяцца ў навуковы ўжытак і з'яўляюцца важнай крыніцай вывучэння светапогляду беларусаў.

Спіс літаратуры

1. Славянская мифология. Энциклопедический словарь. – М. : Эллис-Лак, 1995. – 416 с.

2. Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. – Мн. : Беларусь, 2004. – 592 с.

3. Народная міфалогія Гомельшчыны: фальклорна-этнаграфічны зборнік – Мн. : ЛМФ «Нёман», 2003. – 320 с.

4. Славянские древности: этнолингвистический словарь в 5-ти томах / под ред. Н.И. Толстого. – Т.1: А – Г. – М. : Международные отношения, 1995. – 584 с.

5. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-ое выд; дап. – Мн. : Беларусь, 2006. – 599 с.

## *Рэчыўны свет*

### Барана

Калі гулялі хрэсбіны, садзім кумоў ці бабу на барану, каб давала магарыч.

На свадьбу, калі маць сустрачала маладых, яна выварачвала шубу, а потым за сталом маладых садзілі на гэту шубу, штоб жылі багата.

***Запісана ў г.п. Акцябрскі***
***ад Паўлюковай Надзеі Сямёнаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Калюды Кармянскага р-на),***
***студэнткай Курбацкай Т. (2004 г.)***

Пад барану заўсёды хаваецца ведзьма.

***Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на***
***ад Шчадровай Зінаіды Аляксееўны, 1937 г.н.***
***студэнткай Маісеенка В. (2002 г.)***

З дапамогай бараны можна ўбачыць нячысцікаў. Можна ўбачыць ведзьму. Трэба ў хляве паставіць барану і сесці на яе, тады ўбачыш ведзьму. Яна хоча ўкрасці малако ў каровы. Можна паймаць русалку бараной.

А вось на другі дзень пасля хрэсьбін на барану садзілі бабку-павітуху і везлі ў карчму, там весяліліся, песні спявалі.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

На хрэсьбінах бабу вязуць на баране. Калі купя многа гасцінцаў, то барану кладуць зуб’ямі ўніз. А калі мала заплоціць, пераварочваюць барану зуб’ямі ўверх і кажуць: “Садзісь, баба!”

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай А. С., 1917 г.н.***

### Валасы

Валасы нада паліць. Калі не спаліш, галава будзе балець.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Раней не абразалі косы, а то, казалі, што на тым свеце цябе будуць пхаць, таўкці.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Нельга выкідваць валасы, іх трэба спальваць, каб не балела галава.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Нельзя выкідаць валасы. Лучшэ ізжэч і высыпаць пад бярозку ў ямачку, а мужской волас – пад дуб, каб сама была маладая, як бярозка, і стройная, а мужык каб быў здаровы, дужы, моцны, як дуб. А выкідаць не нада.

У мяне сын пастрыгся перад арміей, я эта не здзелала, не спаліла валасы яго. Дык ён усё врэмя худой, бледны, непамятны…

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Нельга свае валасы выбрасваць, бо кажуць, што валасы могуць падабраць і загаварыць гэтага чалавека, каб у яго было няшчасце, а каб гэтага не здарылася, трэба спальваць свае валасы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Калі валасы із расчоскі ўбіраеш, іх не нада выбрасываць, а трэба палажыць у тое месца, дзе спальваюцца. Таму што калі выбрасіш, то крысы іх знаходзяць, гняздо ўюць, а ад таво і ўсе балячкі развіваюцца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Вядзьмаркі з валасоў дзелалі каўтуны і загаворвалі, а тады падкідвалі ў хату на хвор.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Нельга бярэменным абразаць валасы – дзіця родзіцца бальное, хілае.

Нельга абрэзаныя валасы, ногці кідаць на вуліцу – варона падбярэ і саўе гняздо, а ў чалавека будзе балець галава.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Валасы нельга выкідваць на двор. Падбярэ варона і будзе віць гняздо – будуць сільныя галаўныя болі.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Нельга каб выпаўшыя валасы пэўнага чалавека валяліся па палу, каб іх не падабралі чужыя людзі і не накладвалі, не нашкодзілі таму чалавеку, у якога выпалі валасы.

Нельга падразаць валасы цяжарнай жанчыне, каб не ўкараціць розум дзіцяці.

Пастрыжаныя валасы нельга было выкідваць, каб птушкі не збіралі гэтыя валасы для сваіх гнёзд і каб потым не балела галава. Трэба было абавязкова спальваць астрыжаныя валасы.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калоша Т. (2010 г.)***

Волосы обрезают на растущей луне и когда цветут сады, чтобы быстро отрастали.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Валасы нельга выкідаць з грэбня на двор, бо птушкі падбяруць. Іх трэба спальваць.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Усім вядома, што ў дзіцяці ў час хрышчэння атразаюць трохі валасоў – такі звычай. Да 1 года дзіцей не стрыглі, а то ж валасы расці не будуць. А бярэменным вабшчэ нельзя нісколькі стрыгці валасы. Гавораць, дзіця там можа перастаць расці – можа ўмерці.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Нельга выбрасываць валасы з грэбня на двор, бо птушка падбярэ, упляце ў гняздо. Будзе галава балець. Трэба зжыгаць валасы.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Я чула, што валасы з рашчоскі нельга выкідаць, бо потым галава будзе балець. Калі я была малая, мне тлумачылі гэта тым, што мыш ці птушка возьме пучок тваіх валос і занясе іх к сабе ў норку ці гняздо, і яны не будуць ведаць адпачынку, а ўмест з імі будзе балець і твая галава. Таму лепей свае валасы збіраць у каробачку ці газетку, а потым спаліць у печы.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Ня трэба выбрасываць валасы на двор. Падбярэ птушка, будуць галаўныя болі.

Калі валасы пачалі выпадаць, значыць, дрэнны хтосьці падавыдаваў.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

З грэбня валасы трэба спальваць, бо калі выкінуць, то будзе балець галава.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Калі падстрыгся, нельга косы кідаць на вуліцу, бо пціцы будуць віць з іх кублы і галава будзе балець сільна. Трэба іх спаліць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Валасы нельга выкідваць на вуліцу, бо птушка саўе з іх гняздо, тады ў чалавека будзе сільна балець галава. А таксама валасы не абразаюць цяжарныя жанчыны.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***

***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Валасы нада кідаць у цяпло, а так нельзя кідаць іх на вуліцу, патаму што іх могуць мышы зацягнуць у гняздо. А калі ў цяпло іх кідаць, трэба гаварыць: “Сколькі валасу гарэць, столькі і галаве балець”.

***Запісана ў в. Радзілавічы Рагачоўскага р-на***
***ад Прасняковай Ксеніі Пракопаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Казловай К.***

Ні можна кідаць валасы на вуліцу, бо заўецца на галаве каўтун. Іх трэба спальваць.

Каб валасы былі густыя і хуткараслі, трэба стрыгчыся на сёмы дзень маладзіка.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Валасы, калі расчэшышся, нельга выкідваць на двор, абавязкова іх трэба спаліць. А калі не спаліш, будзе балець галава.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Карбацянка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(прыехала з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Калі стрыгуць у дзіцяці косы, іх закручваюць у трапку і затыкаюць у хлеў у вугал для таго, каб раслі косы.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Калі косы з галавы расчэшаш маленькім грабеньчыкам і яны застануцца на ім, іх нада збіраць у мяшэчак, а потым спаліць у печы, бо могуць падабраць птушкі і сплесці сабе кубло. А ў чалавека, які выкіне на двор свае валасы, можа вырасці каўтун ці кожны дзень будзе балець галава.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Волас нельзя кідаць дзе папала, бо пцічка падбярэ і гняздо віць будзе ці мышка хатку здзелае, тады галава будзе балець. Волас нада ў грубку кідаць. А як кідаеш, то нада прыгаворваць: “Сколькі валасок гарыць, столькі штоб галоўка балела”. А валасок жа – шух – і згарэў, і галоўка не баліць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Косы, што засталіся на грэбяшку, няльзя выкідаць на смецце ці на двор, таму што калі іх зацягне мыш у сваё кубло, то ў таго чалавека можа звіцца на галаве калтун.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

У меня мода такая – рашчасаўся да так во сцягнуў валасы – да на пол. Эта ўжэ прывыкла, а нельзя. Можа птушка заляцець, у гнездо сабе, завіць, і ўжэ заўсёды галава балець

будзе.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельга было выкідаць валасы на вуліцу, лічылі, што калі мышы зробяць з іх гняздо, то ў чалавека потым галава балець будзе. Іх заўсёды стараліся спальваць.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Еслі кто-то собарэ твое волосы з плячэй або з росчоскі, скажэ такіе слова: “Куды рака – туды і (імя) шчасце”, то тобе больш не будзе шчасця, будзеш болець.

Когда стрыжэшса, волосы трэ спаліць, а не вукідаць, бо можэ пташка подобраць у свое гняздо, а ў того чоловека будзе болець голова.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Нельга выбрасываць валасы на двор – будзе балець галава.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Валасы добра растуць, калі іх мачыць бураковым расолам.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Не кідай валасы на пол – галава балець будзе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгеньеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

## Венік

Венік трэба ставіць у куце веццем уверх, тады ў хаце будуць весціся грошы.

Не трэба пераступаць цераз венік, бо на цябе будуць драцца людзі. Гэта значыць – задзірацца, гаварыць напрасліну, будуць непрыязнымі.

На стары Новы год перасякалі дзяркачы (старыя венікі) і кідалі на дарогу, каб людзі выносілі ўсё дрэннае з гэтай хаты.

***Запісана ў в.Старыя Дубровы Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.,***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

На Шчадруху разрубаюць венік папалам і кідаюць на вуліцы, каб што да Новага года дзелала, каб усё міналася. Мусар нельзя вынасіць пасля заходу сонца. Калі госці ўязджаюць, то, пакуль мы ў дарозе, нельзя месці ў хаце, каб ім была спакойная і добрая дарога.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Нельга месці ў хаце ў той час, калі паехаў з яе блізкі чалавек, каб не замесці яму абратную дарогу.

Венік, каб вадзіліся грошы, ставяць уверх пруцікамі.

Нельга месці ў хаце пасля заходу сонца – к няшчасцю ў доме.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Венік нужна ставіць уверх памялом – грошай будзе многа. Нельзя убіваць венікам паукоў – гора ў хаце.

Нельзя месці на каго-нібудзь. Калі на дзеўку – не выйдзе замуж.

Нельзя замятаць за кім-небудзь – у таго чалавека гора будзе.

Нельзя месці 3 дня хату после таго, як госці паехалі, каб даехалі харашо і вярнуліся.

Нельзя біць венікам дзевак – не выйдуць замуж.

***Запісана ў в. Зарэчча Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кліннікавай В.І., 1929 г.н.,***
***студэнткай Аўраменка А.***

Калі хто-та з хаты едзя, то пакуль ён у дарозе, нільзя падмятаць.

Нільзя дзевак біць венікам – замуж не выйдуць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Калі нехта з хаты едзе, то пакуль ён у дарозе, нільзя падмятаць.

Нільзя дзевак біць венікам – замуж не выйдуць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Нельга пераносіць венік са старой хаты ў новую, таму што пераносіцца ўсё дрэннае, што было ў старой хаце.

Калі госці ўязджаюць, то пакуль яны ў дарозе, нельга месці ў хаце, каб гэтым людзям была добрая і спакойная дарога.

Нельга выкідваць вечарам смецце, каб усё вялося, каб свая сям'я не разбурылася.

Вечарам нельга нічога даваць, напрыклад, грошы, штоб вялося ўсё дома. Калі мяцеш у хаце і кінеш, тады будзе нелад у сям'і (сварка).

Не трэба пераступаць цераз венік, а то людзі будуць нападаць, гэта значыць, гаварыць напрасліну, адносіцца дрэнна да цябе.

Венік нада ставіць у куце веццем уверх, будуць у хаце грошы весціся.

Нельга біць венікам, а то сабакі пакусаюць ці вошы завядуцца.

Калі мяцеш у хаце, нельга пакідаць начатую працу, трэба яе завяршыць, а то муж уйдзе ад жонкі.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Нельга падмятаць, калі толькі што госці пайшлі, выкідываць смецце, калі сонца села – дабра ў хаце не будзе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Чтобы водились деньги в доме, веник необходимо ставить вниз ручкой.

Нельзя выметать перед и во время поездки членов семьи.

Выметать необходимо к порогу.

Нельзя выметать поздно вечером.

Нельзя мести к иконам.

Нельзя переступать веник.

Веником не бьют.

Когда подметаешь пол, то нельзя передавать веник другому.

При первом выгоне коровы в поле, необходимо подгонять её веником из лозы и положить веник на порог, чтобы корову не сглазили и было много-много молока.

***Запісана ў в. Першамайскі Веткаўскага р-на***
***ад Луцьковай Ніны Васільеўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Коргавай Ю. (2010 г.)***

Нельзя ставіць у кут дзе ікона. Пры выхадзе нада ставіць у куту, как защыта ад плахіх людзей.

Еслі станеш перастаўляць у другое, места, то абязацельна хто-небудзь із сям'і ўйдзёт ілі ўмрёт.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Венік прымяняўся для таго, каб выгнаць з дома розныя хваробы. Для гэтага весь мусар з дома вямяталі і зжыгалі, а потым, паслаўшы ўсе хваробы на венік, брасалі яго на перакрыжаванні дарог. Таму нельга падбіраць такія венікі, бо забярэш да сабе чужыя хваробы.

Каб у доме не было сварак і ўсё было добра, венік павінен быць толькі адзін і стаяць у цёмным кутку дагары.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Венік – прадмет, якім знахаркі абмахваюць бальных, каб выгнаць хваробу.

Венік нада ставіць у правым вугле ўверх мятлой, штоб грошы вадзіліся.

Нельзя абмятаць малодак незамужніх, бо ніхто не возьмя замуж.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж.***

Нельга каб у доме было 2 венікі, тады будуць 2 дамавых, і будуць яны многа плахога дому твайму рабіць.

Венік ставяць мяцёлкай уверх, каб грошы ў доме вадзіліся.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

На ночь никогда не выметають мусор, и когда дождь пойдёть, веник выбрасывають на улицу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Фралова Аляксандра Георгіевіча 1920 г.н.***
***(перасяленец з в. Пасёлкі Кірэеўскага р-на Тульскай вобл.),***
***студэнткай Малай І. (2001 г.)***

Веник чаще всего применялся для того, чтобы изгнать из дома разные хвори. Для этого весь мусор из дома выметали, весь сор сжигали, а потом, пославши все болезни на веник, бросали его на перепутьи дорог. Поэтому нельзя подбирать такие веники, иначе заберёшь себе все чужие болезни.

Чтобы в доме не было ссор и всё было хорошо, веник в доме должен быть только один и он должен стоять в тёмном углу в перевёрнутом состоянии.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І.***

Калі прыязджаеш у новы дом, старый венік трэба забраць з сабой – пад венікам жывець дамавічок і, забіраючы венік, забіраеш дамавічка.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Венік трэба ставіць так, каб яго вецце было уверху, – тады будуць грошы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Венікам нельзя абмятаць маладых дзяўчат, бо тады замуж не выйдуць.

Еслі падмесці венікам у сенцах, яго ставіць нада мяцёлкай угору. Так ізганяюць нячысты дух – тады Ведзьма ўжо не падойдзе да парога.

***Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на***
***ад Шчадровай Зінаіды Аляксееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Маісеенка В. (2002 г.)***

Венік трэба ставіць веццем уверх, тады ў хаце будуць вадзіцца грошы.

Нельга праступаць праз венік – будуць сварыцца ў хаце.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Пад венікам жыве хатнік. У хаце не павінна быць двух венікаў, бо хатнія захочуць дзяліцца. Венік не брасаюць у печ, каб у доме не было соры. Венік нельга швыраць па хаце, а то сайдзёш з ума. Не можна босымі нагамі наступаць на венік, а то на нагах будуць балячкі. Дзяўчыны выходзяць на перакростак, на веніку верцяцца. Дзе сабака залае, туды замуж пойдзе. Для пазбаўлення ад нечысці ставілі на ноч да дзвярэй паравернатую ўверх мятлу, вешалі пад паталок пучок пруцьеў са старога веніка, пакрывалі плачушчае дзіця старым венікам, перабрасывалі венік цераз хату, мялі з вуглоў хаты мусар і сыпалі ў калыбель.

Калі дзіця нарodзіцца мёртвым, то яго дзержаць над дымам гарашчага памяла, стараюцца ажывіць яго.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

Веник ставят в угол вверх тормашками – это отгоняет нечистую силу.

Когда кто-то из близких в дороге, нельзя выметать в доме, чтобы дорога была спокойная.

Нельзя выносить мусор после заката солнца – в доме будут неприятности.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Венік забараняецца выкідаць, бо пад венікам жыве дамавік.

Маладой, якая першы раз заходзіла ў хату мужа, пад ногі падкідвалі венік. Калі яна паднімала яго і ставіла ў вугал, казалі, што яна будзе харошай гаспадыняй.

Нельга спальваць венік, бо ў хаце будуць вадзіцца блохі, клапы, ужы, хваробы.

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на***
***ад Маеўскай Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н.***

Няльзя вымятаць у хаце послі ад'езда сваіх родных, гасцей. Няльзя месці на чалавека, бо яго не будуць уважаць. А яшчэ з дзецтва мы зналі, што калі набіць каго-небудзь венікам, то яго пакусаюць сабакі. Па пруціках веніка можна і гадаць.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Нельга праступаць цераз венік, наступаць на венік без абутку, бо будзеш хвараць.

Ні ў якім разе нельга падымаць венік, які ляжыць на дарозе, бо гэта прынясе ў хату бяду, няшчасце.

Звычайна не мялі ў хаце, калі ад'язджалі госці, каб была добрая дарога. Знаёмыя аднойчы рашылі падмясці, дык госць папаў у аварыю.

Дрэнным лічылася таксама падмятаць пасля заходу сонца і выносіць смецце, бо ў хаце будзе сварка.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Канавальчык Н.А., 1925 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Венікам нельга змітаць канапу, каб коршык курэй не пахапаў.

Нельзя браць венік, якім пользаваліся, у сваю хату, нельга пераносіць венік са старой хаты ў новую, бо пераносіцца пры гэтым усё дрэннае, што было ў старой хаце.

Пасля заходу сонца нельга выносіць смецце з хаты, бо тады апусцее хата.

Калі госці ўязджаюць, то пакуль яны ў дарозе, нельга месці ў хаце, каб людзям была добрая і спакойная дарога.

Венік, якім мялі ў хаце ўсе Каляды, пасля Каляд тройчы сякуць і кідаюць у печ. Усё гэта робяць, каб Бог адпусціў грахі, што награшыў на Каляды.

У хаце смяталі смецце і перад тым, як выносіць нябожчыка з хаты, высыпалі смецце на дарогу, па якой панясуць труну. Тады не будуць у хаце весціся прусы. Яны пойдуць у след.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.***

Венік заўсёды ставяць каля парога, а мятуць ад парога.

На наваселле заўсёды бяруць у новую хату стары венік.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

У нас на дзярэўні кажуць, што не можна выносіць смецце позна ўвечары, бо хата можа апусцець.

Запрэшчалася вуметаць у хаці, колі хто з своіх некуды поехаў.

Мяне маці мая вучыла, што месці ў хаце трэба пачынаць з правага восточного вугла і по часовой стрэлцы.

Венік трэба шановаць. У нас его шанують: берэгуць, бо з яго помоччу можно було гадаць.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Ня трэба перанасіць венік са старой хаты ў новую, гаварылі, што пры гэтым ты перанясёш усё дрэннае і страшнае.

Пасля таго, як сонца ўжо зайшло не трэба вынасіць рознае смецце з хаты – хата может быстра апусцець.

Калі да рання людзі ад’ехалі, то ня трэба адразу ж прыбяраць і месці ў хаце, каб яны яшчэ не аднойчы вярнуліся да цябе.

Гаварылі, што пад венікам у вуглу жыве нейкая істота, вядома хатнік, гэта яго любімае места.

Венік ня трэба выбрасываць у печ, бо у хаце будуць сваркі.

Венік павінен стаяць у цёмнам углу і перевернутый.

Ня трэба пераступаць праз венік: ня будуць любіць людзі.

Для маладых дзевак трэба сказаць, што нельга біць друг друга венікамі, бо не пойдуць замуж.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Калі паехалі госці, то нельга падмятаць, пакуль яны ў дарозе.

Вечарам нельга падмятаць і выносіць смецце.

Каб у хаце вадзіліся грошы, то трэба ставіць венік у куток уніз ручкай.

Маладых дзяўчат нельга абмятаць венікам, бо не пойдуць замуж.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Венік заўсёды трэба ставіць угару галінкамі, каб у хаце багацце было, грошы і каб усё дрэннае выходзіла праз трубу ў печы. А таксама нельга біць дзеўку венікам, бо яе ніхто замуж не возьме.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н., студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Вечарам нільзя падмятаць і выносіць смецце з хаты, а то яна апусцее.

***Запісана ў в. Радзілавічы Рагачоўскага р-на ад Прасняковай Ксеніі Пракопаўны, 1930 г.н., студэнткай Казловай К.***

У хаце павінна быць адна мятла (венік). Ставіць яе трэба ў вуглік верхам, недалёка ад парога, каб адганяла нячысцікаў і засцерагала ад дрэнных людзей. Мятлу трэба прыбіраць, як касу ў дзяўчыны, – завязваць бант. Дзве мятлы ў хаце, як дзве хазяйкі, тады парадку не будзе.

Лічыцца, калі падмёў у хаце, то завяршыў усю работу.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Венік – гэта хазяін у доме. Калі ў хаце два веніка, то абавязкова будзе і два хазяіна.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Карбаценка Ганны Васільеўны, 1933 г.н. (прыехала з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на), студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Венік трэба ставіць так, каб яго не бачылі, ручкай ўніз, а мяцёлкай уверх.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н., студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Венік нельзя пераступаць. Будзе няўдача чалавеку.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н., студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Ногі абмятаць маладой дзяўчыне нельзя. Еслі хто-та мяце, то ёй нада астаноўку здзелаць, бо ніхто ў кумы не возьме.

Чэраз венік, вілкі пераступаць нельзя, а то ногі сільна балець будуць. Еслі пераступіў, то нада назад ступіць.

Венік-дзяркач ложуць у канец, кагда бульбачку на зіму закапуюць, штоб мышы не пагрызлі бульбу.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н., Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н., студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Нельга ў хаце падмятаць, калі хто-та адправіўся ў дарогу, таму што ён можа не вярнуцца. Венікам нельга біць чалавека, таму што ён можа стаць такі ж худы, як венік.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***

***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Венік нада берагці, бо пад ім жыве дамавы. І каб яму было пад ім добра, то за венікам трэба глядзець. У хаце доўжан быць адзін венік, бо калі два, то і два дамавых, тады яны могуць пасварыцца. На калядкі з венікам гадалі. Вот дзеўка выйдзе на перакростак і махае, круціць венікам. У якой старане залае сабака, стуль і жаніха ажыдай.

Каб шчаслівей сям'я жыла, заўсёды вечарам венік нада пераварачваць. Часта матка дзевак венікам ганяе, а не нада, бо замуж не пойдуць.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельга, каб у хаце было некалькі венікаў, каб не завялося некалькі дамавых і яны не сварыліся паміж сабой.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калоша Т. (2010 г.)***

Нельга было вымятаць хату, калі адправілі гасцей, каб на іх у дарозе не напала бяда.

Нельга вымятаць мусар з хаты на двор увечары. Нельга было пераносіць стары венік з старой хаты ў новую. Людзі лічылі, што ўсе няшчасці пяройдуць таксама з старай хаты ў новую.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Нельга пераносіць венік з старой хаты ў новую, а то перанясеш з сабой усё дрэннае ў новую хату.

Нельга падмятаць у хаце, калі нехта з родзічаў у дарозе, каб яны добра заехалі.

Венікам не абмятаюць маладых дзяўчат, каб выйшлі замуж.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Таццяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

Заўсёды венік трэба дзяржаць уверсе, каб грошы вяліся.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Кухарэнка Любові Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Калі будзеш месці ўбок парога – хутка выйдзеш замуж. Венік неабходзіма ставіць веццем уверх, каб заўсёды ў хаце былі грошы. Нельзя месці на чалавека – зделаеш яго няшчасным.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.***
***ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

Нельга пераносіць венік са старой хаты ў новую – перанясецца ўсё дрэннае, што было ў старай хаце.

Нельга змятаць смецце перад тым, калі нехта куды-небудзь ад'язжае – будзе

нешта дрэннае ў дарозе. Падмятаюць звычайна пасля таго, як чалавек дабраўся да месца.

Нельга абмятаць маладую дзяўчыну – не выйдзе замуж.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н., студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

## Вугаль

Вуглямі лечаць вогнік. Вуглі прыкладваюць к хвараму месцу. Праз некаторы час балезнь праходзіць.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Вуглі прыкладваюць к хвораму месцу. Праз некаторы час балезнь праходзіць.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н., студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

Праз чорныя вуглі лілі ваду са словамі: "Забяры, чорны вугалёк, з рабы божай (імя) усё плахое, злое, порчу напускную, з дыму, з жару, з ветру, усю з німі, што ў трубу да ў шчылку заляцела, у адкрытыя хатнія дзверы адпраўляйся". Так лячылі ад зглаза.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Еслі к тобе прышлі худые людзі і ты ня хочэш, коб оны к тобе ходзілі, кінь за імі вугліну з печы, то оны больш ня прыдуць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## Вядро

Калі з пустым вядром табе перайдуць дарогу, то гэта вельмі плоха. Нада завязаць на сабе вузлік ці то на платку, ці на адзёжы какой-нібудзь, штоб было ўсё добра.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н., студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Цяжарнай жанчыне нельзя наступаць на тое месца, дзе стаяла вядро, калі мылі пол, гаварылі, будзе лішай.

Каб дома не стаяла пустое вядро – дома будзе пуста.

***Запісана ў г. Ветка ад Максіменка Марыі Іванаўны, 1931 г.н.***

Нельга пераходзіць дарогу з пустым вядром, а то здарыцца дрэннае.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н., студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Встрецiць чалавека з пустым вядром нехарашо. Тады кажуць: “Штоб у цябе ў гаршку было пуста”. Калі сустрэць чалавека з вядром, не трэба спяшацца, каб перайсці. А калі ў вёсцы ідзе скот, нельга пераходзіць яму дарогу. Гэта можа забраць малако ў кароў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

## *Вяроўка*

Праз вяроўку або вожкі нельга пераступаць цяжарнай жанчыне, каб дзіця не ўдушылася пупавінай.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Нельга бярэменнай жанчыне падвязвацца вяроўкай, каб потым, дарослым, гэтае дзіця не павесілася.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Праз вяроўку або вожкі нельга пераступаць цяжарнай жанчыне, каб дзіця не ўдушылася пупавінай.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на***
***ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

Цяжарнай жанчыне ні можна станавіцца на вяроўку, ні можна вешаць чыстую бялізну на высока нацягнутую вяроўку, бо пупавіна абаўе дзіця і пры родах можа яго задушыць.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Нельга пераступаць цераз вяроўку цяжарным жанчынам – будуць цяжкія роды.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

## *Гаршчок*

Гаршчком лячылі залатнік, яго ставілі на тое месца, дзе баліць.

Гаршчок выкарыстоўвалі пры будове дамоў ці калі шукалі ваду. Яго ставілі на тое месца, дзе збіраліся строіць дом. Калі раса была на гаршчку, то, значыць, вада блізка і дом строіць нельга. Калі ж гаршчок быў сухі, то можна будаваць дом.

Гаршчок з кашай разбіваюць на хрэсьбінах. Чарапкі кладуць на галавы маладым замужнім жанчынам, каб у іх былі здаровыя дзеці. Даюць патрымаць чарапкі ў зубах, хто жадае, будуць крэпкія зубы.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай А. С., 1917 г.н.***

Бераглі, бо не ўсе былі яны добрыя. Калі разбіваўся, то чакалі няшчасця.

***Запісана ў в. Баршчоўка Лоеўскага р-на***

***ад Масленчанкі Юліі Раманаўны, 1935г.н.,***
***студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

Гаршчок – сімвал шчасця і багацця. Дажа грошы і золата хавалі ў гаршках. У каго ў хаце гаршчок – будзе золата поўны мяшок.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На хрэсьбінах маленькага дзіцяткі гаршчочак разбівалі аб галаву мужчын, штоб у іх унукі былі. У каго разбівалі на галаве гаршчок, то ён ужо і магарыч стаўляе. А чарапкі з гаршчочка выкідуюць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Гарэлка*

Гарэлка – бясоўскі напітак. Вада чорта. Чалавек пасля яе робіцца не такі, як бы дурнее. А чорт гэтаму радуецца.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Пры пахаванні чалавека на магілу ставяць чарку з гарэлкай, і ў хаце тожа ставяць чарку з гарэлкай на стол ці падваконнік умесце з ядой. І кожны раз на ўспаміны так робяць.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

## *Грошы*

Грошы нільзя на стол лажыць – бедным будзеш.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Грошы нільзя на стол лажыць – бедным будзеш.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

На Новы год нада грошы лажыць на стол пад скацерць, каб вяліся ўвесь год. Трэба мелкія грошы пакідаць па вуглам дома, а чым болей набрасаеш па вуглах, тым больш будзе грошай ў доме.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Нельга даваць грошы ў празнік ці ў святыя дні.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***

***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Грошы нанач не пазычаюць і не аддаюць, бо потым грошы вадзіцца не будуць.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калоша Т. (2010 г.)***

Деньги вечером не считают и долги тоже вечером не отдают – денег не будет.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Грошы не можно даваць з рук у рукі, трэба, шоб адзін положыў на стол, а другі ўзяў тоды.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Грошы – гэта ж не такое вялікае шчасце. Яны сёння ёсць, а заўтра няма. Гаворáць, як траціш грошы, то трэба абязацельна аставіць у кашальку хоць 10 рублей, каб не звяліся.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Грошы ні нада пазычаць вечарам, бо ў цябе іх век не будзе і адносіць доўг тожа вечарам нельга.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Еслі чэшацца левая рука – к грошам. Грошы трэба пазычаць леваю рукою, а отдаваць правою. Будуць яны вадзіцца ўсягда.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Нельзя аддаваць дзеньгі после захода сонца – не будут вадзіцца в доме дзеньгі. Нельзя одолжать деньги и отдавать их в выходные и празники – не будет денег вообще потом. Денежные долги нужно отдавать до Нового года, чтоб в новом году деньги водились и одалживать не надо было больше.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.,***
***ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

Грошы давай правай рукой, а бяры левай, каб вадзіліся.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

## Грэбень

Грэбнік ложаць у гроб памершаму тады, калі ён яго пры жыцці насіў.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Грэбень ложаць хазяіну ў гроб.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Пры сяўбе ў мех клалі грэбень, каб жыта было густое.

Грэбень забараняецца класць на стол, бо можа здарыцца нешта непрыемнае.

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на***
***ад Шпадарук Наталы Аляксандраўны, 1950 г.н.***

Грэбень кладуць у труну, калі чалавек насіў яго пры жыцці. Кажуць, што ён можа спатрэбіцца на тым свеце.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Грэбень кладуць у дамавіну, бо ён спатрэбіцца пакойніку на тым свеце.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Грэбень знойдзіш – шчаслівы будзеш.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

* * *

Калі хто-небудзь збіраўся ў дальнюю дарогу, абавязкова трэба было прысесці “на дарожку”, каб у дарозе было добра.

На купальскую ноч зачыняюць усе сараі з жывёлай, каб не гаспадарылі ведзьмы.

На вяселлі маладыя ўвесь час павінны трымацца за рукі, каб паміж імі ніхто не прайшоў, нават блізкія, каб не была судзьба раздзялённая.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калоша Т. (2010 г.)***

## Дзверы

На ноч дзверы хрысцяць тры разы і гавораць у дзверах: “Ад ворагаў і вароў ізбавіце мой дом і мяне зберажыце. Аградзі мяне, Госпадзі, ад абідчыкаў. Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Амінь”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

## *Дзяжа*

Дзяжа таксама была сімвалам дабрабыту. На дзяжу садзілі нявесту, каб і яна вадзіла дзетак, як дзяжа ўчыняе хлеб. Калі ў жанчыны не было дзяцей, то казалі, што яе дзяжа не ўчыняе.

***Запісана ў в. Старыя Дубровы Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.,***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

Пад гроб ставілі дзяжу ці клалі тапор, каб пакойнік не сніўся і не хадзіў па хаце. Над дзяжой гадалі, наліваючы ваду.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Дзіцёнку нельга глядзецца ў дзяжу, бо барада вырасце

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Дзяжу накрываюць кажухом наверх шэрсцю да садзяць нявесту, каторая толькі тады сядзе, калі цнатлівая. Слабое дзіця ці дзіця, якое плоха спіць, клалі на нейкі час у дзяжу.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

Дзяжу ўсягда ўносілі з сабой у новую хату, каб жыць багата.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі хто-небудзь памрэ, трэба адкрыць дзяжу і тры разы наташчак паглядзець у яе, каб моцна не пераажываць, лягчэй будзе гора перанесці.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

З дзяжой звязана такое ўяўленне: калі маладая прыязджала да маладога, іх сустракалі свёкар і свякроў. Свёкар сажае маладую на кажух, свякроў ставіць хлебную дзежку – калі маладая “чэсная”, яна без лішняга роздуму сядзе ці стане на прыгатаваную дзяжу.

***Запісана ў в. Ударнае Лельчыцкага р-на***
***ад Лін Алены Міхайлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Трахановіч С. (2002 г.)***

Калі хто-небудзь памрэ, трэба адкрыць дзяжу і тры разы наташчак паглядзець у яе, каб моцно не пераажываць, лягчэй будзе гора перанесці.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на***
***ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

## Жыта

Бог здзелаў жыта на добрае, на дапамогу людзям, а чорт пачаў з яго гарэлку гнаць, таму яно перастала многа радзіць.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Калі нявестка ідзе да свякрухі, то сыплюць жыта накрэст, каб багатыя былі і не сварыліся.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

## Забор

Мы абнімалі забор на Каляды. Калі чотнае чысло рэяк абдымеш – будзеш у пары, нячотнае – адна.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

## Замок

Замука нельзя класці ў хаце на столе, бо ў доме будзе сварка.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

## Засланка

Калі нехта выходзіць з хаты ў дарогу, трэба закрыць засланку, каб у дарозе была ўдача і дарога была лёгкая.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Калі печ вытаплена, яе трэба абавязкова закрыць засланкай, бо, калі не закрыць, людзі будуць гаварыць плахое, сплетнічаць.

Калі хто ад’язджае з хаты, трэба печ закрыць засланкай, каб тым, хто ў дарозе, добра было.

Калядны попел высыпалі на засланку, з попелам ставілі на шулу, каб вецер разнёс яго па двары, па вуліцы, тады спуг мінаецца.

***Запісана ў в.Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Калі сядалі за стол есці, то закрывалі печ засланкай, каб людзі не абгаварвалі.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Печ трэба заўсёды закрываць засланкай, каб нячысцікаў не прыйшло.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Перад ад'ездам у дарогу трэба падмясці падлогу, зачыніць заслонку ў печы і вароты, каб нічога дрэннага не здарылася.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

## Збан

У хляве з каровай вешаюць разбіты збанок, там дамавічок жыве.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

## Зубы

Як малады зуб, дак нада кідаць яго ў зашыек і казаць:
На табе касцяны,
А мне дай жалезны.
Ета трэба так, штоб вырас новы зуб крэпкі, як жалеза.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Іголка

Нельга шыць адзежу, калі яна на табе адзета, бо ета к няшчасцям. Трэба шыць, калі яна з цябе скінута, але ўзяць у рот нітку і прыкусіць яе зубамі.

Калі даеш каму іголку, то нада таго чалавека ўкалоць (трошкі, у шутку), тады не пасварышся.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Калі чалавек знаходзіць іголку, то ён павінен яе пераламаць і кінуць у шчыліну паміж масніцамі, каб не было ў доме сваркі.

Іголка можа быць абярэгам (або шпілька), але можа прынесці і негатыўнае (у іголку можа ператварыцца ведзьма). Іголку без ніткі пазычаць нельга, а калі кашу аддаўжаеш, то патрэбна кальнуць легенька таго чалавека ў руку, як бы незнарок, каб пазбегнуць сварак.

Калі вясной першы раз выганяеш скаціну ў поле, то ў гэты дзень карыстацца іголкай нельга.

***Запісана ў в. Губічы Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Сяміход Марыі Антонаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сачанка Г. (2010 г.)***

Нільзя шыць на сабе – розум прышыеш. А калі ўжо начыў шыць, то нада ўзяць у зубы нітку ці кальцо залатое.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Нільзя шыць на сабе – розум прышыеш. А калі ўжэ начыў шыць, то нада ўзяць у зубы нітку ці кальцо залатое.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Нельга шыць на сабе, а то розум зашыеш. Трэба абавязкова здзяваць адзежду. Ну, а калі ўжо шыеш на сабе, трэба браць у рот невялічкую нітачку.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

На Раждество нельзя ничево шить, штопать, вышивать.

Если в хате над дверью незаметна втыркнуть три иголки, то люди, какие зла желают, не смогут в хате быть, плоха им будет, прихадить перестанут.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Іголкай зашываць адзёжу на сабе нельзя, бо патом неразумнай будзеш. А ўжо, калі зашыў, то нада гэта распароць. І добра ўсё будзе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Нельзя шыць на сабе, бо зашыеш розум.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Трэба ўткнуць булаўку ў дзверы, каб зашчыціць дом ад нячыстай сілы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

На сабе не шыюць. Трэба браць што-небудзь у рот. Это штоб нічево сабе не прішыць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Штоб адагнаць нечысць або ведзьму, каб яны нічога плахога не надзелалі для людзей у хаце, нада ў парог уткнуць іголку вастрыём уверх і напроць яе ўвярху вастрыём уніз.

Не шыюць на сабе, а то памяць плахой будзець.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Нельга на сабе шыць, бо дурным станеш. Трэба ў рот узяць нітку і тады толькі

шыць.

Людзі злыя, каб нашкодзіць таму, каму завідуюць, утыкаюць ім у кравяць іголку з ніткай. Калі белая нітка, то гэта яшчэ не так страшна, а калі чорная, значыць, вялікую злобу на цябе задумалі. Нада да бабкі іці, каб пашаптала цябе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Не трэба на сабе шыць, бо, кажуць людзі, разум прышыеш. А каб гэтага не здарылася, трэба ў зубы ўзяць кусочак ніткі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Для того, чтобы человек нехороший не заходил, плохого не сделал, то нужно воткнуть иголку в дверь.

Пришла тётка Акулина (а у нас отелилась корова) и попросила соли. А иголка-то была воткнута и она полдня сидела не могла выйтить из дома. "Ну ладно, тёть Марь, вытащи иголку, я уйду", – сказала-то тётка Акулина".

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Фралова Аляксандра Георгіевіча, 1920 г.н.***
***(перасяленец з в. Пасёлкі Кірэеўскага р-на Тульскай вобл.),***
***студэнткай Малай І. (2001 г.)***

Нельга шыць на сабе – ум свой зашываеш. Нельга шыць цяжарнай жанчыне – дзіце можа пупавінай абвіцца.

Калі цяжарная жанчына ўколіць сябе іголкай, у дзіця, калі яно народзіцца, будзе пляма на целе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Загорцавай Ганны Паўлаўны, 1960 г.н.***
***(перасяленка з в. Перагон Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.),***
***студэнткай Загорцавай К.***

Нельга шыць на сабе, бо мазгі зашыеш.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Беременной женщине нельзя шить в религиозные праздники. Считается, что ребенок родится с поврежденным языком, будто бы пришитым.

Нельзя зашивать одежду на себе – зашьешь свой ум.

Иголка используется как оберег от всего плохого. Иголку втыкают в углы дома.

Иголку используют как защиту от ведьм. Острый конец иголки нужно направить на ведьму и как будто колоть её. Ведьма это обязательно почувствует и проявит себя.

Булавку пристегивают к внутренней стороне одежды, чтобы не сглазили.

Если увидишь в своем доме в незаметном месте иголку, значит, кто-то сделал на этот дом что-то плохое. Также если увидишь волосы, спутанные в комок, – кто-то сделал плохое.

Для того чтобы уберечься от плохих людей, перед порогом рассыпают соль.

Чтобы в доме не было домовых и всякой нечистой силы, в углы дома насыпают мак, который освятили в церкви.

Нельзя стоять в одном ботинке – потеряешь одного из родственников.

Нельзя во время еды смотреться в зеркало – съедаешь свою красоту.

Нельзя пить из чашки с трещиной – будет плохая, ломаная судьба.

Нельзя чужие кольца надевать и свои кольца нельзя давать мерять чужим – чужую судьбу к себе заберешь или свою отдашь.

В разбитое зеркало смотреть – к несчастью.

Нельзя пробовать что-нибудь с ножа – станешь злым.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Прышчэпавай Валянціны Леанідаўны, 1958 г.н.,***
***студэнткай Макавецкай М. (2010 г.)***

Іголку ўтыкаюць у падолак, каб не зглазілі. І маладой дзяўчыне, якая выходзіць замуж, утыкаюць у плацце.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Нельга шыць на сабе – розум зашыеш. Трэба або скідаць адзёжу, або браць у рот нітку.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Нельзя шить на себе, так как ум зашивается.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Іголка – шыць на сабе нельга, бо разум прышыеш. А ўжо калі шыеш, дык трэба нітку ў рот узяць.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.,***
***студэнткай Канапацкай А.***

Нельга на сабе шыць, бо хварэць будзеш. А калі не можаш зняць адзежу дык, калі шыеш, трэба ў рот нітку ўзяць.

З дапамогай іголкі порчу рабілі. То калі ж убачыш іголку ў хаце, якая аднекуль з’явілася, то трэба яе белай тканню ўзяць (ні ў якім разе не голымі курамі), у карабок з-пад запалак палажыць, выйсці на перакрыжаванне дарог ноччу і падпаліць. Тады і ўсё дрэннае, што было на іголку нагаворана, згарыць.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Сяліцкай Н.І., 1938 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Калі кот будзе лезці ў печ – на двары будзе холадна.

Ня трэба смецце кідаць у печ – будзе нядобра.

Калі печ вытапіў – трэба яе закрываць заслонкай.

Калі грымеў гром – дзяржаліся за печ, каб быць дужым.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Нельга шыць на сабе, бо лічыцца, што прышываеш усе веды. У такім разе трэба браць кусочак ніткі ў рот.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

На сабе не шылі. “Зашыеш сабе розум”, – так казала мая баба.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Некаторыя людзі робяць так: іголку з ніткай прычэпліваюць к сукенке, каб не было прыстрэку.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Калі шыюць на сабе – зашываюць свае думкі.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Іголку ні нада з дому даваць, бо будзеш тады балець і як кажуць у народзе, “калючкі вострыя будуць калоць у плечы”.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

На сабе шыць нельзя, бо розум зашыеш. А еслі ўсё-такі шыеш, то нада ўзяць іголку і ўтыркнуць у платок, тады ўжо можна шыць. Яшчэ, кагда на сабе шыеш, то вазьмі тое, што зашываеш, у рот, можна яшчэ нітку ўзяць, тады гаварыць нельзя, пакуль шыеш.

Іголкі вешаюць на дзверы хаты і хлева, каб засцерагчыся ад ведзьмы.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Нельга з хаты каму-та даваць іголку, таму што будзе гора.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Когда шьём, нужно обязательно взять что-нибудь в рот. Считается, что если не возьмёшь какой-нибудь предмет в рот, то можеш зашить себе всю память, всё что знаешь.

***Запісана ў п. Прыгараднае Рэчыцкага р-на***
***ад Бучынскай Ларысы Рыгораўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Нельга было шыць адзенне на сабе. Лічылі, што можна прышыць розум. Неабходна было браць у зубы нітку, а толькі потым шыць.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Новые іголкі затыкаюць у косякі дзвярэй, от ведзьмы.

Еслі новою іголкою пошыць наволочку на подушку, а потом гэтою ж іголкою прышываць гузікі мужыку, то вон нікагда з другімі гуляць ня будзе.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Нельга іголку даваць жаніху, нявесце або суседу, каб не было ў хаце бядноты.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Кухарэнка Любові Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

На сабе ні ў коем случае нельга шыць, бо зашываеш свой розум.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Тацціяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

## *Кажух*

Кагда жэняцца, маладых нада садзіць на адзін обшчій стул. Еслі нету обшчева стула, то садзят на кажух. Едзінае палатно – едзіная сям'я.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Маладых трэба садзіць на кажух, вывернуты поўсцю наверх, каб багатыя былі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Кажух сцеляць маладым на лаве, каб багата жылі і дзяцей многа нарадзілі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Сімвал багатства. Када жэняцца, садзяцца на кажух. Гэта сімвал шчасця ў доме.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Маладых за стол садзяць на кажух, каб былі багатымі.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Тацціяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

Кажух – сімвал багацця, матэрыяльнага дастатку і дзетанараджэння. Выкарыс-

тоўвалі кажух у вясельнай абраднасці. Маці жаніха ці маці нявесты сустракала маладых пасля вянчання ў царкве на парозе дома ў вывернутым кажусе, трымала ў руках хлеб-соль, гарэлку і мёд. Вывернутым кажухом пакрываюць лаву, на якой садзяць маладых за стол. Ім жа пакрываюць дзяжу, калі нявесту садзяць на пасад.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

На вяселлі маладых садзілі на кажух, каб багата жылі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

На кажух на вяселлі садзяць маладых, каб багата жылі.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Кажух – гэта сімвал дабрабыту, багацця. Нявесту, перад тым, як аддаць замуж, сажалі на кажух, каб багата жыла.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Шубу заўсёды клалі на тое месца, дзе будуць сядзець маладыя ў знак багацця і дабрабыту будушчай сям'і.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Было, молодую ек до венца нараджалі, то садзілі яе на дзежку, наверх покрытую кожухом, коб за мужом была, бы за паном. Коб був всягда хлеб і вяліса овечкі.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## Каша

На Калядкі варылі кашу-куццю. Вяршочак ад куцці аддавалі куркам, карове, худобе, штоб вялася.

Тое сена, на якім стаяў гаршчочак з куццёй, падкладвалі куркам, штоб добра несліся і цыплятак выводзілі.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Качарга

Калі чалавек выпраўляўся куды-небудзь, то родныя ставілі качаргу ўверх (дагары), каб везла ў той справе, па якой чалавек паехаў ці пайшоў.

***Запісана ў в. Старыя Дубровы Акцябрскага р-на***

***ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.,***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

Няможна падпіраць печ, бо мужык гуляць будзе.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## *Качалка*

Незамужняй дзяўчыне ні можна качалку лізаць (таўкачык), бо будзе лысы мужык.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

## *Кашуля*

Малому дзіцяці апраналі кашулю наізнанку, каб яго не зглазілі.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Калі надзяваеш наізнанку – эта плоха. Значыць, цябе хто-та абгаворвае ці хто-та падроб зробя, ці нешта дрэннае праізайдзёт дома. Калі так адзенеш, нада яе быстрэнька здзець і папрасіць, каб цябе хто-та па спіне пабіў, тады ўсё добра будзе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Ад зурокоў трэба выцерціся мацерыной сорочкой, подолом етой рубашкі. Выціраць трэба ліцо і рукі обязацельно.

А каб дзеці былі дружные, то ім трэба було одзеваць рубашку одну. Сначала штоб першэ дзіця её поносіло дні 3, а потом схаваць рубашку до рождзенія другого. І даць адзеці ўжэ другому дзіцяці. І так колькі дзяцей у сям'е будзе, то ўсе воны будуць дружные.

То, я знаю, моей унучке робілі. Я за бабу ў её дзяцей була. Повітухой у её була. То ей, казалі, каб родзіла легко дзяцей, трэбо було, каб её муж перaлез над расцеленою сорочкай своёй жонкі 3 разы.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Малым дзецям адзявалі кашулю наізнанку, каб уроку не было.

Калі дзіця сглазілі, то маці трэба падолам сваёй кашулі з ізнаначнай стараны працерці яму адкрытыя месцы і твар, ручкі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Малому надзявалі сарочку навыварат ад дурнога вока.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Тацціяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

## Крыж

Крыж багата чаго значыў для людзей. От, напрымер, у нас у вёсцы недаўно паставілі ў пачатку і канцэ вёскі крыжы. Ето значыць, шо етые крыжы даўжны адводзіць ад вёскі ўсе беды і неўдачы. Той чалавек, які будзе кланяцца етаму крэсту, будзе ўдачлівы. Вот па-етаму людзі завязваюць на крэст рушнікі, засаджваюць кветкі.

Вельмі часта неправільна хароняць людзей. Правільна будзе, калі крэст будзе стаяць на ўсход, бо, шчытаюць, шо на ўсходзе жыве наш Бог, а на захадзе – сатана.

Дзетак маленькіх трэба як можна хутчэй пакрысціць, каб у іх на шыі вісеў пасвечаны хрэсцік, тады дзіця, як казала мая бабуля, будзе служыць Богу, і Бог будзе памагаць яму.

От шчас часта на могілках робяць тожэ неправільна: ставяць памерлым памятнікі, а той крэст, шо стаяў да таго, як ставіць памятнік, выкідаюць. А хіба ж так можна? Трэба ж той крэст ці ў зямлю ўкапаць разам з рушнікамі, екіе на ём віселі, ці паставіць умесці з памятнікам радам.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Каваленка Надзеі Савельеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

## Косы

От як рашчэшэцца, то косы трэба выкідваць у грубку і паліць. Бо калі дагоўцы кінеш, то іх муш зацягне ў сваю дзірку і будзе ў того чоловека болець голова.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

## Лапці

Іх мы кідалі цераз забор і сматрэлі, куда паказвае носік – адтуль будзе жаніх.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Пагаворка есць: “Дзесяць лапцяў знасіў, пака сваю судзьбу нашоў”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Лапці кідалі на калядную ноч цэраз забор, у які бок лапець пакажа, там дзеўка і выйдзе замуж.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На Каляды гадалі. Выходзілі ў поўнач на двор і кідалі праз браму лапаць. У які бок пакажа насок, адтуль будзе муж.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Вешалі ў хаці за печчу, як обярэг – для домового вешалі, годзілі яму.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***

***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## *Люстэрка*

Люстэрка разбіваецца, то гэта да няшчасця.

Трэба закрываць усе люстэркі, калі ў хаце нябожчык. Нельзя паказываць дзіця ва ўзросце да года ў люстэрка, будзе вядзьмак.

Ну, навернае, усюды так, калі люстэрка разбіваецца, заўсёды плоха людзям, якія яго разбілі, ілі ў доме гэтым будзе няшчасце.

Усягда, еслі хто памірае, то зеркала завешваюць якім пакрывалам, штоб ніхто больш не мог памерці ў гэтым доме, каб нікога на той свет праз етае зеркала нішто не зацягнула.

Нельзя паказваць маленькае дзіця ў зеркала, штоб яно відзела сваё атражэнне.

Нельзя жанчыне ў палажэнні сматрэць часта ў зеркала, патаму што могуць нарадзіцца блізняты. Ілі гэтае зеркала ўсю красату яе забярэ.

Еслі ў хаце ляжыць пабітае зеркала, не важна, якое, маленькае ці бальшое, усё роўна трэба яго быстрэй аднесці ад етага дома і закапаць паглыбей.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Еслі зеркала разбіваецца, уродзе як судзьба разбіваецца.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Шкляровай Ніны Іванаўны, 1937 г.н.,***
***Шклярова Яўгена Іванавіча, 1934 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Нельзя доўга глядзець у зеркала – будуць маршчыны.

Калі зеркала пабілася – няшчасце. Калі прыбіраеш асколкі, нельзя глядзець у іх, калі не паглядзеш – будзе ўсё добра.

Калі умірае чалавек, нужна зеркала закрыць пакрывалам, а то душа будзе жыць там.

***Запісана ў в. Зарэчча Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кліннікавай В.І., 1929 г.н.,***
***студэнткай Аўраменка А.***

Калі пакойнік у хаце – зеркала трэба закрываць.

Нільзя дзеўкам у адно зеркала глядзецца – аднаго хлопца любіць будуць.

У разбітае зеркала нільзя глядзецца – няшчасце будзе.

Калі зеркала разбіваеш – няшчасце будзе.

Калі граза – нада зеркала закрываць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

На зеркала дзеўкі ўсе варожаць. Бяруць дзве свечкі і ў стаканы ставяць паўзбок зеркала і ўжэ бачаць свайго суджанага. Калі ўбачыш, што хто ідзе, то нада зеркала перавярнуць, бо вочы павыдзірае табе.

Шчэ зеркала закрывалі, калі ў доме пакойнік, каб не прыжылася душа яго там.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Людзі кажуць, што нельга вельмі доўга глядзецца ў люстэрка, бо яно забірае ўсю прыгажосць, здароўе, сілу. Трэба, калі на вуліцы ідзе дождж, граза, маланка люстэрка закрываюць, каб у хаце было ўсё добра.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Нельга есць перад люстэркай – прыгажосць сваю заядаеш.

Калі люстэрка разбілася – к няшчасцю, таму нельга захоўваць разбітае люстэрка.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Загорцавай Ганны Паўлаўны, 1960 г.н.***
***(перасяленка з в. Перагон Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.),***
***студэнткай Загорцавай К.***

Нельга разбіваць, бо сем гадоў няшчасце будзе.

Калі пакойнік у хаце, нада прастынёй усе люстэркі закрыць, каб атражэнне яго не бачыць. Нельга долга глядзець у яго, бо сілу забярэ.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Зеркала – вельмі апасная рэч, у ім жыве нячыстая сіла. Таму нельга глядзецца ў зеркала навароджаным дзецям і цяжарным жанчынам. Нельга ставіць зеркала побач з памерлым, каб яго душа не пасялілася там назаўсёды. Таксама нельга глядзецца ў яго падчас ежы і перад сном, калі лаланка і поўня, бо чалавек можа стаць пярэваратнем, ці, убачыўшы сваё адлюстраванне ў зеркале, памерці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Када хароняць каго-та і пакойнік у доме, завешвают усе зеркала, штобы не была втарога пакойніка. Када жывой смотрыт у зеркала – то наадварот к раждзенію.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Дзяцей нельга паказваць у зеркалі да года, бо спугаецца.

Зеркала разбіваецца – жызня ламаецца.

Кагда ў хаце пакойнік, то ўсе зеркалы накрываюць белым, бо душа яго доўга не знойдзе месца сабе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Разбіць зеркала – вялікае няшчасце, нада хуценька сабраць усе асколкі і вынесці з хаты.

Кажуць вяртацца назад – плахая прыкмета. Тады трэба, каб усё была харашо, паглядзець у зеркала.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Нельзя над краваццю вешаць яго. Калі павесіш яго, то нядобрыя дзеўкі твайго мужа ўвядуць ці зробяць так, каб ён ад цябе ўшоў. Зеркала над краваццю – к саперніцам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Бальшое зеркала ў доме – эта няшчасце. Ево нада выкінуць. Кагда пакойнік у доме, зеркала завешвают. Спаць нельзя, штоб зеркала на цябе глядзела. Малых дзетак да года жалацельна не паказваць у зеркала.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Разбіць люстэрка – к няшчасцю.
Нельзя глядзецца ў разбітае люстэрка – к няшчасцю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Нельзя глядзецца ў адно зеркала дваім сразу, бо будзе няшчасце.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Когда умираеть покойник, то все зеркала закрывають материалом.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Фралова Аляксандра Георгіевіча, 1920 г.н.***
***(перасяленец з в. Пасёлкі Кірэеўскага р-на Тульскай вобл.),***
***студэнткай Малай І. (2001 г.)***

Зеркало – очень опасная вещь, в нём живёт нечистая сила. Поэтому нельзя давать смотреться в зеркало новорождённым детям, а так же беременным женщинам. Нельзя ставить зеркало рядом с покойником, чтобы его душа не поселилась там навсегда. Нельзя также смотреться в зеркало во время еды и перед сном, а также во время молнии и полнолуния, ибо человек может стать оборотнем или, увидев своё страшное отражение в зеркале, умереть.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І.***

Калі памірае чалавек, то ў хаце завешваюць усе люстэркі, каб ніхто не мог убачыць яго, бо хутка яны сустрэнуцца на тым свеце.
Нельга глядзець у люстэрка ў час ежы – можна падавіцца.
Нельга дзіця да года паказваць у люстэрка.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Нельга доўга глядзецца ў зеркала, бо яно красату забірае.

Нельга дзіця да году паказваць у зеркала, бо будзе пужлівым.

Нельга есці перад зеркалам, бо красату з'еш.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н., студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Калі ў сям'і памірае чалавек, то трэба завесіць люстэрка, павыліваць усю ваду з посуду, каб туды не перасялілася душа памерлага.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на ад Калоша Тацяны Свярыдаўны, 1932 г.н., студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

Калі разбіваецца люстэрка, гэта да няшчасця. Нельга сматрэцца ў разбітае люстэрка – здарыцца няшчасце.

Трэба закрываць люстэрка, калі граза, маланка.

Нельга маленькае дзіцятка ва ўзросце да года паказваць у люстэрка, а то будзе калдун.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н., студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Люстэрка, – па славянскім павер'ям, – дзверы ў іншастаронні мір.

Нельга паказваць дзіця ва ўзросце да года ў люстэрка – будзе калдун.

Нельга глядзець у яго ноччу ці ў гразу: можна ўбачыць тое, ад чаго страціш прытомнасць. Нельга пры памершым трымаць люстэрка не прыкрытым, бо вернется ў мір жывых вурдалакам. Калі чараўнік паглядзіцца ў люстэрка – памрэ. Для адводу ведзьмаў нада ў хлеве трымаць асколак люстэрка.

Добра падыходзіць для варажбы.

***Запісана ў г. Добруш ад Лысоўскай Лізаветы Еўклідаўны, 1910 г.н., студэнткай Берлінай А.***

Люстэрка – прадмет, з дапамогай яго можна пабываць на тым свеце і сустрэцца з продкамі, узнаць аб будучым. Нельга глядзецца ў люстра толькі што нарадзіўшамуся дзіця, цяжарнай жанчыне і нябожчыку. Трэба закрываць люстра ў доме, дзе знаходзіцца труна з нябожчыкам. Калі не закрыеш яго, то смерць можа зацягнуць да сябе. Нельга глядзецца ў люстэрка ў час ежы, калі расчэсваеш валасы, перад сном. Калі люстэрка паб'ецца – гэта дрэнны знак. Трэба, пакуль ніхто не ўбачыў, венікам 3 разы на кавалкі брызнуць і выкінуць. Люстэрка выкарыстоўваюць і ў варожбах. Трэба замкнуцца ноччу ў лазні, паставіць перад сабой люстэрка, а па баках 2 свечкі і глядзець у яго, не міргаючы. Можна ўбачыць, што чакае яго наперадзе.

***Запісана ў г. Добруш ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н. (нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на), студэнткай Антончыкавай Н.***

Разбить зеркало – семь лет мучений.

Нельзя долго смотреться в зеркало, так как оно забирает силу человека, а у девушки красоту.

***Запісана ў в. Цярахоўка Добрушскага р-на ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н., студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Люстэрка, калі яно разбіваецца – гэта да няшчасця. Не трэба глядзецца ў разбітае люстэрка – убачыш сябе, непрыгожую. Трэба закрываць усе люстэркі, калі ў хаце нябожнік. Бо, калі пабачыш нябожніка ў зеркале, хутка сустрэнішся з ім. Нельга маладой дзеўцы есці перад зеркалам, бо так з'есць сваю красату. Нельга малое дзіця да года паказваць у зеркала.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Зеркало вешалі ў хляве ў каровы. Як бы думалі, каб да каровы не цаплялася ніякая нячыстая сіла. І лічылі, калі нячыстая сіла ўсё ж прычапілася, то думалі, а так яно і было, убачыўшы сваё ліцо ў зеркалі, спужаецца і знікне.

У час грому нада ўсегда закрываць зеркала ўсе ў хаце, шоб молнія не нарабіла шкоды. І шчэ ў час маланкі нельзя стаяць чалавеку насупраць зеркала, бо молнія магла ўдарыць у зеркала, а патом у чалавека.

Калі ў хаце быў пакойнік, то яго не павінны былі лажыць у пакой, дзе было зеркала. Усе зеркала ў пакоі, дзе ляжаў пакойнік, даўжны былі вынесці і абавязкова закрыць, бо, калі яно было адкрытае, то душа пакойніка, убачыўшы сябе ў зеркалі, ніколі б ні нашла пакоя.

Таксама з дапамогай зеркала шчэ гадалі. Бабуля мая казала мне, шо ў зеркалі яна і ўбачыла свайго мужа.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н., студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Нельга падносіць да люстра малое дзіця, пакуль яму не споўніцца год. Лічылася, што тады ўсё яго жыццё будзе “перавёрнутым”. І нават для нявесты не рэкамендавалася доўга і без патрэбы глядзецца ў люстэрка. Завешваюць люстэрка і ў пакоі, дзе ляжыць нябожчык. Дрэнна, калі люстэрка паб'ецца – гэта азначае разбіванне ўласнага адбітку, а з ім і нарушэнне сувязі паміж тым і іншым светам. Разбітае люстэрка трэба хуценька сабраць, пакуль ніхто не ўбачыў.

Лічылася, што пажаданні, якія чалавек выказвае, калі глядзіцца ў люстэрка, збываюцца. Нельга двум дзяўчатам глядзецца ў адно люстэрка, бо пакахаюць аднаго хлопца.

***Запісана ў в. Майскае Жлобінскага р-на ад Машніцкай Ніны Маркаўны, 1945 г.н.***

Нельзя глядзецца ў люстэрка навараждзёнаму, таму што эта можа перавярнуць яму жызнь, вызваць многа балезней.

Нельзя глядзецца ў люстэрка нявесце і бярэменным. Толькі чаго, не знаю. Усе знаюць, што калі ў хаце мяртвяк, зеркалы ўсе закрываюць.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н., студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі разаб'еш люстэрка, то гэта да вялікай бяды.

Нельга глядзець ў разбітае люстэрка, бо прыгожасці не будзе.

Калі дзіцяці яшчэ маленькае, яму нельга паказваць люстэрка, бо нешчаслівы будзе.

Трэба закрываць усе люстэркі ў хаце, калі памірае чалавек, бо нябожчык можа пабачыць сябе ў люстэркі і тады будзе мучацца на тым свеце.

З дапамогай люстэрка можна варажыць і прадказваць будучыню.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Канавальчык Н.А., 1925 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Калі люстэрка разбіваецца – гэта да няшчасця.

Трэба закрываць усе люстэркі, калі ў хаце нябожчык. Бо калі хто-небудзь пабача нябожчыка ў зеркале, то сустрэча можа быць хуткай.

Нельга доўга глядзецца ў люстэрка, бо яно забірае моц, сілу чалавека, а ў жанчын – маладосць, красату.

Трэба закрываць люстэрка, калі граза, маланка.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Поколотое зеркало ў хаце не дзержаць, бо ето к нешчасцю.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Ніколі нельга ставіць люстэрка насупраць люстэрка, яно з’яўляецца магічным крышталем.

Нельга, каб свяча гарэла насупраць люстэрка.

Ніхто не ведае, што знаходзіцца там унутры. Там можа знаходзіцца і настрой (часцей дрэнны), і душы нашых продкаў. Незнарок жа пакрываюць люстэркі хусткай, калі памірае чалавек у гэтай хаце. А для чаго? Каб яго душа не пасялілася ў люстэрке і не шкодзіла.

Лепш спазаранку ўмыцца дажджавой вадой або снегам, паглядзець у люстэрка і ўлыбнуцца, каб яно ўлыбнулася вам у адказ.

Люстэрка павінна бачыць толькі добры ваш настрой, тады ўсё будзе добра, а калі сварыцца насупраць люстэрка, дзе бачна ваша атражэнне, то гэту энергетыку яно надоўга захавае і ў вас нічога не будзе атрымоўвацца, як вы таго жадаеце.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.,***
***студэнткай Яфімавай Г. (2006 г.)***

Кажуць, колі зеркало падае да б’ецца, то ў яго не можно глядзецца.

Як пошоў з хаты, але забуў нешчо, то трэба, знай, вярнуцца домоў і абязацельно поглядзецца ў зеркало, штоб була ўдача.

Колі моцна гроза, на зеркало трэба што-небудзь надзець. Завесіць нейкой онучэй.

Зеркало нужно берэгчы, бо з яго помоччу можна ўбачыць і той свет. Особенно, колі гадаеш на Новы год.

***Запісана ў в. Перароў Жыткавіцкага р-на***
***ад Баран Фядоркі Якаўлеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Курбан М. (2004 г.)***

Ня трэба разбіваць люстэрку – будзе нядобра.

Трэба, калі грыміць гром і маланка, закрываць усе люстэркі ў хаце.

Ня трэба маладым дзеўкам доўга глядзецца ў зеркала, яно забірае красату, сілу і маладосць. Трэба закрываць зеркала, калі ў хаце нябожчына, каб не хутка з ім сустрэцца.

Зеркала добра падыходзіць для варажбы. Маладыя дзеўкі гадаюць на сваіх сужаных. Ня трэба даваць глядзецца маленькаму ў зеркала, бо там, гаварылі, нячысцікі знаходзяцца.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Калі люстэрка ўпала і пабілася – чакай няшчасця.

***Запісана ў в. Ударнае Лельчыцкага р-на ад Лін Алены Міхайлаўны, 1922 г.н., студэнткай Траханові С. (2002 г.)***

Калі разбіваецца люстэрка, то будзе няшчасце.

Нельга маладым дзяўчатам глядзецца ў разбітае ці паколатае люстэрка, бо тады яны ніколі не выйдуць замуж.

Калі ў хаце пакойнік, то абавязкова трэба закрываць люстэрка, бо калі ўбачыш нябожчыка ў люстэрку, то хутка сустрэнешся з ім на тым свеце.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н., студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

У люстэрка нельга доўга глядзецца, бо яно забірае прыгажосць. Калі нешта забыўся і вяртаешся назад да хаты, то трэба абавязкова паглядзець у люстэрка.

Нельга глядзецца ў пабітае люстэрка, бо судзьба будзе такой самай (пабітай).

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н., студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Малое дзіця да года ў люстэрка не паказваюць, бо спужаецца.

Калі пакойнік у хаце, то люстэрка завешваюць, каб не забраў яшчэ каго-небудзь.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Калі памрэ чалавек, трэба накрыць люстэрка цёмным пакрывалам, бо дух памерлага можа спужаць чалавека да смерці.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на ад Лаўшук Марыі Якаўлеўны, 1928 г.н., студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Не трэба паказваць дзіця да года ў люстэрка, бо не будзе доўга гаварыць.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н., студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Перад зеркалам есці нельзя, бо свой розум заядаеш.

Зеркала закрываць нада, як граза, бо хату запаліць.

Еслі ўмер хто ў сям'і, дак завешваюць у хаце зеркала, штоб не вярнуўся назад пакойнік і не забраў каго з сабой.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***

***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Трэба закрываць усе люстэркі, калі ў хаце нябожчык.

Калі люстэрка разбіваецца – ета да няшчасця.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

В зеркале живёт нечистая сила. Когда человек умер, нужно обязательно закрывать зеркала. В зеркале будет отражаться его душа.

Когда ложишься спать, нужно так же закрывать зеркала, чтоб они не смогли забрать у тебя всю энергию.

Перед зеркалом нельзя кушать, считается, что ты сможешь съесть всю свою красоту.

***Запісана ў п. Прыгараднае Рэчыцкага р-на***
***ад Бучынскай Ларысы Рыгораўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Калі хто памірае, то яго нада закрываць чым, каб душа ў яго не глядзелася.

Маленькаму рэбёначку глядзець у зеркальца не нада, маці далжна адносіць яго ад яго, а лучшэй саўсім прыкрываць, бо можна і не ўглядзець. З зеркалам многа варожылі, гадалі. Яно як бы ў іншы свет ці ў далейшую судзьбу паказвала. У пабітае зеркала глядзецца нельга – плоха.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельга перад люстэркам стаяць у голым відзе – не будуць вадзіцца грошы, муж разлюбіць, падграеце жызненную энергію і будзіце часта балець.

Калі памірае чалавек, завешваюць люстэрка тканінай, каб чалавек не ўбачыў сваё абражэнне і не застаўся за люстэркам.

***Запісана ў в. Каменка Чачэрскага р-на***
***ад Загорцавай Зінаіды Андрэеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Загорцавай К.***

Заўсёды закрывалі зеркала калі ў хаце быў пакойнік. Лічылі, што ён можа выгледзець каго-небудзь з родных і забраць з сабой.

Нельга было многа глядзецца ў зеркала, лічылі, што яно забірае ўсю красату.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Тацяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Калі ў хаце нябожчык, трэба люстэрка закрываць. Каб ён не забраў з сабой яшчэ каго-небудзь на той свет.

Нельга часта і доўга глядзецца ў люстэрка, бо яно забірае прыгажосць.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Тацяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

Нельга сматрэць у разбітае люстэрка, закрываць яго ў гразу і маланку.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нельга дзяцёнку даваць у ручкі люстэрку – зубкі будуць цяжка праразацца.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на***
***ад Кухарэнка Любові Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Ніколі нельга глядзець у разбітае люстэрка – гэта к чамусьці дрэннаму. Люстэрка трэба закрываць, калі ў хаце ляжыць нябожчык.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.,***
***ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

Не лажы люстэрка на стол – галава балець будзе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Нельзя есці перад зеркалам, кажуць, што красату і шчасце сваё з’ядаеш.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

Калі люстэрка разбіваецца – гэта да няшчасця. Трэба закрываць усе люстэркі, калі ў хаце нябожчык. Бо, гаворагь, душа нябожчыка застанецца назаўсёды ў хаце. Нельга доўга глядзецца ў люстэрка, бо яно забірае маладосць і красату.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

## Лапата

Мы калісьці выкідвалі лапату на двор. Эта была як бы абарона ад града.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

## Лыжка

Пасля пахарон на абеднях нельзя есці вілкамі, а толькі лыжкамі, бо на тым свеце пакойніка калоць будуць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Калі ўпадзе са стала лыжка, то скора ў хату прыйдзе нейкая жанчына. Лыжка таксама выкарыстоўваецца ў розных гаданнях.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Всегда гаварылі, што ложку даўжны лажыць уніз етай, чым чэрпаеш. А ўжо, хто калі памрэ ў хаце, то наабарот клалі. Казалі, што пакойнік прыходзе есці, і ежалі палажылі ложку па-другому, то ён перавярнуць яе не зможа і не паесць.

***Запісана ў в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на***
***ад Кудзінавай Ганны Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Якубоўскай Т. (2001 г.)***

Калі пасля яды на стале засталася лыжка або ўпала, калі елі – спяшыць госць, жанчына, а калі нож – мужчына.

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на***
***ад Кушняровай Валянціны Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

## Ногі

Нельзя пераходзіць праз працягнутыя ногі, бо ногі болей расці не будуць.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

## Ногці

Іх не абразаюць у пятніцу, каб напасці не было.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Ногці нада абразаць толькі ва ўторнік. Калі ногці абрэжыш, нада выкінуць іх цераз рубашку. Так нада. Мая бабуля так рабіла і я раблю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

На нагцях дзелалі прывароты, каб мужык любіў. Ногці мужыка ў воск закатвалі і клалі за абразы.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Ногти обрезают по вторникам – к деньгам, по пятницам – к любви.

***Запісана ў в. Цэрахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Калі абразаеш ногці, кідай іх запазуху, каб на тым свеце быць з нагцямі. Бо калі чалавек трапляе на той свет і падымаецца на гару, то ногці яго ламаюцца, зладзяць, а так, калі кідаеш запазуху, пры ім будуць, не трэба будзе збіраць.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н***

Абрэзаныя ногці не выкідваюць на двор.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Калі зрэзваць ногці на маладзік, то яны будуць моцнымі і будуць хутка расці.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Ногці як абразаеш, дак нада ў пазуху іх кідаць. Гаварылі старыя людзі, што тады на тым свеце гару пяройдзеш, яны будуць табе памагаць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Нож*

Нельзя астаўляць нож на стале, бо будзе дрэнна ў сям'і.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Ня трэба лажыць нож астрыём уверх, бо будзе дрэнна.

Ня трэба астаўляць на нач нож на стале – будуць сваркі ў сям'і.

Нож яшчэ лічыў розныя хваробы, ім вадзілі па бальному месту.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Нельзя есці з нажа – будзіш ругацца.

Каб карова добра паслася, пастукаць нажом па яе спіне.

***Запісана ў в. Зарэчча Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кліннікавай В.І., 1929 г.н.,***
***студэнткай Аўраменка А.***

Нільзя нож на стале астаўляць. Есці з нажа нільзя.

Нільзя нож з хлебам лажыць – бедным будзеш.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Нільзя нож на стале астаўляць, з хлебам лажыць – бедным будзеш.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Каб злыя людзі не прыходзілі, трэба нож утаркнуць у лутку.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Максіменка Марыі Іванаўны, 1931 г.н.***

Нож абязацельно дзе-то должэн на сваём месце ляжаць. Нож не нада кідаць дзе папала. Нож – эта злосць.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Атрошкінай Ніны Кузьмінічны,***

***Атрошкіна Міхаіла Іванавіча, 1950 г.н.***

Нельзя класці нож уверх астрыём, а то здарыцца няшчасце.

Нельга астаўляць нож на стале, будзе сварка.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Яго нельзя на стале астаўляць, бо ў сям'е начнуцца сваркі, ругань, неразбярыха.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Не нада астаўляць нож на стале, кагда есці садзяцца, а то ругня ў хаце будзе.

Аблізваць ці есці з нажа не нада – зліцца будзеш.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Нельзя астаўляць нож, уторкнуты у каравай, хлеб, ета прывядзе к голаду ў сям-'е.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Нельзя есці з нажа, бо будзеш зліцца ўсегда.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Кажуць, што нож нельга аблізваць пасля таго як нешта адрэзалі, бо чалавек той будзе вельмі злы, і будзе рабіць зло другім людзям. Астаўляць нож на пустым стале, гэта к хваробе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Нельга пакідаць нож на стале на нач – к сварке.

Нельга есць з нажа – чалавек будзе злы.

Нельга дарыць нож – к сварке з тым чалавекам, каму падаравалі гэты нож.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Загорцавай Ганны Паўлаўны, 1960 г.н.,***
***(перасяленка з в. Перагон Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.),***
***студэнткай Загорцавай К.***

На рабро нельзя на стол ставіць – к скандалу.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Кто сам сабе шаптаў малітву, нада было браць нож пад паху.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Не прыносяць дамоў з другіх мест лыжкі, вілкі і нажы, бо прыносіш у хату ссору і лайку.

Нажы не дараць, бо могуць паслужыць у плахіх цэлях. Гэта плахая прымета, калі падарылі нож, то трэба даць за гэта манету.

Нельга есці з нажа, бо злым будзеш.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Нельзя ложить нож вверх острием, будут неприятности. Нельзя на ночь оставлять нож на столе – домовой злиться.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Нож не трэба класці яго уверх астрыём, будзе непрыятнасць. Або астаўляць на нач на стале, бо муж з жонкай пасварацца.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Мы ўсягда гаварылі, што няльзя гуляць з нажом, бо можа паявіцца сварка ў хаце. А еслі будзеш есці з нажа, то злым будзеш. А яшчэ раней клалі нож на парог, каб не было ніякіх балезняў дома. Нельга нож класці лезвіем уверх, бо можа случыцца што-та дурное.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі з рук падае нож, дык казалі, што хто-та ў госці спяшаецца.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Нельга пакідаць нож на нач на стале, бо будзе сварка ў сям'і.

Калі не хочаш, каб нехарошы чалавек заходзіў у хату і каб ён дрэннага не парабіў, трэба над дзвер'ю ўтыкнуць нож. Калі будзе нехарошы чалавек заходзіць, тады нож начне паказывацца. Будзьце асцярожлівымі з такім чалавекам. Лепш яму нічога не пазычаць, бо ў яго дрэнныя думкі.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Канавальчык Н.А., 1925 г.н.***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Колі ўпадзе нож, то прыдзе мужчына, ек вілка, то жанчына.

Нож не можна на столе на ноч остоўляць – дома сварка будзе тоды.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Кошман Надзеі Мікалаеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Нельга астаўляць нож на стале, будзе дрэнна ў сям'і.

Нажом лячылі разныя хваробы, вадзілі ім па бальному месту, з дапамогай хлеба.

Лячылі ўрокі ім і пры гэтым чыталі малітвы.

*Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на*
*ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,*
*студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)*

Кажуць, што нельга есці з нажа, бо муж будзе піць.

*Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на*
*ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,*
*студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)*

З нажа не нада есці, бо замуж не выйдзеш. Не трэба есці нажом масла, бо карова ўрэжэ малако.

*Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на*
*ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,*
*студэнткай Белька С. (2006 г.)*

Не трэба з нажа есці. Не трэба рэзаць ім масла, боўтаць чай, смятану, бо карова будзе менш даваць малака.

Не класці вастрыём уверх – будзе непрыятнасць. Не махаць нажом – Бог пакарае.

*Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на*
*ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Белька С. (2006 г.)*

З нажа нельга есці. Не выйдзеш замуж і розум свой знішчаеш. Калі нож падае, то, кажуць, што прыйдзе чалавек мужчынскага роду. Нажом не мяшаюць яду, бо будзе пуста ў хаце.

*Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на*
*ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Белька С. (2006 г.)*

Нельга нож астаўляць на стале. Калі падае нож, то к нечаму дрэннаму.

*Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на*
*ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,*
*студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)*

Нільзя, каб на стале ляжалі два нажы, а то ў хаце ругня будзе.

*Запісана ў в. Радзілавічы Рагачоўскага р-на*
*ад Прасняковай Ксеніі Пракопаўны, 1930 г.н.,*
*студэнткай Казловай К.*

Калі пад’ясі, трэба зразу убіраць нож з стала, каб у хаце ніхто не браніўся. А калі ж усе-такі заставілі на стале, то не мінаваць вам ругані.

*Запісана ў г. Рэчыца*
*ад Карбацянка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.*
*(прыехала з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),*
*студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)*

Нож ні можна класці на пусты стол, бо будзе ў хаце сварка. Ні можна нож аблізваць, бо будзеш злосны на язык.

Калі дзіця ніяк не адважвалася пайсці, паміж яго ножкамі па падлозе накрыж чырылі нажом – перарэзвалі путы. Дзіця пачынала хадзіць.

*Запісана ў г. Рэчыца*

***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Калі спрэбуеш нешта з нажа ці вабшчэ ясі ім, гэтага нельзя нікагда рабіць, бо, кажуць, будзе вельмі балець жывот.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Галаўко Кацярыны Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Нож на стале, не прыкрыты скацерачкай, астаўляць нельзя: ета не нравіцца дамавому.

Нажы, тапары, іглы, крапіўку вешаюць на дзверы хлева на Купалле, штоб у купальскую ноч ведзьма не ўкрала малачко ў кароўкі.

Кагда падае нож, то ета значыць, што ў хату прыйдзе якісь мужчына; а кагда падае ложка, то прыйдзе жанчына.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

На ноч нажы ўбіраліся са стала. Калі яго не ўбярэш, то будзе хто-та хварэць у хаце.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Калі дзіця пачынае хадзіць, то трэба нажом абязацельна перарэзаць путы, каб яно добра хадзіла.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Нож нельзя астаўляць на стале – к сорам.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Нож нада ўсягда хаваць, бо не к дабру, калі ён на стале ляжыць. Нож нельзя аблізваць, бо жонка ці муж хутка палысеюць.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельзя было пакідаць нож на стале. Многія бабкі лячылі менавіта пры помашчы нажа з дзеравяннай калодкай.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Нельга было пераступаць жанчыне ў палажэнні праз сякеру, бо дзіця ўдушыцца пупавінай. Нож не павінны ляжаць на стале ўверх астрыём, у хаце будзе сварка.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Таццяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

Нож, еслі ўпаў острыем уверх, то, значыцца, е врагі. Ножэм, ек дзіцятко начынае ходзіць, трэба разрэзаць путы на ножках. Провасці крэст-накрэст ножэм по подлозі коло ножок і дзіцятко пойдзе.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

З ножа няможна есці – будзеш злосны.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Нельга нож пакідаць на ноч на стале – будзе свара.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нельга нож пакідаць на нач на стале – чорт балуецца.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нельга пакідаць нож, уткнутым у хлеб, бо ў хаце тады будуць ругань і дракі.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл. ад Кухарэнка Любові Захараўны, 1930 г.н., студэнткай Архіпенка Г.***

Нельга аддаваць нож вастрыём уверх, бо будзе што-та дрэннае. Нельга пакідаць нож на стале нанач – не будзе грошай у хаце.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл., ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н., студэнткай Манецька А.***

Калі нож упадзе, то чакай гасцей.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н., студэнткай Лукашовай А.***

## Падкова

Падкова – сімвал шчасця, яе вешалі на дверы.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на ад Малько Тамары Іванаўны, 1936 г.н.***

## Падлога

Калі з дома хто-небудзь уезжает у дальнюю дарогу, нельга было падмятаць пол, каб была дарога добрая, без здарэнняў.

Калі незамужняя дзяўчына начынала падмятаць падлогу, палову падмяце, кіне, а потым зноў брала венік і дамятала, гэта азначала, што мужык будзе п'яніца і будзе біць гэту дзяўчыну (жонку).

Падлогу трэба падмятаць не з канца пакоя, а з пачатку, каб павымятаць усю нячыстую сілу.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Тацціяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

## *Падушка*

Няможна падкідаць угору, бо чэрці пладзяцца. Трэба добрэ ўзбіць – плодзіцца не будуць.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## *Палена*

Калі нараджалася дзіця, то яго клалі пад печ на палена і казалі: "Ляжы ў калысцы ціха, як ляжыць гэта палена пад печчу".

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

## *Парог*

Праз парог не здароваюцца, нічога не бяруць і не даюць, не стаяць на парозе.

***Запісана ў в. Старыя Дубровы Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.,***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

На парозе нельзя цалавацца, здаровацца – усё да няшчасця. Нада сыйсці з парога.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Парог – ета места нячыстае, ета связь з тым светам, з светам памершых людзей.

На парозе астанаўліваліся з гробам, калі выносілі пакойніка з хаты.

Нельзя доўга стаяць на парозе, бо ў той дом не зойдзе ніхто харошы. Не будзе ні грошай, ні здароўя.

Нельзя нічога даваць цераз парог, бо паміж етымі людзьмі будзе ссора.

Нельзя здаровацца за рукі праз парог, цалавацца тожа.

Нельзя сядзець на парозе бярэменнай жэншчыне, бо будуць цяжкія роды.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Цераз парог нільзя здаровацца, нічога даваць і браць нільзя, мусар цераз парог нільзя вымятаць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Цераз парог нільзя здаровацца, нічога даваць і браць нельзя, мусар вымятаць.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***

***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Цераз парог нельзя здаровацца.

Цяжарнай жанчыне нельзя сядзець на пароге, а то роды будуць цяжкія.

Размаўляць нельзя праз парог, таму што будзеш сварыцца.

Калі зачапіўся за парог правай нагой – успех будзе, а еслі левай – неўдача.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Максіменка Марыі Іванаўны, 1931 г.н.***

Нельзя нічево передаваць черaз парог. Нада выйці за парог ілі перад парогам стаць. Не здаровацца цераз парог.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

У парога нада пакласці яловую ветку, каб той, хто прыйшоў штось надзелаць плахога, навесці порчу, не смог этага здзелаць.

Нельзя здаровацца, аддаваць, забіраць чэраз парог. Гэта дзелаюць недругі. Кагда ў хаце ў сценах іголку найдзеш, гэта хто-та хоча раздораў ці балезней.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Нельзя сядзець на пароге, а то забалееш.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Нельзя здароўкацца на парозе, бо будзе ссора.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Пасля свадзьбы жаніх абавязкова павінен перанесці нявесту цераз парог – тады ўсё будзе добра.

Нельга цераз парог нічога ні даваць, ні браць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лазоўскай Ганны Сцяпанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Шкрэблік М. (2004 г.)***

Калі выходзім з дома, нельга спыняцца на парозе.

Нельга перадаваць рэчы цераз парог.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сачава Ганны Віктараўны, 1989 г.н.,***
***студэнткай Загорцавай К.***

Нельга перадаваць нічога чэраз парог.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Пад парогам жывуць жушы памерлых продкаў, таму парог павінен быць паста-

янна чыстым. Падчас святочных гулянняў, асобенна ў дзень успамінаў памерлых, парог упрыгожвалі кветкамі. Лічыцца дрэннай прыкметай наступаць на парог – дзень будзе плахім. Калі ў дом зайшоў плахі чалавек, то парог пасыпаюць соллю. Калі каму-та з дамашніх вельмі плоха, то трэба пайсць к парогу і папрасіць яго дапамагчы.

Пасля вяселля жаніх абавязаны перанесць маладую праз парог на руках, каб тыя знал, што гэта новы член сям'і.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Бандарэнка І. (2000 г.)***

Када сурочат чалавека, то канец спічкі апускают у свяшчоную ваду, амывают чалавека і вылівают пад парог.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Праз парог нельга здаровацца, перадаваць што-небудзь, стаяць доўга ў парозе – усё гэта прыкметы няшчасця.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Нельга чэраз парог нічаво даваць, нельга разгаварываць, бо ссора будзе.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Нельзя здороваться и передавать что-нибудь через порог, будет ссора.

***Запісана ў в. Цярахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Ні трэба праз яго нічога перадаваць – будзе бяда.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Чэрэз парог нельзя здаровацца, нельзя даваць якія-небудзь рэчы, бо думалі, што ета прынясе чэлавеку неўдачу.

У час вяселля маці жаніха, абвязаўшы рукі маладых ручніком, даўжна была правесці чэраз парог маладых у хату. Эта значыла, што маладые павінны быць шчаслівымі, не сварыцца.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Я знаю, што на парогі нельзя здаровацца ці прашчацца парам, бо яны могуць паругацца. Чэраз парог нельзя нічога перадаваць. А раней бярэменным нельзя было сядзець на парогу, таму што эта азначала цяжолыя роды.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Пасля вяселля жаніх абавязкова пераносіў нявесту праз парог, каб ведалі тыя, хто памёр, што ў хаце будзе жыць новы чалавек.

Праз парог нельга пазычаць ці аддаваць, нельга заровацца – гэта лічылася дрэннай прыкметай.

Нельга стаяць у парозе ці месці цераз парог смецце – гэта таксама дрэнна.

Лічылася, што на парозе збіраецца ўся чарната дома, таму дзіцяці ніколі не дазвалялі гуляць на парозе.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Канавальчык Н.А., 1925 г.н.,***
***Канавальчык Г.У., 1966 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Праз парог нельга нічога даваць, размаўляць, бо напаткае бяда.

***Запісана ў в. Ударнае Лельчыцкага р-на***
***ад Лін Алены Міхайлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Трахановіч С. (2002 г.)***

Под порогом живут души умерших предков, поэтому порог должен находиться в постоянной чистоте. Во время праздничных гуляний, особенно в день поминания умерших, порог украшали цветами.

Считается плохой приметой ступать на порог – день будет плохим. Если в дом вошёл плохой человек, то порог посыпают солью.

Если кому-то из домашних очень плохо, то нужно пойти к порогу и попросить его помочь.

После свадьбы жених должен обязательно перенести молодую через порог на руках, дабы дать знать тем, кто умер, что он принимает её как нового члена семьи.

***Запісана ў г. Мазыр***
***ад Барушка Надзеі Васільеўны, 1940 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Гомель),***
***студэнткай Бандарэнка І.***

Нельга здаровацца праз парог, месці мусар пад парог, перадаваць што-небудзь цераз парог, бо гэта прывядзе да няшчасця. А калі доўга стаяць у парозе, то не выйдзеш замуж.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Чэраз парог не даюць. Кажуць: аддаеш шчасце сваё, ды бедны будзеш.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Парог – святое месца ў хаце. Нельзя аддаваць і браць цераз парог, бо ў хаце будзе пуста. Нельза мусар месці цераз парог, бо, кажуць, што дзеўка будзе сварыцца са свякрухаю. На парозе не стаяць, бо пад парогам жыве нячыстая сіла і яна чапляецца да людзей. Улюблённым нельзя цалавацца на парозе – гэта к расставанію.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На парозе нельга сядзець, а таксама за парог або праз парог нельга перамятаць смецце. Таксама нельга што-небудзь даваць праз парог.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Нільзя перадаваць нічога цераз парог, а то будзе гора.

***Запісана ў в. Радзілавічы Рагачоўскага р-на***
***ад Прасняковай Ксеніі Пракопаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Казловай К.***

Праз парог нельга здаровацца. Нельга перадаваць рэчы адзін аднаму. А калі ўсё ж такі гэта здарылася, абавязкова пасварышся з гэтым чалавекам.

Маладой дзяўчыне нельга стаяць на парозе – роды будуць вельмі цяжкія.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Карбацянка Ганны Васільеўны, 1933 г.н.***
***(прыехала з в. Свірыдавічы Рэчыцкага р-на),***
***студэнткай Хомчанка Г. (2006 г.)***

Калі жанчына цяжарная, ёй не можна стаяць на парозе, бо будзе доўга радзіць дзіця.

Калі нараджалася дзяўчынка, то месца (паследыш) закопвалі пад парогам, каб рана забралі замуж.

Не можна нічога даваць праз парог.

Не можна здаровацца праз парог. Трэба здаровацца, як чалавек зайдзе ў хату.

Смецце на ноч, пасля заходу сонца не выносілі, а зімой кідалі ў стаяк (груба).

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Калі ў дзіця іспуг, тады яго ложаць на парог і прыгаворваюць: “Якая маць радзіла, такая і выхадзіла”.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

На пароге ні нада есці што-небудзь, бо пра цябе будуць людзі “малаціць языкамі”. Колісь я чула, як мая матка казала.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Чэраз парог ніколі не перадаюць што-небудзь, нельзя чэраз парог здаровацца, нельзя на парозе есці, а то будзе няшчасце ў хаце.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Нельга праз парог даваць вешчы, бо не будзе грошай.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***

***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Праз парог нельга здаровацца, перадаваць што-небудзь, месці смецце цераз парог, доўга стаяць у парозе, не праходзячы ў хату, усё ета да непрыемнасцей, няшчасця.

***Запісана ў в. Першамайск Рэчыцкага р-на***
***ад Журо Зінаіды Паўлаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Тужык В. (2004 г.)***

Праз парог нічога нельга перадаваць, бо не вернуць і сам не забярэш. Здаровацца нельга, бо пасварышся. Пад парог клалі нож, каб нечысці не прыходзілі. Засцерагае гэта. Месці смяццё праз парог нельга, бо так як бы са смяццём і ўсё з хаты вымятаеш.

Маладажонам нельга ўдваіх заходзіць ў сваю новую хату пасля свадзьбы. Муж ужэ доўжан жану ўзяць на рукі і на адной наге перапрыгнуць разам з жаною парог, а перад гэтым пускалі ў хату кошку. Калі чалавек хоча табе гора, то нада пасыпаць парог пяском з кладбішча.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Таццяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Нельга ў парозе стаяць і здаровацца, дрэнна будзе.

Здаровацца нельга праз парог.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Таццяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

Праз парог нельга нічога даваць і размаўляць – к бядзе.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Цераз парог нельга што-небудзь даваць, размаўляць.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Не дазвалялася гасцям стаяць на парозе, лічылася, што калі ў хаце ёсць незамужняя дзяўчына, то яна не выйдзе замуж.

Таксама нельга было браць або даваць праз парог, здаровацца. Меркавалі, што тады ў доме будзе многа гора.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Цераз парог нежадана перадаваць грошы або іншыя вешчы. Парог лепш перашагваць правай, а не левай нагой, тады не здарыцца нічога дрэннага. У дзень вяселля абавязкова жаніх пераносіць цераз парог нявесту.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.***
***ад Васільевай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

Праз парог нічога не даюць, бо дома нічога не будзе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Нельга дарыць праз парог – к гору.

Хто размаўляе праз парог, з тым бяда будзе.

***Запісана ў в. Аўсімавічы Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Кухарэнка Любові Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Архіпенка Г.***

Праз парог нельга здаровацца, перадаваць што-небудзь, доўга стаяць у парозе – ўсё да непрыемнасцей.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

## Патэльня

Штоб узнаць пра таго, хто дзелаець порчу табе, нада ў скавараду насыпаць соль і пражарыць яе ў 12 часоў дня. Дымам етым прагнаць па ўсіх комнатах. Той, хто пад-дзелвае, прыйдзе прасіць хоць што, бо яму стане плоха. Даваць нічога не нада.

На якісь празднік, даўно чула, бразкаюць сковарадамі, каб прагнаць чорта.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Не вылізваюць патэльню – салапатым будзеш.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Патэльня – прадмет, які ў募араўніцтве і вядзьмарстве выкарыстоўваўся для барацьбы з воднай стыхіяй. Гэты прадмет звязаны з агнём. Ёсць легенда, што ведзьма кідае ў ваду патэльню і праклінае ваду, знішчае яе, каб адпомсціць за патапленне дзіцяці.

Ёсць яшчэ легенда, што ручай перасох пасля таго, калі ведзьма, дачка якой у ім патанула, кінула ў яго гарачую патэльню.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

## Печ

Нельзя ў печ кідаць мусар.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Калі чулі першы гром, то хваталіся за печ, як бы трэслі яе. Рабілася гэта, каб быць дужым цэлы год. Калі печ палілася, то трэба было яе хутчэй выпаліць, засланіць

заслонкаю, каб у хаце быў дабрабыт. А хто доўга паліць у печы, то будзе наадварот.

***Запісана ў в. Старыя Дубровы Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанкі Васіля Дзянісавіча, 1919 г.н.,***
***студэнткай Гаўрыловіч В.***

Нельга кідаць смецце ў печ.

Калі кот лезе ў печ, будзе холадна, будзе мароз. Калі кот качаецца па зямлі, будзе вецер.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

В печку кидали малочный зуб и говорили: “Мышка, мышка, забери зуб кастяной, а мне дай зуб золотой”.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Калі з печкі выскача вугольчык ці дровы раскідаюцца – ругацца будуць, могуць і разыйсціся мужык з жонкай.

Смецце не нада спальваць у печы, бо печ – пакравіцель прэдкаў, а іх нельзя вымятаць ды спальваць памяць пра іх.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Нельга пад печчу храніць прадукты – мышы завядуцца.

Каля прыпечку добра грэць спіну ўвечар у нядзелю, тады спіна доўга балець не будзе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шынкарэнка М.І., 1947 г.н.,***
***студэнткай Філан Н.***

Вясной, пачуўшы першы гром, трэба спіной прытуліцца да печы, каб не балела.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Нельга было сядаць за стол завтракаць, пакуль не выгарыць печ, нельга было пакідаць печ адкрытай, заўжды нужно закрываць печ засланкай, бо калі не будзеш саблюдаць гэтага, то будуць нападаць людзі.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Тацяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

Як печ топіш, нельга кідаць у печы качаргу, вілкі, ёмку – будзе балець жывёла ў дварэ. І смецце нельга выкідаць на вуліцу – хвароба будзе, жывёла дохне.

***Запісана ў в. Целяшы Гомельскага р-на***
***ад Шчадровай Зінаіды Аляксееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Маісеенка В. (2002 г.)***

У звычайныя дні полымя ў печы не гасілі, а захоўвалі на нач вугелькі, якія по-

тым зноў распальвалі.

Нельга было аддаваць вугельчыкі са сваёй печы, бо, лічылася, што свой дабрабыт разам з вугельчыкамі аддаеш.

Калі ў хаце нехта паміраў, то забаранялася распальваць печ на працягу трох дзён. Калі вярталіся з могілак, неабходна было памыць рукі, а потым абавязкова дакрануцца да пячы, каб сагрэць іх. Калі выходзілі з хаты, то печ абавязкова зачынялі

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Сяліцкай Н.І., 1938 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

У печ нельга кідаць шалуху ад цыбулі, бо ў хаце тады будзе зло, нядобра.

Як кот залезе на печ ці ў печ – будзе холадна, мароз на дварэ. Калі кот качаецца па палу, будзе адлега.

Нельга смецце кідаць у печ.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.***

У печ нельга кідаць шапку ад цыбулі, бо ў хаце тады будзе зло, нядобра.

Нельга кідаць смецце ў печ.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на***
***ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

Калі нешта згубіш, і доўга не можаш знайсці, то трэба адкрыць засланку
ў печы і шэптам папрасіць, каб вярнулася да цябе тое, што згубілася.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Печ перад святам трэба каб была чыстай, пабеленай, у пячорах наводзілі парадак і ставілі вымытыя да белага чыгунчыкі. Драўляныя палкі ў качэргах чысцілі чвырам, каб былі жоўценькія. Печ прыбіралі, каб людзі не абгаворвалі.

Калі ў дзіцяці выпадалі малочныя зубкі, то ставілі спіною да печы і кідалі іх на чарэн са словамі: “Мышка, мышка, на табе стары зуб, дай мне новы”.

Калі даўней захварэе чалавек, то лез на печ са словамі: “Паляжу на печы, пагрэю плечы” і клаўся на гарачы чарэн.

Калі прысніцца печ, то лічылі, што чалавека чакае вялікая печаль, нехта блізкі памрэ.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Трэба, каб у пячы заўсёды былі дровы і закрыта печ засланкай, каб усё было ў чалавека ці вялося ў хаце.

Калі печ не закрыеш засланкай, тады людзі будуць сплетнічаць.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Еслі кот лезе ў печ, то ета мароз будзе, бо каты добра холад чуюць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Печ – законны дом дамавікоў, і таму да яе заўсёды адносіліся з уважэніем.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Калі з печы выпаў кірпіч – к нябожчыку.

Каб гэтага не было, трэба павярнуцца голым задам к таму месту, адкуль выпаў гэты во кірпіч, і сказаць банке словы:

Печка-маці, сделай узяці,
Што лёс даваці.
Як ядім цераз рот
Аддаём цераз зад.
Агнявая старана,
Люстэркавыя берага,
Адлюструйце, сабе вадзьміце.
Глухі не пачуе,
Сляпы не убача.
Злы лёс мой дом не пакрыўдзіць.
Амінь.

Закрываюць заслонку, калі выходзіш з хаты – на удачу.

***Запісана ў в. Каменка Чачэрскага р-на***
***ад Загорцавай Зінаіды Андрэеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Загорцавай К.***

Еслі ў хаці молодого (на вяселлі), ек молоды прывёв молодую в хату і она подзівіцца значала на печ, а потом на сьвокроў, то сьвокроў нявестку будзе любіць, а еслі наоборот, то не будзе любіць.

Еслі боішся покойніка, то каб вон ня снівса, трэба, ек прыйдзеш з могліц, поглядзець на печ.

Еслі ў горашчую печ будзеш глядзець і говорыць: "Як ты огонь горыш-разгораешса, да вот мого дыха колыхаешса, так і ты раб (імя) горы до роботы і до учэнія", то дзіця будзе добрэ вучыцца і будзе робоцяшчэ.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Не сып мусар у печ, бо ў сям'е ругня будзе.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

## Плот

На Шчодрыкі гадалі. Заплюшчвалі вочы, падыходзілі да плоту і абдымалі яго. Калі выходзіла чотнае чысло, то будзеш у пары, а калі не – адна.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

## Посуд

Калі хаpанілі памерлага, трэба было разбіць гаршчок, у якім была вада, якой мылі мёртвага.

Калі на гулянцы б'ецца пасуда – будзе шчасце гаспадару.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Максіменка Марыі Іванаўны, 1931 г.н.***

Нанач нельга астаўляць немытую пасуду, бо ноччу будуць прыходзіць чэрці і аблізваць гэтую пасуду.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

На ноч гразную пасуду нельзя астаўляць, чэрці ноччу пладзяцца ў ней.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

## Пояс

Без пояса нельга хадзіць – нячысты забярэцца, балезнь будзе. Калі буракі сеялі красныя, то красныя падвязваліся і за калена хапаліся. Казалі тады: "Каб такія красныя і такія вялікія!"

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на***
***ад Кушняровай Валянціны Мікалаеўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

Насілі на голае цела ад урока.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## Расческа

Нельзя расчесываться перед сном.

Расческу не кладут на стол, чтобы не болела голова.

Чтобы не болела голова, новой расческой необходимо расчесать кота или кошку.

***Запісана ў в. Першамайскі Веткаўскага р-на***
***ад Луцьковай Ніны Васільеўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Коргавай Ю. (2010 г.)***

## Ростані

На ростанях нельга нічога падымаць, бо людзі кладуць на ростанях розныя прадметы, каб вынесці хваробу з хаты.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.***

На растаньках нічога нельзя падымаць, бо на ростанькі ўсё выкідаюць. Калі чалавек чым балее, дак той, хто яго лечыць, гаварыць яму выліць ваду на ростанькі ці што выкінуць. Еслі возьмеш, дак ета плоха будзе, балець будзеш.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Рэшата

Ацеліцца карова, апарасіцца свіння, то пераварочваюць рэшата і л'юць тры кружкі вады і пры гэтым кажуць: "На рэшаце чужое, пад рэшатой маё". Будзе добра худобе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г.Н., 1917 г.н.***

Калі ацельваецца карова або апарасіцца свіння, то пераварочвалі рэшата і лілі тры кружкі вады і пры гэтым кажуць: "На рэшаце чужое, пад рэшатам маё". Будзе худобе добра.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на***
***ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

## Свечка

В Чистый четверг, отстояв молебен в церкви, свечу зажженной несли домой. Если огонёк не потухнет, весь год будет удачным.

Если какой-то предмет падает из рук, кто-то спешит. Какого рода предмет, такого рода будет и гость.

***Запісана ў в. Цэрахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

## Смецце

Смецце даўжны выметаць ад печы да парога. Эта значыць не ў хату ўметаць, а з хаты выметаць.

Калі хтосьці з сям'і ехаў кудысьці, то ў той дзень нельга было падмятаць у хаце. Эта шоб нічога ў дарозе не случылась.

Калі ў хаце быў пакойнік, то падметаць нельга было. Толькі тады падмятай, калі ўжэ пахаранілі. І тое смецце нада было закапаць у зямле, каб смерць не шла па радне.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Нельга выносіць смецце пасля захаду сонца. Лічыцца, што чалавек выносіць з дому багацце і шчасце. Калі і выносілі, то трэба пакласці ў вядро з печы тры вугалькі патухшыя.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***

***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Каб у хаце было добрэ, трэба смецце, калі вымятаеш, месці к ковеням, а не к порогу.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на***
***ад Точка Вольгі Паўлаўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Не высыпалі на вуліцу смецце, бо будуць людзі абгаварываць, няпраўду казаць.
Пасля заходу сонца не выкідалі смецце.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Не высыпалі на вуліцу смецце, бо будуць абгаворваць, непраўду казаць. Послі заходу сонца не выкідывалі смецце.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Горбач Ганны Гаўрылаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г.***

Нельга выносіць смецце ўвечары – выносіш добрае з хаты.
Нельга змятаць смецце цераз парог – гэта да непрыемнасці.
Нельга дзеўцы кідаць смецце цераз парог – не пойдзе замуж.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

## *Соль*

Калі соль рассыплеш – к няшчасцю.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Калі рассыплеш соль, то гэта нічога добрага не чакай. І не трэба яе падымаць, зграбаць уместа, лучшэ выкінуць.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Калі рассыплеш соль, то трэба абавязкова смяяцца, бо будзеш моцна плакаць.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Соль без слова нічога не значыць. Калі рассыпецца, падмяці і ўсё. Яна ніякай сілы не імее, калі слова да яе не знаешь сказаць.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Атрошкінай Ніны Кузьмінічны,***
***Атрошкіна Міхаіла Іванавіча, 1950 г.н.***

Еслі соль рассыпаць, то ета к таму, шо хто-та в хаце ругацца будзет.

***Запісана ў г. Гомель***

***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Нельзя рассыпаць на стале – няшчасце будзе. А калі рассыпаў – нічога ўжо не зробіш.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Соль рассыпаць – плоха. Пассорышся з кім-небудзь. А каб нічога не было, нада адразу на тое месца пасыпаць сахару.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Нельзя рассыпаць соль – гэта вядзець да няшчасця.

Нельзя перадаваць соль з рук у рукі, бо будзе ссора.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Соль нельзя даваць другому ў рукі, каб не паругацца. Еслі эта случыцца, трэба ўлыбнуцца. А яшчэ раньшы гаварылі, што нада рабіць, штоб улюбіць у сабе чалавека: ціха абнесці вакруг яго шчыпок солі. Еслі рассыпіш соль – быць бядзе.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Соль – гэта белая смерць. Яе нельга рассыпаць, бо будзе ссора.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Малько Тамары Іванаўны, 1936 г.н.***

У соль ні можна мачаць хлебам ці чым другім. Так рабіў толькі Іуда. Соллю трэба пасыпаць усё зверху.

Калі рассыпаецца соль, то ў хаце будзе сварка.

У нашай мясцовасці складалі сена на тачку ў стоўп, пасыпалі яго ў канцы соллю, каб сена не порцілася, і засцерагалі ад “дурнога вока”.

Калі ў суседзяў запускалася кароўка, мы ім давалі малако. Перад тым, як нясці, абавязкова сыпалі ў збанок, на малако, соль. Суседзі пералівалі малако ў сваю пасудзіну, а ў наш збанок лажылі кусочак хлеба.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Калі нічаенна рассыплеш соль, то ету рассыпаную соль нада ўзяць у жменьку, толькі другому чалавеку і рассыпаць па макушцы таму, хто рассыпаў. Інакш яго жджэ вялікая непрыятнасць. Можа буць якая-та сварка, а то і хужай можа быць – бойня.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Сыч Сафіі Барысаўны, 1911 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Еслі соль нечаянно россыпалас на столе, то яе няможна назад у сольніцу збіраць, а собраць і цераз левэ плячо вукінуць на двор і сказаць: "Соль вам у вочы, сучаніна ў плечы" і ў хаці нябудзе свару, бо соль рассыпаецца не просто так, а гэто нехто сварку насылае.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Немагчыма рассыпаць соль – будуць сваркі дома.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Соль – слёзы, а слёзы ж салёныя.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Соль нельга рассыпаць – к няшчасцю. А калі ўжо рассыпаў, то паверху пасыпалі сахар.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Свячонай соллю асыпалі вакруг хаты, ад злога вока.

***Запісана ў в. Паўлаўка Ельскага р-на***
***ад Абрамчук В.П., 1938 г.н.***

Рассыпіш соль на стол – ссора.

Калі перасаліш – улюбіўся, наабарот – разлюбіў каго-небудзь.

Сабіраць соль рукамі з пола нельзя, толькі нужна венікам або трапкай – будзе гора ў хаце.

***Запісана ў в. Зарэчча Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Кліннікавай В.І., 1929 г.н.,***
***студэнткай Аўраменка А.***

Нельга, кажуць, рассыпаць соль, бо гэта вядзе да няшчасця ў сям'і.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Расыпаць соль – к сварке. Трэба засыпаць хутчэй цукрам, каб папярэдзіць сварку. Вечарам нельга даваць соль нікому – к няшчасцю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Загорцавай Ганны Паўлаўны, 1960 г.н.***
***(перасяленка з в. Перагон Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.),***
***студэнткай Загорцавай К.***

Нельга перадаваць соль з рукі ў рукі. Нужна паставіць на стол, каб не было сваркі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сачава Ганны Віктараўны, 1989 г.н.,***
***студэнткай Загорцавай К.***

Соль прыцягвае да сябе дрэнную энергію. Нездарма вядро з соллю ставяць пад

труну з нябожчыкам, каб прыцягвала да сябе ўсю чарнату. Нельга рассыпаць соль, бо будзе сварка ў сям'і. А каб сваркі не было, трэба на рассыпаную соль зверху пасыпаць сахарам. Тады будзе ўсё добра.

***Запісана ў в. Пякалічы Жлобінскага р-на***
***ад Канавальчык Н.А., 1925 г.н.,***
***студэнтам Канавальчык Г.***

Ня трэба рассыпаць соль – будзе ня добра, ня будзе грошаў.

Калі соль рассыпалі на стале – будуць сваркі.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Нельга рассыпаць, бо будзе сора ў сям'і.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Калі рассыплеш соль на падлогу – будзе сварка з мужыком. Каб не было сваркі, трэба рассыпаць сахар па рассыпленай солі.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Лаўшук Марыі Якаўлеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Рассыплеш соль – будзе сварка ў доме.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Гвоздзь Надзеі Фядосаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Калі соль рассыпаеш – к няшчасцю.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Калі рассыпецца соль – гэта да сваркі. Каб гэтага пазбегнуць, трэба наверх солі пасыпаць крышку сахара.

***Запісана ў в. Рудня-Марымонава Гомельскага р-на***
***ад Калоша Таццяны Свярыдаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Калош Т. (2010 г.)***

Кажуць, што калі рассыпаць соль, дак ругня будзе.

Нельга аддалжваць нікому соль, лічыцца, што здароўе сваё аддаеш. За соль павінны былі плаціць грошы.

Яшчэ казалі, што калі рассыпалася соль, яе патрэбна засыпаць цукрам. Каб не пасварыцца з кім-небудзь.

***Запісана ў в. Белае Балота Рэчыцкага р-на***
***ад Грышкавец Вольгі Ільінішчы, 1931 г.н.,***
***студэнткай Асадчанка А. (2010 г.)***

Калі на стале рассыпалі соль, будзе няшчасце.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Соль нельзя рассыпать – будет несчастье. Если соль все таки рассыпалась, то нужно рассыпать сахар и сказать: «Соль рассыпана, сахар рассыпан – несчастью не бывать».

Соль всегда должна стоять на столе.

Нельзя, чтобы в доме заканчивалась соль – к бедности.

***Запісана ў в. Першамайскі Веткаўскага р-на***
***ад Луцьковай Ніны Васільеўны, 1952 г.н.,***
***студэнткай Коргавай Ю. (2010 г.)***

Соль нельга рассыпаць, бо будзе сварка.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Нельга даваць соль з дому саседзям. Бо ў хаце будзе недастатак.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Калі рассыпалі соль, то трэба было пасыпаць зверху столькі ж сахару, каб не было бяды ў доме.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

Нельга рассыпаць соль – гэта вядзе да вялікага няшчасця. Там, дзе рассыпалі соль, няма хлеба. Звычайна маладых сустракаюць з хлебам і соллю – будзе шчасце, дабро ў хаце.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

Соль нельга рассыпаць, будуць сваркі і голад у сям'і.

***Запісана ў в. Гарохавішчы р-на***
***ад Шуст Таццяны Васільеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

Плохим людям, особенно ведьмам, вслед сыпят соль. Соль рассыпать – к беде.

***Запісана ў в. Цераховка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Када жаніліся людзі, то хлеб і соль – сімвал шчасця і здароўя.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Нельга рассыпаць соль, бо гэта вядзе да страты грошай і нечага дрэннага ў сям'і.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***

***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Соль выцягвае слязу. Таму, калі на стале соль рассыпалася, чакай сваркі. Але ёсць засцярога – трэба гучна, на ўвесь дом засмяяцца, тады не будзе сваркі. Усім яшчэ трэба бросіць тры шчапоткі солі праз левае плячо.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н., студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

## Спадніца

Не можна адзяваць спадніцу цераз ногі, бо мужык гуляць будзе. Трэба надзяваць цэраз галаву.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## Стол

Нельга на стол садзіцца, лажыць шапку, адзежу. Павінен стол чыстым быць заўсёды. Нічога не астаўлялі на ім, а калі астаўлялі, то накрывалі ручніком – хавалі ад нячыстай сілы.

***Запісана ў в. Баршчоўка Лоеўскага р-на ад Масленчанка Юліі Раманаўны, 1935г.н., студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

На стале нічога астаўляць нельга, бо паселіцца дурное. Ніколі не астаўлялі гразнай пасуды – паселяцца розныя блезні. Кажуць, што можа гэты дамавы помсціць будзе. Не любіць ён неакуратных. Асобенна на празнікі. Бога можна ўгнявіць.

***Запісана ў в. Пракісель Рэчыцкага р-на ад Кушняровай Валянціны Мікалаеўны, 1936г.н., студэнткай Коваль М. (2001 г.)***

Нільзя дзеўкам маладым на вуглу стала сядзець – замуж не выйдуць.

Нільзя нічога астаўляць на стале. Нада, штоб стол быў чысты.

Мусар рукой са стала сціраць нільзя – стол бедны будзе.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н., студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Не паложана сідзець на стале – эта грэх. Нельза за сталом сварыцца, бо яды на стале не будзе. Стол нада для таго, штоб за ім сядзець. За сталом нада благадарыць Бога за яду.

***Запісана ў г. Гомель ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н., студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Стол – свяшчэнная мебель. На стале стаіць хлеб, яда ўсякая. Трэба шанаваць стол. Нельга садзіцца на стол, бо Бог сядзеў за сталом.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н., студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Калі кура выводзіць з яечак куранят, дык трэба іх цераз тапор прасадзіць у дзір-

ку. Тады яны будуць крэпкія, а курачкі будуць несціся добра і дзябёлыя яечкі будуць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Герашчанка Кацярыны Фядосаўны, 1924 г.н.***
***(перасяленка з в. Ламачы Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Малай І. (2001 г.)***

Стол нада накрываць скацёркай і штось астаўляць на ём. А то не будзе ў хаце добра.
Даўно пад абразамі ставілі стол у вуглу, пакрытый скацёркай.
Пасля памінак на сталу кідаюць яду для духа памёршага.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Зараз стол усягда выносяць з хаты на вяселле і ставяць яго на парозе пры ўстрэчы жаніха. Нельга сядзець на стале, каб не было ўбытка ў хаце. Нельга класці на стол ключы ці шапку – будзе ў хаце ругня, грэбень – будзе галава балець. Мужыкам нельзя есці і вабшчэ сядзець за сталом у шапцы. На вугал нельзя садзіцца, бо застанешся халастым. Седзячы за сталом, нельга баўтаць нагамі, бо чарцей качаеш.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Нельга ставіць сумку на стол – будзе галава балець і грошай не будзе. Нельга садзіцца на стол, бо родзіш у дзеўках або не выйдзеш замуж, а калі выйдзеш, то муж будзе біць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Не трэба сядзець маладой дзяўчыне, якая яшчэ не замужам, на краю або вугле стала, бо існуе павер'е, што гэтая дзяўчына можа не выйсці замуж. Не трэба класці на стол грошы, бо больш не будуць вадзіцца. Класці шапку на стол таксама не трэба, бо будзе можа балець галава.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Ня трэба садзіцца на стол, лажыць шапку ці адзёжу.
Стол павінен быць усегда чыстым.
Калі нешта і пакідалася на стале, то усё закрывалі ручнікам – ад нячысцікаў.
Ня трэба астаўляці гразнай пасуды – будуць ў хаце балезні.

***Запісана ў в. Баравая Буда Кармянскага р-на***
***ад Белавусавай Ганны Фёдараўны, 1944 г.н.***

Ничего нельзя оставлять на столе, особенно на ночь – будет в доме неприятность. На стол нельзя ложить одежду – нападать все будут. Самому садиться на стол нежелательно. Нельзя на столе оставлять грязную посуду – будут неприятности.

***Запісана ў в. Борцікі Магілёўскай вобл.***
***ад Васілёвай Зінаіды Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Манецька А.***

На нач трэба зачыняць усе шуфляды ў стале, бо хазяйка будзе гуляшчай.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***

***ад Лаўшук Марыі Якаўлеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Нельга сціраць са стала бумагай ці ладоняй, бо будзе сварка ў хаце.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Нельга сядзець на стале, патаму што дзенег не будзе ці дзяцей у гэтага чалавека не будзе.

Штобы было ў хаце ўсё добра, то нельга астаўляць у хаце нанач на стале нажы, вілкі. Таксама імі можа грымець уначы дамавы.

Нельга лажыць на стол адзежу, ключы ад хаты, грошы.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Нільзя дзеўкам маладым на вуглу стала сядзець – замуж не выйдуць.

Нільзя нічога астаўляць на стале. Нада, штоб стол быў чысты.

Мусар рукой са стала сціраць нільзя – стол бедны будзе.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

На стол нельга садзіцца, лажыць шапку, каб не здарылася няшчасце.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Спіной да стала нельга стаяць, бо вырасце горб.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Тацяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Нельга сціраць са стала бумагай – пасварышся.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

Нельга сядзець на стале, асабліва маладой дзяўчыне, а то можа радзіць незамужняй.

Стол павінен быць заўсёды чыстым, каб усё добра было.

***Запісана ў в. Гарохавішчы Акцябрскага р-на***
***ад Дайнека Надзеі Іванаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Бусел Н. (2010 г.)***

## *Сякера*

Цяжарнай жанчыне нельга пераступаць цераз сякеру – дзіця можа задушыцца пупавінай.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на***
***ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Смольскай К. (2004 г.)***

Калі карову гоняць первы раз на поле, то калі выганяюць са двара, кладуць нап-

роць варот сякеру. Трэба, каб карова праз яе пераступіла. Гэта робяць, каб карову ніхто не зачапіў. Кладуць побач з сякерай вярбу, ніты, што ткалі просны, каб карова ніцілася, бегла дамоў. Кладуць таксама яйкі, каб карова была круглая, як яйкі, пладавітая.

Нельга цюкаць тапаром у хаце, дзе знаходзіцца цяжарная жанчына, бо тады ў яе народзіцца дзіця з заечай губой.

***Запісана ў в.Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай А. С., 1922 г.н.,***
***Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Сокерой порцяць людзей. Еслі наговорыць на яе спецыяльные слова і закопаць в саду, дзе жыве чоловек, под яблыню, то ек яблыня вусохне, то і чоловек, которого спорцілі, вусохне.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Калі жаніх прыязджае да нявесты, то яны б'юць сякерай аб сякеру, каб адагнаць нячыстую сілу.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Дзіця (да года) круцілася, крахтала, чырванела ў сне, то гаварылі, што трэба перасекчы "крылішча". Бралі ночвы, прыкрывалі імі дзіця. Потым каля ночваў перасякалі сякерай курынае крыло. Дзіця спакайнела.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Нельга ў хаце сякерай у доме цюкаць, калі жонка ў палажэнні, бо дзіця будзе ўродлівае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лашкінай Яны Ігнатаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан М. (2008 г.)***

Нельга махаць сякерай у хаце, дзе жанчына ў палажэнні, таму што родзіцца дзіцёнак без пальцаў.

***Запісана ў в. Заселле Рэчыцкага р-на***
***ад Дзянісавай Сафіі Іосіфаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Галаўчук Н. (2003 г.)***

Нельзя пераступаць цераз сякеру бярэменнай жэншчыне, бо ўдушыцца дзіця.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Не дазвалялася цяжарнай жанчыне пераступаць чэраз тапор, таму што лічылася, што дзіця родзіцца мёртвым.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

## *Талерка*

Еслі ў хаце пабілася тарэлка ці зеркала, дак іх у хаце дзяржаць нельзя, бо няшчасце будзе.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на
ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,
Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,
студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Таўкач*

Патаўчэш бульбу – няможна облізваць таўкач, таму што мужык лысы будзе і сабакі вельмі будуць брахаць на цябе.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.
ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,
студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

У тых жанчын, што таўкушкі аблізваюць, мужыкі ходзяць лысыя.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на
ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,
студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

## *Тэлефон*

Раньшэ целефон мала хто відзел, іх мала хто знал. Толькі думалі, што не простыя людзі могуць па ім разгаварваць. А толькі Бог, са знатнымі людзьмі. Мы іх, етых целефонаў, і не відзілі. Эта ўжо сейчас у кожнага ён ёсць.

***Запісана ў г. Добруш
ад Тамашовай Марыі Данілаўны, 1927 г.н.,
студэнткай Зайцавай Л.***

## *Фартух*

Калі жанчына спуджаецца, трэба прыйсці ў хату, зняць і павесіць фартух на дзверы. Тады спуг мінуецца.

Жанчыне нельга выходзіць на вуліцу без фартуха. Калі памірае, то жанчыну трэба хаваць у фартуху.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на
ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.
(2001 г.)***

Фартух азначае дабрачыннасць, гасцепрыімнасць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на
ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,
студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Фартух скрываў пазор жанчыны, абараняў ад нячыстай сілы.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на
ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,
студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На стол ні можна садзіцца, стукаць па ім кулаком – гэта вялікі грэх.

***Запісана ў г. Рэчыца***

***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Фартух насілі ўжо старыя бабулі, у якіх ёсць ужо ўнукі. Яшчэ цяжарныя жанчыны тожа с фартухом хадзілі, казалі, што яны срам свой закрываюць.

***Запісана ў в. Кавалёў Рог Чачэрскага р-на***
***ад Кудзінавай Ганны Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Якубоўскай Т.***

## *Хамут*

Калі дзеўка надзене хамут на хлопца, то гавораць "захамутае", жэніць на сабе.

Ваўкалакам становяцца, пралезшы пад заклінаннем у хамут і назад, штоб стаць чалавекам.

Хамут украшалі бубянцамі і кветкамі на свадзьбах, штоб у маладых добрая жызня была.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Караленка Вольгі Фёдараўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Бацюк Ж. (2003 г.)***

Хамут – магічны прадмет. Выкарыстоўваўся ў чараўніцтве, народнай медыцыне і вясельнай абраднасці.

Хамут выкарыстоўвалі пры лячэнні некаторых хвароб: ліхаманкі, сурокі.

Калі маладая была не цнатліваю, дак вяселле раскідаецца. Бацькам маладой тады клалі на шыю хамут і вадзілі па вёсцы.

Дзяўчаты, калі хацелі набыць адзнакі ведзьмы, перад варажбой надзявалі на шыю хамут.

***Запісана ў г. Добруш***
***ад Брычанка Марыі Міхайлаўны, 1932 г.н.***
***(нарадзілася ў в. Прудок Калінкавіцкага р-на),***
***студэнткай Антончыкавай Н.***

## *Хлеб*

Хлеб не должан раскідацца. Нельзя даводзіць да цвіцення. Нельзя выкідваць у мусарку, бо бедным будзеш. Захочаш гэтага хлеба, а яго не будзе. Пагэтаму лепш порчаны хлеб аддаць скаціне, ці памалоць яго і рассыпаць па полі як удабрэнне.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Хлеб нада старацца даядаць увесь, а калі астанецца маленькі кусочак, нельга прапаноўваць другому чалавеку. Гэта ты аддаеш сваю сілу.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Галаўко Кацярыны Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

Ні ў якім разе нельга пакідаць нож уваткнутым у хлеб – гэта к спрэчке; накалваць хлеб вілкай – к хваробе; выбрасываць надкусаны – яго трэба аддаць жывёле або птушке, інакш можна наклікаць на сабе бяду.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Хлеб – усяму галава. Нельга хлеб выкідваць, бо Бог разазліцца на накажа гэтага чалавека.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Нільзя вечарам нікому пазычаць хлеб, а то будзе гора. А калі пазычаў, трэба ўслед етаму чалавеку пасыпаць соллю.

***Запісана ў в. Радзілавічы Рагачоўскага р-на***
***ад Прасняковай Ксеніі Пракопаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Казловай К.***

Хлеб нада ёсці да апошняга кусочка. Хто хлеб не з'есць, у таго сілы прападаюць.

Хлеб нада рэзаць, а не ломаць. Тады ў каровы капыты ламаюцца. Хлеб лышкамі качалі на спіне дзяцяці і аддавалі чорнаму сабаку гэты хлеб. Каб дзіцёнак добра спаў.

***Запісана ў в. Аздзеліна Гомельскага р-на***
***ад Зарэцкай Аксінні Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Шахрай В. (2001 г.)***

Самі пеклі, нас семера было. Хлеб учыняла баба. Калі садзіліся есці – маліліся. Усягда пачынаў рэзаць хлеб дзед (галава сям'і), тады па кусочку хлеб даваў. Нельга нікагда тыркаць хлеб і дагары нельга лажыць. Ісус хлебам усіх жа накарміў. Хлеб учыняе тая, хто чыстая жанчына! Да печы яна падходзіць, вымесіць, разгладзіць – тады роўненька лажылі на капусны ліст. І ў печ. Потым яна жар выграбае. Абавязкова чыталася малітва "Отчэ наш".

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***
***ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменкай В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Калі ўпусціш хлеб, то трэба пацалаваць яго і сказаць: "Божанька, прасці".

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Хлеб нельга пераварачываць на стале гарбушкай, ну етай верхняй часткай уніз, бо ета будзе к ссорам.

Пасля захаду сонца нельга разразаць новы бохан хлеба, таму што тожа будзе ссора.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Чыжовай Святланы Барысаўны, 1964 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

Еслі падае хлеб, то ў хату скора прыдуць госці.

Хлеб кідаць нельзя, бо ў хаце настане голад.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Хлебная лапата*

Каб град не загубіў ураджаю, выкідвалі хлебную лапату на двор.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Хлеб раней пеклі на дзеравянных лапатах. Дык, калі град быў, гэтую лапату выкідалі на двор дагары нагамі, каб град ужо не пабіў таго, што пасеяна, штоб жыта не пабіў.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Хустка*

На васеллі ек сьвокроў здымае молодой вэлёна, должна надзець хустку. І шчытаецца, шо з гэтое мінуты вона (молодая) не дзявіца, а молодзіца, должна всягда в хустцы ходзіць, дажэ спаць, коб не овдовець.

Когда роджаніца рожае і ёй вутраць рот хусткою новою, то можна после гэтою хусткою лячыць дзіця. А еслі дзіця гэту хустку будзе носіць, то яго ніхто не зручыць.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Хустка азначае пакорлівасць. Як дзеўка замуж выходзіць, то ёй завязваюць хустку, а фату здымаюць.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі не вялася ў гаспадарцы жывёла, ці часта хварэла, на жэрдку ў хляве вешалі чырвоную хустку.

У маёй бабулі аднойчы на назе з'явілася "рожа". Лячылася яна так: на палатняную анучачку пасыпала ржаную муку і прыкладала да хворага месца, а потым яшчэ паверх павязвала чырвоную хустку. Нага балець перастала.

***Запісана ў г. Рэчыца***
***ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Калі пакойніка вязуць на кладбішча, у яго інагда ногі растаўляюцца. Тагда іх звязуюць платком ці лентачкай, якой на кладбішчы ету звязку развязуюць і забіраюць з сабой. Калі ў чалавека чорная балезнь, яшчэ пілепсія яе называюць, дык тагда еты чалавек умываецца і выціраецца етай звязкай, тады яно праходзіць.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Еслі платок носіш, то яго нікаму не перадавай, і чужы платок не перавязуюць, бо будзе галава балець.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Нельга абвенчанай жанчыне без хусткі хадзіць. Так грэх хадзіць без яе. Трэба быць з пакрытай галавой.

***Запісана ў в. Рагі-Ілецкі Гомельскага р-на***
***ад Пронінай Таццяны Якаўлеўны, 1927 г.н.,***

***студэнткай Недасекінай А. (2010 г.)***

Платок, якім звязвалі рукі нябожчыку, захоўвалі. Прыкладвалі чалавеку на тое месца, што баліць – хвароба праходзіла. Яшчэ маладой у 12 ночы завязвалі хустку – гэта паказчык таго, што яна стала сапраўднай жанчынай.

***Запісана ў в. Вішнёўка Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Нарвілась Наталлі Уладзіміраўны, 1940 г.н.,***
***студэнткай Караткевіч Т. (2010 г.)***

## *Частакол*

У час калядных свят дзяўчаты абдымалі частакол і гдядзелі, ці будуць яны ў пары ў гэтым годзе: калі абхопіш цотную колькасць чыстаколін, то будзеш у пары, а калі няцотную – то не.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Кажуць, у калядную ноч трэба выйсці на вуліцу ды абняць частакол. Калі цотнае чысло будзе, дык выйдзеш замуж у гэтым годзе, а няцотнае – будзеш у дзеўках.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Мы заўсёды гадалі на заборы. Сабіраліся ў ноч на Каляды і з закрытымі вачамі абнімалі яго. Калі абнімалі чотнае чысло дошак – быць у пары, калі нячотнае – быць адной.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

## *Шапка*

Шапку нільзя на стол класці, на руцэ круціць – будзе галава балець.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Шапку на стол лажыць грэшна. Ты ж прыроўніваеш шапку з хлебам. На стале доўжан ляжаць хлеб-соль.

Шапка далжна мець апрэдзелённае месца. А на стале – Божа ўпасі.

Шапку нельга на руке круціць, бо галава балець будзе.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Лаўрык Алены Еўдакімаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Курбацкай К. (2006 г.)***

Нельзя шапку лажыць на стол, бо галава будзе балець. Мужчынам нельзя за сталом сядзець у шапцы, бо цёшча будзе глухая.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Савянковай Ларысы Васільеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванчыкавай І. (2004 г.)***

Шапку нельга класці на стол – галава балець будзе.

***Запісана ў г.п. Новае Жыццё Гомельскага р-на ад Якімцовай Валянціны Сцяпанаўны, 1935 г.н., студэнткай Смольскай К.***

Шапку нельга астаўляць на стале, бо тады не будуць дзеньгі весціся ў хаце.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Кілянковай Г. Н., 1917 г.н.***

Колі хлопец есць у шапцы, то ў его цешча будзе глухая.

***Запісана ў в. Малешаў Жыткавіцкага р-на ад Кошман Надзеі Мікалаеўны, 1927 г.н., студэнткай Кошман А. (2006 г.)***

Нельга астаўляць шапку на стале, бо будзе моцна балець галава.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н., студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Шапку няможна ложыць на стол – ня будуць вадзіцца грошы.
Няможна подкідаць угору – будзе голова болець.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Не трэба класці на стол шапку – будзе балець галава.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людміпы Мікалаеўны, 1939 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Не кладзіце шапку на стол – галава будзе балець і людзі будуць смяяцца.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н., студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Нельга лажыць шапку на стол, а то грошы ў хаце не будуць вадзіцца.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Шапку ці хустку на стол не кладуць, бо будзе моцна балець галава і не будуць вясціся грошы.

***Запісана ў г. Рэчыца ад Рабянок Ганны Рыгораўны, 1958 г.н.***

Шапку нільзя на стол класці, на руцэ нільзя круціць – будзе галава балець.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н., студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Нельга было есці хлопцам у шапцы, казалі, што будзе цёшча глухая.

***Запісана ў в. Бабічы Чачэрскага р-на***
***ад Селюковай Таццяны Іванаўны, 1954 г.н.,***
***студэнткай Міхалкоўскай Т. (2010 г.)***

Шапку нельга астаўляць на стале, а то не будуць весціся дзеньгі ў хаце.

***Запісана ў в. Прысно Веткаўскага р-на***
***ад Кацубы Ніны Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Радзьковай Г. (2010 г.)***

Шапку нельга астаўляць на стале, бо тады не будуць дзеньгі весціся ў хаце.

***Запісана ў в. Мілашэвічы Лельчыцкага р-на***
***ад Лозка Еўфрасінні Іванаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Каўбічэнка Л. (2010 г.)***

Нельзя ложить шапку на стол, будет голова болеть.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

Нельга круціць шапку ў руцэ, бо будзе балець галава.

***Запісана ў в. Кісцяні Рагачоўскага р-на***
***ад Касцючэнка Т.Н., 1970 г.н.,***
***студэнткай Касцючэнка Г. (2010 г.)***

Шапку на стол лажыць нельзя, бо будзе глухая цёшча ў нежанатага хлопца.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## *Забароны і звычкі*

Раней маліліся перад заўтракам, абедам, перад празнікам. Бацькі самі становяцца ў рад і дзеці ўслед за імі і моляцца. Асобенна “Отче наш”. Толькі потым садзіліся есці. Хадзілі ў царкву.

У празнікі не працуюць, таму што гэта – вялікі грэх і за гэта магла пасцігнуць кара Божая.

Калі бярэменная тчэ або прадзе, то родзіцца дзіця з пятном ці недаразвітае. Калі рубілі дровы, то нараджалася дзіця з рассечанай губой. Нельга пераступаць праз нітку, бо дзіця абаўецца пупавінай.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К.***

Штоб ні было засухі, не нада гарадзіць заборы па празнікам і да Благавешчання. Нашы людзі часта гародзяць заборы ў празнікі, дзелаюць усякую работу, вот і ідуць дажджы міма нашай дзярэўні. У нас у дзярэўні раньшэ было многа балот, іх асушылі. Цяпер дажджы міма праходзяць.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паплаўнай Лідзіі Мікалаеўны, 1951 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Еслі находзішся дома, то нада закрыць дымаходы, дзверы, вокны. А еслі ў лесу, то не нада станавіцца пад дзерава.

Кагда чалавек у полі, на сенажаці, нада кідаць касу і ўцякаць.

Не хавацца ў капу сена.

Кагда сільная граза, ідзі ціха, не бяжы, можа за табой пагнацца.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Варабей Валянціны Цімафееўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Я знаю загавор. Нада яго чытаць, кагда пачынаецца граза: “Стрелы огненные, небесные не тело калят, а в землю летят. Трижды крещусь, огнём огражусь, во имя Отца и Сына, и Святого Духа. Аминь”.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Ласуновай Тамары Якаўлеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Нельга хадзіць з адной абутай нагой, а другой – не, бо мамка памрэ.

Нельга, калі чытаеш чы вучыш, есці, бо пошасць з’ясі.

Нельга на сабе шыць, бо нічога не будзеш запамінаць, а калі ўжо шыеш на сабе, трэба нітку ў рот ўзяць.

Каб харашо ўсё запомніць, нада палажыць пад падушку кніжку, якую вучыў, і прачытаць малітву.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Рамаоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

На свадзьбе дождж – да багацтва.

З пустым вядром перад маладымі ісці нельзя – развядуцца.

Маладых садзяць на кажух, каб дзеці былі кучаравымі, а на падушку – каб багатымі.

У час дзялення караваю і паздраўленняў маладыя даўжны стаяць на бітым шкле без абутку, каб потым усе праблемы рашаць саабшча.

Гаршчок з кашай б’юць, каб узнаць, ці багатая баба (па колькасці чарапкоў).

Як высока над сабой бабка падыме крэсніка, такога росту ён і будзе.

Калі ў навароджанай дзяўчынкі больш валасоў на цемечку, чым на патыліцы, наступнае дзіця будзе хлопчыкам.

Да года дзіця нельга стрыгці, бо будзе дурное, і казалі, што вялікі грэх, а шчэ, каб не было коркі і каб не балелі вочкі.

Пакойнаму запальваюць свечку і ставяць у рукі, каб ён паследні раз праз яе пабачыў свет, у якім жыў.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Мятуць падлогу да парога. Калі наадварот – да балезні. Пасля падмітання смецце адразу з дому не выносіцца. Трэба, каб яно трошкі пастаяла ў вуглу.

На Купалле ў полі закапвалі пятлю жыта на добры ўроджай.

На вялікія святы даваць нічога нельга. Калі ж прыходзяць і просяць у нядзелю, дык нада браць ці грошы, ці што-небудзь узамен, пры гэтым браць з рук у рукі нельзя (могуць замовіць).

На вяселлі, хто з маладых адкусіць большы кусок каравая, той даўжэй будзе жыць.

Перад вяселлем будучую нявесту саджалі на кажух і распляталі ёй валасы. Лічылі, што калі дзяўчына не баіцца перад вяселлем сесці голай на кажух, значыць, яна захавала сваю дзявоцкасць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

У каго многа родзінак (дзе нябачна), той вельмі шчаслівы чалавек.

Калі ногці цвітуць – нехта прышле гасцінцы. Ногці нада абразаць у пятніцу і закідаць на печ, каб не балелі пальцы.

Нельзя, калі сядзіш, калыхаць нагой, бо на ёй калышыцца нячыстая сіла і можа скалечыць.

Нельга басымі нагамі наступаць на венік – на нагах будуць балячкі.

Стоптаны абутак паліць нельзя – ногі будуці пацець і гарэць.

Калі на чалавека плюнеш – на тым свеце будеш патэльні лізаць.

Увечары, пры агні, дзяўкам нельзя глядзецца ў зеркала, іначай, калі выйдзе замуж, не будзе любіць муж.

Праз парог не разгаварваюць, іначай будзе сварка ў доме.

Сколькі дзяцей маладая хоча мець, столькі зерняў ячменю нада пакласці ў туфель, едучы да шлюбу.

Нябожчыку нада глядзець на ногі, тады ён ніколі не сасніцца.

Каб дзіця расло разумным, нада першыя састрыжаныя валасы пакласці яму ў карман, калі будзе ісці першы раз у школу.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
**ад *Емяльянчыкавай Марыі Цімафееўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

У печ клалі косткі з пасхальнага мяса, а калі граза заканчвалась, іх даставалі з печы і хавалі да наступнай Пасхі.

Памёрлага чалавека трэба адпяваць, каб яго прыняў Бог.

Перад вяселлем маладой давалі сярэбраныя і залатыя грошы, штоб маладыя не зналі нястачы; і сахар, каб жыццё было салодкім.

Соль рассыпаецца да бяды.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любы Іванаўны, 1936 г.н.***
***(пераехала з в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

***Валянціна НОВАК***

## ***Міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з раслінным светам***

Дрэва ў міфалогіі славян – гэта своеасаблівы аб’ект пакланення, гэта адзін з асноўных элементаў традыцыйнай карціны свету. У шэрагу павер’яў яно надзяляецца ўласцівасцямі ўніверсальнага медыятара, паўстае перад намі як міфалагічная праекцыя сусвету і суадносіцца з трыма яго часткамі: падземнай, зямной і нябеснай. Дрэва асэнсоўваецца як метафара дарогі, як той шлях, па якому герой можа дасягнуць замагільнага свету. Гэта агульнаславянскі матыў абрадаў і павер’яў. Даследчык А. Шамак выказаў меркаванне аб тым, што “ў абрадах у гонар Багоў выкарыстоўваюцца добрыя расліны. Гэта вярба, бярозка, клён, ліпа, дуб. Імі ж упрыгожваюць дамы. На сядзібе вельмі добра садзіць бярозу або клён – яны прыносяць людзям шчасце” [2, с. 161].

Бяроза ў міфалагічнай традыцыі беларусаў асэнсоўваецца як “дрэва-ахоўнік і медыятар паміж светам жывых і светам памерлых, сімвалізуе жаночы пачатак…” [1, с. 56]. Паводле народных вераванняў, “бяроза – гэта маладая дзеўка” (запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.); “ператвораная зачараваная дзяўчына. Яна некалі ўцекла з дому, здрадзіўшы сваім бацькам” (запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.).

Важнейшым аспектам міфалогіі дрэва з’яўляецца яго сувязь з чалавекам. Аб гэтым сведчаць і сюжэты пра пераўтварэнне чалавека ў дрэва, якое ў абрадах выступае як сімвалагічная замена чалавека. Аб ператварэнні жанчыны ў бярозу запісаны цікавыя сведчанні Тамары Нілаўны Скуднай, 1926 г.н., з г.п. Парычы Светлагорскага р-на: “Шчэ вось ад бабкі чула. Жылі мужык з жонкаю. Мужык быў прыгожы, магутны, усё ў яго руках гарэла. Жонка яго з другім ухажорылася. Ноччу з ухажорам тым яны забілі мужыка таго насмерць, калі той спаў. Бог, бачачы такое, абярнуў жонку ў бярозу. Цяпер яна кожны год плача – сок пускае. Палюбоўніка абярнуў ў асіну, якая трасецца ад страху. А мужа – у дуб высокі, прыгожы, магутны. Было так”.

Бярозу называлі шчаслівым дрэвам невыпадкова: “на тым месцы, дзе хацелі строіць хату, садзілі бярозу на шчасце” (запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.). Сафія Васільеўна Калядзенка, 1935 г.н., в. Пірэвічы Жлобінскага р-на выказала меркаванне аб тым, што “бярозу пасадзіць – шчасце набыць”.

У в. Баршчоўка Добрушскага р-на верылі, што бяроза і клён – гэта добрыя дрэвы: “Знаю, што бярозку і клянок усягда лі двароў садзілі. Ад іх ніякага ўрэду німа. Ета харошыя дзярэўя” (запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на ад Грудавенка Валянціны Гаўрылаўны, 1930 г.н.).

Пра карысныя якасці бярозы сведчаць наступныя звесткі: “Бяроза і палезная ж. У наша ўрэмя памагаюць ад балезней і сок бярозы, і почкі”. Паводле сведчанняў Васіліны Ціханаўны Данчанка, 1944 г.н., з в. Мікітаўка Брагінскага р-на “з голяк бярозы рабілі ад розных хвароб лякарствы”.

Жыхары в. Дзям’янкі Добрушскага р-на прыпісвалі бярозе нават лекавыя здольнасці: “Бярозкай очэнь харашо кожу лячыць. Вот у бані бярозавы венік папрыкладуй к тому месту, дзе чыры, і яны пройдуць. Кожны зуд снімае бяроза. Ета очень харошае дзерава” (запісана ў в. Дзям’янкі Добрушскага р-на ад Рыжковай Любові Іванаўны, 1941

г.н.).

Забаранялася выкарыстоўваць для будаўніцтва хаты "вывернутыя бурай дрэвы (бярозу), бо будзе няшчасце" (запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.). Забарона садзіць бярозу каля хаты атрымала ў народных вераваннях адметную мясцовую матывацыю: "Бяроза – гэта дрэва, якое нельга садзіць ля хаты, бо яна здороўя забярэ і душу чалавека" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.).

Вярбу называюць "святым дрэвам". Пра генезіс гэтага дрэва ў в. Скерычы Петрыкаўскага р-на запісаны наступныя звесткі: "Жыла некалі дзеўка маладая, тонкая такая, точна вярба тая. Было ў яе багата дзяцей, яна іх сільна любіла. А адна ведзьма завідавала яе красаце і прэўраціла яе ў тонкае дрэва. От і стаіць тая дзеўка і дзетак сваіх калыхае – коцікаў". Паводле іншых старажытных уяўленняў, "вярба – гэта дзяўчына, якая, каб уратавацца ад замужжа са старым, перакінулася ў дрэва. Гісторыя паходжання вярбы выкладзена ў баладзе. Ператварэнне дзяўчыны ў вярбу адбылося па яе волі, па яе ўласным закляцці, прытым разам з ёю розныя прадметы і іх дэталі ператварыліся ў аб'екты прыроды" [1, с. 106] "Галінкі вярбы, пасвечаныя ў Вербную нядзелю, выкарыстоўваліся для засцярогі ад грому, маланкі і навальніцы". Калі на Юр'е выганялі першы раз кароў у поле, то выкарыстоўвалі галінкі пасвечанай вярбы: "Вярба прыносіць здароўе і засцерагае ад хваробы. Першы раз у поле карову выганялі голькай свячонай вярбы. Тады яна будзе даваць многа малака і не будзе балець" (запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.). Каб засцерагчыся ад хваробы і паспрыяць здароўю, было прынята ва ўсходніх славян сцябаць адзін аднаго галінкамі вярбы: "В Вербное воскресенье ветками вербы похлестывают и говорят: "Вербой бью, хвору бью, хвора – в бок, здоровье – в кости" (запісана ў г. Гомель ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.). Паводле сведчанняў жыхароў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на "добры звычай у нас ё з вярбой. На гэтае ж васкрысенне мы пляцаем адзін другога дубчыкамі вярбы свячонай. Тады, гаворваць, будзеш здаровы і крэпкі" (запісана ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н.).

"Вярба – ета тожа харошае дзерава. Ветачкі вярбы мі ў цэркві свяцілі на Вербнае васкрысенне, а патом білі адзін аднога і прыгаворвулі:

Не я б'ю, вярба б'е.
Бі, вербалоз, аж да самых слёз,
Бі, пабівай, усю хваробу віганяй!
Хвароба – у лес, у падмосце,
А здароўечка – у косці.
Будзь здарові, як вада,
І багаты, як зямля!

Скаціну на поле віганялі ей, вербай етай" (запісана ў в. Баршчоўка Добрушскага р-на ад Грудавенка Валянціны Гаўрылаўны, 1930 г.н.).

Выразную матывацыю дзеянняў, звязаных з галінкамі вярбы, давялося пачуць ад Аляксандры Іванаўны Якубовіч, 1936 г.н., з в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.: "Прыносяць дадому і хвошчуць гэтою голінкою: дзіця, ек врэднэ, каб було трошкі лепшэ; п'яніцу, каб менш пів. Вясною, як прыпасваюць карову, то трэба яе ву-

ганяць з хлява вярбінаю сячоною, то вона будзе всягда з попасу домой ідці, і ў лесі з ею нічо не случыцца". Паводле ўяленняў беларусаў, "на вярбе з Вадохрышча да Вербнай нядзелі сядзіць чорт (да гэтага ён жыве ў вадзе, лазе, пасля Вербнай нядзелі – на явары і ў жыце)" [3, с. 335]. "У павер'ях палешукоў вербы, што нахіліліся над вадой, – гэта праклятыя Богам тыя мацеры, што страцілі сваіх дзяцей" [1, с. 106].

Дуб "у беларускай міфа-паэтычнай мадэлі свету – сімвал вечнага жыцця" [1, с. 152]. Гэты тэзіс знаходзіць пацвярджэнне ў шматлікіхі запісах звестак пра гэтае дрэва на тэрыторыі Гомельшчыны: "Дуб – сімвал жызні. У ім затоена свяшчэнная сіла. Ён ахоўвае ўсе дрэвы. Дуб – цар сярод дрэў" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.). Дуб "у многіх выпадках у фальклоры фігуруе ў якасці Сусветнага дрэва, таму каля яго падножжа знаходзіцца змей, а таксама воўна і іншыя рытуальныя прадметы" [1, с. 153]. Адносна паходжання гэтага дрэва бытуюць у народным асяроддзі розныя варыянты міфалагічных аповедаў, паводле некаторых з іх, дубамі сталі хлопцы, якіх зачараваў калдун: "Кажуць, былі ў той час людзі сільна крэпкія – волаты. І от ударыла аднойчы маланка па іх – ета стары калдун наслаў на іх закляцце, бо зайздросціў іх сіле. І тыя хлопцы сталі дубамі – сільнымі і красівымі, як былі пры жызні" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.). Дуб лічыцца не толькі адным з самых шанаваных дрэў, але і адным з самых моцных, таму, зыходзячы з народных уяўленныяў, "дуб прыдае сілу, здароўе, бо ён самы крэпкі і здаровы: трэба падайці да яго, пакласці рукі і сказаць: "Дуб, дубочак, мой галубочак, дай мне сілу ў ножкі, у ручкі, у плечы" (запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.).

Паколькі дуб лічыцца самым моцным дрэвам, то менавіта яго выбіраюць у якасці прытулку для душы чалавека, які памірае: "На нашых могілках вельмі багато дубоў. Так вот, калі чалавек умірае, то его душа даўжна найці дзесьці сваё место. А німа нічого лучшага, як уселіцца ў дуб, бо дуб шчытаюць вельмі моцным дрэвам" (запісана ў в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.).

З мэтай засцярогі малых дзяцей ("хлопчыкаў") ад хваробы іх насілі да дуба: "Да гэтага дрэва насілі малых хлопцаў, калі яны балелі" (запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.). Па гэтым дрэве вызначалі, якім будзе год: "Кажуць, што калі шмат жалудзей на дубе, то год будзе неўраджайны" (запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.).

А вось такія дрэвы, як дуб, рабіна і асіна, паводле сведчанняў жыхароў в. Дзям'янкі Добрушскага р-на лічыліся дрэннымі. Пра гэта сведчаць наступныя запісы: "Знаю тое, што дуб, рабіна і асіна – ета плахія дзярэўя. Пачаму? Магу атвеціць. Етыя дзярэўя нільзя садзіць ля двара. Еслі пасадзілі дуб і ён прыміцца, то ты скора ўмрэш, а еслі засохне, будзеш доўга жыць. Дуб забірае сілу ў чалавека.

Асіну нільзя садзіць, патаму што на ёй Іюда павесіўся. Ета проклятае дзерава.

А рабіну тожа нільзя садзіць, патаму што можа быць смерць у двара" (запісана ў в. Дзям'янкі Добрушскага р-на ад Смаляковай Ніны Агееўны, 1930 г.н.).

Шматлікія прыкметы і павер'і звязаны з рабінай, якая лічылася шчаслівым дрэвам: "Рабіна прыносіла ў дом шчасце" (запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на ад Яўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.). Аб сувязі рабіны са шлюбнай сімволікай сведчаць таксама звесткі, запісаныя ад Яўтушэнка Лізаветы Германаўны: "Жаніху і нявесце перад шлюбам лажылі па ветачке рабіны ў абутак. Гэта прыносіла шчасце, па-

вагу і засцерагала ад ліха".

З мэтай засцярогі ад звышнатуральнага ўздзеяння нябожчыкаў выкарыстоўвалі галінкі рабіны: "Пасля таго як хтосьці памёр у хаці, то вешалі над парогам гольку рабіны, каб душа пакойніка не вярнулася ў хату" (запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.).

Як бачым, міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з раслінным светам, вельмі разнастайныя. Аб гэтым сведчаць і вышэйпрыведзеныя запісы, з якіх вынікае, што ў вераваннях жыхароў Гомельшчыны існаваў падзел на "добрыя" і "дрэнныя" дрэвы. І гэта было невыпадкова, бо кожнаму дрэву людзі прыпісвалі адпаведную ўласцівасць: добра ўздзейнічаць на чалавека альбо, наадварот, шкодзіць яму.

Спіс літаратуры:

1. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-ое выд; дап. – Мн. : Беларусь, 2006. – 599 с.

2. Шамак, А.А. Міфалогія Старажытнай Беларусі [Тэкст] / А.А. Шамак. – Мінск: Сэр.Віт., 2004. – 240 с.: іл.

3. Славянские древности. Этнолингвистический словарь в 5-ти томах / под ред. Н.И. Толстова. Т. 1. А-Г. – М. : Междунар. Отношения, 1995. С. – 584 с.

## *Раслінны свет*

### *Асіна*

Асіна – ета д'ябальскае дрэва. Пад ім хаваецца чорт. Пад асіну нельзя станавіцца, калі граза.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Асіна – ето паганое дзераво, бо на ём буў прыбіты Ісус Хрыстос. Асінавум калом адганяюць нячыстую сілу.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Асіну даў лукавы, каб людзі на ёй вешаліся. Часта ў нас, кагда нядобрага жадалі, казалі: "Каб ты на асіне ўдавіўся".

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Гэта паганае дрэва з-за таго, што яе пракляў Бог па той прычыне, што яна не пакланялася Хрысту, як іншыя дрэвы. На асіне павесіўся здраднік Іуда, таму лісце восенню становіцца крывавав-чырвоным. Гэта напамін пра няправедную кроў Іуды.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

### *Бяроза*

Казалі, што гэта маладая дзеўка. Старыя людзі казалі, што гэта шчаслівае дрэва. На тым месцы, дзе хацелі строіць хату, садзілі бярозу на шчасце.

Рабілі ад розных хвароб лякарствы з голяк бярозы. Яшчэ казалі, што бяроза засцерагае ад грому.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Бяроза абярагае ад зла. Яна благаславенная.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Бяроза – гэта ператвораная зачараваная дзяўчына. Яна некалі ўцекла з дому, здрадзіўшы сваім бацькам. Яна пакахала паніча, а той абмануў яе і кінуў. Так засталася яна адна і некуды ёй ісці: ні бацькі не прымуць, ні, тым больш, яе каханы. Таму кожную вясну плача бярозка.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Бярозу пасадзіць – шчасце набыць. Бярозу выкарыстоўваюць для пляцення вянкоў дзеўкі. Па іх яны гадаюць пра сваю долю. Бяроза і палезная ж. У наша ўрэмя памагаюць ад балезней і сок бярозы, і почкі.

А яшчэ ніколі нельга строіць хату з вывернутых бурай дрэў, бо будзе няшчасце.

Калі бяроза зацвіце вясной пярвей вольхі, лета будзе сухое.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Бяроза – ето добрае дзераво. У нас на Тройцу ставяць бярозкі ўздоўж сцежкі, а сцежку пасыпаюць жоўценькім пясочкам. Садзяць бярозу ля хат і на могілках, штоб спакойно было і жывым, і мёрцвым. Бярозы даюць нам смачны сок.

Шчэ я знаю пра дзярэўя вот што. Штоб хлопец палюбіў, моцно палюбіў дзеўку, трэба найці ў лесі такее место, дзе береза і дуб звіліса ўместо, дзе галіны іх спляліса. Наламаць етых галін, заварыць іх, а патом даць напіцца етаму хлопцу. І ён будзе любіць етую дзеўку ўсю сваю жызню і ніколі ее не кіне. Можно і дзеўцы даць папіць, штоб ена мацней любіла. Тады такая пара будзе жыць разом да смерці. Вельмі важно найці такого дуба з березаю.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Бярозу нельзя садзіць ля жылля, бо будзе жызнь забіраць, здароўе.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Бяроза – гэта дрэва, якое нельга садзіць ля хаты, бо яна здароўе забярэ і душу чалавека. Бярозы садзяць на кладбішчы, у лесе.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Шчэ вось ад бабкі чула. Жылі мужык з жонкаю. Мужык быў прыгожы, магутны, усё ў яго руках гарэла. Жонка яго з другім ухажорылася. Ноччу з ухажорам тым яны забілі мужыка таго насмерць, калі той спаў.

Бог, бачачы такое, абярнуў жонку ў бярозу. Цяпер яна кожны год плача – сок пускае. Палюбоўніка абярнуў ў асіну, якая трасецца ад страху. А мужа – у дуб высокі, прыгожы, магутны. Было так.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Барэзавымі галінкамі нараджалі хату на Тройцу, вона отганяла нячыстую сілу.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Гэта вельмі добрае дрэва. Гавораць, што калі пераязджаеш у іншае месца, трэба забраць з сабою і адну бярозавую галінку. Тады ў хаце буде шчасце.

Як толькі дрэва пачынае цвісці, патрэбна сабраць з яе лісточкі, абпараць гарачай вадой і прыкладваць да таго месца, дзе баліць, а можна яшчэ і ў тазік накідаць бярозавых лістоў і парыць у іх ногі. Добра будзе і бярозавы венік для бані. Калі бяроза пачынае гніць, ну як бы хварэць, патрэбна акрапляць яе святочнай вадою, а то ў хаце хтосьці памрэ.

Гаварылі шчэ, колькі на бярозе пятнышкоў, ну вы разумееце, на самом ствалы, столькі ты жыць будеш, а хто гаварыў, што столькі детак у цябе будзе. Вельмі смачны і бярозавы сок, кожны год збіраеш. Хто нават першы бярозавым сокам акрыпляе сваю скаціну, каб не хварэла. Яшчэ ведаю, што калі маладая дзяўчына збіраеца выходзіць замуж, яна даўжна пасадзіць бярозу каля хаты свайго будучага мужа, каб у іх хаце было багацце, шчасця. Цяжарнай жанчыне патрэбна біць сабе галінкай бярозы, каб діцё нарадзілася здаравенькае.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Маскоўчанкі Алены Фёдараўны, 1929 г.н.,***
***(прыехала з в. Ікрыскаўшчына Белапольскага р-на***
***Сумскай вобл. Украіна),***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Гаварат, што бярозу няльзя садзіць возле самага дома. Я сама знаю, што сасед бярозу пасадзіў, дак прадаў дом, доўга яго ніхто не хацеў пакупаць.

***Запісана ў в. Скіток Гомельскага р-на***
***ад Каваленка Надзеі Цімафееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткамі Бярэнка Ю., Кручковай Ю. (2004 г.)***

Бярозка – ета харошае дзерава. З яго бяруць сок, ім націраюць і яго п’юць. Бярозавік піць нада, тады доўга жыць будзеш.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Ой, бяроза сільнае дзерава. У яе бальшая сіла. Гэта жаночае дзерава. Яе не нада садзіць ля хаты, бо яна сілы і здароўе адбірае, і можа нешта і ў хаце здацца, ну, памерці хто-небудзь. Бярозы растуць на кладбішчы, а ля жывых людзей іх нельга садзіць. Прыкланяцца да старой бярозы нельга, бо можа забраць здароўе, а к маладзенькім можна – яны няшкодныя. На Тройцу сабіралі ветачкі бярозак і ставілі ў хаце, толька нада, штоб бярозкі маленькімі былі, ну, галінкі тыя, ветачкі, ужо шчасце прыносяць.

У нас так вот думаюць, што ў бярозу прэўрашчаюцца дзяўчаты, што самі сябе загубілі. Як іх цела маладое і светлае, то гэта дзяўчына ў бярозу апынулася. А вясною бяроза плача – сок цячэ, і гэта ўжэ як бы дзяўчына гаруе і страдае, што сябе забіла.

Вясной глядзяць, што распусціцца раней – альха ці бяроза. Калі альха, лета будзе гнілое, калі бяроза – лета будзе сухое, цёплае.

Калі што чалавек, які табе не ўслужыў і каб ён быстрэй памёр, то пад яго клалі бярозавае галлё, а бярозавае палена клалі пад абразы, каб на ім да смерці магла душа пасядзець. Вот калі харанілі, так у гроб на дно кару бярозавую клалі ці абычныя венікі, а падушку лісцем набівалі.

На кладбішчы, вот толькі замець, адны сосны да бярозы, іх ля магіл садзілі і так вот гаварылі: “Хутка пайду пад бярозку”.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на ад Пузына Тацціяны Пятроўны, 1925 г.н., студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

## *Вярба*

Вярба прыносіць здароўе і засцерагае ад хваробы. Першы раз у поле карову выганялі голькай свячонай вярбы. Тады яна будзе даваць многа малака і не будзе балець.

У хаце вярбу ўтыкалі па вуглах, на варотах – каб дома ўсё было добра. Перад Вялікаднём людзі ўтыкалі галінкі вярбы.

Мы, старые, верылі і верым, што вярба спрыяе ўсяму добраму.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н., студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

В Вербнае васкресенье ветками вербы пахлёстывают и гаварят:

– Вербай бью, хвиру бью, хвира в бок, здаровье в кости.

***Запісана ў г. Гомель ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н. (прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.) студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Бог паслаў вярбу і даў празнік Вербнае васкрасенне, бо яна расцвітае ў гэтую пару.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н., студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Вярба – святое дрэва, бо гэта ж яе мы свецім у цэркве на Вербную нядзелю. Добры звычай у нас ё з вярбой. На гэтае жваскрысенне мы пляцаем адзін другога дубчыкамі вярбы свячонай. Тады, гавораць, будзеш здаровы і крэпкі. Расцвітае вярба – начынаецца вясна.

***Запісана ў в. Салтанаўка Жлобінскага р-на ад Паўлюковай Валянціны Мікалаеўны, 1930 г.н., студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Жыла некалі дзеўка маладая, тонкая такая, точна вярба тая. Было ў яе багата дзяцей, яна іх сільна любіла. А адна ведзьма завідавала яе красаце і прэўраціла яе ў тонкае дрэва. От і стаіць тая дзеўка і дзетак сваіх калыхае – коцікаў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Вярба – божае дрэва. Дажэ свецяць яе на Вербную нядзелю.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На Вэрбну нядзелю ломяць галінкі з варбы і свяцяць у цэркві. Прыносяць дадо-

му і хвошчуць гэтою голінкою: дзіця, ек врэднэ, каб було трошкі лепшэ; п'яніцу, каб менш пів. Вясною, як прыпасваюць карову, то трэба яе вуганяць з хлява варбінаю сячоною, то вона будзе всягда з попасу домой ідці, і ў лесі з ею нічо не случыцца.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Дрэва, якое ўплывае на жыццяздольнасць і здароўе, засцярагае ад няшчасця і хвароб.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Вярбу ламалі. Свяцілі ў царкве. Прыносілі дадому, прыбраную, і за ікону ставілі. А калі карова першы раз ідзе на пашу, дык яе білі вярбой і прасілі ў Юр'я:

Святы Юр'я,
Пабеданосец храбры,
Спасі маю карову:
У лесе – пнём,
У балоце – купінай,
У полі – туманом.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Тацяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## ***Дуб***

Дуб – гэта здаровае дрэва. Пад яго нельга станавіцца, калі грыміць гром, ці бліскае маланка, бо можа забіць. Да гэтага дрэва насілі малых хлопцаў, калі яны балелі.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

От часта пытаюць: "Чаго ето на могілках растуць дрэвы?" На нашых могілках вельмі багато дубоў. Так вот, калі чалавек умірае, то его душа даўжна найці дзесьці сваё место. А німа нічого лучшага, як уселіцца ў дуб, бо дуб шчытаюць вельмі моцным дрэвам.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Маці казала, што дрэвамі можна лячыцца. Яна гаварыла пра ласкавасць дуба. Усе мы пастаялі каля багатыра і пачалі прасіць здароўя.

Каля дома нельга садзіць рабіну, каб не стаць удавою, і ёлку, бо калі ёлка перарастае сваю хату, дык яна ўжо ўрэдная, прыносіць няшчасце ў дом гаспадара. Рабіна ж помслівая. Хто яе зломіць ці ссячэ, той памрэ або ў яго хаце будзе мярцвяк.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранович Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Дуб – моцнае дрэва, вечнае. Ён жыве не адно стагоддзе. Самае старшае дрэва сярод другіх. Кажуць, што калі шмат жалудзей на дубе, то год будзе неўраджайны.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Дуб прыдае сілу, здароўе, бо ён сам крэпкі і здаровы. Старые людзі, калі ўбачаць дуб, то ніколі не мінуць его. Трэба падайці да яго, пакласці рукі і сказаць: “Дуб-дубочак, мой галубочак, дай мне сілу ў ножкі, у ручкі, у плечы”. Пастаяць трохі і пайці.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

Дубы – гэта сільныя дрэвы. Іх і вецер не ломіць. Толькі маланка можа ўдарыць. Кажуць, былі ў той час людзі сільна крэпкія – волаты. І от ударыла аднойчы маланка па іх – ета стары калдун наслаў на іх закляцце, бо зайздросціў іх сіле. І тыя хлопцы сталі дубамі – сільнымі і красівымі, як былі пры жызні.

От і зараз можна ўбачыць доўгія дубовыя рошчы. То стаяць тыя хлопцы, у якіх ударыла молнія, іх дружны гурт.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Дуб – сімвал жызні. У ім затоена свяшчэнная сіла. Ён ахоўвае ўсе дрэвы. Дуб – цар сярод дрэў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

З усіх дрэў гэта самае моцнае дрэва, яго можна назваць царом усіх дрэў. Раней, калі я была малою, мы ніколі не садзілі дуба каля дома. Казалі, што дуб – гэта дрэннае дрэва. Чалавек, які не любіў свайго суседа, падкідваў пад яго вароты дома карані дуба. Значыць у гэтай хаце буде няшчасця. Але дубы раней садзілі люді, якія жылі багата, у якіх было шмат грошай. Яны як бы дубамі загараджалі свае дамы, вароты ад чужых. Рабілі гэта, штобы ніхто не ўкраў іх багацце. Яшчэ казалі, што калі баліць галава, патрэбна падысці да дуба і пастучаць па ёму галавой тры разы. Тады ўсё пройдзе. А калі ў хаце хтосьці памрэ ўнезапна, то патрэбна вырубіць дуб, каб ён зноў каго-небуць не загубіў.

Казалі таксама, што калі ў доме хварэе хтосьці, патрэбна падысці да дуба і абхваціць яго і сказаць такія словы:

Дай дуб моцы,
Дай дуб сілы,

Каб здаравенькі я быў,
Ды маці з бацькай не згубіў.

Гаварыць гэта патрэбна тры разы, потым плюнуць праз лева плічо і ісці дамоў. Дуб жа гэта і добры матэрыял. Корні ў яго моцныя і вялікія. Яго раней зрублялі на падмоснікі. Казалі шчэ, што кару дуба патрэбна прыкласці к балеючаму месцу, і тады боль пройдзе. У мяне часта баляць зубы, дык я заўсёды так раблю. Але ж садіць каля дома дуба я ўсё роўна баюся.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Маскоўчанкі Алены Фёдараёны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Ікрыскаўшчына Белапольскага р-на***
***Сумскай вобл., Украіна),***
***студенткай Данілавай М. (2004 г.)***

Яшчэ як не было свету, а дуб ужэ быў. На ім стаяла зямля, вада, агонь. Дуб – вельмі моцнае дзерава. І так вот думаюць, што гэта душа чалавека – мужчыны – перайшла ў дуб. Дубовыя карані трымаюцца на сіле Божай.

Калі дуб расцвіце, то ўжэ можна ісці купацца – і не забалееш.

У нас дуб садзілі падалей ад хаты, садзілі бацькі, каб знаць, што на душэ ў хлопцаў – сыноў. Як ўвесь час стаяў і не гнуўся, а тут нагнуўся, асунуўся – значыць, хлопец таскуе.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

## *Елка*

Нельга садзіць елку каля хаты. Бо калі карані дарастуць да хаты, то нехта з родных памрэ.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## *Капуста*

На градзе з капустай клалі вялікі круглы камень, штоб качаны былі такія ж бальшыя.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

## *Крапіва*

Крапиву на Троицу цепляют на забор, который обгораживает дом, по углам с четырех сторон.

***Запісана ў в. Церахоўка Добрушскага р-на***
***ад Дубяшнай Т. В., 1949 г.н.,***
***студэнткай Петруненка Т. (2010 г.)***

## *Клён*

З клёна не рубілі дроў, таму што яны вельмі пагана гарэлі.

Гэтае дрэва ўзнікла так: калісь маці закляла свайго сына.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Дзерава дабрабыту. Садзяць ля хаты. Клён дае лячэбны сок.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

## Ліпа

Ліпа – добрае дзераво. Калі ў жонкі мало малака, то даюць піць атвар з ліпавых цветкоў. Шчэ вешаюць на варотах ліпу.

***Запісана ў в. Майсеевічы Петрыкаўскага р-на***
***ад Белкавец Анастасіі Максімаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шынкарэнка А. (2005 г.)***

## Маці-і-мачаха

Гаварылі, то было такое кагда-то. Была дзевачка ў маткі. Ета маці памерла, дак дзевачка хадзіла на магілку, усё плакала. Дак на той магілцы абразаваўся лісточык, а патом – і цвет, і назвалі яго “маць і мачыха”. Ён з адной стараны цёплы, а з другой – халодны. Ён добра памагае, а асобенна добры для націрання.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

## Папараць-кветка

Шукаюць у лесе на Купалу. Трэба ісці ў 12 ночы ў лес. Калі знойдзеш папараць-цвет, будзеш панімаць рэч жывотных і пціц, будзеш шчаслівы. Калі ідзеш па цвет, то можа пужаць розная нечысць. Трэба не аглядацца, а ісці прама, не баючыся.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

На Купалле маладыя не толькі гуляюць каля рэчкі, варожаць, а таксама шукаюць папараць-кветку. Калі яе знойдзеш, будзеш жыць шчаслiва.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Раней верылі, што еслі знойдзеш папараць-кветку, то нада яе з сабой забраць, патом пусціць з яе сок у руку і ліцо ўмыці етым сокам, тады ўсё знаць будзеш. На чалавека якога паглядзіш, дык будзеш знаць, харошы ён ці плахі.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Таццяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

Цветёт на Івана Купалу. Еслі найдзёш папараць – будзеш багатай, выйдзеш за-

муж. Эта для дзевачак нада. Еслі найдут папараць, то хлопцы любіць будут.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## Рабіна

З яе ягад таксама рабілі лякарствы розныя. Пасля таго, як хтосьці памер у хаце, то вешалі над парогам гольку рабіны, каб душа пакойніка ні вярнулася ў хату.

***Запісана ў в. Мікітаўка Брагінскага р-на***
***ад Данчанка Васіліны Ціханаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткай Данчанка К. (2000 г.)***

Рабіна прыносіла ў дом шчасце. Жаніху і нявесце перад шлюбам лажылі па ветачке рабіны ў абутак. Гэта прыносіла шчасце, павагу і засцерагала ад ліха.

***Запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на***
***ад Еўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Драбышэўскай А. (2000 г.)***

Жила красивая богатая девушка. Она была влюблена в молодого, но бедного парня. Он ее тоже очень сильно любил. И хотели они пожениться. Но отец девушки был против. И они решили убежать из дому.

Но отец со своими подчиненными нашел парня с дочерью и убил их двоих, даже не пожалев дочери. И на том месте, где произошло убийство, выросло 2 дерева – дуб и сосна, которые до сих пор растут обнявшись.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сакалоўскай Алены Адамаўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Сакалоўскай Я. (2000 г.)***

Калі ў доме нараджалася дачка, то ў селішчы садзілі бярозу, а калі сын – клён.

Калі вясною бяроза рана распусцілася, то трэба чакаць сухога лета. А вось калі альха распусціцца раней за бярозу, то лета будзе мокрае.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Еслі на рабіні осенью багато рабіны, то восянь будзе дождлівая і гнілая.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

## Бяроза і асіна

Даўно тое было. У адной жонкі быў палюбоўнік, дык убачыў іх муж. Тады яны забілі яго. А Бог усё бачыў і прышоў да жонкі, увідзеў іх разам. Іператварыў яе ў бярозу, а яго ў асіну, якая ўсё врэмя дрыжыць ад страху. А бяроза каждую вясну плача над тым, што яна нарабіла.

***Запісана в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на***
***ад Апанасюк Соф'і Аляксееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

## *Бяроза, дуб*

Быў чалавек першы, Адам. Як памёр, дочкі яго плакалі на яго магілцы. Гасподзь кажа яму: "Устань, дочкі плачуць". Ён не хоча, кажа: "Шчэ раз уміраць не буду. Хай мае дочкі стануць бярозкамі, а сыны дубочкамі".

Як сок з бярозы капае, так гэта слёзы дочак Адама.

***Запісана ў в. Чкалава Гомельскага р-на***
***ад Седавусавай Тацяны Сцяпанаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Скачковай Н. (2000 г.)***

## *Яблыня*

Гаворуць, што ў каждага чалавека ё сваё дзерава, якое яму памагае. Вот маё дзерава – ета яблынька. Еслі ў мяне што баліць ці гора якое, дак я іду да яблынькі, абдыму яе і папрашу памочы. І патом дзелаецца лягчэй.

***Запісана ў в. Вышамір Рэчыцкага р-на***
***ад Склімянок Тацяны Аляксееўны, 1933 г.н.,***
***Склімянка Івана Ісакавіча, 1929 г.н.,***
***студэнткай Строкінай А. (2004 г.)***

***Валянціна НОВАК***

## *Жывёлы і птушкі ў міфалагічнай традыцыі беларусаў*

У народнай заалогіі жывёлы выступаюць як "аб'ект міфалагізацыі і сімвалізацыі" (А. Гура). Сабака ў міфалагічнай традыцыі беларусаў надзелены ўласцівасцямі вартаўніка чалавечага жытла. Паводле сведчанняў Сафіі Васільеўны Калядзенка, 1935 г.н. з в. Пірэвічы Жлобінскага р-на, "сабака – гэта чалавечы друг. Раней казалі, што калі сабака ноччу лае – гэта ён адганяе нячыстую сілу". Па тым, як вые сабака, меркавалі аб лёсе чалавека, аб тых ці іншых падзеях у будучым: "А яшчэ сабака гавора пра няшчасце. Калі ён вые ўніз – гэта смерць або да пажару" (запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.).

Нашы продкі здаўна адносілі сабаку да вартаўнікоў свету памерлых, таму і гаварылі, што калі сабака "вые, скуліць і дзержа галаву ўверх – пажар, калі ўніз, на зямлю схінае галаву – да мярцвяка" (запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Мірановіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.).

З паводзінамі сабакі звязвалі і прагназаванне надвор'я: "Сабака скручваецца калачом – холад, расцягваецца па зямлі – цяпло" (запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.).

Па асобных дзеяннях сабакі зімой і летам меркавалі аб тым, калі чакаць снежнай зімы або дажджлівага лета: "Калі сабака зімой качаецца – будзе снег, а летам – дождж" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.). У гэтай жа вёсцы з выццём сабакі ў бок месяца звязвалі няшчасце: "Калі сабака вые на луну – к няшчасцю" (запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.).

У шматлікіх быльчках даецца адказ на пытанне, "чаму мы ядзім сабачы і каціны хлеб": "Ёсць выраз: мы ядзім сабачы і каціны хлеб…" (запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на ад Еўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.).

Міфалагізаваны вобраз сабакі сустракаецца ў паданнях, звязаных з паходжаннем чалавека. Вытокі народных вераванняў пра сабаку як надзейнага сябра чалавека адлюстраваны ў быльчках, запісаных на Гомельшчыне: "І вырашыў Бог аднажды сысці да і паглядзець, як людзі адносяцца да хлеба. Вельмі расчараваны быў: не цанілі хлеб. Бог рашыў адпомсціць людзям. Абарваў ён зярняткі ад нізу да верху. Ат прыбягае сабака і кажа: "Бажок, любы, памілуй гэтых глупцоў! Астаў ім хлеба хоць на вяршках". Зжаліўся Бог над сабакам. Пакінуў зерне на вярхушцы сцебля. А после ўсяго людзі вельмі ўдзячны былі свайму выратавальніку. З таго часу і стаў сабака лепшым сябрам чалавека" (Запісана ў в. Бабоўка Жлобінскага р-на ад Аўраменка Ніны Дзмітрыеўны, 1930 г.н.); "Людзі любяць сабак патаму, што даўно, колісь, сабака вупрасіў у Бога для чалавека хлеба. Усяго ж було богато, і людзі перэсталі шанаваць хлеб. Але ж сабака ўпросіў Бога, і той зміласцівіўся. Вы ж і самі бачыце, што з таго ўрэмя чалавека последнім ковалкам дзеліцца з сабакою" (запісана ў в. Астрожанка Лельчыцкага р-на ад Багдановіч Ніны Міронаўны, 1935 г.н.); "Гэта калі сабака вые ў дварэ, то к пажару альбо к мерцвяку. Калі ён вые, скуліць і дзержа галаву ўверх – пажар, калі ўніз, на зямлю схінае галаву – да мерцвяка. Сабака лічыўся часцей за ўсё вартаўніком свету памёрлых" (запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Мірановіч Марыі Герасімаўны, 1935

г.н.); "Ек Господзь сотвореэв кота і собаку, дав ім по куску хліба, то сабака схватэв хліб і ўцёк далеко ў будку, а кот прыніс до чоловіка в хату, тому сабака до сій порэ на морозэ в будцэ, а кот завтрэ ў хатэ на горечіі пычі" (запісана ў в. Падстава Драгічынскага р-на Брэсцкай вобласці ад Камінскай Алены Аляксандраўны, 1917 г.н.); "Ёсць выраз: мы ядзім сабачы і каціны хлеб. А пайшоў ён вось адкуль. Даўно калісь, калі ў людзей было шмат хлеба, былі добрыя ўраджаі, людзі перасталі цаніць гэта. Яны ламалі каласы жыта, не жалеючы аб гэтым. І Бог разазліўся. Ён паслаў на зямлю засуху. І ўсё пачало гінуць. Але сабака і кот пачалі прасіць Бога, штоб ён зміласаваўся. І Бог паслухаў іх. З таго часу людзі пачалі любіць катоў і сабак" (запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на ад Еўтушэнкі Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.); "Обіжаць іх няможна, трэба всегда іх покорміць, бо воны вупросілі ў Бога хлеба. Раньше колос состояв із дванаццаці колосков. Бог зазлівса на чалавека і хацев забраць у яго хлеб, але сабака і кот началі прасіць: "Оставь жэ й нам". І вот благадара коту і сабацы чоловек есць хлеб і гэто валікі грэх для чоловека, не покорміць собаку і кота" (запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобласці ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.).

Кот у міфалагічных уяўленнях беларусаў лічыцца адной з самых шануемых жывёл: "Кот – ето вобшчэ адзін з самых уважаемых жывотных. Яго заўсёды шанавалі" (запісана ў в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1939 г.н.).

Невыпадковай была і прысутнасць ката ў рытуалах засялення ў новую хату: "Адны казалі, што ката пускалі первого ў хату таго, шоб у хаце добрэ жылося, ні было пажараў, сварак" (запісана ў в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1939 г.н.); "Вельмі цяжка знайсці ката з цэлым хвастом. Заўсёды адцінаюць большую яго частку ці хоць бы толькі самы канец, верачы, што гэтакім чынам адсякаюць галаву вужу, які знаходзіцца на кацінам хвасце.

У кнізе "Рэчыцкае Палессе" І. Пяткевіча прыведзены звесткі аб тым, што ў канцы кацінага хваста сядзіць "злосць" ці "нянавісць" да чалавека. Хто заб'е ката, на таго чалавека і на яго сям'ю павінна напасці няшчасце, якое працягніцца 7 год, але малых кацяняткаў можна тапіць беспакарана, пакуль яшчэ сляпыя" [1, с. 332]; "Калі кот чорны перабяжыць дарогу, то плоха будзе. Нада ўзяцца за што-небудзь краснае. Калі засяляешся ў хату, нада ўпускаць першага ката, бо ён чуствуе нечыстую сілу. І калі яна ёсць у доме, то кот уцячэ з хаты. Калі кот умываецца на пароге – будуць госці" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.); "Шчытаюць, што каты святыя. Хто счытае, што яны святыя, а хто – што яны ад нячыстай сілы. Калі кошка трохцветная, то яна лечыць чалавека, дапамагае. Каты якімсьці шляхам адчуваюць свайго гаспадара на адлегласці. І калі іх адвозяць далёка, то яны могуць вярнуцца за сотні кіламетраў. Каты вельмі разумныя. Некаторыя каты любяць іграць у праткі" (запісана ў в. Восава Бабруйскага р-на Магілёўскай вобласці ад Дубовік Рыгора Канстанцінавіча, 1941 г.н.). Цікавым падаецца тлумачэнне вышэйназванага інфарматара адносна гэтага рытуалу першага ўваходу ў новую хату: "Другія казалі, шо як чалавек паміpae, то его на том свеці первым устрачае кот, то ён доўжэн і на етом свеці первым увайсці ў хату" (запісана ў в. Скароднае Ельскага р-на ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1939 г.н.)

Мядзведзь адносіцца да ліку найбольш сакралізаваных жывёл у міфалогіі. Адным з распаўсюджаных матываў у фальклоры і міфалогіі беларусаў з'яўляецца "матыў пра паходжанне мядзведзя ад чалавека, які, пераапрануўшыся ў кажух поўсцю вонкі,

спрабаваў напалохаць Бога. Гэтаксама ў мядзведзя ператвараецца сквапны бабыль, які захацеў, каб чароўная ліпа зрабіла яго самім Богам (казка "Жадны бабыль"), або гультай, які, лянуючыся сам шукаць лясных пчол, выдзіраў чужых. Такім чынам, ператварэнне чалавека ў мядзведзя выразна звязваецца з суперніцтвам у Бога" [3, с. 333-334]. Паводле народных вераванняў, прыгожы хлопец, які быў лянівым і сквапным, быў ператвораны ў мядзведзя: "Раней у адной дзярэўні жыў красівы хлопец. Многа дзевак яго любіла. А ён любіў толькі самога сябе. Усё глядзеўся ў зеркала. Так вот, ён быў страшна лянівы і па дому ніколі не памагаў. Пойдзе ў лес, ляжа на зялёную траву, так і спіць цэлы дзень.

Аднаго разу падышоў да яго ў лесе старчык і папрасіў хлеба. А хлопец не даў. А то быў калдун лясны. Ён рассердзіўся і праўраціў яго ў мядзведзя" (запісана ў в. Ігаўка Добрушскага р-на ад Макаравай Матроны, 1921 г.н.).

Той жа матыў "збірання чужога мёду" адлюстраваны ў былічцы, запісанай у г.п. Парычы Светлагорскага р-на: "Людзі той мёд збіралі, а калі адшуквалі тое дрэва, дзе пчолы вяліся, дык мецілі яго, абвязвалі анучай ці чым. У калдуна дрэва было памечана. Мужык той сам нічога не шукаў і выдраў мёд з дрэва калдуна. Той, убачыўшы, парок яму заўсёды мёд драць і абярнуў яго ў мядзведзя" (запісана ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.).

Мараль прыведзеных варыянтаў міфалагічных аповедаў заключаецца ў асуджэнні тых, хто прысвойвае сабе вынікі працы іншых: "Не трэба чужых чапаць!" (запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.).

Сярод версій паходжання мядзведзя вылучаецца і версія, звязаная з тым, што "гэта чалавек, які ператвораны Богам за тое, што не ведаў меры сваёй сілы і ўсё варочаў" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.).

Асэнсаванне сімволікі міфалагізаванага вобраза мухі ў народных уяўленнях звязана з духамі памёрлых людзей: "А мухі – гэта ўмершыя душы людзей, якія прыйшлі да кагосьці" (запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н.). Калі сніцца, што "багата мух у хаце – гэта азначае, што будзе нейкая смерць" (запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н.).

Конь у традыцыях славян – адна з найбольш міфалагізаваных жывёл, якую лічылі сакральнай. "Конь – атрыбут вышэйшых язычніцкіх багоў (хрысціянскіх святых) і адначасова хтанічная істота, звязаная з культам урадлівасці і смерцю, замагільным светам, "праваднікам на той свет" [2, с. 228]. "Конь – гэта святая жывёла. Бог даў каня чалавеку ў дапамогу, каб яму лягчэй было работаць" (запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.); "Перад распяціем Ісуса Хрыста схавалэ ў сіно ў хляві, а як прыйшлэ шукатэ, то ўся скотына стояла смірно, ні подавала знака, шо ў хліві е, а конь ўзяв і розгрыб лапамэ сіно і выдав, тому ў скотыны роздельны копыт, а ў коня – суцэльны, і конь считаіцца чортавэм жівотным, тому на ёму всю жізнь робяць і він всегда в потовэ і мухах" (запісана ў в. Падстава Драгічынскага р-на Брэсцкай вобласці ад Камінскай Алены Аляксандраўны, 1917 г.н.); "Бачыць у сне чорнага каня – нехарашо, к пакойніку. Калі сасніш, што на чорным кані едзеш – к смерці, на белым – к хваробе" (запісана на Віцебшчыне Шумілінскі р-н запісана У. Васілевічам); "Белага каня прысніш – да гроба, чырвонага – да хваробы" (запісана на Магілёўшчыне, Глускі р-н); "Калі ў каня каля шыі падвоена месца, то такога каня нада прадаць, бо калі ў цябе здохне, то больш вадзіцца не будуць" (запісана ў в. Уза Буда-Кашалёўскага р-на).

Шмат прыкмет, павер'яў і былічак звязана з міфалагічным вобразам казы, істоты, для якой, паводле вераванняў, характэрны апатрапеічная і прадуцыравальная функцыі. "Каза таксама мае дачыненне да чорта. З казой звязана шмат абрадаў: каляды, вяселле" (запісана ў в. Леніна Добрушскага р-на ад Скупой Лідзіі Сямёнаўны, 1930 г.н.); "Бог стварыў усё. І ўсё было жывое. А чорт знайшоў казу без духу. Спрабаваў яе ажывіць, але з гэтага нічога не выйшла. А Бог узяў яе ды ажывіў. Вось і падобна каза да чорта і рагамі, і вачыма, і барадой" (запісана ў в. Лахва Лунінецкага р-на Брэсцкай вобласці ад Канапацкай Наталлі Сцяпанаўны, 1935 г.н.); "Чорная каза – гэта тожэ плахое жывотнае. Калі ўжо каза ёсць, жыве ў гаспадара, то будзе неблагапрыятнасць нейкая" (запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Міранові Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.); "Здзелаў Бог многа жывёл красівых і добрых. Убачыў гэта чорт і тожа захацеў сваю жывёлу здзелаць. Але не атрымлівалася ў яго нічога. Таму раззлаваўся ён і кінуў сваю работу. А каза і да гэтага часу напамінае чорта сваімі рагамі" (запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.).

Да ліку сакральных птушак у беларускай міфалогіі адносіцца бусел. Семантыка вобраза гэтай птушкі вынікае з народных вераванняў, звязаных з яе прылётам і месцам жыхарства, будаўніцтвам гнязда, шматлікімі дзеяннямі. У тым, што бусел для беларусаў – святая птушка, можна пераканацца, калі звярнуцца да сцвярджэння С.В. Калядзенка, 1935 г.н., з в. Пірэвічы Жлобінскага р-на: "Бусел – святая істота. Хто ўб'е яго – саграшыць". Агульнапрынятым у беларускай міфалагічнай традыцыі з'яўляецца меркаванне аб тым, што з гняздом бусла звязана шчасце чалавека: "Усягда гаварылі, гдзе гняздо бусла, там шчасце будзе". Па дзеяннях бусла імкнуліся прадказаць, якім будзе год: "Еслі бусел выкіне з гнязда яйцо – будзе ўраджайны год, а калі пцянца – галодны" (запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.).

Паводле ўяўленняў В.П. Балянковай, 1927 г.н., з в. Скепня Жлобінскага р-на, "бусел – птушка ад Бога. Бог прыслаў яе к людзям, бо яна прыносіць шчасце, любоў і дабро". Пераканаы ў тым, што бусел – "божая пціца", і жыхары в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на. Боскасць гэтай птушкі звязваюць найперш з тым, што бусел "памагае ім, аберагае, як той Бог, тожа аберагае людзей" (запісана ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.).

Забарону шкодзіць гэтай птушцы звязвалі ў народзе з тым, што буслы "могуць скінуць галавешку на хату ці пуню – і згарыць усё гарам" (запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.).

Убачыць бусла ў палёце – гэта значыць, сімвалічна быць здаровым: "Калі першы раз вясною ўбачыш бусла, які ляціць, то будзеш увесь год здаровы, а калі стаіць – хворы" (запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.); "По буську можна прыкмячаць, будзеш у гэтом году болець ці не. Ек угледзіш раз, што вон ляціць – добрэ, ня будзеш балець. Стоіць або ходзіць по зямле – плохо, будзеш болець, особенно ногі" (запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.).

Як адзначыла Л.М. Маскалёва, 1939 г.н., з г. Бабруйск Магілёўскай вобл., бусел – "сімвал шчасця. Яго нельга крыўдзіць". Шчасце, паводле народных вераванняў, нават звязвалі з магчымасцю ўбачыць бусла: "Убачыш бусла – шчасце табе будзе вялікае, год будзе добры, ураджайны".

З дзеяннямі бусла звязвалі і прадказанні надвор'я: "Яшчэ ў буська путалі пагоду, казалі: "Бусько, бусько, кінь колоду на дождж ці на погоду. І глядзелі. Еслі вон ля-

ціць і махае крыламі, будзе дождж, а еслі не махае, будзе погода" (запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.). "Разуменне бусла як апекуна і распарадчыка ўраджаем і дабрабытам, як істоты, што "прыносіць" дзяцей, сцвярджае натуральнасць яго знаходжання сярод гурту калядоўшчыкаў" [3, с. 52-53]. Невыпадкова важнай зааморфнай маскай у абрадзе калядавання ў некаторых мясцовасцях Гомельшчыны была маска бусла.

Варона, "паводле народнай класіфікацыі, належыць да "нячыстых", нешанаваных і несцеражоных птушак" [3, с. 69]. Паводле народных уяўленняў, варона – "небажэственная пціца" (запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.). Карканне вароны прагназавала хваробу, дождж, смерць: "Варона каркае і лётае каля дома – на смерць" (запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.); "Варона каркае на дождж" (запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Душкевіч Любові Іванаўны, 1936 г.н.); "Варона каркае на дождж і на хваробу" (запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.).

Варону лічылі "цёмнай пціцай, пціцай няшчасця, смерці" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.). У некаторых мясцовасцях, паводле сведчанняў інфарматараў, варона сваім карканнем "предвешчае бяду, мо, які пажар, кражу, ну, штосьці нядобрае" (запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.). Асцерагаліся, калі варона прылятала на падвор'е. Лічылася, што ў такім выпадку трэба чакаць дрэнных навін.

"Зязюля, птушка з роду cuculus, незвычайнасць біялогіі якой (не робіць гнязда, не высіджавае яйкі, не корміць птушанят, трымаецца самотна, скрытна, гучна кукуе, у палёце нагадвае ястраба ды інш.) спарадзіла шмат паданняў, якія міфалагічным спосабам тлумачылі ўсе гэтыя асаблівасці яе незвычайным паходжаннем" [3, с. 199]. Прыведзены тэзіс пацвярджаецца звесткамі, запісанымі ад Марыі Герасімаўны Міpановіч, 1935 г.н., з в. Церуха Гомельскага р-на: "Зязюля – страшная пташка: гнязда не ўе, яйца не высіжвае, птушанят кідае і дажа з сваімі зязюлятамі не злучаецца".

Ад характару кукавання зязюлі залежаць многія з'явы, напрыклад, моцны мароз звязвалі з тым, што "кукушка кукуе на сухім дрэві" (запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.). Пры ўмове, калі ў чалавека, пачуўшага першы раз кукаванне зязюлі, ёсць у кішэні грошы, значыць, яны будуць увесь год: "Мне ў дзетстве дзед казаў, што еслі пачуеш кукаванне зязюлі ўпершыню і з грашамі будзеш, то будзеш імець іх цэлы год. Ну, і наабарот" (запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Міpановіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.). Асцерагаліся, калі "зязюля закукуе ў вочы чалавеку, лічылася, што той будзе цэлы год плакаць" (запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.).

Пра генезіс зязюлі распавядаюць шматлікія міфалагічныя аповеды. Паводле аднаго з іх, гэта пераўтвораная ў зязюлю жанчына, якая была пакарана за тое, што ўтапіла сваё дзіця: "Жыла даўно адна жанчына. Была яна цяжарная. Вот калі радзіла яна, то дзіця ўтапіла. Вярнулася дамоў і ўбачыла дзіця ў зеркалі. Спужалася яна, пажалела, што тое здзелала, і пачала плакаць. І па начах так плакала. Тады і ператварыў Бог тую жанчыну ў зязюлю. І зараз аплаквае зязюля сваё дзіця" (запісана ў в. Саўгаснае Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.). Паводле ўспамінаў Н.А. Кісель, 1932 г.н. з в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на "кукушка – гэта жэншчы-

на, якую Бог прэўраціў за тое, што яна кінула сваіх дзяцей. От яна і гукае". З кукаваннем зязюлі звязвалі адказ на пытанне, колькі гадоў жыцця адводзілася чалавеку: "Усе знаюць, што зязюля прадказвае, каму скока жыць, трэба счытаць яе кукаванне" (запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Міранові Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.).

"У міфа-паэтычнай мадэлі свету пчала стасуецца з сярэдзінай Сусветнага дрэва" [3, с. 400]. Пчала, паводле народных уяўленняў, – "бажэственнае насекомае", невыпадкова, як сведчаць жыхары в. Гарывада Рэчыцкага р-на "дзе пчолы жывуць, там добры чалавек жыве" (запісана ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.). На пытанне, чаму пчала памірае, калі жаліць чалавека, у в. Іванаўка Гомельскага р-на адказалі так: "Бог здзелаў пчалу, каб яна памагала людзям, а яна стала іх жаліць. Таму Бог і сказаў, што кожны раз, як будзе яна прыносіць чалавеку боль, то будзе паміраць" (запісана ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.). Зыходзячы са сведчанняў жыхароў Гомельшчыны і Магілёўшчыны, пчала памірае, бо пакідае ў целе чалавека сваё жала, якое асэнсоўваецца як жыццёва важны пачатак: "У жале жыццё пчалы" (запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.); "Пчала памірае таму, што пры ўкусе яна пакідае сваё жала, і жала для яе – гэта жыццё" (запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.); "Калі пчала жаліць чалавека, то жала яе ў целе застаецца, а без яго пчала жыць не можа, вот і памірае яна" (запісана ў в. Саўгаснае Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.); "Калі пчала жаліць, то памірае, бо астаўляе ў целе сваё дыханне" (запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.); "Жала для пчалы – гэта жыццё, як для чалавека сэрца. Калі яна жаліць, то пакідае жала і памірае" (запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл. ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.).

Жыхары в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на выказалі меркаванне, што пчала памірае, калі жаліць грэшнага чалавека: "Ён грэшны, вот і памірае тады пчала, кагда ўжаліць гэтага чалавека, ад яго грахоў" (запісана ад Паплаўнай Лідзіі Мікалаеўны, 1951 г.н.).

1. Пяткевіч, Ч. Рэчыцкае Палессе / Ч. Пяткевіч; уклад., прадм. У. Васілевіча; пер. з пол. Л. Салавей і У. Васілевіча – Мн. : Беларускі кнігабор, 2004. – 672 с.

2. Славянская мифология. Энциклопедический словарь. – М. : Эллис Лак, 1995. – 416 с.

3. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – 2-ое выд; дап. – Мн. : Беларусь, 2006. – 599 с.

## *Міфалогія птушак і жывёл*

### *Бусел*

Чорныя буслы ў дзярэўнях не селяцца, толькі ў лясу, штоб іх ніхто не бачыў. Ім не паложана каля людзей жыць. А белыя ж – толькі возлі людзей, на зданіі, на сарайку ілі на доме яны абізацельна гніздо саўюць. У той дом і молнія не пападзе. І када дзелае кубло, нанясе яічак, яны нясуць па 2 ці па 4. І ён чуствуя, што галодны год будзе, засушлівы, дык ён іх паскідае: ці дзіцятка, ці яечка скіне.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Алешкі Мікалая Нікіфаравіча, 1940 г.н.,***
***Алешка Ганны Трафімаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Анашкінай Н., Тараненка А. (2004 г.)***

Калісь, калі Бог зрабіў чалавека і звяроў, развяліся і гады. Дый так напладзіліся, што рады няма. Ой-я! Сабраў Бог усю ентую нечысць, сабраў у мяшок і папрасіў чалавека патрымаць. А яму ж цікава, што тамака, зірнуў жа, а яны-та і павылазілі. Разазліўся Бог дый сказаў: “Век табе хадзіць па свеце і збіраць ентых гадаў, пакуль усіх не сабярэш”. Так той і стаў буслом і ходзіць ён па балотах і збірае тых жаб і палонікаў.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Бусел – святая істота. Хто ўб’е яго, то саграшыць. Усягда гаварылі, гдзе гняздо бусла, там шчасце будзе. А яшчэ гадалі так: еслі бусел выкіне з гнязда яйцо, будзе ўраджайны год, а калі пцянца выкіне, то галодны.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Бусел – птушка ад Бога. Бог прыслаў яе к людзям, бо яна прыносіць шчасце, любоў і дабро.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Калі бусел парыць у небе – к пагодзе.

Калі маша крыламі – к непагодзе.

Калі зробіш зло буслу, то ён можа і хату спаліць. Ён можа прынесці адкуль-небудзь галавешку.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Бусел – сімвал дзетанараджэнія. Калі бусел здзелаў гнездо каля дома, то будзе ў доме дабрабыт і ўют. Гэта ў асноўным белыя буслы. Есць і чорныя буслы. Існуе легенда пра іх. Калісьці буслы пасяліліся на хаце аднаго чалавека. Але ён павыбрасываў з гнязда аісцянят. Каб расплаціцца за гэта, аісты запалілі сваё гняздо, а разам з ім запы-

лала і хата губіцеля. І людзі ўвідзелі в небе: крылья аістаў атлівалі не белым, а чорным. І пагэтаму чорныя аісты навсегда ўлецелі ад людзей у лес. Кажуць, што жыць з людзьмі пціцы зноў змаглі б, калі б на зямлі ісчэзлі зло, зладзеі.

***Запісана ў в. Уборак Лоеўскага р-на***
***ад Бярнацкай Валянціны Мікалаеўны, 1953 г.н.,***
***студэнткай Грыб М. (2006 г.)***

Калі першы раз вясною ўбачыш бусла, які ляціць, то будзеш увесь год здаровы, а калі стаіць – хворы.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Бусел – божая пціца, чаму і селіцца радам з людзьмі, памагае ім, аберагае, як той Бог, тожа аберагае людзей.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Убачыш бусла – шчасце табе будзе вялікае, год будзе добры, ураджайны.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Гэта хораша, калі буслы каля хаты. Гэтаму чалавеку і ягонай сям'і будзе ўсё ладна. Але ж калі людзі нашкодзяць буслам – чакай бяды. Нельга збіваць іхнія гнёзды, буслянят малых выкідваць з іх, забіваць, бо тады яны бяду прынясуць. Могуць кінуць галавешку на хату ці пуню і згарыць усё гарам. Калі не рабіць ім шкоды, дык будуць яны вяртацца кожны раз да цябе.

***Запісана ў в. Краснаўка Светлагорскага р-на***
***ад Паўлаўцовай Людмілы Уладзіміраўны, 1950 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Вялікі Усцюг Расійскай Федэрацыі),***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Поселіцца бусел коло хаты – будзе шчасце. По буську можна прыкмячаць, будзеш у гэтом году болець ці не. Ек угледзіш раз, шо вон ляціць, – гэта добрэ, ня будзеш болець. Стоіць або ходзіць по зямле – плохо, будзеш болець, особенно ногі. Яшчэ ў буська путалі погоду, казалі: "Бусько, бусько, кінь колоду, на дождж ці на погоду". І глядзелі. Еслі вон ляціць і махае крыламі, будзе дождж, а еслі не махае, будзе погода.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Бусел – гэта да шчасця. Яго нельга крыўдзіць.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Белы аіст, ён з'яўляецца веснікам вясны ў том, што наступіў землядзельчаскі перыяд, патрэбна заняцца агародамі. Калі ж яны ўлеталі, еслі ўвідзіш першага аіста, патрэбна сказаць: "На ціха лета, на буяна жыта, а нам на добрае здароўе", узяць завязаць

узялок на поясе, гэта будзе хораша ад ліхарадкі.

Хто першы ўбачыць аіста, той павінен замерці на месцы, потым узяць з-пад правай нагі кусочак зямлі і бросіць у вядро з вадой. Гэтай вадой следует брызгаць сваіх жывёл, дом, радню, і тады не будуць вадзіцца блохі.

Хто хоча быць здаравенькім цэлы год, той должэн прабежаці ў сторану аіста, калі ўбачыш яго первы раз вясною.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Маскоўчанка Алены Фёдараёны, 1929 г.н.,***
***(прыехала з в. Ікрыскаўшчына Белапольскага р-на***
***Сумскай вобл., Украіна),***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Еслі аіст на крышы гняздо звіў, то доўга і шчасліва жыць будзеш.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Бусел – добрая, божая пціца. Калі першы раз чалавек бачыць бусла, які высока ляціць, тады ўвесь год чалавеку будзе добра ва ўсём. А калі бачыш яго, што ляціць нізка, то будзе плоха гэтаму чалавеку, ён будзе сільна балець.

Калі бусел гняздзіцца на хаце, значыць, гэтай сям'і будзе ўсю дарогу добра.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Бусел – прыгожая птушка. Яе нельзя абіжаць. Бог можа пакараць за гэта. Нельзя разрушаць іх гнёзды, а наадварот, трэба памагаць ім у пастройкі гнязда. Людзі зацягваюць старое калясо на крышу хаты або на стоўб. Бусел тады сам робіць гняздо.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Лаўшук Марыі Якаўлеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Адзін раз Бог сабраў усіх гадаў: змей, жаб, жукоў у мех і загадаў чалавеку занесці гэты мех на самую высокую гору, але не развязваць той мех. Ды чалавек не выдзержаў і развязаў яго. Усе гады распаўзліся па зямлі. За гэта Бог ператварыў таго чалавека ў бусла і загадаў збіраць тых гадаў. Ось і ходзіць бусел па балоту і збірае жаб і змей. А болей я нічога не ведаю.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Кажуць, жанчына хадзіла па балоце і сабірала лягушак. І вот ён хадзіў і паеў іх. Яна яго прагнала і сказала, каб ён ўсю жысць хадзіў і сабіраў гэтыя лягушкі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Бусел – птушка, якая прыносіць шчасце, спрыяе сямейнаму дабрабыту і дзетанараджэнню. Верылі, што шчасце будзе садзейнічаць тым, на чыім падвор'і бусел зрабіў гняздо. Бог ператварыў чалавека ў бусла за тое, што ён не выканаў Божага загаду.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Бусел чалавекам быў. І Гасподзь сабраў ўсіх гадзюк, усякую гадасць у мех і сказаў, каб ён кінуў усё гэта ў рэчку. А ён нёс, нёс, і яму стала інцярэсна, што ў мяху, ён паглядзеў, а яны ўсе павылазілі. І Бог сказаў, што яму ўвесь век лятаць і ўсё гэта збіраць.

***Запісана ў в. Балотня Рагачоўскага р-на***
***ад Бужан Марыі Аляксандраўны, 1938 г.,***
***студэнткамі Бужан А., Гарбачовай М. (2002 г.)***

Кагда Бог хадзіў па зямле, то ён сабраў усю гадасць у мех і чалавеку сказаў караўліць. Чалавек развязаў мех і выпусціў гадасць. Бог убачыў ета і здзелаў яго буслом, штоб ён пасабіраў ету гадасць. Вось ён да сіх пор і сабірае. Бусел – харошая пціца. Ён нікагда людзям не шкодзіць, і яго не нада абіжаць.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Бусел – гэта чалавек. Бог сабраў жаб, вужоў – усё ў мяшок. Даў чалавеку, каб занёс у прорву. Рассыпаўся мяшок. Тады Бог праўраціў чалавека ў бусла за ета.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Матка пакойная казала, што як шчэ хадзіў Бог па зямле, то сабраў ён у мяшок вужоў, гадзюк, жаб і даў тэй мяшок чалавеку, каб тэй выкінуў. А чалавек еты адышоў і адкрыў мех. І вот усе адтуль павылазілі. Тэй чалавек не ўспеў пазбіраць іх. І здзелаўся ён буслом. Дажа шчас ходзя і збірае па балотах. Шчэ кажуць, што бусел дзяцей прынося.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

Калі аіст злятае з гнязда, гаварылі, што ў гэтай хаце будзе пажар.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл.***
***ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

Святая пціца. Злыя духі прэврацілі чалавека ў пціцу, прыносіт людзям дабро.

Но еслі аісты ўлятают, пакідают гняздо, будзет плоха.

Перад вайной асобенна ані ўлетают. У нас у дзярэўні было гняздо аіста. Перад вайной ані ўляцелі, і гняздо разарылі.

У дом радам з гняздом папал снарад – і дом згарел.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## *Варона*

Варона каркае і лётае каля дома на смерць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***

***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***ад Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Раз Бог сказаў звярам і птушкам пачысціць зямлю, бо была яна ў брудзе. Некаторыя вельмі добра рабілі, а другія толькі і шкодзілі. Бог паглядзеў на труды тыя і кожнаму пачэсна адплаціў. Тыя, хто добра рабілі, сталі прыгожыя, бялюткія-бялюткія, а тыя, хто шкоду рабілі, ці то рабымі, ці то зусім чорнымі і бруднымі. Сарока – рабая сталася, варона – зусім чорная, бо не рабіла.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Варона каркае на дождж.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любы Іванаўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Варона каркае і на дождж, і на хваробу.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Варона – тожэ птушка, якая прыносе плахія весці. Еслі яна крычыць, сідзя на хаце, то скора нехта памрэ.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міраловіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на)***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Калі ляціць варона і каркае, то будзе дождж.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Варона каркае – абавязкова будзе бяда.

Калі вечарам вароны пачынаюць метацца ўверх і ўніз, ноччу будзе завея.

Калі варона пpыляціць да цябе на двор, то значыцца, што-небудзь здарыцца ці трэба чакаць дрэнных навін. Калі варона прылятае да майго двара, я заўсёды кажу: “Ляці адсюль. Хай табе будзе тое, што ты мне нясеш”.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Я знаю, што варона ўсягда каркае к бядзе.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Багачовай Веры Паўлаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Варона – цёмная пціца, пціца няшчасця, смерці. Калі сварацца, кажуць: “Каб над табой вараняко закаркало!” Калі варона прыляцела і каркае ў цябе ў двары – к го-

ру, к няшчасцю.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

nВарона – не бажэственная пціца. Бажэственныя – бусел, голуб, лебедзь. Яна – хвастунья. Сваім карканьем предвешчае бяду, мо, які пажар, кражу, ну, штосьці недобрае.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Калі варона каркае, то гэта абзначае, што хоча папярэдзіць або паведаміць якую-небудзь навіну.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Варона каркае, таму што прадвяшчае штосьці.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Белакаваленка Уладзіславы Антонаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Агапітавай В., Лынеўскай Т. (2000 г.)***

Варона каркае, кагда хоча нешта сказаць чалавеку. Раньша варона тожа пела, а патом правінілася перад Богам: яна “путала” людзей і ён (Бог) адабраў у яе песню.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

## *Верабей*

Верабей – ента праклятая пціца. Трэба гнаць яе ад свайго дома. А праклятая яна таму, што яны насілі гвоздзі ў урэмя распяція Хрыста.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Калі сініца ці верабей няспынна клюе ў вакно, значыць, што яны нам нешта кажуць.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Калі вераб’і чырыкаюць – будзе цяпло.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Калі верабей пастучыць у вакно, значыць, чакай дурнога ізвесція.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Верабей – гэта праклятая птушка, таму што сваім цырканнем ён выдаў Хрыста.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Вераб'і як тыя жыды. Усе ў кучы. Усе адзін за аднаго б'юцца.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Воўк

Пайшлі бацька з сынам сена грэбці. Нагрэблі капу няпоўную шчэ, і палез сын на капу, каб браць сена ад бацькі і класці высока. А сын еты работаць не хацеў. Бацька яму штось гаварыць пачаў, а сын пачаў уверсе выць ваўком. Работаць жа не хацеў. Бацька кажа: "Ах ты, сукін сын, я табе сена падаваў, а ты яго не браў. Хай з цябе пасмяюцца людзі".

Злез са стага сын тады і пачаў бегаць ваўком. Тады пазней прыходзіў прасіцца к бацьку. А бацька яго не прасціў.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Галка

Калі галкі збіраюцца ў кучу, то абавязкова трэба чакаць цяпла.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

## Гарнастай

Гарнастай ганяе карову. Белы, быстры такі. Тады карова становіцца мокрая.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Дзяцел

Когда дзяцел долбае дзераво, трэба прыкмячаць: злева – к погодзі, справа – до сваркі, ззаду – до болезні, спераду – к везенію.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Аднойчы, у свята, батракі пайшлі ў лес, каб зрабіць борць для пчол. Залезлі на хвою і пачалі дзяўбці яе. Бог убачыў гэта і кажа: "Дзяўбіце ўвесь час". І ператварыў іх у птушку-дзятла.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

## Зязюля

Кукушка кукуе на сухім дрэве – будзе мароз.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Жыла даўно адна жанчына. Была яна цяжарная. Вот калі радзіла яна, то дзіця ўтапіла. Вярнулася дамоў і ўбачыла дзіця ў зеркалі. Спужалася яна, пажалела, што так здзелала, і пачала плакаць. І па начах так плакала. Тады і ператварыў Бог тую жанчыну ў зязюлю. І зараз аплаквае зязюля сваё дзіця.

Шчэ кажуць, што зязюлямі становяцца жэншчыны з нешчаслівай судзьбой.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Зязюля – гэта дзеўка была. Занадта ж хлопца аднаго кахала. Ажаніліся, дзетак нарабілі. Дый матка яе не прыняла мужа дачкі. Пашла да вядзьмаркі дый зрабіла так, каб ён у гада абярнуўся. Дзеўка доўга галасіла, а потым здзелалася яна зязюляй шэрай. Кінула дзетак сваіх і паляцела незнама куды. Такі носіцца, а дзетак сваіх другім падкідвае.

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

В лесу спрашивали:

– Кукушка, кукушка, сколько мне жизни осталось?

А потом считать надо.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.),***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Усе знаюць, што зязюля падсказвае, каму скока жыць, трэба счытаць яе кукаванне. Зязюля – странная пташка: гнязда не ўе, яйца не высіжвае, птушанят кідае і дажа не з сваімі зязюлянятамі злучаецца. Кажуць, што сарока прыносе добрыя навасці, а зязюля дык наабарот, плахія, пра балезнь, смерць. Мне ў дзетстве дзед казаў, што еслі пачуеш кукаванне зязюлі ўпершыню і з грашамі будзеш, то будзеш імець іх увесь год. Ну, і наабарот. А мне ніколі не даводзілася чуць кукаванне, на жаль.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міравіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Зязюля прадбача, колькі гадоў мы пражывем. Трэба лічыць, сколькі разоў яна пракукуе.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Гэтая пцічка (зязюля) гады нашыя лічыць. Сколькі пажыць пасужана, кажа.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Кукушка – гэта жэншчына, якую Бог прэўраціў за тое, што яна кінула сваіх дзяцей. От яна і гукае іх.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі зязюля закуе ў вочы чалавеку, той будзе цэлы год плакаць.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Калі зязюля закукуе на голы лес, то той год для злодзеяў будзе няшчасным.

Зязюля кукуе першы раз тады, як у царкве запаюць "Хрыстос васкрос".

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Зязюля – гэта птушка, якая калісь была чалавекам, які прадвяшчаў, колькі яшчэ чалавеку асталось жыць на гэтым свеце.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Лаўшук Марыі Якаўлеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Зязюля – птушка-прадсказальніца, сімвал адзіноцтва, няшчаснай жаночай долі. Зязюля – гэта дзяўчына, якая выйшла замуж за вужа, у згодзе з ім жыла 5 год, у іх нарадзілася 3 дзяцей. Потым дзяўчына паехала наведаць маці, а злыя людзі забілі вужа. Дзяўчына прыехала і не дашукалася, да й стала зязюляй.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхайлаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Зязюля – змененая дзеўка. Быў жаніх Якуб. Кінуў. Цяпер яна лётае і крычыць: "Якуб! Якуб!" А чуецца: "Ку-ку! Ку-ку!" Яйцо ёй нада знясці. Няма кубла. У чужым кубле родзіцца малая зязюлька. Зязюля – харошая пцічка. Шкоды не дзелае. Гукае жаніха толькі.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Лясная пціца. Сколька раз пракукуе, столька год жыць асталося.

Када ўслышыш першы раз кукаванне кукушкі, нада патрасці ў кармане дзеньгі, штоб была многа дзенег.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

Зязюля – праклятая дачка мацеры: "Ляці і кукуй, не прылятай". Кукушка кукавала да Купалы (7-га), а 12 – Пятро. Так дадзена Богам. А салавей пеў да Тройцы.

***Запісана ў в. Прыбар Гомельскага р-на***

***ад Дамадзелавай Галіны Раманаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Герасіменка В., Майсеевай С., Цярэнцьевай І. (2002 г.)***

Вот, што расказвала мая матка. Жыла даўно адна жанчына. Была яна бярэменная ад граха. І вот, калі нарадзіла яна, то дзіцятка ета ўтапіла. А як дамоў вярнулася, то ўбачыла дзіця ў зеркалі. Спугалася яна, пажалела, што так зрабіла, і начала плакаць. І па начах так плакала. Тады і ператварыў Бог тую жанчыну ў зязюлю. І шчэ й шчас аплаквае зязюля сваё дзіця. Шчэ кажуць, што зязюлямі становяцца жэншчыны з нешчаслівай судзьбой ці дзеўка, якую матка пракляла.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

## *Жураўлі*

Калі ўранку крычаць – будзе дождж.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Калі ўвідаў журавіну, патрэбна, не сходя з месца, узяць рукамі кавалак зямлі і гэтую зямельку сеяць разам з просам. Гэта для добрага ўражаю. Колькі ўбачыш журавоў і сашчытаеш іх, то столькі будзе кілаграмаў пшаніцы ў цябе.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Маскоўчанка Алены Фёдараёны, 1929 г.н.***
***(прыехала з в. Ікрыскаўшчына Белапольскага р-на Сумскай вобл., Украіна),***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

## *Карова*

Як карова ацеліцца, нічога не пазычалі.

Калі ў першы дзень Каляд прыдзе жанчына, то карова цёлкай ацеліцца, а калі мужчына – быком.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## *Кнігаўка*

У яе (кнігаўкі) чубок ё. Калі кнігаўка бяжыць і чубок прыстаў к галаве – к дажджу. Калі чубок стаіць – к пагодзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## *Кот*

Калі чорны кот дарогу пяройдзе, дык, кажуць, за пугавіцу трэба хватацца. А яшчэ, калі рыжы кот, то таксама плоха.

***Запісана ў в. Акцябр Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Шкляровай Ніны Іванаўны, 1937 г.н.,***
***Шклярова Яўгена Іванавіча, 1934 г.н.,***
***студэнткай Маскаленка Ю. (2004 г.)***

## *Куры*

Калі хатняя птушка ашчыпваецца, то будзе дождж.

Куры і вераб'і купаюцца ў пылі – дрэннае надвор'е.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н., студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Куры шчыплюцца (сама сабе дзюбкай па пёрам) – к дажджу.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## *Ластаўка*

Ластаўка ў хату заляцела – да няшчасця.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н (раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на), студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Ластаўка лятае высока – пагода, нізка – к непагодзе.

Нельга ў ластаўкі пцянца браць, разараць гняздо, бо будзеш канапатым, як яечкі ў ластаўкі. Яечкі з кропелькамі ў ластаўкі.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Ластавак нельзя крыўдзіць, бо ета світая пцічка.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н., студэнткай Лукашовай А.***

## *Мышы*

Еслі мышы ўбягают з дома, будзет навадненне ілі пажар.

***Запісана ў г. Гомель ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## *Мядзведзь*

Я чула, што мядзведзь – ета ператвораны чалавек, які крэпка мёд любіў і краў яго ў суседзяў. Адзін раз залез ён у чужы вулей, а тэй чалавек калдуном быў, вот і пératварыў ён етага чалавека ў мядзведзя. Дай жа цяпер мядзведзь мёд любя.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н., студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

## *Павук*

Убачыць павука – к добрым навасцям.

***Запісана ў Асіповіцкім р-не Мінскай вобл. ад Чаропка Надзеі Андрэеўны, 1938 г.н.,***

***студэнткай Юшчанка К. (2010 г.)***

## Певень

Калі на Благавешчанне певень зможа папіць са страхі вады – будзе вельмі цёплая вясна.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Калі певень кырхае і стаіць на адной назе – будзе холадна.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Еслі певень пяе цот разоў, то мароз будзе, а летам – пагода. Еслі певень пяе лішка – дождж будзе, ламацца будзе пагода.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Пчолы

Еслі пчол знішчаць – вялікі грэх. Пчала – божая труждніца.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Калі пчала жаліць чалавека, то жала яе ў целе астаецца, а без яго пчала жыць не можа. Вот і памірае яна.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

## Сабака

Сабака – добры друг чалавеку. Еслі хазяін параніць нагу, дык сабака можа рану тую залізаць. Можа і свайго ўкусіць.

Еслі сабака вые ўгару – будзе пажар, еслі ўніз – смерць.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Сава

Сава – ета чортаў служка. Яна днём спіць, а ноччу людзей пужае, каб не мяшалі нячыстай сіле. Калі сава гукае каля хаты, нехта скора памрэ.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Сава лётае – дзеўка родзіць.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***

***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Сава – якая-та странная птушка. Яна, як і зязюля, прынося вельмі плахія навасці.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранові Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Раней казалі, што калі ноччу сава крычыць, то абавязкова нехта памрэ.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Еслі сава села коло хаты на вокно або на дзераві, то гэто к покойніку. Яе трэба проганяць, не даваць садзіцца.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Калі над хатай лятае ды крычыць сава, то кажуць, што там маладзіца зачаравацела.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Сава – птушка чорта. Яна стараецца запужаць людзей, наводзіць страх на іх, пціца ночы.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Сава – чортава птушка, пужае людзей, не спіць па начам, чым-та напамінае ведзьму.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Сава з чортам звязана. Яна памагае яму. Ён яе, наверна, і сатварыў.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Еслі ў лесе бываеш, ты будзеш гаварыць – яна тожа будзе гаварыць, плакаць будзеш – яна тожа будзе плакаць з табой.

Сава, як дзіця, крычыць.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Сава – ета чортаў служка. Яна днём спіць, а ноччу людзей пугае, каб не мяшалі нячыстай сіле. Кажуць, што калі сава гукае возлі хаты, то нехта памрэ скора.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данчанка Ю. (2004 г.)***

## *Салавей*

Калі пасяліўся салавейка ў цябе ў садзе, то к дабру. Ён шчасця зазывальнік.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н., студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі ляціць салавей уверх – к пагодзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Еслі кукуе зязюля ці салавей крычыць, дык гэта плахіе весці перадаюць.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н., студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Зязюля дружа з салаўём. Салавей пяе, а зязюля яму падкідае яечкі, а сама не садзіцца. Салавей і зязюля на Пасху пяюць. Зязюля пяе да Пятра і ўсех пціц ганяе, а пасля Пятра ўжо яе ганяюць.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н., студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Эта святая пціца. Несёт толька адно яйцо. Еслі завёлся ва дварэ – к харошаму, к прыбылі, а еслі ўлецел – к убытку.

***Запісана ў г. Гомель ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н., студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## *Сарока*

Сарока прыносіць навасці. Калі пабачу сароку, дык гавару: “Сарока, сарока, харошую навасць мне дай, а дрэнную – на хвасце нясі”.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Душкевіч Любы Іванаўны, 1936 г.н. (раней пражывала ў в. Чараты Буда-Кашалёўскага р-на), студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Сарока прыносіць весткі плахія.
Сарока, сарока,
Харошае, дык стракачы,
А калі плахое,
На хвасце завяжы ды сваім дзецям занясі.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н, (раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на), студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Сарока прынясе нам весці. Так, калі сарока будзе шчабятаць каля хаты (на заборы, крышы), там скора будуць госці ці свадзьба. А калі ў хаце ё бальны, то ён хутка выздаравее. А яшчэ забітую сароку вешалі ў хлеў, каб пазбавіцца ад хлеўніка.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Сарока прыносіць усякія весткі, прэдупрэждае аб чым-та. Кажуць, Бог аднажды наказаў адну жанчыну, якая любіла красці ў людзей усё, што блішчыць. За гэта ён прэўраціў яе ў сароку.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Сарока шчабеча на навіны.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***ад Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Еслі сорока прыляцела і села на плоці ці на дзераві коло хаты, то трэба сказаць “Сорока, сорока, чого ты скрагечэш? Ек шо добрэ, то кажы, а шо плохее, то за собой нясі” і трэба прагнаць, бо яны новасці прыносяць плахіе.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

О! Сарока – гэта негадзяйка! Робіць усё дурное людзям. Яна ж памошчніца нячысціку. Чаго добрага можа прынесці ў двор налечанага і паддзеланага.

***Запісана ў г. Васілевічы Рэчыцкага р-на***
***ад Доўжык Аляксандры Захараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Лаўшук Н. (2008 г.)***

Сарока лётае адна. Прыляціць, стане сакатаць. Ты скажы ёй: “Зароша – сакачы, пагана – не хвасце нясі”. Еслі тады, калі скажаш, яна паляціць – плоха, еслі астанецца – добра.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Тацяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

Гаварыла мне ета шчэ мая бабка Варка. Так вот у шчэ даўнейшыя ўрэмена ў адном сяле ці, мо, у горадзе (ужэ не помню) жыла жэншчына. Жэншчына як жэншчына, ну, адным словам, такая, як і ўсе жэншчыны. А яны ж, знаеш, як любяць на ўсё паглядзець, ўсё патрогаць, абгаварыць, судзіць-перасудзіць. Ну, і вот як-та сабраліся етая жэншчына, саседкі, ну, усе, што радам жылі, ля калодца і ўжэ началі абсуждаць усё і гаварыць пра ўсіх. І эта жэншчына ўчула, што суседчый хазяін к удаве пахажвае. А эта ж, знаеш, усяго толькі ўчула, мо, яго, таго, і не было. Ну, вот ана і разнесла ету сплётню на вушы людзям, а яны яе наказалі, і так яна стала сарокай. Толькі як хоча што сказаць – не палучаецца, толькі што кар-кар.

***Запісана ў в. Пятровічы Светлагорскага р-на***
***ад Пузына Тацяны Пятроўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Дудко В. (2004 г.)***

Как вешчунья. Еслі сарока прыляцела і стракоча, будзет новасць.

Еслі плахая новасць, то хазяін должэн сказаць: “На харошае шчебечі, на плахое

ўсні". Еслі ана паляцела – значыць, плахая новасць.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Бандарэнка Зоі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Зюзьковай А. (2004 г.)***

## Сінічка

Калі сінічка прылятае і стукае дзюбкай у шыбку – будзе бяда.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## Цапля

Калі цапля стаіць на адной назе і схавала галаву пад крыло – к непагодзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## Філін

Еслі ён доўга крычыць у адным і тым жа месце, дык ета к смерці. Удзень ты яго не пабачыш і саву тожа ўдзень не пабачыш.

***Запісана ў в. Будка Рэчыцкага р-на***
***ад Белавус Таццяны Іванаўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Астапенка Г. (2004 г.)***

## Вавёрка

Калі вавёрка ліняе ад галавы да хваста, будзе гнілая зіма, а калі ад хваста да галавы – марозная.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

## Воўк

Калі воўк перабяжыць дарогу – добрая прыкмета.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі ваўкі выюць усёй стаей – к сільнаму марозу, пурзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Жылі аднойчы мужык з жонкай, але захварэлі і памерлі. Засталіся ў іх дзеткі малыя. Сірот ніхто не хацеў узяць да сабе. От Бог і зрабіў ваўка, каб той жывёлу краў. А каб захаваць жывёлу, людзі ўзялі ў пастухі сірот. Так сіроты былі і накормленыя, і адзетыя.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Воўк – носьбіт зла. Лічыўся пажыральнікам чарцей. Калі воўк нападаў на статак хатняй жывёлы, то пасля гэтага будзе ўдача.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н., студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

Воўк – ета сабака, што нашкодзіў людзям, і яны яго прагналі.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н., студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

Вельмі страшно, калі воўк прыходзіць пад тваю хату і пачынае выць, наверна, есці хоча. Гэта ператвораны д'ябал. Але гаварылі, калі ў хаце жыла сабака, якую не кармілі, білі дык яна ператвараецца ў таго самага воўка і прыходзіць да цябе кожну ноч. Убіць яго невазможна, выходзіш, а яго ўжо і няма. Але ж нельга яго ўбіць, калі так будзе, дык тады ў хаце хто-небудзь памрэ. Калі ён проста вое, не абязацельна пад хатай, то гаварылі, што, значыць, хтосьці ў лесе з нашага села заблудзіўся, а можа нават памёр або памрэ. У яго чорныя вочы, якія бліскуюць красным якімсьці светлом. Чорны ён і махнаты.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н., студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

## Вуж

Карову сасе вуж. Карова прывыкла. Убілі таго вужа. Так карова так рыкала, што ўбілі таго вужа, так, як па цяляці. Яна прывыкла, што ён абав'ецца вакруг нагі і сасе.

***Запісана ў в. Партызанская (раней Аўрамаўская) Хойніцкага р-на ад Сапковіч Лідзіі Канстанцінаўны, 1918 г.н., студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

Места пражывання ужа – вадаёмы, забалочаныя места. Выгляд у іх спецыфічны, розная акраска дает ім магчымасць зліваццa з зямлёю, з дрэвамі і нават з сонейкам. Гэта самы страшны вуж, якога назвалі мы сонечны змей. Калі ён зліваецца з сонцам, у яго са рта цячэ слюна, якую ён разбрасвае па траве і яна вельмі ядавітая. Таму пры пападанні хоць капелькі гэтай слюны, чалавек памрэ зразу. Такжа гаварылі, што вужы – гэта даждзевыя патокі, што льюцца з неба на зямлю і астаюцца на зямлі назаўсёды. Сярод вужэй есць і цар іх, яго луса пераліваецца серабром і золатам, ён (па размерах) большы, чым астальныя вужы, на галаве ў яго карона з малых залатых ражкоў. Змяіны цар, ён бальшы, сільны, горды. Яму нічаво не страшна на гэтым свеце, бо пад яго уладай знаходзяцца ўсе. Ён можа ператварыць чалавека ў звера, і дажа ўбіць яво.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на ад Данілавай Галіны Еўдакімаўны, 1927 г.н., студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

## Жаба

Жаб не трэба ўбіваць, бо будзе дождж.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н., студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Калі жабу задавіць – к дажджу.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## *Заяц*

А во еслі зайчык перабяжыць – дык наадварот, нада баяцца, бо бяда будзе.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі заяц зімой ходзіць па полю – к пагодзе, а калі хаваецца ў снег – будзе пурга.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Заяц – звярок няўдачлівы. Еслі вы сабраліся ў дарогу і ўстрэлі зайца, то лучшэ вярніцеся. А еслі пры стройкі дома ён паявіцца, то дом, кажуць, згарыць. Во, як яно бывае, а можа, гэта і няпраўда.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранові́ч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Калі заяц перабяжыць дарогу, то будзе ўдача.

Калі ў першую парошу багата слядоў зайца, то выпадзе снег і будзе цяпло.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Заяц – істота нячыстая. Ён састаіць з розных частак. Вушы адны, вочы, як у ката, лапы, як у сабакі. Кажуць, зайца трэба баяцца, бо ён прыносіць зло.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі заяц перабяжыць дарогу, то гэта ліхі знак.

Калі заяц забягаў у вёску, то праз нейкі час будзе пажар.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Заяц – жывёла, звязаная з нячыстай сілай, бядой, хваробай і смерцю. Сустрэча з зайцам прадвяшчае бяду, няўдачу. Сон аб зайцу прадвяшчае жаніцьбу.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

## *Каза*

Здзелаў Бог многа жывёл, красівых, добрых. Убачыў гэта чорт і тожа захацеў сваю жывёлу здзелаць, але не атрымлівалася ў яго нічога. Таму раззлаваўся ён і кінуў сваю работу. А каза і да гэтага часу напамінае чорта сваімі рагамі.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н., студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Чорная каза – гэта тожэ плахое жывотнае. Што кошка, што каза – гэта роўнае. Калі ўжо каза ёсць, жыве ў гаспадара, то будзе неблагапрыятнасць нейкая.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на ад Міранові Марыі Герасімаўны, 1935 г.н. (раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на), студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

## Карова

Калі карова пазірае ўверх і нюхае паветра – к дажджу.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Калі кароў гоняць у поле, то нельга пераходзіць ім дарогу, асабліва з пустым вядром. Плоха будзе карове.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

## Конь

Калі конь качаецца – к пагодзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н., студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Конь – гэта святая жывёла. Бог даў каня чалавеку ў дапамогу, каб яму лягчэй было работаць.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н., студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Ён заўсёды быў добрым памочнікам чалавека. Успахваў зямлю, дапамагаў пры перавозкі чаго-нібудзь. Ён вельмі ласкавы. Але ж калі з канём плоха абходзіцца, то ён можа ўбіць сваяго хазяіна. Калі расчэсвалі грыву каня, то гэта лічылася так, што буде шмат грошай у хаце. Шчэ гаварылі, што калі знойдзеш у сваёй хаце волас з конскага хваста, то захварэеш і можаш паміраць. Гаварылі, што конь можа разгаварваць, ён – вельмі добры слухач. Калі на душы дрэнна, то зайдзі да сваяго каня і ён табе дапаможа. А яшчэ рабілі так, калі ў табе няшчасце падыдзі да правага вуха каня, а яно выляціць, гэта няшчасце, праз левае, і ўсё будзе добра. Вось такая гэта жывёла.

***Запісана ў в. Цагельня Гомельскага р-на ад Гарэлікавай Надзеі Пятроўны, 1934 г.н. (прыехала з в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на), студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Калі конь па полі бегае, то дальняя дарога чакае.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

Конь – верны і надзейны памошчнік чалавека, увасабленне сілы, надзейнасці і дабрабыту. Існуе звычай – маленькага хлопчыка стрыглі і садзілі на каня. Гэта падрыхтаванне да прыналежнасці да мужчыны.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Жогаль Арыны Міхаўны, 1910 г.н.,***
***студэнткай Мацкевіч А. (2000 г.)***

## *Кот*

Кот мыецца да гасцей. У які бок глядзіць яго пыска, адтуль і чакай гасцей.

Калі ж кот перабягае дарогу, дык я завязваю вузельчык на хустцы і іду дальш.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Калі кошка пайшла з хаты, дзе хворы чалавек, значыць, ён хутка памрэ.

Калі кошка скруцілася клубком – гэта к марозу.

Кошка ляжыць на спіне – к цяплу.

Кошка мыецца – будуць госці.

Кошка дурэе – неспакой у сям'і.

Чорная кошка перабегла дарогу – к няшчасцю.

***Запісана ў г. Ветка***
***ад Максіменка Марыі Іванаўны, 1931 г.н.***

Кошка, гавораць, калі дарогу пяройдзе, гэта к дрэннаму. У нас існавала такая легенда, што чорныя каты – гэта плахія людзі ці ведзьмы. Ведзьмы перакінуліся ў чорных кошак, каб каму-небудзь здзелаць плахое.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міранов іч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Кот – ето вобшчэ адзін з самых уважаемых жывотных. Яго заўсёды шанавалі. Вот узяць бы хаця тое, шо ката пускалі первого ў нову хату. Казалі, шо кот можэ сільна помогаць людзям. Адны казалі, шо ката пускалі первого ў хату таго, шоб у хаце добрэ жылося, ні было пажараў, сварак. Другія казалі, шо як чалавек памірае, то его на том свеці первым устрэчае кот, то ён доўжэн і на етом свеці первым увайсці ў хату.

Таксамо каты, асобенно чорные, маглі лечыць розные хворобы. От як баліць яке место, то тэ место мажуць смятанай і даюць злізаць кату, тады казалі, шо чалавек абезацельна здаровым стане.

А шчэ кот добрэ помогаў уложыць спаць дзіця. Калі дзіця плакало, то да яго клалі ката, але барані, Божэ, чорнага, бо мог прынесці гора, клалі ката да ног і думалі,

шо калі кот мурлыкае, то дзіця перастае плакаць і засынае.

Катоў убіваць не можно, сільно велікі ето грэх. Сама бачыла і чула, шо адна жэншчына як потопіла катоў, то ў ее родзіліса немые дзеці. Ката трэба ўсегда оберэгаць.

***Запісана в. Скароднае Ельскага р-на***
***ад Патапенка Праскоўі Савельеўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Сінгаеўскай М. (2005 г.)***

Ката пускалі первага ў новую хату, калі пераязджалі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кандрацюк Раісы Мікалаеўны, 1941 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У. (2009 г.)***

У нас была жэншчына, якая прэўрашчалася ў ката і хадзіла па начах, рабіла ўсякае дрэннае.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У. (2009 г.)***

Калі кот хаваецца ў цяпло – будзе мароз. А вось я знаю яшчэ, што калі кошку пакладзеш на тое месца, што ў цябе баліць, становіцца лягчэй, а то і зусім перастае.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Балянковай Вольгі Паўлаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Кот дарогу перебежал – трэба обойці стараной, бо будзе няшчасце.

Куда несут воду і кошка дарогу перебежала – гэта плоха.

***Запісана ў в. Юшкі Калінкавіцкага р-на***
***ад Малько Тамары Іванаўны, 1936 г.н.***

Ёсць каты, якія паяўляюцца ў хаце самі па сабе. Такім катам верыць не нада, бо іх можа паслаць сама ведзьма, каб задушыў каго-небудзь. У нас было такое здарэнне. Адна жанчына пажалела ката бяздомнага і вельмі забалела. А еты кот ноччу, калі яна спала, лёг ёй на грудзі і перацяў дыхавіцу. Раннем жанкі прыйшлі паглядзець, як яна. А яна мёртвая ляжыць, а кот знік.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Елісеевай Ганны Нікіфараўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Обіжаць іх, катоў, ня можна, трэ всягда іх покорміць, бо воны вупросілі ў Бога хлеба. Раньшэ колос состояв із дванаццаці колосков. Бог зазлівса на чоловека і хоцев забрацъ у яго хлеб, але сабака і кот началі прасіць: “Остав жэ й нам”. І вот благадара коту і собацы, чоловек есць хлеб і гэто валікі грэх для чоловека – не покорміць собаку і кота.

***Запісана ў в. Вулька-2 Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Якубовіч Аляксандры Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Калі кот чорны перабяжыць дарогу, то плоха будзе. Нада ўзяцца за што-небудзь краснае.

Калі засяляешся ў хату, нада ўпускаць першага ката, бо ён чуствуе нячыстую сілу. Калі яна ёсць у доме, то кот уцячэ з хаты. Калі кот умываецца на пароге – будуць госці.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Ніны Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі кот качаецца па зямлі – к пагодзе.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Кот мыецца – ждзі гасцей.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Ёсць выраз: "Мы ядзім сабачы і каціны хлеб". А пайшоў ён вось адкуль.

Даўно калісь, калі ў людзей было шмат хлеба, былі добрыя ўраджаі, людзі перасталі цаніць гэта. Яны ламалі каласы жыта, не жалеючы аб гэтым. І Бог разазліўся. Ён паслаў на зямлю засуху. І ўсё пачало гінуць.

Але сабака і кот пачалі прасіць Бога, штоб ён змілаваўся. І Бог паслухаў іх. З таго часу людзі пачалі любіць катоў і сабак.

***Запісана ў в. Цярэшкавічы Гомельскага р-на***
***ад Еўтушэнка Лізаветы Германаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Драбышэўскай А. (2000 г.)***

Кот – гэта вельмі добрая жывёла. У кожнай хаце павінен жыць кот, бо ён аберагае ад нячыстай сілы. Вось толькі чорны кот – гэта дрэнна. Вядома, што калі чорны кот перабяжыць праз дарогу, тады буде няшчасце. А ўсе астальныя добрыя каты. Раней было так, што малых дяцей астаўлялі з катамі, якія маглі прыглядаць за малымі. Такжа каты расказвалі байкі нанач децям. Калі табе прысніўся кот – гэта з'яўленне новага добрага друга. Каты і добрыя лекары. Калі ў цябе штосьці баліць, то павінна палажыць ката на то месца і пройдзе боль. У яго і вельмі лячэбны язык, які залізвае крававыя раны. Па кату судзілі, як жыве сям'я. Калі кот пузаты, тады гэтая сям'я багатая і шчаслівая. А калі кот худы, то гэта сям'я бедная і, можа, б'юць гэтага ката. Калі ж біць ката, то ў хаце можа хтосьці памрэ. Таму трэба, штоб кот жыў у добрай сям'і. Ну, гэта было так раней., а зараз ён у кожнага. Таксама калі пераязжалі у новую хату, першага трэба ў хату пусціць ката, той прагоніць нячыстую сілу з гэтай хаты.

***Запісана ў в. Цагельня Гомельскага р-на***
***ад Гарэлікавай Надзеі Пятроўны, 1934 г.н.***
***(прыехала з в.Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на),***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Расскажу такую интересную историю, связанную с чёрным котом. У моей соседки был чёрный сиамский кот, он был очень злой. Звали его Наполеон. Ко мне не каникулы приехала моя внучка и попросилась к соседке погулять с котом. Я ей разрешила, а мы с моей сестрой пошли пить чай на кухню. Через некоторое время мы услы-

шали крик и шум в комнате. Мы прибежали в комнату и видим ужас! Кот сидит на голове у моей внучки, рычит, издаёт очень страшные звуки и драпает её лицо своими когтиками. Я подбежала начала убирать кота с головы моей внучки, но он, словно демон, впивался когтями и рычал на меня. Тогда моя сестра принесла посвеченной в церкви воды, и облила кота. Он словно зацепенел. Мы сняли его с головы моей внучки, её лоб был полностью исцарапан. Она колотилась и плакала, а злощастный кот ходил по квартире и всё время колотился, будто бы его душа очистилась от чего-то ужасного.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Кацуба Ніны Паўлаўны, 1950 г.н.,***
***студэнтам Тамашэнка М.***

Калі кот клубок катае, значыць, чакай гасцей у хуткім врэмені.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

## *Крот*

Жылі 2 брата. Адзін бедны, другі багаты. Вось прыйшло ўрэмя агароды сеяць. Старшы брат угнаенне ў свой агарод унёс, усякіх вітамінаў. А ў беднага брата не было ўгнаення, ён пасеяў свой агарод і сказаў: “Ну, з Божай дапамогай”. І ў яго ўраджай быў харошы. А ў багатага брата нічога не ўрадзіла. Прыйшоў ён да свайго беднага брата і гавора, што той у яго ўсё ўкраў. Патом узяў багаты брат, выкапаў ямку і пасадзіў туды свайго сына, каб той сядзеў і слухаў, што гаворыць бедны брат, як у яго ўрадзіў ураджай. Так сядзеў той сын у ямцы і здзелаў яго Бог кратом.

***Запісана ў в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Падзянковай Марыі Аляксееўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Падзянковай С. (2004 г.)***

Крот – гэта звер, які тожэ няшчасці прадсказвае. Знайце, што еслі ён рые зямлю ў хаце, то там скора хтосьці памрэ.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Мірановіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Чалавек адзін любіў многа работаць. Богу ета не нравілась, ён разазліўся і здзелаў з яго крата. Хай зямлю рые ўсягда, еслі яму так нравіцца.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

## *Мышы*

Калі дзе-нібудзь знойдзеш мышанят сляпых, то нада павадзіць па іх мізінцам левай рукі, бо, калі ў твайго дзіцяткі будуць рэзацца зубкі і балець, трэба павадзіць па ім гэтым пальцам і ўсё пройдзе. Калі ў самога баліць зуб, то нада павадзіць тым жа пальцам па сучку, такому кружочку на дзвярах ці на раме і потым па зубу бальному, і ўсё пройдзе.

***Запісана ў в. Сінічына Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Раманоўскай Лідзіі Іванаўны, 1933 г.н.,***

***студэнткай Галушкінай С. (2004 г.)***

Во, етай гадасці (мышэй) ва ўсіх хватае. А раньшэ гаварылі, што еслі мышэй многа ў хаце – эта к бядзе. А яшчэ плахім знакам счыталася прагрызеная імі адзёжа. А я думаю, што проста яны любяць жыць з людзьмі ў цёплай хаце ды і паесці чаго.

***Запісана ў в. Церуха Гомельскага р-на***
***ад Міpановіч Марыі Герасімаўны, 1935 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Малашкі Кармянскага р-на),***
***студэнткай Яшанковай В. (2006 г.)***

Калі ў хаце жыве мыш – гэта дрэнна, бо гэта гаворыць аб нечысціні гэтага дома, дзе яна жыве. Гэтая сям'я, значыць, не ўбірае пасуду, астаўляе яе гразнай, не выцірае стол, крошкі пасля яды, якія там засталіся. Калі жыве ўжо ў хаце мыш, то ў гэтай хаце не буде багацця, таму, што мыш усё забірае, апошнія крошкі нават. Мыш – нячыстая сіла. Трэба ад іх ізбаўляцца. Калі ў хаце памерла мыш, то не трэба выкідваць яе на вуліцу абы-куды. Трэба спаліць яе ў грубцы, каб разам з гэтай мышкай і ўшла нячыстая сіла з гэтага дома.

Але ж мыш сімвалізуе і багацце таго дома, дзе яна жыве. Гэта ж значыць, калі хазяіны астаўляюць яду на стале, яны ведаюць, што ўсё з'есць мыш, але нічога не ўбіраюць. Ёй, гэтай мышы, астаўляюць. А вось пасля мышы ў хаце можа з'явіцца і крыса, ад якой вобшчам цяжка збавіцца. Раней рабілі так: у той вугал, дзе хоць раз бачылі крысу, налівалі ваду, бо вядома, што яны сільны баяцца, або акраплялі свячонай вадой. Но ўсё гэта было вельмі цяжка, і таму, калі ў хаце яна з'яўлялася, некаторыя людзі зусім перасяляліся. Але ж, калі мышы ў іх былі ў той хаце, значыць, сюды прыйдуць тожа.

***Запісана ў в. Цагельня Гомельскага р-на***
***ад Гарэлікавай Надзеі Пятроўны, 1934 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на),***
***студэнткай Данілавай М. (2004 г.)***

Мышы водзяцца ў тых, хто жыве ў гразноце, неакуратны і ў таго, хто мае багата грахоў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

В той хаце жывуць, гдзе гразна і парадку нету. Ета настаяшчае наказанне для хазяйкі.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

## *Муха*

Як сніцца багата мух у хаце – гэта азначае, што будзе нейкая смерць. А мухі – гэта ўмершыя душы людзей, якія прыйшлі да кагосьці.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

## *Мядзведзь*

Мядзведзь – ета ператвораны чалавек. Ён крэпка мёд любіў і краў яго ў суседзяў. Адзін раз залез ён у чужы вулей, а тэй чалавек калдуном быў, вот і ператварыў ён етага чалавека ў мядзведзя. Дажа цяпер мядзведзь мёд любя.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

Гавораць, што мядзведзь – гэта чалавек, які быў ператвораны Богам за тое, што не ведаў меры сваёй сілы і ўсё варочаў.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Кісель Вольгі Іванаўны, 1934 г.н.***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Гэта мне бабка мая казала. Перш ён быў такі самы мужык, як і іншыя. Пчол тагда было багата, усюды былі і гнёзды іхнія. А мёду было – не тое, як цяперака. Людзі той мёд збіралі, а калі адшуквалі тое дрэва, дзе пчолы вяліся, дык мецілі яго, абвязвалі анучай ці чым. У калдуна дрэва было памецена. Мужык той сам нічога не шукаў і выдраў мёд з дрэва калдуна. Той, убачыўшы, нарок яму заўсёды мёд драць і абярнуў яго ў мядзведзя. Не трэба чужога чапаць! Во!

***Запісана ў г.п. Парычы Светлагорскага р-на***
***ад Скуднай Тамары Нілаўны, 1926 г.н.***
***студэнткай Горскай Т. (2006 г.)***

Я чуў, што мядзведзь – пераўтвораны чалавек, які вельмі любіў мёд і краў яго ў суседзяў. Адзін раз ён залез у чужы вулей, а быў той вулей аднаго калдуна. Той калдун замеціў гэта і ператварыў гэтага чалавека ў мядзведзя. І да гэтага часу мядзведзь любіць мёд.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Шкурко Адама Ігнатавіча, 1928 г.н.,***
***студэнтам Балмачэнка Д. (2000 г.)***

Раньша мядзведзь – ета быў чалавек, каторы любіў мёд і краў у саседзей. Бог паглядзеў і здзелаў з яго мядзведзя.

***Запісана ў в. Палессе Светлагорскага р-на***
***ад Захаранка Праскоўі Фядосаўны 1934 г.н.,***
***студэнткай Мітраховіч В. (2007 г.)***

## *Павук*

Нельзя убіваць павукоў, а то няшчасце случыцца.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Антошкінай Тамары Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнтамі Ананьевай В., Малецька А., Лысянок І., Іхонкіным Я., Бахаравым У.***

Павукі – гэта хазяева ў хаце. Няльзя ніколі іх убіваць, бо ні будзе ладу ў гэтым доме і спакойнай жызні.

Калі павук спускаецца на павуцінні да чалавека – чакай якіх-та вялікіх сабыццяў у сваім жыцці.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***

***ад Табулінай Аляксандры Міхайлаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай ІёткаІ. (2004 г.)***

## *Пчала*

Пчала памірае, калі ўжаліць, таму што ў гэтага чалавека очэнь многа грахоў. Ён грэшны, вот і памірае тады пчала, кагда ўжаліць гэтага чалавека, ад яго грахоў. Раньшэ гаварылі, што паміраў чалавек, калі жаліла пчала.

***Запісана ў в. Калініна Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Паплаўнай Лідзіі Мікалаеўны, 1951 г.н.,***
***студэнткай Прымачовай А. (2006 г.)***

Пчала памірае таму, што жала выцякае.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Цітовай Надзеі Васільеўны, 1939 г.н.,***
***Марчанка Марыі Фёдараўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

У жале – жыццё пчалы.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Калі пчала жаліць чалавека, то жала яе ў целе застаецца, а без яго пчала жыць не можа, вот і памірае яна.

***Запісана ў в. Саўгасная Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Габрусевай Кацярыны Лагвенаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Кабадзейцавай І. (2004 г.)***

На каго сядзе пчала, той больш года не пражыве.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Душкевіч Любы Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Бог здзелаў пчалу, каб яна памагала людзям, а яна стала іх жаліць. Таму Бог і сказаў, што кожны раз, як будзе яна прыносіць чалавеку боль, то будзе паміраць.

***Запісана ў в. Іванаўка Гомельскага р-на***
***ад Платонавай Алесі Міхайлаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Шайковай Н. (1999 г.)***

Калі пчолы вечарам працуюць позна, а раніцой сядзяць у вуллях, то будзе дрэннае надвор’е.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Пчолка – трудзяга вялікая. Гэта добры знак. Калі пчала жаліць, то памірае, бо астаўляе ў целе сваё дыханне.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкаўца Васіля Адамавіча, 1925 г.н.,***

***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Пчала – гэта бажэственнае насекомае. Дзе пчолы жывуць, там добры чалавек жыве. Бог пабачыў, што калі пчала жаліць чалавека, яму больна, і зрабіў так, штоб без абіды было, бо ён жа тожэ пчалу любіў, а чалавека болей. Калі пчала ўжаліць чалавека – памірае сама.

А вось што раз было. Жанчына сцірала на сваём дварэ. Прыляцела аса, кружылась над ёй, кружылась і ўкусіла за галаву, і жанчына памерла. Гэта бачыла яе дачка, яна таксама ва дварэ была.

***Запісана ў в. Гарывада Рэчыцкага р-на***
***ад Грабцэвіч Раісы Ульянаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Сакалюк А. (2006 г.)***

Жала для пчалы – гэта жыццё, як для чалавека сэрца. Калі яна жаліць, то пакідае жала і памірае.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Маскалёвай Людмілы Мікалаеўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

Пчала памірае таму, што пры ўкусе яна пакідае сваё жала, а жала для яе – гэта жыццё.

***Запісана ў г. Бабруйск Магілёўскай вобл.***
***ад Петуховай Кацярыны Піманаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Данілавай А. (2006 г.)***

## Рысь

Калісь мы паслі ў лесе кароў. Раз гналі іх дамоў. А рысь сядзела на дзераве. Калі каровы падышлі бліжэй, прыгнула на адну карову з сасны на плечы. Ой, як страшна було, як шчас помню. А потым сышліся на мненні, што гэта была знахарка з нашага пасёлка.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Галаўко Кацярыны Андрэеўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

## Сабака

Сабака вые – хтосьці памрэ або будзе пажар.

***Запісана ў в. Шырокае Буда-Кашалёўскага р-на***
***ад Балобан Евы Рыгораўны, 1929 г.н,***
***(раней пражывала ў в. Пучын Брагінскага р-на),***
***студэнткай Кавалёвай А. (2006 г.)***

Когда собака воет – ето плохо, может кто-то помереть.

А ещё гадали. Молодые девки свои блины выкладывали: чей первый блин ана съест, та первая и замуж пойдёт.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Сідарэнка Любові Фёдараўны, 1926 г.н.***
***(прыехала з в. Вялікае Сяло Полацкага р-на Віцебскай вобл.)***
***студэнткай Будзько М. (2006 г.)***

Сабака – гэта чалавечы друг. Раней казалі, што калі сабака ноччу лае, гэта ён адганяе нячыстую сілу. А яшчэ сабака гавора пра няшчасце. Калі ён вые ўніз – гэта

смерць, уверх – да пажару.

***Запісана ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на***
***ад Калядзенка Сафіі Васільеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Шышовай К. (2006 г.)***

Калі сабака зімой качаецца – будзе снег, а летам – дождж.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Калі сабака вые на луну – к няшчасцю.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Ніны Іванаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***

Сабака скручваецца калачом – холад, расцягваецца па зямлі – цяпло.

Калі сабака вые, задраўшы галаву ўверх, то будзе пажар, а апусціўшы ўніз – смерць.

***Запісана ў в. Брынёў Петрыкаўскага р-на***
***ад Субат Фаіны Цімафееўны 1935 г.н.,***
***студэнткай Бараніч Я. (2006 г.)***

Калі сабака вые ўверх мордаю – то да пажару. Калі вые і галаву апусціў – смерць будзе ў сяле.

***Запісана ў в. Сякерычы Петрыкаўскага р-на***
***ад Мышкавец Ганны Кузьмінічны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Белька С. (2006 г.)***

Калі вые страшэнна сабака, то ета на гора або на смерць.

***Запісана ў в. Ведрыч Рэчыцкага р-на***
***ад Захарава Мікалая Пятровіча, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іётка І. (2004 г.)***

Когда собака вые на небо – будзе пожар, еслі вые ў зямлю – нехто памрэ.

***Запісана ў в. Вічын Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.***
***ад Сумар Агаф'і Аляксееўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Верас Н. (2006 г.)***

Калі маленькая сабачка к табе прыстане, то чакай новага сябра.

***Запісана ў в. Гавяды Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.***
***ад Корневай Валянціны Яўгенаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Лукашовай А.***

### *Свіння*

Калі свіння не лажыцца, то гэта перад дажджом.

***Запісана ў в. Скепня Жлобінскага р-на***
***ад Воранавай Анастасіі Рыгораўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Бобрыкавай Н. (2006 г.)***